# ЯНКА НЁМАНСКІ

# ТВОРЫ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1984



Бел 2
Н 50



Укладанне *Л. Савік*

Пераплёт і ілюстрацыі да рамана «Драпежнікі»
мастака *П. Калініна*

Н $\frac{4702120200—094}{М 302(05)—84}$ 130—83

# ЧАЛАВЕК ШМАТГРАННАГА ТАЛЕНТУ

Янка Нёманскі — літаратурны псеўданім вядомага беларускага вучонага, грамадскага дзеяча, празаіка Івана Андрэевіча Пятровіча. Ён належыць да пакалення пісьменнікаў, народжанага Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыяй, якая адкрыла перад ім шырокія ідэйныя і творчыя гарызонты. Яго апавяданні, аповесць, раман, шматлікія публіцыстычныя артыкулы маюць значную эстэтычную каштоўнасць. Ён унёс прыкметны ўклад у мастацкую прозу аб рэвалюцыі, грамадзянскай вайне, перадкастрычніцкім жыцці Беларусі, разам з іншымі беларускімі пісьменнікамі пракладваў шляхі нацыянальнай літаратуры, якая сёння ўзнялася да вяршынь сусветнай класікі. Мастацкая творчасць Янкі Нёманскага паказвае нам вялікія магчымасці пісьменніцкага таленту, якія ён не паспеў да канца рэалізаваць з-за свайго трагічнага лёсу.

Знаёмячыся са спадчынай Янкі Нёманскага або іншых беларускіх празаікаў 20—30-х гадоў, мы павінны памятаць, што яны былі першапраходцамі, павінны ўлічваць узровень развіцця літаратуры таго часу, зыходзячы з канкрэтна-гістарычных умоў і абставін. Творчасць Янкі Нёманскага немагчыма разглядаць без пастаяннай суаднесенасці яе з эпохай, у якую ён жыў, фарміраваўся як чалавек, грамадскі дзеяч. Актыўны ўдзельнік барацьбы за новае жыццё, Янка Нёманскі заўсёды знаходзіўся ў самай гушчыні падзей таго бурлівага, рэвалюцыйна-пераўтваральнага часу. Перш чым сцвярджаць новую літаратуру, Янка Нёманскі сцвярджаў, змагаўся за новае жыццё, за шчасце шматпакутнага беларускага народа.

Іван Андрэевіч Пятровіч нарадзіўся 31 сакавіка 1890 года ў вёсцы Шчорсы на Навагрудчыне ў беднай сялянскай сям'і. Дзяцінства і юнацтва пісьменніка прайшлі ў цяжкай працы. Маці яго памерла зусім маладой, калі Іван Андрэевіч быў яшчэ дзіцем. Жыў ён з бацькам Андрэем Мікалаевічам і дзедам. Як і ўсе вясковыя падлеткі, рана далучыўся да сялянскай працы, клопатаў сям'і.

Вучыцца пачаў дома і вельмі рана — каля шасці год. Настаўнікамі былі блізкія, родныя людзі — бацька, дзед, дзядзька Астап. Але, як адзначаў пісьменнік у аўтабіяграфіі, «лепшым маім настаўнікам было само жыццё, сама натура. Тое навучанне, якое я атрымаў ад іх, самае дасканалае і не сатрэцца ніколі, пакуль мне выпадзе жыць і працаваць» [1].

Скончыўшы пачатковую школу ў роднай вёсцы, І. А. Пятровіч вырашае стаць настаўнікам і дабіваецца свайго. З 1909 года, пасля заканчэння нясвіжскай семінарыі, ён працуе вясковым настаўнікам. Адначасова настойліва папаўняе свае веды, займаецца самаадукацыяй, каб здзейсніць даўнюю мару — паступіць у Пецярбургскі універсітэт. Было надзвычай цяжка на той час сялянскаму сыну атрымаць вышэйшую адукацыю. І ўсё ж у 1915 годзе І. А. Пятровічу ўдалося ўладкавацца на гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Яму «прыйшлося пакінуць і нязмерныя паўзнёманскія роўнядзі, і жыццярадасныя ўзвышшы Навагрудчыны, з іх светлымі крыніцамі і вясёлымі гаёчкамі...» [2]. Знаходжанне ў Пецярбурзе, вучоба ва універсітэце вельмі шмат далі І. А. Пятровічу ў сэнсе агульнага пашырэння ведаў, выпрацоўкі светапогляду. Ён далучаецца да рэвалюцыйна настроенай моладзі, шмат чытае, знаёміцца з марксісцкай літаратурай, вывучае замежныя мовы — нямецкую, французскую, англійскую. «Вучыцца было нялёгка,— успамінаў пазней І. А. Пятровіч,— бо трэба было змагацца з жыццём, спадзеючыся толькі на свае сілы — дапамогі чакаць не прыходзілася.

---

[1] Вытокі песні. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мн., 1973, с. 196.

[2] Там жа, с. 197.

Але ўпартасць, узгадаваная з дзіцячых гадоў, дапамагла адолець усе прыкрасці жыцця, якія часамі былі нязмерна цяжкімі» [1].

Аднак лекцыі ва універсітэце давялося слухаць нядоўга. Пачалася імперыялістычная вайна. З другой паловы 1916 года І. А. Пятровіч быў мабілізаваны ў царскую армію і пасля школы прапаршчыкаў трапіў на фронт у якасці малодшага афіцэра роты. Тут ён і сустрэў Вялікую Кастрычніцкую рэвалюцыю. Вярнуўшыся ў Петраград, І. А. Пятровіч працягвае заняткі ва універсітэце. Адначасова ўключаецца ў грамадскую дзейнасць. Складаны, поўны напружанай працы быў яго шлях ад простага вясковага хлопца да вядомага дзяржаўнага дзеяча. Адразу пасля рэвалюцыі І. А. Пятровіч працуе ў беларускім нацыянальным камісарыяце, становіцца сакратаром Культурна-асветнага аддзела, які ўзначальваў тады Браніслаў Тарашкевіч, а пасля загадчыкам выдавецкага аддзела Белнацкома. На працягу 1918—1920 гг. І. А. Пятровіч з'яўляецца членам Беларускага вольна-эканамічнага таварыства, створанага ў Петраградзе з мэтай развіцця навукі, культуры, народнай гаспадаркі Беларусі. Членамі гэтага таварыства былі Я. Ф. Карскі, А. К. Сержпутоўскі, А. А. Шахматаў і інш. Разам з Ц. Гартным ён пачынае выдаваць першую савецкую беларускую газету «Дзянніца» (1918—1919). На яе старонках друкуюцца мастацкія творы Я. Коласа, Ц. Гартнага, А. Гурло, М. Гарэцкага, многіх іншых беларускіх пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў. І. А. Пятровіч таксама змяшчае тут шмат артыкулаў, прасякнутых шчырай зацікаўленасцю лёсам роднай Беларусі. Некаторыя свае артыкулы ён упершыню падпісвае літаратурным псеўданімам — Янка Нёманскі.

У ліпені 1918 года адбыўся Усерасійскі з'езд бежанцаў Беларусі, удзельнікам і сакратаром якога быў І. А. Пятровіч. Дэлегаты з'езда паслалі Старшыні Савета Народных Камісараў таварышу Леніну запрашэнне, якое было падпісана Галаскокам і Пятровічам. На запрашэнні ёсць паметкі, зробленыя ўласнай рукой Уладзіміра Ільіча.

---

[1] Вытокі песні. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мн., 1973, с. 197.

Гэта актыўная грамадская праца І. А. Пятровіча была перарвана, калі ў 1918 годзе стварылася пагроза рабочаму Петраграду з боку белафінаў і генерала Юдзеніча. І. А. Пятровіч у радах Чырвонай Арміі мужна змагаецца супраць ворага, абараняючы заваёвы рэвалюцыі. Пасля ён быў накіраваны на Заходні фронт, прайшоў усю Беларусь, удзельнічаў у баях за вызваленне Мінска ад белапалякаў. Ваенная служба прымусіла яго пабываць там, куды ніколі не спадзяваўся трапіць: на Карэльскім, Петраградскім, Польскім франтах, пад Нарвай і Варшавай, у Сібіры і на Далёкім Усходзе, дзе ваяваў у арміі Тухачэўскага.

Скончылася грамадзянская вайна. У краіне пачынаецца вялікая праца па перабудове жыцця народа на новай сацыялістычнай аснове. Для разгортвання дзяржаўнага і культурнага будаўніцтва на Беларусі патрэбны былі людзі, якія б добра ведалі мову, культуру, звычаі народа. Вярнуўшыся ў 1922 годзе на радзіму, І. А. Пятровіч, чалавек надзвычай шырокіх інтарэсаў і эрудыцыі, усе свае веды, свой вопыт аддае справе будаўніцтва сацыялістычнай гаспадаркі і нацыянальнай культуры. Яго накіроўваюць у планава-эканамічныя органы рэспублікі. І. А. Пятровіч становіцца членам ЦВК БССР, адказным сакратаром Эканамічнага Савета, затым намеснікам старшыні Дзяржплана БССР, абіраецца дэлегатам VIII Усебеларускага з'езда Саветаў.

Прымаючы актыўны ўдзел у рабоце Інбелкульта, І. А. Пятровіч пасля заснавання Беларускай Акадэміі навук (снежань 1928 г.) абіраецца яе правадзейным членам, пазней неадменным сакратаром. Адначасна з ім першымі акадэмікамі Беларускай Акадэміі сталі вядомыя пісьменнікі, вучоныя, грамадскія дзеячы: Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Максім Гарэцкі, Міхась Чарот, Змітрок Бядуля, В. М. Ігнатоўскі, В. І. Пічэта, С. Я. Вольфсон, С. М. Некрашэвіч, І. І. Замоцін. 1 студзеня 1929 года адбылося ўрачыстае адкрыццё Беларускай Акадэміі навук, а ў 1931 годзе быў абраны новы Прэзідыум. І. А. Пятровіч становіцца членам Прэзідыума БАН, вучоным сакратаром Інстытута эканомікі. У гэты час ён актыўна выступае ў перыядычным друку з артыкуламі па пытаннях гісторыі, эканомікі, культуры Беларусі.

Яшчэ ў 1918 годзе ў Маскве быў выдадзены першы зборнік твораў беларускіх пісьменнікаў, «выйшаўшых з сям'і працоўнага народа», дзе Янка Нёманскі змяшчае свой артыкул «К культурна-прасветным задачам Беларусі». У ім аўтар піша: «Сучаснае наша пакаленне мае вялікую чэсць быць стваральнікам новага жыцця: наш час — час перабудовы ўсяго таго дзяржаўнага і культурнага ўкладу, які важкім каменем ляжаў на кожным працоўным чалавеку Расіі, беларуса ён прыгнятаў асабліва цяжка. З глыбокаю верою ў сваё шчасце, якога ўжо адгэтуль не можа адабраць у нас ніякі дармаед, мы смела і проста будзем глядзець у сваю будучыню» [1]. І далей, разгортваючы праграму культурнага будаўніцтва ў рэспубліцы, Я. Нёманскі канстатаваў: «Беларусія бедная сапраўднай інтэлігенцыяй. У Беларусі не было вышэйшых навучальных устаноў, беднасць беларуса пазбаўляла яго магчымасці вучыцца хаця б у расійскіх універсітэтах, а тыя, хто меў магчымасць вучыцца, былі адарваны ад народа, яго мовы, духоўнага свету і запатрабаванняў беларуса. Каб гэта адарванасць згладзілася, трэба вялікая колькасць вучэбных устаноў, куды шырока былі б адкрыты дзверы для дзяцей народа, па-другое, выкладанне ў іх вялося б на роднай беларускай мове, з увядзеннем у кола агульных навук вывучэння літаратуры, нораваў і звычаяў Беларусі, яе нацыянальных асаблівасцей, гісторыі і прыроды краіны. Са спалучэння простай народнай душы са святлом навук запалымнее яркая зорка нашай Беларусі» [2].

Нягледзячы на вялікую загружанасць у Дзяржплане БССР, абавязкамі акадэміка, грамадскай, пісьменніцкай дзейнасцю, І. А. Пятровіч адначасова прымае самы непасрэдны ўдзел у навучанні студэнтаў. З 1933 па 1936 год ён працуе ў Беларускім Дзяржаўным інстытуце народнай гаспадаркі, які толькі што адкрыўся ў рэспубліцы, загадвае тут кафедрай фінансавых дысцыплін.

У 20-я гады Янка Нёманскі напісаў шмат навуковых прац, якія б маглі скласці не адзін том. Асаблівую цікавасць выклі-

---

[1] Пятровіч І. А. К культурна-прасветным задачам Беларусі. У зб. «Зажынкі». М., 1918, с. 100.

[2] Там жа, с. 102.

каюць яго работы, прысвечаныя эканамічнаму становішчу Беларусі, развіццю яе гісторыі, культуры. Яны змяшчаліся на старонках часопісаў «Чырвоны шлях», «Полымя», «Народная гаспадарка Беларусі», «Савецкае будаўніцтва». У артыкуле «Будучыня сялянскай гаспадаркі на Беларусі» Я. Нёманскі, задоўга да арганізацыі калгасаў, прадбачліва абгрунтоўваў неабходнасць супольнага, камуністычнага валодання зямлёй. «Толькі агульнаю працай суполкі ці камуны можна будзе пашырыць значны пляц карыснай зямлі. Дробная сялянская гаспадарка не мае прамысловых мэт, яна толькі абслугоўвае сама сябе. Адзіным спосабам дзеля пашырэння сялянскае гаспадаркі праз гэта і з'яўляецца камунальны і суполкавы ўстрой яе» [1].

Палепшанне жыцця сялянства Янка Нёманскі бачыць у карэннай перабудове аднаасобніцкага жыцця, якое існавала на працягу многіх стагоддзяў. Свае думкі, ідэі адносна гэтай праблемы ён развіваў у артыкулах: «Эканамічнае становішча Беларусі», «Адзіны падатак і сялянская гаспадарка», «Аб планаванні мясцовай гаспадаркі», «Дзяржаўная прамысловасць Беларусі» і інш. Цікавыя назіранні разгорнуты ў артыкуле «Нацыянальныя задачы Беларусі»: «Што мы зрабілі, ці стварылі як нацыянальнасць? Зрабілі мы як нацыя мала, бо нам не далі зляжыць сваёй дзяржаўнасці, нас пакаралі, намі валодалі іншыя... У нас гісторыя іншая — гісторыя пакуты, прыгону, уціску, і не на паперы яна напісана, а на твары беларуса горкімі слязьмі ад веку...» [2]

У сваіх шматлікіх артыкулах Янка Нёманскі як бы назапашвае назіранні, розныя факты жыцця народа, якія потым будуць ім выкарыстаны ў мастацкіх творах. Ужо ў гэтых публіцыстычных нарысах, дакладных замалёўках акрэсліваюцца важныя для пісьменніка думкі, ідэі, асабістае стаўленне да многіх надзённых праблем сучаснай яму рэчаіснасці.

Разнастайная навуковая, дзяржаўная і грамадская дзейнасць не перашкаджала пісьменніку займацца мастацкай творчасцю,

---

[1] Пятровіч І. А. Будучыня сялянскай гаспадаркі на Беларусі. «Дзянніца», 1919, № 5.

[2] Пятровіч І. А. Нацыянальныя задачы Беларусі. У зб. «Зажынкі». М., 1918, с. 136.

удзельнічаць у літаратурным жыцці рэспублікі. Я. Нёманскі быў членам праўлення аб'яднання «Полымя» (1927—1932). Блізкія сяброўскія адносіны складваюцца ў яго з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Цішкам Гартным. Неаднаразова ў саставе дэлегацый Я. Нёманскі выязджаў у Маскву, Ленінград для азнаямлення з працай культурных устаноў, рабочых калектываў, удзелу ў Тыдні Савецкай Беларусі (1931), дзе яму давялося сустрэцца з А. В. Луначарскім, М. І. Калініным.

Як пісьменнік Я. Нёманскі стаў вядомы з 1922 года, калі ў часопісе «Полымя» было надрукавана яго першае апавяданне «Над Кроманню». І затым ужо амаль штогод мастацкія творы пісьменніка друкуюцца ў перыядычных выданнях, выходзяць асобнымі кніжкамі, перакладаюцца на рускую, украінскую, польскую мовы. Першы зборнік Я. Нёманскага («Апавяданні») выйшаў у 1925 годзе, а ў 1928 г. ён быў перавыдадзены пад назвай «На зломе». Апавяданні гэтага зборніка ў перакладзе К. Якоўчыка на рускую мову былі надрукаваны ў Ленінградзе ў 1930 г. Кніга выйшла пад назвай «На изломе» з уступным артыкулам С. Замбржыцкага. Аповесць «Партызан» і раман «Драпежнікі» друкаваліся на старонках часопіса «Полымя» ў 1927—1930 гг. і з таго часу ні разу не перавыдаваліся.

У асабістым жыцці Я. Нёманскі быў надзвычай сціплым, працавітым чалавекам. Свае мастацкія творы ён пісаў у асноўным дома, у вольны ад шматлікіх грамадскіх абавязкаў час. «Калі бацька працаваў дома,— успамінае дачка пісьменніка Лідзія Іванаўна Міхайлава,— то часта можна было назіраць, як ён безупынна хадзіў па пакоі са стаканам чаю ў руцэ. Гэта была яго манера абдумваць што-небудзь. У бацькі была цудоўная бібліятэка, добра падабраная руская, нямецкая, французская, англійская класіка, кнігі па мастацтву, прычым рэдкіх выданняў. Збіранне кніг было адным з яго захапленняў. Часта ён чытаў нам, дзецям (іх у сям'і Пятровічаў было трое.— *Л. С.*), вершы свайго любімага пісьменніка Якуба Коласа на беларускай мове, вершы Гейнэ — на нямецкай, якой добра валодаў, творы А. П. Чэхава, І. С. Тургенева.

Памятаю, што мы бывалі ў дамах Я. Купалы, Я. Коласа, мы

(дзеці) сябравалі з дзецьмі Д. Ф. Жылуновіча (Ц. Гартнага), відаць, і нашы бацькі таксама знаходзіліся ў сяброўскіх адносінах. Любіў бацька гарадкі, але больш за ўсё любіў лес, захапляўся зборам грыбоў, быў неперасўзыдзеным майстрам гэтай справы»[1].

* * *

Тое, што дайшло да нас з мастацкай спадчыны Я. Нёманскага, з'яўляецца адной з яркіх і цікавых старонак беларускай савецкай літаратуры. З першых крокаў у мастацтве ён заявіў аб сабе як празаік самабытны, арыгінальны. У Янкі Нёманскага не было доўгага вучнёўскага перыяду — пісьменніцкай школай для яго было само жыццё. Ён адразу ўвайшоў у мастацкую літаратуру сваімі апавяданнямі. Усе яны: «Над Кроманню», «Рамэа і Джульета на Беларусі», «Дэзерцір», «Маці», «Зварот», «Тодар Базылёнак», «Абмылка» былі напісаны ў першай палове 20-х гадоў. Янка Нёманскі, як і Якуб Колас, Цішка Гартны, Максім Гарэцкі, Кузьма Чорны, імкнуўся ў сваіх апавяданнях паказаць лёс простага чалавека, раскрыць працэс нарастання рэвалюцыйнай свядомасці.

Апавяданне «Над Кроманню» храналагічна пачынае спіс мастацкіх твораў Янкі Нёманскага і пазначана лістападам 1922 г. Яно мае падзагаловак «З часоў 1905 года», які гаворыць аб тэматычнай скіраванасці твора. «Рамэа і Джульета на Беларусі» сваім зместам звернута ў яшчэ больш аддаленае мінулае. Пісьменнік, распрацоўваючы гэты адвечны сюжэт, сцвярджае, што і сярод беларусаў ёсць свае Рамэа і Джульеты, якія жывуць моцнымі, вялікімі пачуццямі. Няма падстаў гаварыць аб мастацкай залежнасці або несамастойнасці пісьменніка, калі ён выкарыстоўвае назву славутай трагедыі Шэкспіра. Беларускі аўтар памастацку адметна і глыбока, на спецыфічна нацыянальным матэрыяле, паказаў, што трагедыя кахання Яся і Алесі не толькі ў прыватных нядобразычлівых узаемаадносінах двух сем'яў, а ў агульнасацыяльным ладзе жыцця.

---

[1] З ліста Лідзіі Іванаўны Міхайлавай (Пятровіч) ад 1/III 1981 г. да аўтара прадмовы.

Вялікае чалавечае спачуванне сваім героям, разуменне вышыні і сілы іх пачуцця, вострае і пакутлівае ўсведамленне непазбежнасці трагічнага лёсу закаханых — усё гэта абумоўлена дакладным і рэальным адлюстраваннем сістэмы грамадскіх адносін эпохі, якія нельга абысці і з якімі героі звязаны непарыўнай сувяззю гістарычных абставін. Усім зместам, самой танальнасцю апавяданне выказвае пратэст, які ідзе з глыбіні сэрца мастака, пратэст супраць умоў, так знявечваўшых лёс чалавека. Выйсце з такога становішча пісьменнік бачыць у змене сацыяльных асноў, у актыўнай барацьбе супраць эксплуататарскага ўкладу.

Пачатак гэтай барацьбы Янка Нёманскі паказвае ў апавяданні «Над Кроманню». Галоўныя героі тут таксама простыя людзі — сялянская грамада, з якой вылучаюцца многія індывідуальнасці з розным узроўнем свядомасці. Аўтар апісвае падзеі, якія на самой справе мелі месца на Навагрудчыне, расказвае паданне пра дзіўнае возера Кромань. Твор моцны грунтоўным, дэталёвым раскрыццём побыту і працы сялян, смалакураў, уменнем пісьменніка выявіць прыкметы рэвалюцыйных падзей, стварыць вобраз героя-барацьбіта за народныя інтарэсы, перакананага ў неабходнасці змагацца з класавым ворагам.

Апавяданні «Дэзерцір», «Маці» прыкметныя цікавымі характарамі, здольнасцю пісьменніка перадаць найбольш тыповыя адзнакі эпохі, высветліць унутраную сутнасць герояў, іх пачуцці, перажыванні. Раскрыццё духоўнага свету чалавека, яго жыцця наогул у гэтых творах ідзе па лініі суадносін з вялікім светам рэвалюцыі. Яны, як і папярэднія — «Над Кроманню», «Рамэа і Джульета на Беларусі»,— маюць трагічную развязку. Жыццё сваіх герояў пісьменнік даследуе на «зломе» барацьбы паміж двума светамі — старым і новым, на мяжы паміж быццём і смерцю. Той шлях цяжкіх выпрабаванняў, па якому ішоў герой Янкі Нёманскага,— гэта само жыццё, драматызм якога абумоўлены напружанай схваткай класаў, бурнымі павевамі рэвалюцыі, за якую голыя, босыя, галодныя чырвонаармейцы — сяляне, рабочыя — самаахвярна змагаліся да апошняга дыхання.

Драматызм жыцця, які імкнуўся адлюстраваць пісьменнік у сваіх творах, быў і ў тым, што барацьба за новае ішла не толькі

на франтах рэвалюцыі і грамадзянскай вайны (як паказана ў «Дэзерціры»), але і ў сем'ях, душах людзей, якія ў надзвычай складаных умовах сэрцам імкнуліся зразумець праўду. Гэта праблема стала галоўнай у апавяданні «Маці». Я. Нёманскі, выяўляючы імпульсы ўзаемасувязі кроўных і класавых пачуццяў у лёсе двух братоў, Рыгора і Міхася Талокаў, якія апынуліся па розныя бакі барыкады, галоўную ўвагу звяртае на іх маці, імкнучыся праз яе вобраз раскрыць сам працэс унутранага змагання, узаемасувязі гэтых эмоцый. Шчырымі пранікнёнымі словамі расказвае аўтар аб тым, як простая, неадукаваная жанчына, маці двух дарослых сыноў, абуджаецца да свядомага ўспрымання і разумення новага жыцця. Адлюстраванне гэтага працэсу і складае аснову апавядання, галоўным структурным прынцыпам якога з'яўляецца раскрыццё падзей, з'яў тагачаснай рэчаіснасці праз успрыманне маці. З маці звязаны, вакол яе перакрыжоўваюцца лёсы ўсіх персанажаў твора, сітуацыі і вобразы якога — сведчанне празаіка бачыць у жыцці і адбіраць агульназначныя факты, характэрныя для таго гістарычнага моманту. У адлюстраванні барацьбы двух светаў аўтар выяўляе трагічныя матывы. Праз трагічнае лепш за ўсё ў яго творах акрэсліваецца ўнутраная сутнасць героя. Гэта і ёсць, як адзначаў яшчэ Максім Гарэцкі, разглядаючы творчасць Янкі Нёманскага, «шэкспіраўскі спосаб» раскрыцця характару.

Неабходна сказаць, што апавяданне «Маці» ў нейкай ступені не пазбаўлена літаратурнай пераемнасці. Гэта адзначаў і Максім Гарэцкі, параўноўваючы гераіню Янкі Нёманскага з горкаўскай Нілаўнай, падкрэсліваючы, што і ў Горкага і ў Нёманскага «ў перажываннях маці адбітак рэвалюцыйнага змагання». Услед за вялікім пралетарскім пісьменнікам беларускі празаік ужо нават сімвалічнай назвай раскрываў глыбокі філасофскі сэнс апавядання, услаўляў жанчыну-маці, якая дае жыццё ўсяму добраму, светламу на зямлі.

У апавяданнях Янкі Нёманскага, прысвечаных мірнай паслякастрычніцкай рэчаіснасці, прыкметна імкненне адлюстраваць змены ў побыце, свядомасці людзей гарадскога («Зварот», «Абмылка») і вясковага («Тодар Базылёнак») асяроддзя. Нава-

тарства Янкі Нёманскага ў беларускай прозе вызначылася вострым адчуваннем праблем сучаснасці. У гэтым была яго сіла і значнасць як мастака. Зразумела, надзвычай цяжка было паказваць новае, якое яшчэ не стабілізавалася. Таму гэтыя творы акрэслілі толькі асобныя з'явы і падзеі новага жыцця і не маглі даць яго цэласнай разгорнутай карціны.

Месца дзеяння апавядання «Зварот» — паслярэвалюцыйны Віцебск. У горадзе ўсталявалася Савецкая ўлада, пачалі працаваць першыя ўстановы. Пісьменніка і тут цікавяць паводзіны чалавека «на зломе», на мяжы паміж новым і старым. На гэты раз галоўны герой апавядання — пусты, мізэрны мешчанін, з тых «былых людзей», псіхалогія якіх прыцягвала многіх пісьменнікаў. Максім Гукоўскі хоць і служыць «спецыялістам па браварох» у Саўнаргасе, але жыве мінулым, баіцца ўсяго новага, імкнецца адасобіцца ад знешняга свету. У абмалёўцы гэтага вобраза Я. Нёманскі карыстаецца прыёмамі сатырычнага пісьма, узмацняе, нават гіпербалізуе некаторыя адмоўныя рысы свайго героя, і ў выніку перад намі паўстае тыповы прыстасаванец і мешчанін, якому няма месца ў новым жыцці.

Прыкладна такая ж тэматычная скіраванасць уласцівая і апавяданню «Абмылка». Раскрываючы сямейную гісторыю Петруся Грышана і Зосі Яніцкай, пісьменнік засноўвае канфлікт твора на супрацьлеглых поглядах герояў на жыццё, асабістыя абавязкі перад грамадствам.

Апавяданні Янкі Нёманскага наогул вызначаюцца шматпланавасцю, тэматычнай разнастайнасцю, сюжэтнай разгалінаванасцю. У цэнтры кожнага з іх адзін або некалькі галоўных герояў. Пісьменнік бачыць і малюе перш за ўсё чалавека, а затым праз яго лёс выяўляе тое агульнае, чым жыве свет, эпоха. Акрамя канкрэтных чалавечых вобразаў у апавяданнях паўстае яскравы вобраз часу, вызначаны сацыяльны фон. Пры гэтым заўсёды ясна акрэслена аўтарская пазіцыя. Творы добра адпрацаваныя ў сюжэтна-кампазіцыйным плане, ідэйна вытрыманыя, пабудаваныя па класічнаму ўзору: завязка, кульмінацыя, развязка. У іх аснову пакладзены метад кантраснага супрацьпастаўлення, які выступае ў розных варыяцыях — сацыяльных, псіхалагічных,

эмацыянальных. Стыль Янкі Нёманскага вылучаецца прастатой, рэальнасцю, свежасцю фарбаў. Мова ўвогуле літаратурна-апрацаваная, з элементамі гумару, які ідзе ад яе народнага характару, але сустракаюцца русізмы, паланізмы, украінскія словы, дыялектныя выразы. У ёй няма ніякай квяцістасці, гучнаслоўя, адсутнічае ўсялякае эксперыментатарства. Пісьменнік карыстаецца строга рэалістычным стылем пісьма, хаця і не заўсёды паслядоўна, іншы раз заўважаецца і рамантычна-прыўзнятая танальнасць. Мова герояў слаба індывідуалізаваная, у большасці сваёй яны гавораць словамі аўтара, які выступае не абыякавым назіральнікам, а жывым саўдзельнікам іх жыцця. Трэба сказаць, аднак, што ў апавяданнях Янкі Нёманскага няма героя, за якім можна было б угадаць самога аўтара з яго непаўторнай біяграфіяй. Але адчувальна моцная асабістая зацікаўленасць лёсам герояў, яго мяккая, добразычлівая, а іншы раз журботна-спачувальная інтанацыя ў адносінах да станоўчых герояў, і, наадварот, толькі чорныя, без ніякіх паўтаноў, рэзка-сатырычныя фарбы ў адносінах да адмоўных персанажаў. Эмацыянальнасць, драматычная, у многіх выпадках трагічная, напружанасць сюжэта, удумлівы аналіз грамадскага жыцця сведчаць аб тым, што пісьменнік імкнуўся не толькі да простай канстатацыі фактаў, з'яў, пачуццяў сваіх герояў, але і да псіхалагічнай напоўненасці твора. У гэтым сэнсе апавядальнае майстэрства Янкі Нёманскага мела пэўнае значэнне для распрацоўкі прыёмаў псіхалагізму ў беларускай прозе. Яго творы напісаны ў традыцыйнай апавядальнай манеры, з павольным развіццём падзей, абавязковай завершанасцю сюжэта, што выклікала часам залішнюю замаруджанасць дзеяння, падрабязную апісальнасць.

Майстэрства Я. Нёманскага-мастака асабліва праявілася ў стварэнні пабытовых, батальных сцэн, апісанні працы сялян і фабрычных рабочых, што было надзвычай каштоўным вопытам для развіцця беларускай прозы. Яркія карціны роднай прыроды сустракаюцца амаль у кожным творы Янкі Нёманскага. Маляўнічыя пейзажы з'яўляюцца пастаянным акампанементам да падзей, пачуццяў, перажыванняў, роздуму герояў. Своеасаблівая, цудоўная прырода Беларусі выступае паўнапраўным героем апа-

вяданняў. Падзеі амаль ва ўсіх творах адбываюцца на тэрыторыі Беларусі. Кожнае апавяданне мае канкрэтнае месца дзеяння, якое называецца дакладна (Кромань, Мінск, Лепель, Бярэзіна, Барысаў, Докшыцы, Петрыкаў, Тураўскія лясы, Віцебск і інш.).

Апавяданні Янкі Нёманскага надзвычай вялікія сваім аб'ёмам, значныя глыбінёй раскрыцця пастаўленых праблем. Яны нясуць пэўную канцэпцыю жыцця, пафас рэвалюцыйнага аптымізму. Апавяданні высока ацэньваліся ў крытыцы 20—30-х гадоў. М. Гарэцкі ў вялікім артыкуле «Творчасць Я. Нёманскага» вызначыў характэрныя асаблівасці творчай індывідуальнасці пісьменніка: «Піша Я. Нёманскі незвычайна проста і праўдзіва, не паганяючы за танным поспехам праз бульварныя эфекты, як гэта робяць, на жаль, некаторыя нашы маладыя пісьменнікі. І калі ў яго зборніку тым часам усё ж такі смерць у большасці апавяданняў, дык гэта трэба тлумачыць характарам эпохі, у якую адбываецца дзеянне ў гэтых апавяданнях. Драматычныя моманты ў яго не надуманы, а выцякаюць самі з усяго ходу апавядання... Я. Нёманскі ёсць тыповы беларускі аўтар нацыянал-рэвалюцыйнага і паслякастрычнікавага перыяду — ён ахоплівае беларускае жыццё досыць разнастайна і поўна» [1].

У аглядзе «Наша літаратура за 1925 год» крытык М. Байкоў сцвярджаў, што апавяданні Янкі Нёманскага з'яўляюцца багатым укладам у беларускую літаратуру. «Нёманскі ў сэнсе агульнай адукацыі, псіхалагічнага развіцця, жыццёвага дасведчання на цэлую галаву падымаецца над нашымі маладымі пісьменнікамі... Тэмы аўтара сучасныя, тыпы герояў разнастайныя, жыццёвыя абставіны абрысоўваюцца па-мастацку, мова лёгкая і апрацаваная, псіхалагічны аналіз глыбокі і правільны.

Зарэцкі, Нёманскі і Крапіва — вось зоркі, якія пачалі яскрава мігцець з мінулага года і ўвайшлі ў нашу літаратуру не паасобнымі эпізадычнымі творамі, а цэлымі зборнікамі твораў, аб якіх не можа не гаварыць літаратурная крытыка» [2].

---

[1] Гарэцкі М. Творчасць Я. Нёманскага. Савецкая Беларусія, 1927 г., 9 і 12 кастрычніка.

[2] Байкоў М. Наша літаратура за 1925 год. «Полымя», 1926. № 1, с. 167.

* * *

Апавяданні Янкі Нёманскага сведчылі, што далейшае развіццё яго творчай індывідуальнасці пойдзе ў напрамку буйных празаічных жанраў. І сапраўды, у другой палове 20-х — пачатку 30-х гадоў выходзяць з друку аповесць «Партызан» і раман «Драпежнікі». У гэты час у прозе заўважалася тэндэнцыя да шырокага ахопу падзей рэчаіснасці. Пошукі пісьменнікамі тыповых характараў прыводзілі да тэматычнай блізкасці твораў розных аўтараў, да падабенства вобразаў маладых герояў. Гэта звычайна быў мсцівец, патрыёт, партызанскі атаман, які змагаўся супраць інтэрвентаў і паноў.

20-я гады сцвердзілі фундаментальныя рысы савецкай літаратуры, асабліва такую, як гераічная канцэпцыя асобы. Аповесць Янкі Нёманскага «Партызан» таксама давала чытачу ўяўленне аб чалавеку-барацьбіту. Празаік апісвае гісторыю подзвігаў беларускага юнака, мужнага, смелага, які з невялікім атрадам маладых, адважных партызан выступае супраць белапалякаў. Імкненне паказаць гераічны характар народнай барацьбы з акупантамі вызначыла рамантычны пафас аповесці. Створана яна ў неарганічнай для таленту празаіка «бурапеннай» традыцыі маладнякоўскай прозы. Але як і іншыя падобныя творы, аповесць набыла вялікую папулярнасць у тагачаснага чытача, ды і сёння, дзякуючы свайму імкліваму, захапляючаму сюжэту, чытаецца з цікавасцю.

Апавяданні, а затым аповесць былі для Янкі Нёманскага своеасаблівым подступам да рамана. Пісьменнік задумаў вялікае эпічнае палатно пра жыццё шырокіх слаёў насельніцтва Беларусі пярэдадня Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Лёс пісьменніка склаўся так, што яму не давялося дапісаць апошніх раздзелаў. (Жыццё І. А. Пятровіча абарвалася ў 1937 годзе.) Але, тым не менш, перад намі цэласны, надзвычай цікавы твор, у якім у поўнай меры праявіўся рэалістычны талент празаіка.

Раман «Драпежнікі» стаў адным з лепшых твораў беларускай раманістыкі 20—30-х гадоў, у якім эпічная ёмістасць спалучаецца з глыбокім аналізам рэчаіснасці. Аўтару ўдалося ахапіць многія пытанні перадрэвалюцыйнага часу, паказаць у рэзкім

кантрасце страшную галечу працоўных і неверагодную раскошу пануючага класа. Яшчэ ў 1919 годзе ў адным са сваіх артыкулаў Янка Нёманскі пісаў: «Беларускае сялянства — гэта наогул вялікі жабрак. Нідзе ў свеце няма такой беднасці, убогасці ўсяго сялянства, як на Беларусі. І побач з гэтым нідзе няма такіх вялікіх і багатых панскіх маёнткаў, як у той жа самай Беларусі. Вось гэтая беднасць агулам усяго сялянства і падтрымлівала ў ім усягдашняе нездавольства і складала атмасферу рэвалюцыйнасці, што чакала пабочнай сілы, якая б зрабіла штуршок і дала напрамак драмаўшым сілам» [1].

Адлюстроўваючы лёс асобных людзей, шматлікія сцэны і сітуацыі прыватнага побыту, Янка Нёманскі імкнуўся даць аналіз асноўных заканамернасцей гістарычнага развіцця беларускага грамадства напярэдадні першай сусветнай вайны, стварыць сацыяльна-палітычны партрэт эпохі. Усё гэта абумовіла шматпланавую структуру, асаблівасці сюжэтнай і кампазіцыйнай пабудовы рамана. Як і ў папярэдніх творах, у рамане пісьменнік актыўна выкарыстоўвае прынцып кантраснага супастаўлення, на якім засноўваецца глыбокі драматызм у перадачы знешніх падзей, унутранага жыцця герояў, антаганізму характараў. Драматызм твора абумоўлены таксама палярна супрацьлеглымі дзеяннямі, поглядамі, жыццём двух сацыяльных груп: з аднаго боку — лагера «драпежнікаў», пануючага класа, з другога — рабочых, сялян, прадстаўнікоў бяднейшай часткі інтэлігенцыі, прафесіянальных рэвалюцыянераў.

Храналагічна раман пачынаецца з 1907 года — змрочных часоў сталыпінскай рэакцыі. У вёску Ляскаўцы, дзе знаходзіўся маёнтак паноў Ляскоўскіх, падпольным камітэтам быў накіраваны вопытны падпольшчык-бальшавік Росяк, легальна вядомы як майстар Зыкаў. Ён павінен распачаць арганізацыю рэвалюцыйных гурткоў сярод сялян і рабочых гуты пана Ляскоўскага. Амаль адначасна з ім у сваё занепалае радавое гняздо прыязджае малады пан Станіслаў Ляскоўскі, які вырашыў развітацца

---

[1] Пятровіч І. А. Рэвалюцыйная праца на Беларусі. «Дзянніца», 1919, № 2 (46).

з разгульным сталічным жыццём «залатой» арыстакратычнай моладзі і заняцца гаспадарчымі справамі.

Выкрываючы існаванне зграі драпежнікаў-эксплуататараў, у цэнтры якой знаходзяцца два найбольш грунтоўна і шырока намаляваныя вобразы Ляскоўскага і князя Друцкага, як сімвалічныя, яскравыя адзнакі часу, аўтар вылучае не менш каларытныя фігуры гандляра і спекулянта Масея Ліўшыца, губернатара Курлава, кола яго падначаленых, розных прыслужнікаў, паліцэйскіх, дробных памешчыкаў, шляхты. Апісваючы іх узаемаадносіны, цесную пераплеценасць інтарэсаў, пісьменнік дае цікавыя падрабязнасці, сцэны асабістага жыцця арыстакратаў, падкрэсліваючы яго аддаленасць, адмежаванасць ад народа. Побач з гэтай раскошай, бестурботным існаваннем, свецкімі прыёмамі, балямі, багатымі палацамі, паўстае жыццё працоўнага люду: галеча, бяспраўе, невыносныя побытавыя ўмовы, смурод гарбарняў, сялянскія курныя хаты, жабрацкая аплата цяжкай працы.

І ўсё ж, нягледзячы на жорсткую прыгнечанасць, паліцэйска-жандарскі ўціск, сярод рабочых і сялян вядзецца рэвалюцыйная работа. Масавы сялянскі рух у 1905 годзе напалохаў царскі ўрад, які меў дастаткова прыкладаў, каб пераканацца, што ў сялян наіўная вера ў цара пахіснулася. Сталыпінскай зямельнай рэформай улады вырашылі стварыць у вёсцы моцны грунт у выглядзе кулацкіх гаспадарак. Расслаенне вёскі паскорылася, класавая барацьба абвастрылася. Пачынаюць вылучацца заможныя хутаране, яшчэ больш занепадаюць малазямельныя сяляне. Працягвалася, нягледзячы на рэакцыю, барацьба згалеўшай вёскі супраць памешчыкаў. Бяспраўнае становішча рабочых, іх бесчалавечная эксплуатацыя, абеззямельванне, пралетарызацыя сялян, раскол і хістанні ў падпольным рэвалюцыйным асяроддзі, барацьба розных партый і груп, сталыпінская палітыка «росквіту вёскі», узмацненне рэакцыі, аб'яднанне памешчыцкага, гандлярскага капіталу — вось тая канва твора, па якой можна прасачыць асноўныя сюжэтныя лініі: палітычныя, грамадскія, прыватныя. Пісьменнік імкнецца ўсе гэтыя адзнакі эпохі паказаць у канкрэтна-гістарычным плане, выявіць тыповыя

абставіны, у якіх дзейнічаюць героі рамана. Ён вылучае на пярэдні план тую Беларусь, на чале барацьбы якой з царскім самаўладдзем стаяў перадавы атрад — рабочы клас. Бальшавікі вялі рашучую барацьбу за прыцягненне сялянства на бок рабочага класа. Янка Нёманскі як добры знаўца вёскі ўсведамляў такую задачу лепш, чым хто-небудзь іншы, імкнучыся ў сваім рамане паказаць моманты пранікнення рэвалюцыйных ідэй у сялянскія масы, наладжванне сувязей рабочых з сялянствам. Менавіта гэтыя мэты і паўсталі перад Зыкавым — пасланцом гарадской падпольнай арганізацыі. Зыкаў-Росяк, асцярожны і прадбачлівы падпольшчык, стварае першы гурток з найбольш свядомых рабочых, пачынае распаўсюджваць марксісцкую літаратуру, імкнецца заваяваць давер пана Ляскоўскага і яго прыслужнікаў, каб не выдаць сваіх сапраўдных намераў. Раскрываючы характар дзейнасці Зыкава, пісьменнік паказвае яго ў разнастайных сувязях: у асяроддзі рабочых, у сутыкненнях з Ляскоўскім і Ліўшыцам, на першых падпольных сходках. Чалавечая, духоўная сутнасць Зыкава асвятляецца праз яго адносіны з сям'ёй настаўніка Петруся Мікалаевіча Крэпчука: сынам-студэнтам Тодарам, дачкой Зосяй, якая працуе ў канторы шклозавода пана Ляскоўскага. На аснове адзінства поглядаў паміж Зыкавым і Зосяй узнікае шчырае пачуццё прыхільнасці, якое паступова перарастае ў каханне.

Аўтар не змяншаў тых цяжкасцей, якія сустракаліся на шляху першапраходцаў — прапагандыстаў і арганізатараў рэвалюцыйных груп на Беларусі. Цяжкасці паўсталі і перад Зыкавым, і не толькі аб'ектыўнага, але і суб'ектыўнага характару. Паказваючы дзейнасць Зыкава ў вясковым і гарадскім асяроддзі, выяўляючы душэўны стан героя, які пакутуе за правал работы ў Ляскоўцах, за лёс Зосі, меўшай няшчасце спадабацца пану Ляскоўскаму, пісьменнік у некаторых момантах парушае логіку развіцця гэтага характару. Янка Нёманскі не змог у поўнай меры выкарыстаць і свой уласны рэвалюцыйны вопыт і прыклады з вядомых ужо тады твораў савецкай літаратуры, дзе глыбока быў распрацаваны вобраз рэвалюцыянера-прапагандыста, які нёс свет перадавых ідэй у народныя масы.

У адзіны кампазіцыйны план уведзены і шматлікія іншыя персанажы рамана. Гэта хвалюючы вобраз Зосі, дзявочую прыгажосць і рамантычную ўзнёсласць мар якой груба і бязлітасна растаптаў пан Ляскоўскі. Антыпод Зосі — разбэшчаная князёўна Друцкая, якая шукае вострых прыгод сярод сваіх шматлікіх палюбоўнікаў. Азначаны, але не завершаны сюжэтныя лініі прадстаўнікоў рэвалюцыйна настроенай моладзі — сына настаўніка Тодара Крэпчука, рабочага Сёмы Каца. Даволі грунтоўна раскрывае пісьменнік вобраз вясковай дзяўчыны Ганулі, як увасабленне тыпа сялянкі, якая абуджаецца для рэвалюцыйных спраў. Шматгранны вобраз настаўніка Петруся Мікалаевіча. Праз яго пісьменнік адлюстроўвае не толькі становішча вясковага настаўніцтва, але і выяўляе трагедыю інтэлігентаў, якія, прыняўшы ідэі народніцтва, ішлі ў народ «сеяць разумнае, добрае, вечнае», аднак з-за неспрыяльных абставін гублялі ідэалы сваёй маладосці. Акрамя псіхалагічных, духоўных рыс характару героя, яго пачуццяў, перажыванняў, адносін з людзьмі, пісьменніка цікавяць і пабытовыя ўмовы настаўніцкай сям'і, праца Петруся Мікалаевіча. Добрае веданне настаўніцкага асяроддзя дазволіла Янку Нёманскаму, які сам прыкладна ў гэтыя гады працаваў вясковым настаўнікам, стварыць сапраўдны тып, характэрны для часоў сталыпінскай рэакцыі, калі пасля паражэння рэвалюцыі 1905 года ў асяроддзі перадавой інтэлігенцыі адчувалася разгубленасць.

Як адлюстраванне невыноснага становішча працоўных Янка Нёманскі больш грунтоўна і шырока паказвае лёс дзвюх сем'яў — рабочага гуты Рыгорчыка і селяніна Кавальчыка. Па сваёй гранічнай беднасці яны амаль не адрозніваюцца адна ад другой. Няма ніякіх законаў, якія абаранілі б іх інтарэсы. У яшчэ больш жудасных умовах знаходзяцца гарадскія рабочыя. Дэталёва выпісвае аўтар групавы партрэт рабочых гарбарні Імрота ў Мінску. Падрабязнасці настолькі дакладныя, што нават бачыш, як у густым паветры бруднага цьмянага памяшкання ў такт скрабкам раўнамерна пагойдваюцца фігуры гарбароў з жоўта-апухлымі тварамі, адчуваеш невыносны смурод закіслых у

вялізных чанах скур і як кантраст да гэтай змрочнай карціны — бялюткі снег на падворку, на галінах дрэў.

Раман наогул вылучаецца мастацкай апрацаванасцю амаль кожнага вобраза, завершанасцю асноўных сюжэтных ліній, нягледзячы на тое, што твор нясконччаны. Тут прыкметны свой вобразны свет, арыгінальная мастакоўская думка, глыбока індывідуальная страснасць і пафаснасць настрою душы аўтара. У параўнанні з аповесцю, некаторымі апавяданнямі ў ім значна ўзрасла пісьменніцкая культура, моўнае майстэрства. Янка Нёманскі шырока ўжывае аўтарскія характарыстыкі і апісанні, дынамічныя, змястоўныя дыялогі, унутраныя маналогі, самараскрыццё герояў. У адпаведнасці з асноўнай тэмай твора значнае месца займае пейзаж, цікавыя і захапляючыя карціны беларускай прыроды, маляўнічыя апісанні вёсак, якія рассыпаліся, як «чародкі авечак». У рамане шмат інтрыгуючых момантаў, што абумоўлівае глыбокую зацікаўленасць чытача. Асаблівая значнасць твора заключаецца ў навізне і markdown разнабаковасці матэрыялу, шырыні ахопу грамадскага жыцця Беларусі паміж рэвалюцыямі 1905 і 1917 гг. У рамане няма ніякага прыхарошвання жыцця вёскі, наадварот, іншы раз надзвычай згушчаюцца фарбы, адчуваецца нават некаторая зададзенасць у бясконцым падкрэсліванні дзвюх рэзкіх кантрастуючых супрацьлегласцей — жыцця працоўных і паразітычнага існавання пануючага класа. Закранаючы пабытовы бок, пісьменнік імкнецца акрэсліць праблемы сацыяльна-палітычнага характару, выявіць непрымірымыя супярэчнасці, паказаць нарастанне класавай барацьбы. Сапраўдную сутнасць і значэнне гэтай барацьбы Янка Нёманскі разумеў і бачыў у карэнных зменах асноў дзяржаўнага ладу — такую ідэю ён сцвярджаў усім зместам рамана «Драпежнікі».

Янка Нёманскі, як і іншыя беларускія пісьменнікі, якім пашчасціла яшчэ да рэвалюцыі атрымаць вышэйшую адукацыю, быў інтэлігентам першага пакалення, выхадцам з народа. Ен ішоў наперадзе, пракладваючы шляхі ў будучыню для народных мас, якія яго вылучылі. У той час, калі беларуская савецкая проза рабіла свае першыя крокі, на шляху яе станаўлення

былі непазбежныя недахопы, памылкі, захапленні, след якіх прыкметны ў творах многіх празаікаў 20—30-х гадоў. Творчасць Янкі Нёманскага пры ўсёй яе індывідуальнай своеасаблівасці не з'яўляецца выключэннем. Яна адлюстроўвае агульную тэндэнцыю роста маладой беларускай рэалістычнай прозы, тыповыя для гэтага працэсу пошукі і знаходкі. Творы Янкі Нёманскага пакінулі глыбокі след у літаратуры 20—30-х гадоў. Ён пісаў аб тым, што добра ведаў, перажыў асабіста, што хвалявала яго на ўсім шляху кароткага і яркага жыцця. У гэтым сіла эмацыянальнага і пазнавальчага ўздзеяння творчасці выдатнага празаіка і на сучаснага чытача.

*Л. Савік*

# АПАВЯДАННІ




## НАД КРОМАННЮ

(З часоў 1905 года)

### I

Дзед Язэп патыкаў заскарузлым пальцам у люльцы, папыкаў ёю і, паправіўшыся на карчы, дзе ён сядзеў, сказаў:

— Цудоўнае гэтае возера. Ты яшчэ нядаўна тут жывеш і не бачыў яго як след. Я ж пражыў тут змалку, сярод гэтых сумных лясоў ды балот; тут навокал траха не на 20 вёрст няма ні аднае вёскі, усё лес ды лес, балоціна з правалінамі, дзе вада чорная, як сажа, і дзе ніхто не мераў дна. Гэта — «чортавы вочы», як завуць іх старыя леснікі ды смалакуршчыкі. Разгоніцца лось ці воўк, сігае па лесе, наскочыць на «чортава вока» — і загіб. Шмат гэтых «вачэй», і жудасць ад іх бярэ. Тут жа, бліжэй да Кромані, месца вышэй, замест балота — светлы, жоўты пясок, лес — чысты, хваёвы, заўсёды сумны. Само возера, як бачыш, быццам без краю; вада ў ім чыстая, як шкло, але заўсёды яно захавана туманам. Што робіцца на сярэдзіне возера — ніхто не ведае... Раз прыехаў аднекуль здалёку нейкі андуфэльт з блішчастымі гузікамі: захацеў, ведаеш, памераць глыбіню. Нашы смалакуршчыкі казалі яму: «Не рабі гэтага, бо ніхто яшчэ не смеў

мерацъ Кромань». Не, дзе ж там! Кажа: «Вы — старыя дурні, больш нічога». Ну, добра, узяў гэта ён чайку, нейкі ланцуг з вагаю на канчары і папрасіў, каб хто-небудзь ад'ехаў з ім у возера. Вядома, ніхто з ім не паехаў. Тады ён сам адагнаў чайку ад берага і прапаў за туманам... Так мы яго больш і не бачылі — згіб.

— А даўно гэта было? — запытаўся Антон.

— Ды не, вось у гэтую мінулую восень... Але, так. Дзіўнае гэтае возера. Кожную нядзелю туман з яго каля поўдня выходзіць і чутно, як пад вадою звоняць, быццам у царкве. Аб гэтым спакон вякоў ідзе гамонка: кажуць, што на месцы Кромані калісь была вялізарная вёска, якая раптам правалілася скрозь зямлю і схавалася пад вадою. Шмат чаго гавораць аб гэтай з'яве, я ж чуў ад старых людзей вось што. У даўнейшыя часы на Навагрудку сядзеў ліцвінскі князь Вайшэлг,— здаецца, так яго звалі. Злосны быў, сярдзіты чалавек. Адолеў ён усіх іншых князёў, але нейкі адзін яму не паддаваўся. Тады Вайшэлгу стала патрэбна шмат войска і грошай. Сваіх падданых лупіў ён як мог, а хто яму пярэчыў, дык тых хапалі, тамілі ў мурах Навагрудскага замка, а потым катавалі. Многа людзей было загублена... Праязджаючы адзін раз у Лаўрашоўскі манастыр адмольваць свае грахі, даведаўся князь, што дзесьці ў лесе ёсць вялікая вёска, з якое ён нічога яшчэ не браў. Ну, добра. Пачалі шукаць яе, доўга шукалі — і знайшлі. Уехаў князь у вёску і пачаў наводзіць свой парадак: аддай мужчын у жаўнеры, аддай гавяду ды грошы. Усё аддалі сяляне, апроч грошай, бо яны нават не ведалі, што гэта такое. Пахапаў князь старых, перакатаваў іх, але карысці няма. Раз'ярыўся ён, як звер, пачаў заглядаць у вёску ўсё часцей і душыў, пакуль кроў не пачынала мучыць яго. Хто застаўся з сялян, пахаваліся па лесе, і вёска стала пустою; князь некалькі раз не застаў у ёй ні душы. Потым ён дазнаўся, што сяляне ў нядзелю сыходзяцца ў вёску да імшы ў царкву. Вось і наляцеў ён у адну нядзелю і сам хацеў запаліць і царкву і вёску, але раптам перад яго вачамі зрабілася вялізарнае возера. Аслупянеў князь, паехаў

назад і цэлы тыдзень сядзеў, не выходзячы з свайго замка. Але зайздрасць яго не пакінула: зноў са сваёй дружынай панёсся ён сюды, за Нёман. Надыходзіла ноч, князь заблудзіўся ў лесе і праваліўся ў «чортава вока» са ўсёй сваёй ватагаю... З тых часоў і чуцён звон у Кромані: гэта сяляне правяць імшу і моляцца за вялікія грахі Вайшэлга. Гамоняць, што звон будзе да тае пары, пакуль які-небудзь чалавек не памрэ тут, на Кромані, за людзей і не выкупіць тым душы князя. Вось што кажуць старыя людзі...

— Байкі ўсё гэта,— нахмурана адказаў Антон,— чуў ты сам гэты звон?

— Сам, сам... каб не чуў, то не казаў бы табе. Ды каб і не чуў, так ці ж не можна было б паверыць, што кажуць старыя людзі, аб чым ведама з веку?

— Ну, гэта, дзеду, спрэчная справа. Мала чаго зложана было калісь... Але доўга мы курым — давай вывернем яшчэ карчоў са два ці тры.

Дзед Язэп крахтануў, устаў і, узяўшы рыдзель, пачаў падкопваць тоўсты хваёвы пень.

— Трохі рана яшчэ карчаваць, бачыш — зямля мёрзлая,— сказаў ён Антону, які ў гэты час падлажыў калоду пад бому, а канец апошняе — пад акопаны пень.

— Яно-то нічога, толькі прыходзіцца карэнні абсякаць блізка каля пня... Ну, ідзі — наляжам.

Дзед падышоў да Антона, і яны абодва налеглі на верхні канец бомы. Корч крахтануў, захістаўся, але моцна яшчэ трымаўся ў зямлі. Раз пяць напружваліся яны, але корч усё не даваўся. Нягледзячы на халодны вецер і сырасць ад неадтаўшае зусім зямлі, заскарузлыя ад поту і гразі, як цырата, сарочкі іх сталі мокрымі. Аддыхнуўшы трохі і падсекшы яшчэ некалькі карэнняў, яны вырвалі корч, махнатыя чорныя лапы якога бязвольна растапырыліся ва ўсе бакі. За гэтым такая ж чарга чакала другі, трэці...

Пачынала змяркацца. Ужо стала трудна разглядзець карэнні, не відно было і саміх карчоў.

— Ну, кідай! Пойдзем дахаты,— прапанаваў дзед,— ужо позна, дый рукі больш не слухаюць.

Апрануўшыся і забраўшы сякеры і рыдлі, яны пайшлі па сцежцы, якую ведалі толькі адны смалакуршчыкі. Ад узмокшых потных сарочак было вільготна, скрозь лыкавыя лапці праходзіла да ног вада, і абодва рупіліся ісці як найхутчэй. Уперадзе ішоў дзед, Антон — ззаду, і кожны думаў свае думкі.

— Вось ты, дзеду, казаў мне сёння казку аб Кромані, аб нейкім князі, які катаваў людзей. Што князь мучыў людзей — гэтаму я веру, а што там у возеры звон якісь-та, то гэта проста байка. Першаму я веру праз тое, што такія казкі кожны дзень бываюць і ў нашым жыцці. Чым не казка тое, што зрабілася, напрыклад, са мною? Чаму я тут, у гэтым балоце, лесе? Дзецца больш некуды, хоць свет і вялікі. Бацька мой, дзед і ўсе старэйшыя не мелі свае гаспадаркі, але жылі парабкамі ў паноў. Бацька памёр і пакінуў нас траіх на панскую волю. Сястру, старэйшую за мяне, узялі да пакоя, я застаўся парабкам, а матка — удоўкаю. Працы было шмат, але мы трывалі. Трываў і я, хоць часта і біў мяне прыганяты... Але зрабілася тое, пасля чаго трываць ужо было нельга: сястра мая была збяшчэшчана панічом, затаўсцела і была выгнана з пакоя. Яна з гора павесілася, а матка ў скорым часе памерла памешанаю. Я не ўтрываў і, сустрэўшы раз паніча, кінуўся душыць яго, але адратавалі, на яго ліха. Мяне засудзілі, і тры гады я адсядзеў у астрозе. Цяпер мяне, як астрожніка, можа прыняць толькі гэты цёмны лес ды балота... ці ж гэта не казка, ці ж нашы паны — не тыя самыя князі? Эх, многа, дзеду, такіх казак на свеце, і шмат трэба добрых людзей загубіць, каб выкупіць, як ты кажаш, душы гэтых злодзеяў... Ох, шмат!

— Ну, гэта другая рэч,— адказаў дзед Язэп і больш за дарогу не прамовіў ні слова.

Смалакуршчыкі адышлі ўжо далёка ад Кромані і праходзілі паміж «чортавых вачэй». Было зусім цёмна, і дзед цікава азіраўся па баках, каб не згубіць сцежку. Адсюль тыр-

чалі лапы старога вывернутага дрэва, над галавою была цемра лясное глушы. У гэтым месцы ніхто ніколі не жыў, і нават старыя смалакуршчыкі, правёўшы ўвесь свой век у лесе, ставілі свае хаткі далей адгэтуль, бліжэй да Нёмана. На вярсту ці паўтары ад берага Нёмана па сухім лесе былі раскіданы невялічкія хаткі ўсіх тутэйшых смалакуршчыкаў, якія ледзь не ўвесь год жылі тут, рэдка адлучаючыся на вёскі.

Хатка, у якой жылі дзед Язэп і Антон разам са сваім дзесяткам, перагародкаю дзялілася на дзве роўныя часткі: адна была для ўсяго дзесятка, другая — для дзесятніка. У першай палавіне хаты быў доўгі стол, дзве лавы з тоўстых негабляваных дошчак, умацаваных на калодках, пол, які займаў паўхаты, і гліняная печ з умураваным у прыпек чыгунным катлом. З левага боку ад уваходу да сцяны была прыроблена палічка, на якой стаялі шаршавыя дзеравяныя міскі. У кутку за палічкаю стаялі заўсёды свяцец і пук хваёвае лучыны. Два маленькія акенцы з забраснеўшымі шыбкамі цьмяна глядзелі з хаты.

Дзед і Антон падышлі да хаты, кінулі каля дзвярэй на прызбу свае сякеры і рыдлі і ўвайшлі. Усе іх сябры былі ўжо дома: хто ляжаў на палу, хто ўмываўся, два ж маладыя хлопцы пяклі ў печы картоплі.

Лучына, дагарэўшы да сука, дыміла так, што нельга было тхнуць. На жэрдачцы над печчу віселі мокрыя чорныя анучы і раскудлачаныя лыкавыя лапці з вяровачнымі аборкамі. Па ўсёй хаце стаяў кіслы дух ад мокрых кажухоў і світак.

— Дзе гэта вы так доўга бадзяліся? — запытаў увайшоўшых рыжы Цімох, папраўляючы лучыну ў святцы.— Мы ніяк не можам дачакацца вячэры.

— Мы скончылі работу толькі на змроку,— адказаў дзед.

— За грашамі ганяецеся? — уставіў адзін з хлопцаў, што таўкліся каля печы.

— Але, але, за грашамі, хлопча. Хоць і ноччу працуй, не толькі ўдзень, то і тады за імі не патрапіш. Грошы нас баяцца, дак ганяйся не ганяйся за імі — усё роўна не зловіш,— прамовіў Антон.

— А ці праўда гэта, што, кажуць, у Чапскім лесе даюць пяць капеек з карча? Вось добра было б, каб і ў нас так плацілі; тады можна было б выгнаць у дзень саракоўкі са дзве або і ўсе тры злоты.

— Там добра, дзе нас няма,— сказаў дзед Язэп, разматваючы з нагі ўсю ў гразі анучу.— Я шмат пражыў на свеце, у гэтых лясах працую ўжо трыццаты год і ведаю, што нам прыбаўляюць па грошыку на пень год праз пяць ці шэсць. Каб даехаць да пяці капеек з нашых трох, трэба чакаць яшчэ найменш дваццаць год. Я, вядома, не дажыву да такой ласкі.

— Ці доўга ж гэта так будзе? — пачуўся з печы хрыпаты голас Піліпа.— Пры маім здароўі мне нельга больш выкорчваць, як пяць пнёў, зараблю толькі залатоўку ў дзень, а дома — там нават нішчымнае капусты няма.

Ён закашляўся, нешта доўга хлюпала ў яго грудзях.

— Дзейкаюць, што зараз адбяруць зямлю ў паноў і дадуць яе сялянам, тады не трэба будзе гніць нам у гэтым балоце,— сказаў адзін з кутка на палу.

— Хто ж гэта адбярэ ў паноў зямлю? Мы ўсё спадзяёмся, што нехта там, вышэй, будзе такім ласкавым да нас і вось так сабе падаруе нам зямлю,— сказаў Антон, вешаючы свае анучы каля печы.— Дзе ж гэта было відна, каб паны згадзіліся па добрай волі дапамагчы беднаму люду? Ім нельга адцурацца ад свайго багацця, нельга дазволіць, каб народ стаў на свае ўласныя ногі, бо тады некаму будзе на іх, паноў, працаваць. Усё гэта байкі, што дадуць. Мы гібеем ад голаду, ад холаду, страцілі чалавечы дух і жывём па лясах, балотах і расхляпаных вёсках, знішчаныя, бязвольныя, і не можам паправіць сваё жыццё, чакаем, спадзяёмся, што нас хтосьці адратуе. Я ж вам кажу, што вызваліць сябе можам мы толькі самі, больш ніхто.

— Малады яшчэ ты, каб кпінкі рабіць над намі,— раззлаваўся Цімох,— мы сабе паможам самі, да мы паможам самі сабе. Чуў гэта я ўперад за цябе, ды нешта не бачыў яшчэ, каб жабрак зрабіў багатым другога жабрака. Ну, чым

лася па сенях. Першая «Лявоніха» скончылася, і дзяўчаты абкружылі яе, засяваўшы вясельную песню...

У хаце таксама станавілася ўсё весялей. Як першыя ўмовы былі зроблены, госці расселіся за сталамі, расстаўленымі ўздоўж дзвюх пярэдніх сцен. Гарэлка і багатая закуска зрабілі ўсіх добрымі, гаманлівымі. Пачуліся жарты, смех; маладзіцы і старыя нават бабы зацягнулі песні, а некаторыя пад гэтыя песні пусціліся ў скокі. Мужчыны апавядалі адзін другому свае гаспадарскія справы, гаманілі аб навінах і чутках, якія хто дзе даведаўся.

За сталом у покуці сядзелі Пранцісь, сват, Васіль і найбольш старыя і паважаныя з гасцей. Тут гутарка ішла сур'ёзная — аб бывалых справах і здарэннях, якія былі з кім у колішнія часы. Дзед Кісель, якому ўжо было год пад восемдзесят, без канца гаманіў, як ён плыў на кані праз Дунай у Турэцкую вайну, як пешкі рабіў пераход з Крыма ў Польшчу ў 70-м годзе. Другі смешны дзед у дзесяты раз пераказваў, як ён быў у Кралеўцы з барлінамі і як яму, замест шапкі, немец прадаў капялюш. У кожнага знаходзілася сказаць штосьці з свайго жыцця.

Васіль, звярнуўшыся да Пранціся, гаварыў:

— Ліха ведае, як зроблена на свеце, што людзі жывуць па суседству, а глядзяць адзін на другога воўкам. Вось хоць мы з табою, Пранцісь: здаецца, за ўвесь век не зрабілі ніякае шкоды, ніякае пагарды адзін другому, а на ж табе! — да гэтага дня і спаткацца не хацелі.

— Але, але, сваце! І што ж такое, калі я малюся ў касцёле, а ты ў сваёй царкве?

— Праўду кажаш, сваце! Давай вып'ема за нашых дзетак.

Сваты налілі сабе па добрым кілішку і выпілі. У галаве пачынала круціцца, з губ зрываліся вясёлыя словы, жарты самі так і лезлі на язык. Дзяды траскучымі галасамі зацягнулі старую песню пра гараб'я, яшчэ выпілі, зноў заняліся растабарамі. Шмат казак было сказана, шмат жартоўных апавяданняў абляцела стол.

Васіль таксама разышоўся і прапанаваў выслухаць яго сказ. Усе павярнуліся да яго, гатуючыся пачуць што-кольвечы смешнае.

— Усе вы ведаеце старую царкву ў Мурагах. Цяпер яна мае толькі сцены, а дах яе і званніца даўно ўжо праваліліся і згнілі; цвінтар зарос чартапалохам, крапівою і іншымі бруднымі зёлкамі. У даўнія часы гэта быў вялікі і далёка вядомы касцёл. Убранства яго было багатае, ксяндзоў туды пасылалі самых лепшых. Але не гэта цягнула ў касцёл людзей з усіх бакоў, нават здалёку: у касцёле быў лічбан св. Антонія, які памагаў і ад хваробы, і ад беднасці, і нават ад смерці. Пасля скасавання уніяцтва касцёл быў перароблены ў царкву. Прыехаў і поп — Завідовіч, здаецца — і ўсё каталіцкае выкінуў, толькі св. Антоній застаўся. У бліжэйшыя ж гады поп Завідовіч зразумеў, што абмылкі ён не зрабіў, пакінуўшы ў царкве лічбан: у адзін дзень свята Антонія папу даставалася столькі дабра, колькі ён не зарабляў за год. Рады быў поп, і кожны год на Антонія склікаў да сябе ў госці знаць ледзь не з усяго павета: і папоў, і ксяндзоў, і паноў, і рознае начальства. Добра жыў поп і гора не бачыў. Вось адзін раз уваходзіць ён у царкву, глядзь — няма Антонія на месцы. Туды-сюды — няма. Як на бяду, заставалася толькі дзён тры ці чатыры да свята Антонія. Што рабіць? Без лічбана і свята не ў свята — усе грошы і іншыя падарункі прапалі. Думалі-думалі з дзяком Завідовіч дый сенадумалі. Раніцаю ў свята яны папрасілі аднаго старога селяніна, які аблічча і доўгаю барадою паходзіў на лічбана Антонія, раздзелі яго, паставілі на пастамент, дзе стаяў лічбан, падвязалі яму абрус ніжэй чэрава і папрасілі стаяць нерухома ўсю імшу. Добра! Усё пайшло па парадку: шмат папоў правілі імшу, народу процьма і ў царкве, і каля царквы. Свечкамі ўстаўлены ўвесь абрус перад Антоніем. Вось санейкая кабеціна, праціснуўшыся з свечкаю ў зубах да самога «Антонія», стала шукаць месца, куды б прыладзіць яе. Нядоўга думаючы, яна запаліла свечку і, нагнуўшы канец з агнём к назе «Антонія», пачала капаць воск, каб прыля-

піць там і самую свечку. «Антоній» не вытрымаў, дрыгнуў нагою, ды так моцна, што добра такі штурхануў кабету. «Цуд»,— загаласіла яна на ўсю царкву...

— Куды ты, сваце?

— Што ж я прыйшоў да цябе, каб ты здзекаваўся з мяне? — хрыпла вымавіў Пранцісь.— Дык не, годзе! Недаўярак ты быў, недаўярак і ёсць! Хадзем, пан Сулкоўскі. Ясь, хадзем дадому!

— Ніхто цябе і не клікаў, сам прыйшоў,— ускіпеў Васіль.

— Татка, што тут зрабілася? — шпарка ўвайшоўшы ў хату, запытаўся Ясь.

— Зрабілася тое, што шляхціц Ляшкевіч не хоча радні з брудным мужыком. Вяселля не будзе!

— Ну і дзякуй богу! Нам не па дарозе з шляхецкаю верашчакаю,— уставіў Васіль.

Пранцісь з сватам хутка выйшлі з хаты, ні з кім не развітаўшыся і не зірнуўшы ні на каго. Гасцям стала ніякава — трохі памяўшыся, адзін за другім, нібы аблаяныя, яны пачалі разыходзіцца дадому. Дзяўчаты і хлопцы, даведаўшыся, у чым справа, таксама змоўклі і разышліся. Хутка ўся хата апусцела, засталіся толькі свае ды Ясь.

Алеся спалоханымі вачамі пазірала на бацьку і не магла ўцяміць, што зрабілася. Васіль, пачырванеўшы ад злосці, буйнымі крокамі таптаўся па хаце. Маці, падпёршы галаву рукою, моўчкі сядзела каля стала.

— Дзядзька Васіль, што вы тут нарабілі? — запытаўся Ясь.

— Ідзі і ты за сваім бацькам, табе тут месца няма,— прабурчаў Васіль.

— Чаго ж вы на мяне злуеце? Я вам кепскага нічога не зрабіў. Калі вы не хочаце паладзіць з маім бацькам, дык можна абысціся і без яго. Аддайце мне Алесю, я жанюся без бацькавай волі.

— Эх, галубе,— прамовіла Таццяна,— якое ж гэта будзе

жыццё, калі твой бацька будзе заўсёды па-воўчы глядзець на Алесю. Не, так нельга рабіць.

— Ды чаго там слухаць! Ці бацька, ці Ясь — аднаго поля ягада. Алеся пойдзе за свайго, католікаў і нам не трэба,— сказаў Васіль і адвярнуўся ад Яся.

Алеся стаяла ні жывая ні мёртвая. У яе галаве ніяк не ўкладалася тая злыдная перамена, якая раптам прыкончыла ўсё яе шчасце. Яна не бачыла, як Ясь, зірнуўшы на яе, выйшаў з хаты з паніклаю галавою, не чула, як маці аклікнула яе памагчы прыбраць са сталоў пакінутую яду і бутэлькі. Дзеля яе вясёлы шчасны вечар перамяніўся ў хаўтурны. Зразу стала так пуста і ў хаце, і на душы. Нават і слёзы не паказваліся на вачах. Апрануўшыся і не слухаючы маці, выйшла яна за вароты на прызбу. Доўга глядзела яна на паўночныя зоркі, быццам хацела аддаць ім часцінку тае пакуты, якая гнула ёй душу і не давала спакою.

## II

Быў другі дзень сёмухі. У мястэчку Дунаеўцах, дзе быў стары і далёка вядомы касцёл, у гэты дзень штогодна адбываўся кірмаш. Многа народу — і католікаў, і праваслаўных, і яўрэяў — з'язджалася ў Дунаеўцы вёрст за дваццаць пяць ці трыццаць: адны ехалі гандляваць, другія — купіць што-небудзь з гаспадарчых спраў, трэція — паслухаць набажэнства ў знатным касцёле, але больш ехала сюды проста пабыць на людзях. Зранку ўжо вялікі пляц мястэчка ўстаўляўся вазамі з паднятымі ўгору аглоблямі; на вазах паказваліся парасяты, куры, сала, яйкі, сярпы, косы, восі, аглоблі; тут жа дзе-небудзь збоку прыляпляўся рускі з абразамі, крэсцікамі, чыслянікамі, брытвамі, нажамі; далей прадавалі дзёгаць, смалу, квас, цыроп, абаранкі. Усюды чутны былі лаянка за цану, насіўся гоман натоўпу людзей, іржалі коні, і над усім гэтым тлумам пішчаў гармонік, іграўшы невядома дзеля чаго. Бабы, маладзіцы і мужчыны пераходзілі ад воза да воза, прыглядаліся, мацалі, таргаваліся да хрыпаты і ішлі

далей. Можа, хто з іх за цэлы дзень нічога і не купіў, але хадзіў, таргаваўся, быццам усё меўся купіць. Дзяўчаты, пабраўшыся за рукі, шнуравалі ўзад і ўперад па прагалах між вазамі, запыняючыся там, дзе прадаваліся ўборы. Калі якой што надта падабалася, яна ляцела шукаць бацькі ці маці і вяла іх паглядзець і купіць тую рэч. Хлопцы, сабраўшыся гурткамі, сядзелі дзе-небудзь з краю пляца, жартавалі, не прапускалі ні аднае дзяўчыны, не паскаліўшы над ёю зубы. Дзеці віліся ўсюды, як мошкі, і падымалі страшэнны піск, хто гліняным конікам, хто дзеравянаю дудкаю, хто алавяным пеўнікам. Сталыя хлопцы, каб пакпіць з якое-небудзь ганаровае дзяўчыны, падвучвалі малых хлапчукоў вымазаць непрыкметна коламаззю спадніцу; як гэта ўдавалася, рогат падымаўся наўкола, а бедная дзяўчына не ведала, куды вочы дзяваць ад сораму.

Імша ўжо даўно скончылася. Недалёка ад касцёла сярод вялізарнага саду стаяў плебань ксяндза пробашча Галеўскага. Сам пробашч — высокі, сыты, з чыстым белым тварам чалавек, і малады, тонкі вікарны ксёндз, які часова служыў арганістам, шпацыравалі па садзе. Быццам пабеленыя малаком, грушы і яблыні, зялёная чыстая мурава пад імі, раскіданыя ўсюды ў прагалах клумбы розных кветак, перамовы дробных птушак, зык невядомых мошак над кветкамі, няясны гоман з кірмашу, глыбока-сіняе неба без ніводнае хмаркі і праменні яснага сонца — усё гэта навявала на душу радасць, выклікала светлыя думкі, звала да поўнасці жыцця.

Пробашч у дадатак к гэтаму быў яшчэ пад уладаю ўспаміну аб натоўпе народу ў старым таемным касцёле, высокасці набажэнства і святых гуках аргана.

— Хвала найвышшаму пану богу, які залажыў усё гэта на радасць свайму люду,— гаварыў пробашч.— Гэтае сонца, прыгожыя кветкі, спевы птушак і поўны жыцця гоман мірыядаў мошак кажуць чалавеку, што бог яго не пакідае,

пасылае яму ўцеху. Не дзіва, што так верыць яму, наймацнейшаму, чалавек, будуе ў хвалу яму палацы-касцёлы, складае літанні і гімны. Без веры і сонца не свяціла б, і гэтыя кветкі не мелі б свае дзіўнае вопраткі.

— Не так народу патрэбна вера, як нам,— смутна адказаў малады ксёндз.— Зірніце туды на пляц: ці трэба каму вера? Мазь, хустка, боты — вось што ім трэба. Ад веку звычайна цягне іх у касцёл ці ў царкву адзін раз у тыдзень прасіць ад нейкага бога дапамогі, якая каму трэба. Вера трэба нам дзеля гэтага быдла.

— Нех пан бог бэндзе з намі — што пан ксёндз кажа?

— Праўду кажу, вось што. Ці ж вы не бачыце, пан пробашч, што ў апошнія часы моладзь адыходзіць ад нас? Ці не ведаеце, што адны, прагнучыся атрымаць прывілеі праваслаўя, пераходзяць у папоўскую веру, другія ж, зусім новыя, не вераць ні нам, ні папам, ні богу, ні д'яблу? Сонца ж ім таксама свеціць, і кветкі квітнуць для іх, як і тым, хто не прапускае ні аднае імшы.

— Мне і слухаць вас страшна, пане ксёнжа.

— Кіньце вы дзяцініцца. Нам трэба трымаць веру, каб утрымаць сябе... Вось пасля імшы вам падалі сакрэтны ліст ад біскупа. Ён піша, што трэба звярнуць асаблівую ўвагу на моладзь, і рахуе нават працаваць нам побач з папамі і імперскімі чынамі.

— Пан ксёндз, мусіць, не рабіць так, як кажа біскуп. Якая ж згода між католікам і праваслаўным; наша святая вера...

— Кажу, што вера — наша справа, і мы павінны ёю кіраваць. Мусім жа мы памагчы скасаваць той дух вольнасці, які пачаў залазіць у галовы народа, каб самім затрымаць моц у сваіх руках.

Пробашч нічога не меў адказаць на гэты аргумент і няў смела глядзеў у вочы свайму памочніку.

— Вось што! Заўтра вы паедзеце па гэтых справах ад мяне ў павет. Што рабіць і казаць у чыноў — будзеце ведаць. Цяпер пара супачыць.

Увайшоўшы да сябе ў пакой, пробашч не лёг спачываць. Ён адамкнуў шуфлядку ў стале, дастаў адтуль ліст біскупа і яшчэ раз перачытаў. Потым устаў нахмураны і пачаў хадзіць з кутка ў куток.

— Можна да пана ксяндза? — пачуўся жаночы голас з сумежнага пакоя, і праз хвіліну ўвайшла прыгожая і маладая ахмістрыня — панна Мальвіна.

Пахмурнасць і неспакой як рукою зняло з твару пана Галеўскага. Ён прыветна кіўнуў галавою Мальвіне і сеў у шырокае крэсла.

— Пан ксёндз, здаецца, засмучаны чымсьці? Такі ўдатны дзень сягоння, так добра ішла імша... А казанне? Ну проста пан ксёндз да слёз давёў увесь народ. Дый народу колькі было, яблыку недзе ўпасці.

— Што ж, дзіцятка, што шмат народу было? Паслухалі імшу, казанне ды разышліся кожны са сваёю ўласнаю думкаю, сваёю радасцю ці горам, а той, хто выклікаў у іх слёзы ўміласціўлення, застаўся адзін, без радасці і гора.

— А бог з вамі.

— Бог... дзе там богу дзела да мізэрнага аднаго чалавека? Мне жыцця трэба, таго жыцця, якім жыве сад, квітнуць кветкі, жывуць людзі. У мяне няма жыцця.

— Грэшна вам так казаць, пане ксёнжа!

— Ніякага грэху няма, Мальвіна.

Ксёндз устаў, блізка-блізка падышоў да Мальвіны.

— Ці ж грэх глядзець у гэтыя вочкі, ці ж грэшна гладзіць гэтую ружовенькую руку... Мальвіна!

Мальвіна хіснулася ўбок, але ксёндз, быццам падтрымаць, ахапіў яе пад сярэдзіну і губамі прынік да яе голай шыі.

— Што вы робіце? Пусціце,— ледзьве чутно прагаварыла яна.

Пакрываючы пацалункамі твар, шыю, плечы Мальвіны, ксёндз падняў яе на рукі і панёс на сафу.

. . . . . . . . . . . . . . . .

— Ай-яй! Хтось сюды ідзе! — спалохана шапнула Мальвіна і саслізнула з сафы, папраўляючы дрыжаўшымі рукамі гарнітур і шып на галаве. Ксёндз з каменна-спакойным тварам трымаў у руках польскі пераклад Боссюэта.

У пакой увайшоў Ясь і нясмела прыпыніўся каля дзвярэй. Ксёндз кінуў на яго востры погляд і прыжмурыў вочы, углядаючыся і ўспамінаючы, хто б гэта быў. Ясь пад калючым вокам ксяндза павярнуў галаву ўбок і чакаў.

— Здаецца, пан будзе сын Пранціся Ляшкевіча? — запытаўся ксёндз.

— Але, пане ксёнжа,— адказаў Ясь.

— Не схожы вы са сваім бацькам. Ваш бацька добры і шчыры католік, вы ж не ходзіце да касцёла, не паважаеце свайго духоўнага айца — нават прывітаць мяне, увайшоўшы сюды, не лічыце патрэбным.

— Я не смею, пане... Я прыйшоў прасіць...

— Вы сацыяліст?

— Як вы сказалі, пане ксёнжа? Я не разумею?

— Той, хто не ходзіць да касцёла, не здымае пану шапкі, не слухае бацькі, робіць сваю волю — вось хто сацыяліст і бунтар.

— Ну, і што ж з гэтага?

— А тое, што такіх людзей пакарае не толькі бог, але і яго намеснік на зямлі.

— Пане ксёнжа, няхай карае мяне хто хоча. Я прыйшоў да вашае міласці прасіць аб адной справе.

— Якая ў вас да мяне справа? Я з нехрысцем спраў не вяду.

— Уперад выслухайце мяне, а потым ужо будзеце ці сварыцца, ці злітуецеся нада мною.

— Кажы.

— Пан ксёндз, мусіць, ведае, што я засылаў сватоў да лятцоўскага Хлэмкі?

Ксёндз аж падскочыў на крэсле, страціўшы на момант увесь свой спакой. Але раптам твар яго зрабіўся зноў каменным, толькі па губах лятаў злыдны посмех.

— Чаму ж пан не ажаніўся? Часу, здаецца, было досыць пасля заручын?

— Ведаеце, пане ксёнжа, што нашы бацькі ўпартыя, як быкі: уцямілі сабе, што калі рознае веры людзі, дык ім і жаніцца нельга. Я ж не хачу мець жонкаю сабе нікога, апроч Хлэмкавае дачкі, хоць яна і праваслаўная.

— Не паганьце свайго бацькі, вы яго не варты. Чаго вы прыйшлі да мяне?

— Я прыйшоў прасіць вас пашлюбаваць мяне з Алесяю і без дазволу бацькоў.

— Без дазволу? Дый каб твой бацька, гунсваце ты, прыйшоў прасіць мяне аб гэтым, то і тады б я не адчыніў яму дзверы. Як асмеліўся ты казаць гэта?

— Пане ксёнжа, змілуйцеся... выслухайце.

Ксёндз ускочыў на ногі і, як вецер, пачаў насіцца па пакоі, блытаючы на падлозе дарожкі і шкуры. Потым, прыпыніўшыся супраць Яся і ўтупіўшы ў яго твар свае бліщчастыя ад гневу вочы, не сваім тонкім голасам закрычаў:

— Ты забыўся, адцураўся ад нашае веры! Д'ябал звязаў цябе з дачкою недаверка, усе дзеці вашы будуць недаверкамі! Не, я не падыму рукі даць благаславення нашага бога нехрысцям! Прэч адсюль, з гэтага святога месца!

— Пане ксёнжа, паслухайце...

Ксёндз адвярнуўся ад Яся, падышоў да акна, прастаяў некалькі хвілін, і калі ён павярнуўся зноў назад, твар яго быў светлы, вочы лісліўыя, на губах добры пасмех.

— Ну добра,— сказаў ён.— Калі табе ўжо так хочацца жаніцца на гэтай дзяўчыне, я дапамагу табе. Бог, якому я служу, павялеў быць людзям добрымі. Але ён прымае пад сваю абарону толькі тых, хто добры да яго. Слухай, пан Ясь! Калі Алеся твая пяройдзе ў нашу веру, то хоць сягоння я вас ажаню. Табе бог пашле адпушчэнне грахоў за тое, што ты прывядзеш да яго няверную душу. Ідзі, дзіця маё, і прывядзь сюды сваю дзяўчыну — і праз некалькі гадзін вы пашлюбуецеся.

Пры апошніх словах ксяндза Ясь устрапянуўся, твар яго

3 Зак. 3777

пачырванеў, у вачах заблішчала радасць. Але гэта было не больш як хвіліну. Смутак зноў наляцеў на яго; ён ніжэй апусціў галаву і некалькі разоў пераступіў з нагі на нагу. Потым ён падняў вочы на ксяндза і прамовіў, выразна кажучы кожнае слова:

— Не, пане ксёнжа! Я не згодзен атрымаць падзяку на небе, што прымушу стрымаць іншую веру таго, каго я кахаю, незалежна ад веры. Калі будзе ваша ласка, дык зрабіце маё каханне поўным, як я прашу.

— Ты кахаеш, кахаеш даўно — і за грэх гэта не лічыш! — задрыжаўшы ад злосці, закрычаў ксёндз.— Гэта распуста, блуд! Святы касцёл выкіне цябе, як вялікага грэшніка, з сям'і верных católікаў! Як выгнанец, ты нідзе не будзеш мець прыстанішча — ні ў сваіх, ні ў чужых.

— Я мысліў, ксёнжа, што знайду ў цябе падтрыманне, як у служкі найвышэйшага бога, якому ўсе роўны, вера, дзеля якой усе людзі — дзеці. Вы ж мяне праганяеце ад сябе, як брудную сабаку.

— Не дзіця ты бога, а д'ябла! Мне некалі і не аб чым больш гаварыць з табою. Вось дзверы!

Ясь, нічога не кажучы, павярнуўся, абкаціў халодным поглядам з ног да галавы ксяндза і выйшаў з пакоя.

На пляцы кірмаш кішэў вясёлым, клапатлівым народам. У бакавых вулках каля хат мяшчан з усіх канцоў неслiся спевы, музыка. Па дарозе пападалася шмат падвыпіўшых мужчын і нават кабет, якія моцна рагаталі і голасна гаварылі між сабою. Сонца было ўжо на адвячорку, але яшчэ высока. Ясь ішоў, не бачачы ні людскоe радасці, ні светлага сонца. Тая надзея, з якою ён раніцаю спяшаўся на кірмаш і якая грэла яго сэрца да сустрэчы з ксяндзом, у сучасны момант патухла, і перад ім стаяла зноў няведамая будучыня. Што рабіць, дзе знайсці канец — ён не мог даць сабе адказу. Як у цяжкім сне, праціскаўся ён к Бэркавай карчме, дзе ўмовіўся сустрэцца з Алесяю, каб паведаміць яе аб перамове з ксяндзом.

Бэркава карчма стаяла на рагу пляца, адкуль разыходзі-

ліся два гасцінцы. Пры карчме была добрая стадола і, апроч агульнае хаты для заезджых, было некалькі маленькіх, як клеткі, «нумароў» — баковак. Там Бэрка гандляваў гарэлкаю, трымаў некалькі балаголаў, займаўся камісіянерствам. Заўсёды хто-небудзь быў у яго. На гэты раз у агульнай хаце поўна было хлопцаў, якія балагурылі, пілі гарэлку і бясконца жартавалі.

Як толькі Ясь пераступіў парог, на яго паляцелі з усіх бакоў:

— Га, вось і Ясь сюды!

— Ды што гэта ты — лесніку наеўся, ці што? Такі дзень, а ён сонны, раскіслы.

— Трэба лснік гарэлкаю выгнаць!

Яся пацягнулі за стол і пачалі наганяць яму вясёласць гарэлкаю.

Але ён заставаўся засмучаным, і нічога не памагала — ні жарты, ні песні сяброў.

— Мусіць, зноў цябе засмуціла Алеся? — запытаўся адзін з лятцоўскіх хлопцаў.— Кінь ты з ёю валэндацца, да і з бацькам такім я б не жыў. Ці свет малы? Плюнуў бы на яго гаспадарку ў такім разе і — у горад.

Ясь нічога не адказваў і сядзеў як апушчаны ў ваду. Хлопцы кінулі звяртаць на яго ўвагу, бо ўсе, як вясёлыя дзеці, хутка пераходзілі к іншым настроям і інтарэсам. Бэрка падышоў к Ясю і ціха, нібы крадучыся, сказаў, што пана Яся просяць у бакоўку. Яны адышлі ад стала, чаго ніхто і не прыкмеціў, і праз хвіліну Бэрка ўвёў Яся ў «нумар», а потым са значным і хітрым посмехам зачыніў за ім ззаду дзверы.

На зэдліку каля стала, накрытага гразкаю і абадранаю цыратаю, сядзела Алеся. Як толькі Ясь увайшоў, яна ўскочыла на ногі і кінулася да яго, але так і прыпынілася, угледзеўшыся ў яго твар.

— Ну што? — без надзеі ў голасе запыталася яна.

— Што? Нічога, як я і казаў уперад,— ледзьве вымавіў Ясь.

— Што ж рабіць, Яська мой родны?

— Пераламаць іх усіх мы пакуль што не зможам. Бацькі нашы цёмныя, розум у іх забіты, а з панствам звяжашся — нічога не будзе. Аблыталі нас вераю, установамі і трымаюць, як павукі мух у гэтай блытаніне. Я табе ўжо казаў: давай жыць разам без шлюбу.

— Ай, што ты, Ясю! Ну падумай толькі: ні твой, ні мой бацька нас не прымуць да сябе; паехаць куды далёка — добра, але за каго я буду лічыцца? Усюды людзі, мусіць, крыва глядзяць на палюбоўніцу. Ці ж мала было сораму мне з гэтымі нашымі заручынамі? Але там пасварыліся, разышліся — ды толькі. Калі ж я стану палюбоўніцаю, кожны будзе паказваць на мяне пальцам.

— Яно-то можна было дарахавацца з ксяндзом.

— Чаму ж ты не дарахаваўся?

— Ён хацеў, каб ты стала каталічкаю. Тады ён згаджаўся вянчаць, хоць сягоння.

— Мне ўсё роўна вера, і я дзеля цябе пайшла б на што хочаш. Чаму ты не ўладзіўся, Ясю?

— Я не хацеў сілком навязваць табе тое, што мне самому моташна. Ды цяпер ужо і няма патрэбы гаварыць аб гэтым: ксёндз так помстуе на мяне, што не хутка забудзецца.

— Вось што, Ясь! Схадзі яшчэ да тутэйшага папа. Табе нічога, што можа вянчаць праваслаўны поп? Нічога? Ну дык добра! Хутка ідзі да яго — ён не мае такога гонару, як ксёндз. Я ж цябе яшчэ пачакаю, але спяшайся.

Ясь, здавалася, хацеў спрачацца, але, схапіўшы капялюш, барзджэй кінуўся з бакоўкі. Царква была на другім канцы мястэчка. Народу тут было шмат менш, чымся на пляцы, і мала хто цікавіўся тым, як Ясь трухам ляцеў да царквы. Падышоўшы к дому папа, Ясь трохі прыпыніўся, прыкмеціўшы праз адчыненыя вокны шмат гасцей там. Але справа не дазваляла доўга думаць, і ён узышоў на шырокі ганак.

— Каго табе трэба?

Ясь азірнуўся. На плеценым крэсле, разваліўшыся, сядзела тоўстая пані, мусібыць, сама пападдзя.

— У мяне ёсць пільная справа да бацюшкі.

Пападдзя грузна паднялася, аж заскрыпела падлога, падышла да аднаго з вокан і паклікала:

— Бацюшка! Да цябе прыйшлі, выйдзі сюды!

Спусціўшы некалькі хвілін, на ганак высунуўся дзябёлы бацюшка з тоўстым чэравам і чырвоным потным тварам. Усеўшыся, ён пакадлубаў перш пёркам зубы, а потым кіўнуў пальцам Ясю, падклікаючы гэтым яго да сябе.

— Адкуль ты, хлопец? — запытаўся поп Завідовіч.

— Я лятцоўскі,— адказаў Ясь.

— Лятцоўскі? Я там траха не ўсіх ведаю, цябе ж штось не прызнаю.

— Вы мяне, бацюшка, і не павінны ведаць, бо я католік, сын Пранціся Ляшкевіча.

— Сын Пранціся? Дык гэта ты сватаўся да дачкі Васіля Хлэмкі? А маладчына Васіль — так тонка адбрыў твайго бацьку.

Поп зарагатаў, і жывот яго, як мяшок сена, затросся пад яго сінім халатам. Уняўшыся, ён запытаўся:

— Чаго ж ты прыйшоў да мяне?

— Па важнай справе. Трэба было б вам аднаму сказаць.

— Не бойся! Матушка нам не пашкодзіць.

— Я хачу ўсё ж такі жаніцца на Алесі, хоць нашы бацькі нам і не дазваляюць.

— Як жа гэта вы жэніцеся без бацькоўскага дазволу?

— А так: няхай бацюшка павянчае нас таемна.

— Ды ты што, хлопча, сваю галаву на плячах носіш? Без дазволу бацькі, ды яшчэ за католіка аддам я дзяўчыну? Не, ідзі сабе дадому і не марнуй дарэмна часу.

Бацюшка ўстаў, мяркуючы ісці да сваіх гасцей.

— Бацюшка, ці ж з дабра я прыйшоў да вас? Я прашу зрабіць нас абаіх шчаслівымі!

Матушка пачала шаптаць на вуха папу.

— Ну добра! Я згодзен на тваю просьбу, хоць і бяру грэх на сваю душу. Трэба шмат прасіць бога, каб адмаліць мне

гэты грэх, ад цябе таксама патрэбна належная ахвяра яму. Калі заплаціш сто рублёў, то я павянчаю вас.

— Што, сто рублёў? — умяшалася матушка.— Хлопец жэніцца без бацькавае гаспадарскае волі, дык ён табе ні жывёлы, ні гасцінцаў, ні начыння не дасць, а дасць толькі чыстымі грашамі. Лічы паўтары сотні, ды годзе!

— Праўду кажаш, матушка, але дзе ж хлопец знойдзе столькі грошай?

— Бацюшка, і сто для мяне многа, я ж яшчэ не гаспадар.

— Вось і тое ж, каб ты быў самавіты гаспадар, можа, мы на менш сышліся б.

— Скіньце, бацюшка.

— Не, ні аднаго гроша, як хочаш.

— Што ж рабіць? Прашчайце, аставайцеся здаровы.

Нібы пабіты і аплёваны, Ясь сыходзіў з ганка. Поп паклікаў яго назад.

— Ну, я скідаю дзесяць рублёў. Вярніся,— сказаў ён.

— Эх, што будзе — то будзе! Я згодзен,— павесялеўшы, сказаў Ясь.— Толькі не ўсе грошы зразу.

— Э, не! Не толькі зразу, але і ўперад, да вянца.

Ясь, не кажучы ні слова, павярнууся і са знікшай галавою пакінуў папоўскі дом.

Сонца ўжо спусцілася зусім нізка. Пляц, дзе быў кірмаш, апусцеў. Крамнікі разбіралі свае часовыя будкі. Толькі расцярушаная салома і сена паказвалі, што тут нядаўна быў кірмаш. Алеся, чакаючы Яся, бачыла, як раз'язджаліся людзі, як моладзь збіралася на вуліцы для гулянкі, і ёй стала нудна сядзець у пагорклай бакоўцы Бэркавае карчмы. Некалькі разоў яна высоўвалася ў акно і паглядала ў бок царквы. Вось і Ясь, але ідзе ён такі самы смутны, як і ад ксяндза. Алеся, сустрэўшы яго, ужо і не пыталася аб выніках перамоў з папом. Некалькі хвілін пасядзелі яны моўчкі, засмучаныя, без думак, без волі. Потым Ясь устрапянууся, устаў, прайшоў разы два па каморцы і, падышоўшы да Алесі, узяў яе за руку.

— Годзе нам тут сядзець, годзе чакаць дапамогі ад людзей! Кланяцца ды прасіць я больш ніколі не буду. Калі людзі абыходзяцца з намі па-воўчы, то і мы павінны так рабіць, іначай нас загрызуць. Быў я ў папа: сто рублёў вылажы, як капеечку, і ўсё зробіць. Дык калі ж за грошы яны ўсё прадаюць — і бога, і людзей,— то я здабуду гэтыя грошы. Кіну я свайго бацьку, паеду ў які-небудзь горад, зараблю грошы і адкуплюся ад бога і іх служкаў. Толькі ці будзеш ты чакаць мяне, Алеся?

— Хоць усё жыццё чакаць, абы потым быць назаўсёды з табою!

— Ах, зязюля мая!

— Мне так не хочацца разыходзіцца з табою, што і да хаты ісці не хацелася б.

— Ну, пасунься да мяне, вось так, блізка-блізка. Пакажы свае вочы, няма ў іх смутку? Не, няма... Зараблю я грошай, прыеду сюды, ажэнімся мы з табою і паедзем адсюль назаўсёды, каб жыць сваім шчасцем сярод лепшых людзей, а не тут, між атручанымі злосцю, ашуканствам і цемраю... Верыш мне і кахаеш ты мяне, Алеся?

Замест адказу Алеся абгарнула рукамі шыю Яся і паклала яму на плячо сваю галаву. Так яны доўга сядзелі, маўчалі, і шчасце сваімі крыламі веяла над імі.

— Пойдзем, Алеся, на гулянку ды паскачам так, каб усе жылы задрыжалі.

Яны ўсталі. Алеся паправіла на сабе копту, паглядзелася ў маленькае люстэрка. Крануліся ісці. Раптам пачуўся бразгат і голас за сцяною: «Дзе мой Ясь?»

Пранцісь Ляшкевіч быў не такі чалавек, каб прапусціць такое вялікае свята, не паехаўшы да касцёла. Устаўшы рана, ён быў трохі здзіўлены, што Яся ўжо не было дома. Гэта не спадабалася Пранцісю, бо ён хацеў ехаць на кірмаш і да касцёла як мае быць, з сям'ёю. Недастачу жонкі ў апошнія гады запаўняў Ясь. Але з часу заручын у Хлэмкавых між Пранцісем і яго сынам ладу не было. Праз гэта Пранцісь, выязджаючы на кірмаш адзін, не рупіўся шукаць сына.

Прыехаўшы ў Дунаеўцы так рана, што касцёл яшчэ не адчыняўся, Пранцісь адвёў каня на двор да свайго лепшага прыяцеля Казіміра Душынскага. Апошні, як і Пранцісь, быў надта набожны чалавек, лічыўся першым грамадзянінам у ксяндза і ганарыўся гэтым. Абодва — і Казімір і Пранцісь — паважалі адзін другога, звалі не іначай як «паночку» і часта гасцявалі. І на гэты раз Казімір прыемна сустрэў свайго старога прыяцеля і пашкадаваў, што з апошнім няма яго сына.

Прастаяўшы ў касцёле ўсю доўгую знарочыстую імшу, Казімір з Пранцісём, заклікаўшы яшчэ некалькі прыехаўшых з вёсак добра знаёмых шляхціцаў, гуртам пайшлі ў дом святкаваць. Казімір раскашэліўся, і пачостка зацягнулася траха не на ўвесь дзень. Гарэлка нядоўга затрымоўвалася на стале, і гаспадар даставаў пляшку за пляшкаю. У яго нават не хапіла прыпасенае, і ён паслаў хлопца ў карчму да Бэркі.

Прынёсшы гарэлку, хлопец сказаў Пранцісю, што бачыў у карчме Яся. На гэта Пранцісь звярнуў надта мала ўвагі. Тым часам гаспадар, добра ўжо падвыпіўшы і сам, хамянуўся, што добра было б у такую ладную кампанію паклікаць і пана ксяндза. Усім гэта вельмі спадабалася, і Казімір пачаў збірацца ісці да ксяндзовае гасподы.

— Пачакайце мяне, паночку Казіміру,— папрасіў Пранцісь,— у мяне ёсць ладны гасцінец для пана ксяндза.

Ён выйшаў разам з Казімірам на двор, дастаў з воза з тоўстага шкла бутэльку з мёдам, і яны абодва пайшлі к дому ксяндза.

— Дзень добры, пане Ляшкевіч,— прывітаўся ксёндз,— як маецца ваш сын?

— Дзякую, вы надта добры для нас, пане ксёнжа,— адказаў Пранцісь.

— Не ажанілі яшчэ сына?

— Не, пане ксёнжа, ён не хоча.

— Вось і бацька! Не ведае, што сын яго робіць. Ды ваш сын Ясь быў сягоння ў мяне і прасіў пашлюбаваць яго, і нават без вашага дазволу.

— Пашлюбавацъ? Мусіць, з Хлэмкаваю дачкою?

— Мусіць, мусіць... стары дурань! Прэч з маіх вачэй, пакуль сына чалавекам не зробіш.

Каб гром трэснуў над галавою Пранціся, ён не так бы аглушыў яго, як гэты прыём. Не чуючы ног пад сабою, з бутэлькаю ў руках вылецеў ён з ксяндзоўскага дому. Яго, старога чалавека, паважанага католіка, ксёндз выгнаў з дому! І з-за каго? З-за гэтага праклятага сына. Што ж варты цяпер ён, стары Ляшкевіч, калі яму ні адзін шляхціц не падасць нават рукі? А ўсё з-за гэтага недавярка. Пачакай, пачакай... Але дзе ён? Ага, у Бэркі!

— Дзе мой Ясь? — накінуўся ён на Бэрку, уварваўшыся ў карчму.

Бэрка спалохаўся і правёў яго да бакоўкі, дзе былі Ясь і Алеся. Угледзеўшы твар Пранціся, Алеся жахнулася і падалася ў куток, управа ад дзвярэй.

— Вось ты дзе, гужваце! Вось куды, недавярак, жаніцца прыйшоў! — хрыпатым голасам закрычаў Пранцісь на сына.

— Што вам, татка, да таго, дзе я? — увесь бляды сказаў Ясь.

— Спаганіў маё імя, збэсціў увесь наш род! Мяне, мяне выгнаў ксёндз. На старасці. Цяпер кожны можа пляваць мне ў вочы, і я не пасмею падняць іх ні на кога. У, пагібелі на цябе няма.

Бачыць сына яму стала адваротна, і ён павярнуў галаву...

— А, і ты, сцерва, тут! Гэта ты адабрала ў мяне сына і маё імя і чэсць! Ты, паганая!

— Бацька, не падыходзь, не чапай яе, яна не вінавата!

Ясь стаў між Алесяю і бацькам. Губы Пранціся дрыжэлі, на іх выступіла пена. З працягнутаю леваю рукою ён быццам прогся дастаць Алесю.

— Не чапай! — зыкнуў страшным голасам Ясь і падняў руку загарадзіць Алесю.

— Прэч! Прэч ад гэтае подлае! — хрыпеў Пранцісь.

Правая рука Пранціся сударажна паднялася; ён размахнуўся ёю, і тоўстае шкло дна бутэлькі з мёдам глыбока ўрэзалася ў вісок Яся.

## III

Васіль Хлэмка прачнуўся ад бразгату ў вароты. Сонца ўжо ўзышло, але было яшчэ халаднавата. Накінуўшы сярмяжку на плечы, ён пайшоў адчыняць.

— Дзе гэта ты бадзялася ўсю ноч? — вымаючы затычку і адчыняючы варотцы, пытаўся ён.

Перад ім стаяў балагольшчык ад Бэркі, а недалёка ад варот і самая балагола.

— А, каб цябе паветра ўзяло, чаго ты тут ездзіш у такую рань?

— Вазьміце сваю дачку — я прывёз; ды заплаціце грошы за фурманку.

Балагольшчык падышоў к возу, памог вылезці Алесі і развязаў ёй рукі, сцягнутыя зрэбным ручнікам. Валасы на ёй былі ўскудлачаны, адзежа ўся змятая і перапэцканая граззю і кроўю, на твары ні аднае крывінкі, вочы шкляныя.

— Ах, як было весела на гэтым вяселлі! — загаварыла яна, не міргаючы вачамі.— Гарэлка цёплая, чырвоная. Ха-ха-ха! Ха-ха-ха! А як скакалі мы з Ясем, каб вы бачылі, мае ўдалыя: вось так!

Яна ўзялася рукамі ў бокі і пачала выраблядь нагамі нейкі скок, смеючыся рэжучым голасам. Васіль, аслупянеўшы, пазіраў на сваю дачку і не мог зразумець, што з ёю зрабілася і як з ёю быць. Крыху апомніўшыся, ён зірнуў на балагольшчыка.

— Пранцісяў Ясь забіты, і яна гэта бачыла,— шапнуў той.

Алеся ж, кінуўшы скокі, голасна запела на ўсю вёску. Васіль узяў яе за руку і павёў у хату. Яна ішла, але не відаць было, каб яна знала, хто з ёю і дзе яна.

— Душна тут,— гаварыла яна, увайшоўшы ў хату.— Ясь, адчыні акно, мне лепей відаць будзе кірмаш... Ай, Ясік, якая ў цябе пекная чырвоная істужка на капялюшы! Ясь! Ясь! Вось ён, блізка, страшна, вочы ў яго, як вугалле ў печы!.. Ясь, ратуй, ратуй! Ага, не дастанеш! Ха-ха-ха! Ха-ха-ха!

Ад гэтага смеху прачнулася Таццяна і дзеці, незразумела глядзелі на Алесю, але Таццяна, як прайшоў першы спалох, загаласіла на ўсю хату, а за ёю зараўлі і дзеці. Алеся пачала прыслухоўвацца і крыху супакоілася. Маці боязна падышла да яе, кратанула за руку і, паклікаўшы Васіля на падмогу, павяла яе к ложку. Цэлы дзень праспала Алеся, сударга часта трасла яе, на твары выступаў пот.

Толькі на трэці дзень яна на нейкі час адышла і стала пазнаваць сваіх. У гэты дзень усе Лятцы каля паўдня высыпалі на вуліцу. Па дарозе на мястэчка ехаў нейкі чын з блішчастымі гузікамі і з шашкаю на баку. За ім на фурманцы везлі Пранціся Ляшкевіча, рукі яго былі звязаны ззаду вяроўкаю; паабапал яго сядзелі таксама блішчастыя гузікі. За фурманкаю ішлі сяляне-панятыя, а за імі траха не ўся вёска. Алеся сядзела ў хаце каля акна і бяздумнымі вачамі глядзела на вуліцу. Раптам яна ўскочыла, і ўперад, чымся маці апомнілася, яна ўжо была каля воза, на якім везлі старога Ляшкевіча. Ухапіўшыся за аглоблю, яна ўпілася вачамі ў твар Пранціся.

— Гэта ён, ён забіў Яся! — не сваім голасам закрычала яна.

Жандары прагліся адарваць ад воза яе рукі, але дарэмна. Тады яны пагналі коней у галоп. Алеся трымалася моцна, бегла побач з возам і не спускала вачэй з Пранціся. На выездзе за ваколіцу ногі яе зачапіліся за слуп, яна адарвалася ад воза і кумялём паляцела на зямлю. Хутка яе дагналі і павялі дадому.

— Не, гэта не ён. Скажыце, людцы, скажыце, добрыя, хто яго забіў? — галасіла Алеся народу.

Але, хто забіў Яся?

Дні праходзілі за днямі. Стаўпун, найшоўшы зноў на Алесю пасля таго, як яна ўбачыла і на некалькі хвілін пазнала Пранціся, цягнуўся не адзін і не два тыдні. Цэлымі днямі яна хадзіла па хаце, нікога і нічога не бачачы. Усе дамашнія цішком абыходзілі яе, а маці, Таццяна, прыпамінала ўсе свае грахі і грахі сваіх бацькоў і дзядоў, за якія бог пакараў яе, даўшы такую дачку. Для Васіля здарэнне з Алесяю таксама не прайшло дарэмна, тым больш што ўсярэдзіне нейкі голас заўсёды шаптаў яму, што гэта ён сам давёў дачку да такое напасці. Увесь яго колішні пэнт і зайздрасць прапалі, і ён стаў хадзіць сагнуўшыся, быццам яму на шыю прывязалі вялізарны цяжар.

Прайшло шмат часу з таго, як Алеся страціла розум. Адзін раз раніцаю яна ўстала і на радасць усім запытала зусім разумна ў маці:

— Матка, скажыце, дзе яго пахавалі?

— Каго, дзетка?

— Яся, майго Яся!— і першы раз з зацямнення яе розуму яна залілася слязьмі.

У той дзень маці прымушана была павесці яе на могілкі і паказаць магілку Яся. З гэтага часу Алеся ледзь не кожны дзень хадзіла на магілку і праседжвала там да ночы, убіраючы яе кветкамі, паліваючы іх вадою. Але стаўбняк не зусім пакінуў яе. Прыходзячы з магілак, яна часта ўваходзіла ў хату з вясёлым тварам і бліскучымі вачамі.

— Я сёння бачылася з Ясем. Ён казаў, што зараз заробіць шмат грошай і забярэ мяне з сабою. Казаў яшчэ, каб ніколі я не ішла да папа, бо ён кепскі і злыдны, як ведзьма... Татка, чуеце, гатуйце гарэлку, клічце гасцей, бо Ясь увечары прыйдзе ў сваты да мяне.

Яна пачынала скакаць па хаце і пець вясёлыя песні. У вачах жа яе стаяла смерць і страшна глядзела ўсім у душу.

*1923 г.*

# ДЭЗЕРЦІР

## I

Высокае блакітнае неба. Сонца ўжо падыходзіць на поўдзень. Па ўсім, як акінуць вокам, абшары сенажацей мільгаюць белыя, чырвоныя, зялёныя плямы мужчын і кабет. Там блісне іскраю каса на сонцы, там прапаўзе вялікі воз з сенам, а далей, кінуўшы работу, хлопцы і дзяўчаты збіраюцца ў гурток, жартуюць, кідаюцца сенам... Раздаецца вясёлая, вольная песня, якую падхоплівае недалёкі гай і перадае далей у сумны лес... Не скошаная яшчэ трава хавае ў сабе мільярды жывога крылатага тварэння, якое сваімі галасамі напаўняе ўвесь абшар, вылівае сваю душу ў ціхай мелодыі... Вянучае сена, усыпанае рознымі кветкамі, разлівае ў паветры такі пах, што ад яго аж кружыцца ў галаве. А сонца сваімі праменнямі ліжа, абдымае ўсё: і людзей, і жывёлу, і кветкі, і кусты. Усё жыве адным жыццём, жыццём радасці, жыццём сонца...

Васіль толькі што скончыў увязваць воз з сенам. Ён падаў руку сваёй Кацярыне, і яна лёгка саскочыла ўніз, толькі крыху абапёршыся на плячо Васіля. Яна блізка-блізка стаіць каля яго і глядзіць яму ў вочы. Загарэлы смуглы твар яе, чырвоныя, як вішні, губы, карыя вочы, пахнучае сенажатнымі кветкамі цела цягнуць Васіля да яе, і, крэпка абняўшыся, яны садзяцца ў нязграбленае сена...

— Годзе, Васіль! Людзі ўбачаць — брыдка будзе... Дый пара ўжо палуднаваць.

Яны адыходзяць ад воза.

— Тата, глядзі, якога я жука злавіў! Во, з вусамі!

Маленькі Юзік кінуў свайго жука, матыля з адарваным крылом і прыстаў да бацькі:

— Ты пасадзіш мяне на каня, як павязём дадому сена?

— Добра, добра — пасаджу!

— Не, пусці мяне цяпер каня паіць на рэчку.

— Ах, праўда, ну мы абодва паедзем.

Васіль сеў на каня, узяў к сабе хлопчыка, і яны паехалі к рэчцы. Юзік трымаецца за грыву і ад радасці не можа сядзець спакойна. Рэчка праз кусты бліскае, нібы міргам клікча да сябе.

— Тата, я купацца хачу!

Васіль і сам лезе ў ваду. Добра так у халоднай вадзе пасля гарачыні. Але вада становіцца ўсё халадней ды халадней, як лёд. Дрыжачка прабірае да касцей.

— Ах!

Васіль адкрывае вочы. Перад ім куст, увесь засыпаны снегам, а далей роўная белая коўдра лагчыны, якая падымаецца на ўзгорак, дзе цямнее засланы начною імглою лес. Васіль быццам не верыць сваім вачам і пацірае іх рукою. Але дрыжачка, якая, здаецца, хоча разарваць усё нутро, варочае Васіля да рэчаіснасці і звычайнага жыцця. Там, каля таго лесу — белыя, там іх акопы; ён сам стаіць у сакрэце.

— Спаў я, ці што? — запытаўся Васіль у сябе, і нейкая трывога адразу запала ў сэрца. Але, азірнуўшы некалькі разоў маўклівую, як труна, лагчыну, ён супакоіў сябе тым, што нікому з белых не прыйдзе ў галаў вылазіць з зямлянак у такі сіберны мароз. Трывога прайшла, але дрыжачка ад холаду не сціхала. Васіль з усіх сіл хацеў сцяць зубы, але гэта яму не ўдавалася: міма яго волі зубы проста ляскалі. Усё цела знямела; ён не чуў, ёсць у яго ногі ці няма. Каб хаця трохі сагрэцца, Васіль пачаў церціся спіною аб дрэва, пад якім ён стаяў, а рукамі да болю сціскаць, то адпускаць вінтоўку. З нагамі ж не было ніякай рады: яны глыбока ўлазілі ў мяккі, свежы снег, пад якім была непрамёрзлая нізіна і вада.

— Хоць бы змена барзджэй!

Але, як знарок, нідзе не чутно ні шолаху. Васілю стала здавацца, што на ўсім свеце няма ўжо нічога жывога, апроч яго: усё вымерла ад гэтага ледзянога холаду і пахавана пад гэтаю смяртэльнаю снегавою коўдраю. Чаго ён тут стаіць,

каго вартуе ў гэтым дзікім балотным лесе, адзін у цэлым свеце? Ён крануў рукою, і штых датыркнуўся да твару. Дрыжачка, якая крыху супакоілася, зноў, як электрычны ток, прабегла па ўсім целе.

«Нельга курыць тут, але закуру — можа, крыху сагрэюся», падумаў Васіль.

Ён апусціўся на калені, дастаў заскарузлы капшук з махоркаю і пачаў круціць цыгарку, але замёрзшыя пальцы ніяк не маглі справіцца з гэтаю работаю. Шмат перапсаваў ён газеты, пакуль удалося зрабіць нешта падобнае да цыгаркі. Забыўшыся, Васіль устаў і чыркнуў запалку, ужо стоячы.

— Цо-ок! Дзы-ын! — і снег пасыпаўся з дрэва.

— До-до-до, до-до! — пачулася з таго боку Шварцлёзэ, будзячы лес і лагчыну.

— А не, не ўсе памерлі,— падумаў Васіль, успомніўшы свае нядаўнія думкі.— Жывуць і сцерагуць так, як і я.

Васіль, заціснуўшы ў кулак цыгарку, каб не было відаць агню, са смакам зацягваўся, быццам хацеў праглынуць увесь дым. Яшчэ цокнулі дзве-тры кулі, і зноў усё заціхла, замерла. Скончыўшы курыць, Васіль пачаў углядацца ўперад, прагнучыся дасачыць той пункт, адкуль стралялі белыя. Але ад напружання і ад таго цяпла, які дала яму цыгарка, вочы яго пачалі заплюшчвацца. Ён спрабаваў махаць рукамі, тупаў нагамі, але, здавалася, усе часткі цела былі чужымі і не слухалі яго. Дрымота так апанавала яго, што стала мацней кожнага пачуцця, мацней разумення і нават мацней самае смерці.

Прыхіліўшыся к дрэву, Васіль, стоячы, заснуў, але ніякі шолах не прапускаўся яго вушамі. Ён чуў, як снег падаў на яго з ветак, як з нязмерным стукатам і громам падаў зверху сучок, як раўла, быццам у млыне, пад яго нагамі балотная вада. Разам з гэтым ён бачыў перад сабою то вялізарны, дзіўны горад з шырокімі вуліцамі і процьмаю вясёлага народу, то нейкае войска ў цудоўнай адзежы; потым яму здавалася, што ён паланёны белымі, што яго кладуць на зямлю і б'юць калом па нагах у пяты. Боль праходзіць па ўсёй

спіне да галавы, і здаецца, што мазгі развальваюцца ад яго, застываюць. Ад болю Васіль прачынаецца, перш аглядае смутна белую лагчыну. Што будзе далей? Ён чуе, што сіла падыходзіць к канцу. Сесці на снег? Не, замерзнеш. Трэба кранущца з месца, прайсці трохі... Нага не слухае...

— Таварыш! А, таварыш! Таварыш Каляда!

— Можа, замёрз ужо?

— Не, яшчэ грудзі цёплыя і сэрца б'ецца. Аставайцеся вы тут, таварыш Казлоў; праз гадзіну я прышлю вам змену, больш стаяць нельга. Каляду ж я паспрабую дацягнуць да заставы.

Узводны падняў Васіля пад пахі і ўзваліў сабе на спіну. Ісці ноччу па лесе ды яшчэ не бачачы карчоў, засыпаных снегам,— нялёгкая справа. Несці ж на сабе чалавека — яшчэ трудней. На шчасце, Васіль хутка ачнуўся і хоць ціха, але ўсё ж мог ісці.

— Не шастайце, таварыш узводны,— парадзіў Васіль,— іх пост надта блізка, і яны могуць даведацца, дзе наш сакрэт.

Праз некалькі хвілін Васіль з узводным былі на заставе.

Узвод, у якім служыў Васіль чырвонаармейцам, ужо пятую ноч стаяў у заставе сярод лесу, дасочваючы ўваходы ў апошні ⁂ боку белых. Марозы раптам пачаліся надта крэпкія — градусаў больш за дваццаць. Выстаяць пад такім марозам у брызентавых шынялях і гамашах не было ніякай магчымасці. Для разагравання трэба было — хочаш ці не — разводзіць агонь. Каб не відаць было бляску ад агню белым, чырвонаармейцы збудавалі з жардзя і яловых ветак шалаш, які і з'яўляўся прытулкам для ўсяго ўзвода. Пасярэдзіне шалаша заўсёды гарэў касцёр, на якім можна было згатаваць кіпяток, а таксама і абагрэцца. Кругом кастра было накідана шмат яловых і хваёвых ветак, якія служылі пасцеллю для чырвонаармейцаў. Пад гэтаю пасцеллю, як ступіць ці легчы на яе, сачылася вада, бо грунт па ўсім лесе быў балотны. Вада таксама ўвесь час капала і зверху: снег, які раставаў ад агню на шалашы, даваў яе досыць. Цяпла

ў шалашы было столькі, як і знадворку, але ўсё ж такі тут можна было прысесці і абагрэцца.

Вось у гэты шалаш і прыйшлі ўзводны з Васілём.

— Ну, як ты адчуваеш сябе? — запытаўся ўзводны.

— Кепска, таварыш узводны,— адказаў Васіль.

— Цяпер скідай хутчэй гамашы.

Чырвонаармейцы, што сядзелі ці ляжалі каля агню, адхіліліся і далі месца Васілю. Адзін з іх падсабіў яму зняць абледзянелыя абмоткі, скурчаныя, як скарынка, гамашы і мокрыя анучы. Прынеслі снегу і пачалі націраць ногі Васіля, якія толькі праз чвэртку гадзіны пачалі чырванець.

— Кажуць, што ў N палку ўчора шмат людзей насмерць замерзла: цэлую ноч полк праляжаў у ланцузе пад дротам у белых,— прамовіў адзін з чырвонаармейцаў.

— Ваяваць з белымі — нішто, вось толькі з марозам бароцца падчас немагчыма,— уставіў другі.

— Вайна, брат, не кулачная бойка, не ігрышча: захацеў — б'юся, не захацеў — не,— навучальна сказаў ім абодвум узводны.— Вайна ідзе на зямлі, у прыродных умовах, у якіх мы жывём. Праз гэта ў вайне пераможа той, хто не толькі зможа свайго супраціўніка, але пакорыць і гэтыя прыродныя ўмовы.

Васіль, зусім ужо адышоўшы, падняў вочы на ўзводнага, доўга глядзеў на яго, а потым запытаўся:

— Вы кажаце перамагчы прыроду? Ну як жа яе пераможаш, калі ў такі мароз мы ходзім у брызентавых шынялях ды гамашах? Як гэта я буду страляць, калі на дваццаціградусным марозе ў мяне рукі голыя?

Размова Васіля падбухторыла і яшчэ аднаго чырвонаармейца. Гэты расшпіліў свой шынель і маляскінавую гімнасцёрку і паказаў сваё чорнае цела, на якім не было сарочкі.

— Ваюй! добра ваяваць! — крыкнуў ён.— Я ўжо два месяцы не мыўся, а калі была ў мяне сарочка — і не ўспомню! Вось ляжу тут каля агню, і толькі сагрэецца бок, як яго па-

чынаюць сячы вошы; носіш іх на сябе ліха ведае колькі, бо цэлыя дні і ночы не спускаеш шынелькі з плеч. Вось і ваюй.

— Што ж, па-твойму, трэба кідаць вайну з белымі? — запытаўся ў яго ўзводны.— Калі ў нас усяго недахваткі, дык трэба пакарыцца Юдзенічу? Не, мы якраз ваюем за тое, каб у нас усё было. Мне здаецца, што не шмат табе давалі паны, як былі яшчэ яны ў сіле.

— Калі бальшавікі вядуць вайну, то няхай жа яны дадуць нам адзежу і яду,— не здаваўся чырвонаармеец.

— Кінь ты плявузгаць,— звярнуўшыся да яго, прамовіў адзін з чырвонаармейцаў.— Бальшавікі вядуць вайну, кажаш. Як жа яе не весці? Не бальшавікі палезлі на Гельсінгфорс ці Рэвель шукаць Юдзеніча, а ён сам палез на Пецярбург. Падумаеш, які Напалеон з'явіўся — дай яму Пецярбург. Ну вось і далі, а цяпер і эстонцам дадзім, калі і далей будуць уступацца за яго.

— А добра ваююць эстонцы, на іх ліха,— не так, як гвардыя Юдзеніча.

— Чаму ж не ваяваць? Заселі ў гатовых бліндажах за дротам. Выжані іх, калі хочаш.

— Нічога, выжанем. Вось заўтра зажарадь па іх з шасцідзюймовых, дык, нябось, уцякуць,— сказаў узводны.

Чырвонаармейцы, здзіўленыя прыходам Васіля, пачалі зноў прымошчвацца кругом агню. Некаторыя ўжо спалі, другія пачалі засынаць. Васіль высушыў свае анучы і абмоткі, абуўся і прынёс знадворку кацельчык снегу, каб згатаваць кіпятку. Ува ўсім целе яго адчувалася ныццё і боль; жывот, здавалася, падвяло к спіне. Ён дастаў з мяшка невялічкі кавалачак хлеба, але есці яго нельга было, бо ён быў мёрзлы і цвёрды, як камень. Васіль проста палажыў хлеб на дровы ў агонь.

Павячэраўшы гэтым кавалачкам хлеба, Васіль хацеў заснуць, але сон ніяк не прыходзіў. Як там у сакрэце ён не мог адагнаць дрымоты, дык тут нельга было заснуць. Думкі яго раз-пораз зварочваліся дадому, да таго, як жыве яго Кацярына, ад якой ўжо больш за паўгода ён не меў ніякіх

вестак. Там, далёка на Беларусі, стаіць яго вёска, у якой ёсць і яго ўласная хата, свая сям'я; успомніў ён свой сонмару ў сакрэце, і яму так захацелася дадому, так пастылым паказалася блукацца па гэтых пустых снежных лясах ды балотах, не маючы ніколі прытулку, адчуваючы вечны голад і страх смерці! Васілю стала здавацца зусім незразумелым, што не толькі іх полк, але шмат другіх — тысячы людзей — сядзяць вось у гэтую самую ноч у такіх самых шалашах, мерзнуць, пухнуць ад галаду і холаду. Вайна? Дзеля чаго яна? Не толькі я, Васіль, выбіўся з сілы, але выбіваецца кожны, каму даводзіцца пабыць тут. Нельга ж узяць ад чалавека больш, чымся ў яго ёсць...

Чырвонаармейцы, абняўшы колам агонь, спалі. Часта некаторыя ўскоквалі са сну на ногі, зацягвалі на сабе тужэй адзежу і лажыліся замерзшым бокам да агню. Здавалася, што чалавекам уладае нейкая пабочная сіла, іншая, чымся іх уласная воля. Другія выкрыквалі скрозь сон ці асаблівыя словы, ці нават цэлы сказ. Васілю здавалася, што ён знаходзіцца сярод жывых пакойнікаў. Той чырвонаармеец, што нядаўна ўпарта спрачаўся з узводным, раптам ускочыў і пачаў шукаць свой мяшок. Знайшоўшы, ён надзеў яго на плечы і зрабіў крокі два к выхаду, пераступіўшы праз таварышаў.

— Куды ты? — запытаўся ў яго Васіль.

Чырвонаармеец знячэўку ўздрыгнуў, а потым, блізка схіліўшыся над Васілём, прашаптаў:

— Не магу больш! Уцякаю дадому.

— Дэзерціpнічаеш? А калі зловяць?

— Ну, што ж — смерць? Дык і тут нічога не дачакаешся лепшага.

Чырвонаармеец ступіў разы тры і быў ужо на дварэ. Васіль прыслухоўваўся, пакуль чуў рып снегу пад нагамі ўцекача; яму хацелася перш клікнуць узводнага, але потым ён раздумаў гэта рабіць.

«Хто ведае, можа, ён і добра зрабіў»,— падумаў Васіль.

Доўга Васіль варочаўся з боку на бок, але заснуць не мог.

Узводны ўжо змяніў два разы пасты і сакрэты, а ў Васіля нейкая няясная думка, меўшая звязак з далёкім домам, не выходзіла з галавы. Ах, гэты чырвонаармеец! Узяў і пайшоў сабе... Прыйдзе дадому... Хто прыйдзе: ён ці я? Васіль заснуў.

— Уставай!

Ад неспадзяванага моцнага крыку ўсе разам усхапіліся на ногі. Узводны ўжо быў пры поўнай зброі і прабаваў, ці добра ходзіць рэвальверны барабан. Ён смеючыся глядзеў на ўскочыўшых чырвонаармейцаў, у якіх былі шырока расчыненыя вочы, нібы ад сполаху, а потым заспакоіў іх, сказаўшы, што гэта ён пабудзіў іх. Далей узводны паведаміў таварышаў, што іх полк пераходзіць сягоння ў наступ на пазіцыі белых у Дуброўкі, і прыказаў хутчэй збірацца, бо той батальён, які стаяў у старажоўцы і ў заставах, будзе пушчаны на белых першым. Пачуўшы гэта, чырвонаармейцы кінуліся ставіць на касцёр свае манеркі з снегам, каб згатаваць гарбату. Іншыя, нібы пра сябе, мармыталі, што іх батальён заўсёды пхаюць усюды першым; другія два стаялі ўсё ж у рэзерве, а цяпер іх і ў наступ пускаюць ззаду. Можа, аб гэтым загаманілі б і мацней, але ўзводны, пачуўшы, у чым справа, прыпыніў далейшую размову аб гэтым: ёсць прыказ і няма чаго дарма малоць языком; апроч таго, іх батальён, які ўжо ведае ўсю пазіцыю супраціўніка, можа лепш за другія справіцца з белымі. Пасля гэтага ўжо чырвонаармейцы не гаварылі на тэму, якому батальёну ісці першым. Яны грэлі ваду, і ў каго быў хлеб, той стаў піць гарбату. У большасці не было чаго есці, і яны кідалі завісныя погляды на тых, хто жаваў скарыначку хлеба.

Хутка пачуўся знадворку рып снегу пад нагамі натоўпу людзей: то ўвесь батальён падыходзіў да той мяжы, якую займалі заставы. Узвод Васіля пакінуў шалаш. На дварэ было цямней і хмурней, чымся ноччу, у тыя часы, як Васіль стаяў у сакрэце. Па шэрым небе відаць было, што недалёка да раніцы. Дайшоўшы да заставы, батальён прыпыніўся, і ад яго адарваліся некалькі чалавек, якія пайшлі ўперад і

хутка прапалі ў цемры ночы і лесу. Узвод з заставы стаў у сваю роту.

Разышоўшыся крокаў на дзвесце адна ад другое, роты крануліся ўперад, па два чалавекі ў рад. Ішлі памалу, каб не рабіць трэску і шоласу па лесе. Мароз к раніцы стаў яшчэ больш люты, і ад аднаго прытыкання к вінтоўцы голаю рукою адчуваўся боль ва ўсім целе. Чырвонаармейцы часта загрузалі ў балоце, як нага пападала сярод куп'я. Вось і тое месца, дзе стаяў Васіль у сакрэце; перад першымі чырвонаармейцамі паказалася вольная ад лесу лагчына.

— Ціха, стой на месцы! — шэптам прыказаў ротны.

Рота замерла. Потым заднія сталі прымаць улева, выходзячы ў ланцуг на заварат лесу. Ротны паказаў напрамак узводным.

— Без прыказу не страляць! — перадалося па ўсім ланцугу.

Васіля штосьці кальнула ў сэрца; стала раптам горача па ўсім целе, і вінтоўка ў яго руцэ залязгала штыхом аб манерку, успоўзшую неяк з спіны на плячо. Васіль паспрабаваў усміхнуцца, каб не відаць было страху на яго твары, але ён сам чуў, як замест смеху рот яго скрывіўся. Боязна глянуў ён направа і налева на сваіх таварышаў. Ці то ад ранішняга змроку, ці ад таго пачуцця, якое было ў яго самога, Васіль прыкмеціў нейкі шэра-зялёны колер на іх тварах, быццам гэта былі не тыя людзі, якіх бачыш заўсёды.

— Грэнадзёры, уперад! Рота, за мною, шагам марш!

Быццам хто рвануў за ногі і павалок іх уперад. Не паспеў Васіль падумаць, як азірнуўшыся па баках і перад сабою, ён пабачыў доўгі шнурок управа і ўлева ад сябе, які хутка сунуўся па чыстым месцы. Стала шмат відней, і ўперад крокаў за трыста шэраю стужкаю на белым полі вырэзвалася драцяная загарода белых, а далей па ўзгорку чарнелі хаты вёскі, над якімі віўся белы дым з комінаў.

Сялянскія хаты, якія на момант кінуліся ў вочы Васілю, выклікалі разам цэлы рой успамінаў, думак аб сваёй хаце

і сям'і; страшэнна, прагна захацелася быць дома, бачыць сваіх і не думаць ні аб вайне, ні аб блізкай бойцы. Васіль ішоў побач з другімі, вінтоўка ў яго была напагатове, але ён ужо не бачыў ні дроту, ні бліндажоў на пазіцыі белых: ён быў дома, у сваёй хаце.

— Дзын! дзын! — пранеслася над галавою.

Васіль устрапянуўся і зірнуў уперад. Ротны ішоў цвёрдымі крокамі і не спускаў вачэй з аднаго пункту. Павярнуўшыся да роты, ён крыкнуў зычна — «бегчы!». Голас яго рэхам аддаўся, здавалася, па ўсім полі і лесе. Рота пакацілася яшчэ хутчэй, саступаючы к месту, дзе быў ротны. Раптам заляскала, затакала, зазвінела, і з усіх бакоў снег пачаў падскокваць уверх. Васіль чуў, як усярэдзіне яго быццам нешта адарвалася і ў нагах стала страшэнная слабасць. Ён заплюшчыў вочы.

— Ты што прыпыніўся? — падскочыў да яго ўзводны.

— Не ведаю... страшна,— ледзьве адмовіў Васіль.

Рота ўжо была крокаў на дваццаць уперадзе.

— Даганяй! — крыкнуў яму ўзводны.

Васіль, як бы сарваўшыся з месца, што ёсць духу пабег уперад.

— Р-гак, р-гак!

Высачэзны чорны слуп, а побач з ім другі выраслі з зямлі: у паветры завыла, заскавытала, заскрыгатала. Васіль чуў толькі, як перасохла ў яго ў роце і ў нос разанула смуродам паленага шкурату. Ён ускочыў у шырокую разварочаную яму, вылез з яе і, прабегшы яшчэ крокаў пяць, зачапіўся за нешта і паваліўся на зямлю. Рукі яго ткнуліся ў нешта цёплае і слізкае. Павярнуўшыся назад, Васіль стрэўся з тварам узводнага: вочы ў таго выскачылі з ілба, язык быў вывернуты з рота, а зверху галавы не было цемя; кругом па снезе валяліся свежыя кавалкі мазгоў і мяса. Васіль, як шалёны, ускочыў і пабег далей, валочачы вінтоўку за рэмень. Кругом свістала і выла; гарматныя бомбы рвалі зямлю і людзей, шрапнель усюды гула, як чмялі. Свежыя чырвоныя

плямы пападаліся ўсё часцей, а побач з імі чарнеліся то спакойныя, то дрыгаўшыя целы чырвонаармейцаў.

Васіль наляцеў на дрот і супыніўся. Тут толькі ён прыкмеціў, што частка чырвонаармейцаў ляжала і без канца трашчала затворамі, а другая частка стрыгла дрот. То там то сям чырвонаармеец раптам пакідаў страляць ці звісаў на дрот, які ён рэзаў. Васіль стаяў ва ўвесь рост і з шырока расчыненымі вачамі глядзеў на тых, хто момант таму назад страляў, потым заставаўся нерухомым і чырваніў вакол сябе снег.

— Кра-ак!

Бліжэйшыя к Васілю два чырвонаармейцы падскочылі ўверх, вінтоўкі вываліліся ў іх з рук, і яны вяла хлопнуліся на зямлю. Васіль рвануўся ўбок, але яго нешта стукнула ў галаў: ён пачуў зноў смурод паленага шкурату і нешта салёнае ў роце. Потым у вачах пайшлі жоўтыя, чырвоныя і зялёныя кругі, ногі падагнуліся, і ён зваліўся.

— Ура! — загрымела вакол.

Васіль устрапянуўся, расплюшчыў вочы. Ад лесу, адкуль выходзіў і Васілёў батальён, каціўся свежы ланцуг чырвонаармейцаў — другі батальён. Кругом стукатала, раўло і свістала, як і ўперад. Побач з Васілём ляжаў ротны, у якога з віска, з маленькай дзірачкі цякла кроў; правая рука яго ўціснулася пальцамі ў горла белага. Дроту ўжо на доўгі кавалак не было, і тут бліскалі штыкі і віліся ў паветры прыклады. Невялічкі кавалак зямлі быў густа паліты крывёю і засланы забітымі, над якімі віліся ў смяротнай бойцы жывыя. Але... зноў трэскаецца зямля, і чорны слуп абдымае гэты клубок ірвучых адзін другога людзей. Крык, енк... Дым разыходзіцца, і вачам прадстаўляецца крывавая куча скалечаных і пабітых людзей. Вось паўзе адзін, пакідаючы за сабой чырвоную стужку. Ён падлазіць бліжэй к Васілю, і апошні бачыць, як за ім нешта цягнецца і падскоквае, зачапляючыся за зямлю. Яшчэ бліжэй, і Васіль бачыць адарваную нагу, якая трымаецца толькі на кусочку нагавіц. Крывавы туман засцілае вочы Васілю, ён ускоквае і, як не-

прытомны, бяжыць назад к лесу. Ланцуг, які ідзе насустрач, крыху затрымлівае яго, але ён, нічога не бачачы перад сабой, імчыцца ўсё далей і далей...

Васіль прыпыніўся, як чуць не насунуўся на той шалаш, з якога выйшаў на рассвеце. Ён увайшоў у шалаш і на дагарэўшым вуголлі яму кінулася ў вочы пакінутая кім-та манерка з вадою. Васіль кінуўся на яе і чуць не залпам выпіў усю ваду. У галаве яго стаяўляскат, стукат, енк, а перад вачыма ўсё здавалася крывавым. Але патроху думкі яго супакоіліся. Толькі цяпер пачуў ён рану на галаве і, правёўшы рукою па твары, угледзеў на далоні кроў. Ах, колькі гэтай крыві было сягоння! Але чаму ж тут нікога няма, апроч яго, Васіля?

Здалёк чуцён быў яшчэ ясней стукат гармат і трэск вінтовак. Падчас кулі залятаі і сюды, путаючыся і гудучы між сучча.

«Ага, там яшчэ б'юцца, а я ўцёк»,— падумаў Васіль, і яму адразу стала і брыдка і крыўдна на сябе. Людзі калечацца, уміраюць, але не ўцякаюць, а ён спалохаўся, пабег, як пужлівы заяц. Васіль ірвануўся з шалаша, пайшоў зноў у напрамку, дзе ішла бойка.

«А дзе ж мая вінтоўка? — схамянуўся ён.— Ну, нічога: знайду сабе іншую, іх шмат цяпер на полі валяецца».

Васіль падыходзіў ужо к краю лесу. Недалёка ад яго, у гушчарніку, значны кавалак зямлі быў трохі не ўвесь засланы чырвонаармейцамі, з якіх адны былі ўжо з павязкамі, другія, чырвонячы снег, то зыходзіліся, то спаўзаліся да фельчароў і чакалі дапамогі. Васіль зноў адчуў смак і пах крыві, і яму стала моташна. Разам з гэтым у яго явілася думка, як ён пакажацца на вочы сваім таварышам. А можа, і не ісці туды. Можа... можа, так зрабіць, як той чырвонаармеец ноччу? «Што ж, я ўжо кінуў сваіх таварышаў»,— думаў Васіль.

— Таварыш, вы ранены? — запытаўся ў яго праходзіўшы з абвязанаю галавою чырвонаармеец.

— Я? Не... Але, ранены! — няпэўным голасам адказаў Васіль.

Чырвонаармеец уважліва паглядзеў на Васіля і пайшоў далей. Гэты пагляд нібы ўкалоў у сэрца Васіля. Ён пастаяў на месцы, апусціўшы вочы ў зямлю, а потым, не падымаючы галавы, павярнуўся і пайшоў прэч ад гэтага месца бойкі... Ён ішоў, і яму здавалася, што з-за кожнага дрэва, з-за кожнага куста за ім сочаць пранізваючыя, насмешныя погляды пакінутых ім таварышаў...

## II

Маленькая газоўка над сталом сваім агеньчыкам ледзьве асвечвала пярэдні куток хаты; на запеччы было настолькі цёмна, што не лёгка было разабраць, што там знаходзілася. Кацярына ўвайшла ў хату, стомленымі крокамі падышла да стала і села на ўслон. Рукі яе ўпалі на калені, сама яна ўтупілася ў адзін няведамы пункт і нібы застыла, гледзячы ні то ў нязмерную далечыню, ні то ў сярэдзіну самое сябе. Ні бразгат лучыны, якую зварушыў на печы пры яе ўваходзе Юзік, ні скочыўшы з пола кот, які, мармычучы, пачаў церціся аб яе ногі, не маглі вывесці яе з гэтага аслупянення. Юзік злез з печы, ціха падышоў к мацеры і здзіўлена паглядзеў на яе.

— Мама! Што ты так глядзіш? — запытаўся ён, тузануўшы яе за руку.

Кацярына, нібы ачнуўшыся ад сну, зірнула на сына, і жвавы погляд звярнуўся да яе.

— Нічога, сынку, я замарылася з гэтымі дрывамі. Пайдзі, голубе, распражы каня і пастаў яго ў хлеў. Я проста замарылася ў лесе, ды яшчэ дарога такая дрэнная: на грэблях ужо няма снегу — ледзьве дацягнуў каняка дадому.

Юзік выйшаў за дзверы. Кацярына распранулася, скінула мокрыя лапці і села на лаву каля стала. На вачах яе паказаліся слёзы, яна хацела стрымаць іх, але не магла. Заня-

тая сваімі думкамі, яна і не прыкмеціла, як адчыніліся дзверы і ўвайшла яе суседка.

— Добры вечар, Кацярына! Што гэта ты плачаш? — яшчэ ад парога запыталася яна.

Кацярына змахнула рагом хусткі слёзы і ўстала з лавы.

— Добры вечар,— адказала яна,— садзіся, пагамані трохі, а то нудна неяк на сэрцы адной.

— Што ж гэта з табою?

— Я і сама не ведаю, так нейкая нуда грызе.

— Ну, вядома, кабета ты яшчэ маладая, а жывеш адна — яно і нудна.

— А не — не гэта: проста жыць цяжка стала.

— Ох, і не гавары, родная, цяжка — так цяжка, што, здаецца, пад зямлю пайшоў бы. Як прыйшлі гэтыя легіянеры, дык усё жыццё атруцілі. Гэта ж трэба сказаць: у Анупрэя сягоння апошнюю кароўку забралі, у старога чалавека з малымі ўнукамі — сыноў жа, ты ведаеш, забілі яшчэ ў нямецкую вайну. Ну што ён будзе рабіць? Або ў Піліпёнкавых: прыйшлі, гэта, і давай абіраць клуню,— ну, Піліпёнчыха ўчапілася за дзверы — не пушчу! — дык шаблямі абтрапалі яе, як кудзелю. Ну, якое ж гэта жыццё!

— Эх, цётачка! Яшчэ добра вось вам ды іншым, у каго хоць сям'я ёсць, а я тут адна з сваім хлопчыкам: ні радні, ні сваіх — нікога.

— Ну, а як твой? — знізіўшы голас, запыталася суседка.

— Хто мой? Васіль?

— Але, а то ж хто яшчэ?

— Што ж аб Васілю пытацца? З год таму назад пісаў хоць гады ў рады, а цяпер ужо і спадзявацца кінула, як гэты легіянерскі фронт усчоўпся. Загінуў Васіль у гэтай бальшавіцкай арміі. Ды мне яго і не шкода ўжо.

— Ды што ты кажаш, як гэта не шкода свайго мужа?

— Перагарэла ўсё на сэрцы, адзін попел застаўся.

— Не кідай надзеі, родная. Мне здаецца, што нядоўга нашым панам панаваць тут прыйдзецца. Прыйдуць бальша-

вікі і дадуць фэферу такога, што не захочацца больш лезці ў чужое.

— Не прыйдуць яны, дый не трэба; не трэба мне і Васіля.

— Да ты ачумела, як я бачу! Няўжо ж табе па душы, што нас усіх рабуюць няшчадна, што ты сама за гаспадара стала? Што гэта ты, ай-яй!

— Ну і чакайце іх, а мне яны не патрэбны!

— Бывай здарова, Кацярына. Ты, відаць, з розуму кранулася.

Суседка выйшла. Кацярына яшчэ горш стала плакаць, аж кусала сабе губы. Пачуўшы стук сенешніх дзвярэй, яна лягла на пол, тварам к сцяне, каб Юзік не бачыў яе слёз.

— Мама, ты ўжо спаць будзеш? — запытаўся ўвайшоўшы Юзік.

— Але, сыночак, хачу супачыць трохі,— адказала маці.

Юзік залез на печ і, сагрэўшыся, хутка заснуў. Кацярына ж ніяк не магла супакоіцца. Нейкі цяжар гнёў ёй сэрца, быццам чакала яе бяда, і яна адчувала яе. Каб не быць самой з сабою, яна парашыла заняцца якою-небудзь работаю. Устаўшы з пола, яна дастала з паліцы старыя зблытаныя ніты і стала распускаць іх, намотваючы на клубок распушчаныя ніткі. Работа марудная і патрабуючая пільнасці. Пакрысе на сэрцы пачало супакойвацца, і Кацярына нават стала ціхенька напяваць нейкі спеў без слоў. Але не прайшло і гадзіны, як яна пачала работу, пачулася знадворку шарканне па сенешніх дзвярах, быццам хто шукаў клямку. І ўзапраўды — дзверы адчыніліся, а потым пачалося шарканне ў хатніх дзвярэй. Кацярыне стала не па сабе, хоць дзверы ніколі не замыкаліся да таго часу, пакуль яна не лажылася спаць, а таксама не было нічога незвычайнага ў тым, што ўвечары хто-небудзь заходзіў. Напаследак дзверы ў хату адчыніліся, і ўвайшоўшы запыніўся каля парога, прыглядаючыся ў змроку к таму, што было ў хаце. Кацярына, павярнуўшы галаў к дзвярам, з нейкім страхам углядалася ў незнаёмага ў абарванай адзежы і ботах чалавека з дзікаю, запэцканаю граззю барадою.

— Чаго вам трэба? — запыталася яна.

— Мне... мне нічога не трэба: я дадому прыйшоў.

Кацярына выпусціла з рук клубок, які пакаціўся па хаце. Незнаёмы падышоў бліжэй к святлу:

— Няўжо ж ты мяне на пазнала?

— Васіль? Адкуль жа ты ўзяўся?

— Адкуль? Як адкуль? Прыйшоў адтуль, дзе быў.

Кацярына нібы абмярцвела і не магла шалахнуцца з месца. Яна шырока раскрытымі вачыма глядзела на змучаны твар, шукаючы таго Васіля, якім яна яго ведала, расстаючыся ў апошні раз. Перад ёю стаяў ні то мярцвяк, ні то выцягнуты з-пад зямлі чалавек, прасядзеўшы там некалькі год. З аднаго боку, ёй страшна было гэтага чалавека, а з другога — падымалася жаласць к яму і той пакуце, якую ён перацярпеў.

— Ну, што ж ты не скажаш мне ні слова? Або не рада, што я прыйшоў.

— Васіль, я не ведаю, што казаць: ты так незвычайна і нечакана прыйшоў.

— Не ведаю, ці чакала ты мяне, ці хацела бачыць. Я ж прайшоў шмат сотак вёрст пешкі, хаваючыся ад людзей, не маючы іншы дзень ні макавае расінкі ў роце — і ўсё толькі для таго, каб пабыць дома, пабачыць цябе і хлопчыка. А ты... ты мяне не чакала. Што ж, я завярнуся і пайду, калі мне няма дома месца.

У Кацярыны скаланулася ў грудзях. Яна ўскочыла з услона і абхапіла Васіля. Потым разам апусціла рукі і адвярнула голаў. Васіль глядзеў на яе недаўменна. Адзін момант — і Кацярына пачала пасабляць яму здымаць яго лахманы.

— А дзе ж Юзік?

— Юзік, злазь з печы, бацька прыйшоў!

Сын хутка саскочыў з печы, але тут жа прыпыніўся, углядаючыся ў сцяглую, худую постаць бацькі.

— І ты мяне не пазнаеш?

— Не, я пазнаў! — і Юзік кінуўся да бацькі, весела трасучы кудзеляю сваіх валасоў.

Кацярына адышла к печы і стала збіраць вячэру. Васіль, не чакаючы, пакуль паставяць міску на стол, адгарнуў з хлеба абрус і прагна накінуўся на кавалак адрэзанага хлеба. Пасля вячэры на Васіля напала такая ўтома, што ён зваліўся як сноп.

— Ты ў бальшавіках, мусіць, забыўся і богу маліцца? — упікнула яго жонка.

— Дзе там бог, калі ногі не трымаюць,— прагаварыў Васіль і заснуў як забіты.

Прайшло дні два ці тры. Васіль нікуды не выходзіў і больш усё ляжаў на печы. Некалькі разоў яму хацелася пагаварыць з жонкаю, але яна маўчала і старалася адхіліць усякія размовы, якія выходзілі за мяжу звычайнай гутаркі. Усю работу па гаспадарцы яна вяла сама. Адзін раз ёй прыйшлося падняць штосьці цяжкае. Змарыўшыся, яна ўвайшла ў хату і пра сябе, але чутно сказала, што ёй нават пасабіць некаму. Васілю стала брыдка, і, каб апраўдацца перад жонкаю, ён сказаў:

— Ты ведаеш, як я прыйшоў сюды? Мяне не адпусцілі са службы, я не на пабыўку прыйшоў, а ўцёк сам з Чырвонай Арміі. Нельга было больш трываць, і я кінуў, пайшоў дадому. Каля двух месяцаў я сланяўся па лясных дарогах, заходзячы толькі к ночы ў вёскі папрасіць хлеба. Спаткаешся, бывала, з чалавекам і баішся яго горш, як ваўка — а вось ды затрымае. Так дайшоў я ад Ямбурга сюды. Праходзячы праз польскі фронт, чуць не папаў к легіянерам, толькі лес пасобіў. Вось мне і паказвацца пакуль што нельга: даведаюцца палякі, што я з Чырвонай Арміі ды яшчэ што прайшоў іх фронт — не паглядзяць.

— Ах, вот як! Ты, значыцца — як гэта завуць? — дэзерцір?

— Ну, але, дэзерцір! — раззлавана адказаў Васіль.— Пажыла б ты так ды пабачыла тое, што мне давялося бачыць, то ты іначай казала б.

— Ды я ж нічога не кажу.

Васіль змоўк і адвярнуўся да акна. Кацярына таксама доўга маўчала, але па яе твары відаць было, што яна над чымсь упарта думае. Потым яна як бы пра сябе сказала:

— Кепская ж надзея тады ў нашых сялян! Калі так уцякаюць з Чырвонай Арміі, як ты ўцёк, то не перамагчы ёй сваіх ворагаў. Што ў нас тут чаўпецца, як тут даводзіцца жыць людзям! І хто ж ім паможа, хто вызваліць?

— Ну, а калі нельга трываць, нельга вытрываць тое, што робіцца на вайне? — адмоўна запытаўся Васіль.

— Па-твойму, нельга патрываць часова, а як жа людзі будуць трываць увесь свой век прыгон, калі застануцца пад панамі?

Васіль не меў чаго адказаць. На яго найшла чорная думка аб тым, што ён зрабіў. Калі ён уцякаў з фронту, то жыццё дома малявалася яму ў нейкіх пекных ружовых колерах. Цяпер жа ён бачыў, што абмыліўся ў сваіх спадзяваннях, што і тут жыццё праймае сваёю жорсткасцю, што і тут ідзе барацьба, толькі прычыненая, заглушаная. Ужо яму па дарозе дадому стала ведама, як населі на шыю селяніна паны з тых часоў, як польскія легіёны захапілі Беларусь. Толькі да гэтага часу ён ніяк не мог аб'яднаць легіянераў з Юдзенічам. Цяпер жа ён пачаў утлумачваць сабе, што за Юдзенічам і легіянерамі ідзе панства. Але ж Васілю не хацелася прызнацца перад жонкаю, што ён зрабіў нядобра, уцёкшы з фронту.

— Мне здаецца, што я казаў праўду, як толькі прыйшоў дамоў: ты не рада мне,— сказаў ён жонцы.

— Ах, рада я — не рада, ці не ўсё роўна,— з мукаю ў голасе сказала яна.

— Не, не ўсё роўна для мяне! Калі ў мяне няма сям'і, то мне тут няма чаго рабіць,— адказаў Васіль.

Увечары ў той дзень Васіль, не выходзячы тры дні з хаты, надзеў кажух і гатоў быў выйсці на двор. Кацярына длубалася за нейкаю дробнаю работаю і была так задумана, што не зварочвала ўвагі на тое, што рабілася вакол. Толькі

што Васіль хацеў узяцца за клямку, як дзверы адчыніліся і перад ім, як з-пад зямлі, вырас польскі жаўнер. Васіль адступіў крокі два-тры назад і ўтупіўся ў жаўнера. Апошні таксама запыніўся каля парога і аглядаў Васіля. І без таго чырвоны твар жаўнера зрабіўся цёмна-чырвоным, як бурак.

— Хто-то такі ёсць? — пераважыўшы вочы з Васіля на Кацярыну, жорстка запытаўся ён.

Кацярына падняла вочы ад работы, зразу пачырванела, а потым пабялела як смерць. Відаць было, што ёй дыхаць цяжка.

— А ці пану не ўсё роўна, хто гэта,— перавёўшы дух, адказала Кацярына.

— Мусібыць, не ўсё роўна, я маю права пытацца аб гэтым,— насупіўшыся, прамовіў жаўнер.

У Васіля першы спалох прайшоў. Ён глядзеў то на Кацярыну, то на жаўнера. Яго зацікавіла тая змена, якая рабілася на твары жонкі. Бачачы, што яна перапалохалася, Васіль парашыў дапамагчы ёй.

— Якое ж гэта права і адкуль яно — прыйсці ў хату к кабеце і праз нішто прычапіцца да яе. Ці ж цяпер ужо нават нельга быць аднаму ў другога?

Жаўнер вылупіў вочы на Васіля, абвёў яго позіркам з ног да галавы і прабурчаў:

— Гэта права маё ўласнае! Я — тут гаспадар!

— Дазвольце: як — вы гаспадар? Мне здаецца, што вы толькі польскі жаўнер і гаспадаром гэтага дому вы лічыцца не можаце,— здзіўлена гаварыў Васіль.

— Ты, мусібыць, здалёку, а не з гэтай вёскі, калі не ведаеш, што я гаспадар у гэтай хаце.

Васіль аслупянеў і не ведаў, што адказаць. Ён глянуў на Кацярыну: тая траслася, як у трасцы. Раптам яна ўскочыла на ногі, падышла блізка к Васілю і сарваным голасам прамовіла:

— Васіль, я — яго жонка.

Рукі ў яе апусціліся, у твары не было ні крывінкі. Васіль стаяў так, як бы яго агрэлі абухом па галаве: нейкі

момант ён не мог крануць ні адною часткаю цела. Жаўнер зразу дагадаўся, хто быў той, што стаяў тут з ім: пытацца больш не трэба было.

— Ого! Дык гэта бальшавік з'явіўся! Ну, ты нядоўга тут у нас пакруцішся,— злосна сказаў ён.

— Але, шкода, што я не бальшавік і не з бальшавікамі цяпер,— упічна адказаў Васіль.

Кацярына ад пачатай гутаркі прыйшла крыху ў сябе. Яна зноў падышла да Васіля, схапіла яго руку і са слязьмі ў голасе загаварыла:

— Не вінаваць мяне, Васіль, і не лічы нягоднаю. Праўда, я не буду ўжо тваёю, бо я стала жонкаю вось яго. Ты, можа, думаеш, што я ад распуства пайшла ў рукі другому, чужому, ці злюбілася з ім —не! Сілаю, страхам смерці прымусіў ён мяне аддаць яму сваё цела...

— Кацярына, я не дазваляю табе гаварыць! — крыкнуў жаўнер.

— А я дазволу і не прашу,— адказала яму Кацярына.— Усё роўна трэба скончыць тое, што было... Ты ведаеш,— звярнулася яна да Васіля,— засталася я тут адна, без аднае роднай душы, сама спраўлялася з гаспадаркаю, сама арала, касіла. У мінулую восень наехалі вось яны (яна паказала на жаўнера), легіянеры, забралі ўсё дачыста: прыйшлося ісці на заработкі. Але ўсё трывалася. Я думала, што калі-небудзь павінна скончыцца вайна, прагоняць гэтых паноў, ты вернешся дадому, і ўсё гора забудзецца... Але... але стала іначай, як я думала. Вось патрэбна я стала пану Францішку...

У Васіля па руках прайшлася сударга і пальцы самі сышліся ў кулак.

— Пачаў ён цягацца сюды штовечар,— гаварыла далей Кацярына.— Але як ні прыставаў, усё было напрасна... Вось раз ноччу, гадзін каля дзвюх, увальваюцца ў хату два легіянеры з аружжам: забралі мяне і павялі ў Докшыцы. Прыводзяць да каменданта, ці што. Ён пытаецца ў мяне: «Твой муж служыць у бальшавіках?» — «Не, кажу, мой муж прапаў без ведама яшчэ ў нямецкую вайну».— «Брэшаш,— кры-

чыць камендант.— Прызнайся, а то кепска будзе».— «Не, кажу, няма ў чым больш прызнавацца». Камендант пазваніў і вялеў мяне куды-та адвесці. Тыя самыя легіянеры павялі мяне ў нейкі свіронак, сарвалі адзежу... і... пачалі паласаваць... шомпаламі ад вінтовак... Потым пусцілі. Давалаклася я дадому толькі на зары, раніцай.

— Ты захацела, мажа, яшчэ спрабаваць шомпалу? — рыкнуў жаўнер на Кацярыну, падступіўшы к ёй.— Каму гэта ты жалішся — бальшавіку? Яго заўтра не будзе, і ён табе не паможа.

— Прэч ты, дрэнь паскудная,— адпіхнуў яго Васіль.

— Ну а ўвечары прыйшоў ён (паказвае на Францішка), пасмяяўся над тым, што мяне катавалі, а потым... потым прымусіў мяне зрабіцца яго жонкаю. А далей... далей пайшло ўжо так са дня ў дзень... Толькі для Юзіка я засталася жывою і не налажыла на сябе рук... Я чакала цябе, Васіль, і страціла ўсякую надзею: мне стала ўсё роўна, але я табе больш не жонка.

Васіль, сіні, з сціснутымі губамі, востра паглядзеў на жаўнера, і вочы іх сустрэліся. Здавалася, яны мералі адзін другога.

— Ну, пане, проша вон! — злобна выдавіў з сябе Васіль.

— Ці не ты мяне выганяеш? Я цябе выкіну не толькі за дзверы, але ты зусім не ўбачыш свету,— пагразіў жаўнер.

— Ты думаеш мяне весці да твайго каменданта і там катаваць? Дык не! Хоць ты да не дачакаешся гэтага.

Васіль падскочыў к жаўнеру, і пальцы яго ў момант сціснулі яму горла. Жаўнер пасінеў, але, абхапіўшы Васіля абедзвюма рукамі, ён моцна яго сціснуў і прогся паваліць на зямлю. Васіль быў слабейшым па сіле, і жаўнер падмяў яго пад сябе, але касцяныя пальцы Васіля, як абручамі, урэзаліся яму ў шыю. Жаўнер пачаў задыхацца, і рукі ў яго ўсё слабей сціскалі Васіля, ляжаўшага пад ім на зямлі. Васіль раптам расшчапіў руку, якая душыла жаўнера і, зрабіўшы страшэннае напружанне, выслізнуў з-пад яго наверх. На лаве

побач ляжала сякера, і пакуль жаўнер справіўся ўстаць, яна сваім вастрыём глыбока ўрэзалася яму ў голаў...

Кацярына з жахам глядзела на тое, што рабілася перад ёю. Як толькі сякера бліснула ўверсе, яна, сама як не свая, кінулася к Васілю, але ўжо было позна.

— Што ты зрабіў, Васіль?

Васіль цяжка соп і з нязмернаю злосцю глядзеў на распластанага ворага. Пытанне жонкі вярнула яму разуменне.

— Так сабацы і трэба,— адказаў ён.

— Можа, ён і не так вінават быў, каб яго караць смерцю.

— А табе шкода яго? — бліснуўшы гнеўнымі вачамі, выкрыкнуў Васіль.

— Васіль, Васіль,— толькі змагла прагаварыць Кацярына, і бязмернае гора, смяртэльнае тамленне скавалі яе ўсю.

Васіль, кашкануўшы нагою адкінутую руку забітага, каб яна не загароджвала дарогі, падышоў к ложку і стаў перабувацца. Потым ён знайшоў мяшок, злажыў у яго некалькі дробнае адзежы, кавалак хлеба, жасцяны кубачак і іншую драбязу. Апрануўшы свой стары дзіравы шынель, ён пайшоў да дзвярэй.

— Абарані і схавай Юзіка,— сказаў ён, павярнуўшыся ў бок Кацярыны.

— Куды ты? — ускінула яна на Васіля вочы.

— Спаганяць помсту! — адказаў ён.

— Ну, ідзі. Табе тут няма месца, ідзі!

Хатнія дзверы зачыніліся за Васілём. Кацярыне зразу стала кепска, яна хістанулася. У адзін момант у яе галаве прамільгнула думка, што з ёю цяпер будзе, хто яе падтрымае. Няма нікога: яна застаецца адна перад варожым светам, які цяпер наваліцца на яе ўсім цяжарам здзеку. Ёй страшэнна захацелася ў гэты момант пачуць хоць астатняе слова ласкі і ўцехі. Яна кінулася ў дзверы і здагнала Васіля яшчэ на двары.

— Васіль, пачакай! — запыніла яна мужа. Ёй хацелася прыгарнуцца да яго, выплакаць увесь свой боль, але замест гэтага яна сказала:

— Помні, Васіль, маё апошняе слова: ёсць другія, хто больш вінаваты, чымся Францішак. Помні!

— Я ведаю, хто вінаваты! — Веснічкі рыпнулі, і Кацярына засталася адна.

## III

Падыходзіў ужо канец красавіка 1920 года. Сярод чырвонаармейскіх палкоў, раскіданых па гарадах, мястэчках і вёсках Віцебшчыны і Магілёўшчыны, пачаўся незвычайны рух. З раніцы да вечара ішлі то вучэнне, то манеўры. Палкавыя кавалі цэлымі днямі стукалі каля кузень, падкоўваючы коней і папраўляючы дарожны панарад. Падвозіліся цэлымі абозамі патроны, вінтоўкі. Па ўсім было відаць, што гатуецца наступ.

6 траўня зранку ўжо па ўсіх дарогах, якія вялі на захад, паўзлі цэлыя ключы народу і падвод. Падняўшыся на ўзгорак, можна было бачыць, як у адным напрамку гэтыя ключы аднакава жыва краталіся ўсё ўперад, не абганяючы і не застаючыся ззаду адна ад другое. Чым бліжэй падсоўваліся яны да мяжы, дзе пачынаўся польскі фронт, тым больш яны скарочваліся: ад іх адлучаліся часткі ў бакі, часткі заставаліся па вёсках ззаду.

N полк ужо ў дарозе шэсць дзён. Пад вечар шостага дня перад ім заблішчала здалёк вялікае Лепельскае возера. Запыніўшыся на выхадзе з аднаго невялікага ляска, полк застаўся тут нанач. На другі дзень павінен быў адбыцца першы бой з палякамі ў мэце — адабраць Лепель. Чырвонаармейцы, быўшыя ўжо на многіх франтах і бачыўшыя шмат боек, хутка згатавалі вячэру і тут жа, пад кустамі, паляглі спаць, ведаючы, што заўтра, можа, ім і не ўдасца заснуць ці паесці. Толькі ў тым месцы, дзе знаходзіўся камандзір, доўга гарэў касцёр і каля яго, схіліўшыся над планам і пільна разглядаючы апошні, сядзелі камісар, камандзір і ад'ютант.

— Таварыш камандзір! Мы нейкага чалавека, ішоўшага

з боку палякаў, прывялі,— далажыў чырвонаармеец з заставы.

— Адкуль вы? — запытаўся камандзір, адарваўшыся ад ліста, які ён пісаў.

— З-пад Докшыц; уцёк ад палякаў і хачу служыць у Чырвонай Арміі.

— У польскім войску служылі?

— Не, не служыў, але добра ведаю, дзе што ў іх знаходзіцца.

Камандзір запытальна аглядзеў прыведзенага.

— Ну, добра,— сказаў ён,— вы заставайцеся тут, пры мне, а вы, таварыш, ідзіце на сваю заставу.

Камандзір паклікаў чырвонаармейца з развядальнай каманды і сказаў:

— Вось у вашу каманду новы разведчык. Скажыце начальніку, каб за ім сачылі добра,— дабавіў ён ціха.

Васіль Каляда стаў разведчыкам і надта быў здаволен, што яго паслалі ў гэтую каманду. На другі ж дзень ён стаў надта карысным. Дзякуючы Васілю, які ўперад, чымся перайсці к чырвоным, выведаў усё аб моцы і размеркаванні польскага войска ад Полацка аж да Барысава, палку, у які ён папаў, удалося прайсці непрыкметна для палякаў у тыл іх фронту і гэтым паскорыць іх паражэнне ў першы дзень наступу.

За тры дні палякі ад Лепеля адкаціліся да самае Беразіны. Але тут яны, мусіць, парашылі затрымаць чырвоных. Каля вёскі Б. Чарніцы яны моцна заселі, і бойка цягнулася два дні. На ўзвячорку другога дня бойкі палякі не вытрымалі і пачалі ўцякаць. К гэтаму часу N полк страціў шмат каго з начальства: былі роты ці каманды, дзе не заставалася цэлым ніводнага начальніка. Якраз гэтае самае было з камандаю разведчыкаў — там не засталося ні начальніка, ні ўзводных. А тым часам, як палякі пачалі ўцякаць, камандзе было даручана першай іх здаганяць. Каманда замарудзілася, не ведаючы, каго ж слухаць. Час быў такі, што марудзіць

было нельга, бо палякі маглі зноў вярнуцца ў свае акопы... Васіль выскачыў уперад і крыкнуў:

— Каманда, за мною!

І каманда з бліскучымі японскімі штыхамі перад сабою ўбежкі пусцілася на вялікую ватагу палякаў, ужо змешаных і не меўшых строю. Палякі кінуліся ўцякаць у блізкі за імі лес, а чырвонаармейцы наганялі іх і насаджвалі на штыкі. Але чымся далей, гурткі чырвонаармейцаў, якія гналіся за ворагамі, усё аддаляліся адзін ад другога. Васіль з пяццю таварышамі, якія былі побач з ім, таксама заляцеў далёка ўперад і не меў звязку з усёю камандаю. Перад яго вачамі мільгалі пагоны тоўстага палкоўніка, якога ён не спускаў з вачэй. Палкоўнік прогся крыкам прыпыніць сваіх жаўнераў, але гэта яму не ўдавалася.

— Здавайся! — крыкнуў ім Васіль.

Жаўнеры пачалі кідаць аружжа і падымалі рукі, з жахам гледзячы на чырвонаармейцаў. Палкоўнік таксама прыпыніўся, і Васіль кінуўся на яго са штыком.

— Здаюся,— прахрыпеў палкоўнік.

— Не, ты мне не патрэбен,— і Васіль глянуў на яго крывавымі вачамі.

Страх смерці зрабіў палкоўніка храбрым. Ён кінуў гнеўны погляд на сваіх жаўнераў і крыкнуў:

— Што ж вы кінулі аружжа! Бачыце: іх пяць, а вас шэсцьдзесят.

Ён выхапіў пісталет, жаўнеры кінуліся падбіраць свае вінтоўкі. Адскочыўшы некалькі крокаў, палкоўнік стаў цэліцца ў Васіля. Але не паспеў ён стрэліць: пісталет яго вылецеў з рукі, а Васіль, выхапіўшы ў яго ж паляўнічы нож з-за рэменя, засадзіў яго ў бок палкоўніка.

— Здавайцеся вы, панскае быдла! — крыкнуў Васіль на жаўнераў.

Жаўнеры як адзін кінулі зноў аружжа і моўчкі пад канвоем чатырох чырвонаармейцаў пайшлі ў тыл палка, дзе ледзьве верылі, што такую грамаду паланёных маглі забраць шэсць разведчыкаў.

З левага боку Беразіны ўжо не было палякаў. Чырвоныя палкі хутка перайшлі рэчку, дзе палякі не паспелі нават знішчыць мост. Затое адразу на другім беразе пачалі пападаць насустрач вёскі, пылаўшыя ў агні. На Васіля гэтыя пажарышчы рабілі асаблівае ўражанне. Ён весела глядзеў на слупы агню і дыму і маляваў сабе адбіткі, як будуць гарэць панскія палацы і маёнткі.

Хутка былі заняты і Докшыцы. Васіль адпрасіўся на адзін дзень зайсці дадому. Але, прыйшоўшы ў сваю вёску, ён не знайшоў ні хаты, ні другіх сваіх будынкаў: толькі голая печ з комінам сведчыла аб тым, што тут некалі была сяліба.

Ён падышоў к суседскай хаце.

— Хвядора, што гэта тут зрабілася?

— Ох, Васілька, што тут чаўплося пасля таго! На другі ж дзень наехалі жаўнеры, схапілі тваю Кацярыну і Юзіка і пачалі дапытвацца, дзе ты: і білі, і рвалі іх, і чаго толькі не зрабілі, як толькі не глуміліся над Кацярынаю! Бачачы, што нічога ад яе не даведаешся, застрэлілі абодвух, хату падпалілі... Ох, якія дрэнныя часы! І калі ўсё гэта скончыцца?

— Скончыцца, не бойся!

Апошняя іскарка, астатні праменьчык у душы Васіля затухлі. У жыцці яго не асталося больш ніякага пачуцця, апроч прагнасці да помсты. Ён хутка дагнаў свой полк, які беспрыпынна ішоў усё далей і далей на захад. Васіль стаў лепшым разведчыкам, і калі трэба было выканаць важнейшыя заданні, то пасылалі яго. Толькі ён меў, з погляду начальства, адну хібу — лішнюю жорсткасць: ці засцігаў ён у маёнтку панка, ці захапляў з паста жаўнера — яны жывымі з яго рук не выходзілі. Таксама ён любіў сунуць запалку ў фальварак, а потым стаяў і цешыўся агнявым слупам. Часта ён сам нават без дазволу і прыказу начальства заходзіў вёрст на дваццаць у тыл ворага, нападаў на вайсковых фурманшчыкаў, выклікаючы гэтым спалох сярод значнай часткі цэлае арміі. За адвагу яго некалькі разоў хацелі павысіць

у пасадзе, даць яму ўзнагароду, але ён адмаўляўся, кажучы, што яму нічога не трэба.

Была раніца ў пачатку жніўня. За паўвярсты ад вёскі Зембраў на Сакалоўскай шашы, па той бок Буга, ламаным ланцужком цягнуцца часовыя адзіночкі-акопчыкі. У кожнай ямцы сядзіць па чырвонаармейцу. Стомленыя двухдзённаю жорсткай бойкаю за гэтую вёску, яны спяць. Толькі даследчыкі ўжо ўсталі і пайшлі на дагляд у лес перад пазіцыяй. Праз некалькі хвілін пасля таго як яны схаваліся ў лесе, адтуль выскачыла назад чалавек пяць чырвонаармейцаў, якія былі ў палявой варце.

— Таварышы! Польская кавалерыя! — закрычалі яны.

Не паспеў заварушыцца наш ланцуг у акопах, як з лесу выскачыў адзін, другі, трэці эскадрон і лаваю памчаліся на акопы. Увесь батальён, які быў у акопах, пачаў збягацца ў адно месца. Але часу было мала: батальён не мог самкнуцца, а коннікі былі ўжо вось-вось на даўжыню пікі. Яшчэ адзін момант, і пачалася б сечка шаблямі раз'яднаных чырвонаармейцаў... Раптам з боку лесу трэснуў залп, і ў першым эскадроне грукнуліся вобземлю людзі, коні... Трэснула другі раз — і новая груда целваліцца на зямлю. У эскадроне паднялася суматоха, на яго наляцеў другі эскадрон. Тым часам батальён паспеў сціснуцца ў кулак і таксама залпам стаў паліваць коннікаў.

Трэці эскадрон, прыкмеціўшы выйшаўшых з лесу чырвоных даследчыкаў, так удала ссадзіўшых першы эскадрон, кінуўся на іх. Даследчыкі хутка схаваліся ў лес, і з-за дрэў сустрэлі ляцеўшых на іх коннікаў наймацнейшым агнём, будучы самі недасягны ім. Васіль жа застаўся на полі: стоячы на калене, ён пускаў адну за другою кулі ў напрамку першага эскадрона. Потым ён ускочыў на ногі і, затаіўшы дух, з бязмернаю радасцю і шчасцем у вачах глядзеў, як звіваліся ў крывавы клубок абодва першыя эскадроны пад залпамі і кулямётамі чырвонаармейцаў.

— Таварыш, уцякай сюды! — крыкнулі яму з лесу.

Ён азірнуўся, якраз на яго ўгалоп ляцела каля дзесяці

коннікаў. Хацеў ён кінуцца к лесу, але было ўжо надта позна...

Праз паўгадзіны ўсё на полі замоўкла. Разведчыкі крануліся ўперад, каб выпаўняць сваё, так нечакана затрыманае заданне. Сярод іх Васіля ўжо не было.

*1923 г.*

# МАЦІ

## I

Два-тры смалякі, што датлявалі на прыпеку, ледзьве разганялі цемру ў хаце. Полымя то замірала, то зноў некалькімі язычкамі ўскоквала; здавалася, што па хаце лятае вялізарны матыль і скрыдлы яго з аднаго боку чорныя, а з другога — белыя. Стол, услон, тапчан і іншае начынне ў хаце было нібы жывое: усё рухалася, рабілася то большым, то меншым, толькі не чутно было ніякага гуку. Адно, знадворку, за акном чуцен быў безупынны посвіст ветру і ляскат чымсьці аб сцяну.

Старая Таццяна сядзела на лаве супраць печы і немігучымі вачамі глядзела на тлеўшыя корчыкі. Як бы ні ўглядацца ў яе збоку, нельга было сказаць, што гэта сядзіць жывы чалавек: ні адна жылка ў яе твары не краталася, вочы былі быццам заслонены цяжкаю завесаю, сухія рукі сціснуты на грудзях. Усё яе аблічча якраз падыходзіла пад цемень хаты і пад тыя бязгучныя скокі, што рабілі па хаце розныя прадметы пад гукі музыкі — ветру. Толькі пры моцных уздымах ветру, калі ляскат знадворку раздаваўся і ў сцену, і ў дзверы сяней, яна ўздрыгвала і галава яе паварочвалася ў бок уваходу. Але адразу яна зноў прымала звычайную позу, толькі на нейкую хвіліну па твары яе праходзіла цень нездаволенасці. Так сядзела яна доўга, не ведаючы ні гадзін, ні хвілін.

Многа начэй правяла яна адна ў сваёй пустой хаце. Даўно ўжо яна скончыла сваё жыццё, здольнасць уцяміць бягу-

чыя з'явішчы. Усе яе думкі, усё пачуццё — у мінулым, і гэтае мінулае яна варочае кожную ноч у сваёй старой галаве. Няма ў яе і ніякіх жаданняў, апроч аднаго, якім яна жыве ўжо пяць-шэсць год. У доўгія ночы яна перабірае ўсіх святых, вядомых ёй, зварочваецца да ўсіх патаемных сіл, просіць у іх да сябе літасці, каб жаданне яе выпаўнілася. Але дарэмны ўсе яе модлы, усе скаргі...

Таццяна са сваім Васілём доўгія часы жылі ў Петрыкаве. Пажаніліся яны, як Васілю ўжо было гадоў каля дваццаці васьмі, і ён быў не толькі добрым цесляю, але нават пачаў пакрысе сам браць падрады на пабудоўлю невялікіх бярлін. Далей — болей, і Васіль Талока зрабіўся найбольш вядомым з петрыкаўскіх майстроў і падрадчыкаў. Зажылі яны зусім добра, мелі ўласны дамок з трыма пакойчыкамі. Старэйшага хлопца свайго Міхася Васіль захацеў зрабіць «вучоным» і паслаў яго ў гарадское вучылішча. Праз год-два Міхась стаў запраўскім панічыкам і, прыязджаючы на лета дадому, ганарыста шпацыраваў у свята каля царквы. Маці не магла нацешыцца сваім Міхасём, і ў яе было толькі і гутаркі з суседкамі што аб старэйшым хлопцу. Меншы сын, Рыгор, зусім быў няўдалым, непрыемны з твару, маўклівы, непаслухмяны, ён яшчэ малым быў прыкрым мацеры. Яго таксама хацеў бацька вучыць у школцы, але тае карысці, што чакаў ён ад вучэння сына, не было. Рыгор вучыўся, але раптам з ім нешта зрабілася, і калі ўвосень яго хацелі паслаць у вучылішча, ён адмовіўся ехаць. Ні ласкі, ні пагрозы не памаглі: Рыгор выстаяў на сваім — застаўся дома. З гэтага часу паміж ім і бацькамі пачалася несупынная барацьба, давёўшая да таго, што як бы Рыгор ні рабіў, усё не падабалася ні бацьку, ні мацеры. Старая Таццяна і цяпер, седзячы адна цэлымі начамі, ніяк не магла пагадзіцца са сваім малодшым сынам.

Калі Рыгору было гадоў шаснаццаць, ён зусім пакінуў бацькоў і пайшоў на работу да аднаго з петрыкаўскіх кавалёў. Міхась жа скончыў вучэнне і чакаў нейкі час, выбіраючы, куды пайсці на службу. Але выбраць яму так і не давя-

лося. Раптам паўсюль пранеслася слова «вайна», і Міхась быў узяты на вайсковую службу. Таццяна як перад сабою бачыць ясную раніцу, калі з Петрыкава пацягнуўся доўгі шнур маладых хлопцаў, па баках якога ішло і галасіла ледзьве не ўсё мястэчка.

Прайшла зіма, пачалося лета, а вайне ўсё не было сціхання. У Петрыкаве завялося ўжо некалькі калек — хто без рукі, хто без нагі. Таццяна з усцішшам думала аб сваім Міхасю, бачачы кожную хвіліну яго ў сваіх думках то забітым, то скалечаным. Але Міхась быў на нейкі час захаваным: яго паслалі вучыцца на афіцэра. Ён знарок доўга не пісаў са школы, а маці рвала на сабе валасы і цэлымі днямі галасіла па ім, як па пакойніку. Затое ж яна страціла розум ад радасці, як ён заехаў дадому з бліпічастымі наплечнікамі. Да радасці, што яе Міхаська жывы і здаровы, яшчэ далучаўся гонар мацеры за сына, які «выйшаў у людзі». Не было ў мястэчку чалавека, якому б яна не пахвалілася сваім сынам. Але ўсё так коратка ў жыцці: Міхась праз тыдзень зноў паехаў туды, дзе траслася зямля і дзе смерць шырока махала сваёю касою. Зноў пачала Таццяна кожны дзень хадзіць да пошты, чакаючы вестак, зноў сэрца яе калацілася, як яна давала Васілю чытаць атрыманы ліст.

— Ах, божа ж мой, божа! Што гэты ліст,— прычытала яна,— можа, у тую хвіліначку, як мы чытаем, яго ўжо злажылі ў сырую зямельку.

Васіль утрымліваў яе, але ненадоўга. Так ішлі дні, тыдні, месяцы, гады...

Ужо пацягнулі ў салдаты і Рыгора. Як яго партыя выходзіла з мястэчка, ніхто ўжо не галасіў. Вайна зрабілася звычайным з'явішчам, і не хапала ў жонак і мацярок слёз. Была і яшчэ адна розніца: здадзеныя ў салдаты ішлі моўчкі, без царскіх партрэтаў; некаторыя гаварылі сваім:

— Нічога, мы хутка дома будзем!

Рыгор перад адпраўкаю заскочыў да сваіх бацькоў і проста развітаўся з імі. Таццяна заплакала і пачала хрысціць на дарогу.

— Не плачце, матка, і не хрысціце мяне, гэта ні мне, ні вам не пасобіць.

— Адшчапенец быў, адшчапенцам і застанецца,— прамовіў бацька.

Вайна ўсё цягнулася. Васіль неяк адразу надта пастарэў і ўжо не мог выходзіць на работу. Работы таксама пачало станавіцца ўсё меней, гандаль скарочваўся, плыты і бярліны ўсё менш сталі паказвацца на Прыпяці. Дзень за дзень Васіль усё больш марнеў, а каля апошняе прачыстае, заснуўшы раз увечары, не ачнуўся.

Таццяна пачала жыць адна. Пацягнулася доўгая зіма. Не было ўжо хлеба, і Таццяна хадзіла па суседзях. Потым пайшлі чуткі, што скінулі цара, што хутка скончыцца вайна. Таццяна спалохалася: як прыйдзецца жыць без цара, але адна думка аб тым, што разам з царом кончыцца вайна, а тады вернецца яе Міхась, ну і Рыгор, сцішала яе несупакойства. Але час ішоў, вайна не супынялася. Рыгор не падаваў аб сабе ніякае весткі, Міхась жа часта пісаў лісты, у якіх ён усё больш ды больш скардзіўся на салдат, на нейкіх «сацыялістаў», якія зусім зневажаюць афіцэраў, нават б'юць іх. Для Таццяны слова «сацыяліст» стала варожым, а людзей, якіх так звалі, яна называла зладзеямі.

Мінула лета, пачалася восень. Вайне не было відаць канца. Таццяна ўжо зусім не мела на што жыць. Добра, што адзін з старых сяброў яе мужа параіў прадаць дом. Знайшоўся нейкі ахвотнік купіць яго, і Таццяна з соткамі двума ў кішэні перабралася ў невялічкую вёску вёрст за пяць за мястэчкам, дзе далі заняць ёй пустую хатку з краю.

Як толькі пачаліся халады, па гасцінцы з Турава на Петрыкаў пацягнулася шмат салдат з таго боку, дзе была вайна. Асабліва ўночы ўсе хаты ў вёсцы дапоўна набіваліся імі. З іх гутаркі Таццяна зразумела, што хутка скончыцца вайна, што ўсе разыходзяцца дадому. Сэрца ў Таццяны задрыжала ад радасці: вось і яе Міхась будзе дома. Яна то ў аднаго, то ў другога пыталася, ці не ведалі, ці не сустракалі афіцэра Міхася Талоку.

— Афіцэра? А ліха іх мацеры, шмат іх было, ды не будзе больш,— адказвалі ёй.

— Як не будзе?

— А так і не будзе! Усіх трэба перадушыць!

Таццяна хрысцілася і чула, як на нейкую хвіліну сэрца яе пакідала стукаць.

— Сацыялісты,— думала яна,— і адкуль гэта іх так многа набралася?

Трывога яе з кожным днём усё пашыралася без канца. Людзі ішлі, ехалі на конях верхам, на вазах, ішлі днём і ноччу; здавалася, што там, за Туравам, ужо нікога не засталося. Таццяна цэлымі гадзінамі прастойвала і глядзела на захад, але таго, каго яна хацела ўгледзець, не было. Усё часцей ды часцей пачала залазіць ёй у галаў думка, што яго забілі — свае ці немцы, усё роўна. Ішоў тыдзень за тыднем, думка аб смерці Міхася зрабілася звычайнаю, надзеі гаслі, а разам з імі замірала пакрысе жаданне жыцця. Маці, быццам ахопленая летаргіяй, усё часцей і падаўжэй нерухома сядзела там, дзе ёй прыйшлося сесці.

Хваля крануўшых з вайны салдат прайшла. Некалькі дзён было так незвычайна ціха, што жудасць брала ад гэтага раптам стаўшага спакою. Але гэты спакой быў нядоўгім: зноў забразгала на шляху, зноў пацягнуліся вайсковыя, але толькі не скопам, а роўненькімі шнуркамі; адзежа і ўвесь выгляд іх быў чымсьці іншым, чужым. Прыйшлі немцы. Таццяна без баязлівасці, без зацікаўлення глядзела на праходзячыя шнуркі чужых людзей. Што яны маглі змяніць у яе жыцці? Усё скончана: няма ні страху, ні цікавасці.

У гэтую ноч у душу Таццяны на нейкую хвіліну заскочыў праменьчык і разагнаў крыху цемру. Нешта каля вялікадня ў поўнач раптам з'явіўся Рыгор. Таццяна помніць, як у яе адразу спала заслона з вачэй, як сэрца зноў пачало пажывому варушыцца ў грудзях, як яна імкнулася хоць і на Рыгоры выказаць усю сваю ласку, увесь імпэт растоптанага даўно пачуцця. Але і тут над ёю пакпіла жыццё.

— Нам трэба рабіць рэвалюцыю,— сказаў Рыгор,— я з табою заставацца не павінен.

Што гэта за рэч такая — рэвалюцыя, дзеля якое можна кінуць адною мацеру, Таццяна не магла ўцяміць. Рыгор чуць свет на другі дзень згінуў, і Таццяна засталася зноў адна. Нечаканае паяўленне Рыгора закінула, з аднаго боку, надзею, што вось, можа, так раптам вернецца Міхась, а з другога — узняло абурэнне на Рыгора за яго жорсткасць, за нядбальства да яе, да мацеры.

Немцы доўга стаялі, потым прыйшлі расійцы-бальшавікі. Рыгор заходзіў да мацеры, але нават не скідаў свае шкуранoe жакеткі і рэменю з пісталетам. Потым была вайна, прыйшлі палякі, яшчэ ваявалі — так без канца... А Міхася ўсё няма... Надзеі то ўздымаліся, то надоўга гаслі... А Рыгор прадаў матку за рэвалюцыю...

Тлелі корчыкі на прыпечку, скакалі па хаце цені. Тлелі надзеі, гаслі; скакалі думкі ад вайны к вайне, і крывавая заслона закрывала вочы...

Сядзела Таццяна адна перад сваім агеньчыкам, мінулае праходзіла перад яе вачамі, сучаснае ж яе не цікавіла, і яна не ведала, што робіцца на свеце.

Знадворку нешта забраскатала мацней, чымся ляскаў дагэтуль вецер. Таццяна ачнулася ад сваіх думак, прыслухалася. Хтосьці хадзіў каля хаты, а далей пачуўся ляскат колаў. Ляскат усё бліжыўся і хутка спыніўся.

— Ну, прыехалі, злазь з воза,— пачуўся мужчынскі голас,— а ты, Хведар, распражы ды пакармі каня.

Зараз у сенцах раздаўся шаркат каля дзвярэй. Яны адчыніліся, і ў хату ўвайшлі мужчына з кабетаю. Таццяна прыглядалася пільна, але не магла разгледзець твару ні мужчыны, ні кабеты. Увайшоўшыя таксама не бачылі Таццяны, якая сядзела ў цемені, куды не дасягалі праменні ад тлеўшых вугольчыкаў.

— Тут так ціха, быццам бандыты прайшлі,— прамовіла ўвайшоўшая кабета.

— Можа, матка кудысь выйшла... Ну раздзявайся,— звярнуўся мужчына да кабеты і пачаў расшпільваць гузікі свайго кароткага кажушка.

— Рыгор, гэта ты?

Таццяна кінулася к сыну, які ад нечаканасці адскочыў убок.

— Пачакай, пачакай, матка! Тут нічога не відаць, запалі ты лямпу!

— Якую лямпу? У мяне і газоўкі нават няма; вось гэтыя смалякі — усё святло ў мяне.

Таццяна нагнулася, узяла пад прыпекам некалькі смаловых корчыкаў і кінула іх на вуголлі. Праз хвіліну полымя ўскочыла і асвяціла пярэднюю частку хаты.

Прыехаўшыя ўжо распрануліся, і Таццяна, павярнуўшыся ад агню, убачыла прыгожую маладзіцу ці дзяўчыну.

— Гэта мая жонка,— паказаў рукою Рыгор,— Алесяю зваць.

Таццяна падышла, павіталася, а далей не ведала, што рабіць. Адразу яна хацела выказаць і да сына, і да нявесткі як найбольш ласкі і радасці, але дзесьці ў горле стаў нейкі клубок, які не даваў гаварыць. Яна так даўно чакала хоць капелькі радасці, так даўно пахавала беспасрэднае пачуццё, што яно цяпер ашаламіла яе, і яна была быццам прыціснутая цяжарам усхлынуўшых раптам даўно страчаных перажыванняў. Дзесьці яшчэ ў глыбіні разумення і пачуцця шавяльнулася і скарга на сына, што ён ажаніўся, сышоўся з гэтаю чужою кабетаю, жыве ўвесь час з ёю, тады як яна, яго маці, валачэ сваё жыццё адною, нікому непатрэбнаю, адною, з ператрываным ёю ўсцішшам. Клубок усё павялічваўся, не даваў дыхаць, і Таццяна, як ні сашчэплівала губы, не стрымалася: старое цела яе затраслося ад цяжкага плачу, і яна, аслабеўшы, апусцілася на зямлю.

Ачнуўшыся, Таццяна ўперад за ўсё ўгледзела твар Алесі, які схіліўся над ёю. Апошняя сваёю рукою ціхенька гладзіла яе галаў, а другою падносіла да яе носа нейкую маленькую бутэлечку. Таццяна прыкмеціла ў твары Алесі та-

кую дабрату, што адразу ёй стала лёгка , і ўся непрыемнасць, якую яна адчувала да яе ўперад, раптам саскочыла.

— Што ж гэта са мною было? — запыталася яна ў Алесі.

— Вы, матачка, надта аслабелі.

Слова «матачка» гэтае прыгожае кабеціны напоўніла сэрца Таццяны такім цяплом, што яна зноў не вытрымала і слёзы паліліся з яе вачэй, але на гэты раз ужо добрыя, шчаслівыя. Хутка абедзве кабеты, старая і маладая, ужо былі зусім блізкімі.

Рыгор тым часам перанёс у хату з воза клумкі і дзве ці тры скрынкі, размеркаваў іх, быццам яны павінны надоўга застацца на месцы.

Таццяна раз-пораз паглядала на Рыгора, у яе на вуснах было запытанне, якое яна баялася выказаць. Кожны раз, як сын уваходзіў у хату з чым-небудзь, яна паварочвалася да яго, гатовая запытацца, але нейкая недаверная сць і да сябе і да ўсяго ў жыцці затрымлівала яе. Як толькі Рыгор скончыў пераносіць сваю маёмасць і застаўся ў хаце, Алеся ж выйшла паклікаць прывёзшага іх Хведара, Таццяна боязна падышла да яго.

— Рыгорка, ты ўжо больш мяне не пакінеш? Не панясеш сваю галоў на гэтую вайну? — запыталася яна.

— Вайна, матка, ужо скончылася!

— Скончылася? Гэта праўда?

— Праўда.

Сэрца Таццяны ўпала. Яна змоўкла, і вочы яе зноў зрабіліся патухлымі, нежывымі. На яе найшоў звычайны стаўбняк.

— Так Міхася няма ў жывых, няма! — шаптала яна.— Няма — не вернецца.

— Што вы, матачка, што? Ён, можа, і жывы,— гаварыла падышоўшая Алеся,— мала што бывае ў гэтыя часы, калі свет так перакруціўся. Вось можа здарыцца так, што ў адзін вечар ён шась у дзверы, як мы сягоння. Кіньце ўбівацца.

Рыгор з-пад ілба паглядзеў на кабет, усміхнуўся пра сябе, але не прамовіў нічога.

Алеся ж супакойвала матку:

— Вайна ўжо скончылася, і больш не будзе. Нашым удалося адалець і паноў, і афіцэраў, і ўсіх іншаземцаў. Цяпер ужо ніхто больш не палезе на нас. Так вось і Міхась дзе-небудзь знойдзецца ды прыйдзе дадому.

Ласкавы голас, жаночая мяккасць Алесі рабілі незвычайны ўплыў на Таццяну. Яна выйшла з стаўбняку, і жыццё зноў заблішчала ў яе вачах. Вячэра не ў адзіноце, а з сынам, хоць і няласкавым, і нявесткаю, гутарка — зусім супакоілі яе, і, можа, першы раз за гады тры-чатыры яна адчувала, што жыве так, як малявалася ёй жыццё.

У гэтую ноч Таццяна не звяла вокам ні на адну хвілінку. Некалькі разоў яна ціхенька, каб не пабудзіць маладых, злазіла з печы, падыходзіла к лаве, на якой спаў Рыгор, нахілялася да яго твару і падоўгу разглядала яго, быццам не верачы, што гэта ён сам, яе сын. Хоць гэты, ды ўсё ж такі жывы і не калека. Думкі яе пераскоквалі і на Міхася, але яна старалася адагнаць іх ад сябе, цешачыся тым, што не ўсе маткі могуць мець тое шчасце, якое дасталося ёй. Наглядзеўшыся на сына, яна залазіла зноў на печ і пачынала маляваць сабе будучыню. Цяпер ужо Рыгор назаўсёды застанецца з ёю; у Алесі будуць дзеці, якіх яна, Таццяна, будзе нянчыць. Усе яны зноў перабяруцца ў мястэчка, нябога Рыгор быў здольным майстрам... Міхася няма, але што ж зробіш? Дый, можа, Міхась не стаў бы жыць з ёю, усё ж такі ён быў з панскім густам, фанабэрыяй. «Не, не! Што гэта я сабе думаю? Мой Міхась не кінуў бы мяне, каб яго не закруціла і не замяла гэтая завіруха». Таццяна пачынала няведама ў які раз варочацца да сваіх звычайных думак, настрою. Але прысутнасць у хаце жывых людзей разганяла яе чорную меланхолію. Яна паглядала ў бок Рыгора, хоць і не бачыла яго ў цемнаце. Раптам аднекуль выскачыла баязлівая думка, пакруцілася ў мазгах і пала на сэрца трывогаю: ці праўда, што скончылася вайна, ці застанецца дома Рыгорка? Трыво-

га ўсё ўзрастала, шырылася і не змяшчалася ў грудзях Тацяны. З болем і незвычайнаю пакутаю яна зноў падышла да сына і дрыжаўшаю рукою правяла па яго твары.

— Не пакідай мяне,— прыдушана прастагнала яна.

— Хто тут? — спрасонку крыкнуў Рыгор і схапіўся за пісталет, што ляжаў побач з ім на стале.

— Гэта я, Рыгорка, не палохайся!

— Чаму ты не спіш, матка?

— Не спіцца, сыночак, усякія думкі лезуць у галаў... Рыгорка, скажы мне праўду, ты не пакінеш мяне болей?

— А, добра, што ты нацяміла мяне.

Рыгор палапаў каля сябе рукою і, знайшоўшы сярнічкі, запаліў агонь, каб паглядзець на свой гадзіннік.

— Пара ўжо,— і ён хутка ўскочыў з пасцелі.

— Куды пара, Рыгор?

— Куды? Канчаць рэвалюцыю!

Зноў гэтае незразумелае слова. Аб ім яна ведала толькі, што гэта вайна, стрэлы, смерць.

— Рыгорка, ты ж казаў, што вайна скончылася?

— Вайна-то скончылася, але як пасля хваробы выходзіць гной, так і пасля ўсіх гэтых войнаў застаўся яшчэ чалавечы гной, які імкнецца запаганіць хваробаю ўвесь народ... Алеся, уставай.

Алеся хутка ўстала і пачала разводзіць агонь на прыпечку. Тацяна стаяла як не свая, нічога не разумела, што сказаў ёй сын.

— Рыгорка, дык што ж ты пойдзеш рабіць? — запыталася яна.

— Вось што, матка, ведайце: вайна-то скончылася, але не ўсе ворагі змірыліся з намі. Цяпер яны не ідуць адчынена вайною, але, хаваючыся па лясах, кідаюцца на нас з-за вуглоў і спаганяюць сваю помсту забойствам не толькі рабіўшых рэвалюцыю, але нават зусім не меўшых ніякага ўдзелу ў ёй. Вось гэтых нягодных людзей і іду я лавіць разам са сваімі таварышамі.

— Дак гэта ж зноў, як вайна! Рыгорка, не ідзі, застанься тут!

— Гэтага нельга зрабіць. Вы прытуліце вось Алесю ды нікому не кажыце, што я быў тут. Калі будуць пытацца аб Алесі, то вы яе маёю жонкаю не завіце.

— Чаму?

— А таму, што гэтыя бандыты перш усяго расправляюцца з бальшавікамі і іх раднёю.

— Ты бальшавік?

— Вядома, а кім жа мне быць!

Таццяна яшчэ больш астаўбянела. Яна чула, што бальшавікі яшчэ горшыя за сацыялістаў. Міхась... яго родны брат бальшавік. Таццяна чужымі вачамі пазірала на Рыгора, баялася яго. Скураная жакетка, пісталет на рэмені з боку палохалі яе. Між ёю і сынам зноў устала сцяна, якая некалькі гадзін таму назад троха што не была знішчожана. Зноў само па сабе паўстала ў Таццяны пытанне, якое яна доўга напружвалася парашыць: якія маюцца ў свеце сілы, што могуць быць мацнейшымі, як сувязь з дзіцём? Яна не знаходзіла іншага адказу на гэта пытанне, як нарушэнне ў апошнія часы ўсіх чалавечых адносін — збэсціліся людзі.

— Дак ты пойдзеш, пакінеш мяне, зняважыш мае слёзы, маю доўгую пакуту?

— Пайду, матка.

Рыгор, ужо зусім гатовы, развітаўся з жонкаю і падышоў да мацеры. Яна, як шалёная, кінулася яму на плечы.

— Рыгорка, сынок, не хадзі! — нема загаласіла яна.

Моўчкі зняў Рыгор яе рукі са сваіх плячэй, павярнуўся і выйшаў з хаты. Маці без сілы апусцілася на ўслон, і нежывыя вочы яе глядзелі няведама куды. Алеся падышла да яе, узяла яе руку і сказала:

— Не сярдуйце на яго, матка, ён павінен быў пайсці. Яму было цяжка вас кінуць, усё ж такі ён сын.

— Няма ў мяне ні аднаго сына,— здушана адказала маці.— Першага смерць забрала, а другі... другі...

Яна не даказала і яшчэ ніжэй апусціла голаў.

## II

Далёка на поўнач ад Турава аж да Старобіна і на поўдзень да краю Беларусі цягнуцца агромністыя Тураўскія лясы. Толькі маленькімі плямкамі раскіданы сярод іх, далёка адзін ад другога, прагалы, дзе жыве чалавек. Увесь жа абшар, каб паглядзець на яго зверху, выглядае магутным цёмна-сінім морам, якое крыху святлее там, дзе лес аддае сваё месца травяному балоту. Высокія хвоіны і яліны, абвешаныя, як стары дзед барадою, сівым мохам, сумныя ўдзень, уночы страшныя сваёю чарнатою, уздымаюцца ўгару, пераплятаюцца там сваім галлём, не прапускаючы ўніз ні аднаго праменьчыка сонца. Пад іх нагамі, як дзеці, захаваныя бацькамі, але досыць дасціпныя, лезуць уверх тоненькія, прыгожыя хвоінкі, шабылтаецца маладая асінка, раскідае шырока, быццам ловіць каго, сваё галлё арэшнік, лезе пад самы нос сарамяжае бярэзінкі малады, але драпежны дубок. Уся гэтая моладзь хоча сонца, скардзіцца на старых, што вылезлі ўверх і ўсё забралі, пражэцца захапіць у суседа вольнае месца і так пераблытваецца між сабою, што нельга разабраць, хто з іх дзе сядзіць.

Трудна пралезці скрозь гэты гушчарнік. Толькі маленькія, вузенькія, бягучыя, як змейкі, дарожкі праходзяць па гэтым лесе. Часам трапляецца так, што дарога раптам натыкаецца на балота, куды не толькі чалавеку, але нават і птушцы боязна ступіць, да таго яно дрыгвотнае. У другім разе ад дарожкі адыходзяць у бакі такія ж самыя іншыя дарогі, якія так выкручваюцца між сценамі ялін і дубоў, што можна прахадзіць цэлы дзень і ўвечары апынуцца на тым самым месцы, дзе быў раніцою. Нават сяляне, якія пражываюць сярод гэтых лясоў усё жыццё, не любяць іх і баяцца заходзіць у іх сярэдзіну. У ціхую пагоду, асабліва ўвосень, калі над лесам стаіць цэлыя дні густы, як бавоўна, туман, у гэтым лесе адчуваеш сябе, як у труне: нішто не кратаецца, не чутно ні аднаго гуку, за дзесяць крокаў нічога не відаць. Калі ж уздымецца бура, то лес напаўняецца стог-

нам і енкам: кудлатыя хваіны хістаюцца з боку ў бок, стары каравы дуб рыпіць, нібы скрыжэча зубамі, яліна шыпіць, бярэзіна не вытрымлівае і са звонам і жаласным «ах» валіцца на зямлю, губячы па дарозе ўхаваную ад непагоды моладзь. Сярод гэтага гоману то тут то там раздаецца ні то плач, ні то смяртэльны енк: можа, гэта кволая лясная птушка б'ецца ў кіпцях каршуна, можа, заяц плача, пакідаючы жыццё ў зубах воўка, а можа, і чалавек рэжа чалавека.

Жудасны лес; і многа ў ім такіх частак, дзе яшчэ не ступала чалавечая нага. Затое шмат ён дае прытулку для грознае звярыны: і воўк, і мядзведзь, і каршун, і сава маюць тут сабе бяспечны куток. Шырока прымае лес і чалавека, калі яму не хапае месца ў грамадзе: ці пакраў ён коней, ці забіў каго, альбо калі яму трэба спагнаць помсту ці абрабаваць каго, ідзе ён у гэтыя лясы, якія ахоўваюць яго, як маці сваё дзіця. Пад лапамі карэнняў вывернутага бураю дуба можна знайсці хату, у балоце непрыступную крэпасць...

Стаяла на двары восень. Ужо некалькі дзён ішоў без перапынку дождж, дробны, як імгла. Дні былі шэрыя, туманныя, нельга было разабраць, калі канчаецца дзень і пачынаецца ноч. Ночы ж былі такія цёмныя, што ў двух кроках не відаць было нічога, хоць вока выкалі. У такую ноч сярод лесу, на невялічкім прагальчыку, блішчаў агонь, а каля яго сядзела пяць чалавек. Хто з іх быў у салдацкім шынялі, хто проста ў сялянскім кажуху, адзін жа нават у шэрым афіцэрскім шынялі з блішчастымі наплечнікамі. На галаў сабе яны нацягнулі мяшкі, а ў афіцэра быў насунуты башлык. Вакол валяліся стрэльбы, нажы ў шкураных чэхліках, торбачкі з патронамі, парожні, забруджаны ядою чыгун, кавалкі хлеба.

Агонь ледзьве гарэў. Мокрыя дровы і суччо тлелі, дымілі і нават не давалі сагрэўку працягнутым да іх рукам. Зверху раз-пораз падалі буйныя кроплі, якія збіраліся на галлі.

— Ну і пагода, на яе ліха,— вылаяўся адзін у сялянскім кажуху,— раскіснеш тут седзячы.

— На чорта мы тут сядзім,— адказаў другі.— Выдумалі яшчэ вайсковую тактыку, патрэбны нейкія заставы. Эх вы,

ваякі,— звярнуўся ён у бок афіцэрскага шыняля,— ды ў гэтым лесе вальней, як дома на печы, ніхто не знойдзе.

Афіцэрскі шынель павярнуў голаў, падняў наехаўшы на вочы башлык і кінуў сярдзіты позірк на сваіх сяброў.

— Перш за ўсё — не гаманіць, а другое — толькі дурань аддаецца сам у лапы ворагу,— стрыманым голасам прамовіў ён.— Што ж, па-твойму выходзіць так, што заваліся, дзе цяплей, ды спі?

— А і сапраўды, я б так і зрабіў. Мы Тураўскаю чысткаю нагналі, мусіць, такі спалох на ўсіх гэтых бальшавіцкіх начальнікаў, што яны цяпер не толькі здаганяць нас, але як самім падалей уцячы думаюць.

Невялічкі шустры чалавек у салдацкім шынялі ўскочыў з зямлі, схапіў з галавы мяшок і заскакаў каля агню.

— Эх, і далі ж мы ў Тураве! Я ўсё больш з маладымі жыдовачкамі справу меў... Возьмеш ад яе, што трэба, а потым так вот кінжалам пачнеш падпорваць скуру. Эх! — і ён плюнуў ад асалоды.

Маленькі твар яго з чорнымі вусікамі, гарбатым носам і тоўстымі чырвонымі губамі ўвесь выцягнуўся ад успаміну. Ногі яго не стаялі на месцы, і ён, як шалёны, круціўся вакол агню.

Маўчаўшы дагэтуль зусім яшчэ малады хлопец паглядзеў на скакаўшага гарбаносага і, расстаўляючы словы, сказаў:

— Каўказскія князі ўмелі пажыць, чаму не! Ім толькі і трэба што бабы ды галаварэства, а як да вайны дойдзе, дык яны гэтак... вось так,— і ён паказаў пальцамі нейкую штуку.

Гарбаносы ў адзін момант быў перад хлопцам.

— Я не ўмею ваяваць? Дак я ж табе пакажу!

У яго руках прамігнула бліскучая ручка шаблі, у паветры засвістала. Але ў той жа момант шабля вывалілася ў яго з рук і паляцела далёка ад агню.

— Кіньце вы, сабакі! Толькі грызецеся заўсёды да грабуеце, а што мы ідзём вясці барацьбу з бальшавікамі, вы гэтага не памятаеце,— прарычаў на іх голас афіцэрскага шыняля.

— Па мне, з кім ні змагайся, а перш усяго мая ўласная выгада,— прапішчаў гарбаносы, увесь белы ад злосці,— і не гэтаму блазну вучыць мяне, як ваяваць!

— О, пан паручнік,— раздаўся яшчэ адзін голас, звяртаючыся да афіцэра,— па-вашаму дак выходзіць, што мы ішлі б змагацца з бальшавікамі і ніводным пальцам не закранулі б ні іх дабра, ні гэтых жыдкоў! Ну, тады пашукайце сабе іншых сяброў!

— Ну, гэта ты ідзі скажы самому атаману, а не мне,— адказаў афіцэр.

— Ды атаман наш усё дазваляе,— праказаў усё той самы голас,— толькі вы хочаце быць святым, ідэёвым сярод нас. Шмат ужо мы бачылі гэтых ідэёвых, і што яны варты? Мокрыя анучы, якіх бальшавікі могуць скруціць і выкінуць за дзверы. Вось вы што!

— Як ты пасмеў так абазваць мяне? Я афіцэр і не дазволю так гаварыць са мною,— з запалам крыкнуў афіцэр.

— Афіцэр! афіцэр! Ах, якая міцыя, падумаеш! Да я меў больш залатых, як ты маеш цяпер у кішэні польскіх марак. Што ж ты думаеш, я буду песціцца са ўсёю гэтаю поганню пасля таго, як у мяне адабралі зямлю, спалілі мой маёнтак? Не, тут не толькі бальшавікі, усё гэтае быдла павінна. Помста яму!

Ад агню падняўся рослы чалавек у простай сялянскай адзежы, але па абліччы зусім не сходны з селянінам. Ён падышоў да гарбаносага, узяў яго руку, патрос яе і сказаў:

— Мы, князь, нікога не пашкадуем. Бальшавік, яго жонка, маці, чорт-д'ябал, усё роўна, усіх на асіну!

Афіцэр змоўк і адвярнуўся ад агню. Яго сябры перайшлі да ўспамінаў аб сваіх дзеях па мястэчках і вёсках, дзе ім удалося пагаспадарыць. Толькі і чутно было: застрэліў, зарэзаў, павесіў. Малады хлапец, што шчапіўся было з князем, не прымаў удзелу ў гэтай пахвальбе і сумнымі вачамі глядзеў на скокі полымя. Між усімі астатнімі ён выглядаў чужым, выпадкова сустрэўшымся з імі чалавекам. Бывае часта, што сярод чартапалоху расце кволая кветка званка, якая

разам з ім падлягае ганьбе і тым жа часам сама натыкаецца на яго вострыя шпількі. Так і гэты хлапец быў сярод гэтага гуртка. Толькі аднаго паручніка, як звалі афіцэра, ён паважаў за чалавека, усе ж астатнія былі яму проста прыкрымі.

Чалавек у афіцэрскім шынялі адступіўся ад агню і хутка прапаў у цемры ночы і лесу. Адышоўшы крыху ў лес, ён прыслаліўся да хваіны і аддаўся цалкам сваім думкам. Тыя спрэчкі, якія толькі што адбыліся і ўдзельнікам якіх ён быў сам, так напрыкралі яму, што слухаць іх з часам станавілася ўсё больш і больш немагчыма. Гэтая шайка людзей, сабраная са ўсяго свету і аб'яднаная толькі адною помстаю за асабістыя пагарды ад рэвалюцыі, у сучасны момант не мела іншых імкненняў, апрача разбурання ўсяго, што пападала пад руку і што знаходзілася пад уладаю гэтых ненавісных бальшавікоў. Вёскі падпальваліся і гарэлі, па мястэчках стаяў енк ад катавання і здзеку над ні ў чым не павіннымі людзьмі. Край нішчыўся, людзі кідалі ўсякую карысную працу — чакаючы штоноч напасці ад іх. Ён сам, гэты афіцэр, доўга змагаўся супраць бальшавікоў: быў і ў войску Юдзеніча, быў і з палякамі, але ў яго разуменні была вайна з бальшавікамі, як з арганізаванаю адзінкаю. «У вайны ёсць свае законы,— думаў ён.— Цяпер жа, як вайна скончылася, усе гэтыя людзі, якім ужо траціць больш няма чаго і ў якіх засталася толькі адна помста, замест вайны пусціліся ў самы брудны разбой, падтрыманы на чужыя грошы».

Думкі яго прыпыніліся. Пачуўся хруст сучча — хтось ішоў да яго.

— Пан паручнік, пан Талока! Дзе вы тут? — раздаўся ледзьве чутны голас.

— Хто там?

— Гэта я, пан Талока,— падышоўшы да афіцэра, сказаў малады хлопец,— яны там пачалі брыдка гаварыць, што мне стала моташна з імі.

— Ну, калі табе моташна з намі, то можаш ісці куды хочаш,— востра адказаў афіцэр.

— Не сярдуйце на мяне, пан паручнік! Мне здаецца, вы і самі кажаце не тое, што думаеце.

— А ты што, у мае думкі лазіў? Маўчаў бы больш ды не рыпаўся са сваімі радамі і здагадкамі.

— Ах, як цяжка ўсё гэта! Нават і вы, пан Талока, не хочаце слова добрага сказаць мне, а я лічыў вас лепшым за ўсіх гэтых...

— Каго «гэтых»? — і Міхась Талока пасунуўся грозна да хлапца.

Але ў апошняга быў такі жаласны выгляд, што ён адступіўся ад яго і адразу стаў мяккім з ім.

— Чаго ж ты хочаш ад мяне? — запытаўся Міхась.

— Я і сам не ведаю, чаго я хачу. Вось вы толькі што сказалі, каб я ўцёк ад вас, калі мне не падабаецца ў атамана. Я і ўцёк бы, але куды ж я пайду? Тут мой і дом недалёка каля Скароднага, там жывуць бацькі, уся сям'я. Пайшоў бы дадому, дык як туды пакажашся? Усе вакол ведаюць, што я ўцёк разам з палякамі, шмат хто з тураўскіх мяшчан пазналі мяне, і цяпер ужо ўвесь павет ведае, што я балаховец. Няма месца, няма куды ісці і заставацца з вамі нельга. Ах, што я нарабіў, да чаго дайшоў!

У голасе хлапца пачуліся слёзы. Міхась больш ужо не мог вытрымаць ролю начальніка. Яму стала шкода гэтага хлапчука, невядома як прыстаўшага да іх шайкі. Успамін хлопца аб сям'і, бацьках даў новую эмоцыю і яму самому. Раптам успылі думкі аб тым, што і ў яго тут недалёка жыве маці, брат, аб якіх ужо даўно ён не ўспамінаў, заняты заўсёды клопатамі свайго крывавага жыцця. Далей яго думкі пацяклі зноў да тых спраў, якім ён служыць у гэты час. Зямля, на якой ён стаіць у гэтую хвіліну,— яго родная зямля, але ён на ёй вораг, прыйшоўшы глуміцца над усім жывым. Ці ж ён сам, ці гэты сялянскі хлопчык — ворагі роднаму краю, ці павінны яны ісці разам з гэтымі князькамі, панкамі галасапіць сваіх бацькоў? Ну, пакрыўдзілі яго калісь, бліскучыя наплечнікі сарвалі, лаялі брыдкімі словамі, дык за гэта ісці паліць вёскі, рэзаць і калоць безахоў-

ных людзей? Не, ён таксама, як і гэты хлопец, зрабіў цяжкую абмылку, такую цяжкую, што паправіць трудна. Кінуць атамана і пайсці да бальшавікоў з павіннаю? Хто іх ведае, як яны сустрэнуць: кажуць, што ад іх нельга чакаць літасці.

Міхась апусціў галаў, і доўга думкі яго круціліся разбурана, не супыняючыся на чым-небудзь сталым.

— Што ж вы мне параіце? Зратуйце мяне!

Міхась забыўся, што з ім стаяў хлопец. Ён падняў галаў і з вялікаю нудою сказаў:

— Зратаваць, параіць!.. А хто ж мне параіць, што рабіць?

— Няўжо ж і вам цяжка ў гэтай кампаніі? — зацікаўлена і з нейкай радасцю запытаўся хлапец.

Міхась не адразу адказаў. У мазгах яго нібы жахацеў агонь. Яму стала горача, хоць па хваіне вада зацякала яму за самы каўнер і далей цякла па голым целе халоднаю рагаю.

— Цяжка! — ледзьве чутным голасам адказаў ён.

У гэтым голасе хлапцу пачулася такая безнадзейная туга, што ён аж жахнуўся. Міхась жа гаварыў далей, ледзьве выціскаючы з сябе словы.

— Цяжка!.. Пасля гэтае пакуты, пасля цэлых гадоў усцішша смерці, якая штодзённа стаяла перад вачамі, пасля таго, як уся душа зломана, сцёрта ў пыл і маладосць пахавана пад зямлёю,— пасля ўсяго гэтага апынуцца сярод лесу, як беспрытомны злодзей! Цяжка гэта...

Хлапец падышоў якраз да Міхася, крануў яго рукою. Міхась так быў заняты сваімі думкамі, што не толькі не прыкмеціў ласкі сябра, але нават забыўся аб ім самім. Яму здавалася, што ён адзін сярод невядомага лесу, што кожнае дзерава — гэта рукі смерці, якія цягнуцца да яго, хапаюць яго, накідаюць яму на шыю драцяную вяроўку. Ён крануўся рукою шыі, якая ўся была мокрая.

— Пан Талока, вас там клічуць! — штурхануў яго хлапец.

Міхась прыйшоў у сябе і нарыхтаваўся да сваіх сяброў. Каля агню ўжо ніхто не сядзеў, усе стаялі і горача спрачаліся. Як толькі Міхась падышоў да іх, спрэчкі змоўклі і гарбаносы князь звярнуўся да яго:

— Мы не згодны больш сядзець тут і кіснуць пад дажджом за немаведама што. Пойдзем да атамана патрабаваць, каб ён вёў нас на дзейную справу, а не квасіў бы нас у гэтых гіблых лясах.

— Вы, князь, таксама былі афіцэрам і ведаеце вайсковую дысцыпліну. Кінуць заставу ды яшчэ ісці з патрабаваннямі да начальніка не дазваляе ні адзін вайсковы статут,— адказаў Міхась.

— Вайсковы статут, дысцыпліна,— насмешна ўставіў былы пан.— Навошта яны патрэбны? Мы добраахвотная кампанія, і калі справа робіцца не так, як мы жадалі б, то на ліха нам атаман, паручнікі!

Пры апошніх словах пана Міхась аж пакрывіўся ад злосці, але нічога не адказаў. Патрабаванне яго сяброў не лагодзіла яму з двух бакоў. Перш усяго, не хацелася пераходзіць да актыўнасці, якая мела мэтаю далейшы разгром краю, а, па-другое — у ім яшчэ глыбока сядзела вайсковая муштра і дысцыпліна, якая не дазваляла яму парушыць прыказ і пакінуць месца, дзе стаяла застава і дзе ён сам быў старшым.

Але стрымаць гэтую банду ў Міхася не было ніякіх сродкаў. Ён абвёў усіх сваіх сяброў вачмі і праказаў:

— Ну, добра! Пойдзем да атамана, але толькі вы скажаце ўжо самі аб сваіх жаданнях.

— О, мы не палезем у кішэню за словам і не прымусім пана паручніка парушаць яго дысцыпліну. Мы шляхетныя людзі,— адказаў пан.

Агонь застаўся ззаду. Уся шайка адразу ад агню апынулася ў такой цемры, што хоць вочы выкалі. Міхась ішоў ззаду і часта натыкаўся носам на спіну папярэдняга. Пан і князь, нягледзячы на іх ваяўнічы пыл, былі, аднак, дрэннымі ваякамі. Яны ішлі наперадзе і раз-пораз прыпыняліся,

губляючы дарогу і трацячы напрамак. Нарэшце яны зусім сталі, не ведаючы куды ісці. Спыніліся і заднія.

— Пан Талока, пан паручнік! — пачаў клікаць князь.— Вядзіце нас, вы ж — начальнік.

— Вы не маеце і не хочаце начальніка, дык і не трэба. Ваякі! — не ўстрымаўся хлапец.

— А ты памаўчаў бы, блазан! — агрызнуўся на хлапца пан.

Міхась, не кажучы ні слова, павярнуўся ўбок. Усе пацягнуліся за ім, і пасля гадзіны маруднае хадзьбы па балоце, пераскоквання цераз карчы і пні, яны выйшлі на прагал, дзе зіялі сваімі асвечанымі вокнамі тры-чатыры хаты хутаран. Увесь прагал быў застаўлены вазамі, коньмі, так што ледзьве можна было пралезці, не ведаючы размеркавання гэтага табара.

Сябры Міхася Талокі праціснуліся ў сярэднюю хату, якая была большаю за астатнія, і вокны якой аж зіхацелі ад святла. Сам Міхась астаўся з хлапцом каля аднаго з вазоў: ён не хацеў паказвацца на вочы атаману. Хлапец, апынуўшыся сярод грамады людзей і адчуваючы тую сілу, якая ахоплівае чалавека ў грамадзе, засаромеўся сам перад сабою тых думак, якія ён выказаў паручніку там, у лесе. Ён боязна пазглядзеў на Міхася, асцерагаючыся, каб апошні не паведаміў аб той гутарцы атаману. Улучыўшы хвіліну, калі вакол іх воза нікога не было, хлапец прыхіліўся да Міхася і на вуха сказаў яму:

— Пан паручнік, зрабіце ласку, не кажыце нікому аб маёй з вамі размове ў лесе.

— Не палохайся! Ніхто аб гэтым ведаць не будзе. А цяпер скажы, тыя думкі цябе пакінулі? — запытаўся Міхась.

— Я не ведаю,— з замяшаннем адазваўся хлапец.

— А і сапраўды ты яшчэ блазан, Кастусь! У цябе, як і ў кожнага хлапца, вецер у галаве гуляе: то ты адно казаў, то ўжо гатоў, здаецца, казаць іншае.

— Выбачайце мяне, калі я не так адказаў вам! Я заўсёды баюся гэтага табара, мяне гняце страхота перад атаманам,

і мне жудасна ад думкі аб тым, што ён можа даведацца аб маім настроі.

— Скажы, ты пасмеў бы ўцячы адгэтуль? — запытаўся Міхась, востра гледзячы ў вочы Кастусю.

Кастусь доўга са страхам і з падазронасцю азіраўся па баках, а потым ледзьве чутно адказаў:

— Калі б разам з вамі, то я гатоў.

З ганка хтосьці моцным голасам клікаў:

— Паручнік, пан Талока! Ідзіце да атамана, дзе вы там згінулі?

— Ну, глядзі ж, ні слова нікому і чакай мяне тут,— шэптам сказаў Міхась хлапцу.— Я іду,— голасна кінуў ён у бок ганка.

Міхась увайшоў у сені і доўга шукаў клямку хатніх дзвярэй. Нельга сказаць, што ён баяўся атамана, але заўсёды нейкае пачуццё стрымлівала яго ў рашучасці, як толькі ён з ім сустракаўся. Ці то была несфармаваная варожасць двух розных па сваёй прошласці людзей, ці то адваротнасць Міхася да тых цяжкіх і брудных спраў разбою, натхніцелем якіх быў атаман. Міхась не даваў адказу ў гэтым пытанні, але і цяпер рука яго бязвольна шукала больш як трэба дзвярную клямку.

Каля стала ў покуці пад абразамі сядзела чалавек шэсць ці сем, сярод каторых знаходзіліся падчынёныя Міхася — пан і князь. Усе азірнуліся на дзверы, як толькі Міхась пераступіў парог у хату. Міхась аддаў чэсць па-вайсковаму і запыніўся сярод хаты, быццам чакаючы прыказу ад атамана. Апошні ў палкоўнічых наплечніках, з рукамі ў разнастайных дарагіх жуковінах, з шэрымі халоднымі вачамі, займаў самы покут. Яго твар са сціснутымі губамі, тонкім, крыху гарбатым носам і вытырклым уперад аголеным падбародкам выглядаў злым, як у каршуна. Ён утупіўся на ўвайшоўшага Міхася і мераў яго з галавы да ног.

— Дзе ж ваша застава, пан паручнік,— запытаўся ён, сцешыўшыся разглядваннем Талокі.

— Яна перад вамі, атаман! — паказаў рукою на пана і князя паручнік.

— Я бачу, прашу не паказваць!

Міхась прыкмеціў, як пан з князем перамігнуліся і па іх твары прайшла здавольная ўхмылка.

— Вы не маеце дысцыпліны, ды і не дзіва,— казаў далей атаман,— бо вы самі спагадаеце яе парушэнню, маючы думкі нясходныя з намі наконт нашых дзей.

— Выбачайце, пан атаман, скуль вы ведаеце мае думкі?

— А вось ім вы што казалі? Здагадайцеся!

Міхась зірнуў на князя. Той насмешна-агідна глядзеў на яго і нібы цешыўся яго смуткам. У Міхася нешта вострае прайшло ў сэрцы і, мусіць, адбілася ў вачах, бо князь неяк раптам адвярнуўся, страціўшы ўвесь свой кураж.

— Чакаю вашага прыказу, атаман,— прыдушаным голасам праказаў Талока,— хачу ведаць, навошта вы клікалі мяне. Здзекавацца ж і кпіць нада мною... я... не дазваляю.

Палкоўнік аж чуць падскочыў на лаве, дзе ён сядзеў, але стрымаўся. Прайшла хвіліна ўмоўчкі.

— Вы садзіцеся, чаго вы стаіцё,— пачуўся лісліва-мяккі голас нібы зусім другога чалавека.— Я паклікаў вас для таго, каб парадзіцца з вамі, як нам лепш расправіцца з Петрыкавам. Вы, здаецца, добра ведаеце тутэйшыя мясціны, і ад вас шмат залежыць поспех нашага нападу на гэтае мястэчка.

Міхася кальнула ў грудзях пры гэтых словах. У адзін момант мільганула многа ў галаве: маці, бацька, знаёмыя, дзіцячыя яго гады і тая доля, якая чакала мястэчка. Міхась застаўся стаяць на месцы і на нейкую хвіліну не бачыў ні атамана, ні ўсіх з яго шайкі.

— Ну, дык як?

Міхась вярнуўся да рэчаіснасці.

— Так, так, месца там мне надта знаёма,— адказаў ён, як скрозь сон,— але што ж я павінен рабіць уперад усяго?

— Трэба даведацца, ці ёсць там цяпер так званае чырвонае войска, а таксама раскідаць нашы адозвы да народа.

— Ну, добра! Толькі дайце мне на дапамогу Кастуся Карытку.

— Бярыце каго хочаце, толькі не больш трох-чатырох чалавек.

— Не, нас хопіць і дваіх,— адказаў Міхась,— невялікая гэта рэч.

Міхась развітаўся з усімі і вайсковым крокам выйшаў за дзверы.

## III

Для Таццяны і Алесі пачаліся дні, поўныя трывогі і смутку. Прайшло ўжо больш за дзесяць дзён, а аб Рыгору не было ніякае чуткі, нібы ён у ваду кануў. Алеся спачатку рабіла так, каб не паказаць мацеры, што яна заклапочана і неспакойна за лёс Рыгора, але вытрымаць гэтае прытворства доўга яна не магла — яна была звычайнаю кабетаю. Усё часцей ды часцей на яе твары пачала адбівацца небяспека, задумлёнасць, а пасля і трывога. Апынуўшыся ў глухім кутку, вымушаная сядзець у хаце, каб ухіліцца ад лішняе гутаркі аб ёй у вёсцы, яна тамілася бяздзейнасцю і больш аддавалася сваім думкам, пачуццю.

Таццяна ж, сустрэўшыся з жывым чалавекам, якім была Алеся, і пад уплывам тае пагрозы, якая вісела над яе малодшым сынам, атрымала новы імпэт у жыцці. Яе нядаўняе ацапяненне прайшло, і яна кожны дзень, кожную гадзіну жыла ўсё новым пачуццём — то радасным, поўным надзеі, то трывожным, змешаным са страхам і ўсцішшам. На другі дзень, як толькі Рыгор пакінуў вёску, Таццяна зноў была недалёка ад слупняку, але прысутнасць Алесі зратавала яе ад гэтага, і чым далей, як толькі павялічваўся смутак у Алесі, маці ўсё больш адчувала ў сабе сілы, і ўжо яна суцяшала і ажыўляла Алесю. Аднаго толькі яна не магла ўцяміць: з кім цяпер і завошта ідзе вайна. Усе кажуць на вёсцы, што вайна ўжо даўно скончылася, а Рыгор вось зноў пайшоў ваяваць і немаведама з кім. Гэтае пытанне яна ў

першыя часы адсутнасці Рыгора прабавала парашыць сама, але хто гэтыя бандыты, чаго яны хочуць, за што ■ імі ваююць бальшавікі, яна ўсё ж такі не разумела. І чым больш гэта было для яе незразумелым, тым болей яна скардзілася ў сэрцы на сына, які кінуў яе і жонку ды пайшоў упрочкі.

— Алесечка,— запыталася яна яксьці ў нявесткі,— ці не ведаеш ты, што гэта за бандыты, з якімі пайшоў ваяваць Рыгор?

— Няўжо ж вы, матка, не ведаеце гэтага? Ды гэта ж, мусіць, кожнае дзіця на вёсцы ведае.

— Дзе ж мне ведаць? Ужо колькі часу я не чула жывога слова: у мястэчку я не бываю, а нашы сяляне і самі нічога не ведаюць.

— Бандыты — гэта проста разбойнікі, якіх распладзілася цяпер надта шмат. Як толькі скончылася вайна і стала відаць, што панам нельга адалець бальшавікоў вайною, дык яны, матачка, пайшлі на тое, што скопам, хаваючыся па лясах, раптам наскокваюць на вёскі, сёлы, мястэчкі, і нават буйныя, рабуюць іх, забіваюць людзей, асабліва бальшавікоў і тых, хто ў іх служыць. Вось гэтыя разбойнікі і ёсць бандыты.

— З намі божая моц! Для чаго ж гэта робіцца?

— О, яны ведаюць для чаго! Каб спагнаць сваю помсту за патрачанае багацце, маёнткі, адабраныя ў іх працоўным народам, каб зноў вярнуць сабе панства і ўладу, якую яны страцілі і якіх не здамагліся праз вайну.

У Таццяны адразу ўсё праяснела. Цяпер яна зразумела, што яе Рыгор пайшоў змагацца за справы працоўнага народа, яна таксама зразумела, хто такія бальшавікі, і замест колішняга ўсцішша перад імі яна стала шкадаваць іх.

Алеся ж гаварыла далей:

— Вось і Рыгор быў дагэтуль прадсядацелем у воласці, клапаціўся, не меў спакою ні днём, ні ноччу, усё прыладжваў, каб нарыхтаваць належна жыццё ў воласці, а тут — на табе! Наляцелі раз ноччу, ледзьве жывымі выскачылі.

Алеся змоўкла, аддаўшыся сваім думкам і боязні за Ры-

гора. Сама яна таксама не магла лічыць сябе захаванаю. Бандыты цяпер снуюць па ўсім павеце, маюць сувязь з шляхтунамі, якія добра ведаюць і могуць даведацца, дзе хто жыве. Жыць у старой Таццяны так, каб ніхто ў вёсцы не ведаў аб гэтым, было немагчыма. Адно, што магло дапамагчы,— гэта пусціць чутку, што яна — якая-небудзь з сваякоў Таццяны.

— Матачка, ведаеце, аб чым я хачу вас прасіць,— звярнулася яна да Таццяны,— не кажыце нікому, што я Рыгорава жонка.

Таццяна здзіўлена паглядзела на Алесю.

— Чаму ж ты аб гэтым просіш? Ці сорамна табе быць яго жонкаю, ці другое што? Калі так, то...— Таццяна не дагаварыла і адвярнулася ад Алесі, крыўдзячыся на яе за сына.

— Не, мне не сорамна, хоць людзі яшчэ і лічаць шлюб без царквы ганьбоўным. Не тое, матачка, не гневайцеся на мяне. Я прашу таму, што як даведаюцца аба мне, як аб жонцы Рыгора, то пачнуць дапытвацца аб ўсім, і гэта можа шмат пашкодзіць і мне, і вам, і Рыгору.

Таццяна здагадалася, у чым справа, і крыўда яе прайшла. Але ўся гэтая гутарка, усё, аб чым яна даведалася ад Алесі, зрабіла цэлы зварот у яе душы. Таццяна не супакоілася за Рыгора, але яшчэ больш трывога ахапіла яе сэрца. Разам з тым да гэтага смутку далучылася вялікая нянавісць да гэтых «бандытаў». Чаго ім трэба? Адабраць зямлю ў сялян, як кажа Алеся. Дык калі яны не адалелі бальшавікоў у вайне, то разбоем ужо дамагчыся ім няма чаго. Навошта ж гэтая кроў, забойствы? Таццяна адразу перакідала свае думкі да Рыгора, і жудасныя малюнкі мільгалі перад яе вачамі. Але яна не давала сябе пад іх уладу. Яна помніла, што тут, у хаце,— Алеся, якая патрабуе падтрымання, уцехі. Таццяна бралася за якую-небудзь работу: длубалася над панчохаю ці малола ў жорнах жыта.

— Алеся, дапамажы мне падняць мяшок.

Алеся на нейкі час адыходзіла ад свайго заклапочання, трывогі, нуды. Маці бачыла гэта і прагласяя выдумаць ёй

яшчэ якую-небудзь работу. Але трывога ненадоўга пакідала Алесю. На другі дзень яна не вытрымала і з раніцы папрасіла Таццяну наведацца ў мястэчка, каб там у прадсядацеля рэўкома даведацца хоць якіх-небудзь чутак аб Рыгору.

Таццяна і сама мела на думцы схадзіць на мястэчка, але куды і да каго звярнуцца там, яна не ведала. Цяпер жа, даведаўшыся ад нявесткі, да каго яна павінна зайсці, Таццяна хутка апранулася і выйшла з хаты.

Даўно ўжо яна не была ў мястэчку, хоць вёска, дзе яна жыла, была і недалёка ад яго. Таццяна не адразу знайшла свой колішні дом, бо вакол яго былі прагалы ад спаленых суседніх дамоў. Зайшоўшы ў дом, яна прыпынілася ў сенцах, не ведаючы, ці туды яна трапіла, бо насустрач ёй выйшла кабета, якой яна не ведала і не бачыла ў Петрыкаве.

— Каго вам трэба? — запыталася апошняя ў Таццяны.

— Скажыце, калі ласка, тут жывуць Кацубы?

— Тут, тут — праходзьце вось у тую бакоўку.

Кацубы, купіўшыя ў Таццяны дом, карысталіся цяпер в яго толькі адным пакойчыкам, бо займаць і трымаць увесь не было магчымасці.

Таццяна праціснулася скрозь кучы ўсялякае рухлядзі, наваленае ў першым пакоі, да Кацубаў. Старая Кацубіха, яе даўняя прыяцелька, сустрэла яе, як пакойніка з таго свету.

— Таццянка ж мая, родная, скуль жа гэта бог прынёс цябе? Дзе ты была ўвесь гэты час?

— І не пытайся лепш, гібею, як гарох пры дарозе, ды ніяк не дачакаюся смерці: адно толькі і засталося, што чакаць смерці, ды не ідзе яна.

Кабеты селі. Таццяна, маўчаўшая цэлымі тыднямі, месяцамі, пры сустрэчы з даўняю знаёмаю, атрымала хто ведае адкуль найшоўшы пэнт гаварлівасці. Можа, адбіткі колішняга зварушыліся ў старой галаве пра тое, як яна ўбачыла мястэчка, сваю хату і так даўно знаёмую суседку. Можа, гэтыя адбіткі так завалодалі душою Таццяны, што на нейкі час адхіліліся ад яе тыя пачуцці, якімі яна жыла ў апошнія часы, і далі ёй магчымасць як бы з другога свету паглядзець

на сябе і сваё сучаснае жыццё. Можа, гэта было і проста праяўленнем звычайнае чалавечае натуры, якая толіцца ад аднолькавых перажыванняў і ва ўсялякіх абставінах жыцця імкнецца да новага ды незвычайнага.

Таццяна доўгі час знаходзілася пад уплывам малюнкаў прошласці, якая кідалася ёй у вочы са ўсіх куткоў пакойчыка. Але, але... у гэтым самым пакойчыку гадаваўся яе Міхась, тут былі яго кніжкі, вунь там ён вешаў сваю вопратку... Сэрца Таццяны затрапяталася, як птушка ў сіле.

— Няма майго Міхася,— ледзьве выдушыла яна з сябе словы, і буйныя, як арабіна, слёзы пацяклі па яе зямлістых шчоках.

Даўно ўжо не плакала Таццяна,— і ці то ад незвычайнасці, ці ад таго, што так доўга не бачыла людзей, яна засаромелася сваіх слёз і адвярнулася ў куток, хаваючы твар ад прыяцелькі. Праз хвіліну яна звалодала з сабою і нясмела звярнулася да быўшае суседкі:

— Выбачай мяне, Хвядора, што я тут чуць не разраўлася: у кожнага ёсць сваё гора, і пазіраць яшчэ на чужыя слёзы — не надта прыемна.

— Што ты, Таццяначка! Мы так усяго нагледзеліся за гэтую вайну, так нацярпеліся, што дзе ж і наплачашся, калі не ў сваіх людзей.

— Ах, Хвядора, я даўно ўжо выплакала ўсе свае слёзы; сэрца ўжо так перабалела, што не чуеш, ёсць яно ці не ў грудзях. Толькі вось у гэтую хвіліну, як я ўспомніла Міхася яшчэ хлапчуком, калі ён увечары вунь там, за сталом, сядзеў над сваімі кніжкамі ў беленькай сарочачцы з блішчастаю пражкаю на рэмені, я не ведаю, адкуль узяліся гэтыя слёзы.

— Ці ж ты даведалася што-кольвечы аб Міхасю?

— Не, ніякіх вестак, ніякіх чутак, вось ужо тры гады, як скончыўся нямецкі фронт.

— Дык чаго ж ты ўбіваешся? Можа, ён жывы і здаровы і не сёння-заўтра будзе дома. Нямала цяпер людзей ба-

дзяецца па свеце пасля такога штурху. Кінь ты ўжо марнець!

Старая Кацубіха пачала, як на пальцах, пералічваць усіх, хто з хлопцаў вярнуўся ў апошнія часы дадому тады, як іх лічылі ўжо згібшымі: той, замест дому, папаў туды, пад Сібір, іншы блукаўся па вайне дзесьці на поўначы. Вось, можа, і Міхась яшчэ дагэтуль дзе-небудзь ваюе, бо вайна, хоць і скончылася, але не зусім.

Таццяна слухала гутарку суседкі, і новыя надзеі залазілі ёй у сэрца і галаў. Яна ўспаміназа, колькі разоў ужо ў яе самое адраджаліся таксама надзеі на зварот Міхася, колькі разоў яна сама ашуквала сябе, колькі разоў ёй прыходзілася перажываць усю атруту гэтых надзей за невыкананнем іх. Цяпер яна праглася не паддацца так хутка соладкасці, можа, новага самаашуканства, але мімавольна радасць абдымала яе, абуджала яе фантазію. Яна прагна чакала ўсё новых, усё іншых падмацаванняў сваім надзеям, так раптам уваскрослым у словах суседкі. Ёй здавалася, што кожнае слова Хвядоры з'яўляецца падпоркаю пад сталяванне таго вялізарнага будынка, будынка светлага шчасця, якім малявалася ёй яе жыццё пасля таго, як вернецца яе Міхась. Таццяна так поўна аддалася ў сваіх думках адбудове гэтага шчасця, так дала волю сваёй фантазіі, якая так доўга сутрымлівалася, што нават забылася аб тым, зачым яна прыйшла ў мястэчка.

— Ну, дык вось не смутнуйся, Таццяна,— гаварыла Хвядора,— Міхась твой вернецца, пераедзеш ты зноў у мястэчка, і ўсё добра будзе. А дзе ж твой другі сын, як яго... Рыгор, ці што?

Таццяна адразу апынулася на другім канцы тых драбінак, якія яна абсталявала, каб узысці на верх тае будоўлі, што ўзняла высока яе фантазія. Яна ўспомніла, што ёй трэба ў мястэчку, і, не адказаўшы нават на запытанне Хвядоры, яна сама звярнулася да яе:

— Скажы мне, Хвядора, хто тут начальства? Мне нявестка наказвала зайсці да нейкага прадсядацеля, а якога прадсядацеля — я запамятала.

— Можа, прадсядацель рэўкома?

— Ага, вось так, так.

Таццяна руплiва ўстала, збiраючыся iсцi. Хвядора здзiўлена пазiрала на яе, а потым запыталася:

— Што ж гэта ў цябе за справы такiя да гэтага рэўкома i адкуль ў цябе ўзялася нявестка?

— Нявестка ў мяне вядома хто — Рыгорава жонка, а да прадсядацеля мне трэба, каб даведацца што-кольвечы аб самiм Рыгору.

Таццяна паведамiла сваёй прыяцельцы ўсё, што сама ведала аб Рыгору, не мiнуўшы сказаць, што ён камунiст i быў прадсядацелем у воласцi. Апошняе яна падкрэслiла асаблiва выразна, нiбы хацела адзначыць гэтым, што нават той сын яе, якога яна лiчыла нiкчэмным, ды i то займае такую выразную пасаду. Але прыяцелька Таццяны нi крыху не адчула павагi да Рыгора. Наадварот, яна нейк крыва паглядзела на сваю госцю, уся прыветнасць саскочыла з яе твару, вочы апусцiлiся долу.

— Вось як,— доўга памаўчаўшы, сказала Хвядора,— сын Васiля Талокi ў нехрысцi пайшоў! I ты, Таццяна, не адцуралася ад гэтага сына, а нават ходзiш распытвацца аб iм, клапоцiшся аб яго жонцы?

— А чаму ж мне не паклапацiцца? Я цябе не разумею, Хвядора.

— Не разумееш — i не трэба! Выбачай, але больш мы сустракацца не будзем.

Далей чакаць было нечага. Таццяна павярнулася да дзвярэй.

— Адцурайся ад свайго Рыгора,— на дарогу параiла ёй Хвядора.

— Гэта справа не твая,— адказала Таццяна i выйшла з пакойчыка, нават не азiрнуўшыся на былую прыяцельку.

Выйшаўшы з дому, яна доўга не магла ўцямiць, як гэта прыйшло ў галаў Хвядоры даваць такiя парады i чаму Хвядора так ненавiдзiць бальшавiкоў. Адцурацца ад сына... Па-

глядзець бы, як сама Хвядора адцуралася б на яе месцы, дый што за дзела мацеры да таго, як накіроўвае сябе сын! Абы ён быў жывы, каб толькі гэтая завіруха не змалола яго, як у млыне. Таццяне было нядобра, што так выйшла з Хвядораю, з якою яна магла знайсці некалькі шчаслівых хвілін, але пасля такога выпадку шкадаваць больш няма чаго знаёмства з ёю.

Таццяна даведалася, што рэўком займае памяшканне бышае воласці, і пайшла туды. Пры ўваходзе яе доўга распытваў, што ёй трэба, нейкі хлапец, увесь абвешаны аружжам. Прадсядацель з блядым тварам і чырвонымі ад бяссонніцы вачамі выслухаў яе і сказаў:

— Ваш сын жывы і здаровы, да гэтых часоў з ім нічога дрэннага не было. Дзе ж ён — сказаць вам няможна.

— Ды я ж яго матка, чаму ж мне нельга ведаць усяго аб сваім сыне?

— Я вам ужо сказаў, што ён здароў — чаго ж вам больш трэба?

— Я б хацела ўбачыцца з ім.

— Можа, вы і ўбачыцеся хутчэй, як чакаеце, а ці будзеце вы ведаць, ці не, дзе ён — гэта ж усё роўна.

Сказаў і павярнуўся да кагосьці іншага. Таццяна пастаяла, пастаяла — рабіць нечага, трэба здаволіцца тым, аб чым даведалася. Яна зірнула на гэтага чалавека, у твары якога, здаецца, не было ніводнае крывінкі, ніякае жаласці. У Таццяны прамільгнула думка, што гэты чалавек здолен пасласць другога і сам пайсці на верную смерць, не задумаўшыся доўга над тым, куды ён ідзе. Яна яшчэ не траціла надзеі, што ён зжаліцца над ёю і скажа што-кольвечы ясней аб Рыгору. Але прадсядацель быў настолькі заняты гутаркаю са сваім сябрам, што, здаецца, зусім забыўся аб тым, што яна стаіць побач з ім.

— Дык вы нічога больш не скажаце мне? Нічога не перадасцё яго жонцы?

— Ах, з вамі жыве жонка таварыша Талокі? Ну, дык скажыце ёй, што Рыгор хутка наведаецца да яе.

Таццяне стала немагчымым далей выцягваць словы з гэтага чалавека. Апроч таго, ёй стала крыўдна, што Рыгор «наведаецца» да жонкі, як сказаў прадсядацель. А яна, маці, застаецца заўсёды ўбаку. Няхай бы ён, хоць абмыліўшыся, сказаў, што Рыгор наведаецца да мацеры!

З цяжкаю думкаю выйшла Таццяна з рэўкома. Усё ж такі Рыгор — яе сын, дык як жа можна так абыходзіцца з ёю, нібы з чужым чалавекам? Яна гатова была б пайсці шукаць Рыгора хоць на край свету, а тут ёй кажуць, што не можна сказаць, дзе яе сын. Таццяна хадзіла па вуліцах мястэчка, дрэнна бачыла, што рабілася перад яе вачамі, і адна думка не пакідала яе, хоць яна і праглася адагнаць яе, як назойлівую муху.

«Калі прадсядацель не сказаў, дзе Рыгор, то... можа, і яго ўжо няма ў жывых»,— падскоквала раз-пораз к ёй вострая, як нож, думка.

Пачынала ўжо цямнець. Мястэчка нібы пакрысе вымірала. На вуліцах сустракаліся толькі людзі з вінтоўкамі за плячмі. Адзін з іх, спаткаўшыся з Таццянаю, прапанаваў ёй ісці дадому, бо ўночы хадзіць па двары забараняецца. Таццяна апомнілася, дзе яна, і пайшла ў вёску дадому, несучы на сэрцы такі цяжар, што ён душыў яе.

Калі Таццяна падыходзіла да сваёй хаты, то яшчэ здалёку звярнула ўвагу на незвычайны бляск у вокнах. Каля сенешніх дзвярэй знадворку стаялі два чалавекі ў вайсковай вопратцы са стрэльбамі ў руках. Не падпускаючы блізка Таццяны, яны запыталіся, хто яна такая і куды ідзе. Таццяна так была здзіўлена, што доўга не магла адказаць на запытанні. Вайсковыя загадалі ёй не прыпыняцца, а ісці далей, куды ёй трэба. Тады толькі Таццяна адказала, што ёй якраз трэба да сябе ў хату, але яе не пусцілі. Яна стала дапытвацца, чаму ёй нельга ўвайсці ў сваю хату, хто там цяпер знаходзіцца. Адказу на гэтыя запытанні Таццяна не атрымала. Яна не ведала, што ёй рабіць, што азначае ўся гэтая справа. Толькі пасля доўгіх перапрашванняў адзін з вайсковых згадзіўся выклікаць з хаты свайго начальніка.

Таццяна так і абамлела, убачыўшы, што з хаты выйшаў Рыгор. Ён прыпыніўся на парозе, прыкмеціўшы маці. Таццяне здалося нават, што ён хацеў адступіцца назад у сені, але потым ён рашуча выйшаў ёй насустрач і ўвёў яе ў хату.

Каля стала сядзела тры ці чатыры чалавекі ў скураных жакетках, як у Рыгора, а адзін стаяў пасярэдзіне хаты ў нейкай чужой незвычайнай адзежы. У хаце было ціха, як у магіле. Усе, не спускаючы вачэй, пазіралі на Таццяну; яна ж аглядалася непрывычнымі да такога святла, увайшоўшы з цемры, вачамі.

— Ты не хочаш пазнаць мяне, матка?

— Міхась!..

Нечалавечы звярыны крык запоўніў усю хату, прадзвінеў шыбкамі ў вокнах, і падлога загула глухім стукатам упаўшага чалавечага цела. Міхась кінуўся падымаць Таццяну, але нічога не змог зрабіць адною рукою, толькі выпацкаў маці кроўю, якая цякла з яго правае рукі. Рыгор адхіліў яго, падняў Таццяну і адвёў на лаву.

— Ты б хоць не датыркаўся да яе сваёю бруднаю крывёю,— жорстка, гледзячы Міхасю ў вочы, праказаў брат.

— Я табе ўжо ўперад казаў: што хочаш рабі са мною, толькі пакінь лаянкі,— адказаў Міхась.

У хаце стала зноў ціха, ніхто не ведаў, аб чым гаварыць у прысутнасці мацеры. Таццяна прыйшла ў сябе, але так была прыгнечана нечаканасцю сустрэчы разам з абодвума сынамі, што не магла вымавіць ні слова, толькі шырока адчыненымі вачамі пазірала то на аднаго, то на другога. Усе тыя гадзіны, дні, якія яна праводзіла за думкамі аб сустрэчы з Рыгорам, ужо не кажучы аб Міхасю, усе малюнкі радасці, якую яна чакала для сябе ад гэтае сустрэчы,— усё вылецела з галавы ад гэтых незвычайна нечаканых абставін. Таццяна так была прыгнечана і самою сустрэчаю, і прысутнасцю чужых, няведамых людзей, што нічым не магла выявіць свайго пачуцця, нават не ведала, ці ёсць у яе самое пачуццё.

Рыгор шырокімі крокамі хадзіў па хаце. Яго сябры сядзе-

лі моўчкі, толькі калі-нікалі кідалі кароткія позіркі на братоў. Міхась стаяў, як і ўперад, сярод хаты, у сваім афіцэрскім шынялі, правы рукаў якога чырванеў свежаю крывёю; гэтая кроў нікога, здаецца, не цікавіла і не непакоіла. Алеся, таксама як і маці, была прыгнечана нечаканасцю ўсяго з'яўшча.

— Я ў цябе пытаюся яшчэ раз,— прыпыніўся Рыгор перад Міхасём,— дзе знаходзіцца ўся ваша банда?

— Навошта дарэмна траціць словы? Памяняліся б мы з табою месцамі, ці ж ты сказаў бы аб сваіх, калі б захацеў захаваць паважанне самога да сябе,— адказаў, падымаючы галаў, Міхась.

— Між намі ёсць розніца: я абараняю дзяржаўнасць, ты ж звязаў свой лёс з разбоем, які, як разбой, павінен хутка выгхнуцца.

— Я гэта добра ведаю і без цябе. Сам я хацеў кінуць гэтую справу, але не бачу месца, дзе можна было прыткнуць сябе. Па дарозе ад Турава сюды я быў у шмат каго з сялян і мала бачыў вашых прыхільнікаў.

— У каго ты быў? Ты туляўся па шляхце, па хутарах, у вёску ты не смеў паказацца. Ну, вядома, шляхта, у якой абразаюць крылы, не з намі, ды яна нам і не патрэбна.

— Так ці іначай, але я пераканаўся, што з вамі я згадзіцца не магу.

— Шмат з вашага стану ёсць нязгодных, але ж не ўсе падымаюць на нас сваю руку. Ты ж пайшоў на самае бруднае, што толькі можа быць,— і з кім ты пайшоў?

— Ты мне, брат, казанні не чытай!

— Ды я табе і не брат, калі хочаш ведаць. Я гаварыў з табою дагэтуль як з братам, а цяпер буду гаварыць як з ворагам!

Маці прыслухалася да апошніх слоў Рыгора і адразу зразумела ўсё, хоць дагэтуль яна ні словам не абмовілася з Міхасём аб тым, дзе ён быў увесь час, што рабіў. Ей, як маланкаю, прарэзала мазгі слова «бандыт»: значыць, Міхась — «бандыт», з якім ваюе Рыгор. Ваюе... вось і кроў, цячэ яна

па падлозе. Брат страляў у брата. Валасы захадзілі на галаве ў Тацяны ад усцішша, і яна, закрыўшы рукамі твар, кінулася ад страху за дзверы, нема галосячы. Алеся ледзьве вярнула яе ў хату.

— Я змушан аддаць цябе, закаранелага ворага, у рукі закону,— пачула Тацяна словы Рыгора, як толькі Алеся ўцягнула яе ў хату.

Два Рыгоравы сябры ўсталі з лавы, гатуючыся весці Міхася. Апошні зайздросна паглядзеў на іх, на Рыгора і адвярнуўся ўбок.

— Рыгорка, куды ж яго павядуць? — чуць не шэптам запыталася Тацяна.

— У мястэчка, а далей — у горад.

— Што ж з ім зробяць?

— Што заслужыў, тое і зробяць.

Міхась, ужо каля дзвярэй, павярнуўся да мацеры:

— Прашчайце, матка!

Тацяна, з лёгкасцю коткі, кінулася яму на шыю, абхапіла яго рукамі і павісла на ім:

— Не пушчу я цябе! Тры гадочкі чакала штодзень, шточас... Кожны дзень я бачыла цябе ў магіле, і кожны дзень ты прыходзіў да мяне ў маіх думках, у маім сэрцы. Не аддам я цябе нікому.

Усе стаялі вакол, не ведаючы, што рабіць. Рыгор, пабляднеўшы, адвярнуўся да акна і пільна глядзеў туды, нібы што разглядаў знадворку. Яго сябры адчувалі сябе яшчэ больш дрэнна. Тацяна калацілася сваёю ўзлахмачанаю галавою ў грудзі Міхася, і страшэнны енк агаласіў хату.

— Матка, даволі, гэтым нічога не пасобіш,— сказаў Рыгор дрыжаўшымі губамі.

— Рыгорка, сыночак, не аддавай яго, не аддавай!

Тацяна ўжо стаяла на каленях перад Рыгорам, цалавала яго рукі і ў параксізме ўпівалася зубамі ў яго пальцы. Рыгор падняў яе і, моцна трымаючы, панёс на пол. Пакуль ён клаў яе, Міхася з яго ахоўцамі ўжо ў хаце не было.

Нейкі час у хаце было да жудасці ціха. Тацяна ляжала

нерухома, немігучна глядзела перад сабою і нічога не бачыла. Рыгор стаяў над ёю, гатовы стрымаць яе пры першым здарэнні прыпадку. Таццяна пачала схопліваць тое, што было ў яе перад вачыма. Яна доўга ўглядалася ў твар Рыгора, нібы ніяк не магла пазнаць яго.

— Гэта ты, Міхась, са мною? Вось як добра, што ты прыехаў, я так чакала цябе, мой сыночак. Прыхіліся ка мне,— і яна пачала гладзіць па галаве Рыгора, прыгаварваючы: — Вось і Міхась мой дома, Міхась не будзе мяне пакідаць, як Рыгор...

Раптам яна пазнала, хто перад ёю, і кумельганам кінулася з полу ўцякаць ад Рыгора.

— Не чапай, не чапай мяне, ты сваімі рукамі аддаў ім брата, прэч ад мяне!

— Супакойцеся, матка! Нічога з ім дрэннага не будзе, пасядзіць трохі, ды выпусцяць. Чаго вы так убіваецеся?

— Ты мяне сцешыць хочаш! Не трэба мяне цешыць. Будзь ты пракляты, і няхай твая нага ніколі не пакажацца перада мною!

Таццяна спакойна, нібы адзервянеўшымі нагамі, падышла к сталу, села на лаву і ўтупілася вачамі ў той асаблівы пункт, які яна адна толькі бачыла. Рыгор збіраўся ў дарогу, гаварыў з Алесяю, хадзіў па хаце, падыходзіў да мацеры развітацца, але ні гуку, ні позірку ў яго бок не было ёю кінута, нібы пустое месца яна бачыла перад сабою.

Рыгор грукнуў дзвярыма. Таццяна не чула грукату.

## IV

Прайшло некалькі дзён пасля заарыштавання Міхася. Па сёлах, вёсках, хутарах у акрузе Петрыкава пайшлі трывожныя чуткі. Пераходзячы ад аднаго к другому, з адной вёскі ў суседнюю, гэтыя чуткі раслі, множыліся. Аб бандытах гаманіў малы і стары: адны казалі, што гэта проста разбойнікі, другія — што гэта пераапранутае царскае ці польскае войска, якое ідзе праганяць бальшавікоў. Пры гэтых чутках

дрэнна адчувалі сябе тыя, хто ішоў за саветы і хто быў звязаны з зямлёю і не мог кінуць гаспадарку, каб уцячы на ўсякі выпадак. Багацейшыя ж ды шляхтуны цешыліся таму смутку, які апанаваў вёску і мястэчка. Словам, ніхто не быў спакойны, але кожны адчуваў сябе па-свойму.

Тая трывога, якая пачалася, асабліва захоплівала людзей уночы. Як толькі падаў змрок, у розных баках уздымаліся ўверх чырвоныя слупы полымя, якое зіхацела скрозь усю ноч і прымушала кожнага быць напагатове. Апроч таго, то там то тут знаходзілі па дарогах немаведама кім застрэленых ці зарэзаных людзей. Дзесьці вораг ходзіць, дае аб сабе ведаць, але хто гэта, як ён моцны, дзе ён хаваецца — ніхто не ведаў. Гэта таемнасць, неспадзяванасць яго дзей рабілі яго яшчэ больш страшным, складалі вакол яго яшчэ болей усялякіх чутак і казак. Наастатку, то ў той ці іншай вёсцы пачалі з'яўляцца людзі, якіх ніхто не ведаў, хто яны такія. Яны то дапытваліся, дзе жыве той ці іншы грамадзянін, дзе знаходзяцца грамадзянскія і дзяржаўныя ўстановы. Кожны чуў нешта нядобрае ў гэтых доследах, але ўзяцца за даследчыкаў ці баяўся, ці не рупіўся.

Адною раніцаю, яшчэ сцямна, Алеся выйшла па ваду знарок рана, каб менш сустракацца з людзьмі. Толькі што яна хацела з вадою ўвайсці ў сені з вуліцы, як яе запыніў нечы голас:

— Чыя вы будзеце, кабетка?

Алеся азірнулася. Кроках у трох ад яе стаяў барадаты чалавек высокае постаці, добра адзеты, хоць і па-сялянску. Алеся ведала траха не ўсіх сялян свае вёскі, хоць і мала паказвалася, але такога яна не бачыла. Алеся хацела, нічога не адказаўшы, зачыніць дзверы, але мужчына пераступіў парог і ішоў за ёю следам.

Алеся пачула нядобрае ў гэтым чалавеку, але прыпыніць яго яна не ведала як і чым. Пакуль яна думала, што рабіць, незнаёмы быў ужо ў хаце і прыветна прывітаўся са старою.

— Якая ганаровая ў вас дачка ці нявестка: не захацела адказаць мне, чыя яна.

— А навошта вам гэта ведаць? — запыталася Таццяна.

— Так сабе, іду — бачу незнаёмая кабета, ну і запытаўся.

— А самі вы скуль будзеце?

— О, я-то далёкі, але ўсіх тут вакол ведаю, бо доўга ездзіў з поштаю між Петрыкавам і Туравам, а вас я нешта не прыкмячаў тут уперад.

— Я раней жыла ў Петрыкаве.

— Вось як? Ці не жонка вы Васіля Талокі?

Таццяна ўглядалася ў незнаёмага, але пазнаць яго не магла.

— Адкуль жа вы ведалі майго мужа? — здзіўлена запыталася Таццяна.

— Ведаю, у яго было два сыны, з якіх адзін нядаўна забраны бальшавікамі. Але вы не клапаціцеся, ён хутка будзе з вамі.

Таццяна не ведала, чаму дзівіцца ёй: ці свядомасці гэтага чалавека, ці таму здарэнню, якое выпадала ізноў на яе долю з сынам.

— Ну, бывайце здаровы! Не ў доўгім часе мы пабачымся з вамі. А ты, кабетка, не надта ганаруй, хоць і прадсядацелева жонка,— сказаў ён, выходзячы за дзверы, Алесі.

Гэты незвычайны чалавек са сваім раптоўным паяўленнем у такі час спалохаў абедзвюх кабет. Алеся адрэзу сваім чуццём устанавіла ў ім ворага. Таццяна ж не ведала, вораг ён ці прыяцель, але чула, што гэты, усё ведаючы чалавек пераверне яе жыццё — недарэмна ж ён заходзіў сюды.

Пачаўся дзень. Алеся не магла адалець сваю трывогу. Заставацца ў гэтай глухой вёсцы без Рыгора ў яе больш ужо не хапала сілы. Яна парашыла ісці ў мястэчка, каб адтуль паехаць да мужа, дзе б ён ні быў. Таццяна не перашкаджала ёй, і яшчэ з раніцы Алеся пайшла да мястэчка.

Рыгор ужо некалькі дзён не прыпыняўся на месцы. Са сваёю невялікаю дружынаю, чалавек у пятнаццаць, ён за дзень абыходзіў дзве-тры воласці, аглядаючы ўсе куткі, дзе маглі б захавацца бандыты. Але з кожным днём праца ста-

навілася ўсё больш маруднай, бо прыходзілася сустракацца ў лясах са значнымі часткамі ворага і вытрымліваць сапраўдныя бойкі, вёскі ж напаўняліся бандытамі, якія пракрадваліся па адным-два чалавекі, прасачыць якіх было незвычайна трудна. Атрад Рыгора ўсё меншыўся ў ліку і тым, хто заставаўся, выпадала на долю яшчэ больш цяжкае заданне. Падтрымліваць сувязь з рэўкомамі станавілася ўсё трудней. Ужо два дні, як атрад не меў ніякіх вестак з Петрыкава. Асобныя людзі, што пасылаліся Рыгорам у рэўком, не варочаліся назад, і невядома — даходзілі яны ці не да месца. У той дзень, як да Тацяны наведаўся той незвычайны мужчына, Рыгораў атрад быў акружаны ў лесе, і толькі пасля гарачае бойкі палавіне яго людзей пашанцавала вырвацца і ўцячы; астатнія былі пакінуты забітымі. Рыгор увесь дзень блукаўся па лясах, накіроўваючыся на поўнач, каб дабрацца ўночы да Петрыкава, але гэта не збылося.

Тацяна, апынуўшыся адна без Алесі, не ведала, да чаго прылажыць рукі. Той чалавек, што заходзіў у хату раніцою, унёс вялікі смутак у яе душу. Міхась зноў можа быць з ёю, і нават хутка. Але якім жа чынам гэта зробіцца? Можа, зноў брат прывядзе брата, хоць ужо старэйшы малодшага. Не, лепш няхай ні адзін так не паказваецца сюды. Каля паўдня новае з'явішча дадало ёй яшчэ болей смутку: гасцінцам праз вёску праехала шмат конных верхам са стрэльбамі, кулямётамі, яны ехалі на Петрыкаў. Па іх разнастайнай адзежы, узросту Тацяна зразумела, што гэта не войска, а тыя самыя бандыты. Яна зусім сумелася, як з гуртка гэтых людзей выдзеліўся адзін і пад'ехаў да яе хаты: гэта быў той самы, што і раніцою.

— Ну, што, няма твайго прадсядацеля з жонкаю? — запытаўся ён, адчыніўшы дзверы ў хату.

У голасе яго ўжо не было ніякае прыемнасці, і ён падазрона азіраўся па баках. Ён падышоў бліжэй да Тацяны і са злосным позіркам запытаўся:

— Ты скажы, дзе хаваецца твой Рыгор? Ты бачыш, я ўсё аб ім ведаю, і табе лепей будзе, калі скажаш.

— Я за Рыгорам не хаджу: дзе ён — я не ведаю.

— Брэшаш! Вы адна шайка-лейка,— і ён перацягнуў Таццяну тоўстым гарапнікам.

Таццяна ні слова не адказала, нават не паглядзела ў яго бок і, прысланіўшыся к сталу, стала пазіраць у другі бок. Не чакаўшы такіх вынікаў, бандыт змяніўся і ліслíва пачаў прасіць, каб Таццяна адказала на яго пытанне. Але Таццяна нібы не бачыла, што перад ёю стаяў чалавек.

— Добра,— скрыгочучы зубамі, прамовіў ён,— мы яшчэ з табою пабачымся і пагамонім як мае быць.

Ён вылецеў за дзверы.

Дзень цягнуўся доўга. Алеся не варочалася з мястэчка, і Таццяна хацела, каб яна зусім там засталася, альбо калі пойдзе дадому, то звярнула б са шляху. Думка яе ўсё часцей ды часцей варочалася да Рыгора, хоць яна ўжо не лічыла яго сынам пасля таго, што было з Міхасём. Ёй здавалася, што да Рыгора яна нічога не зможа адчуваць, апроч нянавісці: ні жальбы да яго, ні літасці ў яе не павінна застацца. А тым часам з самага ранку — не-не ды надыдзе нешта трывожна-цёплае, як толькі думка звернецца да Рыгора. Яна праганяла ад сябе думкі аб Рыгору, настройвалася варожа да яго, але нічога не памагала. Мімавольна яна жадала, каб ён прыйшоў да яе, каб яна сама бараніла, схавала яго ад бяды, якая, чула яна, яго чакала.

Позна ўвечары, ужо пад поўнач, хтось ціха адчыніў дзверы ў хату і, азірнуўшыся па баках, увайшоў. Таццяна, сядзеўшая ні то ўва сне, ні то проста ў сваіх, так звычайных для яе думках, не адразу прыкмеціла, хто ўвайшоў.

— Гэта я, матка.

— Чаго табе тут трэба, Рыгор?

— Стаміўся я, матка, і некуды мне больш ісці.

— А калі я тамілася, тамлюся штодзень, ты прыйшоў да мяне?

Рыгор як сноп зваліўся на лаву. Таццяна падбавіла агню на прыпечку. Свет і цені затрапыхалі па хаце сваімі бязгучнымі крыламі. Твар Рыгора быў такі бляды, што Таццяна

бачыла белую пляму нават у тыя хвіліны, як агонь зусім заміраў і рабілася цёмна так, што іншых рэчаў не было відаць. Рукі і ногі яго трасліся, як у трасцы, на губах выступіла пена. Маці спалохана глядзела на змучаны твар сына, і падчас ёй здавалася, што ён канае: так цяжка ўздымаліся яго грудзі. Яна падышла да сына і палажыла яму на лоб руку: лоб быў мокры ад поту і халодны, вочы то адкрываліся, то заплюшчваліся.

— Ох, як я ж стаміўся, матка,— не сказаў, а прастагнаў ён,— а дзе Алеся?

— Алеся пайшла да мястэчка яшчэ раніцою і не звярнулася.

Рыгор ускочыў з месца і, хістаючыся ў бакі, захадзіў па хаце. Вочы яго загарэліся. Ён сунуў у кішэню рэвальверы, якія ляжалі на лаве, насунуў шапку і нарыхтаваўся ў дзверы.

— Рыгорка, сынок! Куды ж зноў пойдзеш? Супачынь,— з модлаю ў голасе пачала прасіць Таццяна.

— Ты разумееш, матка, яны закатуюць яе: Петрыкаў жа захоплены імі.

— Што ж ты зробіш з імі адзін, сынок? Іх тут цэлая процьма праехала. Застанься!

Яна абхапіла яго рукамі, губамі сцірала смяртэльны пот з яго твару. Ёй здавалася, што як толькі ён ступіць за парог, у цемру ночы, то больш ужо не вернецца ніколі. Яна трымала, моцна сціснуўшы рукамі, як самае даражэйшае на свеце, свайго сына. Пусціць яна яго — і безупынная хваля адарве яго і панясе, разаб'е, і застанецца яна адна сярод пусташы на векі.

— Не ідзі, яны зловяць цябе, яны сцерагуць кожны твой крок, яны загубяць цябе! Я захаваю, абараню цябе, я аддам сябе ўперад, а ты жыві, змагайся!

— А як з Міхасём? Ты не маеш на мяне помсты за яго?

Маці слабіла рукі, і рысы гора нязмернага і пакуты прайшлі па яе твары. Але гэта было толькі адзіны момант. Яна зноў схапілася за сына і пацягнула яго ад дзвярэй.

— Не, матка родная мая, не затрымлівай мяне! Я павінен, я мушу ісці! Няхай я пайду на верную смерць, на пакуту, але я павінен ісці! Ты падумай толькі: гэтыя сабакі зловяць яе, будуць здзекавацца над яе целам, будуць катаваць, абясчэсцяць, а потым выкінуць разарваную на вуліцу. О, я добра ведаю, што яны рабілі і робяць з нашымі жонкамі. Ты, можа, яшчэ лічыш мяне катам за тое, што я аддаў нашаму суду Міхася? Але каб ты ведала, удзельнікам якіх паскудстваў ён быў, ты б сказала, што я іначай не мог зрабіць.

Таццяна яшчэ мацней сціснула сына, без слоў кажучы, што яна адпушчае яму ўсё, у чым да гэтых часоў вінавацiла яго.

— Я не меў часу ахоўваць цябе, матачка,— казаў далей Рыгор,— мы жывём у такія хвіліны, калі трэба змагацца, і я ўсе свае лепшыя гады аддаў барацьбе і змаганню — і не шкадую. Каб у мяне былі яшчэ дзве-тры маладосці, то я зноў бы, без жалю, аддаў бы іх. Зразумей мяне, матка, і не помстуй на мяне... Ну, а цяпер...

Рыгор недагаварыў і моцна сціснуў Таццяну.

— Ну, ідзі! Я ўсё зразумела. Ідзі!

Без жаднае слязінкі, без енку праводзіла Таццяна сына да дзвярэй на двор і доўга стаяла, гледзячы яму ўслед. Рыгор ужо схаваўся ў цемры ночы, ужо не чутно стала яго крокаў, а Таццяна ўсё стаяла.

— Не вернецца,— шапталі яе сухія губы.

Яна ўвайшла ў хату, прыпынілася каля парога, і перад ёю так выразна стала думка аб непатрэбнасці далей жыць, што яна здзіўлена аглянулася на ўсё сваё жыццё — навошта яно было патрэбным? Але не, яна ж узгадавала Рыгора, які можа страціць сваё жыццё, але за вялікую справу. Не, яна не дарэмна жыла, хоць і ашуквалася так многа, так доўга...

— Гэй, ты, адчыняй дзверы! — раздаўся моцны, гучны голас.

Таццяна не кранула і пальцам.

Праз хвіліну перад ёю стаялі двое, абвешаныя з галавы да пят аружжам. Адзін быў той, ранішні.

— Дзе тут захаваны твой бальшавік? — накінуўся ён на Таццяну.

Яна, не пазіраючы на бандыта, спакойна адказала:

— Я ўжо раз казала вам, што аб сыне нічога не ведаю: чаго ж вы яшчэ хочаце?

— Лжэш, ён быў тут нядаўна і не мог нікуды выйсці з вёскі; мы яго даўно ловім, і ты мусіш сказаць, дзе ён.

На гэты крык адказам была поўная моўчка, нібы бандыт крычаў у сцяну.

— А, дык ты не скажаш? Давай, Вінцук!

Старое цела Таццяны скацілася на падлогу, і абцасы Вінцука прайшліся раз-другі ўздоўж яе. Барадаты бандыт паласаваў яе бізуном да тых часоў, пакуль яна не пакінула кратацца. Бандыты прынеслі вядро вады і палілі парванае, пасінелае цела. Кроў расцякалася па ўсёй хаце і пачырваніла ўсю зямлю. Таццяну паднялі, але яна стаяць не магла; ні носа, ні вачэй не было відаць — усё зраўнялася з тварам, разбітым, чырвона-сінім.

— Ну, скажаш цяпер, сцерва?

Моўчкі.

Барадаты, як ашалелы звер, кінуўся да яе, схапіў за горла, зноў паваліў і пачаў тыллём шаблі сыпаць пабоі адзін за другім.

— Пачакай трохі,— супыніў яго Вінцук,— ты яе зусім заб'еш, тады нічога не даведаемся.

Пабоі прыпыніліся. Таццяна пластом ляжала на зямлі, і нават непрыкметна было, каб яна дыхала.

— Ты, мусіць, прыкончыў яе,— шкода.

— Няма чаго шкадаваць, усё роўна ён, мусіць, уцёк так, як і гэтая яго шлюха. І як яны пралезлі, ліха ведае!

Барадаты са злосцю кінуў шаблю далоў і яшчэ раз з усяго размаху ўдарыў нагою крывавае цела, нібы на ім хацеў спагнаць сваю злосць.

Таццяна зяхнула і скрозь камяк крыві прашамшыла:

— Вы яго не... злавілі?... Мне больш... нічога... не трэба... Помста будзе...

— А, ты яшчэ жывеш? — зароў Вінцук.

— Не, я ўжо не буду жыць, але ж... і вам... панства... не бачыць!.. Здохнеце! Сынок мой, за ўсіх спагані...

Барадаты два разы ўзмахнуў шабляю, і галава Таццяны, з выбітымі вачамі, адляцела ўбок.

Ноч ішла сваёю чаргою. На вёсцы прапяялі пеўні. На прыпечку тлелі смаловыя корчыкі, а па хаце скакалі, трапыхалі крыламі блядыя цені, з куткоў пазіраў сляпы змрок, толькі вочы ў яго то шырыліся, то звужаліся. Доўгія адзінокія думкі Таццяны вылецелі з галавы і на крылах свету і ценяў шукалі сабе выйсця з цеснае хаты на вольны свет.

*1924 г.*

# ЗВАРОТ

## I

Яшчэ гадзіннік за сцяною ў сумежным пакоі не паспеў стукнуць два разы, адбіваючы чацвёртую гадзіну, як Максім Гукоўскі, ужо даўно схаваўшы паперы ў крывую, на трох ножках, шафу, падышоў да дзвярэй і прылажыўся да іх вухам. Але, мусіць, такі спосаб дзейнасці яго не здаволіў, бо ён з вялікаю асцярогаю націснуў наском бота ў дзверы і зрабіў маленькую шчылінку між іх палавінкамі. Нейкую хвіліну ён углядаўся адным вокам у шчыліну, а потым рашуча расчыніў дзверы, страціўшы ўсю таемнасць і асцярогу: у сумежным пакоі нікога не было. Як найхутчэй сабраў ён са стала свае клункі — шмат іх было — і з паспехам пакінуў будынак Саўнархоза.

Максім Гукоўскі ніколі не меў дрэннае звычкі сядзець на службе пасля чацвёртае гадзіны, але сягоння яму ніяк не трывалася дацягнуць, пакуль гадзіннік прастукае чатыры

разы. Нават як выйшаў ён на вуліцу, нешта дрочыла ў нагах, на сэрцы была надзвычайная казлытка. Сонца сакавіка, каплі з дахаў, вераб'інае цвырканне і на загародах і на дрэўках-прысадах, бляск вады ў равочках каля тратуараў — усё бадзёрыла. Але не гэта давала настрой Гукоўскаму. Яго вочы раз-пораз апускаліся да долу і з невыразным каханнем утупляліся ў клункі. Нягледзячы на тое, што тонкія вяровачкі ўразаліся ў пальцы, ён ні крыхі не зварочваў на гэта ўвагі. На мосце праз Дзвіну, дзе снег ужо растаў, Гукоўскага абдало цэлым цэбрам брыды з-пад кол аўтамабіля, але і гэта не сапсавала яго настрою. Толькі ў канцы моста яго раптам кальнула ў сэрца: хтось зачапіў бокам яго клункі. Але трывога была кароткаю, бо ўсё засталося цэлым.

Мінуўшы найбольш людныя вуліцы Віцебска, па дарозе ў Маркаўшчыну, Гукоўскі цалкам аддаўся сваім думкам, настрою. Жыццё не здавалася яму ўжо такім нудным, як некалькі часу таму назад, як учора, як нават сёння раніцою.

Вось ён дастаў пасведчанне аб тым, што ў яго кватэру нельга нікога ўсяліць, атрымаў пенсію, але самае важнае — гэта селядцы, цукар, мука, крупы, алей і іншае, што яму далі за паўмесяца адразу, ды яшчэ па вайсковаму пайку (а можа, і без меркі). Цяпер ужо доўгі час не прыйдзецца саромецца Ядзі, адчуваць такую залежнасць ад яе бацькоў, якія калі-нікалі прывозілі з вёскі ім хлеба, сала і іншых спажыўных рэчаў. Кожны раз гэты стары Сеўба, як толькі перадаваў дачцэ падарункі, кідаў такі нядобры позірк на зяця, што апошняму некуды было вачэй дзяваць. «Ну, вось няхай цяпер спрабуе глуміцца нада мною,— думаў Гукоўскі,— дык я дам яму адказ». Хоць стары Сеўба і падабаўся Гукоўскаму сваёю адчыненаю непрыязню да бальшавікоў, але на гэты раз Гукоўскі мімавольна адчуваў, што з бальшавікамі можна жыць і збіць гонар цесцю, які так часта ў самых простых патрэбах чалавека знаходзіў сродкі здзеку. З ім, з Гукоўскім, лічацца, як са спецам, даюць добрую пенсію, кватэру яго берагаюць, даюць яму паёк без вагі і меры, а тут нейкі Сеўба, хоць і цесць, глуміцца над ім за баханку хле-

ба! «Я ўсё ж на дзяржаўнай службе, а ён — проста мужык»,— думаў Гукоўскі. Але як толькі яму прыйшло ў галаў слова «мужык», то перад ім адразу стала Ядзя, і ён спыніўся ў сваіх думках на гэтую тэму.

«Не, усё ж такі і пры бальшавіках можна жыць»,— скончыў свае саймаванні з сабою Гукоўскі. Ён ужо праходзіў міма Маркаўшчынскага манастыра. Боязна азірнуўся вакол — і хутка, з тараплівасцю перажагнаўся. На нейкі момант у сэрцы заскраблі кошкі, зноў стала нудна, але выпаўшы клунак з селядцамі звярнуў яго ў звычайную каляіну бадзёрага настрою гэтага дня. Ён падняў клунак, размеркаваў усе астатнія і шпаркім крокам пайшоў у свой завулак.

У Маркаўшчыне Гукоўскі асеў ужо даўно, з пачатку рэвалюцыі. Як толькі ў Віцебску зладзіўся рэўком і пакінула існаваць казённая палата, Гукоўскі, які быў чыноўнікам апошняе, так перапалохаўся, што гэты спалох не прайшоў да гэтых часоў. Яшчэ і цяпер, ці ідзе ён вуліцаю, ці сядзіць за сталом у Саўнаргасе альбо дома — яму ўсё здаецца, што хтось таемна сочыць за ім. З першых жа дзён рэвалюцыі, пакуль ён «сабатажыў», яму боязна было нават выйсці на рынак купіць табакі. Чаго ён баяўся — ніколі не мог даць сабе адказу. Самы горад, вуліцы з дамамі, дзе з'явіліся незвычайныя надпісы незвычайных устаноў, зрабіліся яму такімі жудасна-варожымі, што ён па цэлых тыднях круціў сабе галаў над тым, куды дзецца. Выпадкова яму параілі невялічкі дамок у Маркаўшчыне. Гукоўскі выбраў адну раніцу, калі ішоў моцны дождж, і пераехаў у Маркаўшчыну: усё ж такі не самы горад. Тут ён і застаўся жыць з жонкаю, чакаючы лепшых часоў. Але гэтых лепшых часоў, як маляваў сабе іх Гукоўскі, не прыходзіла, і ён пачаў шукаць сабе працы. Саўнаргас прытуліў яго...

Гукоўскі падышоў да дзвярэй свайго дома і пастукаў. Доўга прыйшлося чакаць яму знадворку: перш у акне хістанулася фіранка, мігнуў і схаваўся жаночы твар, потым пачуўся тупат к дзвярам, а далей — бразгат крукоў і ляскат замкоў, усё роўна як астрог адчыняўся.

— Ты ўжо, Ядзечка, і зачыні, бо ў мяне рукі заняты,— папрасіў Гукоўскі, уваходзячы ў дзверы.

Зноў той самы бразгат крукоў, накладаных на прабоі...

Гукоўскі, яшчэ не распрануўшыся, з захапленнем пачаў пералічваць Ядзі ўсё, што было ў клунках.

— Ах, як жа тут шмат селядцоў, а колькі цукру! — разгортваючы паперу клункаў, захаплялася Ядзя.— Дзе ж гэта ты дастаў усё гэта?

— Як дзе? На службе! — здаволена адказаў муж.

— На службе? І ўсё гэта даюць бальшавікі? Ты хлусіш!

— Хлушу! Дзе ж мне яшчэ ўзяць? Я заўсёды буду мець цяпер добры паёк, бо бальшавікі схамянуліся, што без старых чыноўнікаў ім не абысціся — вось і задобрываюць. Ну, няхай сабе яны думаюць, што я лепшым стану, буду прыемным да іх. Няхай сабе думаюць — нам жа лепей.

Ядзя спынілася развязваць кулькі і задумалася.

— Ты што прыпынілася?

— Не брала б я нічога ад іх! — жорстка праказала яна.— Але ўсё гэта ты: на службу пайшоў, перад нейкім камісарам там трусішся, абрадваўся селядцу!

Яна адвярнулася ўбок і пачала кусаць губы. Гукоўскі зразу страціў усю сваю бадзёрасць і не ведаў, што рабіць: так і стаяў у гразкім шынялі.

— А ведаеш, мне далі яшчэ пасведчанне на валоданне кватэраю,— хапянуўся ён задобрыць жонку.— Цяпер ужо няма чаго баяцца, што к нам каго-небудзь яшчэ паселяць.

Гукоўскі пад'ехаў да жонкі добра. Самым балючым яе месцам была кватэра. Яна ўвесь час з гадлівасцю думала аб тым, як яна будзе жыць, калі к ёй прышле гэты — як яго? — Камгас якога-небудзь чырвонаармейца альбо качагара з «Дзвіны». Ад аднае гэтае мажлівасці Ядзя гатова была зжыць са свету ўсіх бальшавікоў, бо ніхто іншы, як яны, робіць усё на злосць, наадварот.

— Праўду ты кажаш? — ажывіўшыся, запыталася яна ў мужа.

Замест адказу, Гукоўскі працягнуў ёй невялічкі кавала-

чак жыдкае паперы, дзе была вылажана забарона сяліць каго б там ні было ў кватэру «спецыяліста па браварах» Гукоўскага.

Твар Ядзі прасвятлеў, і яна зноў накінулася на клункі. Асабліва спадабаўся ёй цукар: яна і перасыпала, і разглядала яго на свет, і брала на язык, быццам хацела дасканала даведацца, ці няма тут якога-небудзь ашуканства. Потым, разабраўшы ўсё прынесенае багацце, яна пачала размяркоўваць, куды злажыць яго.

Гукоўскі, задаволены тым, што дагадзіў жонцы, прайшоў у свой «габінэт». Праз некалькі хвілін ён меў зусім не такі выгляд, як уперад. Замест звычайнага «фрэнча» невядомага колеру на ім ужо была форменная жакетка з бліщчастымі гузікамі і кантамі казённае палаты, чорныя нагавіцы навыпуск і бліщчастыя гамашы. Над носам, хто ведае адкуль, з'явіліся дымчатыя ачкі, якія звычайна носяць не для карысці, а для фасону. Таксама няведама адкуль пачуўся пах ні то таннага адэкалону, ні то фіксатуару... Словам, ніхто б не пазнаў у гэтым далікатным чыноўніку таго шэрага чалавека, што валок у Маркаўшчыну ў клунках селядцы з мылам, крупы з двума фунтамі газы. Гэта ўжо быў перад вамі настаяшчы джэнтльмен у гузіках.

Скончыўшы прыбірацца, Гукоўскі з важнаю мінаю прысеў на канапу і здавольна разглядаў у люстэрку насупраць гузікі і пятлічкі свае жакеткі. Ах, гэтая жакетка! Ён думаў аб ёй так часта, седзячы за саўнаргасаўскім сталом, так непакоіўся, каб жонка выпадкова не прамяняла яе на буханку хлеба ў галодныя дні! Кожнае свята, як не трэба ісці на гэтую абрыдлую службу альбо ў асаблівых выпадках, як сёння, Гукоўскі выцягваў яе са дна куфэрка, з вялікім стараннем абіраў з яе пушынкі і з нейкаю ўрачыстасцю апранаў на сябе. Гэтая жакетка, здавалася яму, рабіла з яго не звычайнага чалавека, якіх тысячы, мільёны, а выдзяляла яго, уздымала ўверх над шэрай людской масай. Многа значыць форменная жакетка з бліщчастымі гузікамі: бывала, нават ноччу, розная гэтая шантрапа давала дарогу, як ішоў

ён, Гукоўскі, па вуліцы. Нават яго жонка Ядзя, можа, і не была б яго жонкаю, каб не гэтыя гузікі. Ці ж яна не магла выйсці замуж за якога-небудзь Чашніцкага шляхцюка? Але гузікі, дымчатыя ачкі парашылі яе выбар.

Акінуўшы сябе яшчэ разы два-тры ў люстэрку, Гукоўскі рашыў заняцца справаю, якая стасуе такому культурнаму чалавеку. Падышоўшы да шафы на покуці, ён доўга разглядаў, на якой кніжцы яму запыніцца. Тут была і «Родина» за некалькі год, і «Живописное обозрение», і Майн-Рыд, і Жуль Верн, Лажэчнікаў і Данілеўскі, граф Саліас і Загоскін і шмат чаго іншага. Ён выбраў з самае верхняе палічкі «Русский Инвалид», які чытаў ужо немаведама колькі разоў, але здаволіцца ім не мог. Асабліва падабалася яму тая частка, дзе апавяшчаліся ўзнагароды. Ніколі ён не ведаў ні капітана Смарчкова, ні палкоўніка Сініцына, можа, ужо даўно ні таго, ні іншага не было ў жывых, але яму дастаўляла незвычайную здаволенасць чытаць аб тым, што капітан Смарчкоў атрымаў «Анну з мячамі», а палкоўнік Сініцын — «Владимира с бантом».

Захапіўшыся чытаннем, Гукоўскі нават не прыкмеціў, як жонка пачала збіраць на стол палуднаваць. У гэты дзень палуднік быў незвычайна шчодры: хлеба колькі хочаш, крупнік тлусты і густы. Нягледзячы на ўсю сваю хванабэрыю «пад пана», Гукоўскі не мог устрымацца, каб не забіваць паўнюсенькі рот чэрствым чорным хлебам. Таксама і Ядзя, хоць некалькі часу таму назад гатова была адцурацца ад «бальшавіцкіх падарункаў», моўчкі ва весь рот сёрбала крупнік, чырвоны ад іржавага селядца. За некалькі хвілін палуднік быў скончаны. Здавольства жыццём яшчэ ўласней захапіла Гукоўскага. Ён скруціў добрую цыгарку з махоркі і, выпускаючы хвалі жоўта-белага дыму, пачаў думаць аб тым, як добра было б заняць яшчэ большую пасаду, скажам, загадчыка аддзела. Вось тады ўжо стары Сеўба мог бы і не паказвацца ў ягоным доме.

— Ядзечка, нікога не было ў цябе сёння з Чашнікаў? — запытаўся ён у жонкі.

— Не, нікога,— адказала Ядзя, канчаючы збіраць са стала.— А чаму гэта цябе цікавіць?

— Ды так... Я, ведаеш, хацеў бы наказаць твайму бацьку, каб ён больш не клапаціўся прывозіць розныя там падарункі.

— Вось як! Ці ж ты спадзяешся, што мы пражывём на твой гэты паёк? Кінь ты плявузгаць!

— Ды ўзапраўды ж абыдземся самі без дапамогі. Ты бачыш, як шмат я сёння прывалок усяго — хопіць на два тыдні, а там зноў дадуць. Я такі патрэбны чалавек у Саўнаргасе, што мне дадуць не толькі тое, што ўсім, але нават і шмат болей.

— Ты ўжо занадта спадзяваешся, ды я ніяк не зразумею, якая патрэба ў кантролі па браварнай справе, калі ўсе бравары стаяць.

— Стаяць, стаяць... а мне што за бяда — няхай сабе стаяць, была б толькі пасада: яна ж ёсць, я яе займаю. А там і вышэй пайду, бо людзі цяпер, як у круцёлцы — сёння тут, заўтра на другой пасадзе. Вось і мой начальнік кудынебудзь будзе пасунуты ў другое месца, а я застануся сам начальнікам.

Гукоўскі зірнуў на свае гузікі і ўздыхнуў, нібы яму было шкода, што яго форменная жакетка аздабляе яго толькі дома. Ён паправіў акуляры, падкруціў вусікі і падышоў да люстэрка. Толькі цяпер прыкмеціла Ядзя жакетку на мужу — за палуднікам ёй было не да таго.

— Ах! Ты сёння панам! Што ж гэта за прычына, для каго ты так прыбраўся? — зачырванеўшыся ад натхнення, запыталася Ядзя.

— Калі нельга людзям паказацца ў статэчным выглядзе — то хоць дома трэба пабыць чалавекам. Ці ж ты нездаволена будзеш, калі я табе скажу, што хачу табе даставіць прыемнае?

— Ой, Максімка, ты такі прыгожы ў гэтым убранні, такі пекны, што я хацела б век цябе такім бачыць. Ці ж то жыццё цяпер, што нават адзецца як следуе няможна? Усё гэтае

салдацкае шэрае сукно, гамашы з абмоткамі — і больш нічога. Нават хто мае старое далікатнае адзенне, дык хавае яго, саромеецца апрануць. Не, нельга так жыць!

Ядзя зразу насупілася, і яе думкі пайшлі па звычайным напрамку.

— Усё гэта бальшавікі нарабілі,— праказала яна, скончваючы сваю думку.

— Ну, кінь ты ўжо аб гэтым,— ліслівым голасам папрасіў Гукоўскі жонку, шкадуючы сапсаваць той настрой, які сёння панаваў у яго ўвесь дзень.— Давай лепей піць гарбату з цукрам.

Пачынаўся вечар. Падаў змрок. Гукоўскі, накінуўшы шынель, каб не было відаць гузікаў, выйшаў на двор і шчыльна зачыніў стаўні на вокнах. Маленькі курпаценькі домік на краі касагора зрабіўся пахожым на ракавіну смаўжа, які поўз уверх ды так і запыніўся на дарозе, спалохаўшыся бляску зары, засляпіўшай яго падслепаватыя вочы.

Гукоўскі вярнуўся ў дом, залажыўшы дзверы на ўсе крукі і зашчапкі. Пакуль Ядзя гатавала гарбату з ліпавага цвету і яблыневага ліста, ён зноў чытаў «Русский Инвалид» за 1905 год. Потым доўга пілі гарбату, цешачыся да прыкрасці цукрам. Праўда, ад цукру пахла мылам, але гэта была невялікая ганьба — толькі б было соладка. Ядзя была так здавольна, што нават пачала напяваць нейкі вясёлы матыў без слоў, чаго ўжо даўно не было чуваць ад яе. Гэта яшчэ больш узняло настрой Гукоўскага, і ён, не доўга чакаючы, вынес з спальні гітару, усю пакрытую павуцінаю і пылам, але яшчэ з цэлымі струнамі. Некалькі хвілін, і затрэнькаў кракавяк, які так падабаўся калісьці Ядзі і за якім Гукоўскі прызнаваўся ёй у сваім каханні. Ядзя сперш ківала ў такт галавою, паварухвала плячмі, а потым не вытрымала і пусцілася скакаць. Муж крыху быў нездавольны гэтым, бо баяўся, каб не чутно было тупату знадворку, але Ядзя была так захоплена скокам, што яму самому стала завідна, што нельга скакаць.

— Ведаеш што, зайграй мне мазурку Вяняўскага,— прапанавала, прыпыніўшыся, Ядзя.

Гукоўскі сперш спрабаваў паціху, успамінаючы матыў, а потым зайграў як следуе, сам захапіўшыся гучнымі акордамі. Ядзя з зачырванелым тварам, лёгкая, як семнаццацігадовая дзяўчына, насілася па пакоі, зграбна спраўляючыся з перашкодамі цеснаты яго.

— Бразь!..

Ні Гукоўскі, ні жонка не прыпыніліся. Апошняя з усё ўзрастаючым пэнтам аддавалася захапляючым гукам музыкі і задорна-вясёлым скокам.

— Тук, тук, тук...

Мазурка абарвалася.

Ядзя, раптам спыніўшыся, стаяла пасярод пакоя і недаўменна пазірала на мужа. Гукоўскі ціха на насках, быццам баючыся каго пабудзіць, панёс у спальню гітару, але па дарозе моцна стукнуў нагою, зачапіўшыся аб шафу. Гэты стукат вывеў з стаўбняку Ядзю.

— Вось і даскакалася,— прамовіла яна, ледзьве пераводзячы дух ад напружанасці прыслухацца к таму, што рабілася знадворку.

— Нам трэба маўчаць і не адклікацца,— параіў Гукоўскі, выходзячы з спальні.— Пастукаюць, пастукаюць ды пойдуць, падумаўшы, што нікога ў доме няма.

Але і сам Гукоўскі, мусіць, сказаў гэта, не ўзважыўшы сваіх слоў. Ён стаяў каля выходных дзвярэй і напружана прыслухоўваўся. Праз нейкі момант стукат у дзверы зноў раздаўся, і для іх ён здаваўся незвычайна моцным. І Гукоўскаму, і яго жонцы здалося, што ломяць дзверы.

— Што ж рабіць, Максім?

— А ці ж я ведаю? — на запытанне адказаў запытаннем Гукоўскі.

— Ты ніколі нічога не ведаеш, а яшчэ мужчына! — з жорсткасцю праказала Ядзя.

Гукоўскі нічога не адказаў і пачаў нервова хадзіць па пакойчыку. Малюнкі самыя непрыемныя адзін за другім

праляталі ў яго галаве. То яму здавалася, што вось праз хвіліну разломяць дзверы і заб'юць і яго і Ядзю; то перад ім усплывала магчымасць якога-небудзь неладу альбо хібы па службе, а разам з гэтым і арышт; альбо, можа, быў які-небудзь падлог з гэтым засведчаннем на кватэру і цяпер да яго накіравалі каго...

Стукат, ужо ў акно, раздаўся яшчэ мацней. Гукоўскі ўвесь затросся ад страху і прыпыніўся на месцы. Здавалася, яшчэ раз няхай бразне за акном — і Гукоўскі не вытрымае, страх яго задушыць.

— Ядзя, а Ядзя! Ідзі запытайся, што ім трэба,— не сваім голасам папрасіў ён жонку.

Ядзя сперш хацела накінуцца на мужа, але бачачы яго-ны твар і ўсю постаць, яна махнула рукою і з выглядам ахвяры пайшла ў сенцы.

— Хто там?

— Чырвонаармейцы! Пусціце пераначаваць.

Ядзя з пабляднеўшым ад злосці тварам уляцела ў пакой.

— Ніколі я не пушчу іх, не! Гэтае парцянае войска, ведаю я яго! Не, не пушчу! — крычала яна, ужо ніколькі не сутрымліваючыся.

Гукоўскі, спалохаўшыся, што выкрыкі жонкі чутны знадворку, пачаў прасіць яе супакоіцца і гаварыць цішэй. Але Ядзя была не з тых, хто даваўся лёгка на ўгаворы. Яна гнеўна насілася па пакойчыку і не магла без злосці зірнуць на Гукоўскага.

— Ну, супакойся ж, Ядзя,— прасіў муж.— Трэба пусціць чырвонаармейцаў, бо можаш іначай толькі больш бяды набрацца.

— Пусціць, пусціць! — перадражніла яна.— Я — шляхцянка, мая маці шляхцянка, і бацька шляхціц! Я маю свой гонар — не хачу жыць разам з нейкімі абарванцамі.

— Ціха, ціха! Жыць жа яны не будуць у нас, а толькі пераначуюць. Пусцім.

— Нізавошта!

— Адчыніце вы ці не? — раздаўся пад акном голас.

Гукоўскі ўздрыгнуў, нібы яго хто ткнуў шылам у бок. Ён ужо не мог сутрымацца і рашуча пайшоў у сенцы. Ядзя крыкнула яму ўздагонку, каб ён адмовіўся пускаць, паказаў сваё засведчанне з Камгаса, але праз хвіліну ў калідорчыку ўжо стаялі два чырвонаармейцы.

— Добры вечар... таварышы. Сядайце пакуль што, да кіньце свае торбачкі — нябось вы змарыліся. У нас тут не ўсё было ў парадку, каб прыняць чужых людзей,— шпарка і прыветна сустрэла Ядзя гасцей.

— Дзякуй, гаспадыня,— адказаў адзін з чырвонаармейцаў.

— Мы, ведаеце, маем засведчанне ад Камгаса, што ніхто не мае права ўсяляцца да нас, але чырвонаармеец — гэта іншая справа: ён столькі пакутуе, што трэба заўсёды дапамагчы яму. Адна толькі бяда, што недзе ў нас вам прытуліцца — надта ўжо малы наш дамок.

— Э, ноч як-небудзь пераначуем, абы не на дварэ,— згодліва адказаў адзін ■ увайшоўшых.

— Ну, а калі так, то я вам пакажу, дзе вам можна супачыць.

Ядзя руплівa ўзяла лямпу і правяла чырвонаармейцаў у маленькую баковачку каля кухні, дзе складалася ўсякая рухлядзь і куды, апроч мышэй, ніхто ніколі не заглядаў. Чырвонаармейцы, змораныя, азябшыя, былі здавольны і гэтым і шчыра дзякавалі ласкавую гаспадыню. У Ядзі нават была думка падаць ім гарбаты, але, раздумаўшыся, яна парашыла, што няма чаго паказваць свой дастатак, калі яны такія абходныя і зусім не палохаючыя людзі.

Гукоўскі быў надта здавольны тым, што так добра ўладзілася справа. Яшчэ больш ён быў рад таму, што сам выйшаў адчыняць дзверы і ў змроку не відаць было гузікаў і кантаў яго форменнае жакеткі, якую ён скінуў тут жа ў сенцах, як толькі прапусціў чырвонаармейцаў. Як толькі апошнія зачыніліся ў бакоўцы, Гукоўскі, як кошка, кінуўся за сваёю жакеткаю і хутка схаваў яе ў куфэрак. Усё ўладзілася, і ў яго пачаўся зварот звычайнага настрою. У Ядзі ж

яшчэ доўга былі расшыраны ноздры і падымалася то адна, то другая брыва. На мужа яна не магла зірнуць спакойна і чуць зноў не ўсчаўплася, пабачыўшы яго ў адной сарочцы, без жакеткі. Але ён так палахліва паглядзеў, што Ядзя не пасмела падымаць сварку.

У гэтую ноч ні Гукоўскі, ні яго жонка не звялі і вокам. Абаім здавалася, што варта ім заснуць, як гэтыя чырвонаармейцы заб'юць, абрабуюць альбо спаляць дом і іх разам з ім. Ядзя з балючаю галавою ад бяссоння цэлую ноч упікала мужа за тое, што ён, спалохаўшыся, пабаяўся не пусціць у дом гэтых непрыемных людзей; што ён нічога не варты, як мужчына, што ўся яго служба — дрэнь, дрэнь таксама ўсялякія засведчанні. Чым далей, тым болей — і пад раніцу Ядзя апавясціла, што яна паедзе да сваіх бацькоў, што не хоча жыць далей з такім мужам. Гукоўскі адчуваў сябе нібы пабіты сабака: ці ж не з лепшымі намерамі ён усё робіць, ці ж не імкнецца ўсё абсталяваць ціха, каб абмінуць якое-колечы напасці ў гэтыя смутныя часы. А тут — на табе. Жонка за гэта паграджае яму расстаннем! Ён ляжаў і ні словам не адказваў жонцы, баючыся яшчэ больш падліць масла ў агонь...

У бакоўцы ўсё было ціха. Чырвонаармейцы спалі, не чулі, як мышы спацыравалі ў іх па плячах, не ведалі, што там, у спальні, з-за іх развінаецца драма.

Пачынала світаць. Мышы пахаваліся ў свае куткі, у маленечкае аконца бакоўкі заглянуў першы прамень сонца. Адзін з чырвонаармейцаў пацягнуўся і зачапіў нагою за нейкую дошку ў кутку бакоўкі. Дошка паваліпася, нарабіўшы стукату на ўвесь дом. Чырвонаармейцы ачнуліся і пачалі збірацца ў дарогу, а Гукоўскія замерлі ад страху. Ачухаўшыся, яны таксама пачалі ўставаць.

— Ну, дзякуй вам за начлег,— сказаў чырвонаармеец, ужо зусім апрануты.— А вось гэта вы закіньце куды-небудзь падалей, а то яшчэ бяда якая будзе.

Чырвонаармеец падаў Гукоўскаму два ствалы ад паляў-

нічага ружжа, якія стаялі ў кутку бакоўкі за дошкаю, што сваім стукатам так напалохала гаспадароў.

— Бывайце здаровы, яшчэ раз дзякуй,— сказалі чырвонаармейцы, выходзячы за дзверы.

## II

Каб у хаце разарвалася бомба, яна б, мусіць, зрабіла не большы спалох, як гэтыя ржавыя, нікому не патрэбныя і нікольні нястрашныя ствалы. Гукоўскі стаяў над брудным жалезам, пазіраў на яго, як на нешта ўсцішнае. Ядзя нават не варухнулася пайсці зачыніць дзверы за выйшаўшымі чырвонаармейцамі. Чырванаватыя ствалы, здавалася, гіпнатызавалі іх абодвух.

— Адкуль яны ўзяліся, Ядзя? — ледзьве пераводзячы дух запытаўся Гукоўскі.

— Я ў цябе запыталася б аб тым.

Справа такім чынам не зрабілася больш лёгкаю ад гэтых сустрэчных запытанняў. Ствалы ляжалі на падлозе пасярод пакоя, і трэба было што-небудзь зрабіць з імі. Гукоўскі ламаў сабе галаў над гэтым, але ніяк не мог запыніцца над канчатковым планам. Можна было закапаць гэтае страшнае аружжа, можна схаваць у комін ці пад падлогу, можна проста выкінуць на двор за дрывотню: калі хто знойдзе, дык няхай сабе робіць што хоча з такою знаходкаю.

Але ж на чым запыніцца?

— Што нам рабіць, Ядзя, з гэтаю брыдою? Вось не было клопату на галаў!

— Ты іх прывалок, ты і думай, што рабіць,— адказала Ядзя.

— Ды адкуль я іх прывалок? Яны тут, можа, ліха ведае з якога часу валяюцца, ды чые яны, таксама не даведаешся. Але ж так ці іначай, а трэба збыць іх з галавы, каб ніхто не ведаў.

Гукоўскі пачаў збірацца на службу, жонка гатавала снеданне, але думкі іх круціліся над адным пытаннем, як ім

звольніцца ад гэтага аружжа. Селі снедаць, а Гукоўскаму і лыжка ў рот не лезе. Яму ўжо здавалася, што чырвонаармейцы проста ад яго дому пайшлі да каменданта і зрабілі заяву, што ў грамадзяніна Гукоўскага, у Маркаўшчыне, маецца аружжа. Яго, Гукоўскага, арыштоўваюць і садзяць у астрог. Ён з нянавісцю паглядзеў на ствалы і хацеў бы, каб яны рассыпаліся ў пясок ад аднаго погляду. Але яны ляжалі цэлымі і нібы ўсміхаліся шырокім ротам — шчылінаю ад затвору. Гукоўскі адвёў вочы ўбок і з яшчэ большаю напружнасцю пачаў думаць над тым, куды дзець ствалы.

— Вось што, Ядзя! — радасна сказаў ён, знайшоўшы выхад.— Я цяпер пайду на службу, ты ж зачынішся наглуха ў хаце і да вечара зрабі доўгі вузкі мяшок, у які мы паложым гэтае паскудства, дасыплем пяском, зашыем — і сёння ноччу кінем у Дзвіну.

Ядзя не супярэчыла. Гукоўскі выйшаў з дому засмучаным, на ганку паглядзеў ва ўсе бакі і наказаў жонцы, каб яна нікога не пускала ў дом, аж пакуль ён сам не звернецца.

Гукоўскі цэлы дзень не мог валодаць сваімі думкамі. Ён па некалькі разоў чытаў адну і тую паперу, але ніяк не спраўляўся з яе сэнсам. У галаве яго ўсё стаяла гэтае паганае ружжо. Часам яму здавалася, што ў доме там робяць вобыск, што Ядзю ўжо заарыштавалі, што яму няма чаго варочацца дадому. Нават позіркі сваіх сяброў, што прыходзілі да яго па той ці іншай справе, здаваліся яму варожымі: кожны з іх нібы хацеў сказаць, што ведае аб аружжы, але пакуль што маўчыць. «Ім нічога не значыць,— думаў Гукоўскі,— пайсці і сказаць, што ў мяне маецца такая забароненая рэч, як аружжа — і тады... тады я прапаў». Пад уплывам гэтых думак Гукоўскі адварочваў твар у акно, як толькі хто падыходзіў да яго. Бліжэйшыя яго таварышы прыкмецілі гэтую незвычайнасць і пачалі пытацца ў яго, што з ім зрабілася.

— Нічога, зубы, на іх ліха, баляць — аж слёзы на вочы выганяюць,— адказаў ён на такія запытанні.

У гэты дзень Гукоўскі першы раз не спяшаўся пакінуць

Саўнаргас. Ён нават быў надта нездаволены, як гадзіннік прастукаў чатыры разы. Доўга збіраў ён свае паперы, некалькі разоў без патрэбы адмыкаў і замыкаў шафу, адшпільваў і зашпільваў партфель, быццам забыўся ўсё палажыць у ім. Але ж як-ніяк трэба было ісці дадому. Дарога туды доўгая, але Гукоўскаму хацелася б лепей ісці да Астроўны, чымся ў Маркаўшчыну...

Але дома нічога не страслося, як чакаў Гукоўскі. Ядзя спакойна займалася звычайнымі хатнімі справамі, і толькі трэск жарствы пад нагамі ў сенцах мог напомніць аб ранішнім.

— Ну, як ты там зрабіла?

Не адказваючы, Ядзя пайшла ў спальню і выцягнула з-пад ложка вузкі, як каўбаса, парцяны мяшок, спрытна зацураваны з абодвух канцоў.

— Я толькі не разумею, на ліха гэты мяшок і пясок: можна і так кінуць у раку, усё роўна жалеза патоне,— сказала Ядзя.

— А як жа ты панясеш? Усякі, хто выпадкам сустрэнецца, можа затрымаць, а так, як мы зрабілі, трудна будзе каму здагадацца, у чым справа: мала што там у мяшку.

Ядзя згадзілася з такім тлумачэннем і больш не пыталася аб справе, датычнай аружжа.

Як быццам умовіўшыся, яны абое не заводзілі гутаркі па гэтым пытанні. Гукоўскі не палуднаваў. Ён лічыў хвіліны, якія цягнуліся так доўга, як гадзіны. Чакаць жа трэба было доўга, бо ў мэту яго не ўваходзіла сустрэць каго ці на вуліцы, ці на беразе. Чым пазней ён панясе мяшок, тым больш надзеі на таемнасць справы.

Сцямнела. Гукоўскі не раз выходзіў на ганак і прыслухоўваўся, ці ходзіць хто па вуліцах. Але ніякага руху там не было, толькі дзе-нідзе забрэша сабака. Гукоўскі быў рад, што яго план блізкі да выканання і што няма ніякіх перашкод.

Прайшла восьмая, дзевятая гадзіна. Трэба было б яшчэ трохі пачакаць, бо час быў не надта позні. Але Гукоўскаму

ніяк не трывалася. Ён ужо даўно апрануўся і паставіў у куток каля дзвярэй сакраментальны мяшок. Толькі Ядзя прыпыняла яго, лічачы, што лепш яшчэ пачакаць хоць з гадзіну.

— Ядзечка, ты выбачай мяне, што я ў цябе папрашу: ці не пайшла б і ты са мною? — асцярожна запытаўся Гукоўскі ў жонкі.

— Каб і я пайшла?.. Ну, добра, калі табе трэба,— разважна адказала Ядзя.

— Не, не! Я ўжо адзін спраўлюся,— вінавата сказаў муж, бачачы, што пакрыўдзіў жонку сваёю просьбаю.— Не, ты заставайся дома, гатуй вячэру: я вярнуся, і мы спакойна і весела, як учора, правядзём астатні час вечара.

Гукоўскі ўзяў мяшок, які праз сваю даўжыню быў надта няздатным для нясення. Дзверы за Гукоўскім зачыніліся на ўсе крукі і ланцужкі. Азіраючыся, як шкадлівая жывёла, ва ўсе бакі, ён ціха пайшоў па вуліцы. Замерзшыя з вечарам калюжынкі на кожным кроку палохалі яго звонам паламанага нагою лёду. Гукоўскаму пры кожным трэску апошняга здавалася, што хтосьці ідзе за ім па пятах. Ён боязна азіраўся, але там нікога не было, а можа, ішоўшы хаваўся каля плота. Так з безупынным страхам і асцярогаю ён пасоўваўся ўсё бліжэй да берага Дзвіны. Яшчэ заставалася прайсці толькі адзін заселены квартал, і там ужо можна было лічыць сябе забяспечаным ад усякага дрэннага здарэння. Але раптам дзесьці бразнулі вароты і па дашчаным тратуары застукалі чыесьці крокі, якія ўсё былі бліжэй ды бліжэй. Гукоўскі не ведаў, што яму рабіць: уцякаць — можна падумаць, што ён злодзей, і тады за ім пусцяцца ўздагонку; застацца на месцы — таксама боязна. Але ў бядзе прыходзіць рашучасць: Гукоўскі перакінуў цераз плот свой мяшок, а потым і сам пераскочыў за ім і прытуліўся каля слупа. Крокі прахожага ўжо параўняліся ■ прытулкам Гукоўскага. Апошні затаіў дух, але тут — трэсь лёд. Гукоўскі задрыжаў з галавы да пят, абамлеў. Прахожы на хвілінку прыпыніўся, а потым пайшоў далей.

6 Зак. 3777

Гукоўскі доўга чакаў, пакуль не сціхла ўсё, потым хутка пералез на вуліцу і шпарка пусціўся па касагоры ўніз да ракі. Вось і яна, усяго якіх-небудзь дваццаць-трыццаць крокаў. Гукоўскі прыпыніўся і перавёў дух. Вада невялічкімі хвалькамі наскоквала на бераг, чуць-чуць плёскаючы ў жарстве і каменьчыках.

Унізе, пад стромым берагам не відаць было ні Маркаўшчыны, ні наогул чалавечага жылля. Перад Гукоўскім была шырокая стужка вады, якая ўбірала ў сябе водблескі зорак і нібы дрыжала ад страху страціць іх. З другога боку ракі нёсся ціхі крокат качак, якія, мусіць, нядаўна прыляцелі з далёкіх краёў і яшчэ не паспелі разысціся з свае грамады. Калі-нікалі праплываў адзінокі кавалак лёду, які пляміў цёмна-сіняе люстэрка вады. Зоркі хаваліся за ім, а потым трапечуча-вясёлыя зноў блішчалі з бяздоннай глыбі. Край неба на ўсходзе з цёмна-сіняга зрабіўся малочна-блакітным — і аднекуль з-пад зямлі выкаціўся месяц, кінуўшы блішчасты слуп цераз усю шыр магутнай ракі.

На Гукоўскага сышоў спакой, такі шырокі, як рэчка вясною. Перад тым малюнкам велічнасці, які быў перад яго вачамі, яго сённяшні неспакой, пужлівасць паказаліся яму досыць мізэрнымі і смешнымі. Чаго яму клапаціцца так аб нейкім брудным кавалку жалеза? Кінуць яго дзе папала — ды і ўся тут справа. Кінуць? Ага, яму трэба ўсё гэта кінуць у ваду. Ну, дык добра, ён жа за гэтым і прыйшоў сюды.

Ён ужо падышоў да самага берага так, што вада была цалі дзве-тры ад яго бота. Узяўшы аберуч мяшок за канец, ён ужо хацеў размахнуцца і падалей ад берага кінуць яго. Але тут думка, якая ўперад не прыходзіла яму ў галаў, затрымала яго рукі.

— Можа, ужо чырвонаармейцы заявілі, што ў мяне ёсць аружжа. Як жа я адкажу, калі б прыйшлі ка мне яго шукаць: ніхто ж не паверыць, што я кінуў яго ў ваду, а падумаюць, што схаваў, як патрэбнае.

Пры гэтай думцы зноў усё пераблыталася ў галаве Гукоўскага. Куды яму дзець гэты злыдны агрызак стрэльбы?

Кінуць яго дзе папала альбо схаваць ніяк нельга: пачнецца следства, допыты, а там выкручвайся. Адзіны спосаб — гэта проста панясці да каменданта і здаць яму. Але слова камендант, якога ён ніколі не бачыў, так спалохала яго, што яму стала аж нядобра ў нагах. Камендант маляваўся яму нейкім звышчалавекам, караючым усе праступкі, усё ведаючым, не маючым чалавечае жаласці. Пайсці на вочы да гэтага чалавека Гукоўскі не адчуваў сябе моцным.

Доўга стаяў ён каля вады, думаў, бадзёрыў сябе, але не мог сказаць, што заўтра ён будзе ў магчымасці развязацца з гэтаю нечаканаю бядою, якая павінна быць скончана самым простым і адзіна магчымым способам — праз здачу ружжа ў камендатуру. Зрабіўшы вывад аб апошнім, Гукоўскі павярнуўся ад рэчкі і пачаў узлазіць наверх. Ішоў ён дадому ўжо без усякае асцярожнасці, і на гэты раз ні жывое душы не трапілася яму насустрач.

Ядзя не паверыла сваім вачам, угледзеўшы каля дзвярэй мужа з мяшком. Яна турзанула яго за рукаў, каб хутчэй уваходзіў у дом.

— Што з табою страслося, што ты так доўга прабыў там і не кінуў гэтае брыды? Навошта ты прывалок яго сюды?

Гукоўскі нічога не адказаў жонцы і прайшоў у «габінэт». Ядзя, не столькі сярдзітая ад няўдачы мужа, колькі яго маўклівасцю, разышлася як мае быць. Яна называла яго зайцам, авечкаю і ўсякімі іншымі непрыемнымі словамі. Гукоўскі маўчаў, адчуваючы праўду ў жончыных упіканнях. Але ж ён не вытрымаў.

— Ты вось усё лаешся, а нават і не падумаеш, чаму я не развязаўся з гэтаю бядою. Я цябе ж пашкадаваў. Ты ведаеш, што магло б быць, калі б я кінуў у ваду мяшок: прыйшлі б заўтра альбо паслязаўтра шукаць аружжа; яго няма — а дзе яно? Нічога не скажаш, значыць, схаваў.— Ну, дык развязвайся тады як хочаш. Я... я ж цябе шкадую, кажаю, дык ці ж пакіну я цябе праз гэтую няшчасную выпадковасць?

— Ну, а як жа ты думаеш развязацца ўсё ж такі?

— Вось што трэба зрабіць. Быў загад здаць усё аружжа каменданту, мы і здамо яго як следуе. Тады, па крайняй меры, ніякай падазронасці не будзе на нас ляжаць.

— Каменданту? А хто ж туды пойдзе?

— Я так думаю, што табе лепш пайсці. Ты, кабета, гаспадыня — знайшла там заваляшчую стрэльбу, дык вось і прынесла: вазьміце, калі ласка. Возьмуць у цябе, ніякае ўвагі не звернуць як на кабету. Я ж савецкі служачы, былы чыноўнік, дык падумаюць, што я немаведама з якою мэтаю трымаў аружжа.

Ядзя прыкусіла губы. Ёй надта не спадабалася прапазіцыя мужа: чаму гэта ёй, шляхцянцы, прыходзіцца ісці да нейкіх там камендантаў з мужыкоў; чаму гэта сам муж не хоча зрабіць гэтага. Ён, мусіць, шкадуе сапсаваць свой гонар, дык у яе ён таксама ёсць. Каб яшчэ з чым іншым пайсці, а то цягніся ліха ведае куды з гэтымі нязграбнымі жалезінамі. Потым Ядзю асвятліла думка, што муж проста палохаецца сам несці. Каб ён быў смялейшы, дык ён вось цяпер не прынёс бы мяшок дадому: кінуў бы ў ваду, а там было б відаць, што зрабілася б далей. Гэтая думка настроіла Ядзю зусім варожа да Гукоўскага. Яна доўга думала, а потым прамовіла:

— Не пайду я да каменданта! Калі табе трэба, дык можаш сам несці стрэльбы.

На другога чалавека такая жаночая заява магла б зрабіць два ўплывы: ён ці стаў бы яшчэ больш упарта дамагацца свае мэты ў першым напрамку, альбо гэткая заява была б тою пугаю, якая падагнала б яго самога. Але Гукоўскаму ні тое, ні іншае не ляжала ў яго натуры. Ён проста лішні раз спалохаўся ў сваім жыцці: раней ён палохаўся думкі пайсці да каменданта, а цяпер ён баяўся, што жонка будзе злосная. Дзеля гэтага яму не было чаго больш казаць Ядзі, і ён, як аплёваны, паплёўся ў каморку-спальную. Лёгшы не распрануўшыся, ён першы раз пачуў сябе зусім адным на свеце. Нават у той час, як ён сабатажыў, не было так дрэнна на сэрцы, як сёння; тады хоць жонка заўсёды была

на яго баку. Цяпер жа, відаць, яму аднаму прыйдзецца вытрымаць гэтую перадрагу. Супраць Ядзі нічога варожага ў яго не было, але не хацелася больш гаварыць з ёю.

Ядзя доўга ўбіралася па гаспадарцы, нібы знарок не жадала падысці да мужа. Злосць яе ўжо адышла, але тое, што яна сказала, паставіла нейкі рубеж між мужам і ёю. Яна чула, што перайсці цераз гэтую мяжу будзе трудна альбо і зусім немагчыма. Шкадаваць ці не аб гэтым — яна не ведала, бо не магла даць сабе адказу на тое, што за чалавек яе муж. Да апошніх часоў яна ведала яго як чыноўніка, які спадабаўся ёй сваёю далікатнасцю ў параўнанні з засцянковымі шляхцюкамі. Яго ж палахлівасць, боязнасць усяго, што стаяла вышэй альбо што пагражала яму, стала ёй паказвацца толькі ў апошнія часы і асабліва яскрава абрысавалася сёння. Ядзя мімавольна паставіла пытанне: што варт яе муж? Гэтае пытанне ўжо нарыхтоўвае крок чалавека ў той ці іншы бок, але ніколі не пакідае яго на тым самым месцы. Ядзя не дала сабе адказу ў гэты вечар, але пытанне стаяла перад ёю і не выходзіла з яе галавы.

Ноч праходзіла не ў лепшым настроі, як і папярэдняя. Гукоўскаму ўсё здавалася аблава, вобыск і іншыя непрыемныя здарэнні. Да жонкі ён не звярнуўся ні адным словам, баючыся яшчэ больш раззлаваць яе. Ядзя зусім забылася аб стрэльбах і ўсё ламала галаў над засеўшым там пытаннем аб вартасці чалавека, які ляжаў так блізка ад яе... Ну, але ўсяму бывае канец: скончылася і ноч.

Раніцаю ўсё пайшло звычайна. Звычайна Гукоўскі пайшоў на службу, нібы забыўшыся аб тым, што клапаціла яго ўчарашні дзень і ноч. Толькі выйшаўшы на вуліцу, ён пільна прыглядзеўся ў абодва канцы і потым хуткім крокам пайшоў па сваёй дарозе.

Ядзя з злоснаю насмешкаю паглядзела ўслед мужу і праказала самой сабе:

— Знарок прыкінуўся спакойным, хутчэй пайшоў на службу, абы яшчэ хоць на дзень-два адцягнуць патрэбу ісці, куды сам выдумаў. Ну, добра, пачакай.

Яна пачала апранацца, а потым распарола мяшок і высыпала адтуль жарству.

Выйшаўшы на вуліцу з абматанымі зрэбнінаю ствaламі, Ядзя некалькі разоў павінна была прыпыняцца, каб даць тлумачэнне цікаўным суседкам, якія, пабачыўшы незвычайнае формы звязак, дапытваліся, што гэта такое. Адна нават запыталася, пачом яна плаціла і дзе дастала цяляціну, думаючы, што Ядзя нясе цялячую нагу. Яна нават стала раіць Ядзі, дзе лепш прадаць, калі яна нясе мяса ў горад. Ядзя была надта збянтэжана ўсімі гэтымі запытаннямі, бо не ведала, што адказваць. Адным яна казала, што нясе на продаж маладыя прысады, якія пакінуў ёй бацька, другім — што нясе ў горад правіць рознае гаспадарчае начынне. Але ніхто ёй не верыў, і таму Ядзя ўвесь час ішла, як з чымсьці крадзеным.

Каля моста цераз Дзвіну яе запынілі два чырвонаармейцы, якія запыталіся, што яна нясе. Ядзя ўся пачырванела ад недаўменнасці, што адказаць. Сказаць праўду ёй шкодзіў нейкі страх, які ўжо быў пасеяны ўчора; адказаць жа так, як яна адказвала маркаўшчынскім суседкам, не дазваляў сэнс. Так яна стаяла каля моста, апусціўшы вочы, і трымала пад пахаю сваю таемную маёмасць. Гэтая незвычайнасць зацікавіла вартаўнікоў-чырвонаармейцаў.

— Дык што ж вы нясеце, грамадзянка? — запытаўся яшчэ раз адзін.

— Ружжо! — выпаліла раптам Ядзя.

— Ружжо?! Куды ж вы яго нясеце?

Увесь спалох сышоў з Ядзі. Яна пусцілася падрабязна паведамляць сваім шпаркім языком усе абставіны знаходкі гэтае страшнае рэчы. Каля чырвонаармейцаў і Ядзі сабралася ўжо шмат прахожых, зацікаўленых тым, які выпадак можа здарыцца з чалавекам. Гандляркі з кошыкамі, мужчыны з партфелямі — усе прыпыняліся і хацелі даведацца, у чым тут справа.

— Пакажыце ваша аружжа,— сказаў чырвонаармеец, якому ўжо абрыдала слухаць доўгую рэч Ядзі.

Ядзя пачала разгортваць канец абмоткі. Бабы, што стаялі вакол, боязна адступіліся назад на некалькі крокаў, не спускаючы вачэй са страшнага звёртку. Чырвонаармеец глянуў на канец ствала, які ўжо быў відаць з абмоткі, усміхнуўся і сказаў:

— Ідзіце! Можаце схаваць сваё аружжа.

— Я нясу здаваць яго каменданту.

— Як сабе хочаце, гэта ваша справа.

Ядзя так і не зразумела, як ёй трэба рабіць. Чырвонаармеец адышоў ад яе і пачаў хадзіць перад мостам, наглядаючы за парадкам. Ядзя абвінула зноў сваю ношу і пайшла ў горад да каменданцкае ўправы.

Падыходзячы да дому, дзе змяшчалася ўправа каменданта горада, Ядзя так і не ведала, ці ёй трэба ісці, ці не. Яшчэ да моста ўсё было ясна, а там гэты недарэчны чырвонаармеец збіў з панталыку. «Як сабе хочаце»,— добра сказаць: можа, і не трэба несці гэтыя абломкі, а можа, калі не здасі, дык бяды набярэшся. Ліха яго ведае!

Але ўсё ж яна ўвайшла ў шкляныя дзверы, не паспеўшы даць сабе той ці іншы адказ. У першым пакоі, дзе апынулася Ядзя, стаяла некалькі ўслончыкаў паўз сцены, у кутку былі нейкія невядомыя драбінкі, у якія натыканы былі вінтоўкі са штыкамі. Чалавек пяць-шэсць чырвонаармейцаў сядзелі то там то сям каля запэцканых чарнілам столікаў і нешта пісалі. Ядзя крыху атарапела ад казарменнага выгляду памяшкання і не ведала, што ёй рабіць.

— Выбачайце,— ціха і ні да каго не зварочваючыся, сказала Ядзя,— хто будзе камендант.

— А нашто вам патрэбен камендант? — запытаўся адзін чырвонаармеец, над якім на сцяне было напісана «дежурный».

— Мне... мне трэба здаць яму аружжа,— адказала Ядзя і аж уся пачырванела.

— Ну, дзеля гэтага не трэба турбаваць таварыша каменданта. Вось вам паперка, на якой вы напішаце адказы на ўсе запытанні, а потым аддасце сваё аружжа.

Ядзя ўзяла лісток у чвэртку аркуша, прачытала, што гэты лісток завецца анкета. Потым ужо пайшлі ўсякія падрабязныя запытанні: як імя і прозвішча, калі ды дзе нарадзілася, чым займаецца, як і з кім жыве, адрас, ды гэтак далей — запытанняў каля трыццаці альбо і больш. Ядзя дзівілася, дзеля чаго гэта пытацца аб такіх нецікавых рэчах. Але, мусіць, усё гэта трэба, закон такі. Яна прысела за адзін з столікаў і таўсцеразным пяром, якім ужо, можа, пісалі з год, пачала старанна выводзіць усе весткі, якія трэба было ўлажыць у гэтую маленькую паперачку. Траплялася, што ёй не хапала вольнага месца ў радку, і яна доўга ламала сабе галаў, як ёй лепш напісаць, каб было зразумела, што яна займае і чародны радок адказам на папярэдняе запытанне. Пісаць яна дамагалася як найлепш — вядома, афіцыяльная папера, а ёй толькі раз на яе жыцці прыходзілася пісаць важны ліст: гэта як яна скончвала Докшыцкую школу.

Напаследак уся анкета запоўнена; яна зрабілася нават залішне поўнаю, бо з кожнага боку было падвойнае пісьмо. Ядзя, здаволеная тым, што сама справілася з «казённаю» папераю, падала яе дзяжурнаму.

— Слухайце, што ж гэта вы тут напісалі? — запытаўся той.— Тут ніколі не разбярэш, бо што напісана на ніжняй старонцы, перайшло на верхнюю — і наадварот.

Як на грэх, у гэтую хвіліну ўвайшлі ў памяшканне іншыя людзі, між якімі была і адна знаёмая Ядзі, якая часта хвалілася тым, што вучылася ў Віленскім жаночым вучылішчы. Пачуўшы такую ганьбу ад нейкага чырвонаармейца ды яшчэ пры людзях, а найгорш усяго — пры пані Дарашкеўчысе, Ядзя не магла ўтрымацца.

— Як — што я напісала? Калі вы непісьменны чалавек, дык няма чаго займацца такімі справамі, якіх вы не разумееце,— адрэзала яна чырвонаармейцу.— Вось,— звярнулася яна да свае знаёмае,— насадзілі тут гэтых невучоных мужыкоў ды кпяць над паважнымі людзьмі.

— Грамадзянка, няма чаго дарэмна разыходзіцца. Што

вы тут напісалі, як-небудзь разбяром. Давайце ваша аружжа! — прапанаваў дзяжурны чырвонаармеец.

Ядзя падняла ўверх свой звязак і разгарнула зрэбніну, якою былі абвінуты ствалы стрэльбы. Усе з зацікаўленнем глядзелі, што гэта будзе за аружжа.

— Карабін! — шэптам гаварылі адзін другому прысутныя.

— Французская мітральеза,— насмешна сказаў чырвонаармеец, угледзеўшы ржавыя ствалы паляўнічае дубальтоўкі.

— Ну, вось! — Ядзя зусім зняла палатно, і перад усімі быў абломак стрэльбы.— Цяпер пусціце мяне да самога каменданта: няхай прыме аружжа і выдасць уласную распіску.

— Да каменданта? З гэтым смяццём? — пакаціўся са смеху вясёлы хлопец за сярэднім сталом.— Камендант падумае, што яму цётка трохцалёвую пушку прывалакла! Во быў бы падарунак!

Ядзя трымала брудную жалезіну ў працягнутай руцэ і вачэй не падымала на смех, які стаяў вакол яе.

— Што ж мне рабіць з ім? — напаследак запыталася яна.

— Давайце сюды!

Чырвонаармеец прыняў у Ядзі яе смертаносную начыніну і кінуў у куток за печ, дзе стаялі бярозавыя венікі і куды падмецена была куча смецця.

— А распіску вы мне дасцё?

— Добра!

Ядзя атрымала на вузенькай палосцы паперы распіску і хутчэй выйшла на вуліцу, нават не развітаўшыся з паняю Дарашкеўчыхаю. На сэрцы ў яе было надта нядобра. Уся гэтая гісторыя са стрэльбаю цяпер і самой ёй здавалася смешнаю, але кепска было адчуваць, што яна сама зрабілася разам пасмешышчам для людзей. Толькі апынуўшыся на вуліцы, Ядзя зразумела, як нікуды нягодныя абломкі зрабіліся ў вачах яе і мужа такім страшным аружжам. Гэта ніхто іншы, як яе Максім, з яго палахліваю душою, перарабіў

спарахнелы кавалак жалеза ў такую рэч, якая валодала ўсімі іх думкамі на працягу двух дзён. Які ж ён пасля гэтага чалавек? Што ён за мужчына, калі сваёю недарэчнасцю прымусіў жонку ісці немаведама куды, слухаць кпінкі над ёю гэтых недалікатных чырвонаармейцаў?

Ядзя чым бліжэй падыходзіла да свайго дому, тым больш абуралася супраць мужа. Прыйшоўшы дадому, яна не зачыняла, як заўсёды, на ўсе застаўкі дзвярэй, не наводзіла парадку, а то сядзела, то стаяла нерухома і ўсё думала аб сваім мужу. Першы раз у яе зарадзілася думка, што яна зрабіла абмылку, звязаўшы свае жыццё з Гукоўскім. Але якіх-небудзь выразных вынікаў з гэтае думкі яна зрабіць не магла.

У звычайны час з'явіўся дадому і Гукоўскі. Як заўсёды, ён перш пастукаў і стаў чакаць, пакуль Ядзя адчыніць дзверы. Потым ён яшчэ раз пастукаў, але ніхто не ішоў насустрач. Гукоўскі быў надта здзіўлены гэтым, але ўжо зусім атарапеў, як дзверы самі адчыніліся, калі ён пастукаў мацней трэці раз. Ён нават адышоў ад ганка, думаючы, што ў дом залезлі чужыя людзі. Доўга ён не мог асмеліцца ўвайсці ў дом, малюючы сабе розныя жудасці. Але, напаследак, здагадаўшыся, што разбойнікі ўжо даўно наляцелі б на яго, калі б яны былі ў доме, ён, ціха крадучыся, пачаў пасоўвацца на ганак, а потым і ў самы дом.

Ядзя сядзела каля акна на вуліцу і нават не паварушылася, калі Гукоўскі апынуўся каля яе.

— Што, Ядзя, з вобыскам былі, знайшлі стрэльбу? — першаю здагадкаю яго было на ўсе тыя незвычайныя абставіны, якія ён знайшоў сёння дома.

— Не, нікога не было. Я стрэльбу здала каменданту,— працадзіла скрозь зубы Ядзя.

— Няўжо? І ты туды хадзіла, сама? — з нястрыманаю радасцю запытаўся муж.

— Сама! Хто ж пойдзе? У мяне муж...— яна не дагаварыла і адвярнулася зноў да акна.

Нягледзячы, аднак, на кепскі настрой жонкі, Гукоўскі стаў незвычайна жвавым і вясёлым. Ён сам пачаў гатаваць

полудзень, жартаваў, пытаўся ў жонкі, як гэта яна так расхрабрылася пайсці ў такое страшнае месца. Ядзя перш маўчала, а потым крыху разышлася і апавясціла ўсё аб тым, як яна здала стрэльбу, і перш за ўсё — аб анкеце.

— Як, як ты кажаш? Там ты сваё прозвішча і адрас запісала? — перабіў Гукоўскі жонку, як яна паведамляла аб тым, што пісала ў лістку.

— Ну але, запісала! Там так трэба было — па парадку,— адказала яна і пачала гаварыць далей.

Але Гукоўскі яе больш не слухаў, ды і слухаць не мог. У яго з рук вылецеў нож і хлеб, які ён рэзаў; твар змяніўся і пазелянеў, рот перасох, і горла не прапускала ніводнага слова.

— А-га-га...— прагакаў ён і затроссся, а потым, як мяшок, шуснуў на крэсла.

Ядзя не зразу зразумела, што сталася з яе мужам. Але гэта было толькі хвіліну. Яна ўспомніла смех над стрэльбаю ў камендацкай управе, смех над сабою, і цяпер сама расхаталася, як вар'ятка.

— Ох, спалохаўся! — скрозь смех гаварыла яна.— Зрабіў пугала з кавалка ржавага жалеза! На Дзвіну хадзіў тапіць! Раніцою цішком на службу ўцёк, спадзяваючыся, што Ядзечка справадзіць страшнае аружжа! Ну, што ж? Я справадзіла. Будзь рад... Ха-ха-ха!..

Але Гукоўскаму было не да смеху. Ён яшчэ не прыходзіў у сябе, твар быў скрыўлены, як быццам сківіцы саскочылі з месца. Праз некалькі хвілін ён сказаў:

— Выбачай, Ядзя, я пайду лягу — есці не хачу.

Ядзя правяла вечар адна, але ёй ужо не было маркотна без мужа.

## III

Справа з Гукоўскім пачалася зусім выпадкова, не мела ніякае значнасці, але потым яна зрабіла вялікі зварот у іх жыцці.

Пасля таго дня, як Ядзя пабыла ў камендацкай управе,

між ёю і мужам пачаліся іншыя адносіны. Тое пытанне, што запала ёй у голаў аб вартасці Максіма, як чалавека, усё часцей ды часцей надыходзіла цяпер на яе. Для Ядзі муж ужо зрабіўся нейкім чужым чалавекам, якога яна разглядала з вядомае далечыні. Яна прыпамінала ўсе з'явішчы іх супольнага жыцця, усе дробныя непаразуменні, якім раней не давала ніякае ўвагі, і перад ёю станавіўся нямоцны, нібы забіты зроду страхам чалавек. Апошні выпадак падмацоўваў вельмі яскрава гэты абрыс мужа. Чым болей Ядзя разглядала душу свайго мужа, тым больш яе захапляў сполах перад будучыняю.

Гукоўскі, нібы пабіты альбо спаганены кім, адчуваў сябе пры жонцы ўвесь час нядобра. Прыходзячы дамоў, ён стараўся міжвольна як найхутчэй зачыніцца ў сваім «габінэце». Уся яго быўшая экспрэсія кудысьці загінула. Раніцою ён таксама пачаў спяшацца на службу і выходзіў з дому гадзіны каля сёмай, не чакаючы нават снядання. Некалькі разоў у яго было жаданне загаварыць ад сэрца з жонкаю, але яе задумлёны выгляд, сурова сціснутыя губы і халодны погляд вачэй адымаў у яго мову. Так дзень за днём між імі ўзвышалася сцяна, якою яны аддзяляліся як у дробных жыццёвых інтарэсах, так і маральна.

На службе Гукоўскаму таксама не было спакою. Тое, што дзесьці вядома аб тым, што ў яго, Гукоўскага, знойдзена была стрэльба, заўсёды стаяла перад ім. Яму здавалася, што ўсе ў Саўнаргасе ведаюць аб гэтым, ды не толькі ў Саўнаргасе — увесь Віцебск гэта ведае. Дзеля гэтага, гаворачы са сваімі сябрамі па службе, Гукоўскі хаваў свой позірк, нервова прыслухоўваўся да інтанацыі голасу таго, з кім гаварыў.

Аднаго дня загадчык канцылярыі падышоў да Гукоўскага і запытаўся, ці ёсць у яго аружжа. Гукоўскі ад неспадзеўкі так спалохаўся, што не мог доўгі час прамовіць слова. Загадчык здзіўлена глядзеў на яго і, мусіць, не мог іначай зразумець гэтага перапалоху, як тым, што Гукоўскі абвешаны аружжам з галавы да пят.

— Калі ласка, зарэгіструйце яго, загад такі ёсць,— сказаў ён Гукоўскаму, не дачакаўшыся адказу на сваё першае запытанне, і выйшаў з пакоя, дзе сядзеў Гукоўскі.

Гукоўскі доўга нічога не бачыў перад сабою. Калі ж ён крыху адышоў, то загадчыка ўжо не было перад ім. «Зноў гэтае аружжа, ну, ды цяпер ужо не будзе спакою... І навошта яна фамілію запісала?» — праносілася ў галаве Гукоўскага. Думкі паплылі па гэтым напрамку, наскоквалі адна на другую, засланялі сабою ўсё іншае. Ён спрабаваў чытаць ляжаўшыя перад ім паперы, але з гэтага нічога не выйшла: ён ні слова не разумеў з таго, што было напісана ў штампаваных адносінах, справках, загадах.

На другі дзень Гукоўскі на службу не пайшоў. Яму здавалася, што ўсе злыдні ўсяго свету нарыхтаваны супраць яго: досыць яму выйсці на вуліцу, як яго могуць запытацца, куды ён схаваў гармату альбо кулямёт.

Ядзя, так ужо прывыкшы праводзіць дзень адна, была здзіўлена тым, што муж застаўся дома.

— Куды ж я пайду,— адказаў ён на яе запытанне.— Усім здаецца, што я сапраўдны контррэвалюцыянер, што мяне трэба засадзіць у астрог.

— Ах! Каб ты быў ці рэвалюцыянер, ці хоць контррэвалюцыянер, а то ты...

— Што я?

— Нічога!

Гукоўскі не ўцяміў, як зразумець апошняе слова жонкі. Ён падумаў, што яна не хоча выказваць свае думкі, якую не скончыла на словах.

— Яны зноў дапытваюцца ў мяне аружжа! — жаласліва сказаў ён, нібы шукаючы падтрымання ў Ядзі.

— Аружжа?! — і па хаце панёсся звонкі, сухі, жорсткі смех.

Гэты смех нібы бізуном хляснуў Гукоўскага, быццам нажом разануў яго грудзі і асвятліў яго мазгі: жонка не з ім, ён застаецца адзін супраць тых хваляў, якія шточасіну могуць ахапіць яго, скрышыць і знішчыць.

Гукоўскі больш не мог ужо ўвесь дзень нічога сказаць жонцы. Пад вечар з ім стала кепска: ён злёг, але не знаходзіў сабе месца на ложку. Раз-пораз ён ускокваў на ногі, круціў з газетнай паперы тоўстую цыгарку з махоркі, раптам выкурваў яе, аж да млявасці ва ўсім целе, але не знаходзіў сабе забыцця...

Гукоўскі ўжо некалькі дзён не быў на службе. Там уперад хапіліся, што яго няма, а потым і забыліся: справы, якія ён вёў, нікога не цікавілі і нікому не былі патрэбны.

Тым часам падыходзіў вялікдзень. У Гукоўскіх ужо падыходзіў да канца паёк. Гарбату пілі без цукру, хлеба выдзялялі к палудніку па самым невялічкім кавалачку, на вячэру гатавалі некалькі бульбін. Ні Максім, ні яго жонка не наказвалі старому Сеўбе прывезці чаго-кольвечы. Уставала пытанне, што прыйдзецца рабіць праз два-тры дні. Але Гукоўскі над гэтым мала непакоіўся. Увесь тыдзень перад вялікаднем ён цішком хадзіў па царквах, не кажучы жонцы, дзе ён бывае: Ядзя была каталічкаю — і ўперад надта багамольнаю. Але цяпер яна не зварочвала ўвагі на тое, куды ідзе муж. Яна заставалася дома і ні аднаго разу не паказалася нават у касцёле.

У пятніцу перад вялікаднем раніцаю Гукоўскі, толькі ўстаўшы, быў ашаломлены: Ядзя сядзела ўжо зусім апрануўшыся і снедала, ды так паспешна, быццам вось-вось ёй трэба выйсці з хаты, і надоўга.

— Што гэта з табою, Ядзя? Ці ж можна сёння есці? — першым чынам запытаўся ён.

— Чаму ж не можна, калі ёсць што,— адказала яна.

— Ды сёння ж вялікая пятніца!

— Гэта німа ніц!

Гукоўскі нічога не разумеў. Ён паглядаў на Ядзю, нібы перад ім быў чалавек з другога свету. Як жа гэта, Ядзя, яго жонка, не паважае вялікі святы закон? Што з ёю зрабілася? Яму здавалася, што вось зараз пярун разаб'е, спаліць гэты грэшны дом і іх разам. Але ўсё заставалася спакойна і на

месцы. Ядзя скончыла снеданне і ўстала, завязваючы на галаве шаліноўку.

— Куды ж ты пойдзеш?

— Трэба ісці куды-небудзь, чаго ж тут дасядзішся з табою,— адказала роўным голасам Ядзя.

— Ядзечка, надыходзіць жа свята! Ты б зрабіла штокольвечы, а то як жа мы будзем праводзіць яго? Помніш, як у мінулыя гады гэтыя дні былі вясёлымі, здольнымі: не было ні смутку, ні задуменнасці, ні злосці. Цяпер усё сапсавалася, стала нудным і буднім. Няўжо ж і ты пойдзеш па гэтай дарозе?

— Рабі сабе што хочаш, а мне трэба ісці хлеб зарабляць, а не цацкамі займацца!

Зноў загадка. Ядзя ідзе хлеб зарабляць? Як, дзе, што яна можа дастаць? Гукоўскі не мог даць сабе ніякага разумнага тлумачэння, не мог даведацца больш дасканальна і ад жонкі, бо яна ўжо прамільгнула перад акном на вуліцы. Доўга ён стаяў пасярод хаты, азіраючыся вакол сябе: яму пачало здавацца, што ён не дома, што нейкі іншы, новы свет перад ім, незразумелы, адарваны ад яго ўласнага складу. Ядзя ні разу не была ў касцёле ў апошнія дні, пайшла шукаць хлеба! Як гэта магло зрабіцца? Бляды, як у манаха, твар Гукоўскага паварочваўся ва ўсе бакі, погляд запыняўся на кожнай хатняй рэчы, але яны маўчалі, не разумеючы таксама, як і іх гаспадар.

Цэлы дзень Максім Гукоўскі не ведаў, куды дзець сябе. Спачатку ў яго была думка пайсці на службу і пачаць зноў тое жыццё, якое некалькі часу таму назад пачало ўцягваць яго ў свой кругабег, нават захопліваць яго, будзячы нейкія спрыяючыя надзеі. Але гэта было толькі на хвіліну — такое жаданне. Перад Максімам, як чорныя дэманы, захадзілі сумненні, полахі, падазронасць да ўсяго на свеце. «Не хадзі — згінеш» — нашэптвалі яны яму: «Увесь свет супраць цябе, нават родная жонка не хоча больш знацца з табою». Гэтыя дэманы кружыліся, узводзілі вялізарныя сталяванні, будавалі між ім і ўсім астатнім тоўстыя, шэрыя, хмурыя, як

ноч лістапада, муры, праз якія ніякая сіла не мела моцы прасягнуць. Чым больш хадзіў па хаце Гукоўскі, тым болей муры гэтыя зблiжаліся, і ўжо здавалася, што вось-вось яны сыдуцца і расціснуць яго ў прах... Ён хадзіў усё па хаце, дамагаўся чым-кольвечы разагнаць той змрок, які запаў на сэрцы, але нічога не дапамагала — нават «Русский Инвалид» з яго капітанамі, палкоўнікамі ды генераламі.

Невядома да чаго дахадзіўся б Гукоўскі, калі б не звон у манастыры. Ён звярнуў яго думкі крыху ў другі бок. Здаволены, што можна пакінуць на нейкі час сваю хату, ён заспяшаўся апратвацца — і праз некалькі хвілін, сагнуўшыся, нібы пастарэўшы на дваццаць год, дробным, нясмелым крокам нарыхтаваўся да плашчаніцы...

Вярнуўшыся з царквы, Гукоўскі застаў Ядзю ўжо дома. Яна, здавольная, але яшчэ больш чужая да яго, чымся ва ўсе апошнія часы, займалася хатняю работаю. Як толькі ён увайшоў, яна зірнула на яго, быццам на якую нежывую рэч і нават ні словам не запыталася аб чым-небудзь. Гукоўскім яшчэ раз заўладаў інстынкт жывога, злосць апанавала яго раптам.

— Здаецца, я муж табе, і нельга так воўкам пазіраць на мяне, Ядзя! — гнеўна сказаў ён.

З боку Ядзі моўчкі.

— Слухай, Ядзя! Кінь здзек нада мною, не то — кепска будзе! — ужо закрычаў ён.

— Ты, здаецца, быў у царкве, няўжо там казалі табе лаяцца? — насмешліва праказала Ядзя.

Гукоўскі так раптам сціх, як і ўскіпеў. Ён нясмела зірнуў на Ядзю і вінавата апусціў уніз вочы. Ядзя кінула на яго косы позірк, чуць усміхнулася і зноў занялася сваімі справамі.

Гукоўскі браўся за кніжкі, курыў, хадзіў узад і ўперад па хаце — і нішто не магло заняць яго. У галаве ўвесь час дрочыла цяпер ужо адна асноўная думка: што робіць у горадзе жонка і як далей складуцца іх адносіны. Такое становішча, вядома, доўга цягнуцца не можа. Але які выхад

з яго — Гукоўскі не мог даць сабе адказу. Фарба сораму залівала яго твар, як ён даходзіў да думкі аб тым, што жонка будзе карміць яго сваім заработкам. Якім заработкам?

— Ядзечка, давай пагаворым трохі,— нясмела прапанаваў ён.

— Аб чым жа ты хочаш гаварыць?

— Ці ж у нас ужо няма аб чым гаварыць? Ядзя! Ужо колькі дзён, як ты маўчыш, зрабілася нібы чужою мне. Завошта гэта?

— Не ўпікай мяне, Максім! Калі ласка, не прымушай мяне казаць аб усім тым, што за гэтыя дні накіпела ў мяне на сэрцы. У мяне ўсё зараз перагарыць, і я тады табе скажу.

— Чаму ж цяпер? Ты кажаш — перагарыць... А чаму там гарэць? Здаецца, я нічым цябе не пакрыўдзіў.

— Не, не, ты не пакрыўдзіў! Ты... толькі ашукаў мяне.

— Ашукаў? У чым?

— Так, ашукаў, і ўжо я не маю сілы верыць ні табе, ні таму, чаму ты верыш.

Ядзя змоўкла, і суровая маршчына прайшла на яе чале. Гукоўскі сполахна глядзеў на строгі твар жонкі і нічога не мог зразумець з яе апошніх слоў. Міма розуму ён адчуў, што калі ў гэты момант яму не ўдасца зламаць сцяну між ім і Ядзяю, то зробіцца нешта незваротна-цяжкае.

— Ядзя, любая! Я ж кахаю цябе, жахаюся ад думкі зрабіць табе прыкрасць, прынесці хоць маленькае гора. Я ашукаў цябе... У чым жа, у чым — скажы! Ты ведаеш, што дагэтуль у мяне не было ніводнае думкі, ніводнага намеру альбо якое дзейнасці, каб ты яе не ведала. Я ўсё казаў табе — і толькі праўду. У чым жа ты мяне вінаваціш?

— Ні ў чым я цябе не вінавачу. Можа, я не так сказала: не ты мяне ашукаў, а я ашукалася ў табе. Вінавата я сама.

Гутарка зноў прыпынілася. Ядзя так і не выказала свае думкі, не сказала аб той прычыне, праз якую зрабілася такая перамена ў яе адносінах да мужа. Яна нічога не сказала аб тым, што яна перадумала за апошнія дні.

— Ці кахаеш ты мяне? — пасля доўгае паўзы запытаўся Гукоўскі і сам спалохаўся свайго запытання, пастаўленага рубам.

Ядзя падняла галаў, доўга ўглядалася ў твар мужа: здавалася, яна шукала ў ім хоць аднае рыскі, якая б магла прымусіць яе даць жаданы яму адказ.

— Не... не ведаю,— з цяжкім напружаннем сказала яна.

Сказала, і зрабілася шмат лягчэй.

Іншы на месцы Гукоўскага пасля гэтага адказу зразу здагадаўся б, як яму быць, што азначае гэты адказ. Але такі ўжо склад быў у Гукоўскага: такі невыразны па форме адказ здаволіў яго — яму стасавала па душы сумленнасць, няяснасць, невыразнасць. Ён з палёгкаю ўздыхнуў, нібы атрымаў надта добры адказ. Каб не турбаваць больш жонкі, ён пакінуў яе адну, лічачы, што ёй трэба супакоіцца пасля гэтае вострае гутаркі.

«Ну вось, усё добра будзе: пазлуе крыху, ды пройдзе ўсё»,— думаў ён.

Гэтая думка быццам скінула з яго сэрца вялікі камень, які ляжаў там ужо некалькі дзён, з тых часоў, як счапілася гэтая трасца са стрэльбаю. Седзячы на канапе ў «габінэце», Гукоўскі пачаў маляваць сабе зноў добрыя дні. Ён пасля гэсвята пойдзе на службу, скажа, што ён быў хворым усе гэтыя дні. Зноў у яго будзе добры паёк, і Ядзі не трэба будзе хадзіць на нейкую там работу... Але што ў яе за работа? Чаму яна хоць абмылкам не скажа аб ёй? Ну, але нічога! Усё пройдзе. Трэба толькі больш рашучасці... «Ядзя мяне кахае, яна толькі пасаромелася пасля гэтых дзён адчужанасці сказаць гэта»,— рашыў ён у сваіх думках. Вядома, кабета! А можа, яна проста не хацела заводзіць аб гэтым гутаркі ў такі дзень — вялікая ж пятніца. «Яна мяне кахае, гэта так!» — сцешыў ён сябе канчаткова.

Ядзя цэлы вечар длубалася з рознаю дробнаю работаю. Яна падчас і так сядзела, задумаўшыся над чымсьці далёкім. Але як толькі раздаваліся крокі мужа ў сумежным пакойчыку, яна зноў з тарапліваспю бралася за шытво альбо

за што другое, быццам баялася застацца адна зноў з мужам. Ёй здавалася, што невялічкі кавалачак порту з'яўляецца трэцім жывым стварэннем, якое становіцца між ёю і Максімам і пасабляе ёй адхіліць гутарку з апошнім. І ўзапраўды, Гукоўскі, застаючы жонку за работаю, ціха варочаўся ў свой кабінет. Так прайшоў першы раз у жыцці Ядзі вечар у вялікую пятніцу, і ніякага жалю ў яе не было.

На другі дзень Ядзя таксама зранку выйшла з дому, не сказаўшы ні слова, куды яна ідзе.

Гукоўскі, застаўшыся адзін, не быў у такім прыгнечаным становішчы, як учора. Наадварот, на яго напала вялікая ахвота дзейнасці. Заўтра ж вялікдзень, а яны як быццам забыліся аб гэтым з-за сваіх перараканняў. Ды і гэтая Ядзя, чаго яна варта, калі зусім не дбае аб такім вялікім дні. Гэта ж яе справа паклапаціцца аб тым, каб было чым сустрэць свята. Ну, і гаспадыня зрабілася ў Гукоўскага!

Ён зусім занепакоіўся аб тым, што ж будзе са святам, хто прыбярэ? Ядзі не было. Трэба што-кольвечы рабіць. Перш за ўсё належыць дастаць паложаныя па звычаю рэчы, як пірог, яйкі і гэтак далей. Але тут зразу перашкода: няма грошай. Гукоўскаму кальнула ў сэрца: гэта ён сам вінаваты, што давёў да такога становішча гасподу... Ядзя пайшла хлеб зарабляць... Як гэта цяжка і прыкра! Ну, хоць трэба зрабіць ёй прыемнае — дастаць на свята больш далікатнейшае яды, а таксама выканаць рэлігійныя запатрабаванні.

Нядоўга думаючы, Гукоўскі адчыніў куфэрак, дзе хаваліся яго заветныя ўборы, і пачаў выцягваць адно за другім: нагавіцы, камізэльку, форменную жакетку, гамашы і іншае. Над кожнаю рэччу ён меркаваў і аб патрэбнасці пакінуць для сябе і аб тым, колькі і чаго можна дастаць за яе ў гандляроў. Як ён ні вырахоўваў, як ні шкада было жакеткі, але толькі за яе можна было разлічваць атрымаць столькі, што хапіла б на скупы святочны стол. З вялікім жалем зрэзаў ён блішчастыя гузікі і пятлічкі з гвяздамі, захаваў іх у куфэрак на самае дно, а потым закруціў жакетку ў газету.

— Не будзе чаго і святам адзець па-людску,— сказаў ён сабе.— Ну, але ж не век быць і жакетцы, ліха яе бяры.

З жакеткаю пад пазухаю Гукоўскі пайшоў у горад да знаёмых гандляроў, якія патаемна гандлявалі ўсім, нягледзячы ні на якія забароны. З імі ён быў знаёмы яшчэ з часоў свайго сабатавання. Дзеля гэтага яму і цяпер не было ніякае перашкоды збыць ім жакетку і дастаць цераз іх розных, патрэбных па яго пагляду, спажыўных рэчаў. Гадзіны праз тры-чатыры ён ужо ішоў назад па Маркаўшчыне, несучы такі клунак па велічыні, як і быўшы скрутак яго тужуркі.

Разлажыўшы ўсё абмененае на стале, Гукоўскі з нецярплівасцю пачаў чакаць Ядзю, каб ёй пахваліцца сваёю спрытнасцю.

Але ўжо зусім вечарэла, а яе ўсё не было чуваць. Гукоўскі пачаў непакоіцца, хоць і збіраўся памалу сам к святу.

Ядзя звярнулася дамоў ужо на самым цямненні. Гукоўскі, паголены, з памаладзеўшым выглядам і апрануты ва ўсе астаткі свае бывалае шляхетнасці, сустрэў яе з радасцю і з невыразнаю ўрачыстасцю. Перад абразамі ў кутку цьмяна мільгалі рознакаляровыя агеньчыкі ў сініх, ружовых, чырвоных лампадках, побач якіх гарэлі дзве даволі вялікія свечкі. Па ўсім пакойчыку стаяў пах алею і фіксатуару. Стол пасярэдзіне быў пакрыты чыста-белым абрусам, і на ім стаялі нейкія дробныя рэчы, якіх зразу нельга было разгледзець.

— Дзе ж ты так доўга затрымалася, Ядзечка? Я цябе чакаў-чакаў... Заўтра ж вялікдзень, а ты нават і ўвагі не звярнула на гэта.

— Вялікдзень? Ну, дык што ж, такі самы дзень, як учора альбо сёння,— адказала Ядзя, скідаючы адзежу.

— Што ты гэта гаворыш? І адкуль у цябе такія кепскія, нават шкодныя думкі?

— Нічога ў гэтым кепскага няма.

— Вось, глядзі! Я сам прыгатаваў усё да свята.

Гукоўскі паказаў на стол. Ядзя зірнула туды.

На стале ў талерцы стаяў, але не! лепш — ляжаў маленькі кружочак, таўшчынёю з добрую аладку, «куліча». Ён так нізка выглядаў з талеркі, нібы яму было сорамна за свой малы рост і ён знарок хаваўся на дно. Але затое верх яго аздабляла такая пышная з чырвонае паперы кветка, што здавалася абмылковым уражанне аб малой велічыні гэтага героя заўтрашняга дня. Уваткнутая на тоненькім дроціку, гэтая кветка лёгка хісталася ў бакі, нібы віншуючы гасцей. Побач з «кулічом», на той самай талерцы ляжалі два фарбаваных яйкі, задраўшы насы ўверх. Здавалася, што яны ганарацца сваёю чэсцю і харaством перад шэрымі, нязграбнымі бульбінамі, якія ляжалі нясмела на другой чысцёханькай талерцы, на якой былі нарысаваны голыя амурчыкі сярод ружовых кустоў.

— Ну як табе спадабаецца, Ядзечка?

Ядзечка акінула вокам стол, куток з абразамі і прылізанага мужа. Лёгкая, чуць прыкметная рыска адваротнасці зляжылася на яе твары, уваччу прамільгнуў праменьчык смеху, але яна стрымалася і праз момант стала непрасягнаспакойнаю.

— Добра,— адказала яна на запытанне мужа.

У Гукоўскага заласкатала ў сэрцы ад здаволенасці.

— Праўда, будзе чым разгавецца! — лісліва гаварыў ён Ядзі.— Але ж гэты Моўша, на яго ліха, садраў з мяне,— ах, як садраў! Ведаеш, гэта ж усё за маю святочную жакетку. Як гэта я пайду заўтра ў госці да гэтых Шэлегаў? Яны такія ганаровыя людзі, а пайсці трэба.

Імпэт крыху спаў з Гукоўскага пры гэтых думках. Яму раптам стала надта шкода яго жакеткі, якая пайшла цяпер гуляць па людзях. Уныла зірнуў ён у бок вуглавога століка, дзе ляжалі стаўшыя непатрэбнымі гузікі і пятлічкі. Гэтыя рэліквіі нібы сведчылі аб тым, што ён толькі быў чалавекам. Паваляюцца гузікі дзе-небудзь у шуфлядцы, і выкінуць іх, як непатрэбныя, у смяццё. А з чалавекам не тое самае бывае альбо можа быць? Momento mori яшчэ раней, чымся сапраўдная смерць прыйдзе.

Ядзя прыкмеціла змену ў настроі мужа. Яна і без запытання ведала, якія думкі валодаюць ім, і ёй стала смешна ад тае барацьбы, якая ішла ў мужа.

— Табе, здаецца, шкода свае жакеткі? Дак ты пайдзі размяняйся з Моўшаю, пакуль не зусім позна,— з ледзьве стрыманым смехам сказала яна.

— Вярнуць куліч, яйкі! Э, не-не! Што ж мы панясём свянціць? Ад людзей брыдка будзе, дый грэх.

— Ну, гэта твая справа — як хочаш.

Гукоўскаму зрабілася яшчэ горш ад гэтае халоднае незацікаўленасці жонкі. Ён бачыў, што ўсё яго старанне за гэты дзень гібне дарэмна: Ядзя ўвачавідкі робіць сябе непрыхільнаю ні да свята, ні да збораў.

— Ядзечка, чаму ж ты не прыбіраешся? Трэба ж будзе нам у цэркаў ісці, панясём свянціць паску.

— Мне няма калі ісці ў тваю цэркаў, ідзі сабе адзін, калі хочаш, а мне трэба на сабранне.

— ?!

Ружовая кветка на «кулічы» заківала спачуваючы. Шэрыя картоплінЫ паглядалі то агідна на сваіх маляваных суседзяў, то насмешліва — на гаспадара. Гузікі з пятлічкамі зашушукалі і ўздыхнулі цяжка аб сваім месцы на жакетцы. Куліч зусім засаромеўся і яшчэ больш уціснуўся ў дно талеркі. Толькі махровая кветка яго не магла схавацца і ўсё ківала ды ківала сваёю папяроваю галоўкаю...

*1925 г.*

# ТОДАР БАЗЫЛЁНАК

## I

Абсеўкам у полі жыла Агата ў сям'і Сымона Карнача. Вось ужо колькі гадоў, як яна жыве тут, мае дваіх дзяцей, а ніяк не прыстасуецца да ўсяго ўкладу Карначоў, ці гэты

ўклад зусім не пасуе да яе. Ціхая, сарамяжая, далікатная, як кветка падснежніка, злюбілася яна з Карначовым старэйшым сынам, Базылём. Доўгі час каханне яе заставалася таемным нават ад яе бацькоў, бо яна саромелася сказаць аб сваім пачуцці каму-небудзь іншаму, апроч Базыля. Але потым трэба было сказаць,— такія былі абставіны. Бацькі Агаты былі надта здаволены тым, што ім удасца збыць з рук лішні рот, бо гаспадарка ў іх была невялікая. Апроч таго, ім ганарыла аддаць дачку за Базыля, бо Карначы былі вядомы ва ўсёй акрузе як багатыя людзі. Парадніцца з Карначамі, якія сядзелі на асобным хутары і мелі каля двух валок зямлі, чаго-небудзь ды варта было!

Але тут зразу пачаліся перашкоды. Сам Базыль, як толькі яму бацькі Агаты напомнілі, што пара жаніцца, нічога не меў супраць. Хоць на твары ў Агаты і пайшлі жоўтыя плямы, але яна была ўсё ж такою аздобнаю, што лепшае жонкі шукаць было б дарэмна. Затое сам стары Сымон Карнач, як толькі пачуў ад Базыля аб тым, што ён рыхтуецца паслаць свата да Агаты, адмовіўся рашуча даць свой дазвол на гэта. Ён не мог згадзіцца, каб яго сын ажаніўся на нейкай там чуць не жабрачцы. Не, яго Базыль павінен узяць жонку з добрае сям'і і з добрым пасагам — гаспадарку трэба пашыраць, а то падзеляцца Базыль з меншым братам, і ўжо не будуць такімі Карначамі, як ён — Сымон Карнач. Чэсць і значнасць роду трэба трымаць, гэта галоўнае ў жыцці. Як ні даводзіў Базыль, што ён кахае Агату, што, у выпадку недазволу жаніцца, ён зусім не жэніцца, бо яму іншай жонкі не трэба, стары Карнач стаяў на сваім. Нават не пасабляла і тое, што Базыль упамінаў аб страце ў гаспадарцы ад недахвату рабочых рук. Гэты матыў быў важкім і мог схіліць на згоду бацьку, але ўсё ж не пасобіў на астатку. Хоць нейкая страта ў гаспадарцы, але ж не жаніць сына на дзяўчыне з непачэснага роду — так думаў і парашыў Сымон Карнач.

Ну, а калі так думаў і парашыў Сымон Карнач, то не іначай павінен быў думаць і рахаваць увесь свет. Стары Сымон — не дурань, дурныя багатымі не бываюць! Такая ўжо

скontвечная мараль. Гэтая мараль прымушала і багатага і беднага казаць, што Агата Базылю не пара. Гутарка аб гэтым пайшла навакол — ведама як аб вяселлі. Адны казалі, што дурны будзе Базыль, калі ажэніцца на такой беднай, а іншыя саймавалі, што дрэнна зробіць Хрыпач, калі аддасць дачку ў такі багаты, як Карначоў, дом. І так і сяк выходзіла, што не быць Агаце за Базылём. Усе гэтыя гамонкі даходзілі і да Агаты. Яна так саромелася іх, а больш усяго так спалохалася варожнасці старога Сымона Карнача, што мусіла прасіць Базыля кінуць яе і рабіць, што ён хоча. Базыль не ведаў, што рабіць: ён не валодаў упартасцю свайго бацькі. Віхлявасць яго Агата залічыла, як неахвоту жаніцца, і была надта здаволена, што яе пакінуць у спакоі, не павядуць у чужы, варожы дом.

Але... але быў яшчэ бацька, стары Хрыпач. Хоць чалавек зусім бедны, нявідны, можа, і дурны, як лічыў ён сам сябе, але маючы свой гонар. Бедны-то ён бедны, але ж зняважыць сябе, сваю дачку яму нельга. І вось у адзін дзень ён надзеў новыя лапці і цалейшы кажух і падыбаў да Сымона. Якая ў іх была гутарка — у дасканаласці невядома, бо нікога пры тым не было, а яны самі аб гэтым не любілі ўспамінаць. Так, насілася чутка, што Хрыпач, страціўшы веру ў поспех перамаўленняў, прымушаны быў пусціць у ход нейкую пагрозу, здаецца, аднавіць справу па высылцы на пасяленне ў Сібір малодшага брата Карнача. У чым тут была справа, ніхто добра не ведаў, не дазнаўся ў свой час нават і сам суд, які прыгаварыў да высылкі, але гэтая пагроза зрабіла свой уплыў: Сымон Карнач у бліжэйшую нядзелю паслаў да Хрыпачоў сватоў.

З вялікім сполахам пераступіла Агата першы раз пасля вянца парог моцнага дома Сымона Карнача. Ні вясельныя песні, ні ліслівая ўвага ўсяе радні Карначоў, ні ўсё багацце, якім адзначана было вяселле і шлюб першага сына Сымона Карнача, не маглі разагнаць гэтага сполаху; пачуццё чужынца ў гэтым доме, нежаданага сем'яніна глыбока запала ў сэрца Агаты і засталося потым на ўсё жыццё. Тонкая,

стройная, нясмелая, яна напамінала падрэзаны серпам колас, які пакорна схіляе сваю галаў, кладучыся на зямлю, і шле сваё апошняе прывітанне светламу дню і сонцу.

З першых дзён жыцця Агаты замужам пачалася яе цяжкая драма. Стары Карнач не мог забыцца, што яе траха не сілком увапхнулі ў яго дом, і ўжо гэта адно рабіла яго варожым да Агаты. Апроч таго, Агата не мела такое сілы працаздольнасці, якую хацелася б свёкру. Ён глядзеў, што жонка яго сына павінна быць перш за ўсё сталаю працоўнаю сілай, якая павялічвае прыбытак у гаспадарцы. Агата ж не магла вытрымліваць доўгае і цяжкае працы, ды не мела ў натуры сваёй прагнення да нажывы, накаплення да канца сіл і поўнае змогі. Уваход Агаты ў сям'ю Карначоў парушыў заветную думку старога Сымона — за кошт пасагу павялічыць яшчэ абшар сваіх зямельных валаданняў. Дык вось з усіх бакоў Агата з'явілася нежаданым сем'янінам у вачах старога Карнача.

Ніводнага прыветнага слова не чула Агата ў сям'і свайго мужа. Вакол сябе яна бачыла толькі халодна-варожыя позіркі ці чула насмешна-зневажаючыя словы. Нават сам Базыль не смеў быць ласкавым з ёю перад бацькамі альбо братам. Але ўсё ж такі яшчэ пры ім можна было спадзявацца на забяспечнасць ад здзеку. Базыль кахаў яе і не даў бы глуміцца, хоць і баяўся ва ўсім бацькі. На жаль, жыццё з Базылём цягнулася нядоўга: вясною, на сёмуху, ён ажаніўся, а ўвосень яго забралі ў салдаты. З гэтага часу пачалося зусім пакутнае жыццё Агаты.

У пачатку снежня радзіўся ў яе хлопчык. Далі яму імя Тодара, а стары Карнач дабавіў яму прозвішча байструка. Гэта не хто іншы, як гэтая брыда, вінаваты, што сын яго, Карнача, вымушаны быў так нявыгадна ажаніцца. Ведама, што тая варожасць, якая жыла ў сям'і да Агаты, перайшла і на яе сына. Нездаволенасць і варожасць яшчэ павялічвалася ад таго, што дзіця пачало займаць час у Агаты, і яна менш магла працаваць. Пад уплывам гэтае варожасці, Агата ўсё больш замыкалася, пачала хавацца і туляцца па кутках,

дамагаючыся не пападацца на вочы ўсім хатнім. Некалькі разоў ёй прыходзіла ў галаў думка ўцячы да сваіх бацькоў, але на гэта не хапала ні рашучасці, ні мажлівасці, бо стары Карнач не дазволіў бы так спаганіць сябе перад людзьмі. Агата толькі неяк непрыкметна і зусім натуральна засталася з часам у асобку з Тодарам, адной у чорнай хаце тады, як уся сям'я жыла ў другой хаце, цераз сені. Гэты падзел зрабіўся сам сабою, як вынік імкнення Агаты к хаванню ад свае радні. Так жыла яна і год, і два, і тры, зусім чужая сярод сям'і, працуючы што было моцы і больш паходзячы на наймічку, чымся на маладую гаспадыню.

Вярнуўся са службы Базыль, але Агаце не стала лепш, яна не ўвайшла бліжэй у сям'ю Карначоў. Базыль, здаволены нашыўкамі унтэра, хадзіў па вечарніцах ды гуляннях, мала зварочваючы ўвагі на ціхую жонку і ваўкаватага Тодарку. Дый нядоўга заставаўся Базыль дома: зямля страсянулася словам «вайна», і Базыль быў адным з першых, каго вайна захапіла ў свае лапы, сціснула і кінула ў вечнасць.

Пайшлі дні, месяцы, гады. Цераз паўгода пасля пачатку вайны ў Агаты радзілася дзяўчынка. Стары Сымон ірваў на сабе валасы ад злосці: сям'я ў хаце хоць куды, а працаваць няма каму. Нават Базыля ўспамінаў і шкадаваў ён толькі як моцнага хлопца, добрага работніка. Меншы сын Карнача ўжо падрастаў, але ўсё ж не быў яшчэ пэўным работнікам. Сымон усё злеў, не стрымліваўся і часта кідаўся з кулакамі на Агату і дзяцей, абзываючы іх дармаедамі, пoганню. Агата ўсімі сіламі дамагалася быць падалей ад свёкра і ўсяе астатняе сям'і. Гэты настрой і адносіны перадаваліся і дзецям, і яны таксама чужаліся ўсіх хатніх.

Тодар чуць не з першых месяцаў свайго жыцця стаў адзінокім. Агата, стараючыся, як мага, сваёю работаю і пільнасцю паменшыць прычыны сваркі з боку свёкра, пакідала свайго хлопчыка аднаго ў чорнай хаце. Мухі, як смала, абляплялі яго, ён быў брудным, непрыбраным, крычаў цэлымі гадзінамі, але некаму было прыгледзець яго. Ён сам змагаўся з мухамі, сам вылазіў з смецця, а крыху большым — сам

і даставаў сабе есці. Толькі позна ўвечары маці прыходзіла дадому з поля альбо сенажаці і, змораная працаю, мілавала свайго сынка. Так прайшоў год-другі. Тодар, як трус у сваёй нары, жыў на чорнай палавіне дома, нават ніколі не паказваўся ў той хаце, дзе жылі ўсе карэнныя Карначы. Калі ж яму траплялася незнарок і неспадзеўку сустрэцца з кім, дык ён, як звярок, уцякаў у свой усягдашні прытулак. Толькі з мацерою яму было добра, і ён яе не баяўся і не ўхіляўся. Але яна так мала магла ўдзяліць яму часу: перш з-за работы, а па-другое, што, як ён пачаў разумець ласку, на руках у яе з'явілася другое дзіця. Так прайшлі першыя дзіцячыя гады Тодара Базылёнка, гады, калі ён, раней як іншыя людзі, спазнаў варожасць, недавер да людзей, страх перад іх жорсткасцю. Дзед Сымон прывучыў яго і ўзгадаваў у ім гэтыя пачуцці з першых дзён яго жыцця.

Яшчэ толькі пятая вясна светлаю дзяўчынкаю прыйшла ў госці да Тодара, а яму ўжо не было часу займацца сваім госцем. На дзеда Сымона напаў нейкі прыпадак жаднасці. Вайна толькі развіналася, усё даражэла — хлеб і скаціна. Стары Карнач гайсаў па гарадах, па мястэчках, возячы на продаж цэлыя вазы хлеба. Усіх сваіх хатніх ён ганяў на работу з зары да зары, наймаў, хоць і здалёку, кабет і мужчын (праўда, хлапцоў) на работу да сябе і яшчэ выказваў сваё зневажанне да нямоцнае і непрацаздольнае Агаты.

Як толькі-толькі сышоў снег у тую вясну, перад Карначом устала звычайнае пытанне — аб пастуху. Пытаўся ён у аднаго, у другога: не лёгка стала знайсці нават хлапца-пастуха. Але раптам яму падаспела думка не шукаць на старане — Тодар можа быць пастушком. Увечары ён прачыніў дзверы ў чорную хату:

— Агата, зайдзі да мяне!

Агата аж сумелася ад неспадзеўку. Што яму трэба? Лаяць, мусіць, будзе за што-кольвечы. Але ж трэба ісці.

— Вось што,— сказаў Сымон, як Агата, уся зачырванеўшыся ад незвычайнасці, увайшла на чыстую палавіну,— да-

волі ўжо я вас пакарміў хлебам, пара і за адплату брацца. Нам трэба пастух, дык навошта наймаць, калі свой ёсць.

— Хто ж гэта ў нас свой пастух? — недаўменна запыталася Агата.

— Як, хто? А Тодар твой, байструк!

— Тодарка пастух? Ды яму ж толькі пяты гадок, татка.

— Пяты гадок... А колькі ж трэба гадкоў, ці не дваццаць?

— Пашкадуйце дзіця, татка! Праз два гады будзе і з яго пастух...

— Больш нам няма аб чым гаварыць. Я сказаў — і скончана справа.

Заўтра хлапец павінен быць у полі з каровамі і авечкамі.

Агата ведала, што спрачацца са старым Карначом не было ніякага сэнсу, дый не ёй было спрачацца. Моўчкі вярнулася яна ў свой прытулак, запаліла маленькую кураву газовачку і доўга за поўнач з жалем сядзела каля дзяцей, якія соладка спалі і не адчувалі тае пакуты, якая рвала сэрца іх мацеры. Газовачка чуць асвятляла цёмныя куткі хаты, прусакі шасталі па сценах, свярчок скрыпаў за печчу ды змарыўся, Агата ж усё сядзела і думала цяжкую думку.

На другі дзень, раніцою, Тодар быў у полі і вярнуўся са сваімі каровамі позна ўвечары. Хоць ён і знябыўся за цэлы дзень, але перад ім прайшло так шмат незвычайнага, што ён доўга не мог заснуць і ўсё пераказваў мацеры, што з ім было, што ён бачыў. Ужо сон налятаў на яго вочы, а ў вушах усё звінела песня жаваранка, якая ўрэзалася чамусьці асабліва яму ў памяць.

З таго дня Тодар кожную раніцу падымаўся да сонца. Так цёпла было ў пасцелі, так хацелася яшчэ паспаць, хоць адну хвілінку, а тут маці не дае — усё штурхае, каб ён уставаў. З торбачкаю за плячыма, у якой быў кусок хлеба, чорствага, сухога, ды бутэлька з саладухаю, Тодар выганяў сваіх кароў і авечак. На двары было холадна, зябка. Мокрая ад расы трава сцёбала па голых лытках, патрэсканых ад гразі і сонца. Балячкі размакалі і пачыналі шчымець аж да слёз.

Каровы і авечкі па дарозе залазілі ў збожжа, у сенажаць, разбягаліся і не слухалі свайго малога гаспадара. І боль у нагах, і холад, і злосць на непаслухмяных кароў накіпалі ў маленькім сэрцы, выклікалі на вочы слёзы. Але слёзы не пасаблялі, трэба было трываць. І Тодар трываў... Праходзіла гадзіна. З лесу выходзіла на неба сонца. Уся сенажаць паўз рэчку з машастова-срэбнае рабілася зялёна-алмазнаю з мільёнамі рознакаляровых агеньчыкаў. Па гэтым блішчастым дыване адна за другою разгортваліся жоўтыя зоркі малачаю, захаваныя ў сваю зялёную пялёнку нанач. Далікатны званок калыхаецца пад цяжарам пчалы, якая з зыкам села на яго і засоўвае сваю галоўку да самага дна кветкі. Там празвінеў камар, уцякаючы ў змрок лесу, цёмна-сіні хвойнік якога, як свечка, стаіць не калыхануўшыся.

Становіцца цяплей, сонца ўсё больш прыграе. Каровы і авечкі ўжо прагналі першы голад і часцей ды часцей адганяюць надаедных мух. Тодар заходзіць на ўскрай лесу і лажыцца на траву, тварам уверх. Дзесьці там, сярод сучча раздаецца шорах, нібы хто скрабе аб дзерава. Тодар угледаецца: вострыя вушкі і таўсцеразны хвост на спіне, а вочкі так і стрыгуць па баках. Раптам гэтая цудоўная жывёла шпыдка, як птушка, апынулася на другім дзераве. Тодару не сцярпець, і ён ускоквае на ногі. Але толькі ён і бачыў гэтага жоўценькага звярка. Ну што ж за бяда! Вось тут жук празычэў ды ляпнуўся аб пень, кепска справіўшыся з паваротам. Тодар да яго, садзіць яго сабе на сярмяжку і доўга разглядае яго вусы, лапы, крылы...

Бывалі і такія здарэнні сярод жыцця лесу, якія захаплялі Тодара сваёю незразумеласцю. Часта ён бачыў, як нейкая шэрая, досыць вялікая птушка, з крывым, як крук, дзюбам, узлятала наверх хваіны і пачынала разрываць невялічкую птушачку, якую трымала ў сваіх кіпцюрах. Праз некалькі хвілін толькі пёркі ў нізе дрэва сведчылі аб тым, што тут было. Тодар з невыразным болем пазіраў на гэтае з'явішча, кідаў уверх суччам, каб адагнаць злодзея, але гэта яму ні разу не здаралася зрабіць: крываносы чорт, як на-

зваў гэту шэрую птушку Тодар, калі і ўцякаў, то нёс у сваіх кіпцюрах сваю ахвяру далей. Таксама траплялася бачыць Тодару, як блішчастая, праворная, доўгая, як бізун, гадзіна, з зялёнымі вачамі, хапала маленькую мышку і праз момант праглынала яе, а потым хавалася між карэнняў на баку раўка. Гэтыя здарэнні рабілі вялікі ўплыў на Тодара; ён задумваўся над пытаннем, чаму адно жывое так смяртэльна варожа да іншага, чаму мацнейшы можа губіць больш кволага. На гэтае запытанне ён не мог даць сабе здавальняючага адказу. Але само па сабе яму прыходзіла параўнанне гэтых з'явішч у лесе з людзьмі. Вось і дзед Сымон, больш моцны, здзекуецца над яго маткаю, над ім самым, над Тодарам. Дый і ўзапраўды, у дзеда Сымона таксама нос крукам, як у гэтае шэрае птушкі...

Цэлымі днямі, тыднямі, месяцамі заставаўся Тодар сам з сабою ды з дурнымі каровамі і авечкамі. Цэлыя дні ён вывучаў жыццё поля, сенажаці, лесу. Думкі яго складаліся без дапамогі людзей, ён сам шукаў адказ на ўсе цікавіўшыя яго з'явішчы, якія прыходзілася бачыць у розных абставінах. Часта засцігала яго далёка ў полі навальніца, і ён адзін стаяў пад маланкаю і дажджом. Яго маці вучыла, што трэба хрысціцца, калі бліснe маланка, інача й гром заб'е. Тодар спачатку гэта выпаўняў, а потым раз яму прыйшла думка спрабаваць не перахрысціцца. Спрабаваў — і нічога! Для чаго ж яму маці раіла рабіць гэта? Тодар не стаў больш верыць гэтаму, і якая б страшная навальніца ні была, як бы маланка ні рэзала неба, ён не хрысціўся. У хуткім часе ён прывык да ўсяго: і да хараства лесу, і да песень птушак, і да рэчкі, і да грому; толькі ніколі ён не мог спакойна глядзець, як крываносы злодзей, чорт, ірваў на кавалкі злоўленую маленькую птушачку. Гэта з'явішча ўрэзалася яму ў памяць і заўсёды стаяла ў яго вачах. Як ён будзе вялікі, то купіць сабе такую стрэльбу, як у лесніка, і заб'е крываносага чорта...

Да позняе восені, штодзённа, адзін-адзінюткі жыў Тодар сярод палёў і лясоў. Ён так прывык да іх маўклівасці альбо

да іх гоману, што яму чагось не хапала, калі ён выпадкова дзень-другі вымушаны быў не бачыцца з імі. Дома заставацца яму ўсё больш прыкрыла. Меншы сын Сымона Карнача, ужо зусім спазнаўшы сэнс і мэты жыцця ад свайго бацькі, глядзеў на Тодара, як на свайго будучага супольніка, з якім прыйдзецца дзяліць гаспадарку. Апошняе ж не пасавала яму: ён павінен сам валодаць двума бацькаўскімі валокамі зямлі. Але што ж рабіць з гэтым нелюдзімым Тодарам? Дзядзька не ведаў і заўсёды злаваўся на пляменніка яшчэ больш, як сам дзед Сымон. Тодар, вядома, не разумеў усіх прычын, якія выклікалі такую варожасць да яго з боку дзядзькі, і сваім дзяцінным розумам рашаў, што і сярод людзей шмат ёсць «крываносых чарцей», якія па сваёй натуры не могуць быць іншымі. І Тодар яшчэ больш прагся да таго, каб больш быць у адсутнасці з дому, сярод свайго лесу, поля, дзе ён не спатыкаўся са сваімі хатнімі. Нават маткі свае ён ухіляўся; яна сваёю ціхасцю, пакорлівасцю перад старым Сымонам, не падабалася яму, толькі шкада было яе, як тую птушку ў кіпцюрах каршуна.

Ішлі месяцы, гады. Там, дзесьці на захадзе, стукатала, казалі, што ўсё ідзе бойка між людзьмі. Потым з'явіліся нейкія чужыя людзі, гаварыўшыя на незнаёмай мове. Яны забралі ў Сымона каня і двух кароў — і зноў стала ціха на хутары. Часта з вёсак заходзілі сяляне, паведамлялі аб сполашных рэчах, аб нейкіх паляках. Чутно было, як то там то сям бралі скаціну, то хлопцаў у жаўнеры. Але чамусьці на хутар ніхто ніколі з чужынцаў не заходзіў. Сымонаў другі сын забяспечна заставаўся дома і гатаваўся ўжо жаніцца. Стары Карнач калі-нікалі на нейкі час кудысьці ездзіў, вазіў нешта, але што — Тодар ніяк даведацца не мог, бо ўсё рабілася патаемна.

Недарма Карнач быў багаты: багатыя людзі — разумныя людзі і ўмеюць абрабляць свае справы! Ні вайна, ні рэвалюцыя, ні пазнейшыя часы не зачапілі Сымона Карнача. Яго моцны хутар стаяў паводаль ад вёсак, падобны на невялічкі фальварачак. Так стаіць ён і да гэтых часоў, і ні-

хто не чапае яго. Сымон Карнач разумны чалавек, што і казаць. Розум за ім прызнаюць усе сяляне акружных вёсак, якія толькі калі-нікалі дзівуюцца, як гэта можна так выкручвацца.

Тодару мінуў ужо дзесяты год, але ён выглядаў, як пятнаццацігадовы хлопец. Ужо шэсць год, як ён пасвіў скаціну Сымона Карнача. Але ніякае падзякі, ніякае змены ў адносінах не зрабілася. Тодар, як і ў малалецтве, жыў са сваёю мацераю асобна ад усяе сям'і. Агата мела выгляд ужо зусім старое кабеты, хоць ёй і было не больш, як трыццаць год. Дробныя зморшчынкі пакрывалі ўвесь яе твар, вочы патухлі. Тодару да болю было цяжка глядзець на яе, і ён моўчкі стараўся зрабіць за яе работу.

Тодар скончыў пасвіць скаціну. Ноччу выпаў снег і пакрыў белай коўдрай пажоўклую траву. Лес стаяў голы, сумны, толькі цёмна-сінія хваіны ды шырокія, як стагі, ялі-ны сустрэлі зіму ва ўсім сваім уборы. Але і яны сумавалі аб мінулым леце, аб сонцы. Тодар па звычайцы блукаўся па лесе, але ён не даваў нічога цікавага. Каплі з дрэва, як слёзы ў людзей, толькі выклікалі пачуццё жаласці, ціхае пакорлівасці, скаргі без слоў. Гэты лес так напамінаў яму матку Агату! Дома слёзы, і тут яны. Нудна стала на сэрцы Тадору.

Увечары таго дня Тодар не знаходзіў сабе месца ад нуды. Маці прала пры свецe курнае газовачкі, верацяно яе разпоразу гуло, бясконца аднаўляючы адзін і той самы пуць. Тодар падышоў да мацеры.

— Мама, я заўтра пайду ў школу,— і яго сінія, строгія вочы, як стрэлы, упіліся ў твар Агаты.

— Тодарка, у школу табе трэба было б даўно ўжо, але...

— Але што?

— Дзед Сымон не пусціць. Я ўжо летась з ім аб гэтым гаварыла, але нічога, як бачыш, не выйшла.

— Чаму ж ён не пускае? Ты, мама, папрасі яго яшчэ цяпер.

— Прасіць яго? Гэта будзе ўсё роўна, як гарох аб сцяну. Не, не варта яго прасіць.

— Мама, ты баішся яго, ты ва ўсім пакараешся яму! Папрасі яго, мама, мне ж хочацца павучыцца.

— Тодарка, калі мне жудасна пайсці да яго: ён ніколі на мяне не пазірае як на чалавека. Не, і не прасі больш, я не пайду да яго.

— Ну калі так, то я сам пайду!

— Не хадзі, не хадзі к яму — ён цябе абязвечыць. Не хадзі, ужо як-небудзь пражывеш і непісьменным.

— Не, я пайду, хоць што!

Тодар доўга не чакаў. Не паспела Агата і рот адкрыць, каб папрасіць яшчэ раз не ісці да дзеда, як Тодар быў за дзвярыма. Тое, што ён сам з'явіўся на чыстай «гаспадарскай» палавіне, надта здзівіла ўсіх. Тодар вытрымаў утупленыя на яго погляды родных і зразу, як сарваўшыся, звярнуўся да старога.

— Дзед, я заўтра ў школу пайду! — надарваным ад натугі, дзіцячым голасам праказаў ён.

Стары Сымон падняў галаў з ложка, турзануў сябе за кудлатую бараду і акінуў з галавы да ног свайго ўнука:

— Куды ты пойдзеш?

— У школу!

— Гэта яшчэ што за навіна? Ідзі прэч, у свой куток!

— Я пайду ў школу заўтра! — ужо высокім тонкім голасам пракрычаў Тодар.

— Ён пойдзе ў школу! Вучыцца сабак ганяць. Навошта табе школа. Байструком радзіўся, байструком і пражывеш — без школы.

— Лайце сабе, а я пайду!

Карнач ускочыў на ногі, рука яго гатова была схапіць хлопца за валасы.

Але злавіць Тодара яму не ўдалося.

— І прасіць не буду, пайду! — крыкнуў у дзвярах Тодар і ляпнуў імі так, што аж вокны зазвінелі.

— Каб табе зубы ляскалі, пачакай жа ты, адроддзе!

Сымон кінуўся даганяць унука, схапіўшы па дарозе чапялу. Тодара не было і на чорнай палавіне. Сымон вярнуўся ні з чым, спагнаўшы толькі свой гнеў на Агаце...

На другі дзень, як чуць пачынала развідняцца, Тодар цішком на печы абуўся, апрануўся і, як толькі маці выйшла за чымсьці з хаты, вышмыгнуў на двор. Пералезшы цераз плот, каб не скрыпець варотамі, ён пусціўся ў сяло, дзе была школа.

Позна ўвечары вярнуўся ён дадому. Агата, змучаная няведаннем аб ім, сустрэла яго, як уваскрошага. Радасць яе была толькі сапсавана думкаю аб тым, як цяпер быць са свёкрам. Але Тодар яе супакоіў.

— Дзед, я быў сёння ў школе і буду кожны дзень туды хадзіць,— прасунуўшы голаў у дзверы чыстае хаты, далажыў Тодар.

— Няхай цябе ліха ходзіць! — пачуў ён адказ — і больш нічога.

Тодар пачаў вучыцца і выйшаў сам з рук дзеда Сымона.

## II

Сымон Карнач пільна прытрымліваўся ўсіх старасветных устаноў і звычаяў у адносінах да сям'і і ўсяго ўкладу жыцця. Па яго погляду ў сям'і не магло быць іншых поглядаў, як у яго самога, ніхто не мог нічога рабіць паміма яго волі і загаду. Вядома, што і ў справах рэлігійнага зместу ў Карнача панавалі тыя погляды і паразуменні, якія былі ўтлумачаны стагоддзямі. Адступіцца ад іх для Сымона было немагчымым: ён застаўся б зусім без пакіравання, калі б у адзін дзень страціў гэтыя паразуменні і пачуцці. Праўда, шмат было процілеглага ў гэтых паразуменнях, але разбірацца ў іх не можна — грэх, па думцы Сымона. Ды ён і не заходзіў ніколі ў разгляд сваіх паразуменняў: так было, значыць, так трэба. Вось і ўвесь светапогляд. Гэты светапогляд існаваў не толькі ў самога Сымона, але быў убіты ў голаў і ўсім астатнім з сям'і.

Асабліва ўпарта Сымон пільнаваў усе звычаі, дзе яму належала роля старэйшага, быццам юрыдычнага прадстаўніка сям'і не толькі перад людзьмі, у справах зямных, але і ў нябесных. Сярод гэтых звычаяў самае выдатнае месца займала спраўленне «дзядоў». «Дзяды» — гэта вечар, калі ўспамінаюць усіх памёршых продкаў з сям'і, і вось таму роля старэйшага з жывых так яскрава тут падкрэслена звычаем. Сымон Карнач спраўляў усе «дзяды», колькі б іх не было ў годзе, спраўляў з захаваннем усіх драбніц рытуалу.

Звычайна «дзяды» ў Карнача праходзілі так. З раніцы ў гэты дзень кабеты гатавалі перапечкі трох сартоў і дзевяць розных страў, між якімі галоўнымі былі — капуста, квашаніна і яечня. Да вечара ўсё павінна быць гатова. Як толькі падаў змрок, уся сям'я збіралася на чыстай палавіне, і стары Сымон уступаў у свае правы патрыярха. Ён станавіўся пасярод хаты і моцным голасам пачынаў гаварыць пацеры; уся сям'я павінна была стаяць і цішком пераказваць усё, што гаварыў стары. Жонка Сымона к пачатку пацераў закладала ў пячурку сухое зелле, пасвенчанае на Яна Купалу. Дым разыходзіўся па хаце, прыдаючы нейкую таемнасць усёй маўклівай сям'і і запаленым перад абразамі грамнічным свечкам. Пацеры былі доўгія,— тут усё мяшалася: і праваслаўе, і каталіцтва, і нават нейкія паганскія заклінанні, якія толькі і ўжываюцца ў гэтым выпадку. Сымон сканчвае свае модлы доўгім пералічэннем усіх памершых, а ў канцы зацягвае гнусавым голасам нейкі пахавальны гімн. Потым усе садзіліся за стол, апрача старое гаспадыні — жонкі Сымона, якая павінна была падаваць па строгаму парадку адну за другой страву. Даручыць гэтую справу малодшым нельга было па самой установе, а таксама трэба было пільнаваць, каб не парушыць чыннасці. Садзіліся за стол не абы-як, але па старшынству: на покуці, пад абразамі — сам Сымон, потым яго сын, далей Тодар, а потым ужо садзіліся кабеты таксама па ўзросту. Звычай патрабаваў садзіцца не проста на лаве, але на кажухах, вывернутых шэрсцю ўверх. Перад пачаткам вячэры неабходна трэба бы-

ло выпіць гарэлкі і пачаставаць пакойнікаў. Стары Сымон наліваў кілішак дапоўна і тры разы выплёскваў на настольнік, клічучы ўпакойнікаў на вячэру. Сама вячэра цягнулася доўга: кожную страву раздаваў усім стары і ніхто не павінен быў пачынаць новую яду ўперад за самога Сымона. Пасля вячэры зноў пацеры з цяжарам у жываце ад дзевяці страў.

Так было заўсёды, так было на кожныя «дзяды». Так было ці павінна было быць і на гэты раз.

Але з самага пачатку ў гэтыя «дзяды» ўсё пайшло няладна. З раніцы ўжо змінтрэжыўся настрой. Малодшая нявестка, жонка меншага сына Сымона, аблаяла Агату, якая павінна была па-старшынству дапамагаць свякрусе. Аблаяла, бо лічыла сябе значнейшаю ў сям'і. Сымон не рассудзіў іх, бо сам парушыў звычай, стаўшы на бок малодшае нявесткі. Агата захавалася ад сораму і пагарды на цэлы дзень, і ледзьве ўпрасілі яе прыйсці на вячэру. Тодар таксама цэлы дзень не паказваўся дома, нібы знарок не хацеў прыходзіць са школы. Ужо даўно сцямнела, а нельга было пачынаць дзедаваць, бо не было ўсяе сям'і. Гэта толькі адзін выпадак, калі лічылі Тодара за чалавека і чакалі яго на чыстай палавіне. Такі ўжо быў звычай, і Сымон павінен быў выпаўняць яго, хоць лаяў у сэрцы ўнука самымі брыднымі словамі.

Тодар прыйшоў дадому па-вясковаму надта позна і зразу — у свой куток. Маці пайшла да яго сказаць, што яго чакаюць на «дзяды». Тодар рашуча адмовіўся і сказаў, што ён павячэрае адзін, як заўсёды.

— Не дражні ты старога, ён і так, як воўк, сёння.

— Я нікога не дражню,— адказаў Тодар і пачаў разглядаць малюнкі ў прынесенай новай кніжцы.

— Тодарка, ну пойдзем! Дзед не толькі на цябе, але і на мяне яшчэ горш асердзіцца. Пойдзем!

Тодар пашкадаваў маці. Як ваўчок, з віхрастымі валасамі і бліскучымі вачамі пайшоў ён следам за мацераю на чыстую палавіну.

Дзед Сымон вострымі, як вуголлі, вачамі сустрэў Тодара, губы яго ўздрыгвалі ад злосці і патрэбы аблаяць. Але разуменне ўрачыстасці стрымала яго, і ён, крыху супакоіўшыся, выйшаў на сярэдзіну хаты, каб заняць сваё месца патрыярха. Усе сталі па сваіх месцах, прыняўшы пакорнасмірэнныя позы. Ужо пачаліся першыя словы пацераў, ужо ўсе захрысціліся... але раптам звярнуліся ў бок Тодара, прыпыніўшы пачатыя модлы і спалохаўшыся і свае і дзіцячае смеласці. Тодар сядзеў на ложку і ківаў нагамі, не дасягаўшымі падлогі.

— Тодарка, што ты робіш? — шэптам, сполашна, нагнуўшыся к яму, запыталася Агата.

— Нічога! — са смехам у вачах і моцным голасам адказаў Тодар.

— Станавіся пацеры гаварыць, адшчапенец! — хрыпла крыкнуў Сымон.

Замест адказу Тодар, як куля, саскочыў з ложка і — за дзверы. Уся сям'я замітусілася, спалохаўшыся такога парушэння свята. Кабеты заахалі, запрычыталі, стары Сымон сышоў з свайго месца, сударажна сціскаючы кулакі.

— Трэба было б паказаць яму парадак! З намі божая моц, што ж гэта будзе? — стагнала жонка Сымона — старая Прануля.

— Не варта свята псаваць з-за гэтае брыды,— адказаў пасля доўгага раздумення дзед Сымон.— Вырасціла халеру! — кінуў ён у бок Агаты, бліснуўшы насупленымі вачамі.

Агата зусім страціла ўвесь розум. Яна недаўменна аглядала ўсіх, пазірала на ложак, дзе сядзеў некалькі хвілін таму назад Тодар і не магла зразумець, як гэта ўсё зрабілася. Адчуўшы на сабе злосны позірк свёкра і яго гнеўныя словы, Агата, як прыбітая, самлеўшая, стаяла, чакаючы чагосьці страшэннага, як гром з неба. Яна чакала кары і ад старога Сымона, ад яго кулакоў, і ад вышэйшае сілы. Але першы ўздым буры прайшоў.

— Давайце і без гэтага гада справім вячэру,— прапанаваў дзед Сымон.

Усе зноў разышліся па сваіх месцах і пачалі пацеры. Агата не чула, што казаў Сымон, якія модлы ён гаварыў; яна толькі сама сабе шаптала нейкія словы, якіх і сама добра не разумела. Потым забылася аб усім і задумалася над будучыняю сына, над здарэннем з ім. Стары Сымон некалькі разоў кідаў на яе позіркі, нездавольны тым, што яна не моліцца. О, у яго было надта вялікае захапленне сваімі модламі: ён без канца гаварыў і сачыў у той самы час за ўсімі, як яны моляцца ці гавораць пацеры.

Як толькі скончылася бубненне Сымонавага голасу, Агата быццам ачнулася ад доўгага сну. У яе з'явілася вялікае жаданне даведацца аб тым, што робіцца з хлопцам. Нясмела, косячыся на свёкра, яна выйшла ў сенцы.

Тодар сядзеў за сталом і надта ўважліва чытаў упочуткі нейкую кніжку, запыняючыся падоўгу над малюнкамі. Агата падышла блізка-блізка да яго, хацела аб шмат чым запытацца, але неяк не па сабе ёй было перад сынам — нібы яна баялася яго.

— Тодарка, чаму ты так зрабіў? — асцярожна запыталася яна ў хлопца.

Тодар падняў галаў ад кніжкі, спакойна паглядзеў на маці.

— Так сабе! — адказаў ён.

— Ці ж можна гэта рабіць так сабе, ці ж можна жартаваць з богам? — з жалем у голасе прабавала дапытвацца Агата.

— Дзед Сымон жартуе, а мне дык нельга! — жорстка адказаў Тодар.

— Як жартуе, што ты кажаш?

— А так і жартуе! Ён усіх ашуквае, здзекуецца над усімі — перш за ўсё над табою, мама, а потым лезе куды-та са сваімі пацерамі. Гэта — ашуканства, жарты.

Агата была здзіўлена такою думкаю, бо яна была для яе зусім новаю, нечаканаю. У ёй было так шмат праўды, што Агаце нельга было што адказаць проціў сына.

— Можа, яно і так, але ж нельга рабіць яшчэ больш варожым дзеда,— спрабавала яна схіліць хлопца.

— Мама, ён жа над табою ўвесь час здзекуецца, ты яго заўсёды слухаеш, ніколі слова не скажаш яму наперакор, але ці ж ён стаў лепшым да цябе?

— Што ж рабіць, сынку, калі яго натура ўжо такая.

Тодар змоўк і прыняўся зноў за сваю кніжку, якую толькі яго вострыя вочы і маглі чытаць пры такой газовачцы, Агата замешкалася каля ложка, гатуючы пасцель. Стукнулі дзверы.

— Агата, ідзі хутчэй вячэраць, дый ты, ашаметак, не сядзі тут, а ідзі да ўсіх,— сказала старая, уваходзячы да іх.

Агата заспяшалася.

— Пойдзем, Тодарка! — нібы шукаючы ў ім падмогі, папрасіла яна.

— Пойдзем, я не баюся яго!

Старая Карначыха затрасла сваёю сіваю галавою: цуда на яе вачах рабілася.

Тодар залез за стол і сеў на свой кажух. Уся сям'я не знаходзіла гутаркі, ад Тодара ўсе адварочвалі твары. Старая Карначыха моўчкі падала першую страву. На стале з'явілася пуклая бутэлька з самадзельнаю гарэлкаю. Сымон наліў чарку і тры разы паліў з яе на стол. Запахла падпаленым спірытусам. Тодар пакрывіўся ў бок дзеда і чуць прыкметна ўсміхнуўся.

— Дзед, адкуль ты ўзяў гарэлку? — нечакана запытаўся ён.

Стары Сымон вытарашчыў вочы і лупаў імі, як дурны. Пытанне было, здаецца, такім простым, звычайным, а тут — на табе. І сказаць няма чаго.

— А табе што за дзела? — праз некалькі хвілін ён здагадаўся адказаць.

— Ды я так... Вось Пятруся Галімонавага ўчора злавілі ў лесе — гнаў гарэлку.

— Надта шмат ты ведаеш, глядзі, каб не набрахаў сабе на хвост,— упікнула Тодара старая.

— Чаму гэта так нядобра ловяць? Адных бяруць, а іншым — нічога,— не зварочваючыся ні да кога, запытаўся хлапец.

— Бяруць дурняў, а разумныя людзі не трапляюцца нават і самой міліцыі,— прамовіў за Карнача старога яго разумны сын.

— А навошта ты, дзеду, гарэлку на стол выліў? Ці ж табе не шкада яе?

Дзед Сымон падазрона паглядзеў на Тодара, але парашыў, што трэба растлумачыць яму — навучыць яго звычаю прысвятому. Ён сказаў, што душы ўпакойнікаў на «дзяды» прыходзяць у сваю гасподу і было б дрэнна не пачаставаць іх.

— І гэтыя душы п'юць гарэлку? А чаму ж яна вось на настольніку?

Стары Карнач замяўся з адказам. Дый што адказаць: ён сам ніколі не пытаўся аб гэтым у сябе. Рабілі так усе, казалі, што душы прыходзяць, значыць, так яно і павінна быць. А як гэта робіцца, як п'юць упакойнікі гарэлку — адкуль яму ведаць. Дзед маўчаў.

— Дык п'юць? — прыліп як смала Тодар.

— Вядома — п'юць,— сказала старая Карначыха.

— Хлусня ўсё гэта, плёткі! — раптам выпаліў Тодар і пацягнуўся першым за кавалкам мяса. Але ён і не данёс мяса да рота.

— Хлусня! Плёткі! Уперад за старога лезеш! — загрымеў голас дзеда, як сарваўшыся з вяроўкі цэбар у калодзеж, і лыжка бацнула з размаху па руцэ Тодара.

— Вон пайшоў! Каб твайго духу тут не было, гунсват!

Тодар сціснуў балючую руку, закусіў губы ад болю і пагарды. У яго гатовы былі паліцца слёзы, але ён напружаннем стрымаў іх. Праз міг ён быў ужо сярод хаты. Яго вочы засвяціліся вугольчыкамі, валасы яшчэ стромей узняліся на галаве.

— Ты біць мяне не смееш! Над маткаю ты здзекуешся, цяпер да мяне дабіраешся! Дык не — рукі кароткія. Я табе не падарую гэтага! Пачакай!

Тодар выскачыў з чыстае хаты. Стары Карнач атарапеў ад таго, што ён пачуў. У яго мазгу не ўкладалася думка, каб мог такі блазан сказаць яму пагрозу, яму — старому, паважанаму ўсімі Карначу. І хто пагражае? Гэты байструк, брыда, пастушок! Дзед Карнач забыўся аб вячэры, аб «дзядах», аб урачыстасці. Яго сэрца ўсё ўскалыхалася ад гневу. Ён выйшаў з-за стала, шукаючы чагось вачамі, налітымі кроўю.

— Куды ты, Сымон? — са сполахам запыталася старая.— Трэба ж вячэру пачэсна скончыць.

Сымон апомніўся і сеў зноў на сваё месца. Вячэра цягнулася нудна, без ніводнага слова. Агата нічога не ела і раз-поразу са страхам пазіралася на свёкра. Што будзе далей? — засела ў яе галаве пытанне, якое развязаць ёй нельга было...

З гэтага вечара для Агаты і Тодара пачаліся яшчэ горшыя часы. Калі дагэтуль стары Карнач дрэнна абыходзіўся з Агатаю, то гэта суцэльна залежала ад старога парушэння яго жаданняў, яго волі старэйшага. Яго нялюбасць да Тодара мела тую самую крыніцу. Цяпер жа яго варожасць завастрылася новым матывам. Хоць гэта, можа, было і крыху смешна, але стары Сымон пачаў баяцца свайго ўнука. Ён пачаў часта думаць аб ім. Ганяў ён ад сябе гэтыя думкі, лічачы, што не варта ламаць сабе галаў над такім глупствам, але выгнаць думкі не мог. Чым больш віліся яны, тым часцей Сымон лавіў сябе на здагадцы, што ён усё ж баіцца «байструка». Гэта яшчэ больш абазляла яго, і ён непакоіўся ўжо аб тым, што гэты адродак жыве з ім пад адным дахам. «Ліха яго ведае, што ён можа зрабіць, гэты Тодар! Можа хату падпаліць альбо гумно, мала што ўтаўчэцца яму ў галаў. Калі ўжо ён не гаворыць пацераў, бога не прызнае, дык чаго ж чакаць ад яго добрага? Не, трэба звольніцца ад яго, прагнаць к чорту, няхай ідзе, куды хоча»,— думаў Сымон. «А суд? — прамільгнула ў яго галаве.— Ну што ж суд! Бачылі мы і суды і начальства — усе людзі, зладзіцца мож-

на». І засела цвёрдая думка ў Сымона прагнаць унука. Чакаць здарэння яму прыйшлося нядоўга.

Тодар ужо некалькі дзён хадзіў сам не свой. Увечары ён ужо не садзіўся за кніжку, раніцою не рупіўся, як некалі, у школу. Вочы яго страцілі свой бляск і жыццёвы задор. Нават віхорчык на галаве нібы знік набок. Агата перш думала, што здарэнне на «дзядах» так збянтэжыла яе сына, але потым даведалася, што не гэта непакоіць Тодара. А што з ім, ці ён хворы, ці яшчэ якая бяда — Агаце трудна было ад яго выведаць. Праз некалькі дзён пасля ўшчынку такога настрою Тодар зусім не пайшоў у школу, а цэлы дзень бадзяўся па лесе, нават палуднаваць не пайшоў дадому. Агата перапалохалася за яго і пабегла шукаць. Доўга яна шнырыла па бары, і, каб не свежыя сляды на снезе, то была б дарэмна яе турбацыя. Тодар сядзеў на пні, тварам у бок ад падыходзіўшай мацеры.

Агата ціхком падышла зусім блізка. Тодар плакаў. Слёзы, як арабіны, падалі на снег, робячы ў ім кругленькія дзірачкі. Агата стала як укопаная: даўно ўжо не бачыла яна, каб плакаў Тодар, хоць ён і блазан.

— Тодарка!

Як хто падкінуў яго ўверх. Слёзы раптам прыпыніліся.

— Тодарка, чаго ты тут сядзіш?

— Так сабе,— непрыемна адказаў Тодар, адчуваючы стыд за свае слёзы.

— Чаму ж ты мне не скажаш, сыночак, што з табою, што ў цябе за гора? Пашкадуй жа ты мяне, не шляйся ты па гэтым лесе. Пойдзем дамоў!

— Мне няма чаго ісці туды!

— Ну што з табою зрабілася?

Замест адказу Тодар сам запытаўся:

— Скажы, мама, якія людзі завуцца чэснымі?

— Чэснымі? Чаму ж ты аб гэтым пытаешся? Чэснымі... чэснымі завуцца тыя, хто не ашуквае, не крадзе, не крыўдзіць іншага, не хлусіць...

— А багаты чалавек можа быць чэсным?

— Ах, сынок, ніколі багацце не збіраецца без ашуканства, без крыўды, папраўдзе.

— Дык мы ўсе, Карначы, не можам звацца чэснымі?

— Ды што ты, сынок, забраў сабе ў голаў? Навошта табе гэта ведаць? Няма чаго пытацца ў мяне, сам некалі спазнаеш.

— Я ўжо спазнаў!

Слёзы зноў навярнуліся на вачах Тодара. Ён адвярнуўся ад мацеры і рукавом выціраў свой твар. Снег залазіў яму ў кепска абуты лапаць пад анучу аж да самае нагі, але ён нібы не адчуваў холаду. Твар яго гарэў як ад агню і выдзяляўся, як макавая кветка, на роўнай белай коўдры снегу. Навокал стаяла такая ціша, што чуваць было, як падала іголка хваіны, як стукала сэрца ў грудзях. Голас чалавечы здаваўся такім незвычайна моцным, што яго можна было чуць, можа, за некалькі вёрст. Мімавольна зніжаючы голас, як бы з баязні, што хто падслухае, а можа, пачуе і здалёку, Тодар, прыхіліўшыся да мацеры, паведаміў:

— Ведаеш, мама, я шмат чаго спазнаў у школе. Тое, што я сам бачыў, але не разумеў чаго, стала цяпер для мяне ясным. Я спазнаў, чаму каршун задзірае малую птушку, чаму гадзіна ловіць мыш, чаму моцны здзекуецца над кволым. Я да ўсяго да гэтага даведаўся. І мне стала надта нядобра ад таго, што мы, наш дзед, такія багатыя, а ёсць на вёсцы сяляне, якія жывуць з дзесяціны зямлі. Але пакуль што гэта я адчуваў толькі сам, сам даведаўся гэтага, сам пабудаваў свае думкі.

— Не так даўно, тыдні са два таму назад, у нас у школе пачаў закладацца піянерскі атрад. Траха не ўсіх запісалі ў яго, а... а... мяне... не ўнеслі ў спіс. Кажуць: «Ты не можаш быць чэсным піянерам». Чаму я не магу быць чэсным, чаму? Твой дзед і ты, уся твая сям'я валодае двума валокамі. Ты багаты, ты ашуканствам трымаеш столькі зямлі. Дык ці ж я ёю валодаю, мама, ці валодаеш ёю ты? Навошта ж на мяне, на нас з табою ад людзей нянавісць, завошта мяне

дзеці-школьнікі не любяць. Чаму мяне выключылі са спісу? Чаму ўсё гэта?

Агата стаяла побач з сынам, бачыла ўсё яго гора, пагарду ад людзей, якое ён не заслужыў. Але ж чым памагчы хлопцу, як сцішыць яго боль — яна не ведала сродкаў. Маўчала. Яна бачыла, што сын ужо перарос яе, што ён больш за яе гаруе ад тых абставін, у якія ўціснула яго жыццё, што ён толькі з болем, з мукаю можа траціць ці дазволіць знішчаць сваю асабістасць. Гэта яна, вядома, не розумам дадзіла да гэтага, але пачуццём сваім спазнавала. Адчувала і, бязвольная, нямоцная, як прыгнечаная снегам арэшына побач з ёю, маўчала, пакуль пабочная сіла скіне з яе цяжар запытання. Тодар ужо зноў стрымаў сябе і зрабіўся зразу сярдзіты ад таго, што паведаміў аб сваім горы і не атрымаў ні дапамогі, ні парады.

— Ты дарэмна шукала мяне, мама! Я і сам прыйшоў бы дадому, нікуды б я не дзеўся.

— Ах, Тодарка! Мне так страшна было, што ты згінеш. Пойдзем дадому!

— Не, ты ідзі сабе, а я прыйду, як прыцямнее.

Доўга ўгаварвала Агата Тодара ісці разам, але ён настаяў на сваім. Ужо пачынаўся кароткі зімовы вечар. Дзень так хутка перайшоў у ноч, што Тодар ледзьве пазнаў месца, дзе ён сядзеў — так ноч змяніла ўсё вакол. Махнатыя яліны, быццам спалохаўшыся цемры, прысунуліся бліжэй адна да другое. На бліжайшай прагаліне, дзе стаялі маладзенькія хваінкі, здаецца, з'явіліся падсвечнікі, утыканыя белымі свечкамі. Уверсе, між сучча, пачуўся і змёр нейкі трывожны шолах. Хмарнае неба спусцілася зусім нізка і павісла на вяршынні хваін. Там пад стогам яліны, у цемры, прытуліліся сполахі: яны то выглядаюць з-за пня, то зноў хаваюцца. Але Тодар іх не баіцца. Тут яму добра, няма людзей, ніхто не спаганіць, ніхто не паздзекуецца...

Праз гадзіны дзве пасля мацеры прыйшоў Тодар дадому. На чорнай палавіне ён застаў дзеда, які моцна лаяў Агату, што яна недзе бадзялася і не справіла нейкае там работы.

Як толькі Тодар рыпнуў дзвярыма і ўваўшоў у хату, стары Сымон, сам не ведаючы чаму, асекся. Тодар залез у куток на палу і ўставіўся сваімі вачамі, як спонк, у дзеда.

— Чаму ты лаешся заўсёды? — запытаўся ён у старога.

— А ты маеш права пытацца ў мяне? — запытаў у свой чарод Сымон.

— Маю... Чаму ж ты так любіш багацце, што ўсіх нас морыш бясконца працаю?

— Ты яшчэ зялёны ведаць гэта!

— Не, я ўжо ведаю — ты каршун.

— Да што ты, гад ты гэтакі, узяў сабе ў голаў! Дзе ж гэта было, каб такая брыда лезла ў вочы?!

— Я не брыда, а ты — каршун!

Сымон пазеляннеў увесь ад злосці і пагарды. Ён схапіў у качарэжніку чапялу і кінуўся за Тодарам. Агата павісла ў яго на руках, не даючы яму размахнуцца. Сымон круціў чапялу ў паветры.

— Пусці яго, мама! Ты думаеш, што я цябе баюся! На!

Як кошка, саскочыў Тодар з пола і стаяў пад самым носам у дзеда. Яго вочы-вугольчыкі, здавалася, наскрозь праймалі грузкае цела яго ворага. Сымон бязвольна апусціў руку з чапялою, якая выпала на зямлю.

— Я цябе не баюся. Ты — каршун! Ты саслаў свайго брата на катаргу, ты адкупіў сына ад вайны, ты гандлюеш гарэлкаю! Пачакай, я табе спаганю матчыны слёзы і ўсю пакуту!

Перад Сымонам стаяў не блазан, не «байстручок» — перад ім быў абазлёны воўк, які вось-вось сам кінецца на яго. Сымон страціў увесь свой імпэт, усю веру ў сваю магутнасць над людзьмі. Гэты малы хлапец адабраў у яго ўсе сілы. Рукі ў яго трасліся, ва ўсім целе была страшэнная слабасць, у вушах звінеў, рэзаў голас, калоў шылам. Агата, блядая, як палатно, стаяла ў парозе і не магла шавяльнуць ні адным пальцам. З чыстае палавіны на крык прыбегла старая з другою нявесткаю і зразу запыніліся ў дзвярах, угледзеўшы ўсё, што чаўплося.

— Ну дык што ж ты не б'еш? Не пасмееш, нябось! На табе чапялу, я падам!

І Тодар сам пачаў соваць дзеду ў рукі чапялу. Той стаяў, як астаўбянелы.

— Наце, біце нас! — кінуўся Тодар да бабы і цёткі.

Яны, як шалёнага, спалохаліся яго і шмыгнулі за дзверы ў сенцы.

Сымон усё стаяў і трос рукамі і галавою, не могучы вымавіць слова.

Тодар падышоў да ложка, апрануў свой кажушок, знайшоў недзе над лаваю шапку з вырванаю з аднаго боку бавоўнаю, забраў з скрынкі кніжкі, палажыў у торбачку акрайчык хлеба — і сярод ночы выйшаў у поле. Усё гэта рабілася так хутка, так незвычайна, што Агата не магла зразумець, што адбылося. Нават як Тодар праходзіў міма яе, яна не кранулася з месца. Потым яна кінулася на двор, але ў які бок здаганяць хлопца — невядома. Сымон жа Карнач усё стаяў пасярод хаты, нічога не бачыў і трос сіваю галавою; губы яго варушыліся без слоў.

— Прэч, прэч, а то зарэжу! — пачула Агата, вярнуўшыся ў хату.

Яна з усцішшам схапіла сонную сваю дзяўчынку і кінулася з ёю ў лазню, дзе правяла не адзін дзень і ноч.

## III

Смолкаўскі раённы Выканаўчы Камітэт знайшоў сабе прытулак не дзе-небудзь у вёсцы альбо мястэчку, а паводдаль, у быўшым маёнтку. Тут згуртаваліся розныя ўстановы, але галоўным гаспадаром над усім быў саўгас. Быўшы панскі дом займаў сам Камітэт. Вялізарныя пакоі, з пазаклейванымі паперою шыбамі ў вокнах і папсаванаю паркетнаю падлогаю, выглядалі зусім пустымі, бо траха што не відаць было ніякае мэблі: дзе-нідзе сіратою ў кутку стаяла шафа з пакрыўленымі дзверцамі альбо невялічкі хваёвы

стол, зашмуглены чарніламі. У самым лепшым пакоі змяшчаўся кабінет старшыні. Калі вы заходзіце ў гэты «габінэт», то перш за ўсё вам кідаецца ў вочы вялізарны камін, абложаны зялёным мармурам. На бела-шэрым фоне сцяны гэты камін, са сваім вусцем, рабіў уражанне раскрытага рота нейкага фантастычнага чудзішча. Далей, каля другое сцяны, пад наклеенаю паперачкаю з надпісам: «Председатель РИК» расцягнулася, быццам уліпшы ў падлогу, доўгая канапа з вытырклымі праз зрэбіну спружынамі — толькі махорчыкі ружовага колеру сведчылі, што некалі была на ёй абіўка. Перад гэтаю канапаю стаяў стол, які можна назваць «пісьмовым» толькі таму, што ён густа заліты чарніламі. Больш у гэтым кабінеце нічога не было.

Быў душны адвячорак у чэрвені. Увесь дом Выканкома быў ужо пустым, і мухі, узгадаваныя ў саўгасным хляве, маглі тут вольна адпачыць ад гарачыні дня. Некаторым з іх наскучыла таўчыся без толку ў пустых пакоях, і яны заняліся інтэлігентнымі справамі — чарнільніца старшыні была адчынена для іх. Другім спадабаліся больш простыя занятк і: на канапе спаў сторож Антось, раскрыты рот якога так прыцягваў сваёй таемнасцю. Што там робіцца, мухам трэба ведаць, можа, скарыстаць прыйдзецца. Раз-поразу яны залазілі туды, але ненадоўга, нават не паспявалі зрабіць належныя доследы, бо рот пачынаў чаўкаць і можна было з-за цікавасці застацца без крыл, ножак альбо і галавы. Але зайздрасць брала сваё: вылецеўшы ад сполаху за сваё жыццё, найбольш упартыя зноў лезлі туды. Антось варочаўся, хапаў у паветры рукамі, лаяўся скрозь сон, але мухі не маглі пакінуць такі прыемны для іх занятак.

Вось да зыку мух прымяшаўся яшчэ гук іншы: у сумежным пакоі на падлозе раздаліся чыесьці крокі, якія зліваліся са скрыпам разышоўшагася паркету. Скрып быў нясмелы, асцярожны: то прыпыняўся, то зноў пачынаўся тады, як крокі аддаляліся ад дзвярэй. Антось, крыху ачнуўшыся і выгнаўшы ў дваццаты раз мух з свайго рота, прыслухаўся.

— А, на іх ліха, на гэтых свіней! У канцылярыю нават зайшлі... Аюсь, каб вы падохлі!

Выканаўшы свой абавязак, Антось перавярнуўся на другі бок, накрыў лістом «Известий» твар и соладка захроп. Але яму не прыйшлося доўга спаць: крокі і скрып раздаліся ўжо ў самім кабінеце. Антось павярнуўся, вылаяўся, абадраўшы руку аб спрунжыну, і падняў голаў. Перад ім стаяў босы, худы, абарваны, з чырвонаю стужачкаю на шыі хлопчык.

— Што табе тут трэба? Прыйшоў чарнільніцы красці?

Хлопчык спалохаўся і падаўся назад. Але гэта было толькі хвіліну, ён падняў апушчаную ўніз голаў, і ў яго вачах засвяцілася рашучасць, асабліва як ён прачытаў над канапаю словы «Председатель РИК».

— Гэта вы будзеце старшыня? — яшчэ не зусім смела запытаўся хлопчык.

Антось ужо сядзеў на канапе. Ён агледзеў хлопчыка і рашыў, што ў такога блазна не можа быць важных спраў.

— А што табе трэба? — запытаўся ён, не адказаўшы на запытанне яму.

— Я прыйшоў праўды шукаць,— ужо рашуча сказаў хлопчык, і ў яго вачах бліснулі вугольчыкі.

— Цябе пакрыўдзілі? — дапытваўся Антось.

— Не, не толькі мяне. Я хачу праўды ад усіх.

— А скуль жа ты?

— У мяне дому няма.

— Значыць, ты самашляюшчы?

— Я не самашляюшчы, я піянер.

— Як ты сказаў — пі...пінер? Гэта што яшчэ за ліха?

Хлопчык здзіўлена пазіраў на «председателя»: няўжо ж ён не ведае, што такое піянер. Антось скоса разглядаў свайго кліента.

— Вось што,— сказаў Антось,— уцякай ты пахутчэй, пакуль я табе вушэй не выдраў... пінер яшчэ нейкі!

Хлопчык зачырванеў аж да вушэй. Рука яго сударажна церабіла зрэбную торбачку, вісеўшую ў яго на шыі

на матузку. Вочы яго, як стрэлы, упіліся ў твар «председателя» і, здавалася, пранізвалі яго наскрозь.

— Таварыш старшыня, таварыш...

Антось самадавольна асклабіўся, а потым напусціў на сябе ўжо зусім сярдзіты выгляд.

— Таварыш старшыня! Я ж прыйшоў да вас шукаць праўды супраць свайго дзеда.

— А ты ж кажаш, што ў цябе дому няма?!

— Я ўцёк з дому. Мой дзед, Сымон Карнач, здзекаваўся нада мною і маёю мацераю.

— Твой дзед Сымон Карнач? Гэта з хутара пад Рудняю?

— А ці ж вы яго ведаеце?

— Ведаю! Хто яго не ведае. Кожны сабака на сто вёрст вакол ведае яго.

— Дык вы, можа, ведаеце, што ў яго дзве валокі зямлі?

— І гэта ведаю.

— Калі вы ведаеце гэта, дык чаму ж не адбераце ў яго зямлі і не аддасце тым, у каго яе зусім няма?

Антось з цікавасцю агледзеў яшчэ раз хлопчыка. Яму дзіўна было, што такое малое разумее ў такіх справах.

— Твой дзед надта добры чалавек, таму і зямлю яму ўсю пакінулі.

— Дзед Сымон добры чалавек? Ды ён жа маю маму б'е, ён ашуквае ўсіх, ён гарэлку гоніць, ён... ён свайго брата пад суд падвёў. Які ж ён добры чалавек?

— З начальствам ён добра жыве, вось што.

Хлопчык атарапеў. Увесь яго пэнт прапаў, вугольчыкі ў вачах патухлі. Некалькі разоў ён падымаў апушчаную галаў, узглядаў з нудою на «председателя», але не мог выціснуць з сябе ніводнага слова. «Председатель» ужо забыўся аб сваёй ролі, спусціўся да звычайнага чалавека, да Антося, і пачаў пазяхаць. Карабатая канапа так падманьвала яго да сябе, што ён не доўга чакаў зноў выцягнуцца на ёй.

— Ну, ідзі сабе, хлопча,— сказаў Антось, пазяхаючы.— Твая справа нічога не варта, дый не табе яшчэ совацца ў

такія рэчы. Ох-хо-хо! Хо! Якія цяпер дзеці, скажы ты на міласць. Прыйшоў на дзеда скардзіцца! Але на каго — на самога Сымона Карнача! Ха-ха-ха! Ён, брат, за саветы гарою стаіць, а ты — зямлю адабраць у яго. Ого-го! Ну, ідзі сабе, да кінь усё гэта з галавы, а то і ў халодную пападзеш. Ох-хо-хо!..

«Председатель» заснуў. Тодар Базылёнак — гэта быў ён — як быццам страціў усе свае сілы і не мог крануцца з месца. Ён уставіўся ў камін, які аскаліўся на яго сваім зялёным проглам. Здавалася, што нават гэтая нежывая рэч пражэцца злавіць і праглынуць кагось. Перад Тодарам, як матылькі, праносіліся рэзвыя надзеі, з якімі ён ішоў сюды, успаміналася яму радасць ад хуткага звальнення мацеры ад пакуты і здзяйснення помсты дзеду. Ён так чакаў усяго гэтага, ён так быў захоплены сваёю місіяй аднаўлення заціснутае праўды, што ніколі не мог спадзявацца на такі канец. Замест гэтых надзей перад ім была чорная завеса, якая яшчэ шчыльней захоўвала праўду, якую ён меўся вось-вось знайсці. Перад гэтаю завесаю мільгала постаць «председателя», які закінуў у сэрца яшчэ новую спакусу, новае недавер'е да людзей, да закону.

«Чаму ж гэта ў школе, чаму ў піянерскім атрадзе мы вучым, мы верым у адно,— думаў Тодар,— а ў людзей іншых выходзіць іншае?»

Усе ведаюць, што Сымон Карнач — нячысты чалавек, а сам прадсядацель лічыць яго добрым. Што ж гэта такое?

Гэтае запытанне не знаходзіла сабе адказу і круцілася ў мазгах Тодара, калола там да болю, засланяла сабою ўсе іншыя думкі.

Вецер шыбануў і стукнуў акном. Тодар апомніўся. «Председатель» спаў, разявіўшы рот; мухі таўкліся над ім роем. Тодар хацеў пабудзіць яго, каб яшчэ запытацца аб чым-кольвечы, але, падумаўшы, павярнуўся і пакінуў кабінет. Выйшаўшы ў поле за фальварак, ён пайшоў па дарозе без якое-небудзь мэты, нават не пытаючыся ў сябе, куды ён ідзе. Перад ім усё стаяла пытанне, чаму старшыня не адчуў

праўды, чаму не пасобіў яму. Дзед Сымон добры для начальства, сказаў старшыня, з начальствам добра жыве. Ну, а калі так, то ніколі нельга будзе звольніцца ад яго, ён заўсёды будзе змывацца над імі, над мацераю і Тодарам, заўсёды будзе нажывацца чужою працаю.

Куды ісці? Дадому, наведацца мацеры? Да школы? Маці плача, мусіць, і нічым ёй там не пасобіш, а ў школе цяпер ужо нікога няма — усе дзеці разышліся на лета, гэта не горад. А ці няможна ж яшчэ дамагчыся свайго, ці не паставіць на сваім? Мала што гэты старшыня, рык гэты, не захацеў разабраць справы. Можа, ён і сам нічога не ведае: гэта ж не дзіва — ён ледзьве выгаварыў слова «піянер», ды і так сказаў шыварат-навыварат. І сапраўды, няма чаго ўжо задумляцца. Трэба пайсці ў горад; там ёсць вышэйшы камітэт, ён разбярэ ўсё як належыць — і нездабраваць тады дзеду Сымону.

Быццам новыя сілы нахлынулі на Тодара. Ён шпаркім крокам пусціўся па дарозе, але, прайшоўшы з паўвярсты, успомніў, што не ведае, у які бок ісці. Ён прыпыніўся і пачаў выбіраць напрамак па сонцы. Горад павінен быць на ўсходзе, але дарогі туды няма, дарога якраз на поўдзень і поўнач. Добра, што на дарозе не ў доўгім часе паказалася фурманка.

— Дзядзька, як трэба ісці ў горад? — запытаўся Тодар у пад'ехаўшага фурманшчыка.

— У горад? Ох, далёка адгэтуль у горад,— адказаў той.

— Дарма што далёка, вы скажыце толькі, як туды ісці.

— Да ты што, сам туды ідзеш?

— Вядома.

— Жабруеш ты, бацькоў у цябе няма?

— Не, я не жабрую, я іду ў горад па справах.

— А што табе там трэба?

— Зямельнае пытанне ў мяне.

Фурманшчык прыпыніў каня, злез з воза, узяўся ў бакі, доўга глядзеў, як на нейкае цуда, на гэтага хлопчыка, а потым закаціўся ад смеху:

— Да ці цябе сапраўды бусел на хвасце прынёс? Такога спрытнага матка не магла радзіць. У яго зямельныя справы! Ха-ха-ха!

Тодар адышоў ад фурманшчыка на некалькі крокаў.

— Я ў вас прасіў паказаць дарогу, а не рагатаць, як каня,— сказаў ён з насупленымі брыўмі.

— О, да ты, хлапец, хоць куды! Ну, добра: вось пройдзеш да гэтае вёскі, а там будзе шлях; ён ідзе да самага горада.

— Дзякуй.

Тодар чуць не трухам пусціўся ў бок паказанае яму вёскі. Фурманшчык стаяў пасярод дарогі і доўга пазіраў услед гэтага маленькага падарожнага, торбачка якога ўжо далёка мільгацела белай плямай на шэрай сарочцы. Сонца было ўжо зусім нізка і золатам афарбоўвала пыл над дарогаю, які лёгкаю плёнкаю пакрысе засцілаў шпаркага малога чалавечка.

Тодар ішоў цэлую ноч не прыпынаючыся. Там, хоць яшчэ і далёка, горад, дзе ён знойдзе адказ на ўсе свае запытанні, дзе ён знойдзе праўду, без якое далей немагчыма жыць...

Агата ўжо другі тыдзень, як была хвораю. Якая з ёю была хвароба, ніхто не ведаў: болі ніякае не было, але рапам на яе надыходзіла нейкае засляпенне, яна траціла ўсе сілы, пачынала дрыжаць, як асінавы ліст ад ветру, потым калаціцца аб што папала.

Пачалася гэтая хвароба вось як.

У лазню, дзе ўжо колькі часу жыла Агата са сваёю дзяўчынкаю, адзін раз увечары неспадзявана ўвайшоў стары Сымон. Дзяўчынка прыкмеціла яго першаю і так перапалохалася яго твару, што палезла пад палок. Агата таксама была сама не свая, бо кожны раз, як Карнач заходзіў да яе ў госці, канчалася звычайна кепска.

— Гм-гум! Вось дык род паганы: і дачка твая ў цябе — хаваецца ад людзей, як звер. Чаго ты туды забілася! — крыкнуў Сымон ва ўсё горла на дзяўчынку.

Малая не толькі не вылезла з-пад пола, але, наадварот, яшчэ далей зашылася і пачала ціхенька плакаць.

— Ну, ліха цябе бяры, сядзі сабе там... Агата, дзе твой байструк?

— Гэта вы аб Тодарку пытаецце?

— Аб Тодарку... Тодарку, а то ж аб кім яшчэ.

— Дык я ж не ведаю: ён як уцёк тады, дык я яго і не бачыла. Татачка, можа, вы чулі што аб ім, дзе ён?

— Галаў бы ён зламаў, шалуцька!

— Татачка, родны, скажыце, завошта вы яго так лаеце, чаму вы яго так ненавідзіце — ён жа яшчэ блазан, розуму ў яго няма. Дык калі ён і супярэчыць, то толькі ад дзіцячага глупства... Падаруйце яму, скажыце, дзе ён, і дазвольце яму жыць дома, калі ён жывы.

— Халера яго не ўзяла, але каб узяла — лепш было б.

— Што вы кажаце, татка. Пабойцеся вы бога!

— Вось дзе мне гэтае паскудства стаіць, але дарма: няхай я яго толькі злаўлю цяпер, ужо не выйдзе ён з маіх рук.

Агата жахнулася і мімавольна адхілілася ўбок. Сымон стаяў, вялізарны, як стоўп, падпіраючы нізкую столь лазні, і барматаў сабе нешта пад нос.

— Зжальцеся нада мною, татка! Я ж не бачыла ў вас ні часіны радасці, спакою за ўсё сваё жыццё, а цяпер вы пагражаецеся на не вінаватае ні ў чым дзіця. Яшчэ ж дзіця Тодарка. Пашкадуйце мяне і яго хоць раз, татка,— маліла Агата з надзеяю, што размякне ж сэрца гэтага чалавека.

— Дзіця — твой байструк, кажаш. Дзіця! А хадзіць скардзіцца на мяне ў Выканком ужо ведае дарогу, разносіць усякую брыду ўжо навучыўся — дзіця!

— Пра што вы кажаце?

— А ты і не ведаеш? Сама, нябось, нашаптала яму, навучыла, як пайсці сказаць. У-у!..

Сымон сціснуў зубы аж да скрыпу і злымі вачамі абвёў усю шчуплую постаць Агаты. Апошняя нічога не разумела.

— Да што ж было такое, татка? Я ж нізвання нічога не ведаю.

— Не ведаеш ты! Туляешся па кутках, як гадзіна, ды ўкусіць з-за вугла хочаш, блага што сілы няма.

— Што гэта такое, што гэта такое...— скрозь туман непаразумення пыталася ўжо ў сябе Агата.— Што за напасць яшчэ? Татка, я ж увесь час, як жыву ў вашым доме, словам вам не перакорыла, а цяпер, што вы на мяне ўзводзіце!

— Я не лгун, праўду кажу! Твой Тодарка, тваё «дзіця» ўжо нешта надта разумнае стала, надта зарана разумнае. Гэта ж ён, а не хто іншы хадзіў у Смолкі прасіць, каб у мяне зямлю адабралі, ды яшчэ там розныя плёткі чоўп на мяне. Але скула вам ліхая, яму і табе! Былі вы жабракамі звеку, імі і застанецеся, а Сымон Карнач, якім быў, так такім і застанецца. Не вам ужо шкодзіць мне: хоць бы людзі вы, а то брыда. Са мною ўсе, разумееш ты?

— А дзе ж цяпер Тодар?

— Гэта ўсё роўна дзе,— калі няма, то і лепш.

Агата ўпілася вачамі ў старога. Страшэнная думка заскочыла ёй у галаў і ўсё перавярнула там уверх дном.

— Вы загубілі яго! — не сваім, звярыным голасам крыкнула яна, і нібы што адарвалася ў яе грудзях. Яна, як тыгрыца, кінулася на Сымона.

Той адступіўся крок назад, схапіў яе аберуч і бразнуў аб палок галавою, адкідаючы ад сябе.

Дзяўчынка нема зараўла ў сваім прытулку. Сымон апомніўся, падняў Агату, пасінеўшую, як смерць. Раны ніякае не відаць было, але яна не мела выгляду жывое. Сымон узяў вядро з вадою і пачаў паліваць яе. Праз некалькі хвілін Агата прыйшла ў сябе, але была такою нямоцнаю, што ногі яе не трымалі. Пазнаўшы Сымона, яна зноў закацілася.

— Пакінь... пакінь ты мяне адну,— ледзьве чутным голасам папрасіла яна.

З гэтага часу Агата і зрабілася хвораю незразумелаю хваробаю. Яе з лазні ўсялілі зноў у старую хату. Свякроў, якая зрабілася зразу пасля гэтага надта ўважліваю да Ага-

ты і не адыходзіла ад яе, як на яе надыходзіў прыпадак, нават пробавала яе ўвясці на чыстую палавіну, але Агата так заспрачалася, што зрабіць гэта не ўдалося. Старая Карначыха збірала па знаёмых розныя травы, нейкія таемныя лякарствы ў сатлеўшых капшучках, саймавалася з рознымі старымі бабамі цэлымі вечарамі, рабіла з Агатаю розныя штукі, прыклікала нейкую кабету, якая ведала заклёны, але ўсё гэта заставалася дарэмным: Агата праз нейкі час стаўбянела альбо на яе нападала трасца. Кожны раз пры гэтых здарэннях, яна памногу гаварыла сама з сабою, клікала Тодарку, ахвяроўвала купіць яму кніжку, падгаворвала яго ўцячы ад дзеда Сымона.

Такія прыпадкі з Агатаю рабілі нечаканы ўплыў на старога Карнача, калі толькі яму траплялася іх бачыць. Ён як мага хутчэй прогся сысці з вачэй Агаты, быццам яны калолі яго, і быць дзе-небудзь падалей ад дому, хоць яму зусім і не патрэбна было ісці. Да Агацінае дзяўчынкі ён зрабіўся зусім інакшым: ён не толькі не крычаў на яе, але нават пачаў выказваць ёй асаблівую ўвагу і ласку. Толькі дзяўчынка сама абыходзіла яго і старалася залезці куды ў куток, толькі б не спаткацца з дзедам.

— Чаго ты хаваешся ад мяне? — пытаўся ён.

— Я цябе баюся,— адказвала яна, уцякаючы як мага.

Абодва старыя змяніліся зусім да Агаты. Толькі як даводзілася Сымону чуць імя Тодара, то ён насупліваўся, маўчаў. Некалькі разоў ён пробаваў утлумачыць Агаце, што яна дарэмна непакоіцца,— Тодар жывы і хутка вернецца дадому. Але Агата ніякім чынам не верыла гэтаму — так моцна завалодала ёю думка аб яго згубе і так мяшаўся ў яе розум, як толькі аб гэтым заходзіла гутарка.

Аб тым, што Агата стала памешанаю, пайшлі хадзіць чуткі і па акружных вёсках. Што ў Сымона Карнача можна было страціць розум, не было нічога незвычайнага. Аб гэтым толькі пачалі гаварыць, як аб навіне, шкадавалі Агату, дзівіліся, што няма ніякае ўправы на гэтага Карнача.

— Ліха ведае што робіцца ў хаце,— падступілася адзін

раз да старога малодшая нявестка.— Навошта гэта трымаць дома сумашэдшую? Яшчэ, чаго добрага, скажуць, што мы вінаваты ў яе хворасці. Трэба, не адкладаючы надоўга, завезці яе ў горад і здаць там у дом, які для такіх людзей знарок зроблены.

Стары Сымон спачатку наадрэз адмовіўся ад гэтага. Але, як аб справе гэтай ужо надта шмат і часта пачалі гаварыць, бачачы штодня Агату, то ён пачаў схіляцца ўбок неабходнасці звольніцца ад яе. Але ж гэтая справа хітрая — нельга было зрабіць яе абы-як. Ну а Карнач недарэмна лічыўся за разумнага чалавека: быў прывезены аднекуль доктар, панятыя, якіх паклікаў сам Сымон, напісаны быў акт, у якім адмячалася, што Агата заўсёды была нямоцнага розуму, а потым яшчэ больш прыдурнела, не ведаючы, куды дзеўся яе хлапец.

Праз некалькі дзён, раніцаю, на двары Карнача стаялі запрэжаныя кары ў пару коней. Сын Карнача ўжо два-тры разы папраўляў то хамут, то набедрыкі на конях, хоць гэта і было лішнім — яму проста наскучыла чакаць бацьку з Агатаю, якія немаведама чаму затрымаліся ў хаце. Ён яшчэ раз утаптаў салому на карах, потым прайшоўся па двары: коні таксама пачалі траціць цярплівасць.

Раптам з хаты пачуўся крык, дзверы адчыніліся, і крык раздаўся знадворку.

— Нікуда я не хачу! — крычала Агата.

— Ну, слухай, Агата, мы з'ездзімо ў горад, купім табе хустку, спадніцу ды прыедзем назад. Чаго ж спрачаешся?

— Не хачу я ў горад, пусці мяне!

— Не хочаш у горад — да мястэчка з'ездзім.

— Ты мяне ашукваеш, ты заўсёды ашукваў, не паеду я.

Сымон з Агатаю стаялі на ганку: ён — трымаючы яе за плечы, а яна, прагнучыся вырвацца ад яго. З хаты выбегла дзяўчынка і з крыкам кінулася да мацеры і ахапіла яе абедзвюма руч. Сымон не чакаў такой упартасці ад Агаты, якую ён прывык бачыць заўсёды ціхаю ды паслухмянаю.

— Кінь ты, Агата, спрачацца! Давай садзіцца на воз.

— Садзіся і едзь куды хочаш, а я застануся дома.

— Ды што гэта ты яе ўгаворваеш? Вось яшчэ наўда якая! Вазьміце вось ручнік, звяжыце ёй рукі, і кончана. Найшоў яшчэ патрэбу ўпрошваць дурную,— выскачыўшы з хаты, параіла малодшая нявестка.

Карнач з сынам кінуліся на Агату, скруцілі ёй рукі тоўстым рушнікам і павалаклі да воза.

— Што вы са мною робіце? Настулька, ратуй мяне, мая дачанька!

Дзяўчынка, галосячы, учапілася за дзеда, але зараз жа, як сноп, адскочыла ад яго. Палажыўшы Агату на воз, мужчыны звязалі ёй і ногі, каб яна не магла саскочыць. Як бервяно, ляжала яна цяпер і магла толькі крычаць.

— Няхай, няхай пакрычыць! Зможацца, дык у дарозе будзе маўчаць,— парахаваў сын і пайшоў адчыняць вароты, надта здаволены тым, што ўся гэтая справа хутка скончыцца.

Стары Карнач падперазаў світку, узяў у рукі лейцы і крануў імі коней. Але раптам пачуўся званок, які ўсё звінеў бліжэй ды бліжэй, а праз міг перад варотамі, пад самым носам у Сымонавае пары, запынілася каламажка. Яшчэ міг — і з яе адзін за другім саскочылі тры чалавекі, а потым аднекуль са дна вытыркнулася галава хлопчыка.

— Вы Сымон Карнач? — запытаўся адзін [illegible] гасцей у вайсковым шынялі.

Сымон стаяў атарапелы і не мог адразу адказаць.

— Гэта, гэта мой дзед,— і два вугольчыкі апалілі твар Сымона.

— Тодар, Тодар, Тодарка!

Тодар скочыў к карам — і прыпыніўся ад неспадзеўкі.

— Тодарка, барані мяне.

— Вось дык належнае спатканне, якраз што трэба,— праказаў адзін з прыехаўшых.

Агату хутка знялі з воза, раскруцілі ручнікі. Яна кінулася к хлопцу, пачала мацаць яго рукамі, нібы дамагаючыся заверыцца, што перад ёю жывы чалавек, а не дух. Сы-

мон так і стаяў каля варот з пугаю ў руках і атарапеласцю на твары, якая, здавалася, закамянела на ім.

Агата пачала плакаць наўзрыд, абдымаючы Тодара.

— Мама, цяпер плакаць ужо не трэба. Праўда на нашым баку, сціхні... Дзед, а дзед,— звярнууся Тодар у бок варот,— чаму ж ты не клічаш гасцей у хату? Гэтыя дзядзькі здалёку прыехалі і праўду з сабою прывезлі.

Сымон Карнач як быў з пугаю, так і пайшоў з ёю ў хату.

*1925 г.*

# АБМЫЛКА

## I

Пятрусь Грышан, загадчык павятовага аддзела асветы, варочаўся з вёскі, дзе ён быў па службовых справах, назад у горад. Павет, дзе ён працаваў ужо з год, быў вялізарны, школы былі параскіданы адна ад другое надалёка, дарогі даволі дрэнныя і не зусім небяспечныя, бо часта трапляліся па іх лясы са звычайнаю блытанінаю ў іх маленькіх дарожак, раскрыжаванняў і г. д. Але Петрусю раз'езды надта падабаліся, бо давалі яму адпачынак ад безупыннае як службовае, так і грамадзянскае працы.

Вось і цяпер ён ехаў сярод вялікага лесу. Сонца было ўжо наадвячорку і сваімі косымі праменнямі, здавалася, наскрозь пранізвала ўсю грамаду лесу, афарбоўваючы ў ружовы колер гладкія, як габляваныя, пні хваін. Размораныя за дзень гарачынёю яліны і хваіны напаўнялі цяпер усё паветра церпкім вострым пахам смалы, які мяшаўся з дыханнем травы і кветак. Мошкі і камары павылазілі з сваіх прытулкаў і вясёлымі карагодамі віліся ў праменнях сонца перад тым, як заснуць, схавацца нанач. Гледзячы на гэтыя карагоды супраць сонца, здавалася, што паветра напоўнена лёгкім залатым туманам, які калыхаўся, як танюсенькая

вуаль ад ціхага ветру. Стомленыя за дзень птушкі неяк нехаця пералятаюць на другое месца, томна і коратка падаюць свой посвіст, пакуль зусім не сціхнуць з заходам сонца; толькі салавей, чым бліжэй к ночы, тым мацней і званчэй агалашае лес сваімі пераборамі, пералівамі, посвістамі.

Дарога ўецца, як вольна кінутая стужка. Калёсы скачуць па карэннях, тарахцяць і напаўняюць лес чужым непрыемным гукам, палохаючым і птаства, і дробных звяркоў: ваверка раз-раз — і залазіць на самы высокі сук, адкуль пазірае, навастрыўшы вушкі, і нібы дзівіцца, як вясковая дзяўчына альбо маладзіца, прылажыўшы пярэднія лапкі да мордачкі, ястраб, калі ён быў блізка ад дарогі, лёгкімі, ледзьве чутнымі ўзмахамі крылаў паднімаецца ўвышыню і прападае ў блакіце неба. Толькі вуаль камароў калышацца без перапынку, і іх звон напаўняе лес асабістаю музыкаю.

Пятрусь асабліва любіў час адвячорку яснага летняга дня ў лесе: і ціхая манатонная музыка машкары, і вострыя пахі, і птушыныя спевы, і цёмная зелень хваін на лёгка-блакітным небе — усё гэта ахоплівала яго спакоем, упаеннем харства. Яму было прыемна наглядаць за ўсімі рухамі асцярожнае ваверкі і за яе шві́дкасцю. Цікава было праводзіць і той час у лесе, як ноч прыходзіла на змену дню — бачыць, як мянялася афарбоўка дрэў, травы, лістоў, як заціхала жыццё лесу, як на змену сонцу на неба выходзіў поўны месяц і напаўняў лес блакітнай таемнасцю, фантазіяй. Усё гэта было люба Петрусю, хоць такія малюнкі былі яму не ў навіну.

На гэты раз, аднак, Пятрусь мала зварочваў увагі на жыццё лесу, хоць дзень быў асабліва ўдалым. Ён нават не прыкмеціў, як настала ноч і пацягнула вільгаццю з нізін. Некалькі разоў фурман зварочваўся да яго з рознымі запытаннямі, але не чуў належнага і ў свой час адказу. Думкі Петруся на гэты раз былі заняты зусім не лесам, а віліся далёка і ад лесу, і ад сучаснасці. Некалькі разоў ён прабаваў звярнуцца да свайго звычайнага настрою, да свае прывычкі наглядаць за жыццём лесу, нават да сваіх службовых

спраў, што засталіся яшчэ не скончанымі, накіроўваў нават свае думкі ў бок таго, як здзейсніцца яго мара аб тым, што кожная школа будзе мець ваё памяшканне,— але нічога не пасабляла: думка варочалася зноў да аднаго, малюнкі прошласці пачалі праходзіць перад яго вачамі, нібы ўсё тое было сёння ці ўчора. Пятрусь ужо не спрачаўся. Гэта неспадзяваная сустрэча дала такі вялізарны імпульс, якога ён ужо не спадзяваўся чакаць у жыцці. Думкі, успаміны перажыванняў даўно мінулых часоў віліся, як мошка на сонцы, у галаве і завалодалі ўсёю істотаю Петруся.

Маладым, зусім маладым хлапчуком Пятрусь пакінуў сваю вёску. У яго бацькі было толькі тры дзесяціны зямлі, а дзяцей — пяцёра, з якіх тры хлопцы. Вядома, трэба было шукаць заработкаў, трэба было каму-небудзь адысці з гаспадаркі, каб потым не дзяліць яе яшчэ на тры часткі. І Пятрусь, як старэйшы, пайшоў у горад шукаць хлеба. Яму параілі ісці на сярнічковую фабрыку, дзе працавала шмат народу і дзе больш было магчымасці прыстроіцца. Зранку, як толькі прароў гудок, Пятрусь ужо быў каля канторы. Калі ён, падышоўшы нясмела, як вясковы хлопец, да кіраўніка фабрыкі, сказаў яму, што шукае працы і хацеў бы стаць на работу вось тут, то не зразу атрымаў здавальняючы адказ. Той казаў, што не трэба новых рабочых, потым, што Пятрусь, мусіць, будзе не зразу карысным, як свежы, нефабрычны чалавек, а далей — трэба пачакаць, падумаць. Толькі праз бітую гадзіну Пятрусь дачакаўся таго, што паклікаyы быў майстар, пад загад якога ўваходзіў ён, ужо як рабочы фабрыкі. Пятрусь быў задаволены, што справа скончылася так удала, бо не ўсім так шэнціла ў тыя часы.

Першыя часы Пятрусь адчуваў сябе не зусім добра на новай рабоце. Тут патрэбна была пільнасць, трэба было сачыць за станком, які рабіў з калоды даўжэразныя стужкі дрэва. Траплялася, што Пятрусь забываўся, задумаўшыся аб вёсцы і сям'і, вымаць з рыны гэтыя стужкі, і яны налазілі з-пад разака адна на другую, тапырыліся стогам, ламаліся. Старэйшы рабочы аклікаў Петруся, упічна аглядаў

яго, а ён саромеўся, чырванеў і хапаўся нязграбна за стружкі, якія, на іх ліха, валакліся і ніяк не адкідаліся так зграбна, як у другіх. Але гэта з часамі праходзіла. Думкі аб вёсцы, аб гаспадарцы, аб сваіх родных усё радзей пачалі заходзіць яму ў галаў: тое жыццё, якое было вакол, стала больш цікавіць яго, а разам з гэтым і самая работа. У кароткі час ён ужо выведаў усе стадыі вырабу сернікаў, ведаў добра, да чаго пасуе, навошта патрэбна кожная прылада. Асабліва спадабаліся яму тыя машынкі, што самі рабілі скрыначкі для сернікаў: заложыш туды дзеравяных стужачак і папяровую абклейку — і пайшлі вылётваць, быццам выплёўвацца, зусім гатовыя скрыначкі. Машынка, як жывы чалавек, ды куды чалавек! Здатней за яго. Як толькі яго станок чамунебудзь прыпыняўся стругаць калоду, Пятрусь абавязкова ляцеў туды, дзе рабіліся скрыначкі і дамагаўся дасканала даведацца, як зроблены гэтыя цудоўныя машынкі — такія маленькія і такія здатныя. Дзівіўся ён не раз і спрытнасці кабет, якія працавалі ў раскладачнай: рукі іх так мільгацелі ў яго вачах, нельга было дагледзець, як адна рука работніцы хапала скрыначку, а другая клала ў яе зразу патрэбны лік сернікаў, але ж без ліку. Толькі можна было бачыць, як ужо поўныя скрыначкі з мернасцю маятніка падалі і стукалі ўнізу ў кошыку. Словам, з цікавасцю свежага чалавека, прагна ўбіраючага ў сябе новыя адбіткі незвычайнага жыцця, Пятрусь вывучаў усе стадыі тае працы, якой ён сябе ахвяраваў. І гэтая праца пачала ісці ў яго шпарка. Ён праз кароткі час зрабіўся сталым, пільным рабочым.

Праз некалькі часу Пятрусь стаў прыглядацца больш і да сваіх таварышаў, яго цягнула да кампаніі, якое ён яшчэ не меў. Маладому хлопцу ды быць аднаму — гэта не так лёгка. Некалькі разоў пры ім было, што рабочыя, канчаючы працу, умаўляліся пайсці то туды-сюды, то клікалі адзін другога да сябе. Пятрусь жа заставаўся адзін, як не маючы блізкіх знаёмых. Праз гэта ў вольны час ён не ведаў, што рабіць з сабою. Адзін раз ён прыстаў да хлопцаў, якія звы-

чайна на фабрыцы пераносяць скрыначкі з сушкі ў раскладачную. Але з гэтага нічога добрага не выйшла, хтосьці са старых рабочых асмяяў яго, угледзеўшы яго на вуліцы разам з блазнамі. Пятрусь парашыў, што гэта, мусіць, нешта дрэнна, і пачаў больш прыглядацца да старшых таварышаў.

Разам з Петрусём за яго станком працаваў высокі, моцны мужчына, надта маўклівы, са строгім выглядам чалавек. Пятрусь часта пробаваў разгаварыцца з ім, але, апроч кароткіх адказаў, нічога больш дамагчыся ад яго не мог. Але яго дзівіла тое, што гэты таварыш па працы ў часы дзённага адпачынку вёў доўгую гутарку з некаторымі рабочымі, для чаго яны выбіралі самы пусты пакой — сушню для сернікаў. Гэтую сушню ўсе абыходзілі, калі не было там патрэбы, бо там было надта нездаровае паветра, а гурток маўклівага таварыша знарок туды заходзіў. Петрусю гэта было цікава, і ён адзін раз пайшоў туды, каб паслухаць, аб чым там ідзе гутарка і так паасобна ад іншых. Ён бачыў, што гутарка была жвавая, але ў чым справа — не пачуў, бо пакінулі гаварыць, як толькі прыкмецілі Петруся. З сорамам выйшаў ён адтуль, і яшчэ горш сорамна яму стала, як пачалася зноў праца і таварыш яму сказаў, што нядобра падслухоўваць чужыя гутаркі, у якіх не бываеш удзельнікам.

Пятрусь пачаў адчуваць нейкую асаблівую цікавасць да свайго таварыша, але ніяк не ведаў, як яму падысці да яго. Пасобіла яму здарэнне, і не толькі пасобіла, але і зрабіла вялікі зварот у яго жыцці, развінула яго. Адзін раз Пятрусь праходзіў па раскладачнай. Тут быў і загадчык фабрыкі, які абыходзіў усіх работніц і наглядаў за іх працаю. Раптам, як гэта часта бывае з сярнічкамі, у адной работніцы, каля якое стаяў загадчык, палыхнула полымем рамка. Работніца позна схапілася, і полымя жухнула ёй у твар, рукі. Загадчык адскочыў, як корчык, а потым зноў падляцеў да работніцы — і два разы са ўсяе сілы ўдарыў яе па апаленым твары. Работніца, як мяшок, шуснула ўніз. Пятрусь стаяў і глядзеў на гэта як ачумелы. Ён абвёў вачамі ўсё вялізарнае памяшканне раскладачнае: доўгі шэраг работніц мільгацеў сваімі

рукамі, нібы нічога не зрабілася, нібы гэтае здарэнне было такім звычайным. З памутнеўшым розумам кінуўся ён у сваё аддзяленне і ў рэзкіх словах выказаў усё сваё абурэнне супраць такога зневажання, па-першае, чалавека, а па-другое, кабеты, якая не была пры гэтым вінавата. Яго маўклівы таварыш параіў яму маўчаць і прапанаваў прыйсці да яго ўвечары.

З гэтага дня пачалося зусім іншае жыццё Петруся. Два-тры разы ў тыдзень ён бываў у свайго таварыша па станку. Таварыш гэты ўжо не здаваўся больш маўклівым, але мог гаварыць памногу, ды яшчэ як гаварыць. Ён адчыніў перад Петрусём новы свет, новыя думкі, ён прасвятліў яму становішча яго наконт сацыяльных супярэчнасцей, маляваў яму становішча рабочых не толькі ў Беларусі, але ва ўсім свеце. У Петруся з'явіліся кніжкі, якія захоплівалі яго свежы розум, непапсаваныя пачуцці сваімі ідэямі і якія малявалі яму новае вольнае жыццё. Ужо ў часы, калі не трэба было ісці на фабрыку, Пятрусь не адчуваў нуды, адзіноцтва: ён ці размаўляў са сваімі кніжкамі, ці сядзеў у таварыша, з якім можна было весці гутаркі без канца. Фабрыка пакінула быць для Петруся цікаваю толькі сваімі машынамі, яна зрабілася больш цікаваю адносінамі рабочых і гаспадароў.

Часта, больш у святочныя дні, у Петрусёвага таварыша збіралася чалавек да дзесяці рабочых, пераважна з тых, хто складаў яго гурток на фабрыцы. Былі тут калі-нікалі рабочыя і з гуты, і з лесапілкі. Тады саймаванне прымала больш агульны выгляд у напрамку выяўлення класавых заданняў пралетарыяту. Мала-памалу Пятрусь уцягваўся ў гэтыя саймаванні, пачаў прымаць чынны ўдзел у спрэчках, перш нясмела, блытаючыся ў словах, а потым ужо ўсё больш і больш вытрымана. Яго шчырая прыхільнасць да кніжкі, пыл маладых яго гадоў зрабілі яго вельмі здатным аратарам. І цяпер у сваіх успамінах Пятрусь не мог без захаплення затрымацца на тым, як ён рабіў у той час свае прамовы, які вялікі ўплыў рабіў ён на сваіх слухачоў.

Так прайшла першая зіма Петруся на фабрыцы. К вясне

ён ужо быў свядомым рабочым і карыстаўся вялікаю павагаю сярод сваіх таварышаў, нягледзячы на свае дзевятнаццаць год. Ён адчуваў сябе сярод рабочых на фабрыцы, як сярод сям'і, нуда яго па вёсцы прапала, як у воду канула.

Адзін раз — гэты вечар Пятрусь добра помніць, а сёння ён выразаўся, як на малюнку,— прыйшоўшы на сходку да свайго таварыша, ён быў здзіўлены нечаканым, неспадзяваным з'явішчам: за сталом сядзела маладая, аздобная дзяўчына. Яна была ў белай маёвай адзежы, на галаве быў паненскі капялюш. Пятрусь да таго сумеўся, што запыніўся ў дзвярах.

— Чаго ж ты запыніўся? Праходзь. Гэта — таварыш Зося,— сказаў таварыш.

Пятрусь і цяпер не мог успомніць гэтага, каб не раззлавацца на сябе за тое, як ён нясмела, нязграбна падышоў тады да гэтага «таварыша Зосі» і падаў яму сваю тоўстую шурпатую, як калода, руку.

Цэлы вечар прасядзеў Пятрусь як вады ў рот набраўшы. Народу было шмат, закладалі нейкую арганізацыю, многа гаварылі і аб заданнях, і аб планах партыйнае працы, але ўсё гэта быццам толькі староною дасягала Петруся. «Таварыш Зося» з сваёю васемнаццацігадоваю вучонасцю і аўтарытэтам таксама прымала гарачы ўдзел у саймаваннях. Пятрусь жа маўчаў. Некалькі разоў старшыня зварочваўся да яго, ці не хоча ён што-кольвечы сказаць, але атрымліваў сістэматычнае адмаўленне. Было брыдка і нядобра на сэрцы ад гэтага, нібы звязанага, становішча. Ён многа разоў на працягу вечара збіраўся ісці дадому, сказаўшы сябрам, што адчувае сябе хворым. Але нейкая сіла прывязвала яго да ўслона, на якім ён сядзеў. Напаследак пасяджэнне скончылася.

— Я чула, што вы добры аратар,— сказала проста Зося, як разыходзіліся са сходкі.— Чаму ж вы сёння так упарта маўчалі?

Пятрусь і на гэтае запытанне прамаўчаў: сунуў паспешна на развітанне руку і, як мага, пусціўся ў свой бок.

Хто яна, адкуль яна, гэты «таварыш Зося»? Чаму яна сярод рабочых з сваімі тонкімі, белымі, як лілія, рукамі? Чаму ён маўчаў і так зняважыў сябе перад таварышамі ў такіх важных пытаннях, якія абгаворваліся ў гэты вечар? Гэтыя запытанні ўсталі перад Петрусём першы раз у жыцці, і ён шукаў на іх адказу ўсю ноч пасля таго вечара. Шукаў і знайшоў, але не ў гэтую ноч, а потым.

Сустрэчы Петруся з Зосяю з часамі рабіліся ўсё часцей. Звычайна сперш яны сустракаліся на сходках. Пятрусь памалу крыху асвойваўся, і да яго вярнуўся дар слова. Наадварот, калі чаму-небудзь на сходцы не было Зосі, то ён гаварыў шмат горш, як у яе прысутнасці. Здавалася, што яна прыносіла з сабою натхненне для Петруся, і ён нібы гаварыў для яе аднае. Таварышы прыкмячалі гэта, і раз бліжэйшы яго сябра, яго першы настаўнік, выказаў сваю нездаволенасць прасягненнем асабістых адносін у агульную справу. Але Пятрусь паглядзеў на яго такім простым, светлым поглядам, што ў таго прапала ахвота ўпікаць яго ў чым: Пятрусь і сам не разумеў таго, што зарадзілася ў ім.

Яму без канца было прыемна бачыць Зосю. Яна, як відаць, таксама шукала магчымасці сустракацца з ім: то кніжку прыносіла яму, то запытацца прыходзіла па справах арганізацыі (ён быў сакратаром), то яшчэ што-кольвечы ў яе знаходзілася. Так ішлі дні. Пятрусь як цяпер помніць, з якім непакаеннем чакаў гудка перад канцом работы, як ляцеў умывацца і затым выходзіў у гаёк каля фабрыкі, дзе чакаў Зосю.

Жыццё здавалася Петрусю пасыпаным кветкамі. Як ні таміла дванаццацігадзінная цяжкая праца, але ён скідаў з сваіх плеч увесь цяжар, як толькі канчаў работу і бег шукаць Зосю, якая дзе-небудзь ужо чакала яго. Безупынная жыццёвасць іх натур, таемнасць палітычнай дзейнасці так зблізілі іх, што яны, як дзеці, былі даверлівымі адзін да другога. Калі ім чамусьці не ўдавалася бачыцца дні два-тры, то яны таміліся як страціўшыя паўжыцця.

Але не ружова на свеце, больш таго, што ўчора было ру-

жовым, можа сёння зрабіцца шэрым. Так і з каханнем Петруся з Зосяю. Мусіць, адносіны Зосі да Петруся зрабіліся вядомымі не толькі іх сябрам па арганізацыі, але і на баку. Ужо часта Зося, сустракаючыся з Петрусём, не была такою жыццярадаю, як уперад. Яна зрабілася задуменнаю, часта падоўгу маўчала, разглядаючы хмаркі ў небе альбо зоркі, мільгацеўшыя таемным светам у змроку ліпнёвае ночы. У такія хвіліны Пятрусь адчуваў сябе як звязаным: ён мучыўся нявырашанасцю гэтае змены, а прыставаць з запытаннямі аб прычынах змены ён быццам баяўся. Праз гэта іх стрэчы пачалі рабіцца маўклівымі, і яны разыходзіліся нездаволенымі, з цяжкім сэрцам.

Апошняя іх сустрэча стала і цяпер перад вачамі Петруся, нібы адбывалася ў гэты самы час, як ён успамінаў з'явы свайго жыцця таго часу. У той памятны вечар ён не меўся сустрэцца з Зосяю і таму спакойна канчаў працу. Але вось падыходзіць адзін з таварышаў і паведамляе яму, што яго чакае нейкая паненка каля варот фабрыкі. Гэта разанула нажом па сэрцы. Ён, скінуўшы паспешна рабочую адзежу і не чакаючы гудка, выскачыў на двор. Незвычайна блядая Зося чакала яго і нейкая напружанасць відаць была ў кожнай рысцы яе пекнага твару.

— Што зрабілася?

— Пойдзем падалей, скажу,— адказала яна.

Моўчкі пакінулі яны фабрыку, моўчкі прайшлі гаёк, выйшлі ўжо ў поле. Доўга ішлі, маўчалі, не прыкмячаючы ні месца, ні далечыні ад горада. Зося ўпарта маўчала. Пятрусь чакаў чагосьці незвычайнага і быў прыгнечаны гэтым чаканнем. Але ж цяжар, які скаваў сэрца, павінен быць скінутым, бо ён дайшоў да нетрываласці хаваць яго больш дзесьці там, глыбока ў сабе. Рука Петруся сціскалася ў кулак, ён сударажна махаў кіёчкам, са злосцю збіваючы галоўкі малачаю па дарозе.

— Што зрабілася, Зося? Чаму за апошнія часы такая змена? — напаследак запытаўся Пятрусь.

— Пятруська, дарагі!

Зося кінулася на шыю Петрусю. Ён уздрыгнуў як апалены: першы раз так блізка к яму была кабета. З затуманенаю галавою абхапіў яе рукамі і ўпіўся губамі ў яе губы. Хвіліна, калі больш нічога не існавала на свеце.

— Кахаю я цябе, Пятруська! — шаптала Зося, і раптам буйныя слёзы закапалі з яе вачэй. Але гэта былі слёзы не радасці, а бязмернага гора.

— Чаго ж ты плачаш, Зося?

Замест адказу Зося пачала плакаць яшчэ мацней. Яна ўжо не толькі плакала слязьмі, а рыдала, бяссільна схіліўшыся на плячо яго.

— Зосенька, ну скажы, што з табою зрабілася?

Пятрусь гатоў быў сам заплакаць, бачачы жаласлівы твар яе. Але да яго звярнуўся розум, які стаяў на сваім — даведацца прычыны гэтага плачу, гэтых незразумелых адносін за апошнія часы.

— Кінь ты плакаць, Зоська! Мы ж ужо не дзеці, мы нават павінны стаяць вышэй усялякіх там слёз. У чым справа?

Ад гэтага цвярозага голасу Зося прыйшла ў сябе. Яна адхілілася ад Петруся, суняла плач:

— Нам... нельга... будзе больш...

— Што нельга? — не сваім голасам запытаўся Пятрусь.

— Бачыцца!

Стала страшэнна балець сэрца, быццам яму зрабілі фізічную рану. У руках і нагах такая млявасць, што вецер мог паваліць яго на зямлю.

— Чаму ж гэта? — ледзьве выгаварыў ён.

— Мне бацькі забараняюць бачыцца з табою. Яны даведаліся якімсьці чынам, мусіць, ім наплялі ліха ведае што, і вось ужо тыдні са два таму назад мне татка вялеў кінуць гэтыя «любошчы», як ён называе, а мама, як даведалася, у чым справа, дык нават свечку ставіла ў царкве за мяне. Я ўжо колькі дзён спрачалася з імі, даводзіла, што ім няма ніякага дзела да таго, каго я кахаю, каго хачу бачыць, з кім гаварыць, што рабіць. Але гэтым я нічога не пасобіла, толькі больш разгневала бацьку. Сёння ён сказаў мне, што я

магу пакінуць дом, калі не паслухаю яго. Што ж мне рабіць? Пятруська, што рабіць?

— Што рабіць? Кінуць бацькоў з іх домам! — рашуча праказаў Пятрусь, да якога ўжо вярнуліся сілы.

— Кінуць, кінуць дом... А далей што будзе?

— Пажэнімся і будзем жыць, працаваць.

Зося, мусіць, чакала гэтага. У сваім каханні, першым каханні, яна яшчэ ніколі не даходзіла да такіх меж. Само гэта слова «пажэнімся» неяк прагучала так будзённа для абодвух, так нізка звяло іх каханне, што Зося не зразу знайшлася, што адказаць на яго.

— Вось як? Я... я не ведаю,— сказала яна.

— Значыцца, ты застанешся з бацькамі, паслухаеш іх?

— Я не ведаю... Што мне рабіць? Пятруська, што рабіць?!

— Я ўжо сказаў. А чаму твае бацькі не дазваляюць табе знацца са мною?

— Чаму? Які ты блазан, мусіць, як і я. Ты ж рабочы, нават не майстар, а я...

— Ведаю, можаш не скончваць.

Сэрцам Петруся завалодала пагарда. Яна ўсё шырылася, расла, засланяла сабою ўсе іншыя пачуцці. Так, ён толькі рабочы, ён сустрэўся ў жыцці не з тым, з кім можна было сустрэцца.

— Мы далёка адышлі ад горада. Дазвольце правесці вас дадому.

Яны ішлі ў цемры ночы, маўчалі. Петрусю і цяпер успамінаецца гэты зварот, як зварот з могілак. Падышлі да варот дома, запыніліся. Хацелася сказаць, што нельга рабіць таго, што рабілася паміма іх волі, што трэба кінуць гэты дом, трэба разарваць ланцуг, які звязвае волю, паралізуе яе. Доўга стаялі, нічога не сказалі.

— У арганізацыю таксама бацька вас не пускае? — з гарыччу, але і насмешна запытаўся Пятрусь.

— Не ўпікайце мяне, зразумейце, хто я,— цяжка праказала дзяўчына.

Стаялі яшчэ гадзіну-другую, стаялі, як нямыя, без мовы. Не было сілы разысціся. Дзесьці пракрычаў пятух, блядая палоска зары была ўжо на ўсходзе.

— Вам холадна, ідзіце ў дом,— сказаў Пятрусь.

— Не кляніце, не зневажайце мяне. Я не вінавата.

Як прызрачная цень, скалыхнулася яе белая постаць і схавалася за варотамі. Ляпнула клямка. Перад Петрусём пустое месца. Зразу зрабілася так пуста, так адзінока, што здавалася, ён адзін застаўся на свеце, а больш няма нічога.

Потым у тую ноч ён у гайку каля фабрыкі плакаў, плакаў, як малое дзіця ад пагарды.

Успомніў гэты плач цяпер Пятрусь Грышан, загадчык павятовага аддзела асветы, засаромеўся, нават раззлаваўся на сябе за тое, што калісьці быў такім мяккім блазнам.

А далей? Ён яшчэ раз бачыўся з Зосяю. Яго разам з некалькімі таварышамі судзілі за нелегальную дзейнасць. Як вялі іх разам пад канвоем на станцыю чыгункі для адпраўкі ў астрог, па дарозе — выпадкова ці не — сустрэлася Зося. Яна кінула кароткі позірк на Петруся і адвярнулася. Потым праз год выпусцілі з астрога і забралі ў салдаты на вайну. Жыццё закруцілася. Вайна, рэвалюцыя, голад, Юдзеніч, Врангель, палякі. Безупынная гонка, праца, знемажэнне, напружанне ўсіх сіл у барацьбе. Далей мірная праца, трэці фронт. Усе асабістыя імкненні страцілі ўсякую значнасць, не было ім ні часу, ні магчымасці. Зося канула ў мінулае, захавалася за смерчам жыцця. Калі-нікалі гэты эпізод прыходзіў на памяць, але, апроч усмешкі, нічога не выклікаў у яго.

Чаму ж гэта сёння ён вось едзе па гэтым лесе і нічога не прыкмячае па дарозе? Чаму ўсе яго думкі, усе ўспаміны сканцэнтраваліся на гэтых з'явішчах жыцця, якія адышлі, здавалася, назаўсёды і забыліся?

Як ён выходзіў з памяшкання народнага дома ў Стажарах пасля мітынгу, што ён сам праводзіў, у дзвярах да яго падышла нейкая кабета, якую ён зразу не мог разгледзець з-за цемнаты.

— Добры вечар,— сказала яна.— Мы калісьці зналіся з вамі.

Голас такі знаёмы, але хто ж гэта? Перад ім стаяла аздобная ці то кабета, ці дзяўчына і з цікавасцю разглядала яго.

— Вы мяне не пазнаеце?

Пятрусь аж адступіў ад сумнення. Гэта была Зося Яніцкая. Яны перакінуліся агульнымі ўспамінамі, не зачапляючы ўласных адносін. Але доўга нельга было гаварыць, трэба было Петрусю ехаць яшчэ ў адну вёску. Ён крануўся да выхада.

— Я так рада, што стрэлася з вамі,— сказала Зося, як яны былі ўжо на вуліцы.— Часта, надта часта, я ўспамінала вас, і цяпер мне здаецца, што мы не разыходзіліся з вамі ніколі,— ціха дабавіла яна.

Гэтыя словы вось ужо другі дзень непакоілі Петруся Грышана, загадчыка павятовага аддзела асветы. Гэтыя словы пабудзілі ў ім успаміны, гэта яны адабралі ў яго спакой даследчыка лесу, як варочаўся да сябе ў горад.

## II

Дагэтуль у Петруся Грышана былі толькі дзве хваробы: першая — пастаянная idee fixe аб разбуранасці школьных памяшканняў і другая — комплексы ГУСа. Над тым, як выкраіць сродкі, каб паправіць тую ці іншую школу, ён думаў дні і ночы, думаў на службе і дома, у дарозе і на начлезе. Ад гэтае думкі ён то прыходзіў у поўную адчайнасць, то ў захапленне, калі яму здавалася, што знайшоў правільную дарогу для пэўнага вырашэння гэтага цяжкага пытання. Як толькі яму ўдавалася бачыць палаплены дах школы альбо вымаляваную падлогу, то ён гатоў бы прыскокваць ад радасці. Усяго сябе ўкладаў ён у справу адбудовы школы, не спаў начэй, вылічваючы, плануючы, што, дзе і як зрабіць. І справа пасоўвалася ў яго шпарка, але ніколі не зда-

вальняла яго: яму ўсё здавалася мала зробленым, ён пераконваў усіх і сябе, што нічога не зроблена, што трэба ратаваць школу.

Другое — гэтыя агідныя комплексы ГУСа. Вось гусь, дык гусь! Ніяк яе не зловіш. Здаецца, усё так добра распланавана, так ладна можна прыпасаваць гэты комплекс, а як толькі дойдзе справа да выканання, дык то ў той, то ў іншай школе настаўнікі пачынаюць крывіцца, мармытаць, кепска праводзіць план. Хто тут вінаваты: ці комплекс, ці самі настаўнікі? Гэта была такая загвоздка для Петруся, што ён траціў голаў над выясненнем сабе гэтае супярэчнасці. Чытаў усё, што пісалі аб новым метадзе, але ніяк не мог вывесці дасканалых вынікаў з гэтых тэарэтычных спрэчак між непрыхільнікамі і абаронцамі комплексу. А вырашыць сабе трэба, бо як жа інačай кіраваць школамі. ГУСаўскі комплекс зрабіўся для Петруся нейкім фантомам, які таксама, як і разбуранасць школ, мучыў яго, але заўсёды прыкоўваў да сябе яго ўвагу.

З таго вечара ў Стажарах, як ён так нечакана спаткаўся з Зосяю, у яго з'явілася і трэцяя хвароба. Першыя дні яна падавала аб сабе весткі нясмела, украдкаю: наляціць на хвіліну, а потым згіне на нейкі час, каб зноў потым напомніць аб сабе. Але з часам гэтая непакойная госця пачала праходзіць усё часцей ды часцей паміма волі і жадання Петруся. Часта, як ён вылічваў рублі і капейкі на дапамогу якой-небудзь надта беднай школе, раптам замест радка лічбаў у вачах станавілася Зося, нават дзве — тая тоненькая дзяўчынка, што прыходзіла ў белым капялюшыку на сходкі, і другая, ужо дарослая дзяўчына з пекнымі формамі кабеты, што падышла да яго ў Стажарах. Ён пробаваў праганяць гэтыя мары ад сябе, з напружанасцю прымаўся разбіраць які-небудзь комплекс, выпрацаваны інспектарам і перададзены яму для азнаямлення. Вось ідзе ўсё добра: у комплексе «зіма», і сняжок ёсць, і шмат усяго іншага — як выглядае лес, поле... Поле... Так, гэта было ў полі, далёка ад фабрыкі, як яны ішлі моўчкі, і ён забіваў на смерць бедны малачай.

А цяпер: ці вы мяне не пазналі? Пазнаў, як не пазнаць, як забыцца аб такім непрыемным здарэнні, як тыя слёзы ў гайку... Зноў Зося...

Загадчык павятовага аддзела асветы Грышан ускокваў са свайго крэсла і пачынаў мітусіцца па пакойчыку. Ён ужо не пробаваў выгнаць з'яву Зосі комплексамі ГУСу — апошнія сарамяжа хаваліся ў куток за шафу і чакалі, пакуль надыдзе іх чарод. Пятрусь з сур'ёзным тварам, нібы абмазгоўваў план усеагульнага навучання, хадзіў наўскось з кутка ў куток. Ён дзівіўся сабе, як гэта можа паміма яго волі лезці яму ў голаў, аб чым яму няма патрэбы думаць. Зося, ну што ж Зося? З ёю ўсё скончана тады, у той вечар, каля варот яе дома, а калі гэтае выпадковае спатканне зноў пабудзіла ўспаміны, то яны павінны патухнуць, як іскры ад перагарэўшага кастра: вецер падзьме — яны заззяюць, каб хутчэй зусім змеркнуць. Спатканне ў Стажарах — гэта той самы вецер. Ён павінен патушыць астатак таго самага цяпла, якое дзесьці яшчэ хавалася. Ці ж гэта тая самая Зося? Тая была вясёлая, як ясная раніца ў раннюю вясну, а гэтая... Гэтая? Хто яе ведае, якая яна. Хараства і ў гэтай шмат. Але ж гэтая, другая Зося, нясе ад першае крыўду, аб якой нельга забыцца, ніколі нельга забыцца. Рабочы і паненка, вядома, не па дарозе.

Можна было кінуць яго, можна было зачыніць назаўсёды вароты.

— А для чаго ты цяпер падыходзіш? Чаму ты пытаешся, ці пазнаю я цябе? Можа, таму, што я не стаю каля станка?! Прэч, я не хачу думаць аб табе!

Пятрусь гаварыў гэта моцна. Пачуўшы свой голас, ён ачнуўся, і фарба сораму за сябе залівала яму твар. Так бывала часта.

Некалькі часу згадзя пасля першага спаткання з Зосяю здарэнне прывяло Петруся зноў да яе. У сумежным са Стажарамі раёне адбывалася настаўніцкая канферэнцыя, куды павінны былі прыехаць і стажарцы. Канферэнцыю павінен быў праводзіць сам Грышан. Толькі ў той дзень, як яму трэ-

ба было выязджаць з горада, Пятрусь успомніў аб тым, што на канферэнцыю прыедуць і стажарскія настаўнікі, ну, а ў тым ліку... і Зося. Як ён здагадаўся аб гэтым, то перш за ўсё ў яго з'явілася думка не ехаць туды, каб ухіліцца ад спаткання — трэба паслаць свайго памочніка, рашыў ён. Але потым яму зрабілася сорамна за сябе, за сваю боязнасць. І ён паехаў.

Можа, толькі вучань адчувае сябе так, выходзячы на экзамен і не будучы добра ўпэўнены ў сваіх ведах, як адчуваў сябе Пятрусь, адкрываючы канферэнцыю. Стажарскія педагогі запазніліся і ўвайшлі ў памяшканне, дзе адбывалася канферэнцыя, якраз у тую хвіліну, як Грышан падняўся і раскрыў рот гаварыць. Перад яго вачамі мільгануў жывы вобраз Зосі. Нешта кальнула яго ў сэрца, голас асекся. З вялікім напружаннем волі ён узяў сябе ў рукі і пачаў гаварыць аб заданнях канферэнцыі. Прамова яго выходзіла нейкаю няўпэўненаю, крыху няяснаю, голас часта зрываўся. Пятрусь адчуваў гэта; яшчэ больш мяшаўся. Аўдыторыя была крыху збянтэжана, ведаючы Грышана, як добрага прамоўцу. Пад шэпты ў зале Пятрусь скончыў, сеў. Адчуваў сябе гадка і стараўся адводзіць пагляд з таго кутка, дзе сядзела Зося.

Пасяджэнне зачынена. Пачуліся гутаркі, смех. Да Петруся падыходзілі настаўнікі з рознымі запытаннямі, але рэдка хто меў належны адказ. Пятрусь праціснуўся цераз натоўп таварышаў, накіроўваючыся к выхаду. Яго чакала Зося з яснаю, як сонца, усмешкаю на твары.

— Добры вечар,— і яна падала яму сваю руку з тонкімі пальцамі.

Мусіць, на твары Петруся адбілася нешта нядобрае, бо Зося зразу страціла сваю яснасць і прыбавіла вінаватым голасам:

— Выбачайце мяне за маю смеласць. Можа, вам непрыемна спатканне са мною?

Пятрусь нічога не адказаў на гэта, і яны пацíху падыходзілі цёмнымі сенцамі да выхаду. Каля дзвярэй ён спацёмку

наткнуўся на яе плячо, і доўга пасля гэтага лапаў рукою па дзвярах, пакуль знайшоў клямку — рука дрыжала.

Выйшлі на вуліцу. На дарогу з вокан школы, дзе адбывалася канферэнцыя, лажыліся доўгія палосы свету. Петрусю то да страты розуму хацелася, каб Зося ішла між дзвюх светлых палос і каб можна было быць бліжэй да яе не прыкмечаным збоку, то, наадварот,— каб яна была ў бляску і знаходзілася далей ад яго. Зося ж ішла побач з ім, крыху ўперад, і паглядала на яго, чакаючы адказу на сваё запытанне.

— Чаму ж вы не адкажаце на маё запытанне? — урэшце не стрывала яна.

— Не пытайцеся лепш у мяне аб гэтым,— адказаў ён. Голас яго быў няроўным.

— Яшчэ раз выбачайце: ці здаровы вы? Сёння вы гаварылі [redacted] такім напружаннем, што ўсім здалося, як быццам вы хворы,— з вялікаю ласкаю ў голасе сказала Зося.

Мільён розных пачуццяў абурыўся на Петруся. Гэтая ласка, непакойства за яго, якое яму не траплялася ні чуць ад іншых, ні адчуваць самому, напоўніла яго незвычайным цяплом, а разам з гэтым успамін аб яго прамове абудзіў злосць на няўдаласць. А хто вінаваты ў яго сённяшняй няскладнасці? Яна, Зося, як і тады, шмат гадоў таму назад.

— Нічога са мною дрэннага не зрабілася,— адказаў ён.— Я здаровы, дзякуй.

Зося ў свой чарод была пакрыўджана, але не столькі яго адказам, як тым, як гэты адказ быў зроблены. Яна адчула, што Пятрусь мае варожасць да яе, не хоча гаварыць з ёю і, мусіць, маркоціцца яе прысутнасцю.

— Я так жадала спаткацца [redacted] вамі, але вы, мусіць...

Пятрусь быў у гэты момант надта блізка ад яе. З яе вуснаў гатова было сарвацца слова пагарды, але яна ўстрымалася.

— Вы чакалі мяне? — запытаўся Пятрусь.

Яна не хутка адказала. Пятрусь чакаў адказу з трывогаю ў сэрцы.

— Чакала.

— А я не чакаў вас бачыць, не хацеў вас бачыць! Гэта з-за вас я сёння, як школьнік, барматаў сваю прамову.

У словах яго была вялікая злосць. Ён крычаў, а не гаварыў. Зося сперш жахнулася ад яго голасу, а потым усмешка шчасця і радасці асвяціла яе твар, толькі Пятрусь не бачыў гэтага. Ён, наадварот, сам спалохаўся свае жорсткасці, яму стала брыдка.

— Ну, мне сюды, бывайце здаровы! — і Зося хутка прапала ў цемры ночы.

— Там... Таварыш Яніцкая, пачакайце!

Адказу не было. Зося не вярнулася.

Пятрусь доўга стаяў на адным месцы. Чакаў, што вернецца. Страшэнна хацеў, каб вярнулася, але яе не было, нібы цемра знішчыла яе...

На другі дзень Зося не прыходзіла на канферэнцыю. Грышан, седзячы за сталом пасярэдзіне, нервова паварочваў галаў да дзвярэй, як толькі яны адчыняліся. Ён чакаў, чакаў нават у апошнюю хвіліну, як зачыняў канферэнцыю. Але Зосі не было. Падрабляючы свой голас пад спакойны, ён спытаўся ў старажоўскіх, чаму няма таварыша Яніцкай.

— Яна сказала, што кепска сябе адчувае і паехала дадому,— атрымаў ён адказ.

Варочаўся Пятрусь з канферэнцыі з цяжкаю галавою. Зноў, як ў мінулы раз, ні лес, ні поле не займалі яго. Думка яго ўвесь час круцілася над тым, як ён дрэнна абышоўся з Зосяю.

— Так ёй і трэба,— думаў ён, аднак, падчас. Трэба было б спагнаць на ёй мае слёзы ў гаёчку, трэба было не падараваць ёй панства.

Але побач з гэтым ўсплываў успамін аб цёмных сенцах. Гарачае, круглае плячо. Якім страшэнным агнём апаліла яна яго! І як жадалася б яшчэ і яшчэ без канца адчуць гэты агонь на сабе. Пры адным успаміне аб гэтым сэрца Петруся трапыхала, як птушка ў сіле.

Прыехаўшы дадому, Грышан замкнуўся ў сваёй камор-

цы, нібы сеў за вялізарны навуковы твор. Але на самай справе і замыкацца не было чаго: на маленькім кавалачку паперы ён напісаў радкі тры-чатыры, у якіх ён прасіў таварыша Яніцкую падараваць яму яго жорсткасць: гэта недамаганне вінавата ў тым, што ён быў злым.

«Трэба быць вытрыманым чалавекам ва ўсякіх абставінах,— думаў ён, заштукоўваючы канверт.— Я надта паддаўся гэтым настроям і пакрыўдзіў за нішто таварыша Яніцкую. Вось і папраўлю сваю нявольную абмылку».

Адаслаўшы ліст і зрабіўшы гэтым усё, што ад яго было патрэбна ў гэтым сэнсе, Пятрусь спакойна заняўся школьнаю сеткаю, якая гусцела з кожным годам. З асобным замілаваннем ён займаўся вясковымі сямігодкамі. Калі ён вучыўся ў двухкласным вучылішчы, дык і то лічыўся немаведама якім знаўцам у сваёй вёсцы, а цяпер — сямігодка, гэта ўжо зусім добра. Толькі як бы яшчэ гэтыя комплексы, на іх ліха, падагнаць, як трэба. З імі не ўсё добра, і Пятрусь бярэцца за новыя артыкулы ў часопісах аб гэтым метадзе навучання.

Зося не надта шкодзіла яго працы.

Што Зося тады, не дачакаўшыся канца канферэнцыі, паехала дадому, па думцы Петруся, сведчыла аб тым, што яна знайшла абыходжанне з ёю з яго боку крыўдным і, мусіць, парашыла больш не сустракацца з ім. Зразу гэта было як быццам надта прыемным Петрусю; тым лепей, думаў ён, што справа так скора, упачатку ўжо скончылася і гэтая хвароба спадае з яго. Але гэтая здаволенасць была неглыбокаю, яна толькі здавалася яму. Дзесьці глыбока сядзеў жаль страты, жаданне новага спаткання. Як ён ні дамагаўся падмацаваць сябе думкаю аб мізэрнасці, нявартасці гэтага таемнага жадання, яно валодала ім больш, як настрой супярэчнасці гэтаму пачуццю. У той час, як супярэчнасць грунтавалася на довадах розуму і патрабавала нейкае, хоць часовае, але яснае пабудоўкі, тое няяснае, таемнае пачуццё, якое ён праганяў ад сябе, трымалася пастаянна, толькі на нейкі час уступаючы месца першаму. Пятрусь усё ж такі быў спакой-

нейшым цяпер, чымся пасля першага спаткання. Комплексы ўжо радзей хаваліся ў куток за шафу, варожа паглядаючы на Зосіну цень.

Прыйшоўшы раз на службу, доўгі час згадзя пасля тае канферэнцыі, Пятрусь знайшоў на стале нераскрыты канверт. Разарваўшы яго, ён выняў лісток добрае паперы. Старажоўская сямігодка запрашала яго на нейкі там вучнёўскі вечар. На другім баку была прыпіска: «Вы павінны быць безумоўна. Зося». Так і падпісала «Зося», а не Яніцкая. Што гэта азначае «павінны быць»? Загад, ці што? Адкуль гэтае права загадваць?

Пятрусь было адкінуў убок гэты ліст да другіх папер, потым узяў яшчэ раз у рукі, прачытаў зноў пяць слоў з другога боку. Многа чытаў ён за дзень усялякіх адносін, рахункаў, але рука часта брала зусім без патрэбы старажоўскія запросіны. Калісьці былі інстытуткі, думаў Пятрусь, якія па сто раз у дзень перачытвалі свае лісты, а тут — на табе! камісар зрабіўся інстытуткаю.

— Не паеду я,— парашыў Пятрусь,— трэба скончыць усю гэтую камедыю. Вырваўшы кавалак паперы з блакнота, ён з націскам вывеў: «Дзякую за памяць, не прыеду». Падумаў крыху і дадаў: «Нам не па дарозе. Грышан». Спяшаючы, быццам баяўся раскаяцца ў зробленым, заклеіў канверт, надпісаў адрас і аддаў старажу аднесці на пошту.

— Вось цяпер ужо ўсё! — сказаў ён, як зачыніліся дзверы за пасыльным. «Скончана, ты думаеш?» — запытаўся нейкі маленькі насмешны злодзей у ім самім.

Пачаўся дзень, у які павінна была адбыцца вечарына ў Стажарах. Зранку Пятрусь быў на службе, нічога асаблівага з ім не было. Пасля ж работы, як ён прыйшоў дадому, з ім стала нешта нядобрае — непакойства не давала магчымасці ўзяцца за якую-небудзь работу. Ён гадзіну-другую хістаўся наўкось пакойчыка, садзіўся за стол, браўся за кніжку, але нічога не лезла ў голаў. Напаследак кінуў усё і пачаў апратвацца...

Калі Грышан пад'язджаў к Стажараўскай школе, вечар

быў у самым распачынку. Ён увайшоў якраз тады, калі гасілі лямпы, збіраючыся паказваць нешта на экране. Застракатаў, як сто конікаў у траве, кінематограф. На Петруся ніхто не звярнуў увагі. Ён стаў у кутку, і яго зусім не было відаць. Вочы пачалі прывыкаць да цемнаты, і Пятрусь некалькі разоў абводзіў вачамі ўсё памяшканне. Зосі не было.

Стракат скончыўся. Вачам стала балюча ад святла лямпы.

— А, Пётра Халімонавіч, вы такі прыехалі, а мы вас чакалі-чакалі! Проша,— і загадчык школы павёў Грышана на пярэднія парты.

У праграме вечара зразу цяпер стаяла чытанне вершаў Купалы. Чытаць павінна была Зося. Яна дзесьці замешкалася, усе з нецярплівасцю пазглядалі ўжо на дзверы сумежнага пакоя.

Зося ішла з апушчанаю галавою, невясёлая. Відаць было, што яна з вялікаю неахвотаю адбывае свой абавязак. Яна выйшла на сярэдзіну, падняла голаў — і маўчала. Кніжачка ў яе руцэ дрыжала.

— Вы... выбачайце, я сёння не магу дэкламаваць!

Пятрусь агідна-здаволена кінуў позірк на збянтэжаную Зосю. Яна злавіла гэты позірк, уздрыгнула і няверным крокамі сышла з эстрады. Усё, што рабілася далей на вечары, не займала ніколі Грышана. Некалькі разоў к яму прыходзіла думка сесці на воз і вярнуцца ў горад, пакуль не позна. Але нанесці другую пагарду, на гэты раз быццам наўмысля, у Петруся не хапіла рашучасці.

Зося доўга не паказвалася на вечарыне. Пятрусь думаў, што яна ўжо зусім не выйдзе, і яму рабілася дрэнна на сэрцы ад разумення, што ўся яго паездка прымае нейкі вадэвільны характар, дзе ён сам грае ўжо зусім смешную ролю, блазенскую ролю. Але вось Зося выйшла, і на дзіва ўсім — зусім вясёлая, аздобная. Ад усяе постаці яе веяла нейкаю бясконца прыцягальнаю сілаю.

Быў апавешчаны перарыў. Пятрусь устаў з свайго месца. Яго чакалі вочы Зосі, уся яе постаць была чаканнем.

— Вы сёння нездаровы,— з хітраю ўсмешкаю падышоў Пятрусь да яе.

— Так, нешта нядобра,— адказала яна,— зачырванеўшыся.

— Выйдзем крыху на паветра.

Каля школы быў ладны лясок. Яны выйшлі туды. Пад нагамі шуршала лісце. Цёплая хустка, накінутая на плечы Зосі, чаплялася кутасамі за суччы яблынь, за кусты агрэсту. Адчэпліваючы яе, Зося часта прыпынялася і затрымлівала Петруся, які праз гэта раз-поразу датыркаўся яе. Блізкасць была спакуснаю.

— Я павінен прасіць у вас падараваць мне,— сказаў ён.

— Завошта? — запыталася Зося.

— За маю нявытрыманасць. То я пісаў, што не прыеду, а то — і ўвесь тут.

— А як па-вашаму, гэта добра ці нядобра?

— Для пралетара, для рэвалюцыянера — нядобра.

— А для Петруся Грышана, без іншых званняў,— добра?

Пятрусь прыпыніўся, хвіліну маўчаў.

— Можа, кепска было б іншае.

Зося лёгка кранулася рукою яго рукі:

— Слухайце, скажыце мне ўсю праўду: вы надта варожы да мяне за тое, што тады, даўно было?

Як на гвозд наступіў Пятрусь босаю нагою.

— Якое права маеце вы пытацца аб гэтым? Што вам за дзела да таго, што я адчуваў тады, што адчуваю цяпер? Вы зачынілі вароты перада мною, пакінулі на вуліцы, пайшлі пад крыло маткі. Вам быў патрэбен Петрусёк для забавы, а як гэтая забава перайшла ў нешта большае, вы спалохаліся разам са сваімі бацькамі. Дый дзе ж мне да вас? Быў чуць не чорнарабочы, а вы — паненка, забаваю для якое, куклаю была палітычная дзейнасць, між іншым. Што ж я павінен цяпер адчуваць да вас?

— І вы ўсё ж прыехалі сюды,— з ласкаю, гордасцю, разам з тым з невыразнаю ўцехаю сказала яна.

— Вы і цяпер пацяшаецеся нада мною! Ну, прыехаў, але для таго, каб сказаць вам, што мне лістоў пісаць не трэба, а...

— А што?

— Вось што!

Дзве моцныя рукі абхапілі Зосю, твар яе загарэўся ад тысячы пацалункаў. Яна была захоплена імі, страціла ўсякую памяць і аддавалася з пылам доўга стрымліванага пачуцця яго мілаванням. Халодны вецер асенняе ночы здаваўся для іх гарачым дыхам ліпня.

— Можа, табе матка зноў не дазволіць знацца са мною? — гледзячы блізка-блізка ў вочы Зосі, пытаўся ён.

— Не ўспамінай, Пятруська, таго, што прайшло: будзем жыць тым, што ёсць цяпер. Ты ж кахаеш мяне, праўда?

— Не, не кахаю!

— Ты не жартуй гэтым. Ніколі, глядзі, такіх слоў не кідай. Чуеш, ніколі!

— Можа, сказаць — на векі твой, як пісалі калісь у кніжках?

— І гэта не жарты.

— А я ўжо, калі трэба забыцца зусім аб тым, мінулым, то раіў бы не заглядаць у будучыню. Цяпер усё нашае, а што будзе далей — нас не павінна цікавіць.

— Ну не, я крыху не згодна! Цяпер такая пошасць пайшла: сыдуцца людзі, глядзіш — цераз месяц-другі ўжо яны чужыя. Так нельга.

— Я ў цябе запытаюся, Зоська: ты кахала мяне, чакала ўвесь час, як мы зноў спаткаліся?

Зося прыліпла да яго так шчыльна, што можна было чуць кожны стукат яе сэрца.

— Увесь час кахала.

— А я цябе і кахаў, і праклінаў. Але каханне, як бачыш, мацнейшым мусіць быць. Ну вось, каб мы не кахалі, дык ці сышліся б тут?

— Мусіць, не, вядома.

— Так. Ну калі потым пакінем кахацца, то няўжо ж станем жыць разам?

— Не, не гавары так, Петрусёк. Не гавары. Толькі пачынаецца наша шчасце, а мы ўжо немаведама аб чым завялі гутарку.

— Я і кажу, што не варта заводзіць, а лепш вось што...

І Пятрусь абняў Зосю. Як усім здаволеныя багі, сядзелі яны на сваім услончыку-троне; ноч восені напявала ім не песні жальбы, як звычайна, а вясёлыя, жыццярадныя спевы ружовае вясны...

— Таварыш загадчык, дзе гэта вы запрапалі? — данёсся з ганка голас аднаго з настаўнікаў.

— Я тут, зараз іду.

У школе ўжо дзяцей не было. Вечарына скончылася, і ў пустым памяшканні толькі заставаліся настаўнікі і настаўніцы як гэтае школы, так і дзвюх ці трох суседніх. Як толькі Пятрусь з Зосяю ўвайшлі ў поўны святла пакой, усе азірнулі іх хітра-весела.

— Ці не чытала вам таварыш Яніцкая вершаў, якія яна забылася прадэкламаваць усім нам? — запыталася адна ўжо значна пажылая настаўніца.

— Хочаце, я вам прадэкламую:

«Я кахаю цябе,

Як зорку цёмнай ночы...»

— Адкуль гэта? — запытаўся сур'ёзны, з акулярамі, бляды настаўнік.

— Цёмная ноч, браце, творыць паэта,— весела падміргнуўшы, адказаў яму загадчык школы, ужо немалады, але жыццярады мужчына.

— Дык вы не хочаце слухаць? Я кіну,— ззяючы незвычайнаю вясёласцю, прагаварыла Зося.

Вочы яе шукалі Петруся і дэкламавалі яму працяг. Ён разумеў гэтую дэкламацыю без слоў, хоць, здавалася, надта ўважліва слухаў свайго сябра, з якім вёў ужо гутарку аб школьных справах.

Позняю ноччу варочаўся на гэты раз дадому Пятрусь Грышан. Адзіноцтва дарогі, цемень асенняе ночы не былі нудны яму. Чорная таемнасць лясоў, здавалася, захоўвала

ў сваіх нетрах непазбыўныя запасы тае сілы, якая адчулася насёння ў ім самім. Гэтыя сілы насіліся пад гротамі ялін, нашэптвалі спевы жыцця, жыцця без канца. Адчуваючы гэтыя спевы свайго сэрца, Пятрусь пераконваўся яшчэ раз у сваёй сціслай сувязі з прыродаю, у яе магутнай творчасці, непазбыўнасці... Няхай у прошласці была крыўда, надлом, але тое прайшло. Цяпер перад ім кабета, поўная сілы, кахання, моцная бязмерным імпульсам жыцця, здольная гэты імпульс перадаць і яму. Значыць, няма чаго займацца рэфлексамі ўспамінаць старую крыўду, якая паходзіла ад сапсаваных поглядаў, старое псіхалогіі і неправіловага сацыяльнага ўстрою. Цяпер усё гэта перавярнулася, адышло разам з тым класам, які яго ўтварыў.

Пятрусь адгортваў новую старонку жыцця.

## III

Так для Петруся Грышана пачалося новае жыццё, зусім не пасуючае да яго папярэдняга жыцця.

Уперад ён займаў маленечкую каморачку ў муніцыпальным доме. У гэтай каморцы было два акны на двор, даўно нябеленыя сцены з партрэтам Леніна на адной з іх, невялічкі столік, пакрыты дзіраваю цыраткаю з малюнкам палявання, два крэслы і ложак з праваліўшымся сеннікам, з трыма ножкамі (чацвёртую замяняла калодка). На вокнах і на століку валяліся кіпы кніжак і газет. Больш ніякае мэблі не было. Толькі ў кутку стаяў просты хваёвы куфэрак з невялікім скарбам гаспадара — некалькімі парамі бялізны з бязі ды старымі гамашамі. Гэты куфэрак пабачыў на сваім жыцці столькі, як і сам яго гаспадар,— мусіць, аб'ездзіў усе савецкія рэспублікі. Ён ужо быў зашмучаны, брудны, але Грышан не мог з ім расстацца: як-ніяк — шчыры таварыш, хоць часам і рэзаў плечы.

Звычайна Грышан, калі не быў на службе альбо не ездзіў па павеце, то сядзеў дома і чытаў. Гэты вясковы хлопец, потым рабочы фабрыкі, быў здольны цяпер у шмат якіх пы-

таннях, асабліва сацыялагічных, заткнуць за пазуху многіх прызнаных прафесараў. Ну а што належала да мастацтва гаварыць, то лепшага мітынговага аратара павет не ведаў: можа, яму пазайздросціў бы шмат хто і з тых, хто карыстаўся большаю папулярнасцю. Такая здольнасць Петруся мела сваёю крыніцаю яго незвычайную зацікаўленасць пытаннямі як тэорыі, так і практыкі сацыяльнага навучання.

Згодна гэтаму навучанню было пабудавана і яго асабістае жыццё. За доўгія гады вайны, вандроўкі ён зусім вытравіў у сабе ўсякія нават прыкметы ўласніцкіх тэндэнцый. Гэтых поглядаў ён, аднак, не прогся начэпліваць другім, думаючы, што ўсё гэта зробіцца і з іншымі з часам. У яго ж у самога ўжо і ў псіхалогіі не было ўхілу да набыцця чаго б то ні было з маёмасці. Нават яго бедная мэбля належала не яму, а Камгасу. Дзеля гэтага, калі яму патрэбна было пераязджаць, то ўся яго маёмасць, апроч кніжак, змяшчалася ў куфэрку, які ён мог несці ў сябе за плячыма.

Кніжак было, праўда, многа, і лік іх усё ўзрастаў, бо Пятрусь траціў на іх усякую вольную капейку.

Вось у гэтую каморку з'явілася ў адзін дзень Зося, і ўсё пайшло па-іншаму, пачалася ломка. Прыйшоўшы са службы, Пятрусь не пазнаў свае каморкі і перш думаў, што па абмылцы папаў у чужую хату. Кніжкі яго кудысьці прапалі, і трэба было доўга шукаць іх, хоць яны, як выяснілася, стаялі ў чынным парадку на з'явіўшайся адкульсьці палічцы. Столік быў пакрыты белым абрусам, такім белым, што неяк нялоўка было да яго падступіцца. Яго таварыш — куфэрак загінуў, і знайсці яго зразу так і не ўдалося. На сцяне, супраць Леніна, з'явіўся Талстой. Ложак быў пакрыты цёмнаружовым дыванам, на які ўжо нельга было легчы так проста, у чым стаіш. Гэтая змена была прыемна для вачэй, але зусім не пасавала з Петрусёвымі звычкамі. Пры адным поглядзе на ўсё гэта нешта непрыемнае прайшло па твары Петруся: гэтая палічка з расстаўленымі кніжкамі, як у струнку, белы абрус, прыбраны, як на свята, ложак — уносілі чужыя звычкі, пабочны светапогляд.

— Ну як падабаецца табе, як я прыбрала тваю нару? — запыталася яго Зося, як ён агледзеў усё ў каморцы.

Яна сама ззяла пекнатою, чыстатою, ружовым колерам свайго твару, статнаю постаццю; яна прыдавала нейкае фізічнае сілы ўсяму, што было вакол.

— Добра, добра, што і казаць,— пахваліў Пятрусь.

Палуднавалі дома — у харчэўню не трэба было ісці. Пятрусь хацеў было хадзіць і цяпер туды, каб не займацца жонцы дома гэтымі кухоннымі справамі, але спаткаў такое вострае змаганне Зосі, што прымушаны быў згадзіцца з ёю.

— Як гэта жанатым людзям хадзіць у нейкія там харчэўні ды есці немаведама што, а, з другога боку, і людзі засмяюць.

Чаму людзі і якія людзі засмяюць, калі яны пойдуць у харчэўню, Зося не сказала. Ну што ж, дома — дык дома, хоць гэта і супраць яго поглядаў.

Так з малых рэчаў пачаўся нейкі наступ на асобу Петруся. Уздумаў ён чытаць, шукаў доўга патрэбную яму кніжку і лаяў гэты парадак на палічцы. Кніжку знаходзіў, пачынаў чытаць.

— Пятруська, кінь ты чытаць, паспееш начытацца. Мне невясёла адной сядзець і маўчаць. Ідзі да мяне.

І Пятрусь мусіў пакідаць кніжку і размаўляць з жонкаю. Праўда, гэта было спачатку не так ужо дрэнна, бо ласкі жонкі давалі яму найвялікшую асалоду. Але аднаўленне гэтага засілля волі кожны дзень з часамі пачало станавіцца прыкрым.

Прайшлі адзін, два месяцы. Новы дух панаваў у каморцы. Пятрусь адчуваў нейкую звязанасць, але трываў і нічога не гаварыў жонцы, не хочучы выклікаць размову аб падрабязгах. Але ўсё часцей зараджаліся дробныя непаразуменні; ім толькі нельга было разрасціся, бо яны нішчыліся ў ласках кахання. Толькі адзін раз мела месца досыць вострая адгутарка. Яе завяла Зося, пачаўшы з таго, што ёй нудна адной дома, што яна не бачыць людзей, сваіх знаёмых. На запытанне Петруся, чаму ж яна чуждаецца знаёмых, яна ад-

казала, што, наадварот, людзі чужаюцца яе, бо не вельмі ахвотна ідуць да іх у госці.

— Чаму ж гэта так? — зацікавіўся Пятрусь.

— Па-першае, ты не ўмееш абыходзіцца з людзьмі, а па-другое — і прыняць у нас недзе,— з чуць прыкметнаю злосцю адказала яна.

Пятрусь пакрывіўся. Гэтыя жончыны «знаёмыя» ўжо загадзя зрабіліся яму непрыемнымі.

— Калі я не ўмею абыходзіцца з імі,— адказаў ён,— то гэта невялікая бяда: ты, мусіць, сама справішся з гэтым, мне і не трэба. А што невялікая наша каморка, дык я хацеў бы ведаць, у якіх палацах жывуць твае знаёмыя і хто яны такія.

— Хто б яны ні былі, а не сядзяць у гэткіх клетках. Вось і матка была ў мяне сёння — і то дзівілася.

— Зноў матка.

Пятрусь пачырванеў ад напружання, каб стрымаць сябе ад нядобрых слоў, каб не пакрыўдзіць жонку. Ён прайшоўся разы два па хаце, супакоіўся.

— Вось што, Зоська! Я не маю мэты абмяжоўваць тваю вольнасць. Прымай сваіх знаёмых, скажы ім, што я нічога кепскага нікаму не раблю, а што належыць да жылля, то, можа, што і лепшае ўдасца дастаць.

Зося так была задаволена гэтаю абяцанкаю, што кінулася да Петруся, зацалавала яго і прасіла падараваць яе жорсткасць. Пятрусь і не быў надта абураны, але гэтая гутарка засталася ў яго памяці і дала новы напрамак яго разважанням аб жыцці.

Як і да жаніцьбы, прыходзілася цяпер Петрусю даволі часта выязджаць на павет. Можа, гэтая патрэба была ўжо і не такою пільнаю, але яму хацелася заўсёды дагледзець кожную больш-менш важную справу па школах. Разам з гэтым яму даваліся частыя даручэнні па агульных заданнях, як розныя канферэнцыі, сходкі і г. д. Кожнае такое даручэнне Пятрусь выпаўняў дасканала і праз гэта траціў шмат часу.

Вось раз і паехаў Пятрусь на павет. Ён меўся прабыць два дні, хоць такога тэрміну было якраз у абрэз. Але здарыліся такія пільныя справы, абставіны зляжыліся так, што яму давялося прабыць цэлых чатыры дні. Змораны пераездамі, мітуснёю, ён быў надта здаволены, як пад'язджаў да свайго дому. Але тут яго чакала тое, да чаго ён зусім не быў гатовы. Зося сядзела і немігучымі вачамі пазірала ў акно, нібы зусім не чуючы і не бачачы Петруся. Ён распрануўся, прайшоўся па каморцы разы два-тры, размінаючы ногі. Зося нават не маргнула, быццам акамянела.

— Зося, добры дзень! — падышоў да яе Пятрусь.— Што гэта з табою? Хоць бы шавяльнулася. Зося, ты не хворая, ты чуеш мяне? Зося!

— Не хворая, чую.

— Дык чаго ж ты так сядзіш?

— Мне так падабаецца,— сухім дзеравяным голасам адказала яна.

— Ды пакінь жа ты камедыю, Зося!

— Ах, гэта камедыя! Камедыя! Я не раблю камедыі, і ты не лічы мяне за камедыянтку! Хто табе даў права зняважаць мяне?

Яна палаючымі злосцю вачамі аглядала Петруся з галавы да ног.

— Ты нават не ўмееш абысціся са мною! Мужык! — крычала яна.

Пятрусь стаяў зусім збіты з панталыку. Ён не разумеў, што за прычына такога настрою жонкі. Яе лаянка мала яго закранала, але самая з'ява была зусім незразумелаю для яго.

— Зося, прыпыніся крыху: адкажы мне ўсё ж, што гэта азначае?

— Ты не разумееш, што гэта азначае? У цябе няма ніякага пачуцця, і таму ты нічога не разумееш.

— А ўсё ж, замест упікання і загадак, скажы проста, завошта такі крык і злосць.

— Ты на колькі дзён паехаў?

— А, цяпер я разумею... Дык ты за гэта так разышлася,

так аблаяла мяне? Ну, Зося, я гэтага ніколі не чакаў, і гэта мне надта крыўдна. Крыўдна не тое, што ты мяне аблаяла, а тое, што ты здольна на лаянку, на камедыю з-за такіх пустых прычын.

З Зосі спаў імпэт, і яна вінавата паглядала на мужа.

Пятрусь хадзіў узад і ўперад і думаў. Гэтае здарэнне разбудзіла ў ім шмат новых думак, зарадзіла адно пытанне, якое потым ужо не пакідала яго. Гэтае пытанне, адразу няяснае, неабформаванае, прымала шмат розных напрамкаў, блыталася, мучыла нездавольствам. Потым яно пачало прымаць больш выразныя формы і страсянула яго сваёю прастатою: як ён ажаніўся, іменна ажаніўся, на Зосі? І другое — як ён забыўся аб тым, што сям'я — першая, найбольш простая сацыяльная адзінка, у якой павінны, мусіць, існаваць і сацыяльныя правамерствы. Так, ён аб гэтым забыўся ў свой час і мусіў зрабіць той крок толькі пад уплывам фізіялагічных запатрабаванняў. Так!

Гэты вывад з яго думак так збянтэжыў яго самога, што ён прабаваў адганяць яго ад сябе, прабаваў умацніць сябе ў тым, што абмылкова мысліць, што так не магло зрабіцца.

Ён усё сігаў па каморцы, вырашаючы пытанне.

— Ты сярдуеш на мяне? — ціхі, вінаваты, ласкавы голас Зосі абудзіў яго.

— Я, сярдую? Ды не, з чаго ж мне быць сярдзітым? Ты выбачай мяне, што я не ў час прыехаў — не мог, як абяцаў, затрымалі.

Зося абняла яго, мілавала, прасіла ўсміхнуцца, як доказ таго, што ў яго гневу няма. Пятрусь паддаваўся ўсяму, што рабіла з ім і чаго прасіла Зося. Але ўглыбі застаўся куточак, дзе знайшло сабе месца сумненне, дзе засеў нехта трэці, што пільна разглядаў, аналізаваў іх адносіны. Гэты трэці стаў на варту, гатуючыся не дазволіць далейшага пасягнення на асабістасць свайго насіцеля.

Праз некалькі хвілін, аднак, усё ў каморцы Петруся Грышана прыняло звычайны выгляд, быццам ніякага непаразумення і не было. Зося завіхалася з вячэраю, дамагаю-

чыся найбольшым стараннем паменшыць сваю віну, якую яна адчувала перад мужам. Пятрусь быў уважлівым і крыху задуменным.

Пасля гэтага здарэння Пятрусь пачаў глядзець другімі вачамі на свае адносіны да Зосі. Уперад у яго было проста замілаванне ёю, было сляпое каханне, у якім ён не шукаў нічога захаванага, ніякіх прычын альбо пабочных абставін. Цяпер жа яго адносіны з Зосяй складаліся з двух элементаў: кахання, як такога, і сумеснага жыцця. Непаразуменне між імі мела месца толькі таму, што ў гэтай найпрасцейшай сацыяльнай адзінцы была сацыяльная няроўнасць, розны светапогляд, рознае выхаванне. Адгэтуль і непаразуменні, магчымыя канфлікты, якія, пакуль пануюць над усім імпульсы кахання, могуць быць згладжаны імі. Але што будзе далей, калі каханне страціць частку свайго пылу?

Пятрусь адказаць на гэта пытанне не мог. Ён не меў звычайкі альбо ўхілу заскокваць уперад, прадугледжваць з'явішча; ужо зразуменне свае абмылкі — захаплення толькі пачуццём і падчынення апошняму ў свой час розуму — з'явілася досыць значным, каб прыкаваць к сабе яго ўвагу. Пятрусь супакоіўся цяпер і мог з усім пэнтам аддацца камплексам, інструктаванню, грамадскай дзейнасці. Дома ён бываў усё радзей ды радзей. Зося перш куксілася на гэта, як і той раз, але як гэтая адсутнасць стала звычайнаю, то яна змірылася з ёю. Ды і не надта яна ўбівалася аб гэтым, бо ў адзіноце не сядзела.

Яна завяла сабе знаёмых — Пятрусь дастаў кватэру з двух пакояў. Зося цэлымі днямі шчабятала са сваімі таваркамі, з якімі марыла ў закінутым павятовым горадзе аб маскоўскіх, нават парыжскіх модах. Свае такія сакавітыя, такія смачныя, як спелыя вішні, губы яна пачала ўродаваць густа-чырвонаю фарбаю,— так робяць «інтэлігентныя» кабеты ў Мінску, Маскве і ва ўсіх вялікіх гарадах. Ёй патрэбны былі лакіраваныя чаравікі, модныя капялюшы, ды ці мала яшчэ чаго. Толькі бяда ў тым, што грошай было малавата. Пятрусь спачатку аддаваў ёй усю сваю пенсію «на гаспадар-

ку», але з гаспадарання нічога добрага не выйшла — завінавацілася кругом.

Пятрусь без асаблівага жалю адносіўся да таго, што рабілася з Зосяю. Ён ужо разгадаў усю тую істоту, якую яна мела. Яму толькі было сорамна за сябе, крыўдна на сябе, як ён так лёгка паддаўся свайму пачуццю. Гэта яго мучыла і даводзіла да яшчэ больш згубнага аналізу.

Зося адчувала нейкую змену ў адносінах да яе мужа, але ад чаго залежала гэтая змена, яна ўясніць сабе не магла. Часамі ёй здавалася, што Пятрусь пакінуў кахаць яе, другі раз — што ён не можа падараваць ёй колішнюю пагарду. Так ці іначай гэта, а змена надта непакоіла яе, і яна стала нервавацца, што зусім не стасавала яе натуры. Цяпер ужо нярэдкімі сталі дні, калі яны мяняліся адным-двума словамі. Потым напружанасць слабела, адносіны станавіліся больш прыемнымі, і здавалася, што ўсё ідзе як трэба. Але ж чорная кошка прабегла між імі, і след заставаўся, хоць збоку, можа, прычыны былі і мізэрныя.

На новай кватэры, куды пераехалі Грышаны пад націскам Зосі, было шмат лагадней. Але ў Зосі з'явілася іншая бяда,— уся іх маёмасць была надта ўбогаю і зусім недастатковаю для абсталявання гэтае кватэры. Зося з нудою аглядала голыя сцены, пустыя пакойчыкі, а Петрусю хоць бы што! Ён не зварочвае ніякае ўвагі на гэтую пусташ, быццам яго ніколькі не цікавіць абсталяванне. Зося плакала ў адсутнасці мужа, а як ён быў дома — маўчала і куксілася.

Адзін раз Пятрусь застаў жонку ляжаўшай на ложку і ў слязах. На яго запытанні яна сперш нічога не адказвала, а потым як быццам прарвалася.

— Што ты ў мяне пытаешся? Зірні вакол сябе, і ты зразумееш сам! — пасля доўгага ўпрошвання адказала яна.

Пятрусь паслухаў яе, азірнуўся, але ніяк не мог здагадацца ўсё ж такі аб прычынах плачу.

— Я нічога не разумею.

— Ах, ты нічога не разумееш? Ты не можаш зразумець,

што я магу жыць у такіх абставінах? За што ні вазьміся — рук няма за што зацяць.

— А што ж табе трэба, Зося?

— Мне нічога не трэба, калі ты не разумееш. Паглядзі, ці гэта падобна на чалавечае жыллё! Галыцьба вакол! У людзей так не бывае, ні ў кога так няма, як у нас.

І Зося з яшчэ большым горам пачала плакаць. Пятрусь адчуваў сябе нямоцным, збітым з панталыку гэтымі слязьмі. Што ты будзеш рабіць у такім разе? Кабечыя слёзы — дрэнная рэч, супраць іх няма ніякіх сродкаў. Заставалася толькі маўчаць, каб больш не абурыць жонку.

— Чаго ж ты маўчыш як пень? — аднак з новым прыпадкам ускіпела Зося.

— Казаць мне няма чаго. Мы з табою розных поглядаў на гэтыя справы, дык лепш маўчаць.

— А! У цябе погляды іншыя, у цябе шырокія погляды, ты — грамадскі дзеяч, ты — камісар, табе няма ніякага дзела да хатніх спраў. Я ж не хачу так жыць, я хачу людскага жыцця.

— Як жа ты мысліш сабе людскае жыццё і што трэба для гэтага?

— Перш за ўсё трэба грошы, каб мець усё патрэбнае.

— Больш, як ёсць, грошай не будзе, і няма чаго аб гэтым гаварыць.

— Не будзе?! А чаму ж у другіх ёсць, чаму другія могуць жыць як трэба.

— Хто гэтыя другія — я не ведаю. Калі ў іх ёсць лепш, як ты думаеш, жыць, то на здароўе, няхай жывуць.

— Дык ты больш нічога не скажаш?

— Нічога.

Зося ўскочыла з ложка, кінулася да сцяны, схапіла сваю жакетку і капялюш, апранулася і — за дзверы. Пятрусь крыху перапалохаўся: ліха ведае што ў яе галаве! Ён жа яе ведаў як кабету, а што яна за чалавек — пачаў спазнаваць толькі ў апошнія часы. Можа выскачыць на вуліцу, сораму

наробіць яму і сабе — мала што бывае з шалёнымі. Ён кінуўся за ёю ў сенцы і схапіў за руку.

— Пусці мяне! — прашыпела яна.

— Зося, адумайся, што ты робіш!

— Пусці, кажу.

— Вярніся, Зоська, назад, кінь ты гэта з галавы.

— А будзеш мяне слухаць?

— Добра. Пойдзем у пакой, там пагаворым.

Зося нібы зрабіла вялікую міласць мужу. З каменным тварам, з пагардаю ў вачах яна ўвайшла назад і, не распранаючыся, села, пачала чакаць, што скажа муж. Пятрусь, ухіляючыся ад яе злосных позіркаў, растлумачыў ёй, што ён кепска разумеў яе густ, што яму не хапае прыхільнасці да набыцця якое б то ні было маёмасці, але што ён усё зробіць, каб здаволіць Зосю, калі ёй гэта патрэбна. Зося мякчэла, твар яе рабіўся прыемным, і напаследку яна пачала ласціцца да мужа. Пятрусь холадна прымаў яе ласкі, абы толькі не пакрыўдзіць яе сваімі адмоўнымі адносінамі.

З гэтага дня для Петруся стала зусім зразумелаю ўся натура жонкі. Яго запытанне самому сабе, як ён мог ажаніцца на ёй, устала перад ім ва ўсёй сваёй велічавай простасці. Яна — з паненскімі традыцыямі, з нахіламі да буржуазнага дабрабыту, лічыць гэты дабрабыт мэтаю жыцця, і ён — траха не з поўным адцураннем ад асабістых уласных інтарэсаў! Гэта ж два полюсы, якім ніколі не сысціся. Праз што? Праз нейкае сляпое пачуццё, прынамсі, з яго боку. Няўжо ж гэтае пачуццё павінна было кіраваць сацыяльным становішчам, умовамі жыцця сям'і? Мусіць, не, бо само жыццё сказала якраз наадварот, прынамсі, патрабуе адваротнага.

Час пацягнуўся далей. Пятрусь напазычаў грошай і перадаў іх жонцы на абсталяванне хатнімі рэчамі. Яна некалькі дзён хадзіла, нібы ног пад сабою не чула, да таго яе думкі заняты былі гаспадарскімі размеркаваннямі. Пятрусь глядзеў на ўсе гэтыя клопаты з нутраным смехам. Асабліва яму смешна было, як Зося з вялікім натхненнем разглядала,

па дзесяць разоў выцягваючы шуфлядкі, свой новы камод. Яна была так здаволена ім, што гатова была задушыць ад радасці Петруся. Цэлы вечар у гэты дзень яна бегала ад камода да Петруся і ад Петруся да камода. Але вось, выцягнуўшы, можа, ужо ў дваццаты раз, самую вялікую шуфлядку, яна чагосьці задумалася, доўга стаяла, нагнуўшыся над ёю. Потым падышла задуменнаю да Петруся і нясмела села яму на калені.

— Ты не сярдуй на мяне за тое, што я табе хачу сказаць,— ласцячыся да мужа, сказала яна.

— Што ж гэта за справа, калі ты ўжо ўперад запрашваеш аб маёй прыхільнасці да яе?

— Справа?.. Справа, можа, і нязначная для цябе, але для мяне надта важная і пільная.

— Так, так. У цябе справы ўсё пільныя. Ну якая ж яшчэ гэтая?

— Ведаеш, я вось цешылася сваім камодам, але гэтая ўцеха — няпоўная. Гэты камод пусты.

— А нашто ж ты купляла яго, калі хаваць у ім няма чаго?

Пятрусь усміхнуўся. Мусіць, яго ўсмешка была нядобраю, бо Зося спачатку прыпынілася ласціцца, а потым нават і адхілілася ад мужа.

— Ты вось смяешся над гэтым, а ў нас няма ні адзежы, ні бялізны.

— Як няма? Не голыя ж мы ходзім.

— Ну, можа, ты лічыш гэтыя ашаметкі за адзежу, а я згадзіцца ніяк не магу.

Зося сышла з каленяў і моўчкі пачала праходжвацца па пакойчыку. Яна церабіла сваімі тонкімі пальцамі кутасы хусткі і кідала сярдзітыя позіркі на мужа, які насмешна праводзіў яе вачамі. Яна не вытрымала:

— Слухай, Пятрусь! Як сабе хочаш ты думай пра сябе, але не смейся ты нада мною. Гэта недалікатна, ты зневажаеш мяне.

— Выбачай, я не буду,— і Пятрусь прыняў сур'ёзны выгляд.

— Пятруська,— гаварыла праз хвіліну Зося, зноў ласцячыся да яго,— ты ж мяне кахаеш, праўда? Ты не захочаш пакрыўдзіць мяне, так?

— Ну, гавары,— я крыўдзіць нікога не збіраюся.

— Дай мне яшчэ грошай на ўборы: чаравікі мае няўдалыя, капялюшык трэба другі ды яшчэ шмат чаго.

Пятрусь пакрывіўся.

— На ліха гэта табе ўсё здалося,— спробаваў стрымаць ён жонку.

— Ах, ты шкадуеш мне грошай, ты нічога не хочаш зрабіць прыемнага для мяне, ты мяне не кахаеш! Ты хочаш, каб я хадзіла, як гэтыя там актыўніцы твае. Не, гэтага не будзе!

Зося адскочыла ад мужа і злосна зялёнымі, як у кошкі, вачамі аглядала ўсю постаць Петруся. Ён жа толькі ўсміхаўся, гледзячы на шаленства жонкі.

— Ты зноў смяешся, ну, дык вось!

Яна кінулася збіраць свае лахманы, звязваць іх у клунак. Пятрусь не стрымліваў яе, маўчаў і пасмейваўся.

Усё гатова.

— Нічога мне ад цябе не трэба! — кінула яна.

— А мне ад цябе!

Дзверы бразнулі зразлёту за ёю. Пятрусь не крануўся. На хвілінку перад ім мільганула вуліца, вароты, тоненькая дзяўчынка ў белым, потым стукат варот, яе слёзы ў гаечку.

— Дурань быў! — засмяяўся пра сябе Пятрусь і ўзяў у рукі план комплексу «Прамысловасць».

# ПАРТЫЗАН




АПОВЕСЦЬ

## I

Канец жніўня. На вёсцы ў гэтую пару звычайна павялічваецца рух і ажыўленне. Крыху спазніўшыся, нейкі селянін яшчэ звозіць з поля авёс, другі падбірае разам з бабамі лён.

Там ужо сеюць альбо і адсеялі зімовае жыта. Але наогул у полі народу мала; праца пераходзіць бліжэй к дому: на гарод, пуню, азярод, гумно. Раніцаю дзе-нідзе ўжо бухае цэп, днём раздаецца стукат пранікаў, якімі абіваюць галоўкі льну. Усюды па гародах убачыш кабет, якія зразаюць шапкі маку, кучаравыя кусты насенных буракоў, капусты. Дзеці ўжо вольна лазяць па градах гуркоў — маці на іх не крычаць. У азяродах сушацца снапы, і дзед, з такім выразам на твары, быццам ён важны начальнік, некалькі разоў у дзень прабуе зерне сваім траха не скрышыўшымся зубам. Такі звычайна малюнак вёскі ў пачатку восені.

Але ў гэтым годзе вёска выглядала інакш. На вуліцы нельга было ўбачыць днём ніводнага чалавека. Кожны туляўся дзе-небудзь у сваім кутку, нават жыта сеяць ніхто не выязджаў. Толькі ўвечары, і то паўз аколіцы, сустракаліся

людзі і шэптам дзяліліся аб сваіх думках, навінах, патрэбах. Над вёскаю навісла жуць чакання.

Вось ужо некалькі дзён, як у канцы вёскі, у бок ад царквы, за шпалерамі ліпаў і ялін жыццё забіла поўным ходам. Перш у панскі дом, які стаяў пустым ужо зіму, вясну і лета, прыехалі польскія коннікі, а праз кароткі час звярнуўся і сам пан з сям'ёю і чэляддзю. З таго часу штодня цягалі па ліпавай дарозе аднаго за другім сялян. Увечары ж панскі палац асвятляўся так, што заціхала навокал; прыязджалі туды афіцэры, нейкія паны.

Цёмная, заціхшая вёска прытаілася, з боязню паглядаючы ў бок ліпавае сцяны. Палац, ззяючы сваімі вокнамі, здаецца, мацаў кожнага, прагучыся залезці ў самае нутро. Напружана чакалі, разглядалі, хаваліся адны; гатаваліся, выведвалі тыя, не паказваючыся людзям і абкружаючы сябе патаемнасцю, якая рабіла яшчэ большы ўплыў на настрой сялян.

Вось у адзін дзень зранку па вёсцы праехаў польскі вайсковы коннік, загадваючы ўсім, каб мужчыны абавязкова прыйшлі зараз жа да гміны. Таго, хто не прыйдзе самахоць, прывядуць потым сілком: так прыбаўляў ён пад акном кожнае хаты. Вёска заварушылася, і праз нейкі час сяляне па аднаму, па двух пацягнуліся ў канец, дзе відаць была царква.

У адным з куткоў царкоўнае плошчы стаяў даволі доўгі драўляны дом з косым ганкам, над якім яшчэ захаваўся надпіс: «...ое Волостное Правление» на блясе, ржавай, з дзюркамі. Сяляне збіраліся ў натоўп перад гэтым домам, але блізка ніхто не падыходзіў. У грамадзе толькі дзе-нідзе чуцен быў шэпт, які хутка прыпыняўся. Кожны з сялян стаяў, апусціўшы вочы, нібы яму сорамна было пазіраць на суседа. Але вось уся грамада калыхнулася, вочы на момант падняліся і зноў апусціліся долу. Нават і шэптаў не чутно.

На ганку паказаўся польскі афіцэр, валочачы за сабою доўгую шаблю. Ён абвёў усю грамаду сваім позіркам і скамандаваў:

— Падыходзьце бліжэй!

Сяляне пераступілі з нагі на нагу, але засталіся на месцы. Афіцэр пачырванеў, але ўстрымаўся. На ганку з'явіліся новыя асобы, перш з усіх мясцовы пан Езерскі з паняю Езерскай; за імі выпаўз тоўсты кіраўнік маёнтка, потым хутаранін Гарошка з другой воласці і яшчэ нейкія незнаёмыя ў капялюшах і з гальштукамі на шыі. Уся гэтая ватага расселася на лаўках ганка, толькі пан Езерскі застаўся стаяць. Ён азірнуў сваіх суседзяў, потым сялянскую грамаду. Афіцэр зазвінеў шпорамі і праскочыў у дзверы. З-за дома выйшлі польскія коннікі і вянком абнялі ўвесь ганак.

— Ці ўсе сабраліся? — запытаўся пан Езерскі.

— Бадай што ўсе! — адказаў адзін з коннікаў.

— Дык давайце адчынім сход.

Пан Езерскі кінуў вокам у бок аднаго капялюша на ганку. Наперад высунуўся, відаць, не тутэйшы чалавек, які назваў сябе ўпаўнаважаным на выбарах мясцовых кіруючых устаноў. Ён сказаў два-тры словы аб тым, што беларусы цяпер сталі вольнымі і могуць выбіраць самі сваю ўладу, і скончыў тым, што прапанаваў выбраць пана Езерскага, хутараніна Гарошку і нейкага незнаёмага ў капялюшы, як прадстаўнікоў народа, у мясцовую раду. Ніводнага гуку, ні шолаху — сяляне так і не паднімалі галоў.

«Абраныя» селі за стол, які раптам з'явіўся на ганку. Пан Езерскі прапанаваў абвесціць маніфесты пана начальніка дзяржавы польскай. Незнаёмы ў капялюшы ўстаў, трымаючы вялікі ліст паперы перад сабою. Ён паправіў акуляры і пачаў чытаць па-беларуску адозву пана Пілсудскага, у якой казалася, што начальнік дзяржавы польскай «хацеў бы бачыць Беларусь вольнай паміж вольнымі народамі», што «Польшча і Беларусь будуць, як роўны з роўным і вольны з вольным».

— Усё гэта хлусня! — раздаўся з боку сялян моцны, рэзкі голас.

Грамада ўздрыгнула і замерла. Пан Езерскі ўскочыў і кінуў гнеўна-палахлівы погляд на натоўп сялян. Коннікі

абеглі вакол грамады і сталі сачыць, ці не будзе хто ўцякаць. Пан у капялюшы, што чытаў «маніфест», апусціў руку і не ведаў, што рабіць. Афіцэр выскачыў наперад і закрычаў:

— Хто гэта крыкнуў? Хто з вас бальшавік?

Ні шолаху ў адказ. Сяляне, як і раней, стаялі, апусціўшы вочы ўніз.

— Ну пачакайце, скажаце! — прамовіў пан Езерскі.— Чытайце, калі ласка, другі загад пана начальніка дзяржавы польскай.

Пан у капялюшы ўзяў другі ліст, зноў паправіў акуляры і пачаў чытаць загад, кідаючы раз-поразу погляды на сялян.

— «Усякая прыватная ўласнасць, ці будзе яна гвалтоўна захопленая, ці мо, выпадкова папаўшая, павінна быць безадкладна звернута ўласнікам,— чытаў ён.— Уласнікі зямельнай маёмасці альбо іх правамоцныя намеснікі змушаюцца прыняць у сваё ўладанне зямельную маёмасць».

— Вось як! — не ўстрымаўся пан Езерскі.

— Гэта роўны з роўнымі і вольны з вольнымі! Вось так маніфесты! — вылецела зноў з сялянскае грамады.

Уся пачэсная суполка на ганку ўсхвалявалася. Пані Езерская кінулася да афіцэра, пазбіваўшы зэдлікі, на якіх толькі што сядзелі асобы з «прэзідыума».

— Пан харунжы! Пан харунжы! Ці ж вы не зловіце бальшавіка? — працягваючы абедзве рукі да афіцэра, прасіла яна.

Харунжы зышоў з ганка, паклікаў за сабою некалькі коннікаў, з якімі пайшоў проста на грамаду. Сяляне моўчкі расступіліся перад вайскоўцамі. Праз некалькі хвілін уся грамада была падзелена быццам вуліцамі, па якіх насіліся, бразгаючы шаблямі, коннікі.

— Хто крычаў? — дапытваўся харунжы, праходзячы ўжо дванццаты раз праз натоўп.

Але адказу не было. Харунжы бялеў, чырванеў, зубы яго былі сцяты. Напаследак ён не вытрымаў, загадаў схапіць некалькі сялян. Іх вывелі на прастору перад ганкам і пача-

9 Зак. 3777

лі лупцаваць тыллём шабляў, вымагаючы, каб яны сказалі, хто крыкнуў «здрадныя» словы.

Раптам з гушчы сялян рашучымі крокамі выйшаў хлопец гадоў дваццаці і стаў перад ганкам.

— Пакіньце іх! — сказаў ён, паказваючы на сялян, якіх няшчадна білі жаўнеры.— Гэта я крыкнуў абодва разы.

— Хто ты такі ёсць? — ускінуўся на яго пан Езерскі.

— Пятрусь Глушанок.

— К д'яблу!.. Ты бальшавік?

Не паспеў Пятрусь адказаць пану Езерскаму, як да яго падскочыў тоўсты маянтковы кіраўнік.

— Ах, ты Глушанок? Пся крэў твая, ці не сын ты дварога парабка Хведара Глушанка?

— Так, мой бацька быў у вас парабкам,— адказаў спакойна Пятрусь.

— Ну дык бачыце, паночку, што ён — бальшавік,— парашыў кіраўнік, звяртаючыся да пана Езерскага.

— Так, так! Табе не падабаецца аддаць зямлю мне назад. Ты думаў, зямліца вам застанецца? Вон, псота!

— Не, пане Езерскі, не так! Ану, жаўнеры,— звярнуўся харунжы да сваіх коннікаў, двадзесьце пеньць!

Петруся схапілі трое рослых жаўнераў, адвалаклі ад ганка і распранулі на вачах паноў і сялян. Праз хвіліну разам са свістам шомпалаў раздаўся звярыны крык Петруся.

Сяляне стаялі маўкліваю сцяною; здаецца, ніхто з іх не бачыў, што рабілася тут, побач. Енк Петруся ўсё слабеў, кроў цёмнаю плямаю афарбавала зямлю. Пані Езерская паднясла к вачам свой ларнет і пільна сачыла за катаваннем. Пад канец, калі жаўнеры ўжо не так моцна білі Петруся, яна зышла з ганка, падышла к самаму месцу, дзе рабілася экзекуцыя, і з усмешкаю разглядала пакалечанае цела.

— Нябось, вы змарыліся, небаракі? — запыталася яна ў жаўнераў.— Ну нічога, вы зайдзіце да мяне, я вас пачастую.

Петруся паднялі і павалаклі ў халодную, якая была ў памяшканні валасное ўправы. Паны адзін за другім пакінулі ганак. Сяляне пачалі разыходзіцца, кідаючы косыя по-

зіркі ў бок маёнтка, па дарозе к якому, нібы спацыруючы, ішлі паны і «абраная» ўлада. З таго боку чуцён быў смех, жывая гутарка, з боку ж вёскі было ціха, як у магіле. Хутка плошча зусім апусцела, толькі пачарнеўшая пляма ад крыві сведчыла аб той трагедыі, якая нядаўна тут адбылася.

Пятрусь быў увапхнуты ў маленькую каморку, што была ў канцы калідора. Вонкавая сцяна яе з маленькім ваконцам, забітым драцяною сеткаю, выходзіла на гарод і сад, зарослыя рап'ём, крапівою і ўсякаю іншаю дзікаю травою.

Змучаны да паўсмерці катаваннем, Пятрусь пластом ляжаў на голай зямлі. Кроў стала засыхаць, прыліпаючы да адзежы. Кожны паварот, разам з якім аддзіралася рана, рабіў нязмерную боль. Як толькі раздаваўся ў каморцы енк, за дзвярмі чуўся бразгат шпораў і жаўнер адвальваў засоў і праз шчыліну сачыў за палонным. Гэтаеназіранне надта непакоіла Петруся, і ён, сцяўшы зубы, прогся стрымліваць крык. Ад пары да пары ён упадаў у забыццё, але як толькі прыходзіў у сябе, то чуў толькі мерныя крокі і звяканне шпораў, якія затрымліваліся крыху каля самых дзвярэй.

Расплюшчыўшы вочы пасля аднае з непрытомнасцей, Пятрусь не мог успомніць, дзе ён. Было зусім цёмна, як у магіле. Толькі чуць прыкметны шэры чатырохкутнік аконца даў яму магчымасць аднавіць у памяці ўсё, што адбылося з ім у гэты дзень. Думкі Петруся панесліся ў будучыню. Перад ім яскрава паўстаў малюнак далейшай з ім расправы. Вядома, што яго кінулі ў гэтую каморку не дзеля таго, каб выпусціць, але, мусіць, будуць яшчэ катаваць, а мо... мо і зусім прыкончаць. Страх ахапіў Петруся, сціснуў яго сэрца. Ён ускочыў на ногі і са звярыным крыкам пачаў стукаць галавою і кулакамі ў кволыя дзверы.

— Ты што тут ломіш, пся крэў!

Дзверы раптам падаліся, і нешта, як молатам, грукнула ў грудзі. Пятрусь адваліўся і страціў памяць...

Што гэта штурхае? Пятрусь водзіць рукою і абмацвае канец ні то жэрдкі, ні то проста палкі. Ён прыходзіць у сябе і бачыць замест маленькай шэрай плямы на сцяне даволі

вялікі, як акно, чатырохкутнік. За ім, знадворку, нечая галава. У хустцы!

Пятрусь падняў крыху галаў, але боль прымусіў яго застагнаць.

— Ціха, вылазь!

Не ведаючы, хто яго кліча, Пятрусь, аднак, падпоўз да акна.

— Давай рукі! Ціха!

Вось яго цягнуць ужо ўдваіх — мужчына і кабета. Зачапіўшыся балючым месцам, Пятрусь зноў заенчыў. Але хустка абматала яму галаў з вачамі і ротам так, што енк ледзьве мог быць чутным.

— Хто гэта мяне вядзе?

— Ціха! Агата. Ты не памылішся, Тодар, дзе мы разабралі паркан?

— Не, не. Хоць бы драмаў гэты жаўнер на ганку.

Пятрусь з абвязанаю галавою, ледзьве перасоўваючы ногі, ішоў між сястрою Агатаю і сваім таварышам Тодарам. Яны пералазілі праз платы, ішлі па градах, часта чапляліся за галлё. Праз нейкі час Агата зняла з яго хустку і ўніклівa паглядзела яму ў твар:

— Ох, Пятруська, які ж ты стаў!

Агата лёгка кранулася пальцамі яго твару і правяла імі па галаве. Яны стаялі каля пуні Тодара, якая выдавалася адна ад вёскі ў поле, быццам вартаўнік перад аддыхаючым войскам. Тодар кудысь прапаў.

— Ну, а як матка? З ёю нічога дрэннага не страслося?

— Галосіць, мусіць, і цяпер. Але пакуль што яна не траціла надзеі.

— А ты сама?

— Ні жаднае слязінкі ў мяне не было. Толькі надта перапалохалася, як ты там ачнуўся і заенчыў: думала — не выберамся.

— Ну і слаўная ты!

Лёгкі стукат калёсаў пачуўся з двара Тодара, і праз момант з шэрае імглы высунулася конская галава з дугою,

а за ёю і воз, на якім сядзеў Тодар на мяшках са збожжам. Петрусю пасобілі ўзлезці на воз. Агата, як кошка, ускочыла да брата, абняла яго.

— Ну бывай здароў, Пятруська! Хутка пабачымся.

— Помні, Агата, не памыліся! Я паехаў да млына,— сказаў Тодар.

— Не памылюся! — ціхі шчаслівы смех сястры правадзіў хоць пакалечанага, але вызваленага Петруся.

Воз сцежкаю выехаў на палявую дарожку, якая, хістаючыся ў бакі, міма аблогаў, цягнулася да лесу. Ён чорнаю стужкаю быў відаць уперадзе, але яшчэ далёка. Вось падняліся на ўзгорак, з якога вёска была як на далоні. З таго боку на ўсходзе край неба афарбаваўся ў ружовы колер. На бляску яго рэзка абрысоўваўся чорны сілуэт Агаты, якая ўсё яшчэ стаяла на месцы, непадалёку ад Тодаравае пуні. Воз рухаўся далей, вёска быццам пачала хавацца пад зямлю і хутка зусім прапала з вачэй...

Тодар у той жа дзень увечары вярнуўся з млына, узапраўды прывёзшы мяшок мукі. Па вёсцы гойсалі адурэлыя жаўнеры, капаючы стагі з сенам ды саломаю, лазячы па пунях, па паграбах — усюды, дзе можна было схавацца.

Петруся, вядома, не знайшлі.

## II

Цішыня і супакой разліты ў лесе ўвосені. Травы ўжо пажоўклі, і галоўкі іх з насеннем хіляцца долу. Ягад няма, толькі брусніца чырванее сваімі пацеркамі на жоўта-зялёнай коўдры моху. Дрэвы маўчаць і пакрысе скідаюць сваё летняе ўбранне. Толькі яліна ды хвоя становяцца яшчэ больш зялёнымі, да чарнаты. Птушак не чутно. Як толькі падзьме вецер, лісце закруціцца ў паветры, як статак гуллівых ластавак, ды шуміць, крыху парушаючы хаўтурны спакой лесу...

Лес, які прытуліў Петруся Глушанка, шырокаю, у некалькі вёрст, градою цягнуўся паміж балацінаю. Папасці ў

сярэдзіну яго было даволі трудна, бо ўздоўж яго не было дарог, а каб прасякнуць збоку, трэба было перабрацца цераз імшыстае балота. Сяляне карысталіся вузенькімі тропкамі, па якіх можна было праехаць з лёгкім возам, але толькі добра ведаючы ўсе выкрутасы гэтых першабытных дарог. Зімою толькі, як прамярзала балота, лес адчыняўся шырока для доступу ў яго.

Недалёка ад краю лесу, з таго боку, дзе за балотам праходзіў шлях, была маленькая старая хатка, калісь пабудаваная для жылля дрывасекаў. Многа часу гэтая хатка пуставала, і вось цяпер у ёй зноў з'явіліся людзі. Толькі замест сякер, пілак ды вяровак на сценах павешаны былі стрэльбы, рэвальверы, торбы з гранатамі, а з-пад прыпяку выглядаў нос «Максіма». Замест барадатых дрывасекаў у хаце ўвечары ўсё больш маладняк — хлопцы і дзяцюкі. Праўда, былі сярод новых гаспадароў хаты і дарослыя мужчыны, але іх было няшмат.

Увечары і раніцою ўся гэтая лясная грамада збіралася разам. Адны прыходзілі з варты, другія з выведкаў, трэція прыносілі харч. Кожны паведамляў таварышам аб тым, што з ім здарылася, альбо што ён бачыў ці аб чым даведаўся. Потым кожны ішоў туды, куды павінен ісці па таварыскаму загаду, альбо заставаўся ў хаце, якая з'яўлялася звязваючым усіх асяродкам. Наогул кожны з грамады быў так ці інакш у зносінах са сваёю вёскаю, сваёю гаспадаркаю і сям'ёю. Некаторыя зусім жылі па вёсках, але толькі калі-нікалі наведваліся ў лясны штаб. Пятрусь жа ды яшчэ два-тры хлапцы не рызыкавалі спачатку сунуцца ў свае вёскі, бо за тым, каб злавіць іх, была складзена асобная варта з польскіх жаўнераў і некаторых мясцовых жыхароў.

Агата, якая наведвалася да Петруся кожны тыдзень разы два-тры, звычайна прыходзіла ноччу, калі ёй можна было выйсці з вёскі патаемна. Сустракаліся яны не ў ляснай хатцы, а ў адным абумоўленым месцы, якое яны ведалі толькі ўдваіх. Агата прыносіла Петрусю яду, паведамляла яго аба ўсіх навінах і аб тым, якія парадкі заводзяцца палякамі і

панамі. Пятрусь даведаўся ў хуткім часе, што пан адабраў у яго зямлю, як у былога парабка, і дазволіў толькі часова застацца ў хаце яго мацеры і сястры. Калі Пятрусь пачуў аб гэтым, то яго першаю думкаю было адплаціць пану пры дапамозе сваіх таварышаў. Але Агата ўстрымала яго і прасіла чакаць, бо польскія жаўнеры пільна вартуюць маёнтак.

Пасля гэтага Пятрусь страціў адносны супакой, які адчуваў у лесе з таго часу, як ачуняў ад пабояў, зробленых яму на сходзе. Новая пагарда нібы адчыніла толькі крыху зажыўшыя раны, і злосць, што не знаходзіла сабе выйсця, пілавала яго сэрца. Да гэтага яшчэ далучаліся чуткі з усіх бакоў аб катаваннях, забойствах, аб ганьбе сялянства з боку новых валадароў і старых паноў. Бяздзейнае сядзенне ў лесе, пры енках і катаваннях вакол, мучыла, не давала раўнавагі ў настроі. Пятрусь усё часцей заходзіў адзін у лясную глушыню, блукаўся там цэлымі гадзінамі, хоць хараство заміраючага лесу не рабіла на яго ніякага ўражання.

Адзін раз, толькі пачало развідняцца і толькі грамада разышлася, за выключэннем сталых цяпер жыхароў лесу, у сенцах раздаўся сполашны грукат і, задыхаўшыся, на парозе з'явілася Агата. Валасы яе вылазілі з-пад хусткі, твар быў увесь мокры ад поту, адзежа на ёй была заляпана граззю.

— Хавайцеся, альбо...— крыкнула і не дагаварыла яна.

Хлопцы паўскаквалі і недаўменна пазіралі на Агату.

— Пятрусь! Тут хутка будуць жаўнеры!

Пятрусь і яго таварышы схапілі стрэльбы, торбы з патронамі і кінуліся з хаты. Агата за імі.

— Ты куды, Агата? Мы хавацца не будзем.

— Ну... ну і што ж? Я пайду за табою.

— Заставайся ў хаце, кажу я табе! Чуеш?

— Не застануся!

— Эх!..— Пятрусь махнуў рукою.— А як ідуць палякі?

— Цераз балота, на конях, а вядзе іх Гарошка.

— Ага! Даведаліся! Ну, хлопцы, пойдзем!

Пятрусь ажывіўся. Задуменнаць як рукой зняло. Ідучы,

ён залажыў у стрэльбу патроны, насыпаў іх у кішэню, астатнія ж моцна завязаў вузлом у торбе, каб не рассыпаліся.

Вось і край лесу. Недалёка, не больш як за паўвярсты, цераз балота блытанаю сцежкаю ехала адзін за другім каля дванаццаці коннікаў, а паперадзе ішоў селянін у кажушку і высокіх ботах. Раз-пораз ён прыпыняўся, паварочваўся назад і нарыхтоўваў жаўнераў. Пятрусь і яго таварышы прытуліліся хто за дрэвам, хто за карчом і прыгатавалі стрэльбы.

— Адыдзі, Агата, і схавайся! — злосна прашаптаў Пятрусь.

— Добра, толькі не злуйся!

Коннікі ўжо зусім блізка. Добра чутно кожнае слова з іх гутаркі. Гарошка здымае шапку і выцірае рагом торбы пот.

Раптам трэснула і разам пракацілася па лесе. Потым яшчэ і яшчэ. Павадыр сеў на месцы, некалькі пярэдніх коней кінуліся ўбок, загрузлі ў балоце, камечачы пад сабою неатрапеўшых жаўнераў. Стрэлы не спыняліся, і праз некалькі хвілін на сцежцы засталіся толькі дрыгаючыя нагамі коні ды сцярэбленыя, як малады лес, жаўнеры.

— Пятрусь, Пятрусь! Вось яшчэ адзін устае.

— Уцякай, Агата!

Яшчэ некалькі стрэлаў — і лес замоўк. Толькі кляновы ліст, які жоўтаю зоркай віўся ў паветры, шуршаў аб яловыя іголкі, ды кроплі спадаючага туману хлёпалі па сырым лісці, ляжаўшаму на зямлі.

— Ну цяпер, хлопцы, трэба знайсці іншае месца! Хадзем. Ты, Агата, спяшайся дадому, каб не дазналіся.

— Так я і пайшла дадому! Няма дурных. Я зайду да цёткі ў другую вёску, а ўвечары вярнуся дадому — вось і ўсё добра.

Пятрусь з любасцю паглядзеў на сястру, павярнуў яе ў другі бок і лёгка штурхнуў:

— Ну, ідзі!

Хлопцы пакінулі хату, забраўшы з яе ўсю зброю і сваю

убогую маёмасць. «Максіма» яны разабралі на часткі і панеслі, каб не пакінуць ніякіх слядоў на зямлі.

— Цяпер нам, браты, засталася толькі вайна: на вёску не пакажашся,— сказаў Пятрусь сваім таварышам па дарозе да новага месца прытулку.

— Хацеў бы я ведаць, хто гэта выдаў нас? — разважаў адзін.

— Нехта з тых, хто бываў тут з намі,— адказаў другі.

— А ладная ў цябе, Пятрусь, сястра. Каб не яна, мо не давялося б нам больш хадзіць па лесе.

Пятрусь нічога не адказаў, толькі агеньчык пагардасці бліснуў у яго вачах...

Восень усё павялічвала сваю згубную працу ў лесе. Дрэвы ўжо стаялі голымі, і ноччу вецер жалобна гуў між іх галлём. Раніцаю лісце было белым ад марозу і звонка трашчала пад нагамі. Шалаш, у якім жыў Пятрусь са сваімі пяццю таварышамі, быў дрэнным прытулкам: і дождж і вецер вольна прасякалі праз яго сцены і дах. Людзей цяпер прыходзіла шмат менш, бо Пятрусь, пасля нядаўнае здрады, з большаю падазронасцю адносіўся да сваіх прыхільнікаў. Маркотна стала ў лесе, асабліва ў доўгія сырыя ночы.

— Давайце зробім налёт на панскі маёнтак,— прапанаваў адзін раз нехта з таварышаў.

— А сапраўды! Ачумееш тут сядзеўшы,— падхапілі другія.— Ты як думаеш, Пятрусь?

— Як я думаю! Мне таксама апрацівела сядзець тут без работы. Але, мне здаецца, яшчэ рана рабіць налёты. Калі мы толькі пашарпаем пана, дык застанецца ўсёй вёсцы ад палякаў — не пашкадуюць і не будуць доўга шукаць тых, хто пакрыўдзіць пана. Вы памятаеце, як пасадзілі мяне ў халодную.

— Так-то яно так, але ж нельга сядзець тут зложыўшы рукі.

— Вось што, хлопцы, я думаю. Злейшы наш вораг — польскае войска, на якім трымаюцца паны. Дзеля таго, каб змагацца з войскам, нам трэба мець многа буйнейшыя сілы.

Вось я і раю: давайце шукаць другіх такіх, як мы, каб аб'яднацца з імі.

— А калі наскочым на здраднікаў?

— Трэба будзе добра разведаць аб іх. Мне здаецца, што нас набярэцца многа.

Доўга ў гэты вечар спрачаліся нашы хлопцы, але нарэшце вырашылі наладзіць сувязь і зносіны з іншымі партызанскімі суполкамі. На другі дзень усе адчувалі сябе больш жвавымі. Тодар, які ўсё яшчэ жыў у вёсцы, меў заданне даведацца ў іншых вёсках, дзе знаходзяцца ўцёкшыя з дому мужчыны. Будучы надта дасканалым і прайдошлівым хлопцам, Тодар хутка справіўся з справаю, і праз які-небудзь тыдзень было вядома Петрусю месца знаходжання шмат якіх партызанаў. Пачалося новае жыццё, новыя надзеі, прапала ўсякая нуда, хоць па лесе хадзілі ўжо ўнукі дзедкі-мароза.

Агата, якая і цяпер не забывалася хадзіць у лес, адзін раз нешта замарудзіла варочацца дадому. Яна то адыходзіла ад шалаша, то прыпынялася і варочалася да Петруся. Відаць было, што яна хоча нешта сказаць і не асмельваецца.

— Што ў цябе, Агата?

— Нічога!

Але яна матнула галавою і рашуча працягнула руку, у якой ляжаў невялікі кавалак замурзанае паперкі. Пятрусь узяў яго, пакруціў ва ўсе бакі, глядзеў з хвіліну. Ружовым колерам пакрыўся яго твар.

— Жаўнераў на вёсцы няма, паехалі.

— Няма? А хто ж вартуе пана Езерскага?

— Адзін толькі жандар.

— І ты баялася перадаць мне гэты лісток?

— Не таму, што былі жаўнеры альбо цяпер жандар, я не хацела аддаваць.

— Чаму ж?

— Так, нічога... Дык ты прыйдзеш?

— Вядома. Толькі нікому ні слова, нават ёй.

Агата весела ўсміхнулася і, некалькі разоў азірнуўшыся

на брата, які стаяў з паперкай каля шалаша, схавалася за цемраю ялін.

Пятрусь некалькі разоў перачытваў напісаныя крывымі літарамі словы «прыходзь хутчэй», пад якімі стаяла імя Насты. Гэтыя тры словы ўскалыхнулі яго сэрца куды мацней, чымся крык Агаты перад крываваю сустрэчаю з польскімі вайскоўцамі. Пятрусь, заціснуўшы ў кулак лісток, пайшоў прочкі ад шалаша, забраўся ў самы гушчарнік, дзе за нагу чаплялася суччо, а па галаве сцёбалі лапы ельніку, але ён не адчуваў нічога: думкі былі там, на вёсцы, і ні аб чым іншым ён думаць не мог.

Увесь дзень сланяўся ён па лесе, выклікаючы здзіўленне таварышаў, якія гатаваліся да пераходу на іншае месца, бліжэй да другое грамады партызанаў. Увечары, калі яшчэ нават не змеркла, Пятрусь рынуўся дадому, ледзьве здагадаўшыся сунуць у кішэню пісталет і развітацца з таварышамі. Ён страціў усякую асцярожнасць, перайшоў, быццам пералящеў, балота і проста бальшаком памчаўся ў вёску. Толькі як вырысавалася цёмная сцяна прысадаў каля маёнтка, а далей царква, Пятрусь схамянуўся, успомніўшы разам здарэнні з ім за апошнія два месяцы. Ён зышоў з дарогі і цераз поле накіраваўся да ваколіцы.

Вось і вёска. Дзе-нідзе ў хатах блішчалі агні. Петруся так пацягнула да цяпла, спакою, што ён нават на нейкі час забыўся аб тым, зачым ён прыйшоў. Але гэта быў толькі момант. Далей ён пачаў прагна ўглядацца ў будынкі, шукаючы між імі тую пуню, якая стала так знаёмаю яму злетку.

— Пятрусь!

За жардзяным плотам ваколіцы мільганулі дзве кабечыя фігуры. Пятрусь прыпыніўся, углядаючыся ў цемень.

— Да пералезь жа сюды!

Праз момант гарачыя губы апалілі твар Петруся.

— Я пайду дадому, Пятрусь, і буду чакаць цябе,— сказала Агата, адступаючы ад свае таварышкі.

Як толькі Агата схавалася ў цемры ночы, Наста кінулася на шыю Петрусю і зашаптала:

— Ці ведаеш ты, як я чакала цябе? Цэлыя дні і ночы мае думкі толькі і заняты былі табою. Перш, як ты ўцёк з халоднае, я доўга не ведала, дзе ты, ці жывы, ці не. Толькі нядаўна дапыталася я ад Агаты, што ты жыў і сядзіш у лесе. А ты хацеў мяне бачыць?

— Навошта аб гэтым пытацца, Наста? Сёння ўвесь дзень я быў як непрытомны, чакаючы вечара, а сюды ішоў, быццам птушкі неслі мяне на крылах.

— А кахаю ж я цябе, Петрусёк!

Яны селі на салому каля пуні. Было ціха, нідзе ні шораху. Зоркі патаемна блішчалі праз лёгкі туман, як вочы праз слёзы. Пятрусь схіліўся да Насты, і яны моўчкі прасядзелі, ні аб чым не думаючы, толькі адчуваючы ўсёю істотаю адзін другога...

Дзесь на вёсцы гаўкнуў раз-другі сабака. Пятрусь устрапянуўся і крыху адхіліўся ад Насты.

— Ты хочаш ужо пакінуць мяне? — з крыўдаю ў голасе запыталася яна.

— Так прасядзеў бы з табою не адну ноч, а тысячы. Але ж нельга забыцца аб тым, як і адкуль я прыйшоў сюды.

— Кінь ты думаць аб гэтым, прыгарніся да мяне.

Пятрусь асыпаў яе пацалункамі, у якіх быў пал яго маладосці, смутак выкінутага раней пары ў жорсткія ўмовы жыцця і жальба аб тым, што хутка прыйдзецца зноў расстацца з каханаю дзяўчынай. Ён зноў засмуціўся.

— А ведаеш, Пятрусь, не хадзі ты назад у лес.

— Што ты кажаш?

— Не хадзі, заставайся ў вёсцы.

— Якім гэта чынам я застануся?

— Чаму ж не? Ну уцёк з халоднае, ці ж вялікая ў гэтым віна! Пан цяпер, як польскія жаўнеры выехалі, зрабіўся надта добрым. Ён, мусіць, баіцца крыху вас, партызанаў, і хоча залагодзіць. Вось ён і табе падаруе, толькі папрасі ў яго.

— Наста, мне дзіўна слухаць, што ты гаворыш. Ты раіш мне прасіць пана Езерскага, каб ён дараваў мне за тое, што я ўцёк з-пад замка і ад далейшага катавання?

— Ну а што ж? Толькі папрасі, і ты будзеш жыць вольна дома, а не ў лесе, дзе мерзнеш на холадзе.

— Ну я прасіць не пайду. Шомпалы яшчэ гараць на маім целе, зямлі ў мяне ўжо няма. Ды не толькі мяне аднаго так пакрыўдзілі, увесь народ стогне. Помста трэба.

Наста апусціла галаў. Слёзы стаялі ў яе вачах:

— Дык ты не кахаеш мяне! Ты не хочаш застацца, каб быць са мною. Нават мой татка не супярэчыць, каб мы пажаніліся. Застанься тут, не хадзі ў лес.

— Цудоўная ты. Каб я і застаўся, каб пан, як ты кажаш, і падараваў мне, дык, думаеш, гэта надоўга? Ён мяне з'есць, калі дамся сам у рукі.

— Не бойся, мой татка ўжо хадзіў да пана і гаварыў аб табе, прасіў падараваць. Пан быў надта рады і толькі чакае, каб ты сам прыйшоў да яго.

— Твой бацька прасіў?! За мяне?

— Чаго ж ты так здзівіўся?

— Наста, мне цяжка гаварыць, я магу абразіць цябе. Пачакай.

Пятрусь адышоў да веснікаў у поле, абапёрся галавою аб іх і доўга стаяў нерухома. Наста не смела падысці да яго.

— Скажы, Наста, чаму ты ні разу не прыйшла да мяне ў лес,— гледзячы ёй у вочы, прагаварыў напаследак Пятрусь.

— Як я магла прыйсці! — спалахліва прамовіла яна.— Гэта ж брыдка, дай боязна было.

— А бацьку да пана пасылаць не брыдка?

Пятрусь пералез цераз веснікі, павярнуўся да Насты і прамовіў прыдушаным голасам:

— Ну, бывай!

Наста кінулася ўперад.

— Ідзі, ідзі сабе, Пятруська! Толькі кахай мяне так, як цяпер, не кідай зусім. Пятруська! Петрусёк, родны!

— Бывай здарова!

— Пятрусь, я пайду за табою куды хочаш!

— У мяне кахання больш няма,— было апошнім адказам для Насты.

Пятрусь не зайшоў нават дадому. Цяжкімі крокамі перайшоў ён поле і спусціўся ў балота перад лесам. Увесь час яму здавалася, што следам за ім ідзе Наста і чуецца яе ціхі плач. Але Пятрусь ні разу не азірнуўся назад. Толькі як падышоў да свайго шалаша, які нейкаю закінутаю сіратою выглядаў у шэрай раніцы, ён стаў тварам да вёскі, доўга ўглядаўся ў той бок, быццам чакаў каго. Вочы заслала слязьмі... Але вось ён матнуў галавою, скінуў кажух і пачаў калоць дровы.

## III

Выпаў снег. Пачаліся моцныя маразы. Жыць у лясных шалашах стала цяжка. Цёплае адзежы ў партызанаў не было. Некаторыя хлопцы пачыналі часта гутарку аб тым, што трэба было б зварачацца дадому, бо немагчыма пражыць усю зіму ў лесе. Пятрусь, слухаючы такія размовы, пераканаўся, што нельга трымаць людзей у бяздзейнасці, хоць пачынаць належную вайну быў яшчэ не час. Змовіўшыся з іншымі гурткамі, якія былі яму вядомы, Пятрусь склаў з усіх, жадаўшых захаваць арганізацыю, даволі моцны атрад чалавек з трыццаці. Цяпер у іх было некалькі кулямётаў, шмат вінтовак, патронаў і рознае зброі.

Атрад пачаў дзейнічаць па шляхах, падсцерагаючы польскія абозы альбо дробныя вайсковыя адзінкі. Схаваўшыся ў засадзе, атрад раптоўна нападаў на праходзіўшыя часткі, якія звычайна лёгка здаваліся. Партызаны раззбройвалі польскіх вайскоўцаў, адбіралі розную амуніцыю і яду, зніштажалі сувязь і гэтым блыталі кіраванне арміі. Зрабіўшы напад у адным месцы, яны на другі дзень былі ў другім, вёрст за 20—30 ад яго. Перасоўваліся яны лясамі, па дробных дарогах, выбіраючы месцам начлегу глухія вёскі альбо хутары, дзе нельга было спадзявацца на сустрэчу з буйнымі сіламі ворага. Не шкадавалі яны і панскіх маёнткаў, якія трапляліся ім пад руку. У справе знішчэння маёнткаў ім надта пасабляў запас польскае вайсковае адзежы. Паны прымалі

партызанаў за польскіх жаўнераў і нават гасцінна прымалі іх; потым рабіліся ахвяраю часткова і ад свае абмылкі.

Пятрусь стаў належным кіраўніком партызанаў, якіх ён злучыў у пачатку зімы. Яго свядомасць, жорсткасць да паноў і палякаў, упартасць давалі яму перавагу нават перад старэйшымі, і дзеля гэтага атрад нязменна лічыў яго сваім начальнікам. Дзякуючы Петрусю, атрад утрымаўся ад распаду ўсю зіму, абрадзіўшы за чатыры месяцы ўсе закуткі двух паветаў. Не было колькі-небудзь буйнага лесу, у якім Петрусёвы партызаны не ведалі б кожнае дарожкі альбо патаемнага месца. Дзеля гэтага ўсе дамаганні з боку польскіх вайскоўцаў злавіць гэты невядомы ім, але досыць дакучны атрад былі дарэмнымі.

У красавіку атрад павялічыўся больш як у два разы. Усе тыя, хто не трываў панскае ўлады, але і не рызыкаваў насіцца ўзімку па лясах, цяпер далучаліся да таго ці іншага партызанскага аб'яднання. Ажываўшы лес даваў зноў прытулак усім пакрыўджаным, усім, хто шукаў магчымасць звольніцца ад вайскова-панскага прыгону і вызваліць ад яго і другіх. Пятрусь кінуў асцярожнасць і прымаў людзей чым больш.

У канцы красавіка Пятрусь са сваім атрадам прыпыніўся ў тым лесе, адкуль выйшаў з пачатку зімы. Яму надта хацелася даведацца, што робіцца ў яго вёсцы. Ён паслаў двух таварышаў да Тодара. На другі дзень раніцаю Тодар з'явіўся сам, чаго з ім раней не траплялася.

— Я хачу застацца тут у цябе,— адказаў ён на здзіўленае запытанне Петруся.

— У чым жа справа?

— Справа? Справа? У тым справа, што тваю сястру Агату пасадзілі ў камендатуру!

Пятрусь сцяў зубы і доўга нічога не гаварыў. Потым ён падняў вочы на Тодара.

— Што ж ты маўчыш? — крыкнуў ён.— Гавары, як было!

— На мінулым тыдні ў адну з начэй загарэлася стайня

ў маёнтку Езерскага; на другую ноч былі спалены адрыны; за трэцім разам, нягледзячы на моцную варту з вайсковых, былі падпалены службовыя будынкі, дзе жыве тоўсты кіраўнік і ўся чэлядзь. Ну вось, пасля гэтага Агату схапілі, білі, як і цябе...

Пятрусь учапіўся скручанымі пальцамі ў плячо Тодара. Твар яго пазелянеў. Зубы ляскалі.

— Ну далей, далей! Кажы! — скрыгануў ён.

— Білі яе шомпаламі, каб сказала, што гэта ты падпальваў маёнтак, і каб выдала цябе. Вядома, збойства не пасобіла ім, маёнтак такі згарэў. Агата ўжо сем дзён сядзіць у каменданта ў мястэчку.

Тодар памаўчаў, некалькі разоў зірнуў на Петруся, а потым дадаў:

— Я не пакіну твой атрад, пакуль Агата не будзе вызвалена.

Пятрусь падаў яму вінтоўку і торбачку з патронамі.

— Страляў?

— Страляў!

— Эй, хлопцы, хто хоча вось з намі камендатуру ў С... разнясці? Справа не лёгкая, і не ўсім выйсці з работы.

Пятрусь, зрабіўшы гэтую прапанову, аглядаў па чарзе сваіх таварышаў. Толькі двое пажадалі застацца ў лесе, увесь жа атрад захацеў прыняць удзел у гэтай справе. Пятрусь падзяліў атрад на тры часткі і павёў іх у канец лесу, каб адтуль за ноч дайсці да мястэчка і напярэдадні зрабіць напад на камендатуру, а калі трэба будзе, то і на войска.

Чуць заняўся свет. Мястэчка яшчэ пакрыта змрокам. Дзенідзе мільгаюць агеньчыкі, з комінаў ідзе лёгкімі стужкамі дымок. Дзве часткі Петрусёвага атрада адлучыліся і хутка прапалі ў шэрай коўдры лёгкага вясковага туману. Пятрусь з часткаю сваіх таварышаў і з Тодарам падышоў да гародаў і прытуліўся за кузнямі, якія былі раскіданы без усякага парадку каля невялікае рэчачкі.

Праз некалькі хвілін з другога канца мястэчка выбухнулі

адзін за другім пяць-шэсць стрэлаў, а потым затрашчала ўсё часцей, і кулі зазвінелі над дамамі. Яшчэ хвіліна-другая — і па брукаванай вуліцы мястэчка прагокалі падковы і раптам замоўклі.

Пятрусь са сваімі хлопцамі пабег ад дома да дома і праз некалькі момантаў быў на рагу завулка, які выходзіў на галоўную вуліцу, якраз супраць гандлёвае плошчы. Там, перад домам, у якім была змешчана камендатура, ужо выстройвалася чалавек з дваццаць польскіх жаўнераў, якія паспешна падвязвалі рамяні і патроннікі.

Раптам мястэчка агаласіў моцны і нястройны залп, гарохам пракаціўшыся па вузкіх вулічках. Некалькі жаўнераў апусцілася на гразкі брук. Астатнія кінуліся ў адзін бок, у другі, зусім атарапеўшы і не ведаючы, адкуль на іх сыплюцца кулі. Залпы не пераціхалі, і праз дзве хвіліны ад польскага атрада засталося толькі некалькі параненых ды пабітых. Хто застаўся цэлым,— кінуўшы зброю, уцёк.

— Ну хутчэй цяпер!

Тодар кінуўся да дома камендатуры, а за ім пабеглі і ўсе партызаны. Грукнулі стрэлы. Тодар захістаўся і прысеў на зямлю.

— Давай гранаты! — крыкнуў Пятрусь.

Зазвінела шкло, паляцелі рамы, стрэлы з дома прыпыніліся.

— Яшчэ раз!

Дымам, смяццём круціла каля дома. Пятрусь кінуў некалькі сваіх таварышаў у доме, а сам з двума хлопцамі прашмыгнуў за вароты, дзе побач з каменданцкім домам стаяў вялікі свіран з жалезнымі прутамі ў маленькіх прарэзах у сцяне — мусіць, быўшы гандлярскі склад. Некалькімі стрэламі вісячы замок быў збіты.

Агата, хістаючыся і з перапалохам на твары, паказалася ў дзвярах. Радасць асвяціла яе змучаны чорны твар. Пятрусь падхапіў яе і павёў на вуліцу.

— Тут многа войска, як гэта — рота, ці што. Спяшайцеся! — сказала яна.

Тодар сядзеў ужо на ганку. З пляча яго цякла кроў і вузенькаю стужкаю аплывала па гразкаму кажушку.

— Гэй, збірайся!

Партызаны, быўшыя з Петрусём, праз момант былі на плошчы. У другім баку мястэчка, у канцы яго, зноў пачуліся стрэлы, якія рабіліся ўсё часцей ды часцей.

— Трэба ім дапамагчы! Дзе тут польскія коні?

— Стайня вось там.— Агата паказала на двор, побач з камендатурай. Пятрусь паслаў таварышаў за коньмі, а сам з іншымі кінуўся ў бок страляніны. Хутка затрашчала бліжэй, а там, у канцы, стрэлы сталі радзейшымі. Праз хвіліну там і зусім сціхла.

— Абыдзі гародамі і скажы, каб яны ўцякалі да лесу. Мы іх дагонім на конях,— крыкнуў Пятрусь аднаму з хлопцаў, выпускаючы кулю за куляй з-за вугла нейкае крамкі.

Страляніна ахапіла ўвесь асяродак мястэчка. Бухала на бакавых вуліцах, бухала на гародах. Польскія жаўнеры, перапалоханыя нечаканаю бойкаю, выскоквалі з прыватных дамоў, у якіх кватаравалі, беглі і стралялі куды папала. Партызаны ж, схаваўшыся за дамамі, выпускалі цэлыя абоймы ўздоўж вуліц. На плошчы было пуста. Станавілася зусім відна, з-за туману праглянула сонца.

— Дзе ж коні? Хутчэй коней!

З боку мястэчка, дзе да гэтае пары ўсё было ціха, раздаўся мерны стукат ходу многіх людзей. Не іначай як часць пад камандаю!

— Коней давай!

Агата стаяла недалёка ад Петруся. Яна ўчапілася яму ў плячо і са смагаю на губах прасіла:

— Уцякайма так! Згінеш, Пятруська! Уцякайма!

— Не ўцячэш так. Іх больш, яны нас абкружаць.

Не пакідаючы страляць, партызаны пачалі перабягаць к дому, дзе мусіла быць стайня. Але вось і коні.

— Дзе ж вас чэрці насілі? — накінуўся Пятрусь на пасланых за конямі хлопцаў.

— Мы хацелі ўзяць не толькі коні, але і сёдлы. Вось яны! Блыталіся доўга!

— Садзіцеся хутчэй!

Праз момант невялічкі атрад Петруся пад стралянiну з усіх бакоў выскокваў з мястэчка. Тодар быў прывязаны за рамень аднаго з партызанаў; Пятрусь пасадзіў з сабою Агату. Услед уцякаўшым партызанам несліся кулі, якія высока звінелі ўверсе.

— Прэч з дарогі, аб'язджай лагчынаю! Хутчэй.

Застракатаў ззаду кулямёт. З мястэчка выйшла калона жаўнераў. Трэснуў адзін-другі залп уздагонку ўцякаючым. Коні несліся, як шалёныя. Стрэлы аддаляліся. Партызаны паехалі па завароту лагчыны і схаваліся за гарою. Кулі фырчэлі і гулі высока. Уцекачы паехалі павальней, сталі падымацца ўгару.

— Гляньце! Гляньце! Ззаду коннікі!

З прыгорка, куды ўз'ехалі партызаны, зноў стала відаць мястэчка: па дарозе ўздагонку галапцавала кучка кавалерыстаў.

— Ну, трымайся!

Коням далі ходу што было сілы. Тупат ззаду ўсё набліжаўся.

— Хутчэй!

Перад вачыма мільгануў лес. Некалькі куль прапяяла над галовамі.

— Проста на лес, цераз поле!

Коннікі ззаду таксама кінуліся на поле, прагнучыся перагнаць партызанаў наперарэз. Вось яны злазяць з коней і прыцэльваюцца з калена. Трэснула, і некалькі коней у партызанаў стала прыпадаць на ногі.

— Злазь і ўбежкі да лесу!

Агата і Тодар ледзьве валаклі ногі. Як толькі партызаны адстрэльваліся, яны клалі іх дзе-небудзь за купіну, у канаўку, а потым, як адыходзілі далей, хто-небудзь вёў іх. Коннікі, абстраляўшы партызан, садзіліся зноў на коней і кідаліся ўздагонку. Яшчэ параненыя, апроч Тодара.

— Як мага, у лес!

Вось і яго прыветны зялёны дах. Партызаны прыпыніліся і перавялі дух. Коннікі стрымалі коней, хвілінку пастаялі на месцы, а потым кінуліся назад, за гару.

— Ага! Сюды не сунецеся.

Пятрусь павёў сваіх таварышаў у глыб так добра знаёмага яму лесу...

Але не даваў ужо лес таго спакою, як раней. Праз дзень было перададзена Петрусю, што месца яго прытулку добра вядома польскім вайскоўцам, якія былі надта абражаны нападам партызанаў на мястэчка і разгромам камендатуры.

* * *

Вузкімі прасялковымі дарожкамі, пералескамі прасоўваўся атрад Петруся на ўсход, да Бярэзіны. Ззаду за ім, ловячы сляды, несупынна гналіся польскія конныя жандары. Спачатку, як толькі Пятрусь пакінуў лес, працiскацца на ўсход было не надта трудна. Чым жа бліжэй да Бярэзіны, тым больш пападалася польскіх вайсковых часцей.

Здалёку пачуўся грукат гармат. Партызаны, стомленыя пераходамі, частымі бойкамі з польскімі вайскоўцамі, якія пападаліся на іх пуці, з палёгкаю ўздыхнулі. Яшчэ дзень-два — і яны будуць у чырвоных. Але прасоўваліся ўперад зусім марудна. Усюды трапляліся буйнейшыя часці ворага, якія належна вартаваліся, мелі разведку. Партызанам трэба было знаходзіцца ў напружанні, сачыць за ворагам.. Ад сну зусім адбіліся, змарыліся, носячы за сабою параненых.

Недалёка ад Бярэзіны, адкуль ужо чуўся не толькі грукат гармат, але і ляскат вінтовачных стрэлаў, Пятрусь папаў з атрадам у вялікі лес, па краі якога праходзіў шлях. Парамучаныя партызаны схаваліся ў гушчарніку і леглі аддыхнуць, каб уначы зрабіць пераход да Бярэзіны і перабрацца цераз яе. Пятрусь заснуў як забіты.

— Палякі бягуць!

Пятрусь ускочыў. Перад ім стаяла Агата. З шляху чуўся незвычайныляскат, крыкі, бразгат калёсаў.

— Яны, мусіць, уцякаюць.

Атрад партызанаў стаяў гатовы, з вінтоўкамі ў руках.

— Ну, хлопцы, к дарозе!

Гоман, які стаяў на шляху, прасяклі выбухі стрэлаў. Яны звонка аддаваліся далёкім рэхам у бяскрайнім лесе. Гвалт на шляху яшчэ ўзмацніўся. Адтуль пачулася моцная лаянка, крыкі параненых.

— Наперад!

Партызаны выйшлі з лесу. Усё поле было засеяна людзьмі, паломанымі фурманкамі, коньмі, якія біліся з пуду і калечылі жаўнераў. Пятрусь загадаў узмацніць страляніну... Але вось на дарозе паказалася новая калона, якая хутка перарабілася ў шнурок, залёгшы на зямлі. На партызанаў пасыпаліся кулі градам.

Петрусю раптам стала горача. Ён выпусціў вінтоўку, рука датыркнулася ліпкага на назе вышэй калена. Потым усё закруцілася. Ён адчуваў, як яго цягнулі кудысьці, як сціхла страляніна...

Пятрусь расплюшчыў вочы. Над ім на каленях стаяла Агата і прыколвала яму на грудзях чырвоную стужку. Па шляху галопам пранесліся на захад коннікі з чырвонымі зоркамі на шапках.

— Мы вольны, Агатка! — і Пятрусь пацалаваў нахіленую над ім голаў сястры.

*1927 г.*

# ДРАПЕЖНІКІ




РАМАН У ТРОХ ЧАСТКАХ

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### I

— Салавейчык, га Салавейчык! Вязіце мяне, калі ласка, не вуліцаю, а сценкаю паўз сяло. Ведаеце?

— Добра!

Балагола звярнуў убок і закульгаў па вузкай дарожцы, якая стужкаю працягнулася ўздоўж вёскі. Тодар Крэпчук вылез з буды і прымасціўся на салавейчыкавым мяшку. Вось гэтыя гумны, пастаўленыя ў рад, як салдаты на вучэнні, вось вузенькія палоскі гародаў, над якімі матляюцца для пужання вераб'ёў старыя кашулі і спадніцы, а вось з другога боку сценкі-загончыкі закаласіўшага жыта і яскрава зялёнае, нізкае яшчэ ярыны. Вось кабета адарвалася ад грады, прылажыла далонь да лба і ўглядаецца, хто едзе.

— Бэрка, каго ты вязеш? — голасна пытаецца яна.

— Вусы вырастуць, калі ўсё будзеш ведаць! — адказвае фурман і падсцёбвае запараную кабылку.

На Тодара зразу налятае вяласць. Калі ад самае чыгункі, усе дваццаць вёрст ён неадчэпна падганяў Салавейчыка, разпораз высоўваўся з буды, каб сачыць за верставымі слупамі,

прыкмячаў усе ўзгоркі, лясы, гаёчкі, рэчкі, то цяпер, калі ён быў блізка ад дому, цікавасць і нецярплівасць раптам прапалі. Можа, гэта залежыць ад таго, што калі едзеш куды, то думкі малююць перад табою нешта новае, незвычайнае, што чакае цябе ўперадзе; і вось як замест гэтага незвычайнага убачыш тое, да чаго даўно прывучана вока і пачуццё, то мусіць быць рэакцыя супраць прыпаднятасці настрою.

Тодар акінуў вокам роўны шэраг гумен, гароды з роўненькімі градамі, шэраг калодзежных жураўлёў і далей, у канцы вёскі, вежу царквы і аддаўся задуменнасці, якая не мела ніякага звязку з уражаннямі ад роднага сяла.

— Ну, вось і прыехалі!

Тодар уздрыгнуў ад гэтых слоў. Ён ускінуў свой бляды твар, рэзка павярнуўся ў бок школы, перад якою стаяў балагола. У яго стомленых вачах заблішчаў агеньчык радасці, на твары з'явіліся невялічкія ружовыя плямкі. Рука крыху дрыжала, калі ён абапёрся ёю на аглабіну, злазячы з воза.

Тодар жвава саскочыў з воза і ў момант быў на ганку. Крыху прыпыніўшыся, ён узяўся за клямку. Дзверы не адчыняліся. Ён мацней націснуў на клямку і грукнуў каленам у дзверы. Нічога не пасобіла. Што б гэта азначала?

— Выкіньце, Салавейчык, маю пляцёнку ды будзьце вольны,— звярнуўся апаўшым голасам Тодар да балаголы.

Расплаціўшыся, Тодар падняў сваю пляцёнку і пайшоў да брамкі, праз якую можна было папасці на двор, а адтуль «чорным ходам» — у кватэру. Але і брамка была замкнута. Нядоўга думаючы, Тодар перакінуў свае клункі цераз плот, а потым і сам пералез. Пакінуўшы ўсё сваё дабро ляжаць на зямлі, ён кінуўся да «чорных» дзвярэй і так быў упэўнены, што яны не замкнуты, што нават знячэўку трахнуўся аб іх ілбом.

«Што гэта здарылася?»

Школа стаяла ў адлегласці ад вёскі, а таксама і ўсіх тых будынкаў, што звычайна бываюць на «дзядзінцы». Такім чынам, у гэты час нават не было паблізу нікога, у каго б мож-

на было запытаць аб сваіх, дзе яны. Дай пытацца неяк нясхладна.

Пастаяўшы каля чорнага ганка, пакуль ад'едзе балагола, Тодар пайшоў аглядаць школьны пляц — так сабе, не ад цікавасці, а каб скаратаць час. Вось грады з малінамі, трускаўкамі, вось шпалеры кустоў агрэсту, далей сад з роўнымі вастраверхімі ялінамі вакол, паўз плот. Бацька Тодара свядомы не толькі настаўнік, але і садавод, і сад каля школы заўсёды трымаўся ў належным парадку. Толькі цяпер ён выглядаў не такім чыстым, якім ведаў яго Тодар раней. На дрэвах лушчылася пажоўклая вапна, дзе-нідзе ўбачыш чортапалох або лапух, дарожкі былі засыпаны пажоўклаю апаўшаю цвіценню. Мімаволі звязваліся ў думках замкнутыя дзверы і гэтая неахайнасць саду.

З панураю галавою перанёс Тодар свой багаж да чорнага ганка і зноў пайшоў сланяцца па садзе. Ён хадзіў узад і ўперад, як маятнік, падоўгу стаяў на месцы і з узгорка глядзеў на маёнтак, за ім на рэчку і лес, але ўсё гэта не магло прыцягнуць яго ўвагі і змяніць той нудны настрой, які апанаваў яго каля замкнутых дзвярэй.

Вылаяўшы злосна пчол і розную мошку, якая ў нерухомай цішы яснага сонечнага дня бясконца цягнула свой манатонны звон, Тодар раптам скінуў сваю студэнцкую жакетку, сцепануў яе ад пылу і, кінуўшы на траву, лёг пад дрэва. Ён дастаў нейкую невялікую кніжку з кішэні.

«Дзеля гэтага не варта было ехаць з Пецярбурга — можна было б і ў Лясным так час правесці»,— падумаў, пачынаючы чытаць, Тодар.

— Ха-ха-ха! — срэбраным званком будзіць Тодара чыйсьці голас.

Тодар адганяе муху ад свайго твару, якая непакоіла яго, адкрывае вочы. Маладая дзяўчына з травінкаю ў руцэ, якую яна раптам адхіліла ад твару Тодара, крыху адскочыла ўбок і з вясёлымі агеньчыкамі ў вачах глядзела на яго. Тодар сеў і недаўменна зірнуў на дзяўчыну.

— Ты ўжо ачнуўся ці не? Чаго ты так глядзіш? — І звон-

кі смех рассыпаўся па зелені саду, прасякнутага касымі праменнямі сонца.

— Пачакай!.. Да гэта ты, Зоська?

— Вось табе і на! Не пазнаў зразу?

Тодар ускочыў на ногі і кінуўся да сястры. Яна са смехам пусцілася па садзе, пераскокваючы праз кусты, грады, хаваючыся за тоўстыя дрэвы. Белы капялюшык яе зваліўся з галавы, каса расплялася, і лёгкая хваля залатых валасоў насілася з аднаго ў другі канец саду.

— Ну, здагані! — паддражнівала яна брата і з гэтымі словамі была ўжо ў густым маліннiку.

Так, мусіць, з паўгадзіны яны, як маленькія дзеці, гойсалі па ўсім садовым пляцы. Нават на блядым, стомленым твары Тодара з'явілася ружовая фарба.

— Ну, кінь ты! — напаследак сказаў ён.— Я даўно ўжо не лётаў так і не магу ўгнацца за табою. Ідзі да мяне!

Зося выскачыла з-за кустоў і павісла на шыі брата.

— Якая ты вялікая ўжо стала! Мне здавалася, што ты такая худзенькая, мізэрная дзяўчынка з чорным фартушком на сінім убранні. А ты вось якая.

Ён з замілаваннем гладзіў растрапаныя косы сястры, углядаўся ў яе вясёлы жвавы твар, шэрыя вочы, з якіх нібы скакалі іскры.

— Ты быў дома зімою два гады назад. Помніш, ты не хацеў узяць мяне ў лес, як ішоў туды са стрэльбаю.

— Тады ты была дзяўчынка, а цяпер... кабета.

— Я і цяпер такая! Мне так хочацца часам паскакаць, падурэць, як цяпер! Толькі сорамна чужых. А вось з табою мне не брыдка... Ды калі ты прыехаў?

Тодар паглядзеў на сонца, якое было на адвячорку, і сам падзівіўся, што так многа праспаў. Запытанне сястры вярнула яго да таго настрою, які адчуваў ён раніцою, калі прыехаў дадому.

— Што ты такі хмурны зрабіўся? — запытала Зося.

— Так... Скажы мне, дзе ты была цэлы дзень і чаму школа замкнута з усіх бакоў?

— Татку вызвалі па нейкіх справах у горад, а я цяпер на службе.

Брат здзіўлена паглядзеў на дзяўчыну. Яна на службе, такое яшчэ, можна лічыць, дзіцянё? Дый дзе ж тут можна служыць? Хіба настаўніцаю ў суседняй вёсцы, але ж у гэты час не можа быць заняткаў. Гэтыя думкі прамільгнулі ў галаве Тодара і не далі адказу на запытанні, якія ўзніклі пры паведамленні Зосі.

— Я служу на заводзе! — і Зося сур'ёзна паглядзела на брата.

— На якім заводзе? Што за плёткі?

— Ды ці ж ты нічога не ведаеш? Няўжо ж мы не пісалі табе? Ідзі, глянь!

З гэтымі словамі Зося схапіла брата за руку і пацягнула за сабою ў рог саду на ўзгорак, адкуль адкрываўся шырокі кругавід.

— Вось, глядзі туды!

За маёнткам Ляскаўцамі, які хаваўся ў купах ліп вялізарнага парку і знаходзіўся каля самага гасцінца, ніжэй да рэчкі, уздымаліся ў неба два вялізарныя коміны. Вакол іх раскіданы былі чырвоныя муры і белыя новенькія драўляныя будынкі. Дахі і новыя сцены блішчалі на сонцы і рэзка выдзяляліся на фоне светла-зялёных сенажацяў і больш цёмнае стужкі дальняга лесу. З таго боку рэчкі, якраз супраць новых будынкаў, па сенажаці разаслаўся роўны, як страла, шырачэзны роў, які ўпіраўся далёкім канцом у самы лес, хаваючыся там. Каля заводскіх будынкаў, як мурашкі, поўзалі людзі, відаць былі запрэжаныя хурманкі, якія паражняком выязджалі на вольнае месца. На рэчцы, супроць завода, віліся ўверх сінія палоскі дыму з прытарнаваных плытоў.

— Ну, бачыш! Шкляны завод ужо пабудаваны і скончаны. Цяпер канчаюць папяровую фабрыку. Вось я і служу ў канторы шклянога завода, ужо два тыдні.

Тодар не мог пазбавіцца ад здзіўлення. Яго не толькі дзівіла тое, што ў гэтым глухім месцы ўзніклі два заводы, а і

тое, што яго сястрычка, учора яшчэ дзіцё, ужо пайшла самастойнаю дарогаю.

— І табе не боязна там служыць?

— Не! Чаго ж мне баяцца?

— Маладзец ты ў мяне! Трэба згадзіцца, што ты дарослая.

— Кінь ты дзівіцца з мяне! Хадзем лепш у хату.

Тодар сабраў свае клункі і следам за сястрою увайшоў у школу. З дзяцінства знаёмыя малюнкі абступілі яго. Па сценах таксама былі развешаны дзве геаграфічныя парыжэлыя карты, карткі звяроў і раслін, карткі святых, абраз на куце, крывая шафа з «Родным словом», «Житиями святых», «Часословом», «Псалтирями» ды іншымі «назидательными и душеспасительными» кніжкамі ў замурзаных вокладках. На ўсіх рэчах ляжаў тлусты пыл і павуціна. Усё тое самае, ніводнае рыскі, ніводнае падрабязнасці, якая б сведчыла аб зменах у параўнанні з мінулым. Як было пятнаццаць год назад, так і засталося, колькі б разоў ні прыходзілася агледзець школу з новым прыездам. Можа, не пятнаццаць год не было змен, а і ўсе сорак, як існуе сама школа. Таксама і ў бацькавай кватэры ўсё на тым жа месцы, усё тыя ж старыя зэдлікі і крэслы, канапы з даўно страціўшаю фарбу абіўкаю, столікі, пакрытыя сцёртаю цыратаю. Вось і шафа з уласнымі бацькавымі кніжкамі: Ранке, Гельмгольц, Гааке, Карэеў, класікі расійскай літаратуры. Не відаць тут кніжак, якія былі тры-чатыры гады назад: у 1905 годзе ў гэтай самай шафе побач з Карамзіным стаяў Шышкоў, паміж бібліяй і гісторыяй царквы ўціскаўся Рубакін, а на ніжняй палічцы, каля «Губернских Ведомостей», ляжаў стажок «Нашай нівы». Засталіся толькі старыя пажоўклыя сшыткі ў цяжкіх вокладках, быццам яны, як струхлеўшыя дзяды, не маглі сысці з месца; моладзь жа кудысьці дзелася. Але яна, мусіць, не пайшла шукаць пристанішча па свеце, а марнее захаванаю ад сонца і чалавечых вачэй.

— Што ты разглядаеш у гэтай шафе? — высунуўшы го-

лаў з другога пакоя, запыталася Зося.— Яна ўсё такая самая, і ў ёй усё тое самае.

— Не зусім так! — з развагаю адказаў Тодар.

Запушчанасць у садзе, неахайнасць у школе, псалтыры і «Жития святых», як броснямі, абляплялі істоту Тодара. Увесь той жыццярады настрой, які адчуваў ён пры спатканні з сястрою, прапаў. Вялымі крокамі пайшоў ён у другую каморку, куды клікала яго Зося палуднаваць.

— А дзеля чаго паехаў татка ў горад? — запытаўся за сталом Тодар.

— Ён сказаў, што па школьных справах — дні на тры. А па якіх справах — я не ведаю: нічога не сказаў.

— І часта ён ездзіць до горада?

— Амаль штомесяц, каля гэтага тэрміну.

— Штомесяц? Па школьных справах?

— Чаму гэта цябе так дзівіць? Ён так кажа.

Гэтыя рэгулёвыя штомесячныя наведаванні бацькам павятовага горада занепакоілі Тодара. Няўжо ж яшчэ да гэтага часу?.. Два гады назад яго бацьку, Петрусю Крэпчуку, загадалі наведвацца ў павет па «школьных справах». Ці не такія самыя справы цяпер, як і тады? Тады, бадай, палову мужчын сяла Ляскаўцы цягалі ў павет. Даведваліся, хто падбіваў сялян на мяцеж 1905 года, хто падпальваў панскія адрыны, хто ўдзельнічаў у знішчэнні фальварка Закрошын. Шмат каго з сялян пасадзілі, і сядзелі яны гадамі, як гэта было ведама Тодару яшчэ ў Пецярбурзе.

Раз увосень з'явіўся ў школу ўраднік і загадаў бацьку ехаць да спраўніка ў павет. Тады яго пратрымалі з тыдзень ды пусцілі, але пачаліся наведванні па «школьных справах».

— А благачынны часта бывае ў нас у школе?

Зося не зразумела адразу, дзеля чаго гэтае запытанне.

— Благачынны?.. Часта, так... праз два тыдні зімою... Што табе ўзбрыў у голаў благачынны?

— Так сабе... Як трапіш дадому, дык усялякая драбяза ўспамінаецца і цікавіць.

Так, мусіць, да гэтага часу бацьку надта шмат непакояць «школьныя справы». Раздумляючыся над гэтым, Тодар забыўся есці і нерухомым поглядам уставіўся ў далячыню сенажацей, якія як на далоні відаць былі з акна...

— Дый што ж ты, Тодзенька, засмучаны такі? Вось я табе...

З гэтымі словамі Зося, як кошка, падскочыла, абхапіла брата за шыю:

— Эй, нясі мяне, як тады ўлетку пераносіў цераз рэчку! Помніш, калі мы хадзілі за грыбамі.

— Ах ты жанчына! Дарослая. Ну, трымайся!

Тодар пад рогат Зосі панёсся з пакоя ў пакой. Старыя дошкі падлогі затрэсліся, шкло ў вокнах зазвінела, нават пагрызены моллю Карамзін крануўся з свайго месца ў шафе і adштурхануў у бок Гельмгольца. Стол уздрыгнуў, стаў на адну нагу, пастаяў момант у разважанні і рушыўся на этажэрку, з якое загрукаталі адна за адною кніжкі.

— Ну, досыць! — і Зося кумяльганам пераляцела цераз плячо брата.

Тодар, адсопшыся, пачаў падбіраць раскіданыя кніжкі. Сярод іх траплялся невялікія сшыткі ў далікатных вокладках з залатымі надпісамі і вышытымі закладкамі. Такія прыбраныя, як лялькі, кніжкі ўжо гэтым прыцягвалі ўвагу. Мапасан, Метэрлінк, Купрын... Зося пасабляла падбіраць, але, як знарок, пакідала на падлозе гэтыя зухаватыя кніжкі.

— А ведаеш, я «Саніна» чытала! — выпаліла яна, як з ружжа, і пачырванела аж да вушэй.

Тодар разагнуўся, правёў рукою па валасах і ўважліва паглядзеў на сястру. Вось табе і дарослая!

— Чытала? Ну, што ж! Кепска толькі тое, што ты аб гэтым гаворыш з пахвальбою, усё роўна як зрабіла нейкі надзвычайна станоўчы ўчынак... Адкуль ты бярэш гэтыя вось кніжкі, ад якіх нясе парфумай? — трошкі пачакаўшы, запытаўся Тодар.

— Мне дае іх панна Ляскоўская.

— Ты бываеш у паноў?

У голасе Тодара адчуўся халадок і непрыязнь.

— Бываю у Ядзі Ляскоўскай — і даволі часта.

Зося была крыху збянтэжана тым павучальным тонам, які брат узяў, калі яна прызналася яму аб «Саніне», а таксама тою рыскаю непрыемнасці, якая паказалася на яго твары пры паведамленні аб адносінах яе з панамі Ляскоўскімі. Яна стаяла ціха, пазірала ўбок і перабірала пальцамі стужкі свайго фартушка.

— Табе не падабаецца, што я бываю ў маёнтку?

— Зусім не падабаецца!

— Я ж калісь з паннаю Ядзяю разам у гімназіі вучылася. Няўжо я не павінна і з ёю бачыцца?

— Павінна ты ці не — я нічога не кажу!

Тодар павярнуўся да акна і пачаў уважліва разглядаць вазон з фукцыяю. Відаць было па ім, што ім апанавала абурэнне, якое ён хацеў стрымаць.

— Ну, добра,— раптам павярнуўшыся, сказаў ён.— Яшчэ ў нас часу будзе шмат, каб пагаварыць аб усім. Прачытала Арцыбашава, ну і ліха з ім! Прачытаеш і што іншае: там у мяне цалюханька пляцёнка розных добрых кніжак... Салавейчык, калі ўпіхаў мяне на станцыі ў сваю балаголу, дык нават запытаўся, ці не золата ў мяне напакавана ў пляцёнцы — такая яна цяжкая.

— Давай я пасоблю табе распакоўвацца! — зноў ажывілася Зося.

Разбіраючы рэчы брата, якія былі без парадку складзены ў пляцёнцы, Зося некалькі разоў звярталася ў бок Тодара, быццам хацела яму нешта сказаць, але стрымлівалася.

— Дык ты не хочаш, каб я наведвалася да Ляскоўскіх?— напаследак запыталася яна.

Тодар не паспеў адказаць, як яна з жывасцю падхапіла сваю думку, якая, мусіць, надта займала яе, і зашчабятала, як птушка раніцою:

— А ведаеш, заўтра ці паслязаўтра ў маёнтку будзе зборышча гасцей. Шмат з'едзецца народу. Нават маршалак і, кажуць, губернатар будзе. Пан Ляскоўскі склікае не толькі паноў, але гатуе пачостку рабочым і некаторым сялянам. Будзе баль з музыкаю.

— І рабочых і сялян склікае?

— Так.

— Што ж гэта за фокус?

— А будуць гуту пушчаць. Я павінна буду пайсці як служачая,— гэта па-першае, а па-другое — нам прышлюць запросіны. Ты павінен будзеш пайсці, і татка пойдзе, калі прыедзе да таго часу.

— Навошта я там здаўся? Не, мне няма чаго хадзіць да пана.

— Ах, Тадорка! Там будзе столькі народу, будзе музыка з горада, будуць танцы — так вясёла. Няўжо ж ты ўседзіш дома? Мне дык цяпер ужо хочацца скакаць.

— Блазан ты!

— Не, не блазан, не блазан! Вось табе! — і Зося абедзвюма рукамі прайшлася па густой шавялюры брата, зрабіўшы голаў яго падобнай да капы сена.

Тодар вызваліўся ад праворных рук сястрычкі, пасадзіў яе, як малую, на канапу і пачаў хадзіць з вугла ў вугал праз увесь пакой. Стала ціха, нібы ні жывое душы не было тут, толькі падлога мерна рыпала пад нагамі Тодара. Зося, як мышка, прытулілася ў кутку канапы і вадзіла вачамі за братам, які, здаецца, не прыкмячаў яе прысутнасці. Глыбокая задуменнасць апанавала ім, губы зляжыліся шчыльна, і каля вуглоў іх з'явіліся рыскі горычы. Заходзячае сонца чырвоным праменем асвятляла яго бляды твар, як толькі ён паварочваўся ў бок акна, і рабіла яго жорсткім, чужым, далёкім.

— Тодар, не трэба больш хадзіць.

— Га!

— Непрыемны выгляд у цябе, злы такі. Ты раней такім ніколі не быў.

— Праўда? Ну давай разам сядзем, я табе скажу штокольвечы вясёлае аб тэатры, напрыклад, аб пецярбургскіх знаёмых...

Ад акна ліўся лёгкі ружова-зялёны свет чэрвеньскага вечара.

## II

Маёнтак Ляскаўцы быў у канцы сяла, у адлегласці ад яго з паўвярсты. Гасцінец, абсаджаны бярэзінамі, і рэчка абмяжоўвалі яго з двух бакоў. З гасцінца да самага панскага палаца вяла гладкая, як столь, дарога, густа закрытая высачэзнымі старымі ліпамі. З аднаго боку ад гэтае дарогі быў вялікі сад, з другога ж — замыславаты па распланоўцы парк, які цягнуўся далёка і па-за палацам. Каля самага гасцінца дворная дарога пачыналася высокімі жалезнымі варотамі з шыльдамі на кожнай браме і драконамі наверсе мураваных філяраў. Папасці ў маёнтак можна было толькі праз гэтыя вароты, бо вакол усяго забудаванага пляцу была зроблена высокая мураваная агароджа з завостранымі жалезнымі зубамі зверху. Агароджа з шэрага палявога камення, асабліва ў тых месцах, дзе яна не аздаблялася зеленню саду і парку, надавала маёнтку выгляд астрога. Гэтае ўражанне яшчэ больш ахапляла па-за сценамі маёнтка. Нізкія будынкі з тоўстымі мурамі і прыплюшчанымі маўрытанскімі вежамі, вузкія вокны з кратамі ва ўсіх будынках, апроч самога палаца, зусім адпавядалі высокай зубчатай агароджы.

Ляскаўцы былі старадаўнім фамільным маёнткам паноў Ляскоўскіх. На шыльдах, якія аздаблялі і будынкі і мэблю Ляскоўскіх, былі выразаны тоўсты сноп і піка. Піку паны Ляскоўскія бадай што і не трымалі ў руках; што ж належыць да снапа, дык ён зусім адпавядаў «стяжательным» імкненням усяго роду. З пакалення ў пакаленне Ляскаўцы цвёрда былі і засталіся фамільнай маёмасцю: права маярату праводзілася ва ўсіх часах поўнасцю і безадказна. Валадары Ляскаўцоў пад шыльдаю тоўстага снапа заставаліся вернымі рыцарамі нажывы і захопу багаццяў. Сам па сабе невялікі

маёнтак на працягу паўсотні гадоў зрабіўся тым месцам, адкуль вялося кіраванне шасцю буйнымі маёнткамі і, мусіць, тузінам больш дробных фальваркаў, раскіданых па розных паветах. Казалі, што пан Тадэуш Ляскоўскі, які быў на баку панска-польскага мяцяжу ў 1863 годзе, схітраваў не толькі сухім выйсці з вады, але нават набыў два-тры маёнткі, канфіскаваныя ўрадам у высланых паноў. Старэйшы сын Тадэуша, які быў валадаром Ляскаўцоў пасля смерці бацькі, саслаў у Сібір (вядома, праз суд) каля трыццаці сялян за «бунт», які адбыўся ў выніку самавольнага скасавання панам сервітуту і ўвядзення высокай арэнды за пашу ў лясах. Нажыўныя былі людзі ад роду ў род, моцна сядзелі ў старазаветным гняздзе. Усялякія там непрыемнасці, клопат, пакуты праносіліся дзесь далёка за лесам або па гасцінцы, і не заглядалі за муры панскага палаца.

Але гэты выгнаўшы сялян у Сібір Ляскоўскі не вытрымаў да канца лініі сваіх бацькоў і дзядоў. Раптам ён пачаў надоўга пакідаць Ляскаўцы — быў то ў Пецярбурзе, то ў Варшаве або Парыжы. Калі ж з'явіўся ў Ляскаўцы, то не мог уседзець на месцы. Кожныя два-тры дні ён браў са стайні жарабца і ехаў у горад. Звычайна позна ўночы конь прыходзіў адзін дадому. Тады чэлядзь наладжвала фурманку і з ліхтаром ехала шукаць пана па дарозе. Падабраўшы яго, п'янага, забруджанага, везлі дадому. Ужо было прададзена некалькі дробных фальваркаў. Многія родныя і сваякі Ляскоўскіх, раскіданыя па Беларусі і Польшчы, прысылалі лісты з пагрозамі, прыязджалі самі сварыцца, але нічога не пасабляла, пакуль не з'явіўся на сцэну адзіны сын гэтага пана — Стась. Ён прымусіў бацьку перадаць яму ўсё кіраванне гаспадаркаю і маёмасцю, а потым выселіў яго «адпачываць» у бліжэйшы фальварак.

Стась Ляскоўскі гадаваўся з дзяцінства бадай што ў адзіноце. Бацька яго быў заўсёды заняты купляю, банкамі, спрэчкамі з сялянамі, арандатарамі. Маці, не меўшая доўга дзяцей пасля яго, увесь свой час аддавала так званаму «светскому» жыццю, а потым у яе нарадзілася дачка, з якою яна цацка-

лася, як з забаўкаю. I ў гімназіі, і ў першы год ва універсітэце Стасю не было волі. Толькі пасля, калі бацька пачаў вандраваць па сталіцах, для Стася насталі залатыя дні. Грошай ён браў колькі хацеў. Вядомае багацце Ляскоўскіх прыцягвала да Стася ўсю так званую «залатую моладзь». Ён блізка сышоўся з маладым князьком Друцкім, а праз яго і з усёю сям'ёю Друцкіх. Улетку ён, як і бацька, валачыўся то па Карлсбаду, то па Ніццы або Остэндэ.

Першым яго горам была тэлеграма, якую ён атрымаў у Ніццы, седзячы ў кафе сярод аголеных жанчын. У тэлеграме было толькі напісана, што грошы не будуць высланы і што прадаецца адзін фальварак. Гэта, як бізуном, сцебанула Стася, у ім адразу прачнуліся радавыя традыцыі Ляскоўскіх. Ён кінуў Ніццу і паляцеў у далёкія хмурыя Ляскаўцы абараняць тое, што яшчэ можна было абараніць. Але там яшчэ нічога надта палохаючага не здарылася, хоць грошай ужо не было. Са злосцю на бацьку і лёгкаю кішэняю паехаў ён у гэтую восень ва універсітэт. «Залатая моладзь», знайшоўшы сабе новага ідала, паступова пакінула Стася, і яму толькі заставалася захаваць глыбока пагарду і абурэнне, якія былі выкліканы ў ім гэтымі новымі акалічнасцямі.

Скончыўшы універсітэт і паабіваўшыся каля года ў розных пецярбургскіх канцылярыях, Станіслаў Ляскоўскі прыехаў дамоў і, маючы дваццаць чатыры гады, узяўся папраўляць заблытаную і запушчаную гаспадарку, асадзіўшы бацьку на фальварак.

Другім здарэннем, аказаўшым уплыў на светапогляд пана Станіслава, быў сялянскі «мяцеж» у 1905 годзе, калі яшчэ з вясны пачалі загарацца то адзін, то другі яго фальваркі. Малады гаспадар з'ездзіў у Мінск да губернатара Курлова, і праз некалькі дзён у Ляскаўцы прыехала сотня казакаў. Пажары прыпыніліся, «злачынцы» былі злоўлены і аддадзены пад суд. Пасля гэтага пан Станіслаў стаў уважліва адносіцца да начальства, хоць ім валодалі раней ліберальна-апазіцыйныя думкі, а таксама з пашанаю прымаць праваслаўных паноў, хоць сам ён належаў да каталіцтва...

Пан Станіслаў у чорным сурдуце, гладка прычэсаны, са шкельцам над адным вокам стаяў ля расчыненых насцеж дзвярэй прыёмнай, адкуль праз некалькі крокаў пачынаўся спуск уніз да пад'езда. Усходы былі засланы мяккаю дарагою посцілкаю, на слупчыках балясаў па абодвух баках усходаў былі расстаўлены цяплічныя расліны і кветкі. Лёкаі ў расшытых, як у генералаў, сурдутах стаялі ўнізе каля ўваходных дзвярэй. На двары раз-поразу чуцён быў лёгкі бразгат колаў, і следам за ім у дзвярах паказваліся госці, якіх лёкай вёў па ўсходах. Пан Станіслаў з нязменнаю радасцю і гасціннасцю на твары сустракаў кожнага і праводзіў у пакоі, перадаючы далейшы клопат аб гасцях мацеры і сястры Ядзі.

— Ах, пан Юзаф! Вы ўсё такі ж здатны!

— Віншую пані Гелену, вы цвеціцё, як ружа!

— Цішэй, пан Станіслаў, а то мой пан Вінцусь страціць спакой з-за вас.

— Ну, як жыве рыцар чатырох краін?

— Кепска, кепска, пан Станіслаў! У чатырох краінах няма ніводнай «дамы сэрца».

З гадзіну такія прывітанні не сціхалі каля дзвярэй прыёмнай пана Станіслава. З гасцінай і іншых пакояў нёсся гоман, вясёлы рогат. Лёкаі ўжо нікога не сустракалі і не праводзілі ўверх, але пан Станіслаў стаяў і з застыўшаю мінаю гасціннасці чакаў. Ужо сястра Ядзя прыбягала і шапнула, каб ён ішоў да гасцей, ужо старэйшы лёкай падыходзіў і напамінаў, што больш, мусіць, сустракаць няма каго. Аднак пан Станіслаў чакаў... Вось нехта пад'ехаў... Вочы ў пана Станіслава заіскрыліся, ён сышоў уніз на некалькі ўсходаў... але... раптам павярнуў і пайшоў наверх да свайго ўласнага пакоя.

Праз хвіліну за ім туды ўвайшоў лёкай-пакаёўшчык і падаў запячатаны канверт з князеўскаю каронаю. Пан Станіслаў, пачакаўшы, пакуль лёкай выйдзе, з нецярплівасцю разадраў канверт і пачаў чытаць. Рука яго ўздрыгнула, халодны твар пачырванеў. Але праз момант ён быў зноў спакой-

ны, халодны, важны, нягледзячы на сваю маладосць. Прачытаўшы яшчэ раз ліст, аздоблены каронаю, ён моцна зарагатаў.

— Будзем бачыць, князь Друцкі! — прамовіў ён і зноў весела засмяяўся.— Гэй, Францішак!

Увайшоў лёкай.

— Скажы князеўскаму пасланцу, што яго не затрымліваюць!

— Пане, маршалак прыехаў! — паспешна паведаміў другі лёкай.

Пан Станіслаў падняўся і павольным крокам пайшоў насустрач прадстаўніку шляхты.

— Віншую вас, пане Ляскоўскі, як здатнага гаспадара, маладога гаспадара. Быў бы я надта рады, каб паболей шляхты пайшло па вашым шляху,— гаварыў тоўсты, брыты пад ангельца маршалак, уваходзячы пад руку з Ляскоўскім у залу.

— Я, шаноўны пане маршалак, пазбавіўся аднаго з недахопаў, які надта шкодзіць шляхецтву — гэта гонар без эканамічнага грунту,— адказаў яму Стась.— Панове, вось наш правадыр, пан маршалак.

Госці паўставалі і з паклонамі абкружылі маршалка, які на льсцівыя словы, ухмылкі адказваў прыкра-ветлівымі фразамі. Праз хвіліну і кабеты і мужчыны вянком стаялі вакол свайго «бацькі». Ляскоўскі застаўся па-за гэтым вянком і адышоў убок.

— Вось, глядзі, як яны каля яго ўвіхаюцца: вось тоўстая пані, а той слязлівы стары!.. Ха-ха-ха! — Званочкам пасыпаўся з-за калоны стрыманы смех.

Ляскоўскі падышоў да калоны. За ёю стаялі Ядзя з Зосяю, а крыху далей нейкі студэнт разглядаў разьбу старых дзвярэй.

— Добры дзень, Ляскаўская Афэлія! — з нейкім прысмакам весела звярнуўся да Зосі Ляскоўскі.— Гэта вы кпіце з нашых гасцей?

— Даруйце, пане Ляскоўскі; па-першае, на Афэлію я зу-

сім не здатна, а па-другое — я кпінамі не займаюся. Мне проста падабаецца каларытнасць усяе гэтае групы,— адказала Зося.

Ядзя цягнула яе ўжо ў другі бок. Ляскоўскі доўга глядзеў за імі, пакуль яны не схаваліся ў мільгаценні натоўпу. Павярнуўшыся потым у бок калоны, ён зноў прыкмеціў студэнта, галава якога яшчэ ніжэй схілілася над штучнаю ручкаю старых дзвярэй...

Праз кароткі час уся грамада кранулася з палаца ў бок рэчкі, дзе ўздымаліся коміны абодвух заводаў. Больш паважным гасцям былі пададзены коні з ляскаўскай стайні. Астатнія невялічкімі гурткамі пайшлі ўніз па чыстых прыбраных дарожках парку.

Над комінам гуты віўся лёгкі дымок, які, як кавалачкі бавоўны, разыходзіўся па блакіту неба. Двор гуты быў завалены дрывамі, чыстым белым пяском, дзежкамі. Сям-там яшчэ валяліся тачкі, запэцканыя цагельным пылам, па розных кутках ляжалі стагі стружак, рознага смецця. Відаць было, што будоўля толькі-толькі скончылася. Вакол нізкага і шырачэзнага будынка самое гуты былі раскіданы невялічкія дамы, ад якіх пахла смалою і фарбаю.

— Вось тут я працую! — паказала Зося Тодару на адзін з новых драўляных дамкоў, над ганкам якога на маляванай блясе было напісана «кантора».

Страшэнная духата дыхнула гасцям, як толькі яны пераступілі цераз парог гуты. Зразу, што кідалася ў вочы, дык гэта тры гліняныя стагі, якія стаялі пасярэдзіне памяшкання. На локця паўтара ад нізу ў гэтых стагах былі невялічкія аконцы, з якіх вырываўся і біў па вачах нясцерпна бліскучы свет. Вакол стагоў-пячэй, супраць кожнага акенца, стаяла па аднаму чалавеку з доўгімі круглымі палкамі. Людзі, што абкружалі печы, былі страшэнна блядымі, іх сарочкі былі нашчэнт мокрыя, быццам толькі выцягнутыя з вады.

Паны, і асабліва пані, падаставалі хустачкі, абмахваліся імі, але гэта не пасабляла: ад пячэй ішла такая духата, што многім здавалася, быццам яны пачынаюць таяць, знішчацца.

— Дайце вы спакой! Як гэта можна стаяць у такім пекле? Броніська, вядзі мяне адгэтуль!

— Ціха, Магда! Ты абразіш пана Ляскоўскага,— схіліўшыся да чырвонае як рак пані, гаварыў круглы, як галандэрскі сыр, пан Броніська.

— Ой, ратуйце! — не сваім голасам закрычала пані Магда.

Ляскоўскі падскочыў да млеўшай пані і паспешна вывеў яе на паветра.

— Ну, пачынайце! — скамандваў ён, выканаўшы свае гаспадарска-доктарскія абавязкі.

Рабочыя, стаяўшыя напагатове каля пячэй, сунулі свае палкі ў бліщчастыя акенцы, і праз момант у паветры закружыліся яркія зоркі, якія з кожным кругам рабіліся ўсё больш цьмянымі і выцягваліся ў круглыя пухіры.

— Бах! — стрэліла як з ружжа, і дробныя малюпасенькія шклінкі зазвінелі ў паветры і пасыпаліся ўніз.

Увесь будынак гуты агаласіўся піскам і войканнем. Кабеты, а за імі і мужчыны спуджаным натоўпам кінуліся на двор.

— Што здарылася? — пыталіся адзін у аднаго, як апынуліся на свежым паветры.

— Гэта к дабру, к дабру, пане Ляскоўскі,— супакойна разважаў маршалак-ангелец, выходзячы апошнім разам з ім з гуты.

— Што здарылася? — напалі на іх з усіх бакоў.

— Ды нічога. Я прашу прабачэння, калі ясныя паны напалохаліся. Крыху нязграбны рабочы, і ў яго шкло трэснула. Гэта часта бывае,— гаварыў Ляскоўскі.

Зося стаяла непадалёк ад сярэдняй печы і з цікавасцю сачыла за тым, як рабочы праз сваю трубку выдзімаў шкляную кулю. І раптам гэты выбух! Яна крыкнула ад раптоўнага сполаху і замёрла на месцы. Калі яна апомнілася, дык першае, што ёй кінулася ў вочы,— гэта той самы рабочы, на якога яна раней глядзела. Ён закрываў абедзвюма далонямі

вочы, каля ног яго валялася жалезная трубка, ад чырвонага канца якой курэў дым. Зося кінулася да яго.

— Што з вашымі вачамі?

— Не ведаю... ой як баліць.

Зося падхапіла яго пад руку і, падначальваючыся настрою натоўпу, пацягнула рабочага следам за вохкаючымі панямі.

— Вы куды, панна Зося?

Перад ёю стаяў Ляскоўскі з маршалкам.

— Я... трэба яму дапамагчы!

— Кіньце, нічога з ім дрэннага не здарылася. Ты заўтра зайдзі ў кантору да пана Стрэльчыка,— жорстка сказаў рабочаму Ляскоўскі і павольна выйшаў з маршалкам на двор да сваіх гасцей.

Зося пастаяла з хвіліну, потым павяла рабочага к другім дзвярам, якія выходзілі на задні двор.

— Не турбуйцеся, калі ласка! Дайце я павяду яго.

Каля самых дзвярэй падышоў да іх высокі мужчына ў замасленай жакетцы і з акулярамі на носе. Ён спагадліва аглядзеў таварыша, які ўсё яшчэ не аднімаў рук ад вачэй, узяў яго пад руку і з шчырасцю ў голасе прамовіў:

— Дзякуй вам... за спачуванне! — і вольнаю рукою ён моцна сціснуў маленькую Зосіну ручку.

Незнаёмы чалавек у акулярах з параненым рабочым ужо ішлі па двары, выбіраючы найменей заваленыя розным хламам месцы. Зося пастаяла ў дзвярах, з нейкім нутраным страхам паглядаючы на бліштастыя акенцы ў цяжкіх агромістых печах. Адтуль цягнула духатою і густым чалавечым потам. Са змешаным пачуццём страху і нейкай пагарды пакінула Зося душную гуту.

Калі яна выйшла на дарогу, то рознакаляровыя плямы часцей ужо мільгацелі па крайніх дарожках парку. Зося ўспомніла, які піск і перапуд падняўся там у гуце, калі здарылася гэта, і як усе рынуліся скопам на двор. Чаму ж рабочыя засталіся на месцы, не кінулі свае працы? Няўжо гэтыя людзі, заўсёды мокрыя ад поту, такія смелыя ды ха-

робрыя? Што будзе з вачамі гэтага небаракі? І хто гэты чалавек у замасленай жакетцы і акулярах?

— Панна Зося!

Зося ўздрыгнула, адарваўшыся ад сваіх думак і запытанняў, адказу на якія яна шукала ў сваёй маленькай галоўцы. Пад прысадаю стаяў пан Ляскоўскі.

— Я чакаю вас, а то вы засталіся адна. Дазвольце быць вашым кавалерам,— надта мяккім і нават нейкім салодкім голасам гаварыў Ляскоўскі, рашуча беручы Зосю пад руку.

Зося засаромелася, пачырванела, стала вельмі пільна разглядаць дарожку ў сябе пад нагамі. Яшчэ ніколі не было такога выпадку, каб пан Ляскоўскі выказваў ёй такую ўвагу. Калі ёй даводзілася быць у Ядзі і сустракацца з самім Ляскоўскім, то ён звяртаўся да яе ці ў ігрыста-ласкавым тоне, як да недаростка, ці зусім безуважліва, як да нейкай пабочнай рэчы. Як ні крыўдны былі падчас такія адносіны, асабліва калі Зося здагадвалася палічыць сябе дарослаю, але яны былі ўжо звычайнымі і не маглі выбіць яе з каляіны. Цяпер жа такі як быццам праўдзівы тон, увага, і нават пад руку ўзяў. Мімаволі яна турзанулася, прагнучыся адхіліць ад сябе яго руку.

Але Ляскоўскі быццам і не прыкмеціў гэтага.

— Як спадабаўся вам завод?

— Я... я ж бачыла яго раней,— не паднімаючы ад зямлі вачэй, адказала Зося.

— Ах, так, так! Вы ж працуеце ў канторы, я і забыўся, выбачайце. Дый што я пытаюся ў вас аб заводзе? Лепш запытацца, які танец вы хацелі б першым танцаваць. Я загадзя прашу вас пакінуць ваш вальс за мною. Добра?

Зося яшчэ больш пачырванела і павярнула ў другі бок галаў. Маўчала.

— З гэтым рабочым нічога не здарылася, праўда? — адразу перамяніў гутарку Ляскоўскі.

— Як нічога? — на запытанне адказала запытаннем Зося, рашуча паднімаючы вочы на свайго кавалера.

— Так, нічога! Толькі крыху зацерушыў пылам, які падняўся ад выбуху.

— Што вы кажаце? Яму ж так баліць, дый нават на двары яго павялі пад руку.

— Глупства! Вы не павінны былі бачыць нічога іншага, апрача таго, што я вам скажу,— халодным, строгім голасам прамовіў пан Ляскоўскі.— Зразумелі?

Зося спалохана-недаўменна зірнула на твар Ляскоўскага, які нібы адзервянеў. Але раптам гэтая адзервянеласць змянілася ігрыста-вясёлаю ўсмешкаю, і ён, быццам нічога не здарылася, гаварыў:

— Дык згода! мы танцуем з вамі вальс?

Яны былі ўжо каля палаца. Пан Ляскоўскі аддаў ёй прыветны ўклон.

— Выбачайце, я павінен выконваць цяпер свае гаспадарскія абавязкі. Вось госці. Панна Скальская, што вы засмучаны і ў адзіноце? Вось вам мая маленькая прыяцелька! — і з гэтымі словамі пан Ляскоўскі крануўся ў палац, прыпыняючыся то каля аднаго, то каля другога гуртка шпацыруючых гасцей.

— Вы чулі, ён ужо прасіў яе на вальс? Хто яна такая?

— Апранута яна не comme il faut [1].

— Мусіць, нейкая бедная з яго далёкіх сваякоў. Гэтых сваякоў у Ляскоўскіх так многа.

— Кажуць, гэта яго канторшчыца.

— Ну што вы, канторшчыца? Стаў бы ён канторшчыцу на вачах ва ўсіх прасіць на танец. З канторшчыцамі, ведаеце, скачуць мо...— Голас стаў цішэй.

Гэткія фразы спаткалі Зосю. Куды б яна ні павярнулася, усюды натыкалася на вочы, якія з цікавасцю разглядалі яе з галавы да ног, перашэптваліся, не саромеючыся, што іх пачуе той, да каго гэтыя шэпты мелі адносіны. Нават рабая, з блёклымі вачамі, панна Скальская, якой Ляскоўскі даручыў Зосю, непрыязна разглядала яе.

[1] Як трэба *(франц.)*.

— Вы, мілачка, абулі б бальныя туфлі, а то вам прыйдзецца скакаць, ды яшчэ з панам Ляскоўскім,— параіла Скальская Зосі.

— Не ваша гэта справа! — успалыхнуўшы, як пажар, адрэзала Зося і адышла ад яе.

— За што вы раззлаваліся? Мо ў вас няма туфель? — агідна пыталася ўслед ёй панна Скальская.

Зося, то чырванеўшая, то бялеўшая ад крыўды, пайшла ў бок ад людзей. Па выкрутасах замыславатых дарожак яна ўсё аддалялася ад палаца. Людскі гоман сціхаў. Хутка яна апынулася ў дальняй, запушчанай частцы парку. Дрэвы стаялі тут густа, і скрозь іх галлё і лісце ледзьве праходзілі промні заходзячага сонца. За адзежу чапляліся кусты сухадрэўкі, колкае шыпшыны. Тут была поўная цішыня і спакой, якія не парушаліся нават бульбатаннем крыніцы, якая пераліваласа па зялёных каменнях неглыбокага раўчука. Зося прабралася праз навіслае галлё і астудзіла свой палыхаўшы твар. Сэрца крыху супакоілася і не так моцна цюкала. Яна села пад густою клянінаю і, прыслухоўваючыся да мернай гутаркі крыніцы, панеслася сваімі летуценнямі немаведама куды...

Раптам пачуўся трэск сучча пад чымісь нагамі.

— Зося! Ты тут?

Гэта Ядзя. Толькі яна магла здагадацца, што Зося не іначай як тут.

— Зося! Пачынаюцца танцы, цябе пан Стась чакае.

Не, яна цяпер туды не пойдзе! Каб пані Скальская ржала, як кабыла, над яе простымі гамашамі? Ніколі! — Зося прытаілася, нават дыхаць баялася. Ціха.

— Дзе ж бы яна была? Што гэта за прыхамаць! — прагаварыла сама сабе Ядзя і павольным крокам пайшла назад да палаца.

Зося, як толькі заціхлі крокі Ядзі, ускочыла на ногі і бокам пайшла, каб абмінуць палац і выйсці з маёнтка. Ужо пачынала цямнець, і яна лічыла, што ніхто не ўгледзіць яе па дарозе. Мінаючы палац, яна ўжо не прыкмеціла гасцей,

якія, мусіць, сабраліся ўжо балюваць. На газоне перад палацам былі расстаўлены даўгія сталы, каля якіх стаялі бочкі, а на іх вялізарныя бутэлькі: па дрэвах вакол газона развешвалі папяровыя ліхтары. Гэта зацікавіла Зосю, і, прыпыніўшыся, яна сачыла, як загараліся адзін за другім рознакаляровыя агеньчыкі.

Але раптам ціш вечара разарвалася гукамі магутнага аркестра, якія віхрам панесліся з расчыненых акон палаца.

Зосю як разанула што. Яна ўбежкі памчалася па дарожцы ў бок заводаў і хутка апынулася па-за паркам. Па дарозе ў маёнтак ішлі людзі і моцна гаварылі паміж сабою. Зося збавіла крок і павярнулася ў напрамак на гасцінец.

— Мусіць, аслепне, брат! — чуўся разважны зычны голас з заводскай дарогі.

— Хто гэты рабочы? — захапіла Зосю новая думка.— Няўжо ж гэта можа быць?

Яна задумліва ішла па сенажаці, падышла да парку і выйшла на гасцінец каля самых варотаў маёнтка. Паўз алеі, агорнутай ужо змрокам, несліся далёкія пяшчотныя гукі вальса, ліўся мяккі свет ружовых зялёных ліхтароў. Зося адвярнулася і нерашуча пайшла дамоў.

## III

Сонца ўжо высока ў небе. Прамень ледзь пранікае ў пакой, і толькі невялікі кавалачак падлогі бліскучай плямай адасабляецца на шэра-зялёным фоне дарагое посцілкі. Вокны расчынены і застаўлены драцянымі сеткамі, якія павінны затрымліваць і не прапускаць у пакой мух, камароў ды іншае машкары. За вокнамі ластаўкі без перапынку лётаюць узад і ўперад і, падлятаючы да сцяны дома, нешта жвава шчабечуць, нібы вітаючыся адна з адною. Знадворку яшчэ цягне ранішнім паветрам, пахам розных кветак, асабліва язміну, які расце тут, пад самымі вокнамі.

Пан Стась Ляскоўскі ў халаце, пантоплях шпацыруе па сваім кабінеце. Без усялякае мэты ён прыпыняецца каля

стала з наваленымі кніжкамі, потым адыходзіць і гладзіць тонкімі пальцамі ласіныя рогі, якія развешаны па сценах; то разглядае пільна мастацкі малюнак Саламеі, як быццам бачыць яго ўпершыню, то перасоўвае на мармуровым каміне старыя падсвечнікі з мастацка зробленымі міфалагічнымі фігурамі. Відаць, што пану нешта не па сабе.

— Ці ясны пане хоча снедаць уперад ці будзе прыбірацца? — з нізкім паклонам запытаўся нячутна ўвайшоўшы лёкай-пакаёўшчык.

— Ну, а што б ты думаў я мушу рабіць?

— Выбачайце, паночку, вы...

— Што яшчэ хочаш казаць? Ты павінен ведаць сам, што мне трэба! Прэч, ідзі сабе.

Пакаёўшчык, збялеўшы ад страху і сораму, нязграбна пасунуўся задам у дзверы; ён паводзіў вачамі следам за панам, які нервова хадзіў з кутка ў кут.

— Пачакай, пачакай, куды ты хочаш мяне выкаціць?

Пан Ляскоўскі адразу спыніўся сярод пакоя. Пакаёўшчык адскочыў у бок ад дзвярэй, пачуўшы, што хтосьці напірае на яго ззаду.

— Ах, пан Ліўшыц!

— Дзень добры пану Ляскоўскаму.

— Уваходзьце, Масей Рыгоравіч.

Пакаёўшчык ужо хацеў праслізнуць у дзверы, але пан затрымаў яго і загадаў падаць рэчы для галення.

Масей Рыгоравіч зняў саламяны капялюш з цвёрдым простым брылём і выцер буйны пот, які пакрываў увесь яго круглы чырвоны твар. Яго шпідкія вочы мятнуліся ў момант у адзін бок, у другі і на нейкую хвілінку спыніліся на гаспадару. Можа, яго позірк нават і не спыніўся, так гэта было коратка, але як быццам пачуццём Масей Рыгоравіч ацаніў становішча.

— Выбачайце, пане! Я, здаецца, не ў час патрапіў.

Па яго ярка-чырвоных губах прамільгнула іранічная ўхмылка, якая, мусіць, не прайшла непрыкметнаю для пана Ляскоўскага.

— Вы заўсёды будзеце ў час. Праўда, я яшчэ ў лодырскім адзенні, але, думаю, вы мне даруеце,— адказаў пан Ляскоўскі, у якога пакрысе сыходзіла з твару сярдзітасць.

— Вось яшчэ! Будзьце ласкавы.

Масей Рыгоравіч палажыў капялюш на падваконніку і сеў у крэсла каля стала з кніжкамі. Пан Ляскоўскі, яшчэ раз папрасіўшы прабачэння, пачаў рыхтавацца да галення, як толькі пакаёўшчык падаў яму патрэбныя рэчы. Масей Рыгоравіч дастаў з кішэні часучовага пінжака акуляры, асядлаў імі свой ястрабіны нос і пачаў перабіраць на стале кніжкі, з якіх мала якая нават была разрэзана.

— Вы, я бачу, па вушы залазіце ў гаспадарку. Вось колькі тут разумных дарад і па сельскай гаспадарцы, і па прамысловасці, і нават па хіміі. Калі столькі навукі ўлажыць у гаспадарку, дык гэта, мусіць, будзе чыстае золата.

— Вядома, сучасны гаспадар павінен быць знаёмы з усімі навуковымі дасягненнямі,— адказаў пан Ляскоўскі, папраўляючы брытву.— Цяпер ужо не той час, калі людзі скалачвалі багацце прымітыўнымі спосабамі.

— Так, гэта зразумела. Але мне здаецца, што вы занадта прыдаеце каштоўнасць вось гэтай пісанай навуцы. Па-мойму, дык трэба вывучыць і добра ведаць што-небудзь адно, ну, скажам...

— Гандаль лесам,— падхапіў пан Ляскоўскі і закаціўся доўгім вясёлым смехам.

— А хоць бы і гандаль лесам! Гэта не малая справа,— сур'ёзна і нават з лёгкаю пагардаю ў голасе прамовіў Масей Рыгоравіч.

— Вось што я вам скажу,— супакоіўшыся ад смеху, пачаў Ляскоўскі.— Вы ўжо не раз падбівалі мяне на гэты гандаль; у вас, мусіць, жылы трасуцца, як вы глядзіце на мой сасоннік, што роўнаю сцяною стаіць аж да Крушавіц. Добры лес! Але вы ім гандляваць не будзеце, бо ён патрэбен мне самому для завода.

— Навошта вам цацкацца з гэтымі заводамі?

Пан Ляскоўскі прыпыніўся намыльваць твар і, трымаю-

чы ў паднятай руцэ пэндзлік, як трымалі жэзл магнаты XVIII стагоддзя, важна прагаварыў:

— Скажу вам, наценькі Масей Рыгоравіч: вам не зразумець гістарычнае ролі шляхецтва і яго сучасных задач. Вы — чалавек выпадковае ўдачы, народжаны біржаю, за вамі няма ні мінулага, ні будучыні. Шляхецтва ж сконт веку трымала зямлю і праз гэта трымала ўладу, але каб улада не хісталася, як у 1905 годзе, трэба шляхецтву мець і магутны грашовы капітал. Я гэта разумею, гэтага дамагаюся. На жаль, рэдка хто з шляхты ідзе ў гэтым напрамку. А ваш гандаль — гандлюйце, калі ласка!

Прагаварыўшы гэта, пан Ляскоўскі павярнуўся да люстэрка і заняўся аздабленнем свайго твару, ані не непакоячыся прысутнасцю свайго госця. Масей Рыгоравіч зляжыў у агідную ўхмылку свае чырвоныя губы, у вачах скакалі калючыя іскаркі. Ён перакладаў кніжкі, разглядаў на сцяне пачарнелы партрэт нейкага пана ў малінавым каптане.

— Так, вы крыху, аднак, спазніліся з прыняццем веры ў капіталізм: ён якраз перасунуўся да «выпадковых людзей», якія будуць якраз наперад складаць гісторыю,— адказаў Масей Рыгоравіч, спыніўшыся каля пана Ляскоўскага, які ўжо націраў свае кіпці ружовым каменьчыкам.

— Давайце кінем гэту філасофію. Можна пачакаць з вырашэннем пытання, за кім гісторыя — за пурышкевічамі, бобрынскімі ці шынгаровымі. Лепш скажыце мне, што чуваць з грашыма? — запытаўся Ляскоўскі.

— Я з гэтым і прыехаў, каб пагаварыць.

— Кажыце, калі ласка! — і пан пасунуў Масею Рыгоравічу крэсла, а сам сеў супраць яго з такім ветлівым тварам, быццам перад ім быў маршалак.

— Грошай дастаць цяжка, надта цяжка,— і Масей Рыгоравіч напусціў на твар смутак.

— Што вы кажаце? А як жа мы скончым паперню?

— Вось гэтага не ведаю, далібог, не ведаю.— Хітрыя зайчыкі заскакалі на губах і ў вачах цёртага на ўсе бакі пана Ліўшыца.

— Прыйдзецца мне самому ўзяцца за справу,— з недавер'ем разглядаючы свайго наперсніка, прагаварыў пан Ляскоўскі.

— Ну, навошта вам турбавацца! Я ж не сказаў, што нельга, я толькі кажу аб труднасці,— крыху спалохаўшыся, схапянуўся Масей Рыгоравіч.

Далей ён пачаў выкладаць, што ў дзяржаўных банках амаль што нельга атрымаць грошы. У прыватных банках дастаць можна, але патрабуюцца некаторыя ўмовы, на якія ён не ведаў, як паглядзіць пан Ляскоўскі.

То схіліўшыся адзін да аднаго і гаворачы шэптам, як змоўцы, то разыходзячыся па розных кутках пакоя і крычучы, з чырвонымі тварамі, гаспадар і госць абмяркоўвалі здзелку. Ляскоўскі, хаваючы думку, што ўсё яго дабро, уся маёмасць, у чым бы яна ні была, з'яўляецца нечым такім, да чаго не павінна дакранацца рука гандляра або вока ацэншчыка, і слухаць не хацеў аб тым, каб атрымаць грошы пад заклад будынкаў, прадпрыемстваў або зямлі. На іншых жа ўмовах Масей Рыгоравіч адмаўляўся дастаць грошы, хоць пану Ляскоўскаму і верылі, як зусім надзейнаму гаспадару і ўласніку. У іх спрэчках дайшло нават да таго, што пан Ляскоўскі папікнуў Масея Рыгоравіча ў імкненні самому нажыцца на ім, што Масей Рыгоравіч мае свае грошы і мог бы дапамагчы адбудаваць паперню.

— Мае грошы ў гандлі, у звароце, даюць мне высокі барыш! Так і даў я іх у такое няпэўнае прадпрыемства.

— Ах, маё прадпрыемства няпэўнае! Дык вам няма чаго наведвацца ў Ляскаўцы. За ваш пай у гуце я вам буду плаціць па вашых гандлярскіх працэнтах, але не са здабытку. Добра?

Зноў успацеўшы, Масей Рыгоравіч вылупіў яшчэ шырэй свае і без таго вялізныя вочы. Ён быў усхваляваны, раптоўна збіўся з панталыку. Але гэта цягнулася не больш як хвіліну. Саўладаўшы з сабою, ён зноў пусціўся ў выкладанне выкрунтасаў аб закладзе і перазакладзе, з якіх хацеў вывесці, што і грошы будуць, і нічога ўсамдзеле не будзе зало-

жана. Але Стась Ляскоўскі ўжо не слухаў яго і не адказваў ніводным словам. Ён хадзіў па пакоі, на твары яго не было ніякае зацікаўленасці, ні жаднае думкі. Каля акна ён прыпыняўся і сачыў за лёгкім лётам ластавак, якія высока кружыліся ў блакіце неба.

— Ведаеце, пан Ліўшыц, добра цяпер бы быць дзе-небудзь каля мора! Сонца, шырыня мора, кабеты прыгожыя ды вясёлыя.

Масей Рыгоравіч, без перапынку трашчаўшы аб Расійска-Азіяцкім, аб канторы Дворжэца, аб Дваранскім банку, аб іпотэках і закладных, раптам спыніўся, як спыняецца малатарня, калі парвецца пас. Ён глядзеў на пана Ляскоўскага, як глядзяць на звар'яцеўшых або раптам ахопленых падучкаю людзей.

— Чаго вы пазіраеце, як вас хто аглушыў? Можна спадзявацца, што вам зразумела тая моташнасць, якая часамі ахапляе сэрца ад гэтае вясковае цішыні ды манатоннасці. Усё апрыкрае вам: і гэты палац, і сад, і — праца, і нават «жертвы вечерние», якія прыводзіць Пранусь і ад якіх застаецца пах кажуха і кіслае капусты.

— І ад гэтага «надаеднага» кажуха трэба ўцякаць пад ласкавыя праменні паўдзённага сонца! Гістарычная роля шляхецтва, новыя задачы — там! — са злоснаю ўсмешкаю прагаварыў прыйшоўшы ў сябе Масей Рыгоравіч.— Вы, можа, думаеце, што грошы да вас самі ў кішэні палезуць, самі будуць уздымацца заводы? Калі так, дык дарэмна вы засадзілі свайго бацьку ў Асаўцы.

Як муха цяла Ляскоўскага.

— Хто вам даў права гаварыць аб маіх хатніх справах? Вы надта ўжо захаўрусаваліся са мною: не шкодзіла б крыху прытрымліваць язык.

— Выбачайце, пане Ляскоўскі. Мне незразумела ваша... блазенства. Я мусіў гаварыць з вамі па справе, якая перш за ўсё датычыць вас. На жаль, страціў толькі дарэмна час. Дазвольце пажадаць вам усяго лепшага.

Масей Рыгоравіч хутка падняўся з крэсла, нават жывоцік не перашкодзіў выявіць яму жвавасць. Круглы, абечкам, капялюшык быў ужо ў руцэ. Але праз хвіліну гэты капялюш зноў апынуўся на падваконніцы, абодва ж прыяцелі сядзелі адзін супраць аднаго ў крэслах і паціху вялі самую задушэўную гутарку. Доўга яны бубнілі, шапталіся, успаміналі Друцкіх, баланс, лог за рэчкаю, нейкага Гайсінскага. Чым далей цягнулася гутарка, тым больш заціхаў Ліўшыц і больш напорыста ўтлумачваў Стась. Масей Рыгоравіч усё больш уніклівa ўслухоўваўся ў планы, якія выкладаў яму пан Ляскоўскі, усё часцей здзіўлена і з захапленнем пазіраў на яго, і калі той скончыў, то аж падскочыў у крэсле:

— Я згодзен, згодзен. Вы каб хацелі, то маглі б нават добра гандляваць!

— Што ж, гэта ваша вышэйшая атэстацыя?

— Так, пане Ляскоўскі, так! Нельга не хваліць вас. Толькі калі чалавек не саромеецца забрудзіць рукі, а можа, і што іншае, тады ён нешта зробіць. З чыстымі рукамі, ведаеце, грошы не знойдзеш. Ах, пане Ляскоўскі, вы разумны, цвярозы чалавек.

— Дык вы згодны? Ну, маўчыце цяпер. Вы, думаю, не адцураецеся паснедаць са мною, цяпер якраз пара, ды крыху замочым нашу ўмову.

Пан Стась стукнуў два разы дубовым малаточкам па срэбраным званку на стале. Праз некалькі хвілін два лёкаі прынеслі ў кабінет круглы стол, застаўлены рознымі закускамі, свежаю гароднінаю з парнікоў, некалькімі бутэлькамі він. Прыладзіўшы ўсё, яны нячутна прапалі за цяжкімі дубовымі дзвярыма.

Масей Рыгоравіч накінуўся на яду, як быццам ён тыдзень хлеба не бачыў у вочы.

Гаспадар і госць перапрабавалі ўжо ўсе закускі, прылажыліся па парадку да ўсіх бутэлечак, вялікіх і малых, тонкіх і пузатых. Масей Рыгоравіч раз-пораз выціраў свой чырвоны мокры твар. Яго вылупленыя вочы завалакліся мутным бляскам, ён падмігваў пану Ляскоўскаму, які спакойна, па-

важна глынаў чарку за чаркаю, нібы гэта былі не моцныя лікёры, а простая вада.

За дзвярыма пачуўся спачатку прыдушаны шэпт, шарканне нязграбнымі, мусіць, босымі нагамі, уперамешку з перату птваннем лёгкімі абцасамі. Але вось раптам дзверы расчыніліся і бразнулі з разлёту ў сцяну: аж чарачкі, шклянкі і бутэлькі падскочылі на стале. Пан Ляскоўскі ўскочыў з крэсла, твар яго звяло сударгаю ад гневу. Перад ім, прыпыніўшыся каля расчыненых дзвярэй, стаяла Зося з нейкаю простаю кабетаю. Ляскоўскі з хвіліну пераводзіў з адной на другую свой гнеўны здзіўлены погляд.

— Як вы прайшлі сюды? — ледзь валодаючы сабою, напаследак запытаўся ён.

— Гэта я прывяла яе,— ціхім дрыжачым голасам адказала Зося, і твар яе зрабіўся пунцовым, як першая ружа.

— Вы... Што табе трэба? — Жорсткі погляд пана ўставіўся на кабету.

Кабета дзіка ўскрыкнула, падняла свае пачарнелыя рукі, злажыўшы іх, як для пацер, і кінулася на калені перад панам. Яна голасна плакала, усё яе худое цела ўздрыгвала, яна не магла прамовіць ані слова. Толькі плач ды дзікія ўскрыкі перамяжоўваліся нейкі час.

— Што гэта за шалёная і чаго ёй трэба? — звярнуўся пан да Зосі, нервова прыстукваючы пантопляю, якая быццам лепятала пад яго нагамі.

— Парасачка, даражэнькая! Сцішцеся! Пан добры, прасіце яго! Няма чаго плакаць, ну, пакіньце! — Зося гладзіла па плячы кабету, брала яе пад руку, прагнучыся падняць яе на ногі.

— Доўга яшчэ будзе цягнуцца гэтая камедыя?

— Паночак, яснае сонейка! Пашкадуйце, не губіце! — загаласіла Параска, хапаючы пана за крысу халата і цалуючы яго.

— Дык чаго ж ты хочаш? У чым справа?

— Не праганяйце яго! Не пакідайце без хлеба малых дзяцей! Змілуйцеся! — Параска поўзала на каленях па пад-

лозе, валочачы за сабою саматканую спадніцу, якая нейкім ворахам вісела на яе крывым стане.

Пан Ляскоўскі з агідаю адступаў, вывіхаўся ад чорных рук, якія лавілі яго ногі, чапляліся за яго шаўковы халат.

— Аб чым гэта ты равеш? Скажы ты па-людску пану,— умяшаўся Масей Рыгоравіч, з вясёлым выглядам назіраючы ўсё гэта здарэнне.

— Ды майго ж мужа выганяюць з завода! Ці ж ён вінаваты, што з ім здарылася няшчасце? Зжальцеся, паночку! Загадайце ў канторы, каб яго зноў прынялі.

— Ах, дык гэта твой муж такі здатны рабочы! Мне такія непатрэбны.

Пан Ляскоўскі адхіліў нагою рукі кабеты, якія сціскалі халат, адышоў да самага акна, перад якім стаяла крэсла. Зрабіўшы сябе недасяжным для рук і губ кабеты, якія сваёю непрыгажосцю выклікалі ў ім нутраную агіднасць, пан Ляскоўскі спакойна закурыў і пачаў разглядаць Зосю, якая так і стаяла нерухома каля ўкленчанае Парасkі. Масей Рыгоравіч наліў сабе паўшклянкі віна і, нягледзячы на прысутнасць чужых, засаб высмактаў да дна і задаволена прычмокнуў.

— Я на вас злосны, панна Зося,— мякка прагаварыў Ляскоўскі.

Зося моўчкі кінула кароткі погляд у яго бок, а потым крыху нахіліла галаву. Ёй стала ніякава, не па сабе. Адзін вось сядзіць і цягне сабе віно, другі на слёзы чалавека нічога не адказвае і пускаецца ў блазноцтва. Як яны могуць вытрымаць гэта і чаму яны не супакояць бедную жанчыну? Нешта трэба рабіць, нешта трэба сказаць, але думкі скачуць віхурай і не звязваюцца з словамі.

— Вы ўчора вельмі абразілі мяне: я прасіў вас на танец, а вы недзе зніклі.

— Вось дзіва,— уставіў Масей Рыгоравіч,— у паненкі, можа, амуры ёсць, бадай, ёй і не ў галаве іншыя.

— Пане Ляскоўскі, што ж вы нічога не скажаце гэтай кабеце? — ледзь выгаварыла Зося.

Параска ўсё стаяла на каленях пасярод пакоя, нясцішныя слёзы цяклі па яе не старым яшчэ, але змучаным і зашкарупелым твары.

— Пашкадуйце! Злітуйцеся! — ціха маліла яна.

Пан Ляскоўскі падышоў да стала і стукнуў малатком па званку. Калі з'явіліся лёкаі, вельмі абражаныя тым, што ім адразу кінулася ў вочы, пан Ляскоўскі паабяцаў ім, што выгане іх, як сабак, калі яны не будуць пільнаваць дому і будуць прапушчаць усякую... Лёкаі былі збянтэжаны і не ведалі, што рабіць.

— Выкіньце яе! — паказаў на Параску пан.

Кабета зноў загаласіла, апынуўшыся паміж двума лёкаямі. Яна, мусіць, не трымалася на нагах, бо відаць было, як лёкаі напружваліся, валакучы яе пад пахі. Дзверы лёгка ляпнулі, у сумежным пакоі раздалося дзікае завыванне, якое крыху сцішылася, калі тупат перайшоў далей. Крык і стогн разносіліся па ўсяму дому, аж пакуль не грукнулі надворныя дзверы.

Словы пана Ляскоўскага як бы аглушылі Зосю. Яна мімавольна пераступіла некалькі крокаў да дзвярэй кабінета, калі лёкаі пацягнулі Параску, але раптам спынілася. Кроў адхлынула ў яе ад твару, і, як выбеленая вапнаю, нерухома глядзела яна проста на пана. Той таксама пільна ўглядаўся ў яе, і салодкі смяшок скакаў у кутках яго губ.

— Дык вы не адказалі мне нічога наконт учарашняга. Можа, пан Ліўшыц праўду кажа?

Да Зосі вярнулася разуменне. Яна ўсхвалявалася тым, што толькі адбылося ў гэтым пакоі. Язык атрымаў магчымасць гаварыць.

— Я не разумею вас, пане Ляскоўскі: як вы можаце займацца такімі кпінкамі ў той час, калі паглумілі, выгналі чалавека, які прыходзіў да вас шукаць праўды, жаласці.

— Помніце, яшчэ Пілат не ведаў, што такое праўда. І я не ведаю. Дрэнных рабочых я трымаць не хачу — няма карысці. Вось і праўда.

— Пане, пане Ляскоўскі! У іх жа сям'я вялікая, якая

жыве на заработкі толькі гэтага гутніка. Як можна так лёгка ахвяраваць чалавека на голад? Пашкадуйце іх!

— Перш за ўсё, якая вам цікавасць да гэтага?

— Шкода ж людзей... Ці вы не адчуваеце гэтага?

— Дык вось: я пакінуць яго на заводзе не хачу. Няхай шукае сабе другой работы.

Зося адчувала, што справа можа дрэнна скончыцца, што прасіць за параненага больш няма каму. Наадварот, гэты Мяцельскі, бухгалтар, а таксама старшы майстар паспяшаліся адразу, на другі дзень, выкінуць напаўсляпога рабочага.

— Я думала, што яго сам Мяцельскі прагнаў. Цяпер жа відаць, што вы таксама супраць рабочага. Я... я не думала, што вы такі. Мне здавалася, што пан павінен быць справядлівым, жаласлівым, добрым. Вы павінны быць такім і не дазволіце, каб гэтая бедная Параска бадзялася з дзецьмі па свеце. Праўда, пан Ляскоўскі?

Ясныя, як веснавая раніца, вочы Зосі з надзеяй і трывогай глядзелі на Ляскоўскага. У іх чыталася мальба, чаканне. Ляскоўскі не мог вытрымаць гэтага простага, чыстага дзявочага позірку і толькі кідаў на Зосю быстрыя, як маланка, позіркі. Яе беспасрэднасць, расквітаючае хараство, прастата і нават гэтая чыстата погляду прыцягвалі яго да сябе. Яму захацелася зрабіць па яе, даўшы гэтым ёй радасць. Але прысутнасць Масея Рыгоравіча не дазваляла дапусціць слабасць, ухіл ад папярэдняга напрамку дзеяння.

— Я б вельмі хацеў задаволіць вас і дапамагчы вашым пратэжэ, але, на жаль, не магу гэтага зрабіць. Бываюць здарэнні, калі патрэбна цвёрдасць і, можа, нават бязлітаснасць, як вы назавеце.

Зося апусціла вочы, бляск якіх разам згас. Яна, нават не развітаўшыся, пакінула кабінет.

— А здатная дзяўчынка! — цягнучы праз саломінку каньяк з ліманадам, няцвёрда прагаварыў Масей Рыгоравіч.— Вам пакуль што няма патрэбы ўздыхаць аб моры і кабетах.

Крокі Зосі заціхлі ў сумежным пакоі. Ляскоўскі кінуў востры погляд на Масея Рыгоравіча, пераступіў разы два на месцы і скокнуў да дзвярэй.

— Панна Зося, панна Зося! Пачакайце!.. Калі вы хочаце, то я загадаю не выключаць яго,— ціхай прагаварыў Ляскоўскі, высунуўшы голаў праз дзверы.

— Дарэмна вы гэта зрабілі,— сказаў Масей Рыгоравіч, калі ён вярнуўся да стала.— Вочкі — вочкамі, а справа — справаю. Блытаць тое і другое не варта.

## IV

Па пустцы, якая раскінулася па беразе рэчкі ніжэй маёнтка, сям-там длубаліся людзі, віўся раніцаю дымок. Даўней гэтае месца, высока паднятае над узроўнем рэчкі, было пакрыта хваёвым лесам. У гэтыя ж часы то быў проста лысы ўзгорак, які здалёку быў відаць, выкрэсліваючыся ад шэрані і зелені жоўта-белым бляскам пяску. Толькі чорныя кропкі не згніўшых яшчэ пнёў сведчылі аб тым, што некалі тут паднімалі ў неба свае парасончыкі высокія хвоі. У адным месцы гэтае пясчанае пусткі капалі зямлю, адсявалі яе і везлі на гуту. Другое, больш значнае месца, засялялася людзьмі.

Рабочыя, якія працавалі на гуце і якіх збіралі для будучае паперні, траха не ўсе былі прыезджыя, з іншых фабрык і заводаў. Для пасялення іх і была адведзена частка пусткі. Надзвычайна разнастайны выгляд быў тых будынкаў, якія прымалі ў сябе ўсё большы лік рабочых. Тут быў і доўгі барак з акенцамі, як у стайні, былі збітыя з аполак хаткі, нават сустракаліся проста шалашы з саломы, такія, што робяць для сябе плытнікі. Толькі з краю пусткі, бліжэй да маёнтка, было два-тры домікі, якія весела блішчалі на сонцы сваімі свежымі белымі сценамі ды чыстымі вокнамі з кветкамі і фіранкамі. У адным з іх жыўураднік, а ў астатніх — тэхнікі і майстры.

Зося не раз збіралася пасля работы схадзіць наведаць Параску і яе мужа. З таго дня, калі яна дамаглася — так ёй здавалася — застаўлення на гуце мужа Парасні, амаль не кожны дзень гэтая кабета наведвалася ў кантору, чакала Зосю каля дзвярэй знадворку і пачынала дзякаваць кожны раз на адзін манер. Усё гэта канчалася слязьмі. Зосі было і прыемна, што яе дзякуюць, і неяк брыдка і перад сабою, і перад Параскаю. Яна хацела пайсці пабачыць мужа Параскі. Але кожны раз, як яна падыходзіла да пусткі і перад ёю ўставалі мізэрныя хаткі ды шалашыкі, адкуль чулася сварка, плач дзяцей, піск гармоніка, з барака — крыклівыя спевы, рашучасць яе прападала. Яна прыпынялася, называла сябе палахлівым зайцам, далікатнаю паненкаю, сароміла сябе за нерашучасць. Але гэта не пасабляла: прастаяўшы на месцы, яна варочалася назад.

У адзін вечар, калі днём на рабоце Зося дачулася аб тым, што быў у хворага доктар, які не выказаў асаблівае надзеі на палепшанне, яна пастанавіла пайсці ў пасёлак абавязкова. Ужо дайшла яна да месца, дзе капалі пясок для гуты і далей якога яна ні разу не заходзіла. Але ж як ні настройвала яна сябе на адважнасць, усё ж прыпынілася: непрыстойная песня рэзала ёй вушы і пазбаўляла ўсякай рашучасці. Ледзь не плакала яна ад злосці на сябе.

— Добры вечар!

Зося ўздрыгнула. Збоку прыпыніўся абганяўшы яе чалавек. Зося пазнала яго. Гэта была тая самая засаленая жакетка і акуляры, якія былі ў чалавека, што пераняў тады на гуце ў яе параненага рабочага. Зося павіталася з ім.

— Выбачайце за цікавасць, але, можа, скажаце мне, што вы тут робіце?

Зосі стала непрыемна. Што яму да таго, што яна робіць, куды намецілася ісці? Яна чакала з адказам, падбіраючы належныя словы.

— Вы так хутка ішлі і раптам прыпыніліся ў гэтым цікавым месцы...

Зося зірнула на яго. Ёй яшчэ больш стала не па сабе ад напамінку аб яе нерашучасці. Аднак твар стрэчнага быў такі просты, без жаднае хітрасці або насмешкі, што Зосі не прыходзілі ў голаў словы няпраўды або жосткага адказу гэтаму амаль зусім незнаёмаму чалавеку.

— Я... я хацела пайсці да Параскі.

— А, гэта да Рыгорчыка. Дык мы з вамі спадарожнікі! Давайце пойдзем разам.

Справа склалася так, што Зося, ці была ў яе рашучасць, ці не, мусіла ўвайсці ў непарадку раскіданы пасёлак побач са сваім выпадковым спадарожнікам. Праз некалькі хвілін яны апынуліся перад хаткаю-куфэркам Рыгорчыкаў. Двое замурзаных дзяцей, якія длубаліся ў пяску, ускочылі і прытуліліся за вуглом, то высоўваючы, то хаваючы там свае калматыя галоўкі. Калі Зося запыталася ў іх, ці дома маці, галоўкі зусім схаваліся і больш не паказваліся.

Госці крануліся ў хату. Дзверы зарыпелі і заверашчалі, як галодная каза, на сваіх драўляных завесах. Усярэдзіне было цёмна, і не адразу можна было разабрацца ў размяшчэнні хатніх манатак. Зосін спадарожнік хутка прымасціўся,— сама ж Зося так і стаяла каля дзвярэй, баючыся зачапіцца за наваленыя без парадку рэчы.

— Паненачка, даражэнькая! Дык гэта вы! Калі ласка, сюды.

Параска схапіла анучу, змахнула пясок з крываногага ўслончыка і, схапіўшы Зосю за руку, падвяла яе да стала і пасадзіла. Праз невялічкі выраз у сцяне, у які была ўстаўлена адзіная шыбка, праходзіў пук промняў і скупа асвятляў збіты з дошак стол і пярэдні кут з нейкім невялічкім абразком.

— Як у вас цёмна,— крыху справіўшыся з сабою, сказала Зося.

— Свету ў нас хапае. Бачыце, як блішчыць праз шчыліны па ўсіх кутках. Толькі бяда, калі паднімецца вецер: тады ў пагоду надзімае пяску, а ў дождж — вада ліецца з усіх бакоў.

— Адным словам — палац! — з вясёлым смехам падтрымаў Параску Зосін спадарожнік.— Ну, як ты адчуваеш сябе, Пілiп?

— Дзякуй табе, таварыш Зыкаў, за ўсе турботы і... і за доктара. Мне, здаецца, лепей.

Зося азірнулася. На палку, засланым нейкаю шэраю тоўстаю дзяругаю, сядзеў, спусціўшы ногі, мусіць, Пілiп Рыгорчык. Вочы яго былі завязаны ручніком.

— Ой, няшчасце маё! Лепей! — плаксіва загаварыла Параска.— Калі і гэтага доктара не было, дык неяк лягчэй верылася, што ўсё скончыцца добра. А цяпер?..— Яна не дакончыла і, закрыўшы твар рукамі, адвярнулася ў куток ад гасцей.

— Не трэба плакаць. Слязьмі нічога не зробіш. Якраз кепска, што пры гуце няма доктара, а трэба ездзіць за ім у мястэчка. Вось трэба падумаць, як зрабіць, каб доктар часцей наведваўся ды лячыў,— сказаў Зыкаў.

— Дайце вы савет, людзі добранькія! Дзе ж гэта мы набяромся на доктара,— захныкала Параска.— Вось дзякуй паненцы, што не выкінулі нас з гэтае халупы.

— Я кажу, што трэба падумаць аб гэтым. А пакуль што вось табе, Параска, два рублі... на доктара,— і Зыкаў працягнуў дзве скамечаныя паперкі.

— І калі ты пакінеш ныць? — сярдзітым голасам прыкрыкнуў на жонку Пілiп.— Сорамна браць грошы ад таварыша Зыкава.

— Нічога саромнага ў гэтым няма. Вам больш патрэбны грошы, як мне.

Усім стала неяк не па сабе. Прыстыжаная Параска кінулася на двор, нібы шукаць дзяцей. Зыкаў маўчаў. Зося думала, як лепш сказаць Рыгорчыку аб тым, за чым яна прыйшла.

— Ведаеце, дзядзька Пілiп,— няпэўна пачала яна,— вы не думайце, што я... што я так дапамагла вам. Гэта, мусіць, майстар прасіў пана за вас. Пан больш слухае майстра, як усіх. Дык вось, калі ласка, скажыце вашай жонцы, каб яна...

не прыходзіла так дзякаваць мяне. Я не заслужыла такое падзякі.

— Выбачайце маю жонку, яна вельмі слязлівая. Што ж ты з ёю зробіш. А наконт таго, што гэта майстар прасіў... Гм... Я вас шчыра дзякую, а мая жонка не будзе больш надакучаць вам.

Піліп працягнуў сваю руку і моцна сціснуў пададзеную яму Зосіну руку, а потым развітаўся і з таварышам Зыкавым.

Зыкаў і Зося выйшлі на паветра. Светла-ружовая зара, заняўшая месца толькі-толькі зайшоўшага сонца, ярка асвятляла кругавід, фарбуючы яго ледзь прыкметнымі чырвонымі водценямі. Рэчка блішчала і дрыжала, як золата, ахопленая мошастам цёмна-зялёных палёў і лясоў. На ўсходзе нясмела заблішчала ігрыстая зорка. Зося прыпынілася, любуючыся новым выглядам кругавіду, які мяняўся ад новых падрабязнасцей, што відаць былі з гэтага ўзгорка, а таксама і ад змены колераў вышынь і долаў, па-рознаму асветленых зарою. Але дзесь блізка зацілікаў гармонік і пачулася песня. Зося рванулася ўперад і пайшла хуткімі крокамі, траха не пабегла.

— Вы спалохаліся? Можна вас давесці дадому? — паспяваючы за ёю, пытаўся Зыкаў.

— Не, дзякуй... Але, як сабе хочаце.

Яны пайшлі побач.

Зыкаў... Нешта прыходзіла на памяць Зосі, але яна не магла злавіць канцоў сваіх успамінаў. Недзе гэтае прозвішча яна чула ці мо пісала — і нават тут, у звязку з гэтымі заводамі. Не іначай.

— Вы даўно ўжо ў нашых краях? — запыталася яна.

— Не, толькі з месяц,— неяк насцярожана адказаў Зыкаў.

— А дзе вы працавалі раней?

— На папяровай фабрыцы... у Пецярбурзе,— з кароткім перапынкам між словамі і як бы нехаця адказаў ён.

Тон, якім адказваў Зыкаў, не спадабаўся Зосі, і яна змоўкла. Так, Пецярбург, папяровая фабрыка, Зыкаў. Ну, вось Пецяпер яна і ўспомніла. Яна сама перапісвала паперу ў Пецярбург, на папяровую фабрыку, а другую... ну, як яна там? Нешта як паліцыя.

— Скажыце, вы ведаеце, што гэта за водзыў бывае? — зноў запыталася яна з яўнаю зацікаўленасцю.

— Чаму не ведаць! «Водзыў» — гэта тое, што аб вас думае гаспадар, у якога вы працавалі, або паліцыя, ці іншае там начальства.

— Так яно і ёсць! — задуменна сказала дзяўчына.

Яны праходзілі недалёка ад урадніцкага дома, у вокнах якога блішчаў ужо агонь. Не надаючы таму ніякага значэння, Зося сказала:

— Я перапісвала якраз такую паперку, у якой пан прасіў «водзыву» аб Зыкаве ад гаспадара пецярбургскае папяровае фабрыкі і, здаецца, ад нейкае там паліцыі.

— Цішэй...— Зыкаў падхапіў Зосю пад руку.

— Свайго доктара або фельчара гута яшчэ дагэтуль не мае, а ўраднік ужо даўно сядзіць, і дом адбудавалі яму,— не зусім выразна прамармытаў ён.

— Да чаго вы гэта сказалі?

— Так сабе... Вы больш нікому не кажыце аб усялякіх там водзывах. Які ж адказ быў адтуль? — крыху пачакаўшы, запытаўся ён, не выпускаючы рукі Зосі.

— Я не ведаю.

Яна адхіліла руку Зыкава і пайшла моўчкі. Мусіць, надта кепска яна робіць, што дазволіла яму праводзіць, потым зацікавілася яго асобаю і нават ішла з ім пад руку. Што ён за чалавек — невядома. Зося добра ўлавіла, які жорсткі, злы голас быў у яго, калі ён успамянуў пра ўрадніка. Можа, ён не так сабе, нездарма такі варожы да ўрадніка. Ураднік Яхімаў досыць далікатны чалавек, разумны, яна добра яго ведае, бо ён бывае ў іх, заходзіць запроста.

Можа, гэты Зыкаў, з якім яна ідзе побач, які-небудзь злачынец, можа, ён нават у астрозе сядзеў? Зося спалохала-

ся сваіх думак і з падазронасцю і боязню зірнула ў бок на Зыкава. Той быў спакойны. Не, гэтага не можа быць. Чалавек, які дапамагае таварышу ў бядзе, у якога такі просты твар, не можа быць злачынцам. Гэта дарэмна яна хацела ўбіць сабе ў галаву. Але ўсё ж цікавы ён можа быць чалавек.

— Вы доўга жылі ў Пецярбурзе? Мне так жадалася б пабачыць яго. Я колькі разоў прасіла Тодара ўзяць мяне, але да гэтага часу не выходзіла. Там такія, мусіць, вялізарныя дамы, прыгожыя вуліцы, людзі ўсе такія далікатныя, шляхетныя.

— Усялякія там людзі ёсць, нават такія, што на гармоніку граюць, а вы ж яго палохаецеся,— з лёгкаю насмешкаю адказаў Зыкаў.— А хто гэта Тодар?

— Мой брат,— нехаця прамовіла яна.

Зося вельмі чуткая была на розныя інтанацыі людзей, з якімі ёй выпадала гаварыць. Усялякую, нават зусім лёгкую насмешку альбо напамінак аб яе слабасці, недахопе яна сустракала наравіста, як гарачы конь вандзіла. Так і цяпер, як толькі Зыкаў напомніў ёй аб гармоніку, Зося змоўкла і траха не ўвесь кавалак дарогі вакол маёнтка яны прайшлі, як быццам да гэтага часу нідзе не бачыліся і ніколі не гаварылі.

Лісце дрэў ужо пачарнела, на небе запаліліся зоркі, калі Зыкаў і Зося падышлі да школы. Дзяўчына ўпарта маўчала, і гэта рабіла прыгнятаючы ўплыў на Зыкава. Ён не ведаў, як выклікаць яе на гутарку, як змяніць тую варожасць, якая выяўлялася з паводзін Зосі. Яму было брыдка перад сабою, што ён занадта сур'ёзна гаварыў з дзяўчынаю, яшчэ такою маладзенькаю, ледзь выйшаўшаю з блазенскага ўзросту. Трэ было сказаць што-кольвечы вясёлае, цікавае, замест жа гэтага ў яго выходзіла або сур'ёзна, або нават са шпількаю. Што ж рабіць? Ён, мусіць, належыць да тых людзей, якія, будучы добрымі, мяккімі па натуры, любячымі вясёласць у другіх, самі не могуць быць вясёлымі і здаюцца іншым занадта жорсткімі. Чым больш думаў аб гэтым Зыкаў, тым болей злаваўся на сябе і таксама, як Зося, маўчаў.

Вось і брамка. Зося працягнула руку і без усякае выразнасці, холадна сказала:

— Дзякуй, што праводзілі.

— Выбачайце мяне, калі я зрабіў вам непрыемнасць!

— З кім гэта ты гаворыш? — З брамкі на вуліцу выходзіў Тодар.

Зося разгубілася і не знаходзіла слоў для адказу на запытанне брату. Яна перабірала пальцамі рог хустачкі, накінутай на плечы.

— Я майстар будучае папяровае фабрыкі пана Ляскоўскага — Зыкаў.

— Добры вечар. Рад пазнаёміцца,— ветліва адказаў яму Тодар.— Заходзьце, калі ласка, пагаворым, а то мне ўжо надакучыла гэта хараство вясковае вясны.

Зося, як звярок, скокнула ў брамку і пабегла дамоў. Бацька ў акулярах з сівымі доўгімі валасамі схіліўся над нейкаю тоўстаю кніжкаю. Ён толькі на хвіліну адарваўся ад яе, калі міма яго прабегла Зося.

Дзяўчына шмыганула ў сваю баковачку, акно якой выходзіла ў сад. Яна бачыла, як Тодар з Зыкавым, рыпнуўшы варотцамі, увайшлі ў сад і прымасціліся на лаўцы пад яблыняю. Гутарка між імі некаторы час не клеілася. Але дальшбольш, мусіць, пачалі яны знаходзіць цікавасць адзін у адным. Спачатку яны дзяліліся агульнымі ўспамінамі аб пецярбургскіх тэатрах, пагаварылі аб Думе, а потым пачалася такая размова, якую Зося не магла разумець. Часта яна чула словы «Капітал», «Маркс», «Нячаеў», «Пляханаў», але больш не магла ні зразумець, ні запомніць. Яе толькі дзівіла тое, што гэты просты чалавек, ад жакеткі якога ідзе пах алею і тухлага сала, так вольна і складна гаворыць. Яна заўважыла нават, што калі-нікалі Тодар неяк заблытваўся, адказваючы на рэпліку Зыкава. Дзіўна было таксама, што голас Зыкава быццам змяніўся: ён быў чысты, выразны, у ім чулася нешта моцнае і жыццярадае. «Не, ён не можа быць злачынцам»,— думала Зося, успамінаючы сваю думку, што ўзнікла па дарозе міма дома ўрадніка. Ёй ужо стала злосна

самой на сябе за тое, што яна так недалікатна, як малое дзіцянё, пабегла з вуліцы і схавалася тут за фіранкай. Ды яшчэ падслухоўвае чужую гутарку! Зусім брыдка!

— Татка, у нас там госць у садзе,— сказала яна, уваходзячы да бацькі.

Настаўнік зняў акуляры, закрыў кніжку.

— Чаму ж ён там?

— Ён з Тодарам. Гэта рабочы, майстар з фабрыкі.

Рыска нездаволенасці зляжылася на стомленым твары настаўніка, але праз хвіліну яна разышлася. Ён прыветна ўсміхнуўся дачцэ і быццам з дакорам пакруціў сваёю калматаю галавою.

— Але ж і гаспадыня ты ў мяне! Прывяла госця, пасадзіла яго пад дубам Мамурыйскім, а сама вось так сабе ходзіць. Дапамагчы табе ўжо, ці што?

Стары падняўся, пагладзіў па валасах рукою і пайшоў на кухню следам за Зосяю, жартаўліва папікаючы яе за нерастаропнасць.

Доўга сядзелі за гарбатаю. Стары Пятрусь Мікалаевіч трымаў гутарку вакол нязначных пытанняў, знаёміў госця з мясцовымі звычаямі, з сялянскім жыццём. Зыкаў умеў сур'ёзна слухаць, устаўляючы рэдкія, але вартыя заўвагі.

— Разумны чалавек,— пахваліў Тодар, як Зыкаў пакінуў сваіх новых знаёмых.— Добра ведае палітычную літаратуру і разбіраецца тонка ў партыйных пытаннях.

— Трэба быць [illegible] ім надта асцярожным,— параіў Пятрусь Мікалаевіч.— Ты ведаеш пра нагляд, а што ў гэтага Зыкава на душы? Доўга жывеш з людзьмі ды памыляешся, а ён зусім свежы чалавек.

Зося схапіла толькі водцень падазронасці бацькі да Зыкава. Значыць, і яму так здаецца, што Зыкаву нельга ва ўсім верыць, што ён, можа, які дрэнны чалавек. Са змаганнем думак «за» і «супраць» Зыкава яна пакінула бацьку і брата і не магла развязацца з гэтымі думкамі і ў бліжэйшыя дні.

Тым часам Зыкаў пачаў даволі часта наведвацца ў шко-

лу. Тодар зусім сышоўся з ім, хоць нярэдка адбываліся між імі даволі буйныя спрэчкі. Па вечарах яны брадзілі па сцежках сярод палёў або блыталіся па беразе рэчкі далей ад сяла і маёнтка. На трывожныя запытальныя погляды бацькі, якімі ён сустракаў сына, калі той варочаўся са шпацыру, Тодар спачатку адказваў што-кольвечы, а потым больш абмяжоўваўся маўчаннем. Гэта раздражняла Петруся Мікалаевіча, у яго склалася варожасць да Зыкава, якога, аднак, яму не было ў чым упікнуць. Заўсёды той трымаўся спакойна, ветліва, з пашанаю да самога Петруся Мікалаевіча. Але гэтая пашана, гэтыя адносіны наогул з часам рабіліся для старога настаўніка больш прыкрымі, чымся, здавалася, адкрытая непрыязнь або сварка.

Зося адчувала настрой бацькі ў адносінах да майстра. Спярша ёй было нядобра ад думкі, што гэта яна вінавата ў тым разладдзі, што пачалося між бацькам і Тодарам. Гэта яна прывяла Зыкава, праз яе пазнаёміліся з ім бацька і Тодар. Потым ёй стала непрыемна па іншай прычыне. Зыкаў пачаў бываць у іх усё радзей ды радзей. Тодар цэлымі вечарамі прападаў з дому. Вядома, што ён хадзіў на спатканне з Зыкавым. Гэты чужы чалавек уціскаўся між ёю і братам, аддаляў яе ад Тодара. Такая ж непрыязнь расла ў Зосі, як і ў бацькі, хоць карэнні гэтае непрыязні былі зусім іншыя. Праўда, іншы раз ёй прыходзіла на памяць манера гутаркі Зыкава, успамінаўся яго спакойны добры твар, але гэтыя ўспаміны праганяліся жорсткасцю больш моцных пачуццяў.

## V

Пан Ляскоўскі пачаў выказваць надта вялікую ўвагу да завода. І не так часта бываў ён каля пячэй або прамыўной, як сядзеў у канторы. Амаль кожны дзень каля паўдня заходзіў ён у кантору, разглядаў там бухгалтарскія кніжкі, а то больш так сабе сноўдаўся, балакаючы то з бухгалтарам, то з Зосяю. Спачатку такія наведванні непакоілі дзяўчыну, бо нязручна неяк было ў прысутнасці пана корпацца ў кніж-

ках, рахунках, лічбах. Але чым часцей заходзіў Ляскоўскі сюды, тым болей прывычна гэта было. Ён усё часцей падсядаў да яе століка, заглядаў у яе работу, нават пасабляў ёй шукаць той ці іншы запіс у кнізе. Як толькі яе галава схілялася над слупком лічбаў, ён таксама ўважліва разглядаў гэтае ж самае, трымаючы свой роўна расчэсаны, прылізаны прабор блізка да задорыстага чубка Зосі.

Зыгмунд Пісарэўскі, бухгалтар, нібы зноў нарадзіўся. Звычайна гэта быў хмуры чалавек, адвіслая губа якога і прыплюшчанае адно вока рабілі твар яго агідна-саркастычным. Седзячы ў сваім канторскім крэсле, заўсёды з чорнаю цыгаркаю на гэтай адвіслай губе, здавалася, на ўвесь свет глядзеў ён скрозь дым сваімі рознымі вачамі. Ні разу не было, каб ён выказаў вясёласць, шчырасць, якое-колечы захапленне. Ён прыходзіў на работу крыху пазней Зосі, моўчкі, гледзячы ўбок, праходзіў на сваё месца; адразу да губы прыляплялася цыгарка, і прыплюшчанае вока пазірала на Зосю, нібы на пустое месца. Як у пустату, глядзеў ён на рабочых, майстраў, сялян, якія цэлы дзень прыходзілі і выходзілі з канторы. Голас яго быў з пералівамі: здавалася, што ён квохча ці кракае.

Цяпер ніхто не пазнаў бы пана Пісарэўскага, каб толькі можна было заходзіць староннім у кантору, калі там быў сам ясны пан. Зося ж дзівілася бясконца. Гальштук бухгалтара і каўнер «кампазіцыя» сталі на належным месцы, губа падабралася і нібы патанчэла, вочы зрабіліся роўнымі і з захапленнем спыняліся на постаці пана Ляскоўскага. Асабліва калі Ляскоўскі ўзглядаў на яго, то вочы яго, здаецца, самі гаварылі без слоў. Голас зрабіўся далікатным, музычным, як золава горна. Уваходзячы ў кантору раніцою, ён шаргаў нагою, ляскаў абцасамі перад Зосяю і даведваўся аб яе здароўі.

Зося не магла ўцяміць, што зрабілася з яе начальнікам. Што Ляскоўскі ходзіць часта ў кантору — гэта незвычайна, але зразумела: можа, ён бліжэй хоча азнаёміцца з бухгалтэрыяй, праверыць, ці правільна вядуцца кніжкі. Ён жа гас-

падар. Зося старалася як мага менш рабіць памылак, калі ён сядзеў у канторы.

Адною раніцою пан Пісарэўскі, прыйшоўшы ў кантору, не толькі стукнуў абцасамі перад Зосяю і даведаўся аб яе здароўі, але ліслівым голасам запытаўся:

— Ці панна Зося хацела б атрымліваць большую пенсію?

Зося не зразумела і здзіўлена глядзела на бухгалтара ў новай скуры.

— Ну, вам жа трэба капялюшык там, лакавыя чаравічкі, парфумы трошкі. Вось грошы і не лішнімі будуць,— саладка, як бы напяваў, паясніў ён.

— Мне добра ў тым, што ў мяне ёсць,— без прыемнасці адказала яна і мімаволі падцягнула к шыі крыху з'ехаўшы каўнер копты.

— Вядома, вядома, што аб гэтым казаць. Але ягомосцю пану Ляскоўскаму вельмі падабаецца ваша работа, і ён лічыць, што мы плацім вам мала.

— Не я ўстанаўляю сабе заработак, а вы [redacted] панам Ляскоўскім.

Зося накінулася на работу, каб не думаць аб гэтым здарэнні. Але ж саўладаць з сабою было не так лёгка. Самае важнае — гэта напамінак аб яе ўборах. Мусіць, яна зусім абдрэнна апранаецца, калі ўжо другі раз так недалікатна абражаюць яе — тады перад палацам, калі пачынаўся баль, а цяпер вось зноў. А, па-другое, што б гэта была за ласка такая? Добра працую? Няхай сабе так, але могуць плаціць і за добрую працу менш. Хто ім указчык?

Прыйшоў, як заўсёды ў апошнія часы, пан Ляскоўскі. Ён быў з ружоваю кветкаю, прыколатаю ля пінжака. Прывітаўшыся, ён адшпіліў ружу і з самым свецкім уклонам падаў яе Зосі. Яна машынальна ўзяла кветку, патрымала яе, нават не глянуўшы, потым палажыла проста на стол сярод папер, лінеек. Нутраныя дрыжыкі ахапілі яе пры адным поглядзе на вылашчанага Ляскоўскага. Ён уздумаў хадзіць сюды, і яму, мусіць, непрыемна бачыць паркалёвае адзенне.

11 Зак. 3777

Ён зжаліўся, павышае пенсію. Пальцы дзяўчыны задрыжалі, пяро выпала і зрабіла вялікую кляксу якраз пасярэдзіне слупка начыста напісаных лічбаў. У холад і ў жар кінула Зосю. Яна хацела высушыць злыдную пляму, але зрабіла яе яшчэ большай.

Пан Ляскоўскі з вясёлаю мінаю назіраў за паводзінамі Зосі. Ён думаў, што яго падарунак так усхваляваў яе, так узрушыў яе дзявочыя пачуцці. Схіліўшыся над сталом, ён ціха сказаў:

— Я засыплю вас кветкамі, панна Зося, толькі...

Як кошка, пераскокнула дзяўчына цераз крэсла, якое трапілася ёй на дарозе, і вылецела з канторы на двор. Прабегшы некалькі крокаў, яна спынілася, засаромеўшыся людзей, якія ўязджалі з падводамі ў вароты завода.

— Выбачайце мяне, калі я вас пакрыўдзіў, хоць крыўдзіць я менш усяго хацеў,— далікатна і сур'ёзна сказаў пан Ляскоўскі, спыніўшыся на хвіліну каля Зосі.

Лёгкімі крокамі, памахваючы стэкам, ён выйшаў за вароты.

З гэтага дня пан Ляскоўскі не з'яўляўся больш у кантору, і калі яму было трэба што-колечы, то ён выклікаў да сябе бухгалтара. Пан Пісарэўскі зноў выпусціў губу, да якое прычапілася чорная цыгарка. Прыходзячы ў кантору, ён, як і раней, не лічыў патрэбным прыкмячаць Зосю і вітацца з ёю. Але пенсія сапраўды была падвышана — цэлых дзесяць рублёў атрымала Зося больш у месяц. Яна ўжо стала забывацца аб здарэнні і была надта задаволена, калі прынесла бацьку ў першы раз сорак рублёў. Той праслужыў дваццаць шэсць год, а зарабляў толькі трыццаць рублёў.

Праз некалькі дзён к канцу работы ў кантору зайшла Ядзя. Не бачыліся яны аж з таго вечара, калі Ядзя знайшла Зосю ў парку каля крыніцы. Упікнуўшы былую таварышку, Ядзя выказала жаданне, каб Зося наведалася да яе ў той жа вечар.

Зося не знайшла чым адмовіцца і пайшла ў маёнтак. Ёй усё ж не хацелася сустракацца з панам Ляскоўскім пасля

здарэння ў канторы. Дзеля гэтага яна загадзя дапыталася ў Ядзі, ці будзе дома пан Стась. Тая паведаміла, што Стась паехаў да суседзяў. Як жа была здзіўлена Зося, калі ў парку насустрач ёй ішла Ядзя пад руку з братам.

— Ён не застаў паноў Ластоўскіх дома,— засмяялася Ядзя, угледзеўшы шчыра засмучаны твар Зосі.

— Няўжо я такі непрыемны, брыдкі чалавек, што вы хацелі б вызваліцца ад мае прысутнасці? — са шчырасцю ў голасе запытаўся пан Стась.

Зося не магла адказаць. Ёй стала яшчэ горш, калі Ядзя пакінула іх адных, за нейкаю патрэбаю, як яна сказала, пайшоўшы ў палац. Пан Стась з яшчэ большаю шчырасцю і прасякнутасцю ў голасе задаў тое ж самае запытанне.

— Ведаеце, мне сапраўды не хацелася б вас бачыць.

— Чаму?

— Як вам сказаць? Можа, вы не прасілі б мяне гаварыць аб гэтым?

Зося з просьбаю ў вачах зірнула яму проста ў твар.

— Мне хацелася б ведаць, якая гэта патаемнасць,— аднак стаяў ён на сваім.

— Ну, калі так, што мне рабіць... Выбачайце толькі мяне... Дык вось, я не хачу бачыць вас таму, што вы заўсёды, мне здаецца, кпіце нада мною. Я не раўня вам, і вы любіце пазабаўляцца нада мною.

— Барані божа! Калі гэта было?

— Не раз: перад вашымі гасцямі вось тут перад палацам, перад гэтым тоўстым п'яніцаю, з пенсіяй на лакавыя чаравікі — шмат калі.

Пан Ляскоўскі крыху збіўся з толку. Але гэта быў адзін момант.

— Усё гэта — вашы абмылкі. Я не бачу ні жаднае розніцы між людзьмі — усе людзі роўныя. Хіба ж мая заслуга, што я радзіўся панам Ляскоўскім, або чыя віна, што ён працуе і псуе сабе вочы? Не, я не лічу вас ніжэй сябе. Вы вось вучыліся разам з Ядзяю, таварышкі, а яна мая ж сястра. Чым яна, а потым і я, вышэй вас? Усё гэта, можа, як ка-

жуць, знізу так здаецца, а мы, людзі вышэйшае культуры, павінны скасаваць нават самае званне няроўнасці.

Пан Стась гаварыў горача, і нельга было яму не паверыць. Праўда, Зосі ўспаміналася, як была выгнана з палаца Параска, з якою агідаю глядзеў тады пан Ляскоўскі на бедную кабету. Цяперашнія словы аб роўнасці неяк не стасаваліся з тымі паводзінамі. Але, можа, тады трэ было трымаць гонар перад Масеем Рыгоравічам. Калі ж узяць самога па сабе пана Стася, дык ён, мусіць, добры і думае ўсамдзеля так, як кажа.

Зося пільна ўглядалася ў твар, вочы Ляскоўскага. Там усё было так праўдзіва, што яна нават не падумала больш сумнявацца ў яго шчырасці і праўдзівасці.

— Добра было б, каб усе людзі так думалі, як вы! — горача сказала яна.

— О, усе людзі браты, усім павінна быць цёпла на свеце,— у тон адказаў ён, хоць лёгкая ўхмылка ў куточках губ ледзь не папсавала ўсю гэтую гісторыю.

Калі Ядзя выйшла зноў у парк, то знайшла іх абодвух весела рагатаўшымі. Яны ганяліся па заблытаных сцежках, дарожках, перагукваліся. Зося скакала, як каза, і яна пацягнула за сабою і Ядзю. Доўга забаўляліся яны, пакуль лёкай не паклікаў іх да вячэры.

Зусім сцямнела, як Зося заспяшалася ісці дадому. Пан Стась кінуўся праводзіць яе. На двары ён узяў яе пад руку і праз усю даўжэразную галоўную алею вёў так ціха і далікатна, што ў Зосі прапалі апошнія сляды падазронасці і непакойства. Так даверліва яна магла б ісці яшчэ толькі з Тодарам.

— Ведаеце, аб чым я вас хачу папрасіць? — запытаўся ён ужо каля самае брамы.— Ці не былі б вы такою добраю прыйсці заўтра ўвечары памагчы мне зрабіць якія-колечы рахунковыя падлікі?

— Калі ласка, пане Стась.

— Дык я буду чакаць вас а дзевятай гадзіне.

Пан Ляскоўскі сядзеў за пісьмовым сталом у кабінеце,

калі на другі дзень у вызначаны час Зося прыйшла да яго. Перад ім ляжалі раскрытыя кніжкі, быццам толькі што ён чытаў іх. Афіцыяльна аддаў ён уклон Зосі і падставіў крэсла да другога, меншага стала, які, прыстаўлены адным канцом да пісьмовага, другім быў на сярэдзіну пакоя. Хутка перад Зосяю з'явіўся досыць тоўсты пук рахункаў ды іншых папер.

— Вось разбярыце ўсё гэта і складзіце агульную ведамасць,— таксама афіцыйна прапанаваў пан Ляскоўскі.

Зося прынялася за работу. Яна схіліла крыху набок галаву, губы варушыліся, калі яна старанна выводзіла на разлінаваным аркушы лічбы. Яна нават, бадай, забылася, дзе яна, бо ціхенька ў нос мармытала нейкі матыў. Падвёўшы першае падагульненне, Зося падняла галаву... Нешта цёплае дакранулася да яе шыі. Яна ўздрыгнула і кінула позірк на крэсла за пісьмовым сталом. Яно было пустым.

Зося ўскочыла, але яе трымалі за плечы цэпкія рукі. Павярнуўшы галаву, яна блізка ўгледзела твар пана Ляскоўскага, які цягнуўся да яе губ. Зося ўскрыкнула, спалохалася таго дзікага выгляду, тых чырвоных вачэй, якімі глядзеў на яе Ляскоўскі. Яна рванулася, недзе штось трэснула ■ адзежы.

— Што вы робіце? Пусціце!

— Цішэй, цішэй, любая, каханая!

Крэсла загрукатала аб падлогу, стол крануўся з месца. Зося вызлізнула з трымаўшых яе рук. Страшны твар цягнуўся да яе. Хоць бы чым закрыцца ад яго. Рука яе схапіла пачку рахункаў са стала. Твар усё бліжэй. Рука яе схоплена, рахункі круцяцца ў паветры і сыплюцца ўніз. Зосю як хто падпіхнуў: з адною-дзвюма паперкамі ў руцэ кінулася яна да дзвярэй і віхрам прамчалася праз усе пакоі. Так без перапынку ляцела яна аж да таго часу, пакуль не апынулася за брамаю на гасцінцы. Толькі тут яна прыйшла ў сябе і заўважыла паперку ў руцэ. Пры бляску зары яна прачытала:

— Настоящим честь имею сообщить, что Павел Евстигнеев Зыков, уроженец Тверской губернии, действительно ра-

ботал на вверенной мне бумажной фабрике в качестве мастера, к работе прилежен, ни [redacted] чем предосудительном замечен не был, убыл на родину по болезни. Управляющий фабрикой».

Далей ішлі закаручкі.

## VI

Сымону Кавальчыку было ўжо пад пяцьдзесят, ён меў дарослых сыноў і дачку, але ўсё яшчэ не мог пазбавіцца ад блазенскіх летуценняў. Можа, з самага дзяцінства, калі ён упершыню пагнаў пасвіць каровы, у ім зарадзілася нахільнасць да летуценняў. Шмат іх праляцела ў яго жыцці, не пакінуўшы следу ў рэальнасці. Ён калісьці жыў надзеяй, што ў яго будзе хоць з паўвалокі зямлі: як яна апыніцца ў яго руках, ён добра не ведаў, але жаданне яго было такім моцным, што часам ён быў упэўнены ў сваім багацці. Гады ішлі, дзеці падрасталі, а яго палоскі не шырыліся. Бывала таксама, што ён гадзінамі любаваўся коньмі высялкоўца Шкілёнка, якія былі гладкімі і, быццам гуляючы, лёгка цягнулі альбо вялізарны плуг, альбо калы са збожжам ці сенам. Вось гэта коні! Гэта не яго аблезлы, бяззубы конік [redacted] казу велічынёю, якому трэба было памагаць за пастронак нават цягнуць драўляную барану. Не іначай як трэба завесці каня накшталт Шкілёнкавага. Але добра сказаць — завесці, а на справе праходзілі год за годам, і заставаўся ўсё той самы аблезлы, са слязьмі ў вачах, стары каняка. Адмовіўся напаследак дзядзька Сымон ад свае надзеі мець здатнага каня. Было шмат яшчэ якіх шашляў у Кавальчыка, яны прыходзілі, валодалі нават доўгі час яго думкамі, потым пакрысе вылятаялі, даючы месца іншым. Асабліва шмат хімер зараілася пад аўчыннаю шапкаю дзядзькі Сымона пасля «бунтаў» 1905 года: вось цяпер ужо Дума дасць зямлю, можна будзе купіць каня, паправіць пуню ды ці мала яшчэ што. Аднак час ішоў, думалі там ці не думалі — гэтага Сымон не ведаў,— а зямлі не прыбаўлялася. Горш яшчэ

стала: старэйшы сын ажаніўся і захацеў аддзяліцца. Сымон Кавальчык зусім быў падбіты.

Была, аднак, думка ў Сымона, якую ён песціў з малых гадоў і з якою не расставаўся ні пры якіх абставінах, ні пры якіх прыкрасцях жыцця. Гэта — пабудаваць новую хату, дзе б печ была з комінам. Як стаў помніць сябе Сымон, кожны дзень раніцою хата была паўнюсенька дыму, агонь лучыны ледзь відаць быў скрозь цемру, дым з печы проста валіў на хату. Таму, мусіць, вочы Сымона і яго жонкі заўсёды слязіліся. Днём сцены ў хаце блішчалі чорным лакам, і трэба было толькі дакрануцца да іх, як чорная тлустая пляма трапляла на адзежу, на цела. Сам Кавальчык пах дымам, твар яго быў спаласаваны шэрымі шрамамі: гэта адвечная сажа моцна засела ў маршчыны, адкуль яе нельга было выжыць ніякім мыццём. Вось у гэтай, нібы пасечанай, галаве зарадзілася вялікая ідэя — пазбавіцца ад курнае хаты. Гэта ідэя настолькі глыбока захапіла самога Сымона Кавальчыка, што ён змог запаліць ёю і сваю жонку, і малодшых дзяцей. Ці зарабляла дачка залатоўку жнівом, ці прадавала жонка пяток-дзесятак яек, ці зарабляў ён сам выпадкова зімою ў лесе які-небудзь рубель — усё гэта адкладвалася ў гразную анучку, якую хаваў сам гаспадар у шуфлядцы за абразом.

— Трэба было б Ганулі купіць мультану на спадніцу к вялікадню,— іншы год асмельвалася жонка папрасіць Сымона.

— А! Няхай пачакае трохі, вось збяром на хату, тады ўжо будзеце думаць аб спадніцах,— адказваў ён.

І Гануля з году ў год на вялікдзень хадзіла ў зрэбнай даматканай спадніцы. Так і ў дзеўкі выйшла. А бацька кожную зіму прывозіў з лесу дзве-тры хваіны, якія акорваў, рэзаў на кавалкі і хаваў дзе-небудзь пад страхою, каб не гнілі. Напаследак, к другому канцу сяней быў прыбудаваны зруб, на ім да зімы ўзнялася страха. На вясну хата — і з комінам — была гатова. Яна зухавата паказвала свае белыя бакі і ветліва пазірала чыстымі шыбкамі акон. Старая асеўшая

хата, уся чорная, з заткнутымі ў вокнах анучамі замест шыбаў, з выгнутаю страхою прынікла да зямлі, бязвольна чакаючы свайго канца пасля шматпакутнага жыцця. Але канец яшчэ не зусім надышоў.

Сям'я Кавальчыкаў і рада была новай хаце, і сумна было за яе пабудову. Як ні скупіўся дзядзька Сымон, як ні стараўся абысціся без наймання чужых для работы, але ўсё ж страты былі: і вокны, і печ, і дзверы, і яшчэ што-кольвечы нельга было зрабіць самому. Трэба было купіць розныя рэчы, наняць майстроў. Грошай на гэта не было, прыйшлося пазычаць частку ў таго ж Шкілёнка, частку ў другіх то пад адработак, то са зваротам. Вось гэтая пазычка і атручвала ўсю асалоду здзяйснення даўняга жадання ўсяе сям'і. На сёмуху меркаваліся ўвайсці ў новую хату, а ўжо да гэтага тэрміну прыйшлося не адзін дзень араць у Шкілёнка, тады як сам Кавальчык не адсеяўся і яго вузкія палоскі выдзяляліся на полі сваёю пустэльнасцю.

Якраз каля гэтага часу з'явіўся ў Ляскаўцах Зыкаў. Перад ім адразу паўстала пытанне, дзе жыць. Пасёлак, які толькі пачаў будавацца на пустцы за маёнткам, не мог умясціць усіх стаяўшых ужо на працы гутнікаў. Пан Ляскоўскі, які хацеў задобрыць майстра, што павінен быў значна дапамагаць у абсталяванні папяровай фабрыкі, прапанаваў яму жыць у адным з дамоў маёнтка, побач з цівуном. Але такая перспектыва зусім не падабалася Зыкаву, і ён мякка, але рашуча адмовіўся ад панскай ласкі і ўвагі. Дні два-тры ён начаваў на пустэчы, але ў кожнай халупцы рабочых была такая цесната, што разлічваць на доўгую гасціннасць таварышаў, без таго каб не непакоіць іх, Зыкаў не мог.

Сымон Кавальчык, дачуўшыся аб Зыкаве, ухапіўся за яго як за саломінку. Па некалькі разоў у дзень ён дамагаўся сустрэцца з майстрам і кожны раз прасіў узяць у яго кватэру. Зыкаў доўга адмаўляўся, напаследак, і сам адчуваючы патрэбу ў вырашэнні як-небудзь пытання з кватэраю, пайшоў да Кавальчыка. Сымон прапанаваў яму новую хату.

— А дзе ж вы самі будзеце жыць?

— Пажывём яшчэ і ў старой, не вялікая бяда,— міргаючы выцвілымі вачамі, адказаў Зыкаву гаспадар.

Зыкаву стала прыкра ад усяго выгляду курнай хаты. Пачуццё сораму кранулася ў яго пры думцы, што цэлая сям'я застанецца жыць у гэтым сажным мяшку, тады як ён адзін будзе займаць светлую чыстую хату. Ён пачаў адмаўляцца.

— Ды я ж з вас дорага не вазьму,— угаварваў Сымон.

— Не, не ў гэтым справа!

— Будзьце ласкавы, застаньцеся! Дзякаваць доўга буду вас.

І Сымоніха пачала пераказваць усё, як цяжка ім вырабіцца ад пазычкі, як не ідзе свая праца з-за работы на другіх.

Зыкаў застаўся, і ў той жа дзень у новую хату перасяліліся разам з новым жыльцом яго два куфэркі. Сымоніха насілася па двары, быццам ёй скінулі трыццаць год: яна то дапамагала свайму гаспадару даставаць дошкі для тапчана, то валакла сяннік для пасцелі пастаяльцу, то завіхалася каля печы, гатуючы яму яду. Гэта ж які год пажыве ў іх майстра, і можна будзе расплаціцца з усімі пазычкамі, і хата новая!

Першыя дні пражывання Зыкава жонка Кавальчыка, аднак, не заўсёды бывала бадзёраю ды прыветнаю. Іншы раз яна ўваходзіла ў новую хату, нібы што зрабіць, але тым часам ёй нічога не трэба было: яна проста прыглядалася, сачыла за сваім пастаяльцам. Для Зыкава гэтыя назіранні, прыглядванні не засталіся непрыкметнымі. Ён не раз дзівіўся сам сабе гэтай цікавасці да яго асобы з боку гаспадыні, але маўчаў, падсмейваючыся над яе нязграбным азнаямленнем з жыльцом. Усё ж, напаследак, безупыннае прыглядванне за ім напрыкрыла яму.

— Скажыце, цётка Магдуля,— запытаўся Зыкаў раз у гаспадыні,— чаго вы кожны дзень так пільна прыглядаецеся да мяне?

— Ды бронь божа! Дзе ж я прыглядаюся? Вось хачу, каб вам добра ў нас было, каб вы не каяліся, што засталіся

тут на кватэры. Я прыходжу сюды прыбраць, дагледзець,— нараспеў адказала Магдуля.

— Ведаеце, я надта не люблю маны. Вы ж няпраўду кажаце! Што вас асабліва цікавіць ува мне?

Сымоніха апусціла вочы, пераступіла разы два з нагі на нагу, кашлянула,— відаць было, што яна збіраецца адказаць нешта не зусім простае.

— Бачыце...— пачала яна і прыпынілася.— Бачыце, тут нашы кабеты кажуць, што мы нядобра зрабілі, пусціўшы вас на кватэру.

— Ах, вось як! Ну, а вы як думаеце?

— Ды мне што ж — добра. Чалавек вы ціхі і грошы плаціце, толькі...

— Толькі што?

— Яны кажуць, што вы невядома які чалавек, у горадзе былі, а гарадскія, вядома, больш усё жулікі.

Зыкаву стала і смешна і крыўдна. Ён моўчкі разглядаў худы, шэры твар гаспадыні з слязлівымі вачамі, яе ўбогую вопратку і ўсю сагнутую постаць. Увесь выгляд яе быў жывой сведкаю векавога прыгнечання, цемры, убогасці. Яна не вінавата ў тых думках, якія толькі выказала.

— Ну, і як жа вы думаеце пра мяне? — ужо весела запытаўся ў бабулі Зыкаў.

— І-й, мой сыночак, вы чалавек, здаецца, добры, не якінебудзь злодзей. Ну, пайду ўжо, трэба грады палоць.

Пасля гэтай гутаркі Сымоніха ўжо не так рупілася прыбіраць кватэру свайго пастаяльца. Дый сапраўды, для якіхнебудзь страхаў ад Зыкава не было падстаў. Ён не п'янстваваў, не хадзіў у свята з гармонікам у руках. Калі ён быў дома, то Сымоніха бачыла яго больш схіленым над сталом за кніжкаю. Мусіць, шмат у яго было кніжак, бо, спрабаваўшы раз падняць куфэрак, адкуль Зыкаў звычайна даставаў кніжкі, Сымоніха мусіла паганьбіць сваю сілу.

Больш усяго паводзіны Зыкава дзівілі дачку Кавальчыка — Ганулю. Праз некалькі дзён, як Зыкаў пачаў жыць у іх, Гануля, зачырванеўшыся, як паркаль, і яшчэ больш

чырвоная ад таго, што яна наводзіла на твар хараство чырвонаю паперкаю, нясмела запыталася ў яго, ці не пойдзе ён на гулянку ў вёску. Дзень быў святочны, у вокны ішоў пах самай вясны, з краю вёскі несліся дзявочыя спевы, гармонік ігрыста пераліваўся зазыўнымі гукамі. Ануля не разумела, як можна выседзець у хаце, калі ўсё так прыветна цягнула на вуліцу. Але Зыкаў павольна зняў з носа свае добсмешныя акуляры, працёр іх, паглядзеў на Ганулю з добраю ўхмылкаю і сказаў, што яму не хочацца на гулянне. З гэтага часу Гануля, хоць і старалася падфарбаваць паперcharacteristic твар, калі спадзявалася бачыць Зыкава, але саромелася нават загаварыць з ім. Мусіць, ён надта ганарыцца. І на ліха яму гэтыя кніжкі,— думала яна.— Вось яна зусім не ўмее чытаць — і бяды мала... Але ж ён такі прыгожы, на вёсцы мала такіх дзецюкоў...

Сымон Кавальчык, калі не было дома работы альбо не трэба было адрабляць каму-небудзь з сяльчан, звычайна праводзіў час на рацэ з яе вялікімі затокамі і азёркамі па лагчыне. Ужо зранку яго човен, маленькі, як арэхавая шкарлупка, заштукованы шмат дзе то кавалкам клёпкі, то абечка, то проста заткнуты зуб'ем і анучамі, шураваў то там то сям праз чарот і пад берагавым хмызняком. У адным месцы Сымон ставіў жыўца, у другім венцер яго то апускаўся, то паднімаўся з вады. Варушачы губамі, нібы ён увесь час што жаваў, Сымон гадзінамі пільнаваў свайго жыўца. Мала калі што добрае яму пападалася злавіць, але Сымон варочаўся дамоў не раней як з вячэрняю зарою.

Зыкаў паспрабаваў адзін раз паехаць з сваім гаспадаром. Маленькі човен ледзь вытрымліваў дваіх, і трэба было сядзець ціха, як свечка, бо нязначны рух мог выклікаць тое, што «душагуб» перакруціўся б уверх дном. Зыкаву спадабалася сядзець спакойна і чытаць кніжку, у той час як Сымон, жуючы губамі і мармычучы пад нос, то выбіраў з вады свае ўбогія рыбацкія прылады, то проста глядзеў у бясконцую далечыню сваімі слязлівымі вачамі, быццам

ціха плачучы аб страчаных надзеях, што схаваліся за сінім лесам і далёкімі палямі і сенажацямі.

У адным месцы ад рэчкі адыходзіла досыць шырокая затока, якая, пакруціўшыся між балотнымі сенажацямі, зноў злучалася з рэчкаю. Між гэтаю затокаю і самаю рэчкаю была выспа. Край яе ад затокі быў надта нізкі, балотны; дрыгва тут пакрытая была рэдкаю дзікаю асакою ды жоўтымі кветкамі латашкі. Але бліжэй да рэчкі выспа станавілася ўсё больш высокаю, і бераг яе крута звісаў над цёмнымі вірамі, у глыбі якіх відаць былі тоўстыя абураныя дрэвы. У адным месцы гэтага берага высока ўздымаў у неба сваё галлё магутны дуб, частка карэнняў якога, як кіпцюры захаванага ў зямлю чудзішча, высоўвалася далёка над вадою. Здавалася, вось-вось гэты гігант абурыцца ў ваду і загародзіць усю рэчку. Але дуб усё трымаўся за сваю ненадзейную глебу да першай моцнай буры.

— Зваліцца, зваліцца! Няхай толькі страсяне як след! — мармытаў кожны раз Сымон, праязджаючы каля гэтага месца.— Глеба з-пад карэнняў выплывае.

— Мусіць, зваліцца! — з нейкаю затайнаю думкаю адказваў Зыкаў.

Зыкаву спадабалася гэтая выспа. Ён спрабаваў вылезці з чаўна і па абрыву трапіць на самы ўзгорак. Гэта не лёгка было зрабіць, але пасля некалькіх спроб ён дасягнуў мэты. Сухая частка выспы была пад густым лесам з арэшнікам, калінаю ды іншымі кустамі. Бліжэй да затокі лес драбнеў, пераходзячы ў непралазны хмызняк. Папасці ў гэты лес амаль што нельга было, і дзеля гэтага дрэвы сконт веку стаялі нячэпанымі. Ад старасці толькі, альбо падмытыя рэчкаю, яны канчалі сваё жыццё і трухлелі на зямлі ці ў вадзе.

Нават калі Сымон і заставаўся дома, Зыкаў не мог утрымацца, каб не пабыць на рацэ. Гэта стала для яго патрэбаю. Як толькі канчаў работу на паперні, ён спяшаўся на «душагуб» і прападаў з ім на ўвесь канец дня. Праз нейкі час з ім пачаў ездзіць яшчэ адзін невясковы хлопец, мусіць, з гуты. Траплялася Сымону альбо яго жонцы прасачыць, што Зыкаў

браў човен з настаўнікавым сынам, і тады яны варочаліся позна, аж ноччу.

— Няхай сабе ездзяць,— казаў Сымон жонцы.— Яны маладыя хлопцы, але гэтых нашых гулянняў не любяць; дык трэба ж чым пацешыцца...

— А калі човен загубяць? Што ім шкода, ці што?

— Кінь ты плявузгаць! Падумаеш, якая страта, хоць бы гэта і здарылася!

Магдуля прыпыняла сваю зайздрасць, бо ёй дарэмна было злавацца на Сымона, які звычайна змаўкаў, жаваў губамі, колькі б жонка там ні латашыла языком.

Зыкаў не кідаў сваіх вандраванняў па рэчцы і лесе. У адзін святочны дзень ён зранку, калі нават спалі яшчэ Кавальчыкі, хто ў пуні, хто проста ў павеці, выйшаў з дому. Сымоніха чула, што ён пратупаў не адзін. На гэты раз Зыкава цэлы дзень не было дома.

За снеданнем Магдуля, як вялікаю навіною, падзялілася са сваімі хатнімі аб ранішнім здарэнні.

— А ведаеце, што было яшчэ? — раптам запытала дачка.— Калі я вось нядаўна падмятала новую хату, дык кашканула знячэўку яго куфэрак... ведаеце, гэты цяжкі, з замком...

— Кашканула, вось навіна якая! — засмяяўся нежанаты брат.

— Пачакай ты! Кашканула — і ён лёгка, як пусты, перасунуўся... А то нельга было яго нават аберуч зварушыць з месца.

— Што б гэта было такое? — зацікавілася маці і не вытрымала, каб не пайсці самой, нават кінуўшы на час снеданне.

Праз некалькі хвілін яна вярнулася.

— Мабыць, пусты, мае даражэнькія,— выпаліла яна, як толькі пераступіла парог курнай хаты.

— І што вам за турботы? Пусты ці не пусты — усё роўна не ваш, і няма чаго нос сунуць,— прагаварыў Сымон, упікна гледзячы на жонку і дачку.

— Ого, яны ж сёння па ўсіх прызбах разнясуць гэтую вестку,— весела гаварыў малодшы сын.— Нават, можа, і снедаць не будуць, а пабягуць да суседак.

— Ах ты ўжо такі разумны, Лявон,— пакрыўдзілася Ганула.

— Кіньце вы, не ваша гэта справа,— вылазячы з-за стала, сказаў Сымон.

Гутаркі аб гэтым, праўда, больш не было. Але старая Магдуля цэлы дзень далёка не адыходзіла ад хаты, мяркуючы распытацца ў пастаяльца, як толькі той пакажацца. Але цікавасць яе не была задаволена. На адвячорку Зыкаў прыйшоў дадому. К здзіўленню Сымоніхі, ён быў адзін, а яна добра чула раніцою нават гутарку.

— А куфэрак ваш, ведаеце, я перасунула бліжэй да печы...— затараторыла яна.

— Добра! — толькі і адказаў ёй Зыкаў, праходзячы ў дзверы і зачыняючы іх за сабою.

Пастаяла старая Магдуля ў сенях перад дзвярыма Зыкава і, ківаючы разважна галавою, выйшла к прызбе да суседак.

## VII

Смутак пачаў панаваць пад старым дахам школкі. Ні бацька, ні Тодар не маглі ўцяміць, што здарылася з Зосяю, не маглі ўявіць сабе тае рэзкае перамены, якая зрабілася з ёю. Цэлыя дні яна сядзела ў сваёй баковачцы, закінула гаспадарыць, не ішла на работу ў кантору, не адказвала на запытанні. Зрэдку выходзіла яна ў школьны садок і залазіла ў самы далёкі, запушчаны яго куток. Тодар кожны дзень па некалькі разоў дамагаўся развесяліць яе, прыдумляючы той ці іншы жарт, альбо прапануючы дальнюю вандроўку па рацэ ці ў лес. Зося надта захаплялася раней такімі вандроўкамі з Тодарам. Цяпер жа яна заставалася нібы глухою да ўсялякіх прапаноў брата. Звонкі смех яе, што срэбрам сыпаўся то там то тут па ўсім школьным двары і садзе,

заціх, а з ім нібы прыпынілася жыццё ў хаце настаўніка. Быццам цяжкахворы быў у пакоях. Пятрусь Мікалаевіч апусціў сваю сівую грывастую галаў. Усялякія думкі віліся ў ёй наконт дачкі, якая пераходзіла з блазенскага ў сталы ўзрост. Ён адчуваў, што трэба з асаблівай далікатнасцю дакранацца да сэрца дзяўчыны ў гэтую пару. Але як пачаць, якія прычыны такой меланхоліі ў дачкі — ён не ведаў, не мог прыдумаць.

Больш як два тыдні прайшло з таго памятнага для Зосі вечара. Бацька разы два прапаноўваў Зосі паехаць у павет да доктара. Але яна ўпарта адказвала, што ніякае хваробы ў яе няма і што дактары ёй не патрэбны. На запытанне ж, як яна думае надалей са службаю ў канторы, Зося коратка адрэзала:

— Я больш там служыць не хачу!

Гэты адказ навёў бацьку і Тодара на думку, што з Зосяю здарылася нешта, звязанае са службаю. Пятрусь Мікалаевіч нават падумаў, ці не бухгалтар гэта як-небудзь абразіў яго дачку. Але, калі ён намякнуў, што, можа, Зосі непрыемным здаецца яе начальнік, то ніякага адказу на гэта дадзена не было. Здагадкі ж ні да чаго не даводзілі.

Тодар пусціўся на хітрыкі.

— Зоська,— жартаўліва сказаў ён неяк,— як я толькі прыехаў, дык пытаўся ў цябе, ці не страшна табе служыць? Помніш? Ты тады толькі пасмяялася. А цяпер? А цяпер я бачу, што служба — не для кабет альбо дзяўчат.

— Няпраўда! Я магу служыць,— жорстка адказала яна.— І буду працаваць, няхай толькі татка пастараецца мне іншае месца, хоць бы дзе настаўніцай.

— А ў канторы табе не падабаецца, ці што іншае?

— Не хачу я там служыць,— пачуўся кароткі, але не ясны адказ.

Так і Тодар не дабіўся нічога, хоць думаў, раззлаваўшы сястру, выклікаць яе на большую гутарку.

Яшчэ праз некалькі дзён пад вечар на пляцы перад школаю паказаўся адзін з лёкаяў пана Ляскоўскага. Настаўнік,

які сядзеў на ганку, быў надта здзіўлены тым, што гэты лёкай ішоў якраз да школы і, убачыўшы яго самога, пайшоў проста да ганка. Здзіўленасць Петруся Мікалаевіча яшчэ больш узрасла, калі лёкай перадаў яму запячатаны з каронкаю канверт. Як толькі лёкай павярнуўсяісці назад, Пятрусь Мікалаевіч разарваў прыгожы канверт. Там была кароткая запіска, у якой пан Ляскоўскі прасіў яго сёння ж зайсці ў маёнтак. Гэтыя запросіны зусім збянтэжылі Петруся Мікалаевіча. Выпадкі, калі яму даводзілася бываць у палацы, былі такімі рэдкімі, што ён не мог разлічваць на гасціннасць да яго пана Ляскоўскага... Але праз паўгадзіны ён ужо, крыху прыбраны, падыходзіў да ганка палаца.

Пан Ляскоўскі сустрэў настаўніка занадта прыветна. Быццам з блізкім знаёмым, ён прывітаўся з ім цёпла, нават папікнуў, што рэдка бывае ў маёнтку, і гэтым стварае частку тае нуды, у якой жыве тут у адзіноцтве ён, пан Ляскоўскі. Пятрусь Мікалаевіч не ведаў, як адказваць на такую, незвычайную для яго, далікатнасць з боку свайго высокага гаспадара. Не паспеў ён нешта прамармытаць у адказ, як пан Ляскоўскі падхапіў яго пад руку, пацягнуў да крэсла і пасадзіў, як знатнага госця.

— Курыце, калі ласка! Вось добрыя цыгары,— падсоўваючы шуфлядку пад шклом, завіхаўся пан Ляскоўскі, і, калі настаўнік адмовіўся курыць, пачаў пералічаць усё, чым можа пачаставаць.

Пятрусь Мікалаевіч адмовіўся ад усяго. Ён ужо крыху апамятаўся ад першых свецкіх слоў, якімі быў асыпаны, як пераступіў цераз парог.

— Я чуў, што ваша дачка захварэла. Шкада, надта шкада: яна такая здатная работніца і такая прыемная дзяўчына.

— Не, пане, яна не хворая,— адказаў сумленна настаўнік.

— Як не хворая? Вы дарэмна так думаеце, вам трэба было б паказаць яе дактарам... Калі вы маеце на гэта патрэбу ў грошах, дык, калі ласка, я з ахвотаю пасаблю вам.

— Дзякуй, пане. Яна не хворая, а калі б і здарылася такая бяда, дык я ўжо і сам як-небудзь справіўся б, і дапамога была б залішняю.

Пан Ляскоўскі прайшоўся па пакоі, паправіў на стале кніжкі, пераставіў лямпу, зірнуў з-пад ілба на Петруся Мікалаевіча разы два.

— Дык панна Зося не хворая? Чаму ж яна не ходзіць на службу?

Настаўнік не зразу адказаў. Ён шукаў слоў, як бы найдалікатней сказаць, але думкі кепска ўкладаліся ў звязны сказ. Пан Ляскоўскі стаяў перад ім і не спускаў з яго сваіх калючых вачэй. Гэта яшчэ больш блытала думкі старога Крэпчука.

— Яна чамусьці не хоча больш служыць у канторы,— проста адрэзаў Пятрусь Мікалаевіч.

— Не хоча? Вы павінны загадаць ёй аднавіць службу! — адступіўшы на два крокі і блішчучы вачамі, востра і павышаным голасам прагаварыў Ляскоўскі.

— Я не разумею вас, пане. Як гэта — загадаць?

— Ваша дачка павінна служыць у мяне ў канторы!

Пятрусь Мікалаевіч аж падскочыў ад нечаканасці. Ён устаў і здзіўлена, нічога не разумеючы, глядзеў на пана Ляскоўскага.

— Што гэта за тон, пане Ляскоўскі? Прыгону даўно ўжо няма. Бывайце здаровы, калі вам больш нічога ад мяне не трэба.

— Не, крыху пачакайце! Ці не скажаце, што чуваць у вас аб вашых беларусах, як жывуць эсдэкі, эсеры? Калі «загляне сонца ў наша ваконца»?

— Вы жартуеце, пане!

— Якія там жарты? Я пытаюся ў вас як у свядомага ў гэтых справах чалавека.— Пан Ляскоўскі зрабіў вельмі выразны націск на слове «свядомага».

— Не разумею, аб чым вы пытаецеся,— ледзьве адказаў Пятрусь Мікалаевіч.

— Ах, не разумееце! Можа, вы не ведаеце, што кожны месяц вы павінны бачыцца са спраўнікам або прыставам? Мусіць, ведаеце! А я што-кольвечы яшчэ аб вас ведаю... Ваша дачка павінна служыць у канторы, іначай вы пашкадуеце аб сваёй мяккасці да яе жаданняў.

Пятрусь Мікалаевіч нейкую хвіліну з агідаю пaглядаў на пана, гордыя словы гучалі ў яго галаве. Але сівая галава пакрысе апускалася ўсё ніжэй ды ніжэй, і слёзы заблішчалі на яго падслепаватых вачах, якія мелі нейкі жаласны выгляд без акуляраў. Ён мяшком ссунуўся на крэсла і нібы застыў з сагнутаю спіною і апушчанаю галавою.

— Ну, вось і каву даюць! Перасядзьце сюды, калі ласка,— загучаў ужо прыветна голас Ляскоўскага.

Як пабіты сабака, ішоў настаўнік дадому. Яго сівыя валасы космамі спадалі ўніз, рукі дрыжалі, ногі ледзьве пераступалі. Дома ён грузка сеў на канапу і галава яго схілілася над сталом. Так у нерухомасці доўга сядзеў ён, як чалавек, які страціў усё ў жыцці. Чым выкліканы гэты брудны ўчынак пана Ляскоўскага? Што азначае гэтая ўпартасць яго, каб Зося служыла? І як можа шляхціц займацца справамі шпіка? Калі на апошняе запытанне адказ лёгка было знайсці, то на першыя цяжка было адказаць.

Тодар занепакоіўся незвычайным выглядам бацькі.

— Эх, сынок! Паскудныя часы настáлі, паскудныя пайшлі людзі. Жыць прыкра!

— У чым справа?

— Лепш не пытайся. Пакліч Зосю.

Зося ўвайшла ціха, так яна хадзіла ў апошнія часы. Убачыўшы бацьку, яна ўздрыгнула, кінулася да яго, але потым раптам прыпынілася.

— Дачушка, табе прыйдзецца зноў хадзіць на работу ў кантору,— не падымаючы галавы, прагаварыў глуха Пятрусь Мікалаевіч.

Гэтыя словы навялі на Зосю нібы аслупенне. Яна не разумела нейкі час, што робіцца вакол яе, нават дзе яна. Тодар крыху спалохаўся і пачаў гузаць яе за руку.

— Татачка, я ж прасіла цябе знайсці мне іншае месца. Я не хачу ў кантору, не пайду туды больш нізавошта.

Стары настаўнік падняў голаў, на вачах яго былі слёзы. Зося ў першы раз убачыла слёзы на вачах бацькі. Гэтае з'явішча зноў нашчэнт збянтэжыла яе, і яна сама гатова была заплакаць, хоць і не магла зразумець прычыны такога выгляду бацькі.

— Я не ведаю, чаму ты адмаўляешся ад службы — ты аб гэтым не хочаш сказаць. Але... але, калі б ты ведала, што... тваё нежаданне... будзе пагражаць твайму бацьку астрогам, ты таксама б стаяла на сваім?

— Я-якім астрогам? За што? — здушаным ад сполаху голасам запыталася Зося.

— Пан Ляскоўскі можа гэта зрабіць,— ледзьве вымавіў бацька.

Крык агаласіў маленькі пакойчык і рэхам аддаўся па ўсіх кутках школы. Не паспеў Тодар схапіць яе, як Зося выскачыла за дзверы і зачынілася ў сваёй бакоўцы. Тодар выйшаў у сад, і доўга яго цыгарка іскаркаю мільгацела то ў адным, то ў другім канцы. Ужо за поўнач ён зайшоў да бацькі.

— Усё-такі Зосі не трэба ісці ў кантору,— рашуча сказаў ён.

— Выбачай, Тодар. Стары я стаў, ды і крыллі надламалі. Баюся ўсяго! — Пятрусь Мікалаевіч адвярнуўся ад сына і закашляўся, каб схаваць новыя слёзы, якіх яму было самому сорамна. Цэлую ноч не спаў стары, і Тодар чуў, як рыпелі пад яго нагамі дошкі падлогі.

На другі дзень Зося пайшла ў кантору.

Зыгмунд Пісарэўскі сустрэў яе, як самы найлепшы таварыш і разам з тым, як самы далікатны чалавек. Ён выказаў самыя шчырыя, як здавалася, спачуванні таму, што яна хварэла, пашкадаваў, што яна крыху пахудзела, а потым не забыўся выказаць надзею на хуткую папраўку і поўны зварот яе былое жвавасці. Зося моўчкі слухала ліслівую гутарку свайго начальніка і з рыскамі жорсткасці на

чале і каля губ, якія быццам назаўсёды ўрэзаліся там, пачала глядала на гладкую кулю яго галавы.

— Работы, ведаеце, цяпер столькі, што мне аднаму нельга было ўправіцца. Апроч усяго, справаводства шмат павялічылася з будоўляю папяровай фабрыкі, а гэты майстра Зыкаў толькі ведае, што каля машын мітусіцца.

Імя Зыкава прагучала для Зосі чымсьці зусім новым. Здаецца, даўно-даўно яна пазнаёмілася, сустракалася з ім. За ўвесь апошні час, як яна хадзіла на работу, Зыкаў бадай толькі разы два заходзіў у школу, дый то яна не бачылася з ім. Цяпер у яе памяці паўстала ўся яго постаць, ёй пачуўся яго спакойны голас, успомнілася моцная рука, якая падтрымлівала яе, калі яны разам ішлі з пасёлка. Пры гэтых успамінах жорсткія рэзкія рыскі каля вуснаў крыху зглядзіліся і яна больш прыветна даслухала бухгалтара, які лебязіў каля яе.

За работаю яна міжвольна ўспомніла Зыкава і незвычайнае здарэнне з ёю ў маёнтку. Стажок рахункаў ляжаў перад ёю цяпер так, як тады ў палацы. А куды дзелася тая паперка, што яна з перапуду данясла аж дадому. Гэта ж паперка была аб Зыкаве. Ён, значыць, належны майстар, але якісьці... ненадзейны чалавек. Так, здаецца, падпісаў там начальнік пецярбургскае фабрыкі. Але як быць з гэтаю паперкаю? Несці самой у палац нельга ні ў якім разе, а перадаць праз бухгалтара нешта перашкаджае. Трэба, па-першае, знайсці гэтую паперку, бо яна больш карысна будзе для гэтага Зыкава, чымся патрэбна для пана Ляскоўскага. А потым так перадаць яе, каб гэта нікому не кінулася ў вочы.

Работа і дзейны напрамак думак пакрысе выводзілі Зосю з таго аслуплення, у якім яна знаходзілася ўжо каля месяца. Дома яна таксама пачала ўцягвацца ў абавязкі гаспадыні. Толькі да бацькі не было ў яе такіх простых, яснацёплых адносін і любові, якія яна адчувала і мела раней.

Праз некалькі дзён Зыкаў зайшоў да настаўніка. Зося і радавалася і непакоілася праз гэта. Мусіць, ён чуў аб тым,

што яна не хадзіла на работу, можа, таксама пачне дапытвацца, як і бацька з Тодарам. Як ёй трымацца тады? Але разам з тым яна не магла не прызнацца сабе, што чакала гэтага прыходу. Уперад за ўсё ёй карцiла параiцца з ім, як перадаць назад Ляскоўскаму паперку з водзывам.

Калі мужчыны заняліся гутаркаю, яна шмыгнула да сябе, выняла з заложанае кніжкі сакраментальную паперку і сунула яе за кофту. Потым не зусім спакойна стала чакаць такой хвіліны, калі б лепш было застацца адною з Зыкавым і параіцца з ім. Як назло, Тодар завёў нейкую доўгую спрэчку аб кніжцы, і Зыкаў, які ўважліва слухаў і падаваў рэплікі, што яшчэ больш падбівалі Тодара, здавалася, зусім не прыкмячаў Зосі і тым больш не мог зацікавіцца яе непакойствам.

Але вось Тодар, не задаволены сваімі ўласнымі доказамі, выскачыў у другі пакой да шафы з кніжкамі.

— Мне трэба было б пагаварыць з вамі аб адной рэчы,— паніжаным голасам прамовіла Зося Зыкаву, як толькі Тодар забразгаў ключамі аб шафу.

— Добра, давайце пойдзем у сад,— адказаў ён.

Як толькі Тодар вярнуўся з кніжкаю ў руках, Зося папрасіла яго адкласці спрэчкі і схадзіць да Шмуйлы за якою-кольвечы дробяззю да гарбаты. Тодар, хоць і незадаволены, але выйшаў, а бацька ўжо бразгаўся з самаварам на кухні.

Зося выскачыла ў сад. Зыкаў павольна выйшаў за ёю, крыху зацікавіўшыся справаю. У далейшым канцы саду Зося прыпынілася і моўчкі працягнула Зыкаву руку з паперкаю. Ён недаўменна ўзяў паперку, прачытаў раз, другі, рука яго ледзьве прыкметна ўздрыгнула, але твар застаўся зусім спакойным, нібы ў паперцы напісана было зусім не аб ім.

— Як вы дасталі гэта?

Гарачая хваля ад сэрца разышлася ў момант па ўсяму целу Зосі. Яна не знаходзіла слоў, каб адказаць на гэта запытанне. А Зыкаў так проста і ўважліва глядзеў ёй у вочы, што ніякая мана, ніякі выверт быў немагчымым.

— Што адказаць, што адказаць? — пыталася яна ў сябе.

Зыкаў маўчаў, адчуваючы, што Зосі не лёгка адказаць на яго запытанне, што тут ёсць нешта незвычайнае.

— Гэтая паперка... выпадкова трапіла мне ў рукі, і я не ведаю, што з ёю зрабіць,— напаследак прагаварыла Зося.

— Перадайце пану Ляскоўскаму.

— Я не магу! — зусім усхвалявана адказала Зося.

Зыкаў яшчэ больш недаўменна пачаў разглядаць Зосю, прагнучыся растлумачыць сабе абставіны гэтае «выпадковасці» і тыя перашкоды, якія так хвалююць дзяўчыну.

— Я не разумею, чаго вы так усхваляваны, калі гэта выпадковасць.

Вось гэтага і баялася, з-за гэтага дапытвання і непакоілася Зося. Праўда, яна сама выклікала Зыкава на гутарку, і не ён вінаваты ў яе збянтэжанасці. Але ўсё ж справа склалася так, што яна мусіць адказаць глыбей, пайсці далей, каб не паказацца смешнай у вачах Зыкава, альбо каб не падумаў ён яшчэ чаго больш дрэннага аб ёй.

І Зося то шэптам, то скорагаворкаю, глытаючы асобныя словы, з палаючым тварам сказала Зыкаву ўсё, што здарылася тады з ёю ў палацы, як трапіла паперка. Яна ўсё сказала, і калі прыпынілася, то не магла зразумець, чаму яна паведаміла яму, чужому чалавеку, і захавала гэты цяжкі для яе выпадак ад бацькі і брата. Адразу ёй стала так цяжка на сэрцы, так брыдка за сябе, што яна не стрымалася і залілася слязьмі, павярнуўшыся тварам да плота.

Зыкаў то бялеў, то чырванеў. З ім за апошнія часы, можа, гады, не было такога становішча, ды наогул ён не ведаў, як трэба трымаць сябе з кабетамі. Тое ж, аб чым ён даведаўся, а потым плач Зосі зусім выбілі яго з каляіны, і ён не мог адшукаць слоў, якія б дапамаглі Зосі суцішыцца, забыцца аб крыўдзе.

— Кіньце, кіньце вы плакаць, таварыш Зося. У жыцці трэба быць моцным, і вы паказалі, што вы моцны чалавек.

Не плачце ж, хадзем у хату,— гаварыў Зыкаў крыху дрыжаўшым голасам.

— Я так не магу пайсці, пачакайце. Ні Тодар, ні бацька не ведаюць нічога, я ім не сказала. Яны будуць здзіўлены маім выглядам. Крыху супакоюся.

Зыкаў павёў яе па дарожцы пад руку, пачаўшы нейкую гутарку зусім іншага зместу і ні словам не абмаўляючыся аб здарэнні з Зосяй. З гэтага часу між імі ўсталяваліся адносіны, якія набліжалі іх супольнасцю ведання, павялічылі давернасць Зосі і зрабілі Зыкава ўдзельнкам часткі яе інтымнага жыцця.

## VIII

Гісторыя з водзывам хутка была зліквідавана. Таварыш Зыкава, які рабіў з ім вандраванні ў чаўне і імя якога дарэмна праглася даведацца Сымоніха, аднёс ліст проста да пана Ляскоўскага, сказаўшы, што знайшоў паперку на сцежцы ў парку. Зося заспакоілася, хоць нешта дрэннае казлытала ёй пад сэрцам, як толькі яна прыходзіла на работу ў кантору. Як ні дамагаўся бухгалтар Пісарэўскі сваёю ўважлівасцю, салодкай далікатнасцю выклікаць задаволенасць на твары Зосі, яна ніяк не мяняла свайго пахмурнага выгляду. Напаследак пан Пісарэўскі стаў паглядаць нават з затаёнаю боязню на сваю маладую падначаленую. Зося пачала прыкмячаць, што рэгулярна сярод заняткаў яе начальнік пачаў хадзіць у палац. Раней гэтага не было. Яна нават спачатку зацікавілася гэтымі абставінамі, але потым зусім кінула звяртаць увагу на тое, што робіць ці куды ідзе пан Пісарэўскі.

Зося міжвольна думала, длубаючыся ў рахунках альбо складаючы «ведомости» аб тых гутарках, якія яна чула дома ад Зыкава з Тодарам. Яна ўспамінала спакойна-ясны выгляд твару Зыкава, калі ён проста выкладаў вялікія думкі нейкіх, мусіць, надта вялікіх і разумных людзей, імёны якіх яна часта чула ад брата і Зыкава, але якія заставаліся

недасяжнымі яе разуменню. Тодар гаварыў доўга і горача, часта ў яго траплялiся словы, якія зусім былі незразумелыя, і таму запомніць яго гутаркі было надта цяжка. Зося дзівілася таму, што гэты Зыкаў, такі просты, шмат чаго разумее і лепш выкладае, чымся Тодар.

Зыкаў досыць часта заходзіў цяпер у школу. Першы раз, пасля прызнання аб выпадку з ёю ў маёнтку, Зося спаткала Зыкава з пачуццём варожасці. Але ён так шчыра і проста прывітаўся з ёю, што ў Зосі раптам схлынула з сэрца хвалька непрыязні. Ён ніводным словам альбо позіркам не даў зразумець, што ён трымае ў галаве і на языку яе прызнанне. Зося адчувала сябе спакойна, даверна, ёй было прыемна ў чым-небудзь дапамагчы госцю: ці кніжку знайсці, ці бліжэй падсунуць лямпу, ці паказаць яго шапку і палку, калі ён збіраўся дадому. У такіх выпадках Тодар кідаў на сястру быстрыя позіркі, у якіх мільгала зацікаўленасць і чуць прыкметная ўсмешка, але Зося, звычайна, не магла прасачыць за гэтымі позіркамі.

Пятрусь Мікалаевіч, які [illegible] пачатку знаёмства з Зыкавым надта мала гаварыў, хоць і быў з ім уважлівым і нават дасluжным, з часам усё больш разыходзіўся. Усё часцей ён устаўляў слова-другое ў гутарку паміж Зыкавым і Тодарам. І вось аднойчы, калі Зыкаў крыху няўважліва абмовіўся аб народніцтве, стары прыйшоў у такую жвавасць, якое ад яго ніхто не чакаў. Бляды, крыху прыпухлы твар яго пачырванеў, у вачах заблішчалі іскаркі, сівыя і доўгія валасы закалыхаліся ад ветру. Ён устаў і, лёгка ступаючы, захадзіў з кутка ў куток.

— Вы не павінны іх упікаць, нельга іх ганіць. Народнікі выканалі вялікую гістарычную задачу, гэта яны падрыхтавалі рэвалюцыю 1905 года,— горда гаварыў ён, кідаючы быстрыя погляды ў бок Зыкава.

— У гэтым я згадзіцца з вамі не магу,— коратка адказаў Зыкаў.

Пятрусь Мікалаевіч яшчэ больш распаліўся.

— Як — не можаце? А хто падняў на паўстанне сялян-

ства? Вы яшчэ малады, і калі што ведаеце, то з кніжак. Я ж сам рабіў гэтую рэвалюцыю, сам падымаў сялянства і сацыял-дэмакратам не быў!

Тодар пачаў кідаць выразныя позіркі на бацьку, але той іх не прыкмячаў, знаходзіўся ў вялікім абурэнні.

— Татка, цішэй. Ты гаворыш так моцна, што з вуліцы можна пачуць,— прагаварыў Тодар.

Пятрусь Мікалаевіч зразу схамянуўся і сціх, хоць агеньчыкі яшчэ скакалі ў яго здаўна затухшых вачах. Ён усё яшчэ нервова хадзіў з кутка ў куток. Зося з вялікаю зацікаўленасцю сачыла за ім, яе вочы блішчалі. Выпадкова яна даведалася аб вялізарнай навіне. Яшчэ як яна вучылася, ёй даводзілася чытаць аб «бунтах», якія адбываліся год 5—6 таму назад. Яна нават помніла, як на каляды распусцілі іх не ў пару, калі яна была ў другім класе. Але што яе бацька сам «рабіў рэвалюцыю», яна нічога не ведала аж да гэтай пары.

— Татка, ты быў рэвалюцыянерам? — па-дзіцячы захоплена запыталася Зося.

Настаўнік прыпыніўся як укопаны, калі толькі празвінелі словы дачкі. Ён памарудзіў з адказам, апусціў долу вочы, у якіх ужо затухлі апошнія іскаркі. Зося калола яго праменнямі сваіх вачэй.

— Быў, дачушка,— напаследак ціха адказаў ён.— Быў конь — і заездзілі! Цяпер скончана.

Пятрусь Мікалаевіч падышоў да свайго зэдліка, сеў і апусціў сваю сівую галаву, з якое неяк жалка звісалі космы валасоў. Зося падскочыла да бацькі, горача пацалавала яго, правяла трапяткою рукою па яго валасах, а потым з вінавата-сарамяжым тварам адышла, прыкмеціўшы на сабе позірк Зыкава.

Некалькі дзён пасля гэтай гутаркі Зося не магла пазбавіцца ад нейкай, хоць і невялічкай, крыўды на Зыкава. Ён, мусіць, крыху памыліўся, калі выклікаў сваімі разважаннямі такое абурэнне яе бацькі. О, яе татка такі праўдзівы, такі добры, ды яшчэ рэвалюцыянер! Рэвалюцыянеры ўсе

героі, хоць у гісторыях там розных, якія яна чытала і нават вывучала, іх больш завуць бунтоўшчыкамі, іншы раз — і разбойнікамі. Яе татка не мог быць разбойнікам. Ён любіць яе, ён — добры. І чаму памыліўся гэты Зыкаў, навошта пакрыўдзіў яе татку? Можа, Зыкаву цяпер будзе брыдка, і ён не так часта будзе хадзіць да іх?

І сапраўды, Зыкаў не адразу пасля гэтага здарэння прыйшоў. На працягу тыдня Зося бачыла яго толькі выпадкова на фабрычным пляцы, калі ішла на работу ў кантору. Ёй пачынала станавіцца крыўдна, што ён не прыходзіць да іх. Яна нават хацела падысці да Зыкава і папрасіць яго наведвацца ў школу. Але сорам скаваў яе рух, і яна прастаяла на месцы, пакуль Зыкаў не схаваўся за вуглом яшчэ не вызваленае ад рыштаванняў паперні.

Але вось і сам Пятрусь Мікалаевіч схамянуўся, што трэба неяк загладзіць няёмкасць. Ён загадаў Тодару як-небудзь прывесці Зыкава. Гэтага чакаць прыйшлося нядоўга. Адносіны наладзіліся зноў. Зыкаў не зачапляў пытанняў, якія б маглі пакрыўдзіць старога настаўніка, а ў гутарках з Тодарам альбо Зосяю ён больш абмяжоўваўся ці бягучымі навінамі, ці ўспамінамі аб сваіх вандраваннях па розных гарадах. Зося асабліва заахвочвалася апісаннем вялікіх гарадоў, як Пецярбург, Рыга, і не раз выказвала вялікае жаданне пабыць у іх, пажыць там. У гэтых гутарках яна мімаволі ўспамінала сваіх таварышак па гімназіі, адны з якіх паехалі вучыцца далей на курсы, другія, як Ядзя Лясkоўская, маюць грошы і ўсё іншае, каб кожны год ездзіць у Варшаву, Пецярбург, Кіеў. Яна ж далей Мінска ніколі не была, ды і ў Мінску ёй давялося быць толькі, калі яна вучылася і калі нельга было носа паказаць на вуліцу без нагляду настаўніцы...

Пятрусь Мікалаевіч, як і раней, больш маўчаў і слухаў. Нечаканае захапленне бліснула, як метэор, асвятліла для Зосі незнаёмую частку жыцця бацькі і падняло яго на больш высокую ступень у яе разуменні. Але неўзабаве здарыўся выпадак, які значна затушаваў гэты новы арэол, які быў

дабавіўся да іншых, сатканых з дзяцінства вакол істоты і аблічча бацькі, замяніўшага для дзяцей і рана памёршую матку.

Адным вечарам, ужо недалёка ад касавіцы, нешта загрукатала на чорным ганку. Тодар пайшоў паглядзець, і праз хвіліну пачуліся галасы. Пыталіся, ці дома Пятрусь Мікалаевіч. За адказам Тодара ў кухню ўвайшло трое людзей. Яны прывіталіся з Зосяю, якая завіхалася па гаспадарцы, а потым крануліся ў «салю», дзе звычайна знаходзіўся Пятрусь Мікалаевіч. Зося з цікавасцю прасачыла за імі. То былі ўжо старыя сяляне, з сівымі барадамі. На іх былі кажухі, хоць духата стаяла ў паветры, як у нядаўна паленай восеці. На нагах дзяды мелі лапці, белыя, святочныя, мусіць, анучы. У руках кожнага было па кійку. Адзін з іх усё падносіў руку да вачэй, выціраў іх і жаваў губамі. Другі шаптаў траха не без перапынку: «Асподзь твая воля». Трэці дзядуля быў нізкі, прысадзісты, цвёрда ступаў крывымі нагамі.

— Добры вечар, Пятрусь Мікалаевіч,— віншаваў крываногі, астатнія ж схілілі галовы.

— Не сярдуйце, што заваліліся сюды, і аж утрох.

Настаўнік устаў і прыветна прывітаўся з прыйшоўшымі, а потым падсунуў да іх зэдлікі. Але ніводзін з іх не сеў.

— Не за тым прыйшлі,— гаварыў крываногі.— Мы прыйшлі да вас з вялікаю просьбаю. Ужо будзьце ласкавы, пашкадуйце нас.

— Што здарылася? У чым вас шкадаваць?

— Ну, гавары ты, Сымон.

Сымон Кавальчык пажаваў, выцер рукою вочы.

— Мы памятаем,— сказаў ён,— што вы, пане настаўнік, былі за нас.

— Я ніколі ні ў чым вас не цураўся,— перабіў яго Пятрусь Мікалаевіч.

— Вось дзеля гэтага мы і прыйшлі да вас. Мы прыйшлі прасіць у вас парады ў адной вялікай справе.

— Кажыце!

— Ну вось! Як вам казаць, з чаго пачаць?.. Ну, але ўсё роўна... Дык бачыце, якая акалічнасць — пашы ў нас няма,— быццам жаваныя выкідаў словы Сымон.

— Асподзь твая воля! — барматаў трэці дзед.

— Я не ведаю, што ж вам параіць?

— А вы пачакайце, я не ўсё... г-ам... сказаў. Мы з вясны мелі і сваю пашу, і пасвілі ў панскім лесе, а цяпер ні сям ні там... г-ам... няма нічога. З-за свае пашы мы ўжо больш за год судзімся з высялкоўцамі, якія хочуць забраць кавалак у частцы іх надзелаў. Іх саміх нямнога, але зямлі ў іх шмат. Вось ім і перападае больш як трэба пашы. Ну, суд судам, няхай бы ішоў, там ужо што выйшла б. Але ж вось, якая напасць на іх ліха: земскі выклікаў нашых дзесяцідворных і загадаў праз іх не пускаць скаціны на пашу, пакуль суд не вырашыць справы...

— Асподзь твая воля!

— Ну падумайце, пане настаўнік,— падхапіў крываногі.— Гэты ж суд, можа, два-тры гады будзе цягнуцца, пакуль аж да Санотаў там... Цноты-саноты.

— Пачакай, не мялі языком,— прыпыніў Сымон свайго ахвочага да гутаркі таварыша.— Яшчэ ж гэта не ўсё. Спакон веку — і дзяды, і бацькі нашы карысталіся пашаю ў лесе... Сарвітут гэта... Ну вось, пачалі мы і сёлета пасвіць. Добра! Але ўчора раптам — бах! — плаці з галавы тры рублі. А то яшчэ ходзяць чуткі, што гэты гандляр — які ў хеўры з панам — нібы купляе лес і зусім забароніць пасвіць.

— Але! Асподзь твая воля!

— Дык вось, Пятрусь Мікалаевіч, вы — чалавек... г-ам... пісьменны, ведаеце законы ды і нас не цураецеся... г-ам... дапамажыце, парадзьце, што цяпер рабіць. Скаціна ў хляве падохне.

— Так! Асподзь твая воля!

Пятрусь Мікалаевіч уважліва слухаў, пераводзячы вочы з аднаго на другога з сваіх «кліентаў». Зося кінула работу на кухні, праслухала ўсё, што сказалі дзяды. Сэрца яе застукала мацней. Каб толькі яна ведала, як дапамагчы. Яна

пільна глядзела праз шчыліну ў дзвярах у вочы бацьку. Але з часам, як паведамленне Сымона падыходзіла к канцу, ёй усё цяжэй было злавіць погляд бацькі. Калі ж Кавальчык звярнуўся з просьбаю аб парадзе, дык вочы настаўніка зусім прапалі, і Зося не магла сустрэць іх на палосцы шчыліны.

— Што ж я вам магу параіць, братове? — пачула Зося голас бацькі.— Калі начальнікі і пан што робяць, то яны мусяць добра рабіць, шкоды вам не хочуць. Трэба, мусіць, рабіць, як там загадана.

Дзядулькі зірнулі адзін на другога, узлажылі на галовы шапкі.

— Дзякуй за добрую параду! — сказаў Сымон.— Ды вы думаеце, што пан шкоды нам не хоча, а можа — толькі сабе? А мы ніяк аб гэтым не здагадаліся — бач ты! Бывайце здаровы!

Адзін за адным прайшлі сяляне цераз кухню. Перад Зосяй, якая прытулілася каля дзвярэй, мільганулі на праменні лямпы белыя іх бароды.

— Казаў я: пойдам да майго пастаяльца, не дурны чалавек. А то, бач, кажа, што пан шкоды нам не хоча. Трэба схадзіць да гэтага Зыкава! — пачула ў сенцах Зося голас Кавальчыка.

Сорам ахапіў Зосю за бацьку. Пан не хоча шкоды... Яна ўжо ведае, што гэта няпраўда. Яна доўга будзе помніць, якую пагарду зрабіў ёй пан Ляскоўскі, а можа... можа, і самому яе бацьку. І ён дае параду гэтым сівым сялянам слухацца ўсяго. Вось яны яму і не вераць. Прыйшлі ж яны да яго з поўнаю надзеяю, шануючы ў ім мінулыя яго адносіны да іх. Дык Зыкаў, можа, зусім не ашукаўся? Не ўсякі — герой, хто быў у часы рэвалюцыі. Зосі стала і шкода і крыўдна, што яна ўпэўнілася ў сваёй памылковасці, крыўдна за бацьку, які выказаў на яе вачах такую слабасць, сказаў старым сялянам такую няпраўду... Але ж яны, мусіць, пойдуць да Зыкава? Значыць, яны ведаюць яго, вераць яму.

Пакрыўджаная і незадаволеная, пайшла яна праводзіць канец вечара і сустракаць ноч у сваёй малюсенькай бакавачцы.

У наступныя два-тры дні Зося гарэла ад нецярплівасці даведацца, ці былі сяляне ў Зыкава, а калі былі, то што ён ім параіў. Але паказаць перад кім-небудзь, што яна ведае аб чым-кольвечы, даць зразумець, што яна падслухала гутарку сялян з яе бацькам — Зося ні ў якім разе асмеліцца не магла. Яна дакарала нават сама сябе за гэтае падслуханне.

Аднак утрымацца ад даведак нельга было. Як толькі Тодар з'яўляўся дадому з рэчкі, з лесу альбо проста з прагулкі, Зося дамагалася ў яго навін аб вясковых справах. Нават не чакаючы яе запытання, Тодар сам сказаў аб вясковай пашы і быў надта абураны судовымі выкрунтасамі. Яшчэ цераз дзень Тодар прынёс весткі, што на вёсцы будзе склікаены сход для абмеркавання справы з пашаю. Усе сяляне спадзяюцца, што ім удасца збіць панскія прычэпкі сваімі патрабаваннямі.

Хоць пан Станіслаў Ляскоўскі і быў абшарнікам з напрамкам думак самай найноўшай фармацыі, хоць на яго палях і сенажацях дзе-нідзе стракатала летам жнейка альбо касілка, але ўсё ж гаспадарка трымалася яшчэ і да апошніх часоў касою і сярпом сялян. Траха не ўся вёска Ляскаўцы і сумежныя з ёю, за выключэннем хіба высялкоўцаў і некалькіх адзінак кожную вясну, лета і восень працавала на панскіх землях: залатоўка альбо саракоўка кабеце і мужчыне за працу ад раніцы да вячэрняе зары.

Вось па вёсцы разышлася думка, што калі пан будзе браць за пашу па тры рублі з галавы скаціны, дык трэба за жніво браць у дзень паўрубля, а за касьбу — рубель. Гэтая думка хутка, як маланка, абляцела ўсе хаты. Кабеты і дзяўчаты толькі і гаварылі аб тым, як ім будзе добра, калі яны пачнуць зарабляць па паўрубля. У чыёй галаве зарадзілася гэтая думка, хто першым пусціў яе ў свет — невядома. Але яна ўсхвалявала вёску, усе ёю жывуць. Каб узла-

жыць на ўсіх абавязак не ісці на работу, як толькі не дасць маёнтак ухваленне цаны, патрэбен быў сход.

Тодар аб усім гэтым паведаміў Зосі. Яна пачала думаць, ці гэта Зыкаў, ці хто іншы пусціў такую думку ў вёску. Ёй прагна захацелася даведацца аб гэтым, але яна не ведала, як гэта зрабіць. На другі дзень яна не магла спакойна пісаць свае лічбы ў «ведамасцях». Апроч таго, пан Пісарэўскі раз-пораз выскокваў з канторы, кудысьці бегаў, прыходзіў два разы зураднікам, які выглядаў надта занятым і нават забыўся аб сваёй далікатнай абходнасці. Праз акно відаць было, як у напрамку да вёскі праехаў вярхом на стаенным жарабцы пан намеснік. Так, у вёсцы быў сход і, мусіць, туды збіралася начальства маёнтка.

Зося цвёрда парашыла адразу пасля работы пабачыцца з Зыкавым, каб ад яго самога даведацца аб тым, што яе цікавіла. Яна знайшла яго каля будынка паперні, дзе на раскладзеных дошках ляжалі ў парадку машынныя колы, цыліндры, катлы. Зыкаў аглядаў усё гэта і памячаў крэйдаю. Угледзеўшы Зосю, ён, здавалася, крыху зачырванеўся і пайшоў насустрач.

— Я хацела б даведацца ў вас аб адной рэчы. Ці былі ў вас трое сялян? — траха не адразу запыталася яна.

— Цішэй! Хадзем адгэтуль, тут нельга гаварыць.

Яны выйшлі на гасцінец паміж школаю і маёнткам. Тут нікога не было, але іх відаць было здалёку. Мусіць, хавацца не ўваходзіла ў планы і намеры Зыкава.

— Вы пыталіся, ці былі ў мяне сяляне? Былі.

— Гэта вы навучылі іх зрабіць сходку і іншае?

Зыкаў не адразу адказаў. Ён уважліва паглядзеў на дзяўчыну і сам запытаў:

— А чаму вы мелі намер якраз у мяне пытацца аб гэтых справах?

Зося не ўтаіла ад Зыкава таго, аб чым яна падслухала дома з кухні, нават хоць са злосцю на сябе, але сказала і аб бацьку і яго адказе сялянам. Зыкаў выслухаў яе з засмучаным тварам. З нервовасцю паведаміў ён, што яму нале-

жала думка аб сходцы і аб пытанні пра заработак. На тва-ры Зосі ад гэтых слоў ясна адбілася радасць: яна не ашу-калася, што ён падасць параду змагацца, а не бязвольна слухаць начальнікаў і пана. Сумны настрой Зыкава, аднак, адбіўся і на ёй.

— Нічога не выйшла са сходкі,— гаварыў з горкаю развагаю, быццам з сабою, Зыкаў.— Прынеслі абраз, як да прысягі прыводзіць — каб кожны пакляўся, што вытрымае абяцанку. З'явіліся непатрэбныя людзі, якія ўсё роўна на заработкі не ходзяць. Яны толькі насміхаліся над сходкаю. Потым намеснік абяцанкаю прыбаўкі на пяць капеек пера-цягнуў да сябе бедных удоў і бясконных. Ну і ўсё развалі-лася.Ураднік аддубасіў бізуном чалавек шэсць, каб сказалі, хто склікаў сход, але трасцу ён даведаўся... Іначай — астрог.

Прагаварыўшы гэта, Зыкаў супакоіўся, хоць твар яго і быў сумны. Зосі так захацелася яго пашкадаваць, ёй здава-лася, што ён надта гаруе. Яна чуць кранулася яго рукі кон-чыкамі пальцаў.

Да самае школы ён ішоў ужо спакойны, вясёлы, жарта-ваў, расказваў, як Параска, жонка таго пакалечанага пры адкрыцці гуты рабочага, яшчэ да гэтага часу ходзіць да яго спецыяльна хваліць яе, Зосю, альбо лаяць доктара, які дае малую бутэльку кропель, а грошы бярэ добрыя. Жартаваў Зыкаў і над тым, як пан Ляскоўскі часта прыходзіць на па-будову паперні і вядзе гутарку аб ватэрах, банкаброшах, фрэзерах, папіргольцах, трансмісіях так, быццам усё гэта мае дачыненне да яго ўласнае асобы. Зыкаў так удала пера-даваў асоб, аб якіх гаварыў, што нельга было не смяяцца. Але ў Зосі былі яшчэ і нейкія іншыя струны, якія весела гучалі незалежна ад смешных расказаў Зыкава.

Калі яны былі ўжо каля самых варот, з гудзеннем па-нёсся ім насустрач позні чмель. Раптам гудзенне абарвала-ся, і ў косах Зосі зашкрабалі, як лёгкая шчотка, жвавыя лапкі, затрапыхаліся крылы.

— Скіньце, скіньце яго! Я баюся!

І пакуль Зыкаў асцярожна браў за крылы нявольніка, лёгкі смяшок калыхаў грудзі Зосі. Калі ж чмель, выпушчаны на волю, зноў пусціў свой басісты звон, раздаўся такі раскацiста-звонкі, вясёлы смех Зосі, які ўжо даўно не быў чуцён і аб якім пакрысе пачалі забывацца.

## IX

У маёнтку Ляскаўцах часцей пачаў бываць Масей Рыгоравіч Ліўшыц. Яго капялюшык абечкам і белы пінжак, які ледзь абцягваў круглы жывот, мільгацелі то ў парку, то на беразе рэчкі, то каля будынка папяровае фабрыкі. Спачатку ён соваўся то туды то сюды разам [redacted] панам Ляскоўскім, але далей — ён не чураўся і адзіноцтва. Часта яго бачылі далёка ад маёнтка. Раз Сымон Кавальчык, заехаўшы на сваім чаўне па рэчцы аж да князёўскага лесу, быў надта здзіўлены, прыкмеціўшы недалёка ад берага пад маладым ельнікам тоўстага пана ў белым капялюшы.

— Вось дык цуд,— гаварыў у той вечар Сымон свайму пастаяльцу Зыкаву.— Ніколі не дагадаўся б я, што можна сустрэць пана ў такой глушы. І чаго яму там трэба?

— Якога пана? Ляскоўскага? — запытаўся Зыкаў.

— Ды не! Якога там Ляскоўскага. Нейкі круглы, як кадушка, з акулярамі, гарбаты нос, губы чырвоныя... У капялюшы і белым пінжаку.

— Га! Дык гэта гандляр лесам Ліўшыц.

— Табатож! Ён нейкім рагалём шараваў па дрэвах, а потым запісваў сабе на паперку... Глядзі ты, халера якая! — з ухмылкаю пажаваў Сымон.— Але на ліха яму здаўся тонкі ельнік, у яго ніхто яго не купіць?

Зыкаў акінуў быстрым позіркам свайго гаспадара і галасна засмяяўся:

— Дык вы думаеце, дзядзька Сымон, што гэты тоўсты пан дарэмна сябе турбуе? Не, яны не з такіх, каб так сабе матацца па лесе. Вы ведаеце, з чаго робяць паперу?

— Не... не чуў.

— Дык вось з таго дрэва, якое, як вы бачылі, вымерваў той лупаты пан.

Сымон доўга быў задумлены над гэтым, кідаючы недаверліва позіркі на свайго пастаяльца.

— І шмат трэба дрэва для гэтае вашае фабрыкі? — праз некалькі хвілін запытаўся ён.

— Вы думаеце аб паперні? Шмат, прыйдзецца нават здалёку вазіць.

— Значыцца, затрашчыць лес?

Дзядзька Сымон праказаў гэтае запытанне нібы самому сабе і ўтуліў свае вочы ўдалячыню, быццам углядаючыся ў шыр аголеных раўнін, на якіх да гэтага часу разлягаюцца велічэзныя абшары лясоў. Голас Сымона быў такі ўнылы, калі ён прамовіў гэтыя тры словы, што Зыкаву зрабілася аж нават крыху жутка. У словах гаспадара яму пачулася трывога за змены ў жыцці, якія мусіла зрабіць фабрыка. Што будзе лепшага ад фабрыкі — гэта пакуль што невядома Сымону, а лес затрашчыць. Зыкаў зразумеў няясную думку Сымона і сам задумаўся над тым, як зменіцца вёска пад уплывам двух узнікшых фабрык.

Але Зыкаву не было калі глыбока задумвацца над тымі вынікамі, да якіх прывядзе пабудова ў гэтым глухім месцы такіх даволі буйных фабрык. Настала пара, калі ён увесь час быў захоплены працаю. Самы будынак паперні быў ужо скончаны. Пачалася самая значная і важная частка работы па абсталяванню. Увесь пляц каля будынка паперні быў завалены катламі, далікатнымі часткамі дзвюх папяровых машын, на кожным кроку траплялiся рознае таўшчыні трубы. З самага ранку аж да позняга вечара Зыкаў са сваімі памочнікамі збіраў часткі машын, дапасоўваў іх, размяшчаў умацаванні ў самым будынку.

Некалькі часу назад у Ляскоўцах з'явіліся два інжынеры — адзін стары, з круглым жыватом, як у Ліўшыца, а другі яшчэ зусім малады, з прыгожаю постаццю. Спачатку яны часта наведваліся на паперню разам з панам Ляскоў-

скім і Ліўшыцам, потым малады наведваўся раз у дзень ужо пад ручку з паннаю Ядзяю. Крутануўшы разы два стэкам і запытаўшыся, як ідзе работа, ён вёў шчабятаўшую кансультантку да парку і больш не з'яўляўся. Зыкаў на першай пары затрымліваў інжынераў тымі ці іншымі запытаннямі, а потым махнуў на гэта рукою і пачаў весці работу сам, толькі для далікатнасці выслухоўваючы іх рэдкія заўвагі. Самая работа захапляла яго, і іншы дзень ён нават не паспяваў абедаць. Не раз ён не тое каб прыкмячаў, але адчуваў, што яго падручныя і рабочыя не зусім па-таварыску адносяцца да яго. Былі выпадкі, калі толькі ён падыходзіў да іх гуртка, то яны прыпынялі жвавую гутарку і моўчкі чакалі, што ён скажа ім ці загадае па рабоце. Іншага, здавалася, ад яго і не чакалі. Зыкаў адчуваў гэта і лічыў, што ён проста недастаткова знаёмы з імі.

Найбольш усіх цікавіўся будоўляю Масей Рыгоравіч. Здавалася, ён кінуў усе іншыя справы і цалкам аддаўся нагляду за паперняю. Кожную раніцу ён прыходзіў на папперню, нават раней іншы раз за самога Зыкава, прыветна сустракаў майстра і яго падручных, частаваў цыгарамі, а потым сачыў за іх работаю. Увечары ён зноў заходзіў сюды, аглядаў зробленае, запісваў нешта сабе ў кніжку і разам з Зыкавым выходзіў з варот, агледзеўшы вартаўніка і сабаку. Траплялася часта, што ён крыху праводзіў Зыкава, вельмі запроста гаварыў з ім і на развітанне па-прыяцельску клаў яму на плячо сваю руку.

Зыкаву прыкра была гэта фамільярнасць, тым больш што ён ніяк не мог уцяміць сабе, якое дачыненне мае Масей Рыгоравіч да пабудовы фабрыкі. Калі ён мяркуе сябе як дастаўшчыка сыравіны і апалу для фабрыкі, дык гэта з будоўляю, з наглядам за ёю мала звязана; калі ж пан Ляскоўскі проста даверыў яму гэты нагляд, дык мог ён знайсці за грошы больш пільнага, як прыехаўшыя, інжынера, які, мусіць, лепш за Масея Рыгоравіча ведаў бы самую будаўнічую справу. Зыкаў не ведаў, як вытлумачыць гэтае пытанне, і праз гэта не ведаў, як адносіцца да Ліўшыца. На ўсю

яго прыветнасць і гаварлівасць Зыкаў адказваў ці маўчаннем, ці надта коратка.

Адзін раз Зыкаў быў надта здзіўлены тым, што Масей Рыгоравіч даўжэй, як гэта бывала звычайна, праводзіў яго пасля работы. Стомлены за доўгі дзень работы Зыкаў даваў зразумець Ліўшыцу, што ён мусіць па ўласных абставінах спяшацца дадому. Але Масей Рыгоравіч нібы не разумеў асцярожных намёкаў Зыкава.

— А ведаеце, чаму б вам не зайсці да мяне? — раптам агаротыў Зыкава Масей Рыгоравіч.— Я, ведаеце, зусім не цураюся працоўных людзей, і вы зробіце мне вялікую прыемнасць, калі разам са мною правядзеце вечар.

Зыкаў не зразу адказаў яму. Па-першае, ён чамусьці якраз сёння ў перапынках паміж працаю часцей успамінаў чмяля ў валасах Зосі, і яго цягнула наведацца ўвечары ў школку; па-другое, ён ніяк не мог чакаць быць у больш інтымнай кампаніі з панам Ліўшыцам. Ён крыху заблытаўся з адказам, раззлаваўся за гэта на сябе і яшчэ больш сумеўся.

— Маўчанне — значыць згода! — і Ліўшыц узяў Зыкава нават пад руку, не шкадуючы свайго белага пінжака, які цёрся аб замасленую жакетку майстра.

Масею Рыгоравічу былі адведзены ў маёнтку два пакоі ў флігелі, які большай часткай пуставаў. Ён напаўняўся толькі тады, як у Ляскаўцы з'язджаліся госці, і госці розных калібраў. Звычайна ў флігелі размяшчалі другарадных асоб, Масей Рыгоравіч быў госцем невядомага рангу: яго ранг устанаўліваўся ў залежнасці ад настрою гаспадара, у якога ён гасцяваў. Але на гэты раз ён сам прасіўся ў флігель, дзе нікога не было.

— Ну, вось і добра, што зайшлі,— гаварыў Масей Рыгоравіч, падсоўваючы Зыкаву мяккае глыбокае крэсла.— Я ўжо шмат вечароў правёў тут адзін, і мне абрыдла пазіраць на гэтыя акацыі пад акном.

— Ці ж вас не клічуць у палац?

— Не клічуць? Няхай бы не паклікалі, паглядзеў бы

я! — запаліўся і разам патух Масей Рыгоравіч.— Я сам не надта хачу туды хадзіць. Гэтыя інжынеры атрымліваюць пенсію тут за тое, што з адным пан цэлымі днямі гуляе ў карты, а з другім — панна трэнькае на раялі ды надрываецца ў «белых акацыях». Гультаі!

Масей Рыгоравіч хадзіў па пакоі, чырвоныя губы яго чуць прыкметна ўздрыгвалі, руку ён падносіў да лба, быццам хацеў суцішыць гэтым сваю ўспышку.

— Выбачайце, я пачаў гаварыць непатрэбнае... Я вось прыглядаўся ўсе гэтыя дні да вас — які вы здатны ў сваёй справе работнік. Вам належала б быць не простым майстрам, гэта значыць недалёка ад рабочага, а інжынерам альбо, па меншай меры, тэхнікам. Вы добра ведаеце машыны, рабочыя вас баяцца, лічаць за начальства, і таму гэтая праца ідзе як нельга лепш.

Зыкаў уздрыгнуў ад гэтых слоў, нібы яго хто сцебануў чым вострым. Масей Рыгоравіч, які, як куля, качаўся ўзад і ўперад, не заўважыў тае перамены, якая здарылася з майстрам. Зыкаў тым часам прымусіў сябе супакоіцца. Ён пачаў думаць спакойна, супастаўляць гэтае ўражанне ад слоў Ліўшыца з тымі адчуваннямі, якія перажываў на паперні сярод сваіх падручных. Сувязь між тым, што сказаў аб ім Масей Рыгоравіч, і адносінамі да яго рабочых паўстала перад Зыкавым зусім яскрава. Ён, значыць, расцэньваецца і тут і там як добры прыгоншчык: тут хваляць, а там — там не лічаць за таварыша. Ці хацеў ён гэтага? Менш усяго. Занадта захапіўся самім працэсам працы. Гэта дрэнна.

Масей Рыгоравіч ужо некалькі разоў прыпыняўся перад ім, нават аб чымсьці пытаўся ў яго, але Зыкаў не прыкмячаў гэтага, будучы заняты гэтым самааналізам.

— Вы, мусіць, надта самаахвярны чалавек,— нарэшце ўцяміў Зыкаў словы Масея Рыгоравіча.— Вас хваляць, а вы нават і вухам не вядзеце... Але вы, мусіць, замарыліся за дзень? Што ж я гутаркамі займаю вас, трэба павячэраць.

Праз хвіліну-дзве на стале з'явілася закуска, некалькі рознакаляровых бутэлек. Панскі лёкай, прынёсшы ўсё гэта,

пажадаў спакойнае ночы і ціха рыпнуў выходнымі дзвярыма.

Масей Рыгоравіч распрануўся да сарочкі, не саромеючыся свайго раздзьмутага жывата. Ён наліваў шклянкі і кілішкі, частаваў Зыкава і сам паказваў, як трэба піць. Праз чвэртку гадзіны вочы яго ўжо блішчалі, як спонкі, ён напяваў «Тарэадора». Асабліва хвалюючы голас на словах «агонь крыві гарыць жывей».

— Пане Ліўшыц!..— «Тарэадор» прыпыніўся, не даехаўшы да «там ждет тебя любовь».

— Пане Ліўшыц, скажыце, калі ласка, чаму вы цікавіцеся так панскаю паперняю? — запытаўся Зыкаў.

— Чаму я цікаўлюся? Я ўсім цікаўлюся: ангельскаю палітыкаю ў Індыі, скакавымі коньмі графа Замойскага, сервітутамі ў лесе пана Ляскоўскага, мігрэнню жонкі губернатара Гірса... Усё цікава на свеце, асабліва тая справа, куды залазіш хоць крыху сваёю кішэняю.

Масей Рыгоравіч наліў сабе паўшклянкі вішнёўкі, адным узмахам кінуў яе ў рот і захадзіў з кутка ў куток.

— Вы ведаеце, пане майстар, што я ваш гаспадар, а не пан Ляскоўскі! Вам, можа, здаецца, што я нейкі прыганяты, наглядчык, пастаўлены ад пана Ляскоўскага? Памыляецеся!

Зыкаў здзіўлена глядзеў на Масея Рыгоравіча.

— Чаго вы так пазіраеце? Вы атрымліваеце заработак ваш не ■ кішэні пана Ляскоўскага, а з мае кішэні. Ведаеце, што мною, а не панам Ляскоўскім, будуецца папернresponse, і я тут усяму галава.

«Гэта ўжо зусім цікава»,— падумаў Зыкаў.

— А фабрыка будзе належаць вам? — запытаўся ён.

Як хто ўкалоў пана Ліўшыца. Нягледзячы на сваю грузкасць і таўшчыню, ён яшчэ шпарчэй закачаўся па пакоі, кідаючы вострыя позіркі да акна ў бок палаца.

— Ого! Яна і не мая. Фактычны валадар тут я, мой капітал, а юрыдычна — я нічога не значу, юрыдычна — усё,

ад самага пляца да апошняе трубкі, належыць пану Ляскоўскаму. Вось нашы расійскія законы!

Сказаўшы гэта, Масей Рыгоравіч крыху схамянуўся, прыпыніўся і боязна зірнуў у бок Зыкава. Але той сядзеў так спакойна, нібы словы Масея Рыгоравіча не рабілі на яго ніякага ўражання.

— Я шмат з чым не згодзен у нашым устроі...— ужо задуменна гаварыў пан Ліўшыц.— А вы як глядзіцё на дзяржаўны лад, на гаспадароў? — раптам запытаўся ён у свайго госця.

Зыкаў чуць прыкметна ўсміхнуўся ўбок, чаго Масей Рыгоравіч не мог прыкмеціць, хоць ён з цікавасцю ўставіў у Зыкава свае вылупленыя вочы.

— Я гэтымі справамі зусім не цікаўлюся і ніколі над імі не думаў; мяне цікавіла толькі вывучыць дасканала сваю вытворчасць, каб мець у жыцці сваё месца і кавалак хлеба,— адказаў зусім сур'ёзна Зыкаў.

— Так, так! Вы ніколі нават і не чулі аб сацыялізме? А я трошкі другое думаў аб вас.

Зыкаў рабіў надта напружаную работу над сабою, каб не глядзець на Масея Рыгоравіча, не паказаць свае цікавасці або непакойства. Выгляд яго заставаўся зусім спакойным; здавалася, гутарка Масея Рыгоравіча зусім не закранала яго. Непрыемна было толькі вытрымліваць калючы, неадчэпны погляд Масея Рыгоравіча, які нібы прагся прачытаць напісанае ў мазгах яго, Зыкава.

— Чаму ж не чуў? — каб прыпыніць гэты псіхалагічны допыт, адказаў Зыкаў.— Але што значыць гэтае слова, нават добра не разумею.

— А аб партыі народнае свабоды чулі?

— Таксама нічога не ведаю, але думаю, што гэта павінна быць добрая партыя, калі яна так называецца.

— Ну, вось і добра, калі вам так здаецца. Гэтая партыя самая лепшая, я належу да яе і магу вас азнаёміць з ёю зусім дасканала.

— Выбачайце, мне пара ўжо было б дадому ісці, заўтра трэба надта рана ўстаць, каб управіцца да прыходу рабочых вымераць месца для падмурку пад кацёл.

Масей Рыгоравіч, з лёгкаю мінаю сярдзітасці на твары, адмоўна махнуў рукою, паказваючы гэтым, што ён хацеў бы яшчэ затрымаць свайго госця. Але, крыху падумаўшы, ён сказаў:

— Мне падабаецца ваша дасціпнасць у працы. Трэба хутчэй канчаць пабудову, каб яшчэ ў пачатку восені пусціць фабрыку. Вы заўважылі, колькі лесу нагнана па рэчцы? Я ўжо залез у непрыступныя дагэтуль лясы князя Друцкага. Што не ўдавалася пану Ляскоўскаму, таго дамогся ў маёй асобе грашовы капітал: паляўнічыя заказнікі князя пакрысе пойдуць на карысць прамысловасці... Ну, ідзіце спачываць, нам патрэбна ваша сіла і здольнасць.

Масей Рыгоравіч праводзіў Зыкава аж да ганка, як знатнага госця. Зыкава, як толькі ён апынуўся адзін, апанавала агіднасць і супраць Ліўшыца, і нават супраць самога сябе. Даць магчымасць гэтаму тоўстаму мяшку зацягнуць сябе на гэтую непатрэбную вячэру з выпіўкаю, ад якое ішла кругам галава, выслухаць яго пахвальбу аб магутнасці капіталу, падпасці траха не палітычнаму допыту, а потым атрымаць блаславенне на далейшую дасціпнасць у працы — і ад каго?! Ад таго, хто пасабляў, раіў пану Ляскоўскаму адабраць у сялян пашу ў лесе, хто арганізаваў праз урадніка развал сялянскае стачкі! Лаючы сябе за дапушчаную слабасць і шукаючы матывы, якія маглі б зменшыць яго вінаватасць ва ўласных вачах, Зыкаў непрыкметна для сябе стаў кружыцца на адным месцы па кручаных сцежках пярэдняе часткі парку. Напрамак яго думак калі-нікалі перарываўся гукамі музыкі і песень, якія несліся ў расчыненыя вокны другога паверха палаца. Гэта яшчэ больш абазляла Зыкава, і ён не знаходзіў апраўдання свайго візіту да Ліўшыца. І як ён не мог разабрацца ў адносінах да яго рабочых, калі нават збоку гэтаму гандляру відаць, як пазіраюць на яго, Зыкава, рабочыя.

— Ну, але, можа, так лепей: хоць з боку гэтых выпадковых гаспадароў можна лічыць сябе застрахованым,— прагаварыў сабе Зыкаў.

Ён ужо павярнуўся ў бок галоўнае сцежкі, збіраючыся ісці дадому і дзівячыся сваёй нераўнаважнасці, якая кружыла яго на адным месцы. Але яго ўвагу прыцягнуў рып жарствы ў напрамку да палаца. Зірнуўшы туды, Зыкаў не мог стрымаць іранічнае ўсмешкі: белая куля кацілася да параднага ганка палаца.

— Вось табе і не ходзіць у палац! Можа, будзе гаварыць там аб маёй некультурнасці, каб забавіць інжынераў і паненку, а можа, і прамаўчыць, каб не паказаць, што дапусціў мяне ў кампанію з сабою... Але лёкай там быў — скажа...— праносілася ў галаве Зыкава, калі ён праходзіў па густой таемнай сцежцы.

Між тым Масей Рыгоравіч важна ўкаціўся ва ўнутраныя пакоі палаца следам за дзябёлым лёкаем з блішчастымі галунамі на ўбранні. У зале за круглым столікам арэхавага дрэва сядзеў пан Ляскоўскі ў машастовым халаце з тоўстым старым інжынерам. Яны моўчкі ігралі ў нейкую картачную гульню. У другім канцы залы каля раяля пад агромністымі вазонамі стракатала панна Ядзя і чуўся смачны барытончык прыгожага свежага інжынера.

— Га! Вось дык на́ руку,— з радасцю сказаў Масею Рыгоравічу пан Стась.— Цяпер мы можам як след завінціць, а то пан Гржэбельскі больш любіць вінціць каля панны, чымся за картачным сталом. Сядайце, калі ласка.

Масей Рыгоравіч павітаўся з усімі, выказаў здзіўленне здольнасцям інжынераў, якія так удала і хутка будуюць паперню, сказаў два-тры ігрыстых словы для панны Ядзі і грузна апусціўся ў застагнаўшае пад ім крэсла. Але яму не сядзелася на месцы. Крэсла рыпала ўсімі сваімі спружынамі: здавалася, вось ён устане і кіне гульню. І сапраўды, пасля трох-чатырох роббэраў ён, папрасіўшы прабачэння, падняўся і папрасіў пана Ляскоўскага на некалькі хвілін у другі пакой.

— Ну, я крыху аблапаў яго,— сказаў Ліўшыц, зачыняючы шчыльна дзверы.

— Ужо? Як вы сказалі — аблапалі?

— Так. Нават завалок да сябе і падпаіў. Нічога, ён будзе нам карысны. У палітыцы ні бум-бум. А работнік ён здатны і пільны.

— Так, так! Ну, і добра. Але ўсё ж няхай прыглядаюць за ім гэты паліцыянт Ганчарук ды Пісарэўскі.

— А дзеля чаго ж Пісарэўскі?.. А, разумею, настаўніцкая дачка...

— Разумееце, а яшчэ гаварыць трэба!

— Сорам, ці што, у пана? Сорам, ведаеце гэта... глупства.

— Пан Ліўшыц! Вы занадта зазнаецеся са мною. За працу вашу — дзякуй, а за абыходжанне — выбачайце. Больш нічога? Ну, хадзем за стол, а то інжынеру будзе маркотна.

Пан Ляскоўскі ўжо ўзяўся за ручку дзвярэй, але Масей Рыгоравіч цвёрда і настойна зноў прычыніў іх.

— Не, не ўсё. Гэта была толькі драбніца. Галоўнае ўперадзе.

— Што ж яшчэ?

— Ці ведае пан, што на яго паперню трэба грошы ды грошы? Я дастаў што можна было. Цяпер чарод за вамі — вытрасайце кішэні, і добра вытрасайце.

— У мяне лішніх грошай няма, і я нічога не дам.

Масей Рыгоравіч зняў свае акуляры, памахаў імі перад сваім носам і ўставіўся вачамі ў Ляскоўскага, як быццам разглядаючы яго ўпершыню або як нейкую цудоўную рэч.

— Выбачайце мяне, але гэта блазенства, ад якога вы, мусіць, яшчэ не зусім адышлі! Што ж, па-вашаму, усе гэтыя машыны і прылады так і будуць валяцца на двары? Ці, мэжа, прадаць іх?

— Гэта ваша справа, і, апроч усяго, прашу мяне не вучыць. Хадзем, мы трацім дарэмна свой і пана інжынера час,— жорстка адказаў Ляскоўскі.

Ліўшыц усхвалявана закруціўся па пакоі, кідаючы гнеўныя позіркі ў бок свайго высокага кампаньёна.

— Не, тут нельга кпінкі рабіць! Я залез у пазычку амаль не ва ўсіх мінскіх банкіраў, выматаў лясныя дзялянкі ў гэтага шалёнага Друцкага, здабыў усё патрэбнае для будоўлі, а тут — на! Дробязі якой-небудзь ад вас не дастанеш. Дзеля вас жа ўсё гэта робіцца!

— Ха-ха-ха! Вы захоплены толькі творчаю старонкаю справы — якая самаахвярнасць! А па чым вы лічыце мне сваё ламачча? Колькі зарабляеце? Я хоць і блазан, па-вашаму, але не дазволю сябе пакінуць у дурнях.

Масей Рыгоравіч крыху прыціх, супакоіўся быццам. Рыска гневу расплылася, знікла, і яе месца заняла ўжо новая рыска — хітрага дабрадушша.

— Кінем спрэчкі, імі справе не дапаможаш. Усё роўна грошы даставаць трэба, і як мага хутчэй, бо праз месяц-паўтара фабрыка павінна быць пушчана ў ход. Ведаеце што — нам трэба зрабіць так, каб большы атрымаць крэдыт у банках.

— Як гэта — большы, якім чынам?

— А проста — павысіць каштоўнасць фабрыкі і пад гэтую розніцу дамагчыся падвышэння крэдыту.

Пан Ляскоўскі кінуў жвавы запытальны погляд на Ліўшыца, рассмяяўся скрыўлена і, павярнуўшыся да акна, нібы ўважліва пачаў углядацца ў цемень на двары.

— Гэта ж машэнства, што вы прапануеце,— кінуў ён адтуль.

— Ой, якія страшныя словы! Усё, што вядзе да карысці, культурны чалавек павінен дазволіць сабе. Ну, а калі вам не спадабаецца такі шлях, дык ёсць іншы: залажыце фабрыку ў такім стане, як яна ёсць, і дастаньце грошы! Толькі закладны ліст перадасцё мне.

Ляскоўскі скокнуў ад акна і ў момант стаў перад Ліўшыцам. Па твары яго праходзілі сударгі, пальцы складаліся ў кулакі.

— Што вы сказалі? Як вы пасмелі? Не было яшчэ вы-

падку, каб Ляскоўскія закладвалі сваё добра, пускалі да сябе ацэншчыка, а тым больш... тым больш... каб давалі сваё дабро на хаванне... гандляру!

— П-фэ, пане Ляскоўскі! І навошта гэтыя высокія словы высакароднага рымляніна? Ваша фабрыка? Вашага ў ёй пакуль што толькі пясчаны груд — больш нічога.

Кампаньёны прайшліся моўчкі па адной дыяганалі, але ў розных напрамках. Сустракаючыся, яны адварочвалі адзін ад другога галовы, як злейшыя ворагі. Так хадзілі яны некалькі хвілін. Але далей крокі іх пачалі рабіцца цішэйшымі, галовы пачалі павяртацца адна да другой. Нарэшце яны разам прыпыніліся, і пан Ляскоўскі апусціў сваю тонкую руку на шырокае плячо Масея Рыгоравіча.

— А ведаеце, ваш першы рэцэпт нельга не прызнаць геніяльным. Ён усё больш мне падабаецца, калі яго абдумаеш як след,— сказаў ён.

— Я таксама думаю, што ён найлепей усяго.

— Так, так... Дык вы думаеце, што паперня будзе каштаваць каля мільёна? — спакойна і зусім прыязна гаварыў пан Ляскоўскі, варочаючыся з Ліўшыцам да картачнага стала, за якім адзінокі інжынер раскладаў пасьянс.

— Не менш, шаноўны пане,— у тон адказваў Масей Рыгоравіч, збіраючы калоду для раздачы на новы вінт.

— Ну што ж, будзем выкручвацца, будзем будаваць. Ці не так, Міхал Мікалаевіч? — звярнуўся пан Ляскоўскі да тоўстага інжынера, аб'яўляючы «большой шлем».

Міхал Мікалаевіч нешта прамармытаў, як кот, якога гладзіш паміж вушэй, і пачаў ход. Панна Ядзя напоўніла залу гукамі шапэнаўскага паланеза.

## X

Пачыналася восень. На палях засталіся толькі зялёныя палоскі бульбы, якія вузенькімі стужкамі красаваліся сярод жоўці калючага ржышча. То там то сям зачарнеліся плямы ворыва пад азіміну; найбольш руплівы гаспадар ужо хадзіў

у развалку па палосцы з сяўнёю і размашыста кідаў свежае зерне зноў у зямлю. На парканах па вёсцы насаджаны снопікі льну, каб недаспелы крыху дайшоў на сонцы, якое дае ўжо толькі мяккае цяпло. Буслы некалькі дзён трымаюцца на балотнай сенажаці каля рэчкі агромністаю чарадою, робячы толькі рэдкія ўзлёты, нібы берагучы свае сілы на далёкую дарогу. І вось, у адну раніцу, ачнуўшыся, зірнеш туды, дзе ўваччу мільгацела ад белых з чорным кропак, і ўгледзіш толькі роўнае пустое балота. Птушкі крануліся на поўдзень. За буслам пакідае нас розная дробная птушка, якая так жывіць нашы пахмурныя хваёвыя лясы, глухую ўбогую вёску. Толькі доўга, аж да замаразкаў, ноччу рэчка і балоты агалашаюцца гогатам і краканнем дзікіх гусей ды качак.

Пятрусь Мікалаевіч пачаў рыхтавацца да заняткаў у школе. Схадзіў, вымаліў неяк у старшыні дроў, паставіўшы яму за гэта кварту гарэлкі. У школе на дзень з'явілася глухая Тадора, выцерла чатырохмесячны пыл са сцен, мэблі, вымыла падлогу аж да каляд. Раніцою кожны дзень пачалі прыходзіць у школу дзеці, якіх Пятрусь Мікалаевіч запісваў у тоўстую кнігу.

Пачатак працы ў школе ажывіў крыху падупаўшага Петруся Мікалаевіча. Ён з вялікаю цярплівасцю выслухоўваў доўгія характарыстыкі, якія давалі кабеты сваім хлапчукам, трапляўшым у школу ўпершыню. Ужо ён ведаў, што амаль кожная будзе прасіць, каб пан настаўнік добра сачыў за яе сынам, які досыць распусны і якога трэба вучыць розуму, ставячы на калені або дзеручы за вушы. Пятрусь Мікалаевіч выслухоўваў такія просьбы і стараўся запэўніць руплівую маці, што будзе дбаць, каб добра навучыць яе сына.

Пятрусь Мікалаевіч так аддаўся ўласным школьным справам, што неяк не заўважыў нават добра ад'езду Тодара. Але інакш справа абстаяла для Зосі. Два-тры дні пасля таго як Тодар схаваўся ў будзе балагола нязменнага Салавейчыка, яна не знаходзіла сабе месца. Дома было ёй сумна, вы-

мушаная служба ў канторы з кожным днём станавілася ёй усё больш адваротнаю, наведвацца запроста ў маёнтак, як гэта было раней, яна ўжо зусім не магла. Тодар быў ёй блізкім сябрам, які любіў яе шчыра і разганяў яе сум сваімі вясёлымі выдумкамі. Зыкаў... Зыкаў даўно ўжо не паказваецца ў школе. Праўда, яна іншы дзень бачыць яго, як ідзе на службу або са службы, на фабрычным пляцы. Але ён заўсёды заняты і толькі здалёку вітаецца з ёю. Не раз бывала, што, адказваючы на такое прывітанне, у яе з'яўлялася думка, і хутчэй не думка, а пачуццё, зусім не прыкмячаць яго, каб ён зразумеў сваю недалікатнасць. Але ўсё ж нешта шкодзіла зрабіць такі крок.

Адзін раз Тадорына дачка, якая, як і маці, жыла тым, што хадзіла мыць падлогу, летам жала падзённа, узімку прала за мізэрную плату чужы лён, падгаварыла Зосю пайсці ў лес за грыбамі. Зося згадзілася з ахвотаю, каб хоць крыху разагнаць сваю нуду. З гэтага разу вандраванні па лесе так спадабаліся ёй, што яна чуць не кожны дзень пасля службы ішла туды. Седзячы на мяккай зялёнай коўдры мху пад густою шапкаю ялін, якія прапускалі толькі змрочнае святло, Зося аддавалася розным летуценням. То ёй малявуўся вялізарны горад з залюдненымі вуліцамі, з вялікімі тэатрамі, дзе яна слухае чароўную музыку, то бачыла яна сябе нейкаю выдатнаю дзеячкаю, незалежнаю ад нікога — ні то пісьменніцаю, ні то вучонаю, а то ўспамінаўся ёй... Зыкаў, якому трэба нешта сказаць. Што б яна сказала яму ў такую хвіліну, мусіць, і сама яна не ведала. Але ёй здавалася, што, калі б ён быў тут, пад гэтымі высачэзнымі маўклівымі ялінамі, яна б многа-многа гаварыла б з ім.

Праз нейкі час пачаліся надаедныя восеньскія дажджы. Дробная імгла сыпалася як праз сіта. Галлё, завялая трава і быллё набраклі, па вуліцы вёскі ні праехаць ні прайсці. У лес стала нельга хадзіць. Зося шкадавала мінулага часу, яе так вабіла да сябе таемная вялікасць супакойнага восеньскага лесу. Праўда, і цяпер яна не зусім развіталася з лесам. Калі-нікалі яна, апрануўшы старэнькую ватную

кофту, заходзіла ў ельнік на гадзіну-другую і слухала, як стукалі па лесе падаўшыя з галля каплі. Але гэта стала рэдкім здарэннем.

Неяк яна ўспомніла аб Рыгорчыку, якому былі папсаваны вочы пры адкрыцці гуты. Ёй зажадалася наведацца ў пасёлак, пабачыць Піліпа з Параскаю. Калі яна падыходзіла да пасёлка, то перш за ўсё заўважыла вялікую перамену ў ажыўленні. Не чуваць ужо было ні гармоніка, ні песень, не відаць было дзяцей, якія ўлетку длубаліся ў пяску. Убогія дашчаныя скрынкі ўныла тырчалі на пяшчаным гале. Падышоўшы да будкі Рыгорчыкаў, Зося пачула траха не безупынны кашаль, які, здавалася, вось-вось растрасе кволую будыніну.

— Ах, добры дзень, паненачка! — прывітала Зосю Параска, як толькі яна ўвайшла ў хату.— Даўно ж вы не наведваліся да нас. Праходзьце, праходзьце далей.

Піліп з дзецьмі сядзеў за сталом. Ён устаў, абмахнуў рукавом зэдлік і прыветна прапанаваў яго Зосі. Закашляўся, пастаяў хвіліну, стрымліваючы рукою рот.

— Як вашы вочы, дзядзька Піліп? — запыталася Зося.

— Дзякуй вам і таварышу Зыкаву! Крыху горш бачу, але ж не застаўся навек калекаю. Падлячыўся, доктар добры.

— Ай, доктар, доктар! — уставіла Параска.— А колькі ён высмактаў грошай, ліха яго галаве!

— Што ж зробіш, наш век такі — ганяюцца ўсе за рублём, усе лупяць, імкнуцца быць багатымі, а за чый жа кошт? Вядома, за наш. Доктар не лепшы і не горшы за другіх.

Зося аж падскочыла знячэўку і сунула руку за каўнер. Мокра і холадна. Піліп заўважыў гэта.

— Вы крыху перасуньцеся бліжэй да стала. Можа, не так скора тут плюхне са столі. Гэта ж чыстае пакаранне, катаванне нават пачалося з гэтаю вадою. Вось ужо больш як дзесяць дзён усё мокрае ў хаце. Супачыць нельга: цэлую ноч ляпае на цябе вада кропля за кропляю.

Піліп зноў закашляўся, за ім падхапілі дзеці, і, мусіць, з хвіліну дружны хрып, харканне трэслі сцены будыніны.

— Чаму ж вы не паправіце дах? — запыталася Зося.— Гэта ж горш, як на дварэ сядзець.

— Ох, і не кажыце, даражэнькая паненачка! Няхай яго пярун спаліць, такое жыццё,— застагнала Параска.— Чула маё сэрца, што не трэба было ехаць сюды з Целеханаў.

Яна падаткнулася і пачала завіхацца каля бляшанае грубкі, ад якой скора дым пачаў разыходзіцца па ўсёй хаце і няшчадна есці вочы.

— Чула тваё сэрца... На жаль, яно ў цябе чуе праз паўгода пасля. Там смачна, дзе нас няма... Дык вы пытаецеся, чаму не паправім мы дах? — звярнуўся ад Парacкі да Зосі гаспадар.— Прасілі ў намесніка дошак, нават хоць бы аполкаў, але ж нічога не выйшла з гэтага, адмовіўся даць. Вось і пазяхаем, як тручаныя авечкі.

Зосю нібы прыдушыў які цяжкі нагнёт. Яе ўласныя агарчэнні цяпер здаваліся ёй такімі мізэрнымі, такімі непрыкметнымі ў параўнанні з доўгаю пакутаю такое грамады людзей, што яна зусім была збянтэжана і мусіла лічыць сябе шчасліваю перад Рыгорчыкамі і ўсімі іншымі, хто вымушаны жыць на гэтай пясчанай гары. Ёй стала брыдка за свой адносны дабрабыт і пачало здавацца, што Піліп з жонкаю інакш, як варожа, не могуць да яе адносіцца, хоць з іх абыходзін гэтага не было прыкметна. Няўжо ж няма выхаду з гэтага? Нават быдла пана Ляскоўскага гадуецца ў лепшых памяшканнях... Вось з-за чаго яе татка ўдзельнічаў у рэвалюцыі, а можа, там што і інакш было...

— Трэба ж патрабаваць у самога пана лепшых умоў,— сказала яна.— А калі і гэта не дапаможа, дык трэба... трэба рэвалюцыю рабіць.

Апошнія словы Зося выпаліла раптам і ў момант зачырванелася, як мак. Піліп палахліва зірнуў на яе некалькі разоў, потым ціха прагаварыў:

— Аб гэтым так нельга гаварыць, паненка; прапасці

можна як піць даць. Дый вы яшчэ, мусіць, зусім не ведаеце, як робяцца рэвалюцыі.

Зосі стала зусім брыдка. Яна адчувала, што Піліп лічыць яе яшчэ за блазна. Дык яна ж пакажа яму, што яна ўжо не блазан.

— Я не ведаю, як робяць рэвалюцыі? Можа, вы думаеце, я не ведаю, што было ў часы рэвалюцыі ў Парыжы? Там рабочыя і бедныя ваявалі з багатымі, уміралі за вольнасць, ці ж не так?

— Можа, яно і так, але, калі ласка, кінем аб гэтым гаварыць. Гэтая гутарка можа каштаваць мне работы, а вам службы.

Зося змоўкла, а потым, перакінуўшыся яшчэ некалькімі словамі з Параскаю, выйшла з хаты.

— Ты глядзі, Параска,— сказаў Піліп, як толькі зачыніліся за Зосяю дзверы,— не распускай свой доўгі язык — не кінь дзе таго слова, якое чула сёння ў маёй гутарцы з паненкаю.

— А што ў ім кепскага?

— У ім нічога кепскага, але нам з табою можа быць кепска, дый гэтай дзяўчыне.

— Я ўжо і забылася, як яно выгаварваецца.

— Гэта пакуль што і добра.

Зося ішла па пусташы з такім пачуццём, быццам яна нашкодзіла, як малое дзіцянё. Гэты Піліп, цёмны рабочы, як яна лічыла яго ўперад, перасцерагаў яе, нават гатоў быў навучаць. Не, яна больш не пойдзе туды, на гару. Праўда, ім жывецца надта дрэнна, але чаму ж яны нічога не робяць, каб палепшыць сваё жыццё? Тут яе думкі, аднак, перакінуліся да самой сябе. Вось яна там, у лесе, малявала сабе іншае ўласнае жыццё, а чаму ж нічога не робіць, каб дамагчыся яго? Мусіць, думаць — гэта адно, а здзейсніць думкі — зусім іншая справа.

— Значыцца, чалавек не ёсць магутная сіла,— ціха, дзеля сябе прагаварыла яна.

— Калі ён адзін, не грамадою.

Зося ўздрыгнула. Побач з ёю, у вячэрнім змроку, стаяў Зыкаў. Крыху горача стала ёй на сэрцы, калі яна падавала яму сваю руку.

— Што вы казалі?

— Я толькі працягнуў вашу думку, якую пачалі вы.

— Ха-ха-ха! Вы ўжо надумаліся за гэтыя часы, што мы не бачыліся, чытаць чужыя думкі?

— Гэта ўжо не такая трудная навука, калі чуеш вушамі чужыя думкі.

— Як гэта — чуеш? Я вас не разумею.

— Ды вы ішлі і гаварылі голасна — праўда, не так, каб далёка было чуваць.

Зося засаромелася, дый словы Зыкава паказаліся ёй крыху насмешнымі. Гэта сапсавала той радасны настрой, які адразу палыхнуў пры нечаканым спатканні з ім. Яна, як усе самалюбівыя людзі, калі закранута гэтая іх старонка, не магла ўжо вольна гаварыць з Зыкавым. Ён бачыў, як нехутка адбылася ў ёй змена, і шкадаваў, што зрабіў ёй непрыемнасць.

— Вы ўжо раззлаваліся на мяне Зося Пятроўна. Я цяпер, як і заўсёды, зусім не хацеў рабіць вам непрыемнасці. Але ж вось неяк так складваецца, што я сваёю няўклюжаасцю, можа, гэта ад мужыцтва, ужо не раз псаваў вам настрой. Даруйце мне, бо толькі тады чалавек вінаваты, калі ён робіць што дрэннае знарок.

Зося пасвятлела, і ў вачах яе ўжо скакалі вясёлыя чарцяняткі. Яны пайшлі па дарозе, і Зося паведаміла і аб ад'ездзе Тодара, і аб сваіх вандраваннях па лесе, і нават аб сваіх летуценнях. Хамянулася яна толькі тады, як сказала, што ёй хацелася тады гаварыць з ім пад ялінамі. Яна нават і не скончыла гаварыць аб гэтым і ў сораме апусціла вочы. Ёй у галаў застукала:

«Ён жа да нас не паказваецца, а я выкажыла ўсё».

Зыкаў, крыху схіліўшыся, між тым ціха запытаўся:

— Што ж вы заціхлі? Гаварыце, гаварыце далей!

Голас яго стаў асабліва мяккім, якім яшчэ Зося яго не чула.

— Чаму вы даўно ў нас не былі? — запыталася Зося замест таго каб паведамляць далей аб сваіх лясных летуценнях.

— Ведаеце, я ж цэлымі днямі заняты безупыннаю працаю, а ўвечары, калі трапляецца вольная гадзіна, дык у мяне таксама... ёсць праца.

Зося выслухала ўсё гэта з нахмураным тварам. У словах Зыкава ёй чулася далёкая адчужанасць. Можа, для яго, сапраўды, няма нічога цікавага ні ў яе бацьку, ні ў ёй самой, і праз гэта для яго важней нейкая там работа вечарамі. Але яна яшчэ зрабіла спробу.

— Няўжо ж ваша вячэрняя праца, не звязаная з фабрыкаю, такая пільная, што ў вас не знаходзіцца хвіліны зірнуць на нас з таткам? — запыталася яна.

Голас дзяўчыны быў зусім ціхі, і Зыкаву пачулася, што ён ідзе ад самага яе сэрца. Нешта гарачае хлынула яму ў галаў і грудзі. Ён паспешна схапіў Зосіну руку аберуч і крыху дрыжаўшым голасам паспешна прагаварыў:

— Мне надта, надта непрыемна будзе, калі вы будзеце дрэнна аба мне думаць. Паверце, што мая праца вечарамі шмат важнейшая, як работа днём на паперні. І ў гэтай працы часта, надта часта бываюць хвіліны, калі мае думкі цалкам належаць вам.

Зося разам загарэлася, а потым апусціла галаў: быццам промень склізнуў і знік, як сонца схавалася за хмару. Падняўшы праз хвіліну вочы, яна запытальна паглядзела на Зыкава. Ён, быццам чытаючы яе думкі, казаў далей:

— Я таксама, як і вы, часта бываю ў лесе, толькі больш вечарамі.

— Дык гэта работа? — пачакаўшы крыху, насмешна-холадна запыталася дзяўчына.

— Работа, ды яшчэ якая! — сур'ёзна адказаў ён.

Нейкую хвіліну-другую яны ішлі моўчкі. Ужо ў шэрым змроку на іх насоўваўся чорны сілуэт школы. У адным акне,

як воўчае вока, блішчаў аганёк, ад якога светлая пляма легла папярок вуліцы. Зыкаў прыпыніўся, лёгка крануў за плячо дзяўчыну, моўчкі просячы яе, каб і яна стала.

— Вы былі, здаецца, зараз у Рыгорчыкаў? — ціха запытаўся ён.

Зося кіўнула галавою.

— Што вы там заўважылі? Што вас больш усяго там зацікавіла?

— Мяне? Цікавага нічога, толькі... толькі немагчыма так жыць.

— Вось гэта праўда. Жыць так немагчыма, і трэба змяніць усё нашчэнт, а дзеля гэтага патрэбна работа, вялікая работа.

— Дык вы аб гэтай рабоце казалі, што заняты ёю вечарамі?

— Аб ёй... Ну, вось мы і прыйшлі. Я пайду цяпер на сваю работу. Прывітайце, калі ласка, ад мяне Петруся Міхалаевіча і... не думайце дрэнна аба мне. Я буду з нецярплівасцю чакаць часу, калі зноў давядзецца пабачыцца... з вамі.

Зыкаў даўжэй, як трэба, затрымаў руку дзяўчыны. Потым развітаўся і хуткімі крокамі, не аглядваючыся, пайшоў у бок маёнтка. Зося стаяла на месцы і глядзела ўслед Зыкаву, пакуль сілуэт яго зусім не прапаў у імгле восеньскага вечара і не заціхлі яго крокі па дарозе.

Свет і цені пралётвалі па яе твары, калі яна ўвайшла ў пакой, дзе за кніжкаю пры лямпе сядзеў яе бацька...

Тыдні праз два Зося, праходзячы раніцою ў кантору міма гуты, была надта здзіўлена тым, што, не заўважаючы хоць на дробны, але досыць часты дождж, на двары стаяў вялікі натоўп рабочых. Адтуль чуліся асобныя выкрыкі, разабраць якія было даволі трудна, бо іх зараз жа перамагаў агульны гоман грамады людзей. З коміна, як заўсёды, валіў чорны слуп дыму, але праз вокны не відаць было бліскучых кругоў-маланак, якія звычайна ў гэты час ужо мільгацелі па ўсяму даўжэразнаму памяшканню гуты.

— Пане Пісарэўскі! Што гэта...— скорагаворкаю запыталася і зразу асеклася Зося, пераступаючы парог канторы.

У канторы, апроч бухгалтара Пісарэўскага, былі намеснік,ураднік з шашкаю і рэвальверам на баках. Яны стаялі пасярод пакоя і нервова перакідаліся асобнымі словамі. Бухгалтар Пісарэўскі падцягнуў сваю адвіслую губу і раз-пораз папраўляў свой гальштук, хоць ён на гэты раз быў шмат лепш завязаны, як звычайна. На Зосю ніхто з іх нават не зірнуў, калі яна, асцярожна абыходзячы іх, аддала агульны ўклон.

— Выйдзем! — сказаў намеснік, лёгка сцябаючы гарапнікам па халяве свайго бота.

Усе ўтрох выйшлі, і па тупату Зося чула, што яны спыніліся і стаяць на ганку. Чутны былі няясныя словы, якімі з перапынкамі, як бы нехаця, яны перакідаліся між сабою. Дзяўчына ціхенька, на насках падышла да акна, з якога відаць было ўвесь двор і гуту. Натоўп рабочых не зменшыўся. Адтуль чуцен быў яшчэ мацнейшы гоман. Раптам натоўп ускалыхнуўся, як спеючае жыта пад ветрам, і крануўся ў бок канторы. Праз хвіліну перад ганкам канторы стаялі амаль не ўсе рабочыя гуты. Зося бачыла з узвышку твары ўсіх рабочых. Барадатыя, зусім маладыя, і толькі што выбіваючыміся вусамі, але ўсе зеленаватыя ад бледнасці; вочы амаль не ўсіх слязіліся. Замасленыя сарочкі, каптаны, сажныя апаленыя рукі... Зося пераводзіла свой позірк з аднаго на другога; сярод рабочых яна не магла знайсці Піліпа Рыгорчыка.

На ганку раздаўся і зразу змоўк тупат.

— Чаму вы не на працы? — пачуўся моцны, крыху ўсхваляваны голас намесніка.

Натоўп маўчаў, толькі касыя позіркі кідалі рабочыя адзін на другога спадылба.

— Ну, хто ж адкажа, чаму вы не працуеце? Ужо восьмая гадзіна!

Спераду натоўпу тры-чатыры чалавекі варухнуліся. Ад іх адарваўся нізенькі худы рабочы, які выйшаў уперад. Ён

стаў, зірнуў уверх на ганак, правёў гразнаю рукою па потным твары, пакінуўшы на шчацэ тлустую пляму сажы.

— Мы прыйшлі прасіць...

— Чаму не знімаеш шапкі перада мною? — зазвінеў і са скрыгатам панёсся ў натоўп па ўсяму двару голас намесніка.

І Зося бачыла, як нешта матлянулася ў паветры, потым глуха хлыснула. Потым паволі з'ехаў з пляча рабочага канец плеценага сырамятнага бізуна. З ганка працягнулася чыясь рука і сарвала з галавы рабочага выцвіўшую скамечаную шапку. Яна дугою праляцела і хлёпнулася на зямлю, якраз перад акном, дзе стаяла Зося. Гэтая шапчонка, ▪ саломінкамі і пухам у яе ворсе, ляжаўшая мізэрным камячком на зямлі, чамусьці асабліва ўрэзалася ў памяць Зосі. Як толькі кідала яна вокам на яе, то адчувала боль у плячы, як яе самую перацяглі бізуном...

Натоўп варушыўся, трапятаў, дрыжаў, як лісце на асіне.

— Завошта ты яго пабіў? — дрыжаўшым голасам запытаўся другі рабочы, выходзячы ўперад.— Мы — не прыгонныя перад табою!

— Маўчаць, не смець мяне тыкаць!.. Чаго ж вы хочаце, дзедку? — звярнуўся пан намеснік да аднаго старога рабочага, сыходзячы да яго з ганка.

Стары хістануўся крыху ўбок, быццам адхіляючыся ад замаху, які мог зваліцца на яго галаў, потым пераступіў з нагі на нагу і зняў шапку.

— Дык вось, паночку, мы прыйшлі... прасіць вашу міласць... каб як-небудзь з хаткамі нам пасобілі... Цяпер вось ліе за каўнер, нельга ж жыць у дзюравых будках. Толькі і сагрэешся, як стаіш каля печы на гуце... Няма рады з жанкамі, дзецьмі, якія гібеюць у балоце, у холадзе... Змілуйцеся, паночку... Што ж будзе ўзімку...

Многія рабочыя насупіліся і не паднімалі галавы, пакуль гаварыў стары. Ззаду пачаўся глухі гоман, асобныя пагрозныя выгукі.

— Чаго ты там разліваешся, стары?! Давай кватэру! — раптам пакрыў натоўп моцны голас з задніх радоў.

Ураднік саскочыў з ганка і, трымаючыся рукою за кабур, праслізнуў у натоўп. Там ззаду нейкую хвіліну-дзве ішла лёгкая мяльцяшына, потым супакоілася.

— Вашу заяву мы разгледзім,— моцна сказаў пан намеснік, узыходзячы на ганак.— Я далажу аб гэтым ягамосцю пану Ляскоўскаму. Там паглядзім...

— Няма чаго дакладаць! Давай кватэру,— выгукнулі збоку.

З хвіліну была цішыня, толькі чуваць было, як саплі напружаныя грудзі вялікага натоўпу людзей.

— Ну, марш на работу!.. Хто не хоча працаваць, выходзь уперад! — скамандаваў выразна, адасабляючы кожнае слова, пан намеснік.

Ніхто не варухнуўся, толькі зноў касыя позіркі спадылба адзін на другога.

— Значыцца, ніхто не хоча кідаць працу? Ну, дык з богам, а заяву мы разгледзім і што можна будзе зробім,— ужо зусім спакойна сказаў намеснік.

Праз момант на ганку затупалі. Зося стралою скочыла ад акна, села за свой стол і разгарнула ведамасці. Плячо яе ныла, і яна падносіла другую руку, каб памацаць балючае месца.

Тройка ўвалілася ў кантору. Яны расселіся каля стала бухгалтара. Намеснік дастаў срэбны партабак і пачаставаў сваіх сяброў.

— Ты, Ганчарук, сёння забяры гэтага шчупленькага і другога, што прыгону не любіць.

— Слухаю, пане! Толькі шкада, што я не дабраўся да таго, хто там ззаду выгукваў,— злосна прагаварыў ураднік.

— Нічога, не хвалюйцеся! — працадзіў скрозь зубы, адпускаючы сваю губу, бухгалтар Пісарэўскі.— Я па голасу ведаю, хто гэта; яны ў мяне ўсе, як на далоні.

— Вось дзякуй вам... Ну, я пайду! — заспяшаўся ўраднік, бразгаючы аб ножкі зэдліка шашкаю.

Гоман за акном заціхаў, аддаляўся. За ўраднікам выслізнуў неўзабаве з канторы і сам намеснік. Усё зноў увайшло ў звычайную каляіну. Тыя ж кніжкі, тыя самыя ведамасці з слупкамі лічбаў, той самы Пісарэўскі, з адвіслаю губою і з'ехаўшым гальштукам. Толькі плячо ныла ў Зосі ды на сэрцы скробся нейкі чарвячок агіднасці.

— Што гэта здарылася? — нібы нічога не ведаючы, запыталася Зося ў бухгалтара.

— Гэ, дрэнь! Нічога... Ім вось не падабаюцца кватэры... Хіба палацы ім будаваць? — быццам з сабою, мармытаў Пісарэўскі.

— А вы думаеце, яны не праўду кажуць? — ускалыхнуўшыся, запыталася далей Зося. Плячо яе занyла мацней.— Вы... вы прабавалі жыць у такіх будках?

Бухгалтар скасіў адно вока, прыглядзеўся на Зосю, губа яго затрэслася ад смеху.

— Прыраўнавалі! Ці жыў я ў будцы — ці ж я сабака?.. Ха-ха-ха! Ну, і запытанне... А наогул вам няма чаго соваццa ў такія справы... Па-першае,— не дараслі, а па-другое — у кабеты, ведаеце, які розум, хоць яна і дарослая... Наце вось гэтыя рахункі ды асобна іх падлічыце... Сёння павінна быць зроблена.

Твар Зосі загарэўся ад пагарды, але яна стрымалася, прыкусіўшы губу. Схіліўшыся нізка над сталом, яна старанна выводзіла лічбы, потым ляскала лічыльнікам і зноў запісвала. Збоку магло здавацца, што яна цалкам захоплена працаю. Аднак думкі яе круціліся каля ранішняга здарэння, каля камячка шапкі рабочага на зямлі, каля «вячэрняе працы» Зыкава. Ці ведае ён аб тым, што здарылася на гуце? Праўду ён казаў, што палепшыць стан рабочых — гэта вялікая праца. Але што трэба рабіць для гэтага, і як рабіць? Можа, трэба навучыць усіх, каб яны ішлі вось так скопам прасіць. Прасілі ж сёння — і бізун па спіне! Зося ўздрыгвала ад аднаго ўспаміну аб бізуне, які гадам спаўзаў з пляча гэтага нядошлага рабочага. Яна парашыла ніколі больш не

вітацца з намеснікам, хоць бы давялося ёй сустрэцца з ім у непасрэднай бліжыні.

Ды не толькі намеснік, усе сталі ёй адваротнымі. Яна ўкрадкам некалькі разоў кідала позірк на свайго начальніка. Той сядзеў за сваім сталом, смактаў кручаную цыгарку, попел з якое шапкамі спадаў на разгорнутую «главную» кнігу. Ніколі ён не быў такім агідным, як у гэты дзень. Уся яго постаць так адваротна ўсхвалявала Зосю, што яна не магла валодаць сабою ўвесь астатні час дня. Яна дамагалася сцішыць сябе, выклікаючы ў думках малюнак Зыкава. Напаследак яна не вытрымала. Напісала некалькі слоў на паперцы, сунула ў канверт і выйшла ў сенцы.

— Пайдзіце на паперню і аддайце гэта майстру, толькі самому! — сказала яна вартаўніку канторы.

— Замест таго каб займацца фіглямі-міглямі, лепш вы працавалі б як след,— сказаў ёй, гледзячы ў акно, Пісарэўскі, калі толькі яна звярнулася на месца... Вось выкрасліце з спісу рабочых і зрабіце адмеціну аб звальненні з сённяшняга дня Блажко, Шнітмана і Глыбоўскага.

— Ча... чаму? — здзівілася Зося.

— Не ваша гэта справа!.. Няхай не дзяруць горла аб кватэрах.

Насоўваўся змрок. На гуце загуў гудок. Зося ішла па дварэ, прыгінаючыся, быццам на яе плечы ўзвалены быў вялізарны цяжар. Пад імглою рабочыя ў адзіночку, з панурымі галовамі, хутка праскоквалі праз вароты, закрываючыся каўнярамі і не азіраючыся па баках. Зося, невядома чаму, пайшла не на шлях, а ўздоўж рэчкі, па сенажаці, дзе было пуста, дзе далі закрываліся шэра-белаватаю імглою.

Дарэмна ў гэты вечар чакаў яе ў школе, з яе запісачкаю ў кішэні, Зыкаў.

## XI

На другі дзень Зося не ўстала з пасцелі. Галава яе гарэла, ва ўсім целе адчувалася ламота, нібы хто яе пабіў. Пятрусь Мікалаевіч занепакоіўся, без карысці круціўся па па-

кої, мачыў у халоднай вадзе ручнік і прыкладаў да палаўшага лба дачкі. Ён нават не пайшоў у свой клас да вучняў, якія даўно ўжо гулі, як пчолы, і грукаталі па класе. Некалькі разоў дапытваўся ён аб прычыне хворасці ў самое Зосі, але яна адказвала няведаннем. Толькі выпадкова, зірнуўшы пад ложак, ён заўважыў, што Зосіны чаравікі былі мокрыя і гразкія траха не да верху халявак; тут жа побач ляжалі мокрыя скручаныя панчохі.

— Да ты ж прастудзілася!

— Можа. Я ўчора ішла ад пападзі і ўпацёмку трапіла ў калюжыну, а пасля гэтага крыху пасядзела ў нашым садку.

— Ах ты! Як малое дзіця. Ну, ці ж можна было сядзець? — папікнуў яе бацька.— А тут учора быў Зыкаў, прасядзеў са мною аж да позняга, чаго з ім раней ніколі не было.

Зося павярнула твар да сцяны.

— Ну, ідзі сабе ў школу, а то дзеці там ашалеюць. Толькі прышлі да мяне Тадорыну дзяўчыну.

Пятрусь Мікалаевіч падзівіўся, як гэта ён сам не здагадаўся зрабіць гэта. Памацаўшы лоб дзяўчыны, ён выйшаў за дзверы, а праз паўгадзіны каля ложка Зосі ўжо стаяла Марылька. Зося ўстала і, накінуўшы на сябе коўдру, падышла да стала. Яна дрыжаўшаю рукою чыркнула некалькі слоў і папрасіла аднесці запіску да Сымона Кавальчыка, у якога кватараваў Зыкаў. Марылька шуганула з хаты, як летні вясёлы вецер.

Яшчэ нават не прагучаў гудок на гуце, як Зыкаў ужо быў у школцы. Выгляд яго быў такі ўстрывожаны, што Зося перапалохалася і перш за ўсё запыталася, чаму ён такі, што з ім здарылася.

— Са мною?! Са мною нічога не здарылася.

— А вы такі ўсхваляваны. Чаму?

Зыкаў адвярнуўся ўбок. Твару яго не відаць было Зосі.

— Вам трудна? — ціха, з незвычайнаю ласкаю запытаўся ён замест адказу.

Зося працягнула сваю руку і гарачымі трапяткімі пальцамі разы два правяла па працягнутай да яе цвёрдай і шурпатай далоні Зыкава.

— Ваша рука, як агонь! — І, не чакаючы, ён кранууся яе лба. У Зосі нешта мацней застукатала ў грудзях, і калі рука Зыкава была аднята, галава яе сама прыпаднялася ўслед за карчаватымі яго пальцамі.

— Ну, не трэба траціць часу! — і абцасы Зыкава ўжо застукалі ў сумежным пакоі.

— Куды ж вы так хутка? — запытаўся збянтэжаны Пятрусь Мікалаевіч.

— Да мястэчка! — Дзверы бразнулі, і за акном пратукалі паспешныя крокі.

Каля другое гадзіны па поўначы Пятрусь Мікалаевіч, задрамаўшы на зэдліку, ускочыў ад бразгату каля дзвярэй. Праз момант у хату ўвайшоў Зыкаў, а за ім тоўсты чалавек з скураным чамаданчыкам у руках.

— Здравствуйте, почтеннейший! — з расстаноўкаю, цвёрда вымаўляючы кожны гук, прагаварыў чалавек з чамаданчыкам.— Это — сумасшедший человек,— паказаў ён у бок Зыкава.— Только что мы с Бертой легли, и я собирался почитать себе на ночь, как ужаснейший стук: не только сонный, мертвый поднялся бы. Он меня таки тащит себе с постели наполовину одетого, тащит в эту проклятую балаголу и, как кащей царевну, мчит себе по долам и оврагам в неизвестный край, навстречу бурям и непогодам.

— Пане доктар, там патрэбна ваша дапамога,— перабіў Зыкаў здольнага да гутаркі таўсцяка.

Доктар распрануўся, адчыніў свой чамаданчык і з нейкаю дудачкаю ў руках накіраваўся ўслед за Петрусём Мікалаевічам. Ён паслухаў грудзі, плечы, паставіў градуснік.

— Вовремя захватили! Я уже не сержусь на своего похитителя, молодец он.

Зосю напаілі нейкімі парашкамі, накрылі ўсімі коўдрамі, якія меліся. Уночы яна кідалася па ложку, вымаўляла непрытомныя словы. Зыкаву нават пачулася, што раз яна

клікала яго. Ён увайшоў да хворае, але вочы яе былі заплюшчаны... Яшчэ было зусім цёмна, а над вёскаю, маёнткам, рэчкаю і дальнімі лясамі панёсся адзінокі гудок гуты. Зыкаў падняў з падлогі сваю шапку і пайшоў да дзвярэй, кінуўшы па дарозе погляд на спаўшых на канапах Петруся Мікалаевіча і доктара. У Зосіным пакоі было ціха...

Зыкаў пачаў кожны вечар бываць у школе. Праз дзень гарачка ў Зосі зменшылася, толькі яна сама была надта нямоцнаю. Як толькі прыходзіў Зыкаў, яна як найхутчэй адсылала бацьку і Марыльку, якая не адыходзіла ад яе цэлымі днямі, і паднімалася на ложку. Прасіла яго або пачытаць ёй што-кольвечы, альбо гаварыць аб тым, што з ім здарылася ў яго ўласным жыцці. Калі ён першае выпаўняў ▪ вялікаю ахвотаю, то аб сабе абмаўляўся двума-трыма словамі.

— Чаму вы так скупа гаворыце аб сабе? — запыталася раз дзяўчына.

Зыкаў уважліва паглядзеў на яе з-за кніжкі, якую збіраўся чытаць, і ціха сказаў:

— Калі-небудзь шмат скажу, усё скажу, калі вы гэтага захочаце.

— Я хачу цяпер, цяпер! — і задорысты аганёк заблішчаў у яе крыху яшчэ гарачкаватых вачах.

— Цяпер нельга. Вось зноў ваша рука стала гарачэйшаю; вам нельга хваляваццa,— як доктар, спакойна ўгаварваў яе Зыкаў.

Ачуньвала Зося даволі хутка. На пахудзелым твары яе зноў паказаліся ружовыя кветкі здаровае маладосці. Праз тыдзень яна ўжо хадзіла ў садку, сярод пажоўклых дрэў чуцён быў яе галасок, напяваўшы нейкую песню без слоў. Яна стала вясёлаю і жвavаю, як вясною. Толькі тады, калі не заходзіў Зыкаў, яна замаўкала, і дарэмна Пятрусь Мікалаевіч стараўся рассмяшыць яе якім-небудзь кпінкам альбо вострым словам.

Калі яна з'явілася першы раз пасля хваробы на службу, Пісарэўскі сустрэў яе неспадзявана прыветна. «Зноў нейкая

штука»,— падумала Зося. І сапраўды, не паспела яна зняць жакетку, як ён падляцеў да яе і, нібы найвялікшую радасць, паведаміў, што сам пан Ляскоўскі даведваўся аб ёй і шкадаваў, што не можа яе бачыць. Зося нічога не адказала на ліслівы даклад бухгалтара і моўчкі прынялася за працу.

— А скажыце, калі ласка, праўда гэта ці не, што ў вас нейкі кавалер завёўся? Я гэтаму ніколі не паверу, але людскія байкі такія.

Зося, як маланкаю, бліснула на яго вачамі і зноў уставілася ў паперу.

— Вядома, усё гэта брахня. Вамі, даўно відаць, цікавіцца пан Ляскоўскі, а які ж яшчэ кавалер параўнаецца з ім? Ён, хто яму спадабаецца, засыпле кветкамі і золатам.

Зося ўскочыла як на спрунжынах.

— Калі вы яшчэ хоць слова скажаце, я кіну вашу агідную кантору.

Пісарэўскі змоўк, неяк скурчыўся, як печанае яблыка. Увесь дзень ён на насках хадзіў, калі яму трэба было прайсці міма Зосі. Пасля заняткаў, выйшаўшы следам за ёю на ганак, ён мяккім галасочкам прасіў, каб яна не сердавала на яго і, барані божа, не сказала чаго аб ім пану Ляскоўскаму.

Але словы Пісарэўскага аб яе кавалеры не былі ўжо так непрыемны Зосі. Людзі гавораць аб ёй. Значыць, яна ўжо не малая, яна ўжо жанчына... Зося ішла дамоў у такім высокім настроі, быццам яе чакала там пэўнае, хоць і невядомае, шчасце. Сутычка з Пісарэўскім, яго брыдкія намёкі хоць часам і ўспаміналіся ёй, але гэтыя ўспаміны не затрымліваліся надоўга і зараз жа засланяліся нейкаю ружоваю хваляю з бліскучымі на ёй зоркамі.

Напяваючы ціха песню, прыйшла яна дамоў. Бацька нават быў крыху здзіўлены тым, што яна вясёлая, нягледзячы на тое, што сам сказаў ёй, што Зыкаў у гэты вечар не будзе. (Стары прыкмеціў прычыну маўклівасці дачкі!) Яна прайшла ў сваю баковачку, запаліла лямпу, а потым доўга кошкалася ў шуфлядцы з рознаю дзявочаю драбязою. Знай-

шоўшы напаследак кніжачку з вызалачаным абрэзам, яна пераргартала яе, прачытала некалькі першых старонак. Потым шаснула перачытаныя аркушыкі, скамячыла іх і кінула ў грубку. Сеўшы за стол, яна запісала некалькі радкоў на першай, зусім чыстай цяпер, старонцы; перачытала, задумалася, зноў пачала пісаць... Доўга ў гэты вечар то схілялася над сталом, то выпросталася, задумаўшыся, яе галава.

Была нядзеля. Дзень выдаўся такі цёплы, ясны, якія рэдка бываюць у канцы верасня ці пачатку кастрычніка. Зранку быў лёгкі мароз, у срэбра апрануўшы далёкія сенажаці. Але сонейка хутка зняло гэтае ўрачыстае пакрывала, і зноў лагчыны паказалі сваю блёкла-зялёную коўдру. Пад поўдзень у паветры панесліся белыя ніткі павуціны. Яна чаплялася за лазняк, за дрэвы, садзілася на адзежу, на валасы. Цішыня і светлая празрыстасць чыстага паветра.

Зося зранку пагаспадарыла, нават зрабіла бацькаву работу, прагледзеўшы вучнёўскія пісьмовыя работы. Наскакалася па садзе, ганяючыся за акрыяўшым ад сонца матылём — апошнім жывым успамінам прайшоўшага лета. Потым пляла гірлянду з жоўтых, чырвоных і зялёных лістоў, густа пакрываўшых усе дарожкі і сцежкі саду. Зрабіўшы сабе вянок, які блішчаў на сонцы ўсімі адценнямі, яна надзела яго на голаў і ў такім выглядзе, як мадонна ў дарагой аправе, з'явілася да бацькі. Але як толькі пераступіла яна парог, вянок рассыпаўся, лісце разляцелася ў бакі, пакрываючы падлогу. Зыкаў стаяў каля акна і весела ўсміхаўся.

— Шкада, што вы парвалі яго.

— Ён... ён сам рассыпаўся,— пакрысе прыходзячы ў сябе ад нечаканасці, адказала Зося.

— Ведаеце, я зайшоў за вамі, каб вы паехалі са мною ў чаўне па рэчцы,— паглядаючы то на бацьку, то на дзяўчыну, сказаў Зыкаў.

— Як — па рэчцы? — запытаўся Пятрусь Мікалаевіч.— Знайшлі час для такое язды.

— А чаму ж? Сёння цёпла.

— Цёпла-то цёпла, але ўсё ж гэта ўжо не ўлетку. Па-мойму, гэта вы няўдала прыдумалі.

— Татачка, паедзем! — ускінулася Зося.— Апранемся цяплей, вось і ўсё. А такія дні ўжо астатнія.

— Што ты, дачушка? У цябе ж нядаўна «воспаление легких» было. Нельга больш блазанстваваць.

— Ну паедзем, нічога страшнага не будзе. Татачка, даражэнькі...

Пятрусь Мікалаевіч доўга думаў, маўчаў. Зося не адводзіла ад яго просячага погляду.

— Ну, як сабе хочаце, а я не паеду. На сырасці растраўлю свой раматус, тады кепска будзе. А вы, калі хочаце, то паедзьце. Толькі доўга нельга, ды апраніся цяплей.

Зося заскакала на месцы, забыўшыся, што тут жа стаіць Зыкаў. Яна хамянулася, але было позна, прыйшлося толькі засаромецца.

Рэчка то белым, то цёмным волавам агортвала бакі чоўна, які чуць-чуць зыбаў у бакі ад нахілаў Зыкава, калі ён апускаў у ваду весла. Човен лёгка склізгаўся ўперад, і маёнтак, хаткі вёскі, нават будынкі гуты і паперні здрабнелі, толькі малюсенькімі плямкамі адбіваючыся на жоўта-зялёнай коўдры палёў і сенажацей. Хутка яны зусім прапалі з вачэй, схаваўшыся за звівамі блытаных берагоў. Месца сенажаці на беразе занялі кусты, дробныя дрэвы. Яны аблягалі з бакоў рэчку, як залочаная з малахітам аправа-люстэрка. Калі толькі дакрануцца да куста, дык заўюцца, замільгацяць у паветры рознакаляровыя матылі лісця. Пакруціўшыся ў паветры, яны ціха лажацца на ваду, гойдаюцца на хвалях, а потым зоркамі плывуць па блакітнай гладзі немаведама куды.

За паваротам паказаўся высачэзны чуб сасняку. Над самаю вадою вісеў дуб. Гэта тое самае месца, куды ўлетку Зыкаў часта ездзіў з Сымонам Кавальчыкам. Хоць і прарочыў дубу Сымон, што ён зваліцца ў раку, але той усё яшчэ смела працягваў у неба свае сталёвыя лапы. Мусіць, не

падаспела яшчэ навальніца. Зыкаў накіраваў човен якраз да гары.

— Куды ж мы прыехалі? — пыталася Зося.

— А вось узыдзем наверх — пабачыце.

Падтрымліваючы Зосю пад руку, Зыкаў адбіваўся другою рукою ад лазняку, гарошніку, якія недалікатна лезлі пад ногі, чапляліся за адзежу, зрывалі з галавы шапку ці хустку. Гэтая барацьба спадабалася Зосі, і яна сама кінулася ўперад, нагнуўшы голаў і выцягнуўшы перад сабою рукі. Яна зачырванелася, як вішня, галлё дражніла яе, і яна смяялася, як срэбраны званок.

— Вось, глядзіце цяпер! — абвёў рукою Зыкаў вакол, калі яны дасягнулі самага верху гары, дзе кустоў ужо не было, а толькі рэдкія хвоіны ды адна-дзве яліны.

Зося азірнулася кругом. Стужка рэчкі, блішчаўшая ў бясконцых закутках, сіва-зялёны хвойнік на тым беразе, які цягнуўся, здавалася, на край свету, лёгкія палі і сенажаці з другога боку і рассыпаныя там вёскі, як чародкі авечак,— усё гэта давала малюнак магутнай шырыні і прастору.

— Як тут добра! — з захапленнем прамовіла Зося.— Я з маленства жыву ў Ляскаўцах, а ніколі не даводзілася быць мне на гэтай гары.

Яна злёгку абаперлася на руку Зыкава і прыслухоўвалася да цішыні, якую парушаў лятучы дзе паводдаль лісток. Калі-нікалі яна ўзглядала знізу ўверх на твар Зыкава, і радасць казлытала яе пад сэрцам. Ён жа ціха наблізіў да яе валасоў руку і выбіраў з іх дробныя лісточкі, хваёвыя іголкі, якія насадзіліся на голаў, калі яна пусцілася ў барацьбу з чэпкімі кустамі.

Раптам рука яго прыпынілася. Зося зірнула яму ў твар і прыкмеціла, што ён пільна прыслухоўваецца. Яна таксама стала слухаць і праз хвіліну пачула лёгкае плёсканне ў рэчцы. Але з-за гары нічога не было відаць. Хутка плёсканне прыпынілася, потым пачуўся прыглушаны гоман некалькіх чалавек.

— Гэта яны! — быццам пра сябе прагаварыў Зыкаў.

Зося занепакоілася. Ёй сорамна стала ад думкі, што іншыя людзі пабачаць яе тут з вока на вока з хлопцам. Яна ўпіклівa паглядала на Зыкава, моўчкі сярдуючы на яго за недалікатнасць. Па ўсяму было відаць, што ён ведаў, хто ідзе сюды, і, мусіць, ён загадзя змовіўся з імі. Значыць, ён не дзеля яе прыехаў сюды... Усе гэтыя думкі пранесліся ў яе галаве маланкаю. Яна адступілася ад Зыкава і нецярпліва камячыла між пальцамі ражок хусткі.

Праз некалькі хвілін кусты зашумелі, затрашчала ламачча пад нагамі ішоўшых. Яны ўжо зусім блізка... Зыкаў вітаецца з імі. Зося падняла вочы. Трое прыйшоўшых здзіўлена разглядалі яе. Але вось адзін з іх прыветна ківае ёй галавою. Ды гэта Піліп Рыгорчык. Добрая палова цяжару спала з сэрца.

— Добры дзень, Зося Пятроўна,— падышоў да яе Піліп.— Вось гэта нашы таварышы.

— Будзьце ўсе па-простаму,— сказаў у свой чарод Зыкаў.— Гэта тая дзяўчына, аб якой я вам казаў. А гэта — нашы бліжэйшыя з Піліпам таварышы,— дадаў ён, звярнуўшыся да Зосі.

Але хоць так проста было зроблена знаёмства, Зося не магла адразу зусім заспакоіцца. Адзін з незнаёмых раз-пораз кідаў на яе цяжкія, запытальныя позіркі, нібы прогся выведаць усё, што было захавана ў яе думках, сэрцы. Ні аднае прыветнае рыскі нельга было прыкмеціць на яго хмурым твары. Зося старалася не глядзець на яго. Апроч гэтага, яе непакоіла думка аб тым, што ж будзе далей. Нездарма яны сабраліся сюды, і чаму яна тут? Ёй станавілася жудасна.

— Давайце пачнём справу,— прапанаваў Зыкаў.

Зося спалохана зірнула на яго. Што ж гэта будзе? Няўжо?..

Усе селі ўкруг. Яна не ведала, як ёй трымацца, куды дзецца.

— Садзіцеся, калі ласка,— далікатна прапанаваў Рыгорчык і нават паслаў па мху свой пінжак.

Зося нясмела прысела, але страх крыху прайшоў.

— Дык вось, таварышы! Справа такая,— загаварыў Зыкаў, калі ўсе размясціліся,— нам трэба абгаварыць, як дзейнічаць далей. Пан Ляскоўскі адмовіў рашуча ў належнай папраўцы будынкаў у пасёлку. Толькі дазволіў узяць крыху дошчак і забіць праломаныя стрэхі. Такім чынам, становішча застаецца цяжкім і грозным з набліжэннем зімы. Трэба абмеркаваць, як направіць сваю ўсю справу.

У Зосі зусім адлягло ад сэрца, і нават яна смела глянула на хмурага рабочага.

Абмеркаванне зацягнулася. Вырашыць пастаўленае пытанне было трудна. Пахмурны рабочы, падтрымліваемы другім, якога Зося раней не ведала, настойваў на рашучых кроках. Ён прапанаваў аднавіць запатрабаванні і падтрымліваць іх нават нявыхадам на працу аж да тых часоў, пакуль пан Ляскоўскі не здасца і не задаволіць іх патрэбы. Рыгорчык трымаўся больш асцярожна, і ў яго ясных прапаноў не было. Зыкаў жа адразу заняў пазіцыю арганізацыі самадапамогі.

— Час ужо прапушчаны,— казаў ён.— Пакуль вы арганізуеце выступленне ў другі раз, якое зрабіць нялёгка, бо ва ўсіх на памяці вынікі першага, надыдзе зіма ўжо якраз. Паны на ўступкі не пойдуць — гэта ясна. Што ж, па-вашаму, застацца без работы і кавалка хлеба? Зіма палохае кожнага, і арганізаваць забастоўку ні ў якім разе не ўдасца.

— Гэтая палахлівасць і недавер'е мне зусім не зразумелы,— уставіў хмуры рабочы.

— Справа не ва мне, не ў маіх там здольнасцях ці нядахопах, а ў падрыхтаванасці ўсяе рабочае грамады. Нам трэба весці яшчэ вялікую працу дзеля гэтага,— адказаў Зыкаў.

Спрэчкі цягнуліся яшчэ некалькі хвілін, не даючы нічога новага. Напаследак Зыкаў прапанаваў галасаваць. Як і раней было відаць, галасы іх падзяліліся пароўну: Рыгорчык з Зыкавым былі за адно, астатнія ўдвух — за другое.

— Вы, Зося Пятроўна, як бы думалі?

Зося не ведала, што адказаць, бо пытанне было пастаўлена зусім нечакана для яе. Яна то апускала, то паднімала вочы, прагучыся не глядзець у бок хмурага рабочага. Перад ёю ясна ўстаў малюнак Піліпавае будкі, як яна бачыла яе ў апошні раз. Але мароз праляцеў па спіне ад аднаго ўспаміну. Зосі здавалася, што яна адчувае холад ад заліваўшае за каўнер вады. Яна ўявіла сабе ясна выгляд Піліпавае хаткі ўзімку, калі праз шчыліны надзьме ў яе снегу.

— Я думаю, што вось яны,— паказала Зося ў бок хмурага,— прапануюць больш правільна.

— Такім чынам, галасоў у вас больш,— сказаў Зыкаў. Нам прыйдзецца слухаць і выконваць.

Але раптам усё перавярнулася ўверх дном. Хмуры, які ўвесь час упарта прыглядаўся да Зосі, як толькі яна выказала згоду з яго прапановаю, заварушыўся і папрасіў перагаласаваць. Зыкаў падзівіўся, але паставіў на галасаванне: хмуры адказаўся ад свае прапановы і далучыўся да прапановы Зыкава. Зося адчувала сябе зусім збянтэжанаю, ёй сорамна было зірнуць каму ў вочы. Нават туман слёз падступіў і на момант засланіў яе вочы, але яна прымусіла сябе ўтрымацца ад слёз, захаваць спакой.

Зыкаў заўважыў па зменах, якія адбіваліся на твары Зосі, што яна ўсхвалявана і можа выявіць сваё абурэнне. Ён схіліўся да яе, крануўся ціха рукі і глянуў ёй проста ў вочы. Яна зусім заспакоілася.

Пасяджэнне цягнулася яшчэ нейкі час. Абгаварвалі падрабязнасці арганізацыі рабочае самадапамогі. Зося асабліва не ўнікала ў гутарку. Яна толькі ўвесь час адчувала, што кіруючая роля ва ўсім належала Зыкаву, які проста і ясна выкладаў свае думкі і даводзіў іх да ўразумення таварышаў.

Калі з гэтым пытаннем было скончана, Піліп аднекуль прывалок сярэдняй велічыні куфэрак. Несучы яго, ён аж згінаўся ад яго цяжкасці. Гэты куфэрак быў даверху завалены кніжкамі, лістоўкамі, нават пісанымі аркушамі і сшыткамі. Зыкаў дастаў адну з невялічкіх кніжак, і пачалося чытанне. Гэта былі «Павукі і мухі».

Сонца ўжо хавалася. Кружок яго рубам стаяў на вяршынях хваін зарэчнага лесу. Кніжка была дачытана, куфэрак замкнуты. Піліп узваліў яго сабе на спіну і праз хвіліну прапаў у гушчары кустоў. Калі ён вярнуўся, Зыкаў і Зося развітваліся з усімі і пачалі сыходзіць да рэчкі. Таварышы праводзілі іх датуль, дзе пачынаўся круты спуск. Хмурны нешта прабурчаў, падаючы на развітанне руку Зыкаву. Зося злавіла толькі словы «цягнуў сюды яе».

Назад ехалі ўніз па рэчцы. Кусты пацямнелі, пачарнелі. Рэчка пасыпалася зоркамі, якія адбіваліся ў ёй з неба і трапяталі на дробных хвальках. Іх уздзімаў чуць прыкметны вячэрні вецер. Даль закурэлася лёгкімі яшчэ празрыстымі космамі туману... Зыкаў клапатліва аглядзеў Зосю, ці добра закрыта яна ад сырасці і холаду. Папраўляючы ёй каўнер, ён знячэўку крануўся яе цёплае нежнае шыі. Агонь прайшоў па ўсіх жылах. Ён ужо больш не браў вясла ў рукі. Човен плыў за вадою. Зыкаў сеў на дно. Рукі Зосі і яго сышліся, перадаючы, зліваючы цяпло абодвух.

Раптам човен уздрыгнуў, раздаўся шолах і трэск. Зося ўскрыкнула і хістанулася ўбок. Човен завагаўся мацней.

— Ціха, ціха! — і моцныя рукі Зыкава абхапілі тонецькі стан дзяўчыны.

Галава яе схілілася яму на плячо. Трымаючы адною рукою дзяўчыну, ён другою выправіў на сярэдзіну ракі човен, які прыгнала да берага. Човен зноў паплыў сам, яшчэ раз моцна загойдаўшыся.

— Ах, як я перапалохалася! — адхіляючыся ад Зыкава і чуць не задыхаючыся, пралепятала Зося.

— А я хацеў бы, каб яшчэ раз вы перапалохаліся,— не выпускаючы яе рук, адказаў ён.

І раптам ён схапіў дзяўчыну за плечы, прыцягнуў да сябе... Зоркі міргалі з неба: ім было зайздросна...

Каля брамкі школы яны разышліся.

— Можа, зайшлі б да нас? — шапнула яна.

— Не, я пайду яшчэ паблукаю пад зоркамі,— адказаў ён.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## I

Рог дзвюх бакавых вуліц Мінска канчаўся тынкаваным плотам, які сажняў на сто цягнуўся па кожнай вуліцы. Некалі белая фарба гэтага тынку даўно ўжо зрабілася шэраю, нават зялёнаю ад моху ў некаторых месцах, асабліва там, дзе дрэвы, што раслі на той бок плота, не толькі звісалі галлём над плотам, але працягвалі свае магутныя лапы аж да сярэдзіны вуліцы. Гэтыя дрэвы, бадай, старэйшыя за тынк, надавалі вуліцам патаемны выгляд, і не толькі ўночы, але і ўдзень гэты рог іх прыцягваў увагу сваёю заглухласцю, пустэльнасцю. Цікаўны чалавек, які хацеў бы даведацца, што робіцца за высокім старым тынкам, не адразу здаволіў бы сваю цікаўнасць, бо жалезная брама, выходзіўшая на адну з вуліц, была заўсёды наглуха зачынена. Толькі ўвечары, як сцямнее, іншы раз забурчыць там сабака і пачуецца павольнае тупанне чалавечых крокаў.

Цэлыя гады, нават дзесяткі гадоў гэты рог не ажыўляўся. Тынк усё больш плеснеў, пераходзячы з шэрае ў зялёную фарбу. Брама чырванела ад іржы. Дрэвы ўсё ніжэй звісалі сваім галлём над вуліцаю, і рэдкія прахожыя чапляліся за яго галавою... І вось у адзін дзень жыхары вуліцы былі незвычайна здзіўлены грукатам калёс, ды не адных, а многіх. Усё жывое, што было на гэтай вуліцы, кінулася да варот, вокан, на плот. Сапраўды было на што паглядзець. Уздоўж усяе вуліцы цягнуліся адна за адною, доўгаю радоўкаю каламажкі, фурманкі, кары, а наперадзе грукаталі дзве ці тры карэты з пазалочанымі арламі і каронкамі на дзверцах. Побач з карэтамі і каламажкамі ехалі конна, ішлі ўпешкі вусатыя дзябёлыя мужчыны ў шапках з уваткнутымі ў іх чорнымі пёрамі і ў цёмна-зялёных сурдутах з расшытымі блішчастымі каўнярамі і рукавамі. Брама была адчынена наўсцяж і глытала адну фурманку за другою.

Насельніцтва вуліцы ўсхвалявалася. Мурзатыя дзеці з

голымі пузамі несліся побач з фурманкамі і, мусіць, праціснуліся б у вароты, каб там не стаяў паважны палкоўнік або, можа, і сам генерал [redacted] пугаю ў руках. Ён уважліва аглядаў кожны воз і не забываўся замахнуцца пугаю, калі які занадта цікаўны пузан запускаў свой нос за вароты. Кабеты паднялі страшэнны гармідар і сабраліся ў натоўп каля халупкі шаўца, якая была якраз супраць гэтае патаемнае брамы. Шмат каму з іх давялося ў першы раз убачыць, што за тынкам і дрэвамі знаходзіцца вялізарная камяніца з калонамі, з ганкам, з высокімі, але вузкімі, як шчыліны, вокнамі. Наверсе над кожным рогам дома падымаліся ўгару, як свечкі, тоненькія, вострыя вежы з флюгаркамі на жалезных стрыжнях.

— Няўжо ж гэта князь прыехаў? — больш як быццам у сябе пытаўся шавец Мотка.— Я ўжо колькі жыву, вось сляпы раблюся, а помню толькі два разы, як прыязджалі сюды князі.

— Ой, Мотка! — загаласіла некалькі кабет, кінуўшыся да яго.— Можа, ты запытаўся б у іх, хто прыехаў!

Стары Мотка перш адмоўна пакруціў галавою, а потым усё-такі падыбаў на вуліцу. Падышоўшы да аднаго з паноў у зялёным сурдуце, ён далікатна, як толькі мог, запытаўся:

— Пшэпрашам пана! Ці не будзе пан ласкаў сказаць, хто гэта такі знатны прыехаў да нас?

— Да вас? — нават не абярнуўшыся да Моткі, кінуў зялёны сурдут.— Прэч, лайдак!

Мотка сагнуўся ў тры пагібелі і з выскачыўшымі вышэй вагнутае галавы худымі лапаткамі боязна адышоўся ад сярдзітага і ганарлівага гайдука.

Але ўсё ж праз некалькі хвілін уся вуліца дасканала ведала, што ў горад прыехаў, і надоўга, сам князь з княгіняю і дачкою. Толькі малады князь застаўся не то ў Пецярбурзе, не то ў Варшаве, дзе ён служыў афіцэрам у войску.

Князь Зыгмунт Друцкі належаў да адной з тых фамілій, якімі валадары іх выдзяляюць сябе ад усяе рэшты чалавецтва; больш гэтага, князь Друцкі лічыў сябе, як падоб-

ныя да яго, адным з першых прадстаўнікоў вышэйшай расы. Ён з гонарам хаваў, як асаблівую святыню, усе паперы, якія сведчылі аб былой крэўнай сувязі яго продкаў з былымі каралямі Літвы і Польшчы. У дадатак да гэтых рэліквій князь Зыгмунт меў і матэрыяльнае пасведчанне магутнасці яго роду. У адной толькі Міншчыне ён меў зямлі, абшар якое, каб яна была ў адным кавалку, быў бы не меншы за цэлы павет. Агромністыя латыфундыі меў ён яшчэ на Віленшчыне і Гродзеншчыне. Іншы раз ён хваліўся, што ёсць у яго маёнткі, дзе ён ніколі не быў. Калі на гэта яму жартам напаміналі, што ва ўладаннях караля Карла V ніколі не заходзіла сонца, дык ён адказваў, што па магутнасці ён толькі крыху меншы за гэтага караля: у Друцкіх ёсць асобныя ўладанні, якіх не аб'ездзіш ад сонца да сонца.

Князь Друцкі быў польскім патрыётам, марыўшым аб аднаўленні каралеўства, аб аднаўленні таго бліскучага сярэдневякоўя, якое захапляла, хвалявала дух магната, выклікала ў ім поцягі да тых імпульсаў, якімі жыў польскі каралеўскі двор у Кракаве. Яшчэ з маладых гадоў князь Друцкі захапіўся мінуўшчынай, накінуўся на вывучэнне гісторыі каралеўства, і трэба аддаць яму справядлівасць — быў адзін з лепшых знаўцаў вайсковае і дынастычнае гісторыі каралеўства. У Кракаве ён вывучаў гісторыю, кракаўскім перыядам польскага двара захапляўся, у Кракаве і сам ажаніўся.

Не дзіва, што пуставаў дом у Мінску, не дзіва, што меснік па Сіняўскай лясной дзялянцы, дзе быў паляўнічы замак князя, не бачыў ні разу свайго высокага гаспадара. Ён амаль усё жыццё правёў па-за межамі, больш у Парыжы і ў Вене, з наездамі ў Кракаў, Варшаву і Пецярбург, дзе ўсюды былі ў яго ўласныя дамы з належнай колькасцю прыслужнікаў.

Нязмерна шырокія сенажаці і неаглядныя лясы мінскіх уладанняў князя забяспечвалі яму шырокае жыццё. Беларускі селянін, надрываўшы сябе на працы ў князёўскім лесе або на сенажаці, польскі хлоп пад Кракавам

у маёнтках жонкі князя, гнучы з вясны да восені спіну над бурачнымі палямі, не заўсёды дагадваліся, што яны вышукваюць у зямлі золата, якое збіралася ў рэчкі і цякло ў Парыж ці Вену. Асабліва шмат сродкаў траціў князь Зыгмунт на дапамогу розным патрыятычным аб'яднанням, ці то гэта былі студэнцкія, ці эмігранцкія, або проста з няведаўшых за што ўзяцца ў жыцці людзей. Кожная такая або проста грамадская арганізацыя лічыла патрэбным зацягнуць князя ў свой склад, і ён рэдка калі ўхіляўся: ён сбыў ганаровым старшынёю шмат якіх патрыятычных суполак, з шмат якімі фактычнымі кіраўнікамі ён нават ніколі не бачыўся. Сам ён непасрэдна стаяў на чале Венскага польска-патрыятычнага таварыства гісторыкаў, склад якога цалкам адпавядаў яго ўласным імкненням. У гэтым таварыстве распрацоўваліся і вывучаліся такія праблемы, як стан паляўнічае справы пры двары Баляслава Харобрага, як правядзенне роўназначнасцей між Янам Сабескім, Напалеонам I і Каролем XII, або як родавыя адносіны між польскімі каралямі і наймацнейшымі магнатамі каралеўства. На выданне такіх «навуковых» доследаў князь Друцкі траціў вялікія грошы, з гонарам адзначаючы сваё імя выдаўца на багата аздобленых вокладках шматлікіх кніжак. Гэтая яго чыннасць захапляла яго цалкам, і ён лічыў сябе правадыром польскіх патрыётаў, хавальнікам вялікіх традыцый вялікае Польшчы.

Нягледзячы на сваё нязмернае багацце, князь Зыгмунт Друцкі часта адчуваў непрыемнасці з-за недахвату грошай. Утрыманне вялізных, звычайна пуставаўшых дамоў ва ўсіх сталіцах Еўропы, вялікія ахвяраванні на розныя «грамадскія» патрэбы выцягвалі з сталёвае скрынкі князя Друцкага амаль не ўсе сродкі, якія цяклі да яго з невядомых палёў, лясоў і сенажацей. Не раз княгіня падказвала яму думку крыху прыспыніць сваю грамадскую і навуковую чыннасць, больш аддаўшы ўвагі гаспадарцы, але ён рашуча адкідаў такія прапановы.

— Шляхціц мусіць несці свае абавязкі да канца,— ад-

казваў ён.— На такіх двух-трох чалавеках, як я, трымаецца вялікая ідэя, вялікая гістарычная роля па адраджэнню бацькаўшчыны, яе вялікага мінулага. Нельга адмовіцца ад ролі прадстаўніка нацыі, а дзеля гэтага... патрэбны грошы.

І князь, не патураючы жонцы, вёў шырокае жыццё, будучы самым пажаданым госцем у самых найвышэйшых колах Вены, Парыжа, Варшавы. З неахвотаю толькі наязджаў ён у Расію, дзе, аднак, знаходзіліся яго найбольшыя багацці. Ідэі князя аб польскасці, а таксама характар яго грамадскай чыннасці былі добра вядомы расійскім арыстакратычным і дзяржаўным колам, і не сустракалі ўхвалы. Наадварот, губернатары, вышэйшае расійскае панства адносіліся холадна да князя Друцкага, гледзячы на яго, як на нейкага фрондэра.

Аднак князю Друцкаму давялося не толькі яднацца з непрыемнымі яму расійскімі чыноўнікамі і дваранамі, але нават і застацца жыць у далёкім маёнтку на Беларусі. Калі не маглі пераламаць яго невялікія клопаты аб грошах, якіх яму траплялася спрабаваць з-за свайго ўласнага шырокага жыцця, то зусім інакш стала справа з-за маладога князя. Сын князя Друцкага пайшоў па той дарозе, якую выбіралі сабе іншыя маладыя людзі з вяльможных фамілій. Ён вучыўся ва універсітэце і, не скончыўшы, кінуў яго і пайшоў у гусары. Вясёлае жыццё захапіла князька па вушы. Ён ганарыўся сваім таварышкаваннем з living рознымі князямі, графамі з расійцаў, якія служылі, як і ён сам, у гусарскіх або гвардзейскіх палках. Бацьку гэтая блізкасць маладога князя да расійскай арыстакратыі зусім не падабалася, але ён мусіў дараваць сыну, лічачы яго яшчэ не зусім сталым. Стары князь спадзяваўся, што яго сын, як паразумнее, пойдзе па яго, бацькавай, дарозе. Але гэтае метамарфозы трэ было чакаць немаведама колькі, бо час ішоў, а малады князь не толькі не станавіўся на бацькаву дарогу, але ўсё часцей ды часцей даваў адчуваць вынікі свайго гусарскага жыцця. Да бацькоў часта даходзілі чуткі аб розных вясёлых гісторыях, героем якіх быў іх сын. Не паспявала гісторыя яшчэ кры-

ху астынуць, як налятала другая, а пасля кожнае з іх з'яўляўся ліст ад маладога князя, у якім ён звычайна вымагаў грошай.

Так цягнулася гады два, і князь Друцкі ўжо прывык да гэтага невялікага распуцтва сына. Ён не траціў надзеі, што яго Лодысь перагарыць-ткі і звернецца да больш разумнага жыцця. Але раз, седзячы за нейкаю дварцоваю хронікаю ў сваёй бібліятэцы, князь Зыгмунт атрымаў тэлеграму, на якую доўга глядзеў, нібы не ўмеў чытаць. У гэты дзень князь не абедаў, ні з кім не бачыўся, ні аб чым не гаварыў. На другі дзень яго не было дома, ён ездзіў у банкі, да гандляроў, да вышэйшага панства Кракава. Увечары ён паведаміў сыну, што перасылае яму трыста тысяч рублёў. Гонар князёўскага дома, які мусіў быць збэшчаны за карточным сталом, быў падтрыманы, застаўся непарушным.

Але гэтая ахвяра на падтрыманне гонару зрабілася потым непасільнаю для князя. Трэ было пройгрыш сына аплачваць за кошт скарачэння іншых выдаткаў. Князь нават загадаў сваім цівунам павялічыць арэнду за сенажаці, за пашу. Але і гэта мала пасобіла. Тут жа яшчэ здарылася надта непрыемная гісторыя з дачкою ў Вене. Яна нечакана прыехала ў Кракаў да бацькоў. Абставіны з князёўнай Вацяй былі такія, што і ў Кракаве заставацца было нельга.

Князь Зыгмунт кінуў свае палацы ў Кракаве, кінуў таварыства сваіх гісторыкаў і, нават не развітаўшыся з іншымі «прадстаўнікамі нацыі», са ўсёю сям'ёю і бліжэйшымі прыслужнікамі пакінуў старэйшую сталіцу каралеўства. Ён перамяніў свой раскошны кракаўскі палац, пабудаваны паводле тыпу сярэдневяковых замкаў, на больш просты дом сярод беларускіх лясоў.

Спачатку гэтая перамена была занадта прыкраю для князя. Прызвычаены з маленства да раскошы, да ўгодлівае ўвагі ніжэйшых, да бліскучага жыцця розных сталіц Еўропы, ён упершыню апынуўся сярод спакою і даволі манатоннага жыцця. Маёнтак, закінуты далёка нават ад павятовага горада, сярод лясоў, нічым не мог прыцягнуць увагі

свайго гаспадара. Ні поле, ні сенажаць, ні жывёла не цікавілі гэтага магната. Цэлымі днямі прастойваў ён каля акна, гледзячы ў далячыню сівых лясоў, бадзяўся па пакоях, не ведаючы, за што заняць рукі. Калі з'яўляўся да яго намеснік з дакладам аб справах гаспадаркі, то ён моўчкі выслухоўваў яго, з нецярплівасцю чакаючы, калі той скончыць і пойдзе. З дачкою ён стараўся як мага менш сустракацца, і за абедам або вячэраю, калі нельга было не бачыць яе за сталом, звычайна маўчаў. Нават са старою княгіняю ён нібы разышоўся. Усё гэта стварала цяжкую атмасферу, якая душыла ўсіх траіх, а разам з імі — і ўсіх дворных. Пакаёўкі, лёкаі, фурманы не толькі ціха хадзілі ў пакоях, але нават на двары яны шмыгалі, як цені, прагнучы не пападацца на вочы яснавяльможнага пана.

Тыдні праз тры пасля прыезду ў маёнтак Росаш князь, бадзяючыся па хвойніку, які пачынаўся адразу за дворнымі будынкамі, натрапіў на незнаёмага, зараслага валасамі чалавека, які сядзеў пад дрэвам і пільна разглядаў разабраную стрэльбу. Князь, нават ні крыху не павярнуўшы галавы, хацеў прайсці міма, быццам апроч дрэў нічога і нікога вакол не было. Але бярэмя кудлаў падскочыла ўверх, а потым раптам — уніз, зрабіўшы нешта падобнае да ўклону.

— Хто ты такі? — запытаўся князь па-польску.

— Выбачайце, ваша мосць, я тутэйшы!

— Цо то ест «тутэйшы»?

— Не разумею па-польску.

Князь бліснуў вачамі, рука яго ўздрыгнула, сціскаючы слановую косць дарагога кія. Аднак ён стрымаўся і з агідаю на твары пусціўся ісці далей.

— Пачакайце, пане! Я вам што скажу...

Князь не спыняўся, не адказваў. Але праз хвіліну ён адчуў, што касматы чалавек ідзе побач з ім. Разгневаны, князь кінуў, не паварочваючы галавы:

— Што табе трэба? Ідзі прэч!

— Я хацеў запытацца ў вашай мосці, ці не цікавіць

вас паляванне. Я бачу, што вы нудзіцеся, а паляванне, яно разганяе ўсялякую нуду.

Князь зрабіў яшчэ некалькі крокаў, нібы зусім не заўважыўшы гутаркі гэтага дзіўнага чалавека. Потым ён прыпыніўся і агледзеў свайго выпадковага спадарожніка з ног да галавы.

— Чым ты займаешся? — больш лагодна запытаўся ён.

— Я — лоўчы. Мой бацька таксама быў лоўчым пры двары вашай мосці. Але нешта перавяліся добрыя паны, цяпер ужо няма сярод іх паляўнічых.

Перад вачамі князя, мусіць, пранесліся раскошныя паляванні сярэдневяковых магнатаў, каралеўскія паляванні пры дварах польскіх каралёў. Ён нездарма вывучаў гэтыя «гістарычныя» здарэнні. Мусіць, пры словах непатрэбнага лоўчага ў ім прачнулася пагарда да сучаснасці і новае захапленне мінулым, даўно мінулым.

— А ты праўду кажаш,— зусім лагодна адказаў ён лоўчаму.— Шляхецтва адышло ад гэтага шляхетнага абавязку і занятку... Добра, я мушу заняцца паляваннем.

З гэтага часу лоўчы зрабіўся самым першым чалавекам у маёнтку. Князь кожную раніцу клікаў яго да сябе. З яго дапамогаю ён ладзіў стрэльбы, рыхтаваў картушы, нацягваў на сябе знарочыстую вопратку вяльможнага паляўніка, якую яму пашылі ў Варшаве па здымках са старых гравюр. Кожны дзень князь у малінавай накідцы са срэбнымі галунамі, у высокіх ботах са стральчастымі шпорамі і ў берэце з сабалінаю выпушкаю і стравусавым пяром садзіўся на гнедага танканогага каня і ехаў у лес. За канём бег сабака і ў развалку, з іржаваю стрэльбаю на плячы, матляўся кудлаты лоўчы.

Князёўскія лясы, пустыя, глухія, цягнуліся на шмат вёрст. У гушчарніку вадзілася бясконца ўсякага ляснога птаства і звярыны. Тут былі і ласі, і мядзведзі; дзікія козы стралою несліся прэч, пачуўшы зрадны тупат або шолах; воўк адыходзіў за яліну і пільна сачыў за падарожнікам чырвонымі іспонкамі нервовых вачэй; вавёрка спружыні-

стым камячком пералятала з дрэва на дрэва, прысядаючы на хвіліну і стрыгучы вострымі вушкамі. Цецярук з клохтаннем важка падымаўся з зямлі і шрубай залятаў на самы верх высачэзнае старое хваіны.

Паляванне кепска ўдавалася князю. Лоўчы з ухмылкаю, якой нельга было заўважыць з-за густых вусоў і барады, пазіраў, як князь нязграбна прыстаўляў да пляча стрэльбу, цэліўся і звычайна не пападаў. Блішчаста-чорная дубальтоўка хісталася ў яго руках, і, калі спускаўся курок, падскоквала ўгору. Лоўчы падкідаў сваю задрыпаную стрэльбачку, не цэліўся, а цецярук ужо сударажна біў крыламі па зямлі.

— Мусіць, пастарэў я,— кожны раз гаварыў князь, як яго стрэльба дарэмна бухала.— А калісь быў добрым паляўнічым, паспрачаўся б у трапнасці з панам Валадыеўскім.

— З якім гэта?

— Няўжо ж ты не чытаў пана Сянкевіча?

— Непісьменны я, нічога не чытаў,— адказваў лоўчы.— А дзе жыве гэты пан Валадыеўскі?

— Як жыве? Гэта даўно было, мо і зусім не было такога пана.

Лоўчы павольна вешаў на плячо сабе стрэльбу і пільна прыглядаўся да князя, быццам імкнучыся адгадаць, ці не шалёны той.

— Спрачацца з чалавекам, якога і не было! Дзіўна! — мармытаў ён сабе пад нос.

Увечары паляўнічыя варочаліся дадому. Лоўчы цягнуў на сабе ўвесь свой здабытак: некалькі цецерукоў альбо рабцоў, іншы раз нават дзікую казу. Згінаючыся ад цяжару, ён стараўся паспець за канём князя.

— Вось колькі настраляў пан князь,— хваліўся лоўчы дворным, калі дабіраліся абодва паляўнічыя да маёнтка.— Вось страляе дык страляе — ніколі не бачыў такіх паляўнічых! Кожная шрацінка б’е проста куды трэба. Мне дык нават стрэльбу брыдка скідаць з пляча. Куды мне!

Выезды на паляванне крыху змянілі князя. Ён зрабіўся

крыху менш суровым і адасобленым. Калі-нікалі ён дарыў словам-другім намесніка, галоўнага пакаёўшчыка, нават фурмана. Аб лоўчым і казаць няма чаго: з тым ён даволі часта вёў гутаркі на паляванні. Толькі са сваімі крэўнымі — з жонкаю і дачкою ён быў нязменна маўклівы, нібы зашпілены на ўсе гаплікі. Князёўне Ваці нядужылася, яна цэлымі днямі праседжвала ў сваіх пакоях, акружаная трыма ўжо стараватымі пакаёўкамі. У старое княгіні толькі і было занятку, што даць інструкцыю старэйшай пакаёўцы, якая даглядала за Вацяю. Больш ёй рабіць не было чаго ў гэтай пустэчы.

Нарэшце яна не вытрымала. Адзін раз, як князь вярнуўся з палявання, яна сустрэла яго аж на ганку. Князь быў здзіўлены і збянтэжаны гэтым здарэннем.

— Выбачайце, пані княгіня, зноў што здарылася? — непакойліва запытаўся ён.

— Нічога не здарылася, князь Зыгмунт, нічога! Я толькі...

— Нічога? Дык чаму ж пані княгіня забылася аб шляхетным этыкеце — як гэта вы апынуліся на ганку? Трэба захоўваць шляхетнасць нават і ў лесе, не толькі пры двары аўстрыяцкага манарха.

— Даруйце мне, князь. Я маю патрэбу пагаварыць з вамі і хацела пабачыць вас, пакуль вы не зачыніцеся ў сваіх пакоях.

— Вы маеце патрэбу пагаварыць са мною?.. Калі ласка,— пачакаўшы крыху, з цырымонным уклонам, запрасіў ён.

Праз паўгадзіны пакаёўшчык князя, апрануты ў сурдут з блішчастымі нашыўкамі па баках і на каўняры, расчыніў шырока дзверы перад княгіняю. Цягнучы за сабою хвост доўгае маціставае вопраткі, пасыпанае срэбнымі кветкамі, яна паважна ўвайшла ў прыймовы пакой мужа. Той, таксама ў парадным адзенні, пайшоў ёй насустрач з вясёлым прыветным тварам. Паднёсшы яе руку да губ, князь павёў яе і пасадзіў у крэсла.

— Пакіньце нас,— загадаў князь пакаёўшчыку, які слупам стаяў каля дзвярэй.

— Я вас слухаю,— прагаварыў ён ужо без жаднае прыветнасці, як толькі ледзь чутна скрыпнулі дзверы за выйшаўшым лёкаем.

Твар яго стаў, як звычайна, суровым, нелюдзімым. Глядзеў ён кудысь убок, абмінаючы месца, дзе сядзела княгіня.

— Зыгмусь... Зыгмусь!

Пакой запоўніўся глухімі прыдушанымі ўсхліпваннямі. Князь падняўся з крэсла і прайшоўся па пакоі з кутка ў куток.

— Зыгмусь, мы так больш не можам... нам не пад сілу жыць у такой адчужанасці. Зыгмусь, пашкадуй нас.

Княгіня паводзіла мокрымі бліскучымі вачыма следам за маршаваўшым мужам. Плач ускалыхваў яе мяккія высокія грудзі.

— Як пашкадаваць? — запытаўся, прыпыняючыся, князь.— Я не разумею вас, княгіня. Здаецца, я ўсё зрабіў, што можна было зрабіць лепшага.

— Так, вы зрабілі! Але нельга ж больш трываць тае адчужанасці мужа ад жонкі і бацькі ад дачкі, якую вы выказваеце нам абедзвюм. Бывае нават, што ў вас адчуваецца не толькі адчужанасць, але і выразная агіднасць.

— Ах, калі вам так ужо дапякло, калі вы адчуваеце гэта, то і я скажу,— скідаючы зусім свецкі тон і выгляд, галасней загаварыў князь.— Вось ты прыйшла прасіць пашкадаваць, а я да каго пайду? Вы ўсе пашкадавалі мяне? Змарнатравілі грошы, ледзь не збэсцілі — што я кажу? — збэсцілі, збэсцілі маё імя, прымусілі кінуць навуку, сваё кола людзей, загналі ў гэтую багну, адхілілі ад вялікае справы па адраджэнню бацькаўшчыны, як дзяржавы,— і пашкадаваць вас? Як шкадаваць? Я вас не катую, хоць вы гэтага варты. Я толькі не маю, страціў не толькі цёплае, але самае звычайнае слова да вас. Чаго ж вы хочаце ад мяне? Цяжка залечваць раны, здабытыя ў старасці.

— Можа, праўда і ёсць у тым, аб чым ты гаворыш.

Але ж паправіць тое, што здарылася з Ваця́й, ніхто і ніяк не можа,— перастаючы плакаць, прагаварыла княгіня.— Тым, што ты стаў чужым да мяне і да Ваці, яшчэ большы клопат можна нажыць.

— Горшага нічога ўжо не будзе.

— А я думаю, што можа здарыцца такое, пра што і думаць усцішна... Спачатку яна хварэла, сам ведаеш ад чаго, а цяпер яна нервуецца, сохне ў гэтых абрыдлых пакоях і можа на сцены палезці ад нуды.

— Дык што ж рабіць?

— Па-першае, кінь ты сваю адмежаванасць, гэтую маўклівасць і агіду да нас, а па-другое, трэба падумаць аб нейкіх людзях, бо нельга ж жыць у поўнай адзіноце, зачыніўшыся ў чатырох кутках.

— Ах, можа, вам з дачкою зноў артысты патрэбны? — упікліва і са злоснаю ўсмешкаю запытаўся князь.— Я вось заўтра паеду шукаць павятовых ды губернскіх музыкаў або камедыянтаў. Можа, знойдзеце каго па сэрцу.

— Не да кпін мне, Зыгмусь! — зноў заплакала княгіня.— Не ўспамінай ты больш пра артыстаў — хопіць... Я вось аб чым думаю,— супакоіўшыся крыху, сказала яна.— Тут жа вакол нас мусіць быць шляхта, а мо і досыць вяльможныя паны. Трэба знайсці новых знаёмых.

— Так, так! Княгіня Друцкая і павятовая або засцянковая шляхта! Ну што ж, і Напалеон казаў, што ад вялікага да смешнага адзін крок... Урэшце,— дадаў, счакаўшы, князь,— як сабе хочаш: заводзь знаёмствы, склікай паноў, напаўпаноў, толькі я застануся ў баку ад гэтай мясцовай чэлядзі.

— Гонар гонарам... а жыць замураваным усё ж нельга. Будзем лічыць, што аб гэтым мы ўмовіліся, і я зраблю ўсё, каб падабраць належнае шляхецкае грамадства,— зусім супакоеная, прагаварыла княгіня.

Князь страсянуў срэбным званком. Пакаёўшчык слупам стаў каля дзвярэй.

— Дык вы напішаце, князь Зыгмунт, у Вену, каб нам прыслалі ноты,— падаючы руку, весела гаварыла княгіня.

— О, пані княгіня, ці ж магу я забыцца на гэта,— адказаў князь, схіляючыся губамі да яе рукі з самым прыветным тварам.— Князёўна Ваця не павінна шкадаваць, што змяніла гоман прыдворных баляў на гоман нашых лясоў.

Лёкай адступіўся крок назад, прапусціў княгіню ўперад і пайшоў следам, несучы за ёю даўжэразны шлейф.

## II

Няхай сабе маёнтак Друцкага Росаш і стаяў сярод лясоў, у баку ад больш залюдненых мясцовасцей, але ён быў добра вядомы шляхце не аднаго нават павета. Яго адлюдненасць, на стары манер пабудаваны палац з патаемнымі хадамі, з скляпамі, былі належна скарыстаны ў 1863 годзе «жондам народовым». Шляхетныя паўстанцы, з маўклівае згоды быўшага недзе далёка князя (бацькі князя Зыгмунта), зрабілі сабе ў гэтым маёнтку адзін з сваіх прытулкаў, дзе хавалася зброя і дзе збіраліся і гуртаваліся мясцовыя сілы шляхты. Пасля ліквідацыі паўстання ў лесе, адразу за маёнткам, было расстрэлена казакамі каля дванаццаці сялян, паноў жа быццам там не засталі. Гэтыя крывавыя падзеі, а таксама закінутасць маёнтка яго гаспадарамі, абвалаклі Росаш нейкім флёрам патаемнасці, жудасці. Праз гэта прыезд сям'і князя ў гэты маёнтак выклікаў шмат гутарак сярод панства. У кожным маёнтку, фальварку і пані, і паненкі цэлымі днямі ламалі галовы і языкі, ствараючы самыя фантастычныя здагадкі аб прычынах такога небывалага здарэння.

Яшчэ больш мешаніны паднялося сярод вяльможнае і сярэдняе шляхты, калі кожны маёнтак аб'язджаў князёўскі егер, перадаючы панам і паням урачыстыя канверты, аздобленыя каронкаю. Князь і княгіня, спасылаючыся на занядужанне свае дачкі, прасілі прабачэння, што не робяць візітаў, і запрашалі дарагіх суседзяў наведвацца да іх. Гэтыя запро-

сіны і ўсхвалявалі і задаволілі шляхту. Амаль усе былі абураны тым, што князь, мусіць, з-за гонару не аддае візітаў і, як кароль, патрабуе ўсіх да сябе. Усе аб гэтым гаманілі, а тым часам надта старанна рыхтаваліся да прыёму ў Росашах. Трошкі жудасна было туды ехаць, куды ніхто з паноў не заглядаў ужо шмат гадоў. Але жудасць заўсёды падказлытвае ўвагу і зацікаўленасць, і праз гэта не было такое панскае сям'і, з атрымаўшых запросіны, якая б не рыхталася ад каламажкі да завіўкі валасоў.

У дзень, вызначаны для прыёму, князёўна Ваця яшчэ зранку пайшла да бацькі, каб застаць яго да ад'езду на паляванне, якое ён не хацеў пакінуць нават і ў гэты дзень.

— Татка, я прыйшла да вас, каб напомніць, што сёння да нас збіраецца ўся шляхта,— зусім спакойна, як быццам яны былі проста добрымі знаёмымі, сказала яна, спыніўшыся ля дзвярэй.

Князь акінуў дачку халодным поглядам і адказаў, нацягваючы пальчаткі:

— За паведамленне дзякую вас, князёўна, толькі яно для мяне значэння ніякага не мае. Вы склікалі з княгіняю, а я тут зусім убаку. Пранусь, падай гарапнік і стрэльбу! — крыкнуў ён за дзверы.

— Цябе князь не клікаў,— весела звярнулася князёўна да ўвайшоўшага лёкая.— Ідзі сабе!

Бацька акамянеў на месцы.

— Вы не паедзеце сёння на паляванне,— свідруючы зялёнымі вачамі яго бледны нерухомы твар, сказала князёўна, як толькі лёкай схаваўся за дзверы.— Вы і стрэльбу трымаць не ўмееце. Ха-ха-ха! — ігрыста-жутка залілася яна смехам.

Князь здрыгануўся, быццам сцебанулі яго па твары гарапнікам. Сутарга ахапіла яго рукі, пальцы. Толькі праз хвіліну ён змог адкрыць рот.

— Вы, князёўна, шалёнаю зрабіліся? — ледзь стрымліваючы сябе, каб не крыкнуць, запытаўся бацька.

— Хвала богу — не! Але як сабе хочаце, так і думайце

пра мяне, толькі я не дазволю вам ухіліцца сёння ад прыёму гасцей. Чуеце вы ці не?

Голас яе зрабіўся звонка-мэталёвым. Тонкія голыя рукі выгіналіся, як гадзюкі. Чырвоныя поўныя губы ледзь дрыжалі ад унутранага хвалявання.

— Як ты адважылася так гаварыць са мною... паскудніца? — засычэў князь.— Ты, апляваўшая маю сівую галаву?

— Ваша галава для мяне святая,— агідна прамовіла дачка,— а да мяне вам справы няма. Даволі ўжо здзеку, адплацілі ўжо мне за ваш гонар...

Князёўна, лёгкая, тонкая, як малады явар, выслізнула з апартаментаў бацькі. Ён доўга нерухома стаяў на месцы, а потым сеў у крэсла і закрыў рукамі вочы. Стравусавае пяро на берэце бязвольна схілілася і звісла ўніз.

— Пранусь, Пранусь... Я сёння не паеду ў лес: нават забыўся аб гасцях, якія мусяць прыехаць да нас; добра, што панна князёўна напомніла аб іх. Трэба ж мець такую кароткую памяць! Пастарэў, шмат пастарэў.

Пранусь скінуў з яго малінавую накідку, сцягнуў высокія боты са шпорамі і пачаў апратваць у звычайны сурдук і гамашы.

— Пастарэў, пастарэў! — мармытаў князь, падстаўляючы ўкленчанаму Пранусю адну за адною свае ногі.

Княгіня была здзіўлена і ўзрадавана тым, што князь ажывіўся, цікавіўся зборамі да прыёму, сам распарадзіўся аб парадку, раіўся нават з ёю аб розных дробязях, так патрэбных у рытуале шляхетных абыходзін, асабліва з незнаёмымі. Ён нават сказаў ёй аб той няёмкасці, якую адчуваў, паводле яго слоў, ад таго, што прыходзілася за адзін раз мець справу з грамадою незнаёмых людзей. Нікога яны з сучасных суседзяў не бачылі ніколі, нават не чулі раней ні пра кога, за выключэннем пана Ляскоўскага, які меў нейкую там сувязь з іх сынам.

З паўдня пачалі з'язджацца ў Росаш паны. Па дарозе, якая роўнаю градою ўпіралася ў блізкі лес і хавалася там, як адрэзаная, паказваліся то крыху аблезлы фаэтон, то цяж-

кая каламажка, аздобленая міфалагічнымі малюнкамі на дзверцах і напоўненая цэлым вывадкам якое-небудзь старанднае пані. Набліжаючыся да палаца, фаэтоны, каламажкі, аздобленыя і прыстасаваныя да панскага карыстання, паўкаркі спынялі свой ход, і, бадай, ад самага лесу коні пускаліся толькі ступой. Фурманы асцярожна аглядаліся, нібы чакалі нечага нядобрага, паны выцягвалі шыі, напускаючы на сябе як мага больш сур'ёзны, паважны выгляд.

Князь сустракаў сваіх гасцей у зале. Апрануты ў магнацкі каптан, спецыяльна зроблены для ўрачыстых прыёмаў, князь рабіў на ўсіх уражанні вялікасці. Яго свецкія абыходзіны, кракаўскае вымаўленне па-польску, уменне трымаць сябе разам і прыветна і з выглядам свае недасяжнасці падкрэслівалі яго выдатнасць сярод гасцей. Кожны з уваходзіўшых адразу падпадаў пад уплыў уражання вялікасці магната, траціў той незалежна-сур'ёзны выгляд, які напускаў на сябе, пад'язджаючы да палаца: або апусціўшы вочы, або з нізкімі ўклонамі, круцячы фалдамі сурдута, шляхціц нешта мармытаў сабе пад нос у адказ на вычварнае прывітанне гаспадара або хаваўся за спіну жонкі, якую выпускаў уперад. Разуменне вялікасці гаспадара разам з не выжытым яшчэ пахам былое пустэльнасці палаца звязвала языкі панам, паням і паненкам: маўкліваю радоўкаю рассядаліся яны паўз сцены, толькі шэптам або прыдушаным голасам абменьваючыся словам-другім. Князь калі-нікалі кідаў на гэты шнурок манекенаў погляд, у якім блішчала іскра насмешкі, але ніводным словам не выказаў яе.

Не прывяла ў сябе гасцей князёўна Ваця. Яна з'явілася ў залу такою вясёлаю, што здавалася, пасвятлелі хмурныя сцены і суровыя твары нейкіх рыцараў, намаляваных на столі. Абыходзячы гасцей, яна знаёмілася сама, дзякавала за наведанне, здавалася, ад душы хваліла вопратку паняў і паненак. Але і гэтая прыемная прыветнасць не магла расчухаць грамады: наадварот, бліскучыя дыяменты князёўны на пальцах і ў валасах, яе празрыста-вострыя вочы, мусіць, асляплялі засцянковых шляхцянак, і яны чародкаю

збіліся ў кучу ў адным кутку залы, вылупіўшы з тузін пар вачэй на грацыёзны прывід, які лёгка, як матыль, пераносіўся з месца на месца. Гэтая маўклівасць і здзіўленне, што не сыходзілі з твараў кабет, нарэшце, мусіць, апрыкралі і князёўне, яна стала менш гаварыць, чаравічкі яе ўжо мацней цокалі па падлозе, у вачах часта пачаў загарацца зеленкаваты бляск...

Але вось лёкай паведаміў аб прыездзе паноў Ляскоўскіх.

І гаспадар і госці лягчэй уздыхнулі, калі ў дзвярах паказаліся спачатку панна Ядзя, а за ёю Станіслаў Ляскоўскі, вёўшы пад руку сваю яшчэ маладаватую матку. Князь быў узрадаваны, пабачыўшы першага госця, з якім у яго магло быць што-небудзь супольнае і які рабіў добрае ўражанне як манерамі, так і вопраткаю. Пан Ляскоўскі не саромеўся, не згінаўся, як усе іншыя. Заварушыўся таксама і чатырохкутнік шнурка панскіх галоў: пан Ляскоўскі быў для іх сваім, знаёмым; хоць ён стаяў вышэй шмат каго па свайму багаццю, але ж ад яго не несла такою недасяжнасцю вялікасці, як ад князя. Многія заківалі прыветна яму галовамі, нават адважыліся парушыць кляштарны спакой залы павышанымі галасамі. Словам, Ляскоўскія сваім з'яўленнем парушылі няёмкасць гэтага першага знаёмства магната з мясцовою шляхтаю. Пачаліся жвавыя размовы, госці ўжо пачалі шукаць сваіх знаёмых, прыяцеляў, і гутарка напоўніла залу. Асабліва задаволена была князёўна такім паваротам справы. Яна адразу сышлася з паннаю Ядзяю, нібы яны былі знаёмы з маленства. Носячыся па зале, яна цішком кідала погляды на пана Стася, які значна адасабляўся ад усяе грамады сваім выглядам.

З'езд скончыўся. Лёкай ужо не дакладваў аб новых гасцях. Князь сышоў з свайго месца, якое ён займаў крыху ў баку ад уваходных дзвярэй залы, пачаў хадзіць між гасцей, прыслухоўваючыся да гутарак, устаўляючы тое ці іншае слова, але толькі па-польску. Чым больш ён прыслухваўся, тым больш твар яго нацягвала маска ахалоджанасці, нават часамі і несхаванае агіднасці.

— Пане Ляскоўскі,— нарэшце не вытрымаў ён і падышоў да Стася,— выбачайце мяне, я, можа, крыху займу вашу ўвагу.

— Калі ласка, калі ласка, ваша светласць,— з гатоўнасцю адказаў той.

— Я буду гаварыць з вамі як з радавітым польскім шляхціцам. Скажыце, наша шляхта зусім запамятала мову бацькаўшчыны?

— Не зусім разумею ваша запытанне, а таму мне цяжка адказаць.

— Не разумееце? — здзівіўся князь.— Ці ж вы не чуеце, што па-польску гаворыць не ўся шляхта, а тыя, хто і гаворыць, то ўжываюць нейкую сапсаваную мову... Нават вы, выбачайце мяне, гаворыце не чыста па-польску.

Пан Ляскоўскі пачырванеў, але адразу саўладаў з сабою. Ён нават крыху насмешна зірнуў на князя, на яго малінавы каптан-казачыну.

— Дзе ж нам мець чыстую высакародную польскую мову? — прагаварыў ён.— Жывём мы ў лесе, маем справу з зямлёю, скацінаю. Да варшаўскіх салонаў або кракаўскіх замкаў нам, вядома, далёка. Апроч гэтага, такім маленькім людзям, як мы, не заўсёды зручна карыстацца польскаю моваю.

— Што я чую, пане Ляскоўскі? — вышэй падняўшы галаву, з лёгкім гневам запытаўся магнат.

— Ці ж вы не разумееце, што іншы раз меркаванні карысці шмат большую вагу маюць, чымся што іншае.

— Ах, так, так! Бывае карысна дагадзіць расійскаму чыноўніку, і дзеля гэтага адмовіцца ад усялякіх нацыянальных ідэалаў?

— Так, так, ваша светласць! — весела пацвердзіў пан Ляскоўскі.

Князь змоўк і адышоўся ад Ляскоўскага, апусціўшы галаў. Доўгія сівыя вусы яго бяссільна звісалі ўніз, кранаючыся яго расшытага малінавага каптана. Ён ужо не звяртаў больш увагі на гасцей, з невясёласцю, якую можна было лі-

чыць за стомленасць старога, праходзіў па зале, часта хаваючыся ва ўнутраныя пакоі. Жвавыя гутаркі, смех, сярод якіх выдзяляўся голас князёўны, да якога ўсе прыслухваліся, ані не закранalі яго. Некалькі разоў ён падыходзіў да княгіні і напамінаў, што прыём трэба скончыць, што паводле этыкету госці павінны былі б развітацца ды паехаць сабе дамоў.

— Яны і не збіраюцца яшчэ,— адказала княгіня.— Кожны праехаў досыць дарогі, і галодны дамоў не мусіць вяртацца.

— Дык што ж вы будзеце з імі рабіць?

— Трэба наладзіць вячэру. Я да гэтага загадзя падрыхтавалася.

Тым часам у зале загучаў раяль. Дзве-тры пары закруціліся ў кракавяку. Але ніхто не цікавіўся танцорамі, і яны дарэмна стукалі абцасамі. Танец так непрыкметна спыніўся, як і пачаўся. Толькі князь крытычна разглядаў танец, спыніўшыся пры праходзе ў свой пакой. Ён хацеў ужо схавацца за дзверы, як пасля трох-чатырох спробных акордаў па зале панесліся салодка-спакусныя гукі танга. Але не гэтыя гукі затрымалі князя, а яго ўласная дачка. Яна выскачыла на сярэдзіну залы, дзе нікога не было, і пачала выгінацца ў такт музыкі. Хутка каля яе апынуўся пан Ляскоўскі, і яны пачалі слізгаць па зале. То прыліпаючы зусім да мужчыны, то падстаўляючы яму губы, нібы для пацалунку, то працінаючы яго зялёнымі іскрамі сваіх вачэй, калі ён абдымаў яе і блізка прыцягваў да сябе, насілася яна нячутна сярод змоўкшых людзей. Твар яе то чырванеў, то бялеў, грудзі ўздымаліся і дакраналіся да грудзей кавалера. З абурэннем глядзеў на гэту з'яву князь, агідна ўхмыльнуўся, пачуўшы нейкі шэпт з боку пажылога шляхціца. Зусім аслупянеў ён, калі дачка не пакінула скакаць, нават як заціх раяль: чорна-белая пара, як у сне, вілася, круцілася па маўклівай зале.

Князь павярнуўся і схаваўся за дзвярыма. Вячэра, раз'-

езд гасцей адбыліся без яго, хоць княгіня некалькі разоў пасылала па яго лёкая.

На другі дзень, як і заўсёды, князь паехаў у лес; за канём беглі сабака і лоўчы. Маўклівасць зноў павісла хмарою над палацам і ў палацы. Калі высокая сям'я сыходзілася разам за сталом, то княгіня з дачкою знарок заводзілі гутарку аб суседзях, думаючы ўцягнуць у яе і старога князя. Але ён заставаўся нямым і глухім. Пералічваючы новых знаёмых, князёўна рагатала над іх гаворкаю, вопраткаю, над тым, як яны сапуць за ядою. Потым яна адразу змаўкала, і твар яе рабіўся злосным, зеленаватым.

— Які цяжар, нязмерны цяжар! — з вялікаю нудою вымаўляла яна, кідала на бацьку ледзяны позірк і пакідала полудзень ці вячэру нават усярэдзіне або ў пачатку.

Толькі аб Ляскоўскім успамінала яна з прыемнасцю і лічыла, што гэта адзіны чалавек, які заслугоўвае ўвагі. Некалькі разоў яна пры бацьку выказвалася аб тым, каб зноў запрасіць яго. І на гэта князь нічога не адказваў. Тады княгіня ад сябе паслала запросіны да Ляскоўскага. Той наведаўся раз-другі. Але ніводнага разу князь не прыняў яго, не бачыўся з ім. Княгіня з дачкою тлумачылі Ляскоўскаму, што князь да смерці любіць паляванне і часта можа забавіцца ў лесе. Але гэтыя тлумачэнні зусім сталі нічога нявартымі, калі князь не з'явіўся ў Ляскаўцы на запросіны на адчыненне гуты. З гэтага часу Ляскоўскі, якога ўсё больш пачалі непакоіць зеленкаватыя вочы і чырвоныя губы князёўны, не паказваўся больш у Росаш, хоць і атрымліваў разы два канверты, ад якіх пахла вабячаю парфумаю.

— Чаму гэта пан Ляскоўскі не заглядае да нас? — адзін раз запыталася, нібы незнарок, Ваця ў мацеры ў прысутнасці князя.

— Можа, ён абразіўся, што мы не аддалі яму візіту,— паглядаючы на мужа, адказала разумна княгіня.

Здарылася нешта незвычайнае. Князь ускочыў з-за ста-

ла, цяжкае крэсла грукнулася аб падлогу. Кабеты крыху спалохана глядзелі на князя, губы якога дрыжалі.

— Ці доўга давядзецца мне чуць ад вас пра гэтага шляхціца? Абрыдла, абрыдла мне чуць яго імя! Гаварыце, калі ласка, аб ім, аб кім хочаце, толькі не пры мне.

— Чым вам, князь Зыгмунт, не падабаецца пан Ляскоўскі? І багаты, і добрае сям'і,— зусім свецкі чалавек. Чаго вы сярдуеце на яго?

— Я не сярдую! Ха-ха-ха! Сердаваць на пана Ляскоўскага! Каб Друцкі сердаваў на нейкага там шляхціца Ляскоўскага! Гэта быў бы занадта вялікі для яго гонар.

— Дык у чым жа справа, князь Зыгмунт? Я вас не разумею.

— Гэта не дзіва, што вы не разумееце. Вашага пана Ляскоўскага я бачыць не жадаю, пані княгіня і панна князёўна!

— Усё ж не зразумела, чаму гэта так? — востра ўставіла князёўна.— Можа, таму ён вам не пажаданы, што не носіць прозвішча Патоцкіх або Радзівілаў?

— А хоць бы і таму. Ні патоцкія, ні радзівілы не дазволілі б сабе пры першым спатканні з вамі, князёўна, пусціцца ў гэты паскудны скок... Вы памятаеце ваш... ваш танга?

— Ха-ха-ха! — Князёўна доўга не магла суцішыцца ад смеху.— Вам не даводзілася бачыць, як князі, графы, куды больш вяльможныя за вашых патоцкіх, цэлыя ночы наскрозь тангуюць, ды не толькі з князёўнамі, а... а з выпадковымі дамамі, аб якіх яны на раніцу і забываюцца.

— Вы больш асвечаны ў гэтым,— сумна, з гаркатой адказаў князь, збіраючыся пакінуць адных жонку і дачку.

Ён пайшоў павольным крокам, быццам яшчэ хацеў штосьці сказаць і не мог адважыцца. У дзвярах спыніўся.

— Пана Ляскоўскага я не хачу бачыць, і таму,— выразна вымаўляючы кожнае слова, сказаў ён адтуль,— што ён шляхціц не майго густу: калі адзін з наймацнейшых прадстаўнікоў польскае нацыі блытаецца ў польскай мове і нават лічыць карысным не ўжываць бацькоўскай мовы, то ён не

можа разлічваць на маю прыхільнасць ці ўвагу. Au revoir, mesdames! [1]

Пасля гэтага гутарка аб запрашэнні Ляскоўскага ў Росаш больш ужо ніколі не падымалася. Пацягнуліся нудныя дні, калі абедзве кабеты, прымаўшыя колісь у сваіх салонах арыстакратаў розных краін і розных нацый, не ведалі, куды ім дзецца. Нават прыбіраць сябе ў найдаражэйшыя і найпрыгажэйшыя вопраткі не патрэбна было, бо не было куды і каму паказацца ў іх. Князёўна сноўдалася па сваіх вялізарных, сумных, як ваколічны хвойнік, пакоях, калі-нікалі садзілася за раяль і агалашала магільны спакой дома гукамі Вагнеравых твораў. Але давесці да канца якую-небудзь адну арыю ці ўступ да Лаэнгрына ёй ніколі не ўдавалася. Рукі слаблі і бязвольна падалі на клавіятуру. Спрабавала яна чытаць — вершы, раманы здаваліся занадта прэснымі, нічога захапляючага ў іх не было. Больш падабаліся ёй — і нават захаплялі — апісанні такіх, напрыклад, з'яў, як яванскі храм кахання, заснаваны вяльможнымі і багатымі еўрапейскімі кабетамі; падабаўся ёй «Сад пакутаў» Актава Мірбо; з палякаў яна прызнавала крыху Пшыбышэўскага. Яго «Моцнага чалавека» яна дачытала нават да канца.

Так прайшоў амаль год пасля прыезду князёў у Росаш. Невядома, колькі пражылі б яны там сярод хмурых лясоў, у старым заглухлым палацы, каб не здарыўся такі выпадак, які падштурхнуў старога князя на дзейнасць. У тую вясну, калі пан Ляскоўскі пускаў сваю гуту, князь рабіў далёкія вандроўкі па сваім неабсяжным лесе. З двума-трыма кніжкамі хронік у кабуры сядла ды са снеданнем у другой ён цэлыя дні бадзяўся па лесе, пудзячы чароды ласёў з маладымі ласянятамі. Іншы раз ён заязджаў так далёка, што заставаўся начаваць у лесе.

І вось, варочаючыся ў палац аднае раніцы, ён заўважыў ў баку ад дарогі нейкую белаватую пляму, якая зусім не падыходзіла пад звычайныя рэчы, што можна бачыць у ле-

---

[1] Да сустрэчы, панове *(франц.)*.

се. Зацікавіўшыся, ён злез з каня, прывязаў яго і пайшоў глядзець. Стрэльбу, аднак, трымаў напагатове. Калі ён падышоў бліжэй, пляма заварушылася і набыла форму кабеты. Плечы і грудзі ў яе былі голыя. Князь збянтэжыўся, а потым нават плюнуў, забыўшыся на сваю вялікасць. З агідай павярнуўся ён да свайго каня. Але нешта быццам укалола яго ў сэрца. Ён азірнуўся назад — і скамянеў на месцы! Проста яму ў вочы ўрэзваліся стрэлы зеленкаватых жудасных вачэй дачкі. Вопратка яе была шмат дзе падрана, непакрытыя валасы ўскалмачаны, на твары, бледным, як крэйда, чырванелі дзве-тры плямкі запёклай крыві.

— Што... што здарылася з табою, дачушка? — са страхам пытаўся князь.

Дачка моўчкі ўсё глядзела на яго. Яе погляд быў поглядам сомнамбулы, толькі нейкі незвычайна востры, калючы. Князь не мог вытрымаць гэтага погляду. Дапытвацца таксама ён баяўся. Падхапіўшы дачку на рукі, ён пасадзіў яе на каня і, трымаючы, каб яна не звалілася, павёз у маёнтак.

Пачаўшыя ўжо забывацца аб тым, што ў Росашы жыве князь, паны былі ўстрывожаны зноў, калі на гасцінец выбраліся з князёўскіх лясоў вазы, на якія навалена была мэбля, куфры, сядзелі пакаёўкі, лёкаі. За гэтымі вазамі праз дзень паказаліся карэты з гербамі, фаэтоны і брычкі з дзівачна апранутымі фурманамі, гайдукамі.

Праз тры дні гэты незвычайны поезд уваліўся ў бакавую вуліцу Мінска, нарабіўшы там таксама шмат мітусяніны. Стары шавец Мотка за сваю цікаўнасць траха не зlavіў па патыліцы, а «генерал» ледзь адбіваўся ад мурзатых дзяцей, якія, нібы мухі, лезлі ў вароты, прагнучы разгледзець цікавы стары дом з вежамі і флюгеркамі над яго вугламі. Стары дом аджыў. Закінуты, можа, на працягу дваццаці год, ён пачаў рыхтавацца да таго, каб зрабіцца цэнтрам увагі ўсяго губернскага шляхетнага стану.

## III

Пасля ад'езду Друцкіх у горад Ляскоўскі нядоўга ўспамінаў пра іх. Толькі часам уставалі перад ім малюнкі, як гнуткае гарачае цела князёўны абкручвалася вакол яго ў танга. Замест князёўны перад яго вачыма часцей з'яўлялася маленькая зграбная постаць канторшчыцы Зосі. Яе ўпартасць, суровая адчужанасць на працягу ўжо больш як паўгода толькі распаляла ўсё больш яго жаданні. Доўга не мог ён уцяміць сабе прычыны такое ўпартасці. Яму здавалася, што такая дзяўчына, як Зося, у якое кофта з таннага паркалю і чаравікі з тоўстага шкурату, павінна адразу пайсці да яго, абы ён паківаў пальцам. Здавалася, што і не такія аддаваліся яму пасля двух-трох гутарак. Толькі ўжо пасля хваробы Зосі, калі ён запытаўся аб ёй у бухгалтара Пісарэўскага, яму ўдалося, як здавалася, натрапіць на след прычыны, па якой Зося была такою ўпартаю ў адносінах да яго.

— О, панна Зося ўсё харашэ,— лепятаў Пісарэўскі на запытанне пана аб тым, як адчувае сябе канторшчыца.— Хвароба толькі надала ёй больш далікатнасці ў твары, і яна цяпер стала яшчэ шмат прыгажэйшаю, як была.

— Ці не ўкахаліся вы, Пісарэўскі, у сваю памочніцу? — са смехам запытаўся патрон.

— Гэтым глупствам, ясны пане, я не займаюся, дый наогул каханне не прызнаю.

Сказаўшы гэта, бухгалтар спахапіўся, бо неяк нязграбна яно выйшла: ён добра ведаў, што пан Ляскоўскі займаецца шмат гэтым «глупствам», а прыпісаць глупства такому вяльможнаму пану ён, Пісарэўскі, ніяк не можа. Бухгалтар добра ведаў, як пан Ляскоўскі мяняў кабет; нават яму самому даводзілася быць ацэншчыкам кабет, якіх даставалі пану. Але ўсё пытанне ў тым, ці было гэта каханне. Мусіць, не! Вось і можна выкруціцца з непрыемнасці.

— Можна прызнаваць, ясны пане, толькі... толькі, як гэта сказаць? ну... фізічную блізкасць да кабеты, жадаць яе цела, а іншае там — нічога гэтага не патрэбна.

— А я і не ведаў, што вы здольны развражаць,— вы ж можаце стацца філосафам.

Бухгалтар задаволена ўсміхнуўся, нават на хвіліну напусціў на свой твар звычайную міну агіднасці, якая магла б падыходзіць і філосафу, асабліва ў якога няспраўна працуе страўнік, але хутка ён схамянуўся і сагнаў усё гэта, прыняўшы выгляд вясёлае лагоднасці, удыглівасці і адданасці пану.

— Дык вы кажаце, што панна Зося зусім ачуняла? — запытаўся Ляскоўскі.

— Так, пане. Толькі яна занадта змянілася па натуры; стала зусім маўклівую, незачэпнаю, на мяне глядзіць ваўчком.

— Ну, гэта яшчэ нічога! Можа, на вас і нельга іначай глядзець.

— Ясны пане, каб яна так глядзела толькі на мяне, гэта б яшчэ было не так цікава. Але я думаю, што і на вас яна будзе глядзець не лепш,— адказаў Пісарэўскі, але адразу прыкусіў язык.

Пан Ляскоўскі скрыва зірнуў у бок свайго даверанага. Мусіць, словы бухгалтара абразілі яго, бо ён адразу кінуў свой прыяцельскі тон і ўжо не зусім прыязна пазіраў і гаварыў з Пісарэўскім.

— Што за кпінкі дазваляеце вы са мною? — холадна запытаўся ён.— Вам, можа, і належала б быць філосафам, але не такога гатунку мне патрэбны філосафы: не ваша справа займацца маёю асобаю.

— Выбачайце, выбачайце, ясны пане! — і кароценькая постаць бухгалтара выцягнулася, бадай, у нітку.— Я... я толькі меў сказаць вам, ясны пане, што панна Зося мае сабе кавалера і праз гэта, мусіць, так варожа... не! так стрымана да вас.

— Кавалера?

— Так, пане! Маю дакументальныя таму доказы. Гэта — майстра з паперні.

— Зыкаў?

— Ён, пане.

Пісарэўскі пусціўся апавядаць аб тым, як часта Зыкаў хадзіў у школку, як нават начаваў там, калі «панна Зося была нібы хворая», як яны ездзілі ў чаўне па рэчцы.

Мусіць, доўга ён выкладаў бы ўсе дробязі, занатаваныя ім аб адносінах Зыкава і Зосі, але пан Ляскоўскі перапыніў яго ў гэтым.

— Глупства гэта! Ніякага там кахання няма і не можа быць. Ну, але на кожны выпадак — наглядайце. Фізічнае блізкасці, як вы кажаце, паміж імі не павінна быць дапушчана. Зразумелі?

— Зразумець-то я зразумеў. Ведаю, што пану патрэбна свежая... ягадка, але ж як яе даберагчы, вось у чым справа?

— Дзеля гэтага вы і філосаф, каб дадумацца.

Пісарэўскі зноў задаволена расплыўся. Гэта ж не жарты атрымаць ад такога пана, як Ляскоўскі, які і багаты, і вучыўся шмат, і быў там у гэтых Парыжах, дык вось атрымаць прызнанне свайго розуму. Ён, Пісарэўскі, мусіць задаволіць даверанасць пана і пастараецца зрабіць усё, каб той быў удзячны яму. А панская ўдзячнасць для Пісарэўскіх — гэта ж усё жыццё, апроч таго, што можна лепш жыць, разлічваючы на падзяку, але ў ёй ёсць нешта, нават на першы погляд нематэрыяльнае — гэта пакой, прыемнасць, якую адчувае такі чалавек, зрабіўшы ўслугу вышэйшаму за сябе.

Пісарэўскі пачаў сваю «філасофскую» працу. У кожнай філасофіі адным з асноўных метадаў з'яўляецца наглядание. Іншых Пісарэўскаму і не патрэбна было, ды іх ён і не ведаў. Што ж да наглядання, дык ён не шкадаваў ні вачэй, ні вушэй сваіх. Увесь дзень ён прыглядаўся да Зосі, заўважаў усе рысы і водцені на яе твары. Звычайна цяпер ён прыходзіў у кантору раней часу. Стаўшы каля акна, ён чакаў, калі пакажацца Зося, і садзіўся ў сваё крэсла, як толькі абцасы яе чаравік бразгалі на сходках да ганка.

Ён бачыў, як сінелі вочы Зосі, і губы яе былі зложаны ў вясёлую ўсмешку, калі яна ішла па двары, і як яны рабі-

ліся сурова цьмянымі, як толькі трапляла яна ў кантору. Увечары яна роўна ў тэрмін канчала працу, хутка апраналася і, прастукаўшы ў сенцах дробнымі крокамі, якія рабіліся часцейшымі, як яна аддалялася ад канторы. Здавалася, на крылах ляцела ў бок гасцінца, дзе стаяў замшэлы будынак школы. Яе лёгкая чырвоненькая хустачка яскравым матылькам трапятала на шэрым фоне парку, агароджы.

— Дурная,— мармытаў сабе пад нос бухгалтар, улазячы ў глыбокія калёшы.

Зося нездарма спяшалася дамоў. Кожны вечар цяпер Зыкаў наведваўся ў школу. Доўгія лістападаўскія вечары, калі за акном гудзе вецер, кідаючы ў шыбкі цэлыя скруткі сухога лісця ці адбіваючы па іх звонкі дроб кроплямі дажджу, з'яўляліся самымі шчаслівымі для Зосі. Бацька звычайна сядзеў за сваім столікам пад лямпаю і старанна і ўважліва выпраўляў пісьмовыя працы сваіх вучняў. Зыкаў прыходзіў у гадзін каля васьмі, адразу з працы. Яна нібы незнарок сустракала яго ў сенцах і неяк здаралася, што апякала свае губы аб яго ў кароткім, рыўком, пацалунку. Потым увесь вечар сядзелі каля адной лямпы, кожны заняты сваёю справаю: Пятрусь Мікалаевіч, скончыўшы вучнёўскія работы, прымаўся за тоўстага Гельмольта або Ранке; Зыкаў даставаў аднекуль з-за пазухі жаўтаватыя, крыху скамечаныя лісты, у якіх нельга было збоку заўважыць пачатку ці канца, і ўважліва чытаў іх, нават па некалькі разоў адно і тое ж самае месца. Зося заўважала гэта і пыталася ціха, ці не завучвае ён што-небудзь на памяць.

— Гэта трэ было б ведаць на памяць, але нешта не паддаецца.

— Чаму?

Замест адказу Зыкаў рабіў такі знак, з якога было відаць, што ў яго галава падзялілася на дзве часткі: кніжка і ўсё іншае, а ў другой — Зося. Зося разумела гэты знак, і здаволена чырванела, апускаючы свае сінія вочы над шыттвом, з якім яна звычайна падсядала да стала.

Вісеўшыя ўжо з месяц на небе нізкія хмары, надаваў-

шыя ўсяму кругавіду свінцовы колер, разам, у адзін вечар, у канцы лістапада, разарваліся. Праз шчыліну зірнула ружова-зялёнае неба. Палоска бадзёрага блакіту рабілася ўсё шырэйшай ды шырэйшай, і праз якую-небудзь паўгадзіну толькі вузенькая стужка чорнага мошасту на ўсходзе напамінала аб мінулых дажджах ды туманах. Увесь захад палаў ружова-чырвонаю зарою. Проста над галавою сям-там замільгацелі зоркі, якія ўсё ядранелі, як пакарочваліся хвалі ружовага полымя на захадзе. Пад поўнач зямля пачала касцянець...

Дні праз два стала рэчка. Адтуль нёсся безупынны гоман вясковых дзяцей. Коўзанка была самая лепшая. Яшчэ тонкі, гнуткі лёд быў роўны і бліпчасты, як люстэрка. Праз яго відаць былі на дне рэчкі трава, карчы, нават рыба, шукаўшая выйсця на паветра... Дні былі сонечныя, ціхія. Ночы — бліскучыя, з сінімі, трапяткімі зоркамі.

Выпаў першы тонкі сняжок, які ледзь прыкрыў пажоўклыя сенажаці. Ралля на полі, калі паглядзець на яе здалёк, напамінала чараду курапатак: бела-чорныя плямкі мільгацелі ў вачах і, здавалася, варушыліся на месцы. Гэтая шэрань апранула ў срэбра дрэвы, кусты, якія дыяментамі бліщчалі на сонцы.

Зося ў гэты дзень яшчэ больш спешка выскачыла з канторы. Якраз гэты дзень быў перад святам, і яна ўмовілася з Зыкавым пайсці на рэчку або нават і ў лес. Бадзёры вечар з лёгкім марозам клікаў на вуліцу, клікаў туды, на рэчку, адкуль нёсся рогат і гоман не толькі дзяцей, але і дзецюкоў, і дзяўчат. Зося хутка ўпарадкавалася дома і чакала з нецярплівасцю Зыкава, які і ў гэты дзень не мог скончыць працу раней шасці гадзін.

Дзеці цэлымі натоўпамі ішлі назад у вёску, калі Зыкаў з Зосяю сыходзілі да рэчкі. Там заставаліся толькі дарослыя, якія рагаталі, гукалі, пішчалі, налятаючы адзін на аднаго або падбіваючы на слізкім лёдзе. Зося моцна ўчапілася за руку Зыкава, як толькі ногі яе ступілі на ненадзейную стужку закованае рэчкі. Але як ні імкнуўся цвярдзей

існі павадыр, моцна прыціскаючы да сваіх грудзей руку Зосі, ён не справіўся са сваёю задачаю: нага яго раптам сунулася ўбок, і праз момант яны абое ляжалі на лёдзе, рагочучы на ўсё горла. Дарэмна яны спадзяваліся разам устаць, бо ногі зноў ляцелі прэч і нельга было адарвацца ад гэтага імавернага лёду. Калі Зыкаў падымаў Зосю, ён блізка-блізка прыгарнуў яе да сябе і адчуў, нібы загойдаўся пад ім лёд. Зося падняла свой запалаўшы твар, на якім трапяталі дзве-тры космачкі яе валасоў, і кінула доўгі гарачы погляд на Зыкава, ад чаго нешта зазваніла ў яго сэрцы.

Яны праходзілі міма натоўпу дзяўчат і хлопцаў, якія камячыліся на адным месцы, то роўным шнурком з гойданнем несліся па каўзелі. Калі хто падаў, то праз момант навальвалася цэлая куча і падымаўся такі гармідар, што нельга было разабраць паасобных галасоў. Толькі адна постаць стаяла крыху збоку, не прымаючы ўдзелу ў гэтай забаве. Прыгледзеўшыся пры малочным свеце месяца, Зыкаў пазнаў Ганулю, дачку свайго хатняга гаспадара. У лыкавых лапцях, у старэнькім кажушку яна выглядала нейкаю чужою сярод дзяўчат. Ніхто з хлапцоў не падыходзіў да яе.

— Ты што ж сумуеш, Гануля? — не сцерпеў запытацца ў яе хоць і здалёк, Зыкаў.

Дзяўчына здрыганулася, абярнулася на голас, але раптам зноў пачала пазіраць у другі бок.

Зося зашаптала Зыкаву:

— Давай пойдзем крыху ў лес. Там, мусіць, так добра цяпер!

Пад руку яны крануліся да другога берага рэчкі, дзе стаяла белая, бліснеўшая на месяцы сцяна кустоў. Лёд гучна цокаў пад іх абцасамі, і яны не чулі, як за імі ціха зашоргалі па люстэрку рэчкі лыкавыя лапці.

Перламутравы свет ліўся з неба. Месяц глядзеў на зямлю скрозь лёгкі туманчык. У паветры насіліся дробненькія-дробненькія дыяменцікі шэрані, якія мірыядамі зорак бліпчалі, трапляючы ў бляск месяца. На маладых хваінках, на канцах іх галля стаялі тоненькія стажкі снегу, напамі-

наючы чыстыя белыя свечкі. Пад нагамі ледзь рыпаў тонкі яшчэ снег, і гэты рып надаваў бадзёрасці, жыццярадасці. Зося блізка прытулілася да Зыкава. Яны моўчкі ішлі між калонамі хваін, пад стрэхамі цёмных ялін, дзе яшчэ снег не закрыў мяккае коўдры мху.

— Памятаеш, Паўлючок, ты даклераваў мне многа аб сабе сказаць,— прагаварыла Зося, калі яны прыселі на павалены пень адпачыць.

— Непрыемна аб сабе гаварыць,— адказаў Зыкаў.

— Можа, гэта і праўда. Але мне так хацелася б ведаць, што-небудзь аб тваім мінулым жыцці. Я ж так.. так кахаю цябе,— нясмела сказала яна і засаромелася.

— А я пакахаў цябе такою, як ты цяпер, і да твайго мінулага мне няма ніякае справы.

— Найгоршыя здарэнні са мною ты ўжо ведаеш, а раней, што было — драбніца. Я кахаю цябе першага, а раней — раней я была ў школе, гімназіі, толькі і ўсяго.

— Цяжка мне апавядаць пра сябе,— разважна, як быццам здалёк, адказаў Зыкаў.

— Можа, можа, ты мяне і не кахаеш? — прагаварыла скрозь слёзы дзяўчына.

— Што ты, Зосечка? Не можна нават і думкі такое дапускаць у тваю чыстую галаву. Я думаю, што нельга звязваць каханне наша з мінулым ці будучым... Ну але калі так хочацца табе — я скажу аб сваім мінулым жыцці. Толькі... толькі адна мая вялікая просьба, такая моцная просьба, як маё каханне: схавай маё апавяданне глыбока ў сябе, толькі для сябе; ніхто іншы не павінен нічога ведаць аба мне.

Зыкаў доўга думаў, збіраючыся пачаць. Відаць было, што яму цяжка загаварыць. Зося нерухома глядзела яму ў вочы, нібы сваім поглядам імкнулася выклікаць думкі яго, надаць ім форму слоў. Нарэшце Зыкаў пачаў, але не адразу гутарка яго стала гладкай.

— Курная хата, як цяпер у майго гаспадара Кавальчыка — вось першае, што я помню з сваіх першых дзён...

Зімою, бывала, нарасце на шыбках шэрані столькі, што днём па кутках цёмна, хоць агонь запальвай. Дзяцей у нас было шмат: у майго бацькі і дзядзькі. Цэлымі днямі, асабліва зімою, стаяў несупынны крык: там малое нема раве, там стогне іншае ў адры, там б'юцца за кавалачак хлеба, калі маці суне, бывала, таму, хто больш надакучыць крыкам. Уночы ўсю хату завальвала наша сям'я; спалі на печы, на лавах, услонах; пад палом жавалі салому авечкі, на палу — упокат ляжалі людзі. Я дамагаўся спаць на палу, у куточку, бо там было цёпла ад гною. Вось як я жыў у маленстве. Не лепш стала, калі мой бацька аддзяліўся, перайшоўшы жыць у старую хату, якая да гэтага часу займалася пад каровін хлеў. Тая самая цесната, тыя ж авечкі пад палом.

Калі мне было гадоў з шэсць, то два здарэнні надоўга запалі мне ў памяць. Першае, я заўважыў, што мой бацька кожнае свята лезе ў пустую пасу і сядзіць там увесь дзень. Звычайна, пасля палудня, у гэтыя дні падыходзіў да акна нейкі дзядзька (рыжая барада была ў яго) і пытаўся, дзе гаспадар. Мая маці адказвала, што яго зранку няма дома. Чужы дзядзька нешта лаяўся і ішоў за вароты. Праз паўгадзіны вылазіў з пасы і бацька. Мяне гэта надта цікавіла, і я кожны раз дапытваўся, чаго ён хаваецца, але мне не адказвалі. Толькі раз я крыху даведаўся, рыжая барада была ўжо на дварэ, а бацька еў бульбу.

— Сотнік ідзе, а чыншу ж няма,— крыкнула матка, і бацька ледзь паспеў скочыць у пасу.

Але, мусіць, сотнік таксама пачаў хітраваць. Адзін раз ён зноў вярнуўся да нас праз гадзіну пасля таго як адышоў ад дзвярэй. Паса ўжо не пасабіла. Прывялі двух яшчэ сялян і павалаклі бацьку да воласці. Я пабег ззаду. І вось... бачу, як цяпер: знялі адзежу, і стораж пачаў прутамі біць па голым целе; кроў лілася, бацька енчыў, круціўся, але яго моцна трымалі, седзячы адзін на галаве, другі на нагах. Прыйшоў бацька дамоў праз тыдзень, прасядзеўшы гэты

час у халоднай. Пакуль ён сядзеў, прадалі нашу карову. Маці галасіла па ёй, як па нябожчыку.

Другое здарэнне было перад вялікаднем, як цяпер памятаю — у чацвер. Маці памыла нас усіх, дзяцей, а бацька запрагаў каня: мы збіраліся ўсе ехаць да царквы — прычашчацца. Увайшоўшы ў хату, бацька нешта доўга кошкаўся ў кутку, хадзіў без усякае патрэбы ўзад і ўперад, а потым звярнуўся да мяне:

— Схадзі,— кажа,— да Сцяпана, няхай пазычыць паўрубля; скажы, што трэба нам усім на споведзь.

Я пайшоў у новай зрэбнай кашулі і нават у лапцях, хоць зімою іх і не насіў яшчэ зусім.

— Скажы бацьку, што я не паверу яму нават і паўрубля, і, хоць нават на споведзь! — адказаў мне сусед Сцяпан, нават не пусціўшы ў хату.

Калі я сказаў аб гэтым, бацька мой пачарнеў і стараўся не глядзець нікому ў вочы, маці праранiла слязы дзве, мы, малыя, доўга плакалі, бо ўсіх знялі з воза, які павінен быў нас павезці ў невядомую далечыню, дзе так, мусіць, многа цікавага, добрага.

— Няхай ён задушыцца сваімі грашамі,— прагаварыў бацька.

— А як жа споведзь, Трахім? — запыталася маці.

— Споведзь? А ліха з ёю, ліха з папом!

Маці толькі вохнула: так спалохалася яна кары боскае.

— Пачакай, твой бацька быў Трахім? — запыталася Зося.

— Т-так, Трахім,— не адразу адказаў Зыкаў.

— Як жа гэта? Ты ж завешся Павел Еўсцігнеевіч?

— Пачакай крыху, і аб гэтым ужо скажу,— зусім неспакойліва адказаў ён.

— Ну, дык вось як жылі. Ад гэтых двух выпадкаў, якія больш урэзаліся ў памяць, бо маюць адносіны да майго далейшага жыцця, у мяне захавалася вострая пагарда і да гэтага часу. Ад успамінаў аб іх у мяне і цяпер шчыміць сэрца... Калі мне было дванаццаць год, бацька раз увечары,

вярнуўшыся аднекуль, спытаўся ў мяне, ці не хацеў бы я ісці ў горад на заработкі. «Можа, там чалавекам станеш, а тут, на вёсцы, будзеш гібець усё жыццё, як і я», дадаў ён. Вядома, я быў рады. Неяк згаравалі мне боты, і каля Пакроў, разам з матчыным братам, які прыязджаў дадому з Пецярбурга, я паехаў па чыгунцы. Дзіўлюся я і цяпер з сябе, успамінаючы гэты ад'езд: мне ані не шкода было пакідаць вёску, сваіх родных. Можа, у гэтым вінна была мая жорсткасць, якую я адразу адчуў адзін раз у сакавіку, калі вымушаны быў бегчы вярсты са дзве босы па нерасталым яшчэ снезе да сваякоў маткі за палатном на труну мае памёршае сястры. Помню, тады апанавала мяне вялікая злосць на ўвесь свет, нават на бацькоў. Можа, і праз гэта я не шкадаваў вёскі...

У Пецярбургу аддалі мяне вучнем у мэталёвую майстэрню. Нас было чатырох такіх хлопцаў, як і я. Жылі мы ў самой майстэрні, якая змяшчалася ў сутарэнні. Духата і смурод ад газавых літоўнікаў ніколі не выходзілі з гэтага памяшкання. Спалі мы на голай падлозе, падлажыўшы пад голаў свае боты і анучы. Асабліва надакучаў голад: нам грошай не плацілі зусім, а толькі карміпі дарам — раніцою гарбата з хлебам, а ўвечары абед, ад якога заўсёды смярдзела кіслаю аўчынаю.

Гаспадар наш, які яшчэ сяк-так абыходзіўся з падмайстрамі, нас біў часта, біў насмерць. Звычайна разы тры на тыдзень ён прыходзіў у майстэрню з пахмелля, з распухлым тварам і абвязанаю галавою. За невялічкую правіннасць або нялоўкасць ён аграваў чым папала. Адзін раз ён так трэснуў мяне літоўнікам па галаве, што я ледзь прыйшоў да памяці, а потым з тыдзень быў як непрытомны. Чатыры гады жыў я так, пакуль пачаў атрымліваць заработак грашмі. Пасля гэтага хутка я кінуў майстэрню і перайшоў на вялікі трубачны завод.

Тут я патаварышкаваў з адным рабочым, які спадабаўся мне сваёю цвёрдасцю і стрыманасцю. У мяне, мусіць, яшчэ засталася вясковая адчужанасць і баязлівасць, і таму гэта-

га мне больш падыходзілі людзі ціхія. Але спакойнасць майго новага таварыша была зусім іншага характару. Ён проста не меў часу займацца рознымі гульнямі ці вадзіць шырокае знаёмства. Выгляд яго быў заўсёды задуменны; вольны час ён скарыстоўваў ці на чытанне, ці на гутарку з двума-трыма таварышамі. Ад яго і я даведаўся шмат чаго. Гэта ён першы пазнаёміў мяне ўвогуле з тым злом, якім з'яўляецца наш расійскі царска-панскі лад; ён першы вытлумачыў мне, чаму мой бацька хаваўся ў пасу ад соцкага, чаму рабочы на заводзе працуе іншы раз больш дванаццаці гадзін. Коратка кажучы, неўзабаве я зрабіўся блізкім сябрам гэтага чалавека, а праз яго — сябрам яшчэ некалькіх нашых рабочых. Я ведаў, што такія групкі рабочых маюцца і на іншых заводах, і з вялікаю ахвотаю хадзіў да іх па даручэнню маіх таварышаў. Мы адчувалі сябе моцнымі, бо мы былі аб'яднаны агульнаю думкаю і былі не адны. Колькасць нашых сяброў павялічвалася хутка. Мы лічылі, што толькі аб'яднанымі сіламі рабочых можна скінуць царскі пасад, а разам з ім і сацыяльны ўціск, і пабудаваць новае вольнае жыццё.

— Дык ты таксама быў рэвалюцыянерам, Паўлік? — ажывіўшыся, запыталася Зося.

— Быў і застаюся. Праз тое, што быў рэвалюцыянерам, трапіў у астрог, прасядзеў два гады.

— Як жа там у водзыве напісана, што «ни в чем предосудительном замечен не был?». Памятаеш паперку, што я знайшла ў пана Ляскоўскага?

— Памятаю, але там гэта не пра мяне напісана. Аб нейкім Зыкаве, якога я ніколі не бачыў.

Зося адскочыла ўбок і здалёк неадчэпна-спалохана глядзела на таго, каго яна прызвычаілася лічыць Зыкавым. Аблічча і імя так асацыяваліся ў яе, што яна ніяк не магла зразумець магчымасці разлучыць адно з другім. Ёй нават здавалася часам, што ён або кпіць з яе, або мае нейкую недарэчнасць у мазгах, аб якой яна дагэтуль не ведала. Зося

недаўменна і са страхам пазірала — яна нават не ведала, на каго цяпер.

— Я «не уроженец Тверской губернии Павел Евстигнеев Зыков», а беларус... прозвішча маё такое, што за адно яго, калі даведаюцца, павесяць.

Зося з жахам падскочыла да яго, да болі ўчапілася яму ў руку.

— Скажы ж мне, як зваць цябе, цяпер я не ведаю... як думаць нават аб табе.

— Мяне завуць сапраўды,— ціха прагаварыў ён,— Гаўрыла Трахімавіч Росяк, але ты павінна зваць мяне, як і ўсе, Зыкавым Паўлюком Еўсцігнеевічам.

— Чаму гэта так трэба?

— Таму, што Росяк уцёк з астрога да пары і яго чакае далейшая кара, а майстар Зыкаў толькі захварэў, ачуняў і паехаў у іншае месца шукаць працы. Росяк з пашпартам Зыкава прыехаў да пана Ляскоўскага.

— Адкуль жа ты ўзяў гэты пашпарт?

— Ну, гэта не так цікава, я, можа, калі больш падрабязна скажу аб гэтым... Дык вось мая гісторыя. Холадна, мусіць, табе, пойдзем дадому.

Яны пакінулі пень, на якім сядзелі, і пайшлі назад да рэчкі. Ззаду за імі рыпнуў снег і шаснула галлё. Але яны не заўважылі гэтага, будучы заняты глыбока сваімі думкамі. Зыкаў адчуваў нейкую ўнутраную няёмкасць ад таго, што не стрымаўся расказаць Зосі аб турме і змене прозвішча. Недзе глыбока казлытала думка, што нядобра ён зрабіў, уцягнуўшы дзяўчыну, якая толькі пачынае жыць, у такі складаны клубок яго жыцця і чыннасці. Яна кахае яго — гэта так, але ці здолее яна вытрымаць такую цяжкую таямніцу, ці варта было навальваць на яе такі абавязак, на такую яшчэ нясталую? А калі яна не вытрымае? Тады не толькі для яго небяспека, а можа парушыцца і тая справа, якую з такімі перашкодамі яму ўдалося крыху наладзіць. Дробку будучае арганізацыі ён ужо заклаўшы ў гэтым нават глухім кутку: было б вялікім злачынствам, калі б яна загі-

нула праз яго нястрыманасць. Ну але біць пакаянную — позна. Зося — шчырая дзяўчына, і нічога дрэннага ад гэтага прызнання не будзе.

Зося ішла з ім побач. Хоць ён і трымаў яе пад руку, але не адчуваў таго прытульвання, якое так лашчыла яго па дарозе ў лес. Дзяўчына глядзела перад сабою, глыбока думала, і толькі каля брамкі школы яна падняла вочы, у якіх засвяцілася пяшчота і цяпло. Але як толькі Зыкаў адышоў, развітаўшыся, задуменнасць зноў ахапіла яе.

## IV

Смутныя дні пачаліся для Зосі. Калі раней яна бачыла ў Зыкаве спагаднага, мяккага чалавека, разумнага і досыць далікатнага, які так па-таварыску адносіўся да яе і, яна адчувала, кахаў яе, кахаў не так, як брат ці бацька, такога чалавека, якому яна не пасаромелася сказаць аб брудных учынках з ёю пана Ляскоўскага, то цяпер гэты яго вобраз заваlокся нечым няясным, няпэўным. Апроч таго, у яе дзявочых летуценнях той чалавек, якога яна пакахае, здаваўся якім-небудзь не зусім звычайным. Жыццё ж Зыкава, або Росяка, ці як яшчэ там, было такім, паводле яго ўласных слоў, цьмяным, гаротным, што ніякім флёрам вышэйшае паэзіі яго апрануць было нельга. Праўда, ён займаўся нейкімі там справамі, за якія сядзеў у астрозе. Ён быў рэвалюцыянерам. Але сучасны яго выгляд не мае адбіткаў геройства. Аднак Зыкава параўнаць няма з кім: ён усё ж вышэй ад усіх тых людзей, што акружаюць яе.

Зося займалася такімі разважаннямі і ў часе службы і дома, нават у прысутнасці самога Зыкава. Яна заўважыла, што ў той вечар, калі ён не прыходзіў, больш смутныя думкі ахаплялі яе, з'яўляліся розныя непаразуменні з сабою. Але даволі было Зыкаву сядзець тут, у пакоі, схіліўшыся над кніжкаю, як яна супакойвалася: ціхая радасць сыходзіла ёй на сэрца, і яна то з захапленнем, то з пяшчотаю па-

глядала на яго твар, асветлены ўпартаю думкаю, аздоблены рыскамі асаблівае рашучасці. Праз некалькі дзён яе душэўная мешаніна, выкліканая апісаннем жыцця Зыкава, мінулася, і яна, як увесь апошні час, трапятліва чакала яго прыходу, сустрэч з ім.

Аднак яе нагнала новая хваля цяжкіх разважанняў. Адзін раз, калі Зыкаў выходзіў са школы каля поўначы і Зося прыхілілася да яго ў цемры сенцаў, ён, пасля кароткае развагі, запытаў ціха, у самае яе вуха, калі яны стануць жанатымі. Зося адскочыла ад яго і нічога не змагла адказаць — так была ўсхвалявана. Моўчкі вярнулася яна ў пакой, з моцна торкаўшым сэрцам пастаяла каля дзвярэй, пакуль не бразнулі дзверы знадворныя, і кінулася ў сваю баковачку. Цэлую ноч праляжала яна без сну, некалькі разоў усхаплялася, запальвала свечку, сядзела з бяздумнымі, здавалася, вачыма. Самая думка аб шлюбе была такая незвычайная, што яна зусім не ведала, як да яе падысці. Гэтая думка палохала, ледзяніла сэрца, страшна было думаць аб тым, што будзе пасля шлюбу. Часамі здавалася Зосі, што яна больш не зможа сустрэцца з Зыкавым, што цяпер скончылася пара шчырых, ясных адносін. Што ёй адказаць? Можа, так і пакінуць без усякага адказу? Зыкаў забудзецца аб сваім запытанні, пройдзе час, і яны будуць зноў проста так кахацца. Ёй калола нешта ў сэрцы, калі прыходзіла думка, што Зыкаў можа зусім кінуць бачыцца з ёю, калі яна не адкажа згодаю на яго прапанову. Ёй было і страшна, і соладка.

Пятрусь Мікалаевіч быў надта занепакоены тым выглядам, які мела дачка на другую раніцу. Палаўшы яе твар, сухія патрэсканыя губы, бліскучыя вочы прыдавалі ёй выгляд хворае. Ён з пяшчотай падышоў да яе і пачаў прасіць, каб яна легла ў пасцель, не выходзіла б, пакуль не наведаецца хоць фельчар, які быў у вёсцы. Слухаючы перапалоханы голас бацькі, бачачы яго ласкавую клапатлівасць, Зося горка думала аб тым, што ёй нават няма з кім параіцца, няма каму расказаць аб сваіх сумненнях і сваім шчасці.

Пры гэтай думцы ёй стала яшчэ больш крыўдна на свет, яшчэ больш шкада самой сябе. Напружанасці ўсіх адчуванняў яна не вытрымала і залілася гарачымі слязьмі.

— Што з табою, галубка мая? — запытаўся бацька, зусім збіты з панталыку.

Зося абхапіла яго шыю рукамі і без сілы схілілася галавою яму на грудзі. Плач доўга не даваў ёй гаварыць.

— Татачка, родны! Дапамажы мне! — скрозь плач вырываліся ў яе паасобныя словы.

— У цябе баліць што, Зосечка?

— Нічога ў мяне не баліць! — выкрыкнула Зося.— У мяне на сэрцы гарыць, галава круціцца, я не ведаю, што рабіць. Дапамажы мне, як бацька, як родны, чаго ніхто не зробіць.

— Ну скажы ж, у чым дапамагчы табе?

— Вось... скажы... ісці мне замуж ці не? — апошнія словы яна вымавіла скорагаворкаю і задыхнулася.

Пятрусь Мікалаевіч страпянуўся, спалох яго крыху разышоўся. Нават хітраватая ўсмешка паказалася на яго губах.

— За каго? — Ён ужо весела глядзеў на дачку, чакаючы адказу.

— За... за... Зыкава! — адказала яна і схавала галаву пад бацькаў пінжак.

— Можна было б і пачакаць табе з замужжам, ты яшчэ толькі-толькі выйшла з падлеткаў. Ну, але... Што ж, ён прасіў цябе аб гэтым і ты згадзілася?

— Я нічога не адказала, спалохалася. Але я ведаю, што кахаю яго! — ціха, пачырванелая, як вішня, прызналася яна.

— Ну добра, што запыталася ў мяне. Я пярэчыць не буду, хоць «малады» ён — не зусім звычайны. Настаўніцкая дачка за каго звычайна ідзе? Ну, за дзяка, пісара, настаўніка, паштавога чыноўніка і іншую службовую «брацію». Зыкаў жа — ні то рабочы, ні то тэхнік, сёння тут, заўтра за трыдзевяць зямель. Адкуль ён сюды прыйшоў, што з ім было раней — нікому невядома. Які будзе ён муж, сказаць нялёгка. Чалавек ён, відаць, не кепскі, для свайго

стану разумны і здатны. Калі кахаецеся, то выходзь. Я не хачу камандаваць у гэтым.

Гэтыя сухаватыя разважанні бацькі не толькі не дапамаглі Зосі знайсці адказ на тое, што мучыла яе, як дзяўчыну і кабету, але пасеяла яшчэ больш смутку ў яе сэрцы. Бацьку таксама здавалася будучыня шлюбу няпэўнаю, хоць ён разглядаў гэтую будучыню зусім з іншага боку.

— Я сама падумаю аб гэтым,— спаўшым голасам прагаварыла Зося і спалохалася за сваю самастойнасць у такім пытанні.

На службу яна не пайшла, увесь дзень хадзіла як непрытомная: пад вечар зайшла да Кавальчыкаў, у хату Зыкава, і пакінула там пісульку.

Зыкаў з'явіўся нават раней, чымся вызначана было ў лісце Зосі. З твару яго быццам сыпаліся праменні радасці. Самы ліст ужо сведчыў аб тым, што ўчарашняя прапанова яго не адкінута.

Пятрусь Мікалаевіч сустрэў яго ветліва, але няёмкасць старога адчувалася даволі выразна.

Зося, змучаная бяссоннаю ноччу і беспакойным днём, прывіталася з Зыкавым так напружана, што ў таго зусім апала сэрца. Зыкаў бачыў, што аб яго прапанове шлюбу ведае ўжо і бацька. Гутарка ніяк не завязвалася, пачуцці ва ўсіх траіх былі напружаныя.

— Пятрусь Мікалаевіч, выбачайце мяне, калі я выйду ў клас і папрашу Зосю Пятроўну паказаць мне вучнёўскую бібліятэку: я даўно хацеў азнаёміцца з ёю. Вы не адмовіцеся? — звярнуўся Зыка́ў перш да бацькі, а потым да Зосі.

— Калі ласка,— усміхнуўся стары на гэтую ясную для яго хітрасць.

Зося моўчкі пайшла ўперад з лямпаю ў руцэ. Шкло дрыжала і дробна звінела. Твар дзяўчыны то бялеў, як крэйда, асветлены лямпаю, то зеляneў, калі на яго падаў цень ад абажура. Гэтыя змены святла і ценяў надавалі Зосі суровы выгляд, які мала стасаваўся і з яе ўзростам, і з яе натураю.

— Я думаю, што ты не сярдуеш на мяне за ўчарашнія мае словы! Але ж у цябе такі... такі асаблівы выгляд, Зося?

— Мне надта цяжка,— ледзь адказала яна.

— Страшна замуж ісці? А як жа з каханнем, Зосенька? Я больш мучыцца не магу,— з нахлынуўшым, як паводка, пачуццём прагаварыў Зыкаў і абхапіў дзяўчыну ў магутным уздыме.

Яна хістанулася, як тонкая галінка плакучае бярэзіны пад ветрам, і замерла ў яго руках.

— Я згодна на ўсё, што хочаш,— слаба прашаптала яна, і яе вусны зліліся з яго вуснамі.

Яшчэ нямоцную, пасадзіў ён Зосю на ўслончык парты, а сам з лямпаю падышоў да шафы і нібыта пачаў разглядаць кніжкі. Але раптам другая рука ўзялася за лямпу і паставіла яе на акно.

— Ну дагоніш мяне ці не? — і Зося віхрам панеслася між партамі, па партах, пераскокваючы з адной на другую. Зыкаў першы раз голасна рассмяяўся, махнуў рукамі і пусціўся лавіць яе. Але яго буйнаватая фігура кепска спраўлялася з вузкімі праходамі, з невядомымі яму паваротамі. Удабавак акуляры яго ляпнуліся на падлогу; зазвінела жаласна выскачыўшае шкельца.

— Эх ты, бягун! І як ты адтуль уцёк?

Зыкаў зразумеў гэты жартаўлівы ўпік. Аднак, хоць гэта былі і жарты, але яны прыпынілі яго вясёласць. Зося таксама прыціхла пад уплывам гэтых слоў, якія яна сказала нават не абдумаўшы. Прыціхшыя, вярнуліся яны да Петруся Мікалаевіча, якому Зыкаў крыху ўрачыста абвясціў аб тым, што ён жадае жаніцца на Зосі.

— Благаслаўляць вас?.. э... не... веру я і сам у гэта. Проста жадаю вам шчаслівага сумеснага жыцця,— дрыжачым голасам прагаварыў стары і з мокрымі вачамі пацалаваў Зосю і зяця.

— Шануйце яе, яна яшчэ зусім блазан.

Блакітныя агеньчыкі скакалі з вачэй Зосі. Яна, слабая, абаперлася на руку Зыкава.

— У галаве ў мяне ўсё пераблыталася,— як праз сон прагаварыла яна.

Стары выйшаў за дзверы. Яны селі на канапу і моўчкі з захапленнем глядзелі адно аднаму ў вочы. Раптам сударга прайшла па целе Зосі, і іскры зацмелі ў яе прамяністых вачах.

— А калі даведаюцца, што ты не Зыкаў? — Рука Зосі, ляжаўшая на плячы яго, саслізнула ўніз.

— Гэтага не павінна быць,— цвёрда адказаў Зыкаў.

— Мне ўсё ж страшна,— шапнула яна.

— Цяпер перад намі абоімі вялікая праца. Ты побач са мною пойдзеш па шляху барацьбы са старым за новае, і трэба мець для гэтага належную адвагу.

— Я разумею, я рада быць з табою, але ж вось нічога не зраблю са страхам.

— Зося, мы яшчэ не зламалі жыцця адзін аднаму і... калі ты адчуваеш якую-небудзь непрыемнасць або непаборную цяжкасць, дык... можна... разысціся. Толькі мне гэта было б страшна цяжка... так цяжка.

— Не, не! Толькі не гэта! Я перамагу сваю боязнь, паспрабую забыцца аб тым, што ты не Зыкаў. Я з табою буду заўсёды, Паўлючок!

Зося зноў прытулілася да яго, гладзіла яго валасы, шукала яго руку. Але ўсё ж блакітныя агеньчыкі яе вачэй не былі такімі жвавымі. Часта погляд яе быў такім, быццам яна ўглядалася ў нязмерную далечыню або, наадварот, у сярэдзіну самой сябе. Не змаглі канчаткова ажывіць яе і лёгкія вясёлыя гутаркі Зыкава аб розных здарэннях, якія яму даводзілася наглядаць пры яго разнастайных занятках і вандраваннях. Так і пакінуў ён засмучаную ўглыбі сваю маладую.

Засмучаны выйшаў ад настаўніка Зыкаў. Што будзе, калі пад уплывам сваіх пачуццяў кахання Зося дала згоду на шлюб, а страх перад яго мінулым і будучыняю ў яе застанецца? Яна будзе ўсё часцей ды часцей падпадаць пад уплыў гэтага страху, жыццё гэта ёй надакучыць, і замест

радасці будуць для яе адны пакуты. Можа, ёй больш падыходзіла б спакойнае жыццё, забяспечанае больш пэўнымі ўмовамі? Але ж Зося з самага пачатку іх знаёмства здавалася яму шмат вышэй звычайных «барышень». Яна мела жвавасць, імпэт, захапленне, адзыўнасць на гора іншых, яна можа зрабіцца партыйнаю работніцаю. Да ўсяго гэтага яе хараство, яе поўныя цяплыні і кахання да яго вочы, яе гарачыя, як вугалі, губы... У Зыкава зайшлося ў галаве ад успаміну аб пацалунку ў класе сёння... Не, гэты страх — часовы. Можа, проста ў Зосі падвышаная нервовасць пасля дня і начы, на працягу якіх яна не зводзіла ў сне вачэй. Безумоўна, ён даможацца перамагчы гэты яе страх, а тады ўсё добра будзе... Пасля пабудовы паперні ён тут не застанецца: трэба будзе падацца куды-небудзь у горад, дзе больш партыйнае працы і дзе можна будзе даць належную працу і Зосі. Каханне ў сумеснай, агульнай працы па аб'яднанню рабочых на барацьбу за лепшую будучыню — гэта вышэйшая, найбольш поўная форма жыцця. І ён даможацца гэтага. Зося самаахвярная, Зося таксама кахае яго.

Настрой яго падняўся. Ён прайшоўся па гасцінцы, павольным крокам ішоў да свае хаты. Дзе-нідзе вокны ў хатах былі ярка асветлены. Адтуль несліся дзявочыя спевы, гучныя галасы і рогат хлапцоў. Самая пара вечарніц. Зыкава так акрыляла радасць, што яму хацелася зайсці на вечарніцы, рагатаць і спяваць разам з хлапцамі і дзяўчатамі. Ён нават не падумаў, што з маленства, як паехаў у горад, не бываў на такіх вечарніцах. Падышоўшы да сяней бліжэйшае хаты, ён ужо ўзяўся за клямку. Але раптам дзверы адчыніліся і з іх вылезла спачатку калматая галава прасніцы, а за ёю другая — дзявочая галава, потым і ўся фігура ў кажушку.

— Ды гэта ты, Ганулля? — прыгледзеўшыся, весела сказаў ён.

— Ну, а то хто ж? А чаго вы тут, да дзяўчат, ці што? — у свой чарод запыталася Ганулля, пастараўшыся асабліва падкрэсліць слова «дзяўчат».

Зыкаў крыху заблытаўся.

— Вы ж святы,— насмешна гаварыла Гануля,— да дзяўчат не ходзіце, толькі з паненкамі круціце.

Гануля ішла дадому з вечарніц. Зыкаву было ўжо ніяка-ва сунуцца ў чужую хату, і ён пайшоў дадому разам з Ганулято.

— А ведаеш, Гануля, я жанюся,— не ўтрымаўся, каб не пахваліцца ён.

— Як жа, на паненцы! Гэта навіна, можа, для вас.

Зыкаў быў здзіўлены. Больш таго, у голасе Ганулі адчувалася такая вострая варожасць да яго, што ён нават збянтэжыўся.

— Мужык вы, лапцюжнік, а за паненкаю ўвязаліся! Не дачакаецеся, каб я ўжо так шмуглявала падлогу ў вас у хаце! — зусім злосна прагаварыла яна ўжо ў сенцах, адкуль яны павінны былі разысціся: Гануля ў курную, а Зыкаў — у чыстую хату.

Яна бразнула прабоем. Зыкаў ніяк не мог зразумець, чаго раззлавалася на яго Гануля; не здагадацца яму было і аб тым, адкуль яна ведае, што ён былы селянін.

«Звычайная, мусіць, ваўкаватасць вясковае дзяўчыны», дастаючы з палічкі кніжку Горкага, падумаў ён. Прачытаў ён разы два «Буревестник», хадзіў доўга па хаце, пробаваў чытаць яшчэ што іншае, але зараз жа пакідаў: не чыталася, нутраныя званочкі не давалі ні спаць, ні чытаць...

На другі дзень Зося, не выходзіўшая яшчэ на службу, была надта здзіўлена, што бацька яе, распусціўшы дзяцей са школы раней звычайнага часу, пачаў прыбірацца. Ён выцягнуў хоць крыху рыжаватую, але крухмаленую бялізну і застарэлы гальштук. Быў вынесены на святло з шафы і пацёрты старэнькі сурдут. Зося амаль і не помніла бацьку ў такой вопратцы.

— Куды ты збіраешся, татка? — зацікавілася яна.

Пятрусь Мікалаевіч адказаў не адразу: яму было непрыемна паведамляць аб гэтым дачцэ.

— Ці не да папа ты? Такі ўрачысты выгляд у цябе,— не іначай як для перамоў з папом аб шлюбе.

— Так, так, да папа! — паспешліва падхапіў ён.— Трэба ж з ім пагаварыць, спытацца, калі б ён параіў абвянчаць вас.

— Можа, гэта і непатрэбна было б — раіцца; ну, але як сабе хочаш.

Настаўнік, спяшаючыся, выйшаў з дому, прагнучыся не глядзець на Зосю. Яна бачыла ў акно, як ён сапраўды пайшоў у бок царквы.

Але Пятрусь Мікалевіч толькі крыху прайшоў у гэтым кірунку. Хутка ён павярнуўся ў другі бок і шпаркім крокам нарыхтаваўся да маёнтка. Нешта гнала яго ўперад, пакуль ён быў на адчыненым месцы шляху. Апынуўшыся на галоўнай алеі, дарозе за дрэвамі, дзе яго нельга было бачыць са школы, ён стрымаў сваю хаду і чым бліжэй падыходзіў да палаца, тым больш мітусіліся яго ногі, быццам чапляліся адна за другую. Прыпыніўшыся каля галоўнага ганка, ён упаў у задуменнасць, але, урэшце, страсянуў галавою і схаваўся за дзвярыма. Выйшаўшаму насустрач лёкаю ён сказаў, каб той правёў яго да пана.

Ляскоўскі прыняў настаўніка ў тым самым кабінеце, дзе некалькі месяцаў таму назад ён раз'юшваўся над яго дачкою. Акінуўшы вокам урачыстае, хоць і жаласна-пажоўклае адзенне свайго госця, пан Ляскоўскі агідна ўсміхнуўся.

— Што гэта вы такі зухаваты сёння, пане настаўнік? — з чуць прыкметнаю ўсмешкаю запытаўся ён, прапануючы Петрусю Мікалаевічу крэсла.

— Не часта я наведваюся да вас, пане, а на гэты раз я асабліва хацеў падкрэсліць сваю пашану да вас,— крыху хвалюючыся, прагаварыў стары.

Гаспадар яшчэ больш выразна ўсміхнуўся. Яго, мусіць, забаўляў выгляд настаўніка, у якім злучалася заношаная прымітыўнасць з нейкаю знарок нібы зробленаю ўрачыстасцю. Пятрусь Мікалаевіч бачыў, якое ўражанне робіць ён на пана, і праз гэта ў ім ачнулася сарамлівасць і паразу-

менне сваёй нязграбнасці. Але больш усяго непакоілі яго іншыя думкі.

— Ну дык чым я мушу быць вам карысны? — пакінуўшы ўсміхацца, запытаўся Ляскоўскі.— Вы ж не проста так сабе зайшлі да мяне, аб гэтым сведчыць ваш парадны выгляд.

— Я... я да вас па вялікай справе.

— Слухаю.

— Мая дачка выходзіць замуж,— як стукнуў голасам настаўнік.

— І вы прыйшлі прасіць мяне шаферам? Ха-ха-ха! — Сарданічны смех закалыхаўся не толькі ў кабінеце, але пранёсся і па другіх пакоях.

Пятрусь Мікалаевіч турзануўся ад гэтага смеху. У ім ён адчуў такую глыбокую непрыязнь да сябе, што не мог адважыцца падняць вочы на пана. Губы яго нібы былі сціснуты абцугамі.

— Не ад вас першага чую я, што ваша дачка збіраецца замуж: нават ведаю за каго. Вы крыху позна прыйшлі паведаміць мне, але і на гэтым дзякуй.

Ляскоўскі ўпарта разглядаў свайго госця, які быццам прыціснуты нязмерным цяжарам, схіліўся над сталом. Ляскоўскі ўспомніў, як каля гэтага самага стала ён сціскаў у сваіх руках цёплае маладое цела Зосі, як яна з нечаканаю сілаю адбівалася ад яго... і высклізнула з рук у самы палкі момант яго жадання. Думка завалодаць гэтай дзяўчынай зноў усхвалявала яго, як і кожны раз, калі якая-небудзь прычына абуджала ў ім успамінак аб ёй. Гэтая думка крыху згладзіла колкасць яго адносін да Петруся Мікалаевіча.

— Я пакпіў крыху. Ведама, вы прыйшлі да мяне не з тым, каб прасіць быць шаферам у вашае дачкі або ў майго ж рабочага. Вы маеце нешта іншае да мяне, дык, калі ласка, скажыце,— зусім мякка ўжо прагаварыў Ляскоўскі.

Пятрусь Мікалаевіч не адразу акрыяў пад праменнямі панскае ласкі. У яго вушах усё гучаў злыдны смех Ляскоўскага. Адзін момант ён нават намерваўся развітацца з па-

нам і кінуць тое, за чым прыйшоў. Але больш моцныя спружыны прыціскалі яго да крэсла, і ён паволі ўцішваў у сабе тое абурэнне, якое закіпела ў ім ад першых слоў пана і яго насмешкі.

— Так, пане,— ціха загаварыў настаўнік,— вы не даслухалі мяне, а я маю да вас вялікую просьбу...

Ляскоўскі бачыў, што Петрусю Мікалаевічу нялёгка гаварыць; значыць, тут ёсць нешта не зусім звычайнае. Цікавасць яго была ўсамдзеле падштурхнута.

— Кажыце, кажыце, я ўсякую вашу просьбу выканаю.

— Бачыце, шаноўны пане, мая дачка зусім па-асобаму хоча выйсці замуж. Гэты Зыкаў усё ж толькі рабочы, становішча яго няпэўнае.

— Так, так! Ваша дачка ўсё ж паненка, мае асвету, далікатная, і вы правідлова думаеце, што гэты механік ёй не падыходзіць.

— Але ж я не маю намеру супярэчыць ёй. Кахае — няхай ідзе сабе.

Рыска нездаволенасці прамільгнула па твары Ляскоўскага. Мільганула і схавалася за ўважліва-прыветным абліччам яго.

— Дык у чым жа справа да мяне?

— Я вось і прасіў бы вас дапамагчы ім. Можа, будзе ваша ласка даць магчымасць жыць Зыкаву не ў сялянскай хаце, а па-другое,— пакінуць яго на сталую працу на паперні. Мне цяжка было б думаць, што мая дачка бадзяецца, не маючы пэўнага прытулку.

Ляскоўскі зноў пусціў агідную ўхмылку.

— Вам, народніку, не падабаецца, каб дачка ваша жыла ў сялянскай хаце? Ну, добра, гэта мы зможам зрабіць. Што ж належыць да Зыкава, то я ім быў задаволены да гэтага часу і буду цаніць яго, як рабочага.

— Дык вы дапаможаце ім, вы ўважыце маю просьбу? — абнадзеяна пытаўся Пятрусь Мікалаевіч, устаючы лёгка з крэсла.

— О, будзьце ўпэўнены: ваша дачка не будзе жыць у сялянскай хаце.

Настаўнік зрабіў нізкі ўклон. Выходзячы за дзверы, ён не пачуў смеху Ляскоўскага.

— Твая дачка не будзе жыць у сялянскай хаце! Ха-ха-ха! — рагатаў пан, выклікаючы лёкая.

Ён паслаў яго за бухгалтарам.

## V

Абсталяванне папяровае фабрыкі набліжалася ўжо да канца. Вялізарныя катлы былі сабраны і ўмацаваны на цэментовых пастаментах; ад іх тоўстымі, ламанымі вужамі пацягнуліся параправоды. Заставалася прывезці і паставіць самую важную і найбольш далікатную частку абсталявання — самыя папяровыя машыны. Яны былі заказаны Ліўшыцам недзе ў Нямеччыне і павінны былі з дня на дзень разабранымі прыбыць на бліжэйшую станцыю чыгункі. Дзеля гэтага Зыкаў зусім не быў здзіўлены, калі дні праз тры пасля таго, як была зроблена ўмова аб шлюбе, раніцою атрымаў загад ехаць на станцыю па машыны. Як толькі Зыкаў з'явіўся на работу, да яго падышоў ружовы інжынер (ён так добра спяваў рамансы пад акампанемент панны Ляскоўскае!) і аддаў загад ехаць. Ехаць — безадкладна і як мага хутчэй. Толькі і падзівіўся Зыкаў, што гэтай паспяховасці: інжынер ніколі не прыходзіў на месца работы па гудку, а так — гадзіне аб адзінаццатай, па-другое ж — каля агароджы паперні стаяў ужо запрэжаны ў вазок конь.

— Дык вось, сядай,— і марш на станцыю! Там у вазку ўсё ёсць — кажух і валёнкі,— гаварыў вясёлы інжынер.— Трэба спяшацца, бо дарэмна прастаяць вагоны, прыйдзецца за іх плаціць. Так... Ага! Фурманкі пашукаеш у мястэчку, што каля станцыі... Калі ж машыны не прыехалі, дык чакай іх, пакуль не прывязуць. Усё зразумеў?

Зыкаў коратка ўсміхнуўся.

— Бадай, усё — мудрага ў гэтым нямнога.

— Ну дык садзіся і гані!

Праз некалькі хвілін Зыкаў, уваліўшыся цяжкім снапом у вазок, крануў каня, які, застаяўшыся на марозе, адразу хутка панёс. Праз момант вазок выскачыў на гасцінец, у шэрані перадранішніку прамільгнуў сілуэт школкі.

— А як жа паведаміць аб ад'ездзе Зосю? — мільганула ў яго запытанне.

Гэтая думка-запытанне страсянула радасцю сэрца. Раней ніколі не было патрэбы паведамляць каго аб такім здарэнні, як кароткі ад'езд, а цяпер з'явілася такое пачуццё, як нешта не пускае ехаць. Ён прытрымаў каня, спыніў, прывязаў лейцы за плот. Узышоў на заснежаны ганак школкі, падняў руку пастукаць у дзверы. Але цішыня і спакой, якія нesліся ад цьмяных акон настаўніцкае кватэры, стрымалі яго. Сышоўшы з ганка, ён прастаяў некалькі хвілін нерухома перад акном, пакуль заржаўшы конь не прывёў яго да сапраўднасці. Ён сеў у вазок, абвёў доўгім поглядам вокны, брамку, нават голыя дрэвы за плотам і ступой ад'ехаў.

Праязджаючы вёску, Зыкаў зноў прыпыніўся, на гэты раз каля хаты Сымона Кавальчыка, дзе ён кватараваў. Ён убег у хату і падняў грукат, шукаючы сярнічкі, каб запаліць лямпу. На гэты грукат на «чыстую» палавіну заскочыла перш Ганулія, а потым і старая Сымоніха.

— Што, што здарылася? Сымон, хадзі сюды: нехта зайшоў у хату! — сполахна загаласіла старая.

— Ды гэта ж я — Пятро! — са смехам супакоіў гаспадыню Зыкаў.

Сярнічкі былі знойдзены, лямпа асвятліла хату. Ганулія і яе маці, здзіўленыя незвычайным прыходам Зыкава, а яшчэ больш — яго раскошнаю цёплаю вопраткаю, стаялі нерухома каля парога і ва ўсе вочы пазіралі на свайго кватаранта. Той жа дастаў з куфэрка невялічкі кавалак паперы ды канверт і пачаў нешта чыркаць: пёрка аж трашчала ў яго руцэ.

— Я паеду да чыгункі. Можа б, вы, цётка Сымоніха,

пашукалі мне кавалачак хлеба на дарогу? — прыпыняючыся пісаць, папрасіў Зыкаў.

Як толькі старая выйшла за дзверы, Зыкаў падышоў да Ганулі і падаў ёй заклеены канверт.

— Зрабі ласку, Ганулька! Аддай сёння ж гэты ліст настаўнікавай дачцэ. Добра?

— Тваёй «маладой»? Ну, што ж — аддам!

Яна ўзяла канверт і сунула яго пад кофту. Рукі яе хутка завіхаліся штуршкамі, вочы яна адводзіла ўбок.

— Ты толькі не марудзь перадаць,— папрасіў Зыкаў.

— Яна, мусіць, яшчэ і не думала ўставаць, а я ўжо намалацілася,— быццам адказваючы на нейкую іншую думку, прагаварыла Ганулля.

— Аб чым ты гэта? Ну, бывай здарова, я паеду!

Ганулля турзанулася на крок-другі ўслед Зыкаву, але прыпынілася і абаперлася рукою аб вушак. З вуліцы пачуўся рып снегу пад палазамі, глухі тупат каня, які ўсё аддаляўся — і сціх.

Ганулля сунула руку пад кофту, выцягнула канверт, падышла да лямпы. Павольна разадрала канверт і дастала ліст. Доўга глядзела яна ў паперку, на нямыя завітушкі, якія быццам насміхаліся з яе. Буйныя як боб і гарачыя слёзы ліліся з яе вачэй, дзве дарогі прайшлі па яе запыленых шчоках. Рукі рвануліся, і бедны маленькі лісток праз момант дробнымі сняжынкамі апусціўся на падлогу.

— Трасцу я ёй панясу! — уздрыгваючы, прагаварыла дзяўчына і патушыла лямпу.

Урачысты спакой ахапіў Зыкава, як толькі сані саслізнулі з горкі, на якой стаяла вёска. Белая чыстая коўдра палёў, якая ўдалечыні злучалася з такім жа змрочна-бела-шэрым небам, агортвала цішынёю і спакоем. Ніводнага гуку, апроч тупату каня ды рыпу снегу пад палазамі. Здавалася, што сані спяваюць зараз розныя спевы, у якіх гучаць вясёлыя жыццярадыя тонкія гукі разам са стогнам басоў, які перарываецца злобным скрыгатам зубоў. Гэтыя гукі абуджаюць у сэрцы разам пачуцці радасці і пакуты, мяккасці

і жорсткасці. Зыкаў і сам замармытаў нейкі матыў, які немаведама адкуль узяўся і калі захаваўся ў памяці... Конь фырчыць і боязна паглядае ўбок: там, скрозь снежную імглу, разам выскакваюць шэрыя сілуэты і праз момант хаваюцца за туманнаю заслонаю. Зыкаў таксама ўглядаецца ў гэтыя сілуэты, і яны нагадваюць яму праходзячых у жыцці людзей, колькі ўжо давялося спаткаць яму людзей, якія аднекуль выходзілі, набліжаліся да яго, а потым траціліся ў неабсяжнасці свету. Толькі нейкая жменька людзей больш доўга трымаецца ў яднанні, і то, калі яна мае нешта агульнае, супольнае ў жыцці. Увесь астатні свет разарваны, раз'яднаны, кожны, як гэтыя сілуэты каля дарогі, праходзіць сваёю дарогаю, туляючыся за змрокам, пагражаючы патаемнай асабістасцю.

Уперадзе бела-шэры круг разрываецца цёмнаю сцяною, якая спачатку была ледзь прыкметнаю стужкаю. З кожнаю хвілінаю яна разрастаецца ўвышкі і ўшыркі — і раптам робіцца агромністаю, магутнаю. Яшчэ момант — і яна агортвае падарожніка, абымае яго супакоем магілы. Нерухомыя лапы ельніку, абцяжаныя снегам, звісаюць нізка над дарогаю, чапляюцца за дугу, за шапку падарожніка, страсаючы яму за каўнер поўнымі жменямі халоднае срэбра. Зыкаў уздрыгваў ад датыкання гэтых ледзяных рук і падымаў як мага вышэй галаву. Уверсе толькі там-сям праглядала скрозь галлё змрочнае неба. Да гукаў, якія нараджаліся ад фурманкі, далучыліся хутка іншыя: дзесьці ў галлі зашастала і ў паветры звонка панесліся гукі каркання вароны; за ёю падняўся цэлы гвалт варон і галак, якія, мусіць, чарадою пачалі насіцца над лесам. Нават гэты непрыемны крык спадабаўся Зыкаву: ён парушыў магільны спакой лесу, крыху ажывіў яго... Дарога засінела, засінеў снег на галлі дрэў, добра сталі відаць паасобныя колоны хваін і вастраверхія стагі ялін. Дзень пакрысе разганяў змрок ночы. Шэрая стужка неба над дарогаю зрабілася блакітнаю; па ёй праплывалі белыя, як бавоўна, і лёгкія, як пух, хмаркі. Спачатку адзін край, потым і ўся хмарка ружавее, цудоўным вянком

аздабляючы задуменную цёмную галаву магутнае хваіны. Вось у лёгка-ружовы колер увабраліся і самыя вяршыны дрэў, заззялі мірыядамі зялёных, ружовых, блакітных, чырвоных агеньчыкаў. Яны трапечуцца, мільгацяць, пераліваюцца, мяняюцца бляскам і колерам. Яны дрыжаць, як дрыжыць сэрца, адразу адчуўшы незвычайную радасць. Зыкаў глыбока ўздыхнуў, і ў вачах яго заскакалі такія ж агеньчыкі радасці і жыцця. Ён ускочыў на ногі і, працягнуўшы рукі ў бок сонца, моцна крыкнуў... То не было слова, а проста звярыны крык. Гэты крык звонам пранёсся па лесе, адгукнуўся далёкім рэхам. Конь страпянуўся і віхрам панёс лёгкі вазок.

— Ах, каб тут была са мною Зося,— пранеслася іскрыстая думка.

Зыкаў сцебануў і без таго як віхор ляцеўшага каня. Халоднае густое паветра гуло ў вушах. Вострыя голкі шэрані, скакаўшыя на сонцы, калолі, казлыталі твар, да якога, здавалася, прыліла кроў з усяго цела. Хутчэй да мястэчка, да чыгункі! Хутчэй забраць машыны — і назад, хутчэй зноў пабачыць тонкі дзявочы стан, зірнуць у ясныя Зосіны вочы! Нязмерная радасць білася ў грудзях яго, шукала сабе выйсця і знаходзіла яго ў бясслоўных ускрыках ды ў шалёнай яздзе.

Праз чатыры гадзіны больш за сорак вёрст пакінута было за плячыма. Вось ужо і мястэчка відаць у лагчыне, нават чуцён калі-нікалі звон жалеза ў кузнях. Там далей бела-ружовымі кудрамі ўздымаецца ў сінь неба дым цягніка; звонкі гудок яго аблятае далі маўклівых белых палёў. Гудок абудзіў у Зыкаве больш звычайныя думкі і пачуцці; ён заклікаў яго да прывычнае працы, да барацьбы. Летуценні кахання, момант назад цалкам валодаўшыя Зыкавым, раптам апынуліся побач з цвярозымі думкамі, з успамінамі аб няскончанай рабоце, аб сваіх блізкіх таварышах, якія ў Ляскаўцах, мусіць, ужо напрацаваліся каля гарачых печаў гуты. Гэтыя думкі лезлі ў голаў, патрабавалі сабе месца.

— Ці не занадта я адарваўся ад рабочых, ці не закінуў я тую работу, дзеля якое прыехаў сюды? — паўстала ў Зыкава пытанне да самога сябе.

Як ні дамагаўся ён адхіліць гэта запытанне, цешачы сябе тым, што ўпікаць сябе няма за што, усё ж нешта ўглыбі скраблося, непакоіла. Мусіць, не ўсё так добра, як хацелася б думаць. Вось ён выехаў сёння, на колькі часу — не ведае, але нават і не здагадаўся якім-небудзь чынам паведаміць Рыгорчыка або каго іншага з гуртка. Такога здарэння з ім раней ніколі не траплялася! «Няўжо ж, няўжо... каханне... такая моцная штука, што здольна адхіліць у бок усё іншае»,— пытаўся ў сябе Зыкаў. Хутчэй ён праехаў мястэчка і дасягнуў станцыі, чымся знайшоў адказ на гэтае запытанне.

Зося надта ўсхвалявалася ўвечары таго дня, калі Зыкава так раптоўна паслалі на станцыю. Даўно ўжо на гуце прароў гудок у канцы працоўнага дня, даўно ўжо патух самавар, які яна старанна раздзьмухала, а Зыкава ўсё не было. Раз-пораз падыходзіла яна да акна і пільна ўглядалася ў бляды змрок зімовае ночы. Кожны шолах, кожны тупат на дарозе лавіла яе вострае вуха, і кожны раз сэрца яе трапятліва чакала, што вось адчыняцца дзверы і на парозе пакажацца жаданая постаць Зыкава. Але дарэмны былі яе чаканні. Насценны гадзіннік праскрыгатаў дзесяць разоў і пайшоў далей адбіваць сваё адвечнае «так-так». Зося нервова пратупала туды-сюды па пакойчыку і рыўком скокнула ў сваю баковачку.

Пятрусь Мікалаевіч устаў з-за стала, падышоў задуменна да дзвярэй у пакойчык дачкі, прыслухаўся і пакруціў галавою.

— Зося, што ж ты плачаш, родная? Ці ж варта так хвалявацца з-за кожнае выпадковасці? Можа, ён пільна чымсь заняты і не змог прыйсці,— мякка ўпрашаючы, запытаўся ён у дачкі.

Усхліпванні толькі сталі мацнейшымі і раптам перайшлі на ўзрыдкі. Гэта ўжо плакала не дзіцянё, не падлетак, а

дарослая кабета. Пятрусь Мікалаевіч збянтэжыўся і не ведаў, што рабіць.

— Нельга ж так убівацца з такой нязначнай прычыны! Зосенька, ну, сціхні, дачушка,— паспрабаваў яшчэ раз супакоіць яе бацька.

— Гэта не выпадковасць,— не пакідаючы плакаць, прагаварыла з-за дзвярэй Зося.— Не выпадковасць, татачка!

— У чым жа справа?

— Сённі...— крыху стрымліваючы плач, адказала Зося,— сённі... бухгалтар, як толькі я прыйшла на работу... з такою гідкаю ўсмешкаю звярнуўся да мяне: «А ведаеце, ваш «малады» на вечарынкі ходзіць да вясковых дзяўчат». Я тады толькі пасмяялася сабе над яго нездагаднасцю. А цяпер... цяпер... мусіць, гэта праўда, мусіць, больш прыемна там быць, як зайсці да нас.

Плач зноў запоўніў маленькі пакойчык.

Пятрусь Мікалаевіч пераступіў парог, падышоў да ложка, дзе ляжала дачка, і пачаў угаворваць яе, як малое дзіцця. Ласкавымі словамі гладзячы ёй галаў, ён пакрысе супакоіў яе. Аж да поўначы праседзеў ён каля дачкі, расказваючы ёй розныя вясёлыя або смешныя здарэнні, якія траляліся яму ў жыцці. Зося пад канец нават пачала смяяцца, калі бацька гаварыў што-колечы вельмі ўдала. Пятрусь Мікалаевіч быў зусім задаволены і спакойна пакінуў Зосю. Але як толькі ён выйшаў і згасіў лямпу, яна асцярожна, каб не грукнуць чым, устала з пасцелі і села за столік перад акном. Доўга-доўга так сядзела яна, заплюшчыўшы вочы. Агніста-ружовая гарошынка стаяла ў вачах, рассыпалася дробнымі іскаркамі, зноў збіралася — і рассыпалася. Часамі здавалася, што магутныя званы звоняць, запаўняючы сваімі гукамі ўвесь свет, і Зося была бясконца здзіўлена, калі лёгкі рып падлогі пад яе нагою заглушыў на нейкі час хвалі званоў.

Другі, трэці дзень — Зыкаў усё не прыходзіць, і дзе ён — ні Пятрусь Мікалаевіч, ні Зося не ведаюць. Дзяўчына асунулася, страціла ўсялякую жвавасць, толькі вочы яе часам

кідалі сухія рэжучыя праменні. Пан Пісарэўскі сустракаў яе ў канторы насмешнымі позіркамі; часта ў часы работы яна лавіла на сябе яго неадчэпна-агіднае прыглядванне. З яшчэ большаю паспешлівасцю пакідала яна ў гэтыя дні службу, не трацячы надзеі на спатканне ўвечары з Зыкавым.

Калі яна прыйшла дадому на чацвёрты дзень, бацька сустрэў яе з такім змрочным тварам, што адразу можна было здагадацца аб нейкім незвычайным здарэнні.

— Татачка, ты даведаўся аб чым-небудзь?

— Я не разумею твайго пытання,— паспрабаваў ухіліцца ад адказу стары.

— Навошта ж хавацца? Ты ведаеш нешта аб ім, гавары!

Яна моцная ўчапілася пальцамі ў яго плячо. Палаючыя вочы неадчэпна палілі яго твар.

— Ты толькі вазьмі сябе ў рукі, дачушка. Людзі яшчэ ёсць на свеце, іншы стрэнецца табе...

— Ды што... што ж здарылася з Паўлюком?

— Яго звальняюць з работы!

Зося перавяла дух. Нічога, значыць, страшнага.

— Дык чаго ж ты так сцямнеў, татка? Пачаў ты гаварыць так, што можна было немаведама што падумаць.

— А гэтага хіба мала, дачушка! Ты ведаеш, што значыць быць звольненым з работы. Іншы раз гэта горш... за смерць: застацца без прытулку, без кавалка хлеба. А тут ты аб шлюбе, аб каханні... марыш.

Пятрусь Мікалаевіч адвярнуўся, міма дачкі пачаў глядзець убок. Губы яго трэсліся, быццам ён хацеў нешта яшчэ сказаць і стрымліваўся.

— Ашукаў ён мяне, паглуміўся над пабітым,— з гаркатой у голасе прагаварыў Пятрусь Мікалаевіч, і слёзы заблішчалі на яго шчоках, выплаўшы з-пад акуляраў.

— Хто ашукаў? Паўлюк?

— Не ён, а другія!.. Хадзіў, прасіў, гнуўся!

— Аб чым гэта ты, татка?

— А, нічога! Глупства!

— Ад каго ты даведаўся, што... Паўлюка звальняюць?

— Аб гэтым, мусіць, мы з табою пазней усіх даведаліся: усе гавораць.

Зося ніяк не магла саўладаць з нахлынуўшымі думкамі, пачуццямі. Ёй было і брыдка сваёй падазронасці да Зыкава, які, як яна думала апошнія дні, перастаў кахаць яе, і незразумела, чаму ён сам маўчыць аб такім здарэнні і не паказваецца. Ён шмат перацярпеў на сваім жыцці, і звальненне не магло так зламаць яго, каб ён кінуў... кінуў яе. Тут нешта не так. Яна аб усім даведаецца, яна будзе цвёрдаю. Баязлівая думка прамільгнула ў яе, ці не дазналіся як-колечы аб сапраўднасці Паўлюка — Гаўрылы. Трэба ісці.

Зося накінула вопратку, хустку і пайшла да дзвярэй.

— Куды ты пойдзеш, Зосенька? — запытаўся бацька.— Няма чаго хадзіць: з такога шлюбу добрага нічога не будзе. Я цяпер не даю свае згоды.

Зося пахаладзела ад гэтых слоў бацькі. Хвіліны дзве яна нерухома глядзела на бацьку, потым жаласна-квола ўздыгнулі губы, як у малога дзіцяці. Яшчэ хвіліна — і твар яе збялеў, закамянеў. Рашуча павярнулася яна і пакінула бацьку аднаго ў цесным школьным пакойчыку.

Выйшаўшы на вуліцу, яна ледзь не лётам панеслася да вёскі. У галаве яе тоўхалася толькі адна думка: нягледзячы ні на што, даведацца, што робіцца з Паўлюком. Вось і хата Кавальчыкаў. На двары Зося прыпынілася, сорам затрымліваў яе хаду. Але вось яна пераадолела сябе і ўвайшла ў цёмныя сенцы. Доўга намацвала яна на сцяне, трапяткою рукою шукаючы клямку хатніх дзвярэй. Можа, доўга давялося б ёй шоргацца па сцяне, каб дзверы не адчыніліся з хаты, не аклікнулі адтуль.

Зося ўвайшла і ледзь не затхнулася ад смуроду. Лучына, уваткнутая ў казёл, трашчала і курэла едкім смолкім дымам; пад палом нешта сапло і хрупала — мусіць, авечкі; супраць печы, пад лаваю, стаялі чыгуны і вёдры з памыямі. Зося спынілася каля парога. Дзяўчына, сядзеўшая

за прасніцаю, выпусціла з рук верацяно, якое, крутануўшыся разы два-тры, упала, выскубнуўшы пасму кудзелі.

— Добры вечар,— ціха прагаварыла Зося.— У мяне ёсць справа да Зыкава, дык правядзіце мяне, калі ласка, да яго.

— Ах, гэта вы, паненачка!

Гануля кінула прасніцу і ўстала з лавы, пільна разглядаючы зграбную постаць Зосі.

— Шукаеце, мусіць, свайго «маладога»? Пацеха, дый годзе: дзяўчына сама ў сваты ідзе.

Зося ўскалыхнулася ад пагарды і сораму, вочы яе заблішчалі на блядым твары.

— І на што ён паквапіўся? Тоненькая, як саломінка, блядая, як смерць! Ці ж яму такую патрэбна? — быццам разважаючы, гаварыла Гануля.

— Я прашу сказаць, дзе Зыкаў,— дрыжачым голасам прагаварыла Зося.

— Не ведаю, даражэнькая панначка, ужо чатыры дні, як паехаў.

Апошняе слова, як абухам, выцяла па галаве. Зямля захісталася пад нагамі, млявасць ахапіла ўсё цела, і Зося прыхілілася спіною да вушака. Гануля спалохана пазірала на сваю госцю, хацела памагчы ёй і не ведала, як гэта зрабіць. Хістаючыся, пакінула Зося хату. На дварэ глынула некалькі разоў запар марознага паветра і крыху акрыяла. Слова «паехаў» гучала ў яе вушах, агністымі літарамі стаяла перад яе вачамі. Няўжо ж усё? Пакінуў, нават не развітаўшыся, і куды ён паехаў, што будзе рабіць цяпер, дзе знойдзе прытулак? Жаласць да сябе мяшалася з жаласцю да Зыкава, засланяла слязьмі вочы. «А можа, ён ніколі і не кахаў мяне сапраўды, калі так лёгка кінуў?» — сярод сумбуру розных думак і пачуццяў вырэзвалася настойна адно запытанне. Яна гатова была б пайсці з ім немаведама куды, перацярпела б з ім усе цяжкасці, нават кінула б бацьку, а ён паехаў, нават не паведаміўшы аб гэтым.

Нейчыя крокі пачуліся на вуліцы. Зося ачнулася і заў-

важыла, што стаіць каля плота на чужым двары. Яна баязна азірнулася і хутка выйшла на вуліцу ды пабегла яшчэ хутчэй, чымся тады, як ішла да кватэры Зыкава. Рух надаў ёй крыху бадзёрасці.

— Можа, ён яшчэ вернецца, можа, ён паехаў шукаць работы ў іншым месцы і, як знойдзе, прыедзе і возьме... мяне з сабою,— шапянула ёй у вуха надзея.

Нібы моцныя крыллі падхапілі дзяўчыну. Думка аб тым, што яна зможа пакінуць гэтыя абрыдлыя Ляскаўцы з агіднаю кантораю і бухгалтарам і жыць, можа, у горадзе, абрадавала яе і сагнала тую пакуту і слабасць, якую адчувала яна хвіліну-другую таму назад. Але ж трэба больш дасканала даведацца, куды паехаў Зыкаў і што ён намеціўся рабіць. Піліп Рыгорчык гэта, напэўна, ведае, і Зося шпарка накіравалася ў рабочы пасёлак на гару.

Зосі пашэнціла: Піліпавае жонкі, якая заўсёды бянтэжыла яе сваёю мнагаслоўнаю, крыху лісліваю гутаркаю, дома не было; дзеці ўжо спалі. Адчуваючы сябе больш-менш спакойнаю, Зося ветліва прывіталася з Рыгорчыкам. На гэты раз яе нават мала прыгнятаў жаласны выгляд хаткі Рыгорчыкаў. Яна адразу і адкрыта запыталася пра Зыкава, але адказ атрымала няхутка. Звычайна спакойны, задуменны Рыгорчык, які да ўсяго ў жыцці адносіўся ўнікліва, на гэты раз аж спалохаў Зосю. Як толькі пачуў ён слова «Зыкаў», дык ускочыў з услончыка і закруціўся на два крокі туды і сюды па хатцы. На шурпатым яго твары, звычайна жоўтым, паказаліся чырвоныя плямы, якія мянялі сваё месца, нібы пераскоквалі туды-сюды. Разы два ён падымаў руку і прыкрываў ёю сваё вока, тое самае, якое было паранена ў дзень урачыстага адчынення гуты.

Зося спалохана сачыла за Рыгорчыкам. Яе сэрца, здавалася, зусім замерла.

Яна не спускала сваіх блішчастых сухіх вачэй з Рыгорчыка, куды б той ні павярнуўся.

— Скажыце, што ж з ім здарылася? — ледзь чутна яшчэ раз папрасіла яна.

— Вам павінна было б гэта больш быць вядомым,— сурова адказаў ён напаследак, і нібы сышла з яго адразу небывалая напружнасць.

Хоць такі жорсткі адказ разануў яе як нажом, аднак змена ў выглядзе Рыгорчыка падтрымала яе надзею даведацца што-небудзь.

— Каб я ведала, то не пытала б у вас. Скажыце, дзе ён ужо чацвёрты дзень, куды ён паехаў?

— Куды ён паехаў, я не ведаю. А вось ходзяць нейкія чуткі, нібы яго звальняюць. Вы разумееце, што гэта абазначае?

— І чаму гэта ўсе вы так трасецеся за месца? — злосна запыталася Зося.— Я чула гэта ад бацькі, чую ад вас; Паўлюк, можа, даведаўшыся аб звальненні, кінуў-рынуў усё і паехаў немаведама куды. Не так я думала аб сталых мужчынах.

Маленькі твар Зосі зачырванеў, як вішня; лёгкая дрыжачка страсала яе губы, рукі нервова перабіралі гузікі на паліце.

— Вы ведаеце, што значыць такі чалавек, як Зыкаў, для гэтага глухога кутка? Вам вядома, мусіць, якую работу вёў ён тут па асвятленні класавай свядомасці рабочых. Хто яго заменіць? Такога здольнага няма, і не хутка знойдзецца; вось чаму мяне хвалююць гэтыя, можа, штучна пушчаныя чуткі.

Да Зосі выразна даходзіла кожнае слова, якое казаў Рыгорчык, але ніводнае не закранала, не падымала новых пачуццяў. Перад яе вачамі стаяла постаць Паўлюка, яна раптам адчула нязмерную ласкавасць яго цвёрдае рукі, якая дакраналася да яе лоба, калі яна была хвораю; трапяткая асалода агарнула яе цела ад успамінаў б тых кароткіх сарамяжых пацалунках, якімі ён апальваў яе губы.

Зося правяла сухім языком па палаўшых губах, здрыганулася і з неразуменнем глянула на Рыгорчыка, які, даўно скончыўшы гаварыць, пазіраў на яе, чакаючы адказу.

— Вы... выбачайце, Піліп, вы нешта казалі, але я... я не

чула. Скажыце, дзе ён? Я ж не магу без яго, вы разумееце ці не!..

Голас яе асеяся, у ім пачуліся стогны. Рыгорчык моўчкі пераступаў з нагі на нагу, немаведама дзеля чаго прыгладжваў валасы на галаве, якія ўсё роўна заставаліся стаяць тарчком.

— А ведаеце, мне здаецца, што ён з-за вас і гіне! Выбачайце мяне.

Голас Рыгорчыка быў сухі, словы выходзілі жорсткімі, цяжкімі і білі, як молатам: кожнае з іх вымаўляў ён у пасобку з перапынкам і націскам на канцы. Яны прыдушылі Зосю, нібы прыплюснулі яе да зэдліка, на якім яна сядзела. Шчэмненькая фігурка яе быццам сціснулася, галава схілілася да грудзей.

— Зыкаў павінен застацца тут,— нібы які загад аддаваў, сурова гаварыў Рыгорчык,— і вы можаце і павінны памагчы гэтаму.

Зося зірнула на твар свайго камандзіра. Той стаяў да яе бокам, кідаючы касы погляд у яе бок. Востры падбародак, валасы яго, здавалася, гатовы голкамі калоць яе, а рука, якая апісвала кругі ў паветры, нібы круціла выдзьмувальны цыбук, магла абвалачы яе вакол хаткі. Сполахна і жудасна стала Зосі.

— Як памагчы? — запыталася яна, каб хоць на хвіліну прыпыніць рух яго рукі, выклікаць змену ў яго нядобрым калючым твары.

— Вам трэба прасіць пана Ляскоўскага аб Зыкаве.

Рукі Зосі ўпалі, вочы раскрыліся ва ўсю шырыню, на твары не стала ні крывінкі.

Яна, як абмёршая, нерухома сядзела на зэдліку хвіліну-другую. Скрозь сон ускрыкнула дзіця на палу. Зося раптам штурханулася, ускочыла на ногі і, не гледзячы на Рыгорчыка, кінулася за дзверы, нават не павёўшы вокам у бок пакінутага гаспадара хаты.

Рыгорчык сеў, паглядзеў, не разумеючы, ў акно, потым прайшоўся па хатцы, падаткнуў коўдру на дзецях — і ўсё

гэта рабіў з такою задуменнасцю, нібы кожны крок, кожны рух быў найскладанейшай справай.

— А чорт што! Дрэнь справа... Паненка! Шкада Зыкава, не такая яму патрэбна,— мармытаў ён, падпраўляючы курэўшы кнот у газоўцы.

## VI

Увесь наступны дзень Зося была як ачмуцелая. З бацькам раніцою, выходзячы на службу, яна не прамовіла ні слова. У канторы яна трымалася звычайна, у моц выпрацаванае прывычкі. Толькі ў рабоце, мусіць, не было для яе ніякага сэнсу. Разлінаваць паперу ці сшыць справу яна яшчэ магла, а вось наконт рахункаў дык справа зусім не ішла. Лічбы ўпісваліся ў ведамасці і ў кнігі зусім не тыя, непатрэбныя; перапіска выходзіла запэцканаю і нягоднаю. Пан Пісарэўскі, разгледзеўшы два аркушы з выведзенымі ёю слупкамі лічбаў, зарагатаў, закашляўся і сунуў іх назад, закрэсліўшы крыж-накрыж. Нават на гэтае незвычайнае здарэнне Зося не звярнула жаднае ўвагі. Яна аўтаматычна працавала далей, не будучы здольнай унікнуць у сэнс яе.

Пан Пісарэўскі не сцерпеў.

— Мусіць, панна Зося вельмі шкадуе свайго ўцёкшага кавалера? — з падлаватым смяшком запытаўся ён, варочаючы закрэслены наступны аркуш.— Хай пан бог ратуе ад такога завароту мазгоў, як у вас сёння.

Зося, нібы нічога не зразумеўшы, зірнула на свайго начальніка і моўчкі, здавалася, спакойна, схілілася над сваім сталом. Толькі сцятыя яе губы ды рука, якую яна мімаволі падносіла да левай скроні, маглі б падказаць здагадліваму нагледачу на той унутраны боль, які адчувала дзяўчына.

— І як гэта можна ўкахацца ў такога мужыка? Вось яго прагналі з работы, і ўсё к чорту... Хіба панна ўжо папросіць пана Ляскоўскага, ды ён зжаліцца...

На твары дзяўчыны праляцела нешта жывое, трапяткое.

Зноў ставяць перад ёю побач Зыкава і Ляскоўскага: учора Рыгорчык, а сёння гэты зашкарупела-тлусты нахабны бухгалтар. Думка-загад, кінутая ёй Рыгорчыкам, не пакідала яе ўсю мінулую ноч, раздваіла яе: было ўжо дзве Зосі, адна стаяла ўжо каля дзвярэй кабінета пана Ляскоўскага, другая — з жахам неслася за рэчку, у глухі лес, каб нікога не бачыць і не чуць. Раніцою гэтае раздваенне згладзілася крыху, замяніўшыся цяжкім холадам нецікавасці ні да чога. Цяпер зноў імя Ляскоўскага падняло заснуўшую барацьбу самое з сабою, зноў раздваіла натуру Зосі. З гэтым раздваеннем пакінула яна кантору пад запытальнымі позіркамі пана-бухгалтара.

Праходзячы дома цёмныя сенцы, Зося адчула раптам ахапіўшую хвалю цяпла і радасці, а праз момант — сэрца ўпала ў пустэчу, бяздонне. У гэтых сенцах яна спазнала захапленне першага кахання, якое давяло яе да такое раптоўнае пакуты.

Пятрусь Мікалаевіч клапатліва завіхаўся каля Зосі, угаварваў яе есці, калі яна адмовілася нават дакрануцца да яды, прабаваў загаварыць аб Тодару, аб яго апошнім лісце, у якім ён паведамляў, што, можа, прыедзе дамоў на масляную; тады яны збяруць гасцей, самі куды-небудзь паедуць у суседнія вёскі да настаўнікаў. Але нічым не мог стары зацікавіць Зосю. Яна нерухома стаяла каля акна і ўглядалася на дарогу.

— Ну, кінь ты, дачушка, думаць аб адным. Нават, можа, і не варты ён таго, каб ты так пакутавала; ён вось, прапаў і нават не здагадаўся наведацца ці хоць паведаміць, а ты...

Дзяўчына маўчала, і гэта прыпыніла Петруся Мікалаевіча.

— Ты павінна слухацца мяне,— ужо са злосцю сказаў ён.— Я не хачу, каб мая дачка зрабілася жонкаю няпэўнага чалавека! Пакуль ён не застанецца тут, я не дам дазволу на шлюб!

Зося кранулася да акна. Праз некалькі хвілін яна выйшла з свае баковачкі апранутаю ў лепшую вопратку, паліто было накінута на плечы.

— Добра, татка,— сказала яна, папраўляючы косы,— я думаю, што Паўлюк застанецца ў Ляскаўцах.

Не паспеў Пятрусь Мікалаевіч раскрыць рот для запытання, як дачка яго бразнула ўжо клямкаю дзвярэй у сенцах. Гэты бразгат скалануў яму сэрца, нагнаў невядомы жах. Куды яна пайшла, што хоча рабіць гэты блазан, які яшчэ толькі год назад плакаў над казкамі Андэрсэна. Усхваляваны настаўнік не мог узяцца за сваю звычайную вячэрнюю працу. Ён цяжка споўдаўся па пакойчыку, выходзіў некалькі разоў у клас, каб мець больш месца для руху, зноў варочаўся ў пакой. Чакаў! Чакаў не адну гадзіну — доўга чакаў. Ноччу як шалёны насіўся ўздоўж рэчкі, аглядаючы кожную палонку. Доўга чакаў...

Зося ледзь ішла па алеі да палаца. Яна траха не ля кожнае прысады прыпынялася, абапіралася на яе рукою, адпачывала крыху, а потым цягнулася далей. Але вось і апошняя тапаля. Яна доўга стаяла каля яе, вочы яе са страхам пазіралі на асветленыя вокны палаца. Праменні, кідаўшыя на снег больш ясныя палоскі, здавалася, варушыліся, набліжаліся, шукалі яе. Вось яны яе знойдуць, і будзе відаць адтуль, што яна хаваецца, што яна чакае чагосьці. Зося адхіліла галаў ад вокан і хуткім крокам перабегла круглую пляцоўку перад домам. Дзверы на спружыне стукнулі за ёю. Гэты грукат здаўся ёй такім усцішным, што яна хацела кінуцца назад, але перад ёю ўстаў лёкай.

Зося не помніла, як прайшла яна па ўсходах праз два ці тры пакоі. Яна толькі адчувала, як сэрца яе то прыпынялася, быццам зусім знішчалася, то па-шалёнаму стукала, як бы некалькі малатоў білі ў грудзях. Падышоўшы да чорнабліскучых дзвярэй, за якімі быў так памятны ёй кабінет пана, Зося стала як укапаная. Паміма яе волі ногі не маглі зрабіць ніводнага кроку ўперад. Лёкай, які ішоў следам, за ёю таксама прыпыніўся.

— Вы да пана ці да паненкі? — запытаўся ён.

Дзяўчына схамянулася, акінула вокам дзверы.

— Да пана,— ледзь чутна шапянула яна.

— Дык сюды, калі ласка! — з алейна-салодкаю ўсмешкай прапанаваў ён, адчыняючы цяжкія дубовыя дзверы кабінета,— я зараз паклічу пана.

Зося ўвайшла ў кабінет і асунулася ў першае ад дзвярэй крэсла. Прыклаўшы да грудзей руку, нібы так яна думала стрымаць стукат у грудзях, яна абвяла вачамі ўвесь пакой. На пісьмовым стале вось нейкая статуэтка: чырвоная накідка, у руках ні то гітара, ні то нешта падобнае да яе, на галаве бліскучы шлем з пяром. Гэты музыка выгінаўся, яго худы твар з вострым падбародкам, з тонкім гарбатым носам і вышчаранымі зубамі злосна і весела рагатаў; бліскучыя кропкі ў вачах сыпалі цэлыя снапы іскраў. Зося жахнулася ад пачуцця агіднасці, якую выклікалі вышчараны рагочучы рот і гэтыя халодныя агністыя вочы. Яна павярнулася ўбок, але музыка не пакідаў яе: здавалася, ён вось саскочыць са стала і нячутнымі кашачымі крокамі, выгінаючыся, як вужака, стане перад ёю і будзе смяяцца ёй у твар сваім жахлівым нямым ротам з тонкімі, як п'яўкі, губамі. Сарданічны смех, здавалася, ужо напаўняў увесь пакой. Зося парывалася ўстаць і бегчы, бегчы як мага далей ад гэтага пакоя, але ногі, як і ўперад, не слухаліся яе.

У сумежных пакоях пачуўся стукат ног па падлозе, голас... яго голас. Ён адсылаў кудысь лёкая. Зося ўскочыла, як яе хто сцебануў, і кінулася да дзвярэй — уцячы. Але перад ёю ўжо стаяў пан Ляскоўскі і з усмешкаю, якая так падобна была да смеху бронзавага музыкі на стале, працягваў ёй абедзве рукі.

— Добры вечар, панна Зося! — сакавітым вясёлым голасам сказаў ён.— Як даўно ўжо я не бачыў вас, і мне гэта, ведаеце, не так лёгка было... Але што ж мы тут стаімо: кажуць, сварка будзе, калі цераз парог вітаюцца.

Далікатна ўзяў ён Зосю пад руку, знарок ці незнарок правёўшы сваімі трапяткімі пальцамі па яе руцэ ад пляча

да локця, і падвёў яе да крэсла. Зноў тое самае крэсла і на тым жа месцы! Зося тузанулася ўбок.

— Я лепш сяду вось сюды,— ціха сказала яна, паказваючы на дыванавую канапу каля сцяны.

Пан Ляскоўскі падышоў да аднае, да другое сцяны, пашоргаўся каля кранштэйнаў, якія ў выглядзе ласіных рагоў растапырвалі свае лапы і падтрымлівалі лямпы з круглымі белымі абажурамі: млечнае, супакойваючае святло заліло ўвесь пакой. Прайшоў ён таксама міма дзвярэй і скрабануў чымсьці аб іх. Потым стаў пасярэдзіне пакоя і ўставіўся сваімі пранізлівымі вачамі на Зосю. Гэты погляд нібы калоў дзяўчыну, яна адчувала, як нешта дакраналася да яе твару, грудзей. Хутчэй пазбавіцца гэтага абмацвання, ад якога сэрца ледзянее! Сказаць адразу, за чым прыйшла. Можа, яна так і не адкрыла б рота, каб не магутнае жаданне вызваліцца ад гэтых жудасных вачэй.

— Пане Ляскоўскі...— з перапынкамі пачала яна і асеклася.— пане Ляскоўскі... я прыйшла да вас... прасіць... аб адной рэчы...

— О, панна Зося нечым усхвалявана! Што здарылася з вамі? — нібы выказваючы шчырую зацікаўленасць і спачуванне, жвава загаварыў пан Ляскоўскі.— Калі вам кепска было, то чаму ж вы не звярнуліся да мяне, я так быў бы рады дапамагчы ці параіць вам што-колечы. Ну, што ж у вас за просьба?

Ён нячутна ступіў разы тры і сеў каля дзяўчыны. Яна хістанулася ўбок — і была ў другім канцы канапы. Ляскоўскі скрывіў свае тонкія губы, у вачах яго заскакалі сярдзітыя агеньчыкі. Але праз хвіліну твар яго зрабіўся зноў прыветным.

— Выбачайце, калі я патурбаваў вас,— далікатна сказаў ён.— Калі ласка, гаварыце, у чым справа.

— Я прыйшла да вас даведацца, дзе майстра Зыкаў,— павольна сказала Зося і сама здзівілася, як раптам супакоілася і рашучасць вярнулася да яе.

Яна цяпер добра бачыла пана Ляскоўскага са зменамі

ў яго твары. І ўсе падрабязнасці, якія абкружылі яе ў пакоі. Задаволена вымерала яна і адлегласць да пана: яны сядзелі на розных канцах канапы, мусіць, не менш, як на сажань адзін ад аднаго. Пры ўспаміне аб Зыкаве па твары пана Ляскоўскага прайшла сударга агіднасці, нібы яму ў нос шыбанула чымсь непатрэбным.

— Выбачайце, але я не цікаўлюся сваімі рабочымі,— сухавата сказаў ён.— Усе справы з імі вядзе намеснік і бухгалтар. А што ж здарылася з гэтым, як яго? Зыкавым?

— Так, дык вы, можа, і не ведаеце, хто такі Зыкаў? Ха-ха-ха!

Зося аж сама спалохалася свайго смеху. Адкуль ён узяўся? Здавалася, што яна слова не вымавіць, а тут гэты смех! Нават болей: яна ўскочыла з канапы і з жвавасцю пачала гаварыць:

— Зыкаў — майстра на паперні. Я кахаю яго, ён — мяне, і мы хутка... пажэнімся.

У гэтых словах дзяўчыны адчувалася быццам пахвальба хлопца, які ўпершыню закурыў. Але пан Ляскоўскі злавіў вухам напружанасць, бравурнасць у голасе Зосі, добра разумеў, што за гэтымі развязанымі словамі хаваецца нешта іншае: ці спалох, ці адчай.

— Дык вы збіраецеся замуж? Вось дык навіна! Не чуў!.. Але ж як гэта здарылася, што вы прыйшлі да мяне даведацца аб сваім жаніху? Гэта ўжо зусім пікантна! Далібог, пікантна!

Ён зноў уставіўся сваімі вачамі ў твар Зосі, голасна зарагатаў. Твар яго зрабіўся жахлівым, губы дрыжалі ад смеху, а нерухомыя вочы холадна, неадчэпна ўпіліся ў постаць Зосі. Але яна не спалохалася. Гэта бачыў і пан Ляскоўскі. Значыць, яе бравурнасць прыкрывала не страх, а нешта іншае. Значыць, трэба мяняць тактыку, але ён не паспеў.

— Я прыйшла да вас не для таго, каб вы кпілі з мяне! — зазвінеў яе голас, нацягнуты як струна.— Я прыйшла да вас з просьбаю як да чалавека: не звальняць з работы Зыкава.

— Ах, дык вы дачуліся, што Зыкаў звальняецца? Гэта добра, надта добра! І прыйшлі прасіць, каб я пакінуў яго на рабоце? Ха-ха-ха!

— Выбачайце, я дарэмна прыйшла да вас! — упалым, глухім голасам сказала Зося і кранулася да дзвярэй. Але пан Ляскоўскі загарадзіў ёй дарогу.

— Пачакайце! Я ж не адказаў вам; вы занадта фанабэрыстая, нават не падобна, што вы з Ляскаўцоў ці што вы толькі настаўніцкая дачка... Дык што я вам хацеў сказаць. Ага! Вось. Я задарма вашага Зыкава не вярну на фабрыку.

Зося, нічога не разумеючы, жахліва глядзела ў свідруючыя вочы пана. Той, выгінаючыся слізкай хадою, набліжаўся да яе. Зося адступала крок за крокам, пакуль яна не была прыпёрта да сцяны. Яна азірнулася па баках, шукаючы месца, куды б яшчэ падацца. Пан Ляскоўскі быў зусім блізка, яна адчувала на сваім твары гарачыя хвалі, якія несліся ад яго частага дыхання.

— Я прыму назад вашага каханка пры адной умове: калі вы абымеце мяне і дасце столькі пацалункаў, колькі я жадаю.

Ён працягнуў рукі ўперад, яго трапяткія, тонкія і віхлястыя, як адросткі мядузы, пальцы гатовы былі ўчапіцца ў яе цела. Зося адскочыла ўбок так хутка, што адросткі мядузы торкнуліся і скрабянулі сцяну. Уюном крутануўся ён назад, твар яго быў смяротэльна белым, зубы ляскалі.

— Дык вы беражаце свае ласкі для смуроднага парабка? Добра ж! Але не дачакаецеся вы яго.

Зося, не спускаючы вачэй з Ляскоўскага, крок за крокам, уздоўж сцяны, набліжалася да дзвярэй. Ёю валодала толькі адно жаданне: як мага хутчэй выбегчы з гэтага пакоя, залітага млечным святлом, пазбавіцца ад гэтага ўсцішнага твару, які крытаўся следам за ёю.

— Я ведаў, што ты прыйдзеш! — хрыпата гаварыў Ляскоўскі, ідучы за дзяўчынаю.— Ты прыйшла шукаць ласкі, а мне даць яе не хочаш? Твой Зыкаў не вернецца, і я прымушу цябе кахаць мяне!

Толькі невялічкі кавалак засталося прайсці да дзвярэй. Вось-вось яна рынецца да іх. Яшчэ крок — і Зося віхрам кінулася да чорнага чатырохкутніка, сударгава схапілася за тоўстую халодную ручку. Вочы ж яе, як і ўперад, былі прыкаваны да постаці пана Ляскоўскага. Але... але дзверы не адчыняліся. Ляскоўскі стаяў на месцы, і губы яго віліся вужакамі ад нястрымнага бязгучнага смеху.

— Пусціце мяне! — закрычала істэрычна дзяўчына.

Раптам як жалезнымі абручамі сціснуўся пояс Зосі. Шыя заныла ад болю, у рот было ўсунута нешта пахучае, што не дазваляла вымавіць слова. Яна чула, як адарвалася ад зямлі і закалыхалася, як на спружынах. На нейкі момант яна страціла прытомнасць. Потым, расплюшчыўшы вочы, яна заўважыла, як прамільгнуў адзін пакой, другі. Каля сцяны трэцяга пакоя ногі яе крануліся падлогі, але жалезны абруч не пакідаў сціскаць яе цела. Яна бачыла, як павярнуўся кавалак сцяны і ў ёй з'явілася чорная вузкая дзірка. Моцная рука ўвапхнула яе туды, і ногі яе заляскалі абцасамі па чыгунных, мусіць, сходках. Яе цяпер нішто ўжо не трымала, але яна зусім аслупянела ад усяго здарэння і цемнаты. У галаў ударыла тухлым паветрам.

Але вось ззаду цяжкая рука лягла ёй на плячо і пасунула яе ўперад — уніз. На закручаных сходках, прывязаная рукою на плячы да ішоўшага ззаду Ляскоўскага, Зося апынулася напаследак на роўным месцы, але змрок таксама быў абсалютны. Абручы зноў былі наложаны на яе і аслаблі толькі тады, як, павярнуўшы разы два ці тры ў розныя бакі, Ляскоўскі паставіў яе на ногі. Скрыпнулі нейкія дзверы, і праз момант Зося апынулася ў асветленым прыгожым пакоі. Ключ тромкнуў два разы. Хустачка з рота пайшла ў кішэню свайго ўладара. Але без яе Зося не магла выгаварыць ані слова. Яна, кепска ўяўляючы сабе, што адбываецца, разглядала імшыста-мяккі дыван на ўсю падлогу, мармуровы камін з прыгожымі статуйкамі голых кабет на ім, прыгожую лямпу пад шаўковым зялёным абажурам, круглае люстэрка ў залатой аправе на сцяне, шафы блішчастага

лакіраванага дрэва. У кутку ўздымалася, як гара, вялізарнае ложка з прыгожымі анёлкамі ў галавах і нагах. Не было толькі ніводнага акна.

— Табе падабаецца тут, галубка мая? Усё гэта прыгатавана толькі для цябе.

Гэтыя словы вярнулі Зосю да рэчаіснасці. Яна азірнулася назад. Ляскоўскі весела глядзеў на яе; ноздры яго, як у ганчака, пачуўшага птушку ў кустах, раздуваліся, гнуткі стан разгінаўся ад пацешна-штукоўнага ўклону, які ён, мусіць, зрабіў, сказаўшы апошнія словы. Злосць ахапіла Зосю: кожны нерв, кожная жылка яе напружылася, як нацягнутая струна.

— Што гэта за кпінкі, пане Ляскоўскі? — ляскаючы зубамі ад страху, запыталася яна.

— Ніякіх кпінкаў! Ты павінна быць маёю, і не трэба было падымаць там такі гвалт.

— Вы брудны нягоднік! — ускрыкнула Зося.— Як вы смееце здзекавацца з мяне?

— Тут крычы, колькі хочаш, а ўсё ж маёй будзеш!

Ён растапырыў рукі і крануўся да дзяўчыны. Яна са смяртэльным страхам кінулася ў самы далёкі куток. Пачалася пагоня. Некалькі разоў Зося вырывалася з цэпкіх рук. Але напаследак сілы пачалі пакідаць яе, і яна ледзь ухілялася ад чырвонага, ускалмачанага, сапучага пана Ляскоўскага. Звярыныя яго вочы ўсё часцей і бліжэй нахіляліся над ёю. Вырваўшыся з яго рук апошні раз, яна падскочыла да каміна і схапіла аберуч цяжкую бронзавую статуэтку. Пан Ляскоўскі адскочыў, як падсмалены і загарадзіўся двума шырокімі крэсламі. Высокія аблакотнікі іх маглі схаваць яго, нават калі б Зосі прыйшло ў голаў шыбануць у яго чым-небудзь. Зося стаяла нерухома, трымаючы ў выцягнутай руцэ (як Атэна-Палада — статую Перамогі) па-мастацку зробленую статуэтку жанчыны.

— Дарэмна вы змагаецеся,— баязліва паглядаючы на Зосю, загаварыў пан Ляскоўскі.— Усё роўна я вас адгэтуль

не выпушчу, а тым часам распраўлюся з вашым бацькам і з Зыкавым.

— Як гэта вы расправіцеся? Што вы зробіце з імі?

— Я магу паслаць іх у астрог, на шыбеніцу. Ваш бацька даўно звязаны з рэвалюцыянерамі там усякімі, а Зыкаў... Зыкаў таксама.

— А... Адкуль, адкуль вы... ведаеце, што Зыкаў...

Рука яе, трымаўшая «Перамогу», аслабла. Маленькая кабета грукнулася, падскочыла з дывана і жаласна зазвінела, стукнуўшыся аб рог каміна. Пан Ляскоўскі, пільна сачыўшы за дзяўчынаю, спакойна выйшаў з свае крэпасці і, агідна ўсміхаючыся, нячутна склізнуў да каміна. Зося не магла крануцца з месца, і толькі гарачыя непрытомныя вочы яе са страхам наглядалі за набліжэннем невядомае бяды і пакуты...

Зося прыйшла да розуму, расплюшчыла вочы і жахнулася ад спалоху: зноў гэты самы пакой, той жа камін, тыя ж мэталёвыя кабеткі на ім. Тупы боль ніжэй пояса напамінаў аб сабе; ногі былі нібы зламаны або чужыя. Абводзячы вачамі пакой, яна раптам зрабілася як непрытомнай і ўтаропілася вачамі ў адну кропку. З круглага люстэрка на сцяне, супраць пасцелі, на яе пазіралі шалёныя вочы нейкае змучанае, ускалмачанае дзяўчыны, з сінякамі на губах і шыі; вопратка і сарочка былі разадраны, і голае цела крэйдаю бялела на яркім святле лямпы. Яна зварухнулася, і гэтая абадраная дзяўчына хістанулася ў сваім срэбным кругу. Зося адарвала свае вочы ад люстэрка і кінула незнарок погляд на сябе. Яна ўскочыла ад новае хвалі перапуду, якая ахапіла яе, калі яна зразумела, што абшарпаная, ускалмачаная дзяўчына на сцяне — гэта яна сама. Чаму яна на пасцелі, чаму парвана ўся адзежа, чаму гэты боль? Яна скокнула на падлогу, плямкі крыві на прасціradле прыкавалі яе ўвагу. Боль адчуўся больш выразна. Ён навёў яе на ўспамін, зусім цьмяны, што адчула яго яна, калі чырвона-звярыны, вышчараны твар зусім прынік да яе... Вострая здагадка прарэзала ёй мазгі, сэрца. Яна не па-чалавечы ўскрык-

нула раз-другі, забілася па ўсяму пакоі, кінулася далей да дзвярэй. Але яны былі непрыступна-глухія, як сцяна. Азвярэла пачала яна біць кулакамі ў маўклівы чатырохкутнік, біла, пакуль, знясіленая, не апусцілася на падлогу каля самага парога.

Ружовыя, зялёныя, жоўтыя плямкі ледзь трапечуцца на ўзгалоўі ложка, на белым, ярка белым бацісце падушкі. Зося прыглядаецца да іх, пераводзіць вочы на выразных анёлчыкаў па рагах ложка, далей — на сцены. Пакой нібы той самы, што так мучыў ноччу, і быццам іншы, не такі страшны. Каля ложка стаіць крэсла, на ім развешаны прыгожыя ўборы, незнаёмыя ўборы. Вось збоку на століку... свежыя кветкі... ружы... цюльпаны. А дзе ж яе вопратка? Яна саскоквае з ложка, шукае — дарэмна! Нутраны холад пранізвае яе, і яна інстынктыўна накідае на сябе хоць чужую адзежу. Казлытна-прыемны халадок шоўку агарнуў яе цела, якое яшчэ ныла, як пасля пабояў.

Пакрысе ўспаміны яе прынялі больш паслядоўны характар. Яна ўспомніла, як папала сюды, здагадалася, што гэты пакой той самы, у якім яна была і ўначы. Што ж гэта здарылася з ёю? Страшэннае, жудаснае, аб чым яна не магла думаць. Перад ёю стаяла толькі адно: яна збэшчана, утоптана ў гразь. Нават не гнеў, не помста, не пытанне, як выбрацца з гэтага астрога, хвалявалі яе. Яна толькі думала аб тым, што цяпер яна — не чалавек, што жыццё яе скончана, бо яна не зможа вярнуцца да бацькі... да Зыкава. Толькі смерць, добраахвотная смерць можа загладзіць яе ганьбу... Ад дзвярэй пачуўся шоргат.

## VII

У адзіноце, без ніякіх машын, варочаўся Зыкаў у Ляскаўцы. Чатыры дні дарэмна абіваўся ён у мястэчку. У начальніка станцыі даведаўся ён аб раскладцы таварных цягнікоў, выходзіў да кожнага з іх насустрач, але толку з гэтага не было. Прастаяўшы з паўгадзіны, цягнік зрываўся і

поўз далей. Разам з Зыкавым прыходзілі два-тры будучыя падводчыкі, якія адразу знайшліся, як толькі Зыкаў трапіў у мястэчка, і не адставалі ад яго ў надзеі добра зарабіць. Калі толькі цягнік адыходзіў ад станцыі, не пакінуўшы жаданых вагонаў, падводчыкі скраблі за вухам, уздыхалі, наглядалі ні то ўпікліва, ні то насмешна на Зыкава і нехаця пакідалі пустую платформу. Нават начальніку станцыі, які спачатку вельмі прыветна абыходзіўся з Зыкавым, ведаючы, што той ад пана Ляскоўскага, напаследак, мусіць, надакучыла адказваць адно і тое самае: «Не, і на гэты раз на нашу станцыю вагонаў не будзе».

Зыкаў пачаў нервавацца. Паспешлівасць, з якою накіравалі яго на станцыю, а таксама гэтае неабмежаванае чаканне выклікалі ў ім падазронасць: ці няма ў гэтым здарэнні чаго-колечы штучнага, знарок падробленага? Але для чаго? Адказу ён не мог знайсці. Але ж чаканне рабілася зусім невыносным. На чацвёрты дзень увечары ён хацеў ужо кінуць мястэчка і пайшоў да начальніка станцыі прасіць, каб той як-небудзь паведаміў найхутчэй у Ляскаўцы, калі прыйдуць машыны. Начальнік, аднак, угаварыў яго пачакаць яшчэ два цягнікі, з якіх адзін павінен прыйсці на другі дзень зранку, а другі — пасля папоўдні. На думку начальніка, выходзіла, што гэтыя цягнікі больш зборныя, з вагонаў бліжэйшага прызначэння. У іх напэўна павінны быць вагоны з машынамі. Як ні моташна было Зыкаву заставацца яшчэ нанач у карчме Янкеля, але ён паслухаўся начальніка. І дарэмна паслухаўся: гэтыя надзейныя цягнікі прайшлі таксама, як і ранейшыя, пакінуўшы на нейкі час толькі хмаркі дыму над станцыяй. Абураны так, што ўсё трэслася ў яго грудзях, пакінуў Зыкаў станцыю, як мага хутчэй запрог каня і, паспешна сунуўшы грошы карчмару, кінуўся назад — у Ляскаўцы.

Нецярплівасць падганяла яго, а ён — каня. Зімні адвячорак кароткі, і за сонцам Зыкаў праехаў менш паловы дарогі, хоць конь нёсся як вецер, абдаючы свайго фурмана фантанамі колкага сухога снегу. Сонца пастаяла крыху на

верхавіне высокае яліны, якой пачынаўся лес, і слізганула за чорную стужку. Кароткі пажар зары там, дзе было сонца — і цёмна-машастовае неба трымціць зеленкаватымі, бежаватымі зоркамі. Яны нервова мільгацяць, абліваюць белую зямлю фосфарным святлом.

Смутак апанаваў Зыкава. Ён узрастаў усё мацней, як вазок глыбей ды глыбей урэзваўся ў цемру агромністага лесу. Не пустэльная маўклівасць хаўтурна-змрочнага лесу, не сполашныя шолахі, якія час-часам дасягалі яго вуха, не, не гэта непакоіла яго! Перад ім стаяла нявырашанае пытанне, якое ўзнікла яшчэ ў мястэчку ў звязку з бязглуздаю яго паездкаю. Што ў гэтым было нешта знарок зробленае, ён ужо пераканаўся. Можа, знайшліся якія-небудзь падставы здагадвацца аб існаванні яго гуртка рабочых гуты, з якім ён ужо так многа папрацаваў; можа, яго паслалі, каб лягчэй было ў яго адсутнасць дазнацца пра гэтую справу. Гэтая думка выклікала ўспамін аб прызнанні Зосі адносна яго мінулага. Прабаваў ён свае гэтыя думкі разагнаць замілаваннямі ўспамінаў аб самой дзяўчыне, аб салодкасці кахання да яе. Але і гэта не падняло яго настрою. Наадварот, думку аб Зосі прарэзала адно здарэнне з ёю, аб якім ён даўно ўжо не ўспамінаў: перад ім паўстаў малюнак таго моманту, калі дзяўчына перадала яму водзыў аб ім (не аб ім, але аб Зыкаве!) і расказала аб спакусе яе панам Ляскоўскім. Гэты ўспамін зусім усхваляваў Зыкава. Трывога ахапіла яго абцугамі і не пакідала аж да самых Ляскаўцоў. Ён гнаў што было сілы каня, які і без таго зрабіўся сівым ад пены.

Яшчэ было, мусіць, не зусім позна, калі Зыкаў уехаў у вёску; у хатах яшчэ бліпічалі вокны. Ён, не прыпыняючыся каля свае кватэры Кавальчыка, праехаў да канца вёскі і накіраваў каня да школы. Цёмныя вокны слепа пазіралі на яго. Трывога павялічылася. Доўга стукаў ён з двара ў «чорныя» дзверы. Напаследак крук забразгаў і дзверы расчыніліся. Замест жвавага пастуквання абцасаў да вушэй Зыкава дайшло вялае цяжкае шорганне другіх ног.

— Гэта вы, Пятрусь Мікалаевіч? Чаму ў вас цёмна? — запытаўся Зыкаў, запальваючы сярнічку, якая доўга не запальвалася.

Адказу не было. Зыкаў нарэшце запаліў-такі агонь, хоць пальцы яго дрыжалі ад холаду і нутранае трывогі. На момант, пакуль гарэла сярнічка, мільганула нейкая жаласна-дзікая постаць настаўніка. Нешта, мусіць, здарылася. Зыкаў пачаў шоргаць сярнічкі адну за адной: яны ламаліся, не запальваліся. Але ўсё ж яшчэ адна загарэлася, і ён сяк-так запаліў лямпу.

Пятрусь Мікалаевіч, асавелы, з вісячымі, як цапы, рукамі, дробна трос галавою, жаваў ротам з раскіслымі губамі. Ён быў без пінжака і камізэлькі; сарочка, высукаўшыся з нагавіцаў, абвісала вакол яго пухірамі. На прывітанне Зыкава ён нешта прамармытаў, не пакідаючы трэсці галавою.

— Ды што здарылася з вамі, Пятрусь Мікалаевіч? Ці не захварэлі вы? — недаўменна разглядаючы настаўніка, запытаўся Зыкаў.

— Лепш, каб я захварэў! — скрыпучым голасам адказаў стары.

— Нічога не разумею! А дзе... Зося?

Пятрусь Мікалаевіч страпянуўся і хапіўся рукою за стол. Галава яго бязвольна схілілася ўніз. Зыкаў адчуў нядобрае. Той выгляд, у якім ён застаў Петруся Мікалаевіча, гэтая млявасць і прыгнечанасць яго, мусіць, звязаны з нейкім цяжкім здарэннем. Зыкаў пачакаў момант-другі адказу, а потым падскочыў да настаўніка і страсянуў яго за плячо.

— Дзе Зося? — ускрыкнуў ён, не валодаючы ўжо сваім голасам.

Настаўнік, як аслупянелы, павёў на яго вачамі, у якіх раптам запалілася і патухла злосць, змешаная з жахам. Ён працягнуў дрыжаўшую руку, падлубаўся ёю на стале і падаў Зыкаву прыгожы канверт, адзін канец якога быў ня-

роўна надарваны. Пасля гэтага стары паваліўся, як мяшок, на канапу.

Зыкаў падышоў бліжэй да лямпы. На канверце быў адрас настаўніка. Зыкаў кінуў на яго запытальна-недаўменны позірк, але потым рашуча выцягнуў ліст.

«Шаноўны пан настаўнік! Можа, вы занадта ўсхваляваны тым, што вашае дачкі няма з вамі? Не турбуйцеся шукаць яе: яна знаходзіцца ў мяне ў маёнтку. Панна Зося адмаўляецца ад шлюбу, аб якім вам вядома было, і прыйшла да мяне зусім па сваёй добрай волі. Выказваю надзею, што ёй у мяне спадабаецца.

Гатовы заўсёды дагадзіць вам

С. Ляскоўскі».

Зыкаў дачытаў да канца. Напісанае не адразу ўмясцілася ў яго разуменне. Ён зноў пачаў чытаць, але літары адскакалі, як шалёныя, віліся вужакамі, мітусіліся ўсе ў адным месцы, то разляталіся немаведама куды, і папера здавалася зусім чыстаю. Ён кінуў лісток на падлогу, зрабіў некалькі крокаў туды-сюды, насунуўся на стол, а потым на зэдлік. Мусіць, стук паваленага зэдліка даў нейкі іншы кірунак яго імпульсам. Не заўважыўшы нават, што пакінуў у хаце шапку, ён выйшаў за дзверы, на вуліцу. Прамерзшы пасля хуткае язды конь хроп, нецярпліва скроб капытам снег і нават заржаў, пабачыўшы чалавека. Але Зыкаў быццам не мог чуць ці бачыць. З непакрытаю галавою блукаўся ён узад і ўперад па пляцы перад школкаю, а потым рашучымі хуткімі крокамі накіраваўся ў вёску.

— Трэба расправіцца з нягоднікам! — мармытаў ён, ледзь не бягом несучыся да свае кватэры.

Дайшоўшы да хаты Сымона Кавальчыка, Зыкаў накіраваўся не ў хату, а за вугал. Там ён разгроб кастрыцу, якою засыпана была прызба, і выцягнуў адтуль скураны капшук. Абтросшы з яго смяццё і развязаўшы, ён дастаў з капшука нейкую рэч, якая мэталём бліснула ў праменні ад акна.

— Зайду ў хату праверыць рэвальвер,— падумаў ён, хаваючы начыніну ў кішэню.

Зусім спакойна, нібы ён варочаўся з работы, увайшоў Зыкаў у цёмныя сенцы. Але нейкія незвычайныя гукі затрымалі яго каля хатніх дзвярэй: з хаты, у якой ён жыў, чутны былі галасы, нешта шоргала, нібы цягалі па падлозе штось цяжкае. У такі, ужо зусім няранні, час знаходжанне людзей у яго кватэры абудзіла ў ім на момант падазронасць. Але яна заглытнулася панаваўшым у ім пачуццём помсты і бязмернага смутку, які ахапіў усю яго істоту. Рашуча адчыніў ён дзверы з жаданнем як найхутчэй справадзіць тых, хто так вольна гаспадарыць у яго кватэры. Адчыніў дзверы, дый так і застаўся на парозе.

Пасярэдзіне хаты тырчаў шэры шынель з блішчастымі гузікамі. На рып дзвярэй павярнулася галава і па-начальніцку чырканула:

— Хто адважваецца ўваходзіць?.. А! гэта вы самі, «таварыш» Зыкаў, ці як яшчэ вас там завуць! Уваходзь!

З падлогі, якая была засыпана паперамі, кніжкамі, паднялася кругленькая фігурка, абцёрла хустачкаю каленкі і крыху боязна зірнула ў бок дзвярэй.

— Вы, калі ласка, заходзьце, заходзьце, пане майстар! Вы, напэўна, ведаеце мяне: я бухгалтар Пісарэўскі, у мяне працуе панна Зося.

Зыкаў адарваўся ад дзвярэй і са сціснутымі кулакамі пайшоў уперад.

— А што ж вам патрэбна тут, пане Пісарэўскі, і вам таксама, пане ўраднік? Хто вам дазволіў разбураць мае рэчы? Гэта брыдка!

Бухгалтар кінуў позірк на твар Зыкава і дробнымі крокамі, нават мала прыкметна, пачаў адыходзіць да дзвярэй. Як толькі ён апынуўся каля самага парога, нерухомы ўраднік выявіў надзвычайную жвавасць. Раптам бліснуў у яго працягнутай руцэ доўгі, як пушка, пісталет.

— Ты арыштаваны, не варушыся! Мы маем весткі, што ты — заядлы рэвалюцыянер, а кніжкі і паперы, якія знойдзены намі, гэта пацвярджаюць.

На нейкую хвіліну Зыкаў страціў усякі розум. Потым

перад ім паўсталі два голыя вострыя факты: Зося ў пана і гэты арышт. Нікому тут, апроч Зосі, не гаварыў ён аб сваёй сапраўднасці. Няўжо ж яна змагла двойчы прадаць яго? Зося?! Ясная, як сонца, дзяўчынка? Гэтыя вострыя думкі віхрам пранесліся ў яго галаве пад пагражаючым поглядам двух шэрых — урадніцкіх і аднаго чорнага — пісталетных вачэй.

— Пане Пісарэўскі,— загадаў сухім голасамураднік,— пашукайце ў яго кішэнях!

— А чаго там шукаць? — нясмела прамовіў той, не адыходзячы ад дзвярэй.

— Вы не ведаеце чаго? Вядома, не хустачак! Ды не бойцеся вы, нічога ён вам не зробіць, бо не ўцячэ.

Бухгалтар Пісарэўскі ледзь адліп ад вушака, дзе ён, здавалася, гатоў быў стаяць усю ноч. Крадучыся, як кот на мыш, пачаў ён набліжацца да Зыкава. Вось ён сунуў ужо адну руку ў кішэню кажуха, які даў Зыкаву інжынер, пасылаючы яго на станцыю. Удалы пачатак, мусіць, надаў смеласці бухгалтару, і ў другую кішэню ён палез ужо без дрыжачкі ў руках. Зыкаў цяжка ўздыхнуў, але стаяў нерухома. Ён не зводзіў ні на момант сваіх вачэй з твару ўрадніка.

— Вось тут нешта важкае! — спалохана хрыпануў бухгалтар.

Зыкаў адчуў, што той дакрануўся да рэвальвера, але вочы яго неадчэпна сачылі за руляю ўрадніцкага пісталета.

— Ды мацайце вы там хутчэй! — нервова крыкнуў ураднік. Вочы яго скасіліся на момант на бухгалтара.

Раптам нешта цяжкае грукнула аб ножку стала. Бухгалтар адскочыў, як гумавая куля, ад Зыкава. Ураднік смешна ікнуў, быццам што з'еў сухое; адтапыранаю рукою ён прогся выцягнуць з похвы шаблю. Але не паспеў: у момант цяжкі кулак Зыкава кінуў яго на падлогу. Зыкаў са сціснутымі зубамі і налітымі кроўю вачамі схапіў з падлогі цяжкі даўжэразны пісталет урадніка; у цішыні хаты храпнулі-хліпнулі два размераныя гукі. За імі — трэці, але ўжо

падобны да крыку цяляці, якому заціскаюць рот перад тым як рэзаць.

Гэты крык абудзіў Зыкава. Ён кінуў пісталет, зірнуў яшчэ раз на грузкае цела ў шэрым шынялі. Яно варушыла нагамі, скрабло пальцамі рук па падлозе, нібы хацела згрэбці раскіданыя там паперы. Зыкаў нахіліўся, падняў некалькі кніжак і панёс іх да абернутага куфэрка. За нешта зачапіўся кажухом: пан Пісарэўскі слупам стаяў, рот яго лавіў паветра, твар быў белы, як папера. Зыкаў толькі цяпер заўважыў, што той стаіць; ён замахнуўся на яго кулаком, але не паспеў выцяць, бо пан Пісарэўскі, заенчыўшы, як перад смерцю, кінуўся куляю за дзверы.

— Зловяць мяне цяпер,— падумаў Зыкаў і кінуўся таксама на вуліцу. Цяжкі кажух, які замінаў яму бегчы, ён сцягнуў з сябе не прыпыняючыся і кінуў на дварэ Кавальчыка.

Сымон Кавальчык высунуў з-за вушака свой пергаментны твар, прыслухаўся і ступіў цераз парог у «чыстую» хату. Пара, што валіла белымі хвалямі з халодных сенцаў, шкодзіла яму бачыць, што рабілася ўнізе. Ён пераступіў разы два-тры — і жахнуўся, заўважыўшы ўрадніка ў калюжыне крыві. Як гэта здарылася, ён не мог уцяміць, бо калі ўраднік прыйшоў да яго, то загадаў усім сядзець дома і не соваца ў хату, дзе жыў кватарант. І вось такое здарэнне! Гэта ж забойства зваліцца на яго самога, на яго сям'ю.

— Хутчэй выцягнуць яго на вуліцу з усімі яго прычындаламі! — загадаў ён сваім, забегшы ў курную хату.

Жагнаючыся і трасучыся, вывалаклі ўрадніка на вуліцу і пакінулі там, а потым кінуліся скрэбці падлогу, адціраючы кроў. Старая Сымоніха стагнала, жагналася, непрытомна мармытала.

— Казала я, што дабра нам не будзе, як пусцілі ў хату гэтага гарадскога андуфэльта! Эх-ха, а ўсё дурная я, дурная... тыкаеш мне ў нос дурною... Ну, што цяпер будзе?

— Вядома, бяда! — уздыхаў Сымон.— Але няма чаго

прычапляць сюды гэтага хлопца... І пярун яго ведае як гэта ўсё шчаўплося? Ратуй ты, божа, ад хваробы...

Знадворку пачуліся крокі. Вось ужо стукаюць і ў сенцах. І Сымон, і яго старая, і Ануля, і сыны акамянелі, там, дзе хто стаяў ці ў якім стане быў. Ануля так і засталася, нагнуўшыся з анучаю ў руцэ і разяўленым ротам, а маці як ліла ваду з вядра, так і трымала яго нахіленым, хоць яно ўжо і было пустое.

У хату ўвайшлі два чалавекі, закручаныя башлыкамі так, што твараў іх нельга было бачыць. Адзін стаў каля парога, а другі прайшоў уперад.

— Ведаеце, людцы,— ляскаючы зубамі, загаварыў Сымон,— мы вось сёння вепрука закалолі... і... свежавалі тут, пакуль няма нашага кватаранта...

Але прыйшоўшыя не слухалі яго. Той, што зусім увайшоў у хату, выцягнуў аднекуль з-пад кажуха посцілку і бярэмамі пачаў скідаць у яе кніжкі, рассыпаныя па ложку, на стале, на падлозе. Ён так паспешна сабраў іх, што Сымоніха не паспела нават адысці і вымавіць хоць слова. Праз хвіліны дзве-тры толькі снег прарыпаў услед гэтым невядомым людзям. Яшчэ доўга моўчкі стаяла сям'я Кавальчыка, ледзь пераводзячы дух.

— Няхай бог крые! Што ж гэта чаўпецца з намі? — ўсхліпнула са страху старая.

— Хутчэй хадзем класціся, тушы агонь,— скамандаваў Сымон, а сам застаўся вартаваць у сенцах.

## VIII

І вось Зося наважыла скончыць самагубствам. Гэтая думка неадчэпна сядзела ў яе маленькай галоўцы. Ні наглуха забіты пакой, у якім яе зачынілі, як у труне, ні новыя цудоўныя вопраткі, чыёюсь стараннаю рукою развешаныя на крэсле, ні што іншае не прыцягвала больш яе ўвагі. Навват аб Зыкаве не прамільгнуў ніводзін успамін. Тупая бес-

прасветная думка аб самагубстве абвалакла ўсю яе істоту. З пакалмачаным стогам золата на галаве, у разарванай кашулі з плямкамі крыві, з сінімі кругамі пад затухшымі вачамі сядзела яна на ўскрайчыку раскошнае пасцелі або сноўдалася па пакоі. Голыя яе грудзі, ногі, кашуля былі то жоўтымі, то сінімі, як толькі яна праходзіла праз прамень, які рознакаляровым снопам падаў ад венецыянскага акна.

За дзвярыма пачуўся дробны гулкі тупат. Гэтыя гукі страсянулі дзяўчыну, і яна скокнула, як дзікая каза, за цяжкае крэсла, схапіўшы мімаволі статуэтку ў рукі. Пачуццё самаахові яшчэ не зусім пакінула яе.

Замок трымкнуў два разы, і цяжкія дзверы павольна расчынілі чорнае жарало. На парозе стаяла... Ядзя. У белым шоўкавым адзенні з маленькім пучком нейкіх ружовых жывых кветак на грудзях, тонкая, стройная, з вясёлым жвавым тварам, на якім спелаю вішняю чырванелі маленькія губы, яна рэзка выдзялялася на фоне чарнаты расчыненых дзвярэй. Быццам святлей стала ў пакоі з яе прыходам.

— Матка найсвеншая з намі! Вось дык маладая! Зося! Зося! — зашчабятала і замітусілася Ядзя, угледзеўшы сваю былую таварышку за крэслам.— Сёння ж свята, ужо даўно, як усе паўставалі, а ты яшчэ не прыбралася! Хутчэй збірайся, мы сёння паедзем у санях на фальварак. Стась загадаў запрагчы вараных. Ух! як я люблю іх! Снег слупам ляціць, вецер свішча ў вушах, дрэвы нясуцца насустрач, як шалёныя. Скарэй жа! Стась чакае!

За крэсламі нешта грукнула на падлозе. Рукі Зосі калаціліся, яны не вытрымалі статуэткі, як і тады, як яна адбівалася ёю ад пана Ляскоўскага. Ядзя яшчэ больш зацікавілася і падышла амаль да самага крэсла. Выгляд Зосі прывёў яе ні то ў смутак, ні то ў вышэйшы экстаз.

— Ты, мусіць, надта пакутуеш? Ах, як хацела б я ператрываць вялікую пакуту кахання! — паставіўшы вочы ў столь, урачыста загаварыла панна Ядзя. Нават кветкі на яе грудзях нікліва схілілі свае кволыя галоўкі.

— Пан Стась так моцна кахае цябе, толькі і гаворыць

са мною што аб табе,— ужо са ўздымам зноў забалбатала яна.— Ён сапраўдны рыцар як у жыцці, так і ў каханні...

Гэтая крыніца слоў раптам замоўкла, нутраныя застаўкі прыпынілі яе вясёлае балбатанне. Яе былая таварышка скокнула з-за крэсла і асцярожнымі ціхімі крокамі падыходзіла да дзвярэй. Ядзя таксама кінулася назад, імкнучыся зачыніць іх.

— Не бойцеся, я не спрабую ўцячы з турмы, куды засадзіў мяне ваш брат-рыцар,— хрыплаватым голасам, без жаднага хвалявання прагаварыла Зося. Ваш брат, мусіць, надта верыць вам, калі паслаў вас сюды нават з ключом, як астрожную вартаўніцу?

— П-фі! як ты недалікатна выражаешся. Вядома, ты не зусім шляхетная, ты не з такога роду, як мы, але ўсё ж павінна была б гаварыць як след... На жаль, мне цяжка больш заставацца з табою,— крыху пачакаўшы, дадала госця.

— Калі ласка, можаце пакінуць гэты астрог, вас, мусіць, не пасадзяць так,— пахмурна адказала Зося, зморана выдакранулася да пасцелі і агарнулася лёгкаю коўдраю. Выгляд яе стаў падобны да папсаванае лялькі, абвінутае ў пялёнкі.

Дзверы важка зачыніліся, але ключ не даваў ніводнага гуку. Праз хвіліну-другую зноў разявіўся чорны чатырохкутнік, і белая постаць Ядзі прамільгнула праз рознакаляровы прамень ад акна.

— Ну, Зосечка, даражэнькая, хоць ты і занадта пакрыўдзіла мяне, але ўсё ж мне цяжка пакінуць цябе так. Мы з табою ўсё ж таварышкі; помніш, як разам вучыліся, як разам прыязджалі з гімназіі на свята. Памятаеш, як раз у лесе нас выкінула з саней на снег і мы не маглі выкарабкацца з футраў?

Зося маўчала, і ніводная рыска на яе смяротна-блядым твары не паказвала змены ў пачуццях.

— Дзе ж гэта было, каб чалавек самахоць сядзеў у адзіноце, цураючыся людзей і асабліва тых, хто яго кахае? Ты ж ужо тры дні тут сядзіш, траціш чалавечы выгляд,—

больш усхвалявана з-за маўклівасці Зосі, гаварыла Ядзя.— Кінь ты нуду, прыбярыся, апраніся, а калі не хочаш сама, то я прышлю зараз пакаёўку. Пойдзем з гэтага пакоя, там цябе чакае Стась. Ён будзе нязмерна рады дагадзіць табе ўсім, чаго ты толькі захочаш.

— Вось як! Дык вы, панна Ядвіга, ведаеце ўсе намеры пана Ляскоўскага? Можа, вы прымалі ўдзел у тым, каб загубіць маю чэсць і жыццё?

Зося парывіста сарвала з сябе коўдру і ўскочыла на ногі. Вочы яе, запаленыя шаленствам нянавісці, калолі твар панны. Тая не вытрымала гарачых праменняў, якія ліліся на яе ад гэтых гарачых вачэй. Ядзя страціла ўсю сваю ліслівасць, перапалох самкнуў ёй губы. Яна ўвабрала галаву ў плечы і толькі зрэдку кідала баязлівыя позіркі на суседку. Потым нейкая думка прыйшла ёй у галаву, яна непрыкметна ўсміхнулася.

— А ведаеш, якая ў Ляскаўцах навіна? — нібы нічога не здарылася вось зараз, запыталася яна сваім звыкла-лёгкім тонам.— Ці ведала ты нейкага майстра Зыкава з папяровае фабрыкі?

Зося раптам змянілася ў твары. Едкія праменні нянавісці, якія да гэтага абдавалі панну Ядзю, раптам затухлі пры ўспаміне аб Зыкаве. Летаргічная прыгнечанасць, у якой яна была ўжо два дні, зляцела з яе. На шчоках запылалі чырвоныя плямкі, шэрыя вочы ззялі ціхім святлом.

— Ты ведаеш, дзе ён? З ім здарылася нешта? — ласкава-ўсхвалявана пыталася яна. Рукі яе цягнуліся дакрануцца да пальцаў панны Ядзі.

— Чаму гэта ты цікавішся ім? — крыху ўхіляючыся ад Зосі, у сваю чаргу запыталася панна Ядзя.

Зося не здолела адказаць на гэта запытанне. Яна стаяла, апусціўшы вочы, рукі яе віселі слаба і бязвольна.

— Цікавіцца такімі людзьмі нельга,— прагаварыла быццам убок Ядзя.— Ён...— панна Ядзя наўмысле прыпынілася і напусціла сабе на твар выгляд спалоху.— Ён жа чуць

не забіў нашага мілага ўрадніка, які невядома ці застанецца жывым.

Зося слухала кожнае слова з нерухома-ўніклівым поглядам. Толькі праз хвіліну-другую, як скончыла гаварыць Ядзя, Зося глыбока і цяжка ўздыхнула, як енкнула. Вочы яе ашклянелі.

— І ведаеш,— дабівала сваю таварышку панна Ядзя,— ён ужо не раз забіваў людзей. Дый фамілія яго зусім іншая. Гэта быў нейкі беглы астрожнік. Але што гэта з табою?

Зося павольна апусцілася на пасцель, яна была як нежывая. Панна Ядзя ўсміхнулася, прайшлася разы два па пакоі, а потым напяваючы нейкі аперэтачны матыў, лёгка і вясёла выйшла ў чорны калідор. Дзвярэй яна ўжо не замыкала.

Зося ачнулася не хутка. Яна не чула, як дзве пары рук пранеслі яе падземным калідорам, як яе апраналі ў шастаўшы шоўк новае кашулі і кофты, як палажылі на мяккую замшаставую канапу. Яна ачнулася, калі ўжо ў чарнаце завешаных лёгкім цюлем акон весела міргалі сіне-зеленаватымі агеньчыкамі зоркі. Лямпа, захаваная ў блакітны ліхтар, роўным песцячым святлом залівала найпрыгажэйшы пакой. Два-тры столікі арэхавага дрэва, палісандравага лакіраванага дрэва, шафа-камод з выразанымі па верху і нізу цудоўнымі кветкамі і птушкамі, па сценах — малюнкі спакойнага мора, прыгожых куточкаў у горах, класічных будынін, на ўсю падлогу тоўсты дыван, аздоблены вытканымі па ім узорамі рымскіх воінаў у шлёмах, коней, запрэжаных у баявыя калясніцы, на падстаўках каля акон раскошныя кветкі гартэнзіяў, алеандраў і іншых невядомых чужаземных раслін. Усё гэта песціла вока, супакойвала вострыя пачуцці. Недалёка ад канапы, дзе, крыху падняўшыся на локаць, ляжала Зося, забаўляліся ў мармуровым каміне шыбкія язычочкі агню. Дровы весела патрэсквалі і напаміналі, што за акном зімовая сцюжа, але што тут холад не страшны. Наадварот, прыемна адчуваць сябе зусім недасяжным для тых турбот, якія прыносіць злы сівер.

Вам, напэўна, здаралася бачыць скручаны віхураю, пабіты градам хлеб на полі. Кволае лісце перамешана з зямлёю, надломаныя стрэлкі тырчаць уверх як абрубкі рук калекі. Цяжкая безнадзейнасць, пахмурнасць вее з палетку; здаецца, кожная былінка загінула назаўсёды пад сурова-хмарным небам. Але вось блiснула сонца, асвяціла сумную роўнядзь пакалечаных палёў — і пачынаюць выпроствацца лісточкі, падымацца прыбітыя ў гразь галоўкі кветак, зялёныя каласкі збожжа. Няхай сабе хмары толькі-толькі сышлі і стаяць вось там недалёка, але змучаныя расліны не хочуць успамінаць аб навальніцы, яны шукаюць ласкі і цягнуцца да сонца, хоць бы прамені яго былі кароткімі, ласка яго — няшчыраю, хлуслiваю.

Гэта ж самае адбывалася з Зосяю. Той упадак, які апанаваў яе пасля цяжкіх здарэнняў з ёю, быў нарушаны новымі эмоцыямі, што былі выкліканы паведамленнем Ядзі Ляскоўскае аб Зыкаве. Запалаўшая надзея, абудзіўшая з вострасцю пачуцці кахання, раптам сарвалася і замянілася новым усцішшам. Зыкаў — забойца, Зыкаў — астрожнік... Ён хлусіў ёй. А можа, хлусіць Ядзя? Але ж забойства... зроблена. Зося корчылася ад думкі пра гэта, яна адчувала надзвычайны боль ад яе. Схавацца ад гэтае думкі, выкінуць з памяці ўсё, што было ўсцішнага. Калі некалькі гадзін назад яна ўпарта і спакойна думала аб самазагубстве, дык цяпер яна шукала светлага жыцця, са ўсцішшам адварочваючыся ад здарэнняў нядаўняга мінулага. Кроў, якая звязвалася цяпер у яе ўспамінах з Зыкавым, душыла яе страхам, ад якога яна хацела схавацца, забыцца так, каб ніколі не помніць. Толькі яснага жыцця і спакою!

Ціш у пакоі, вабныя малюнкі на сценах, хараство кожнае рэчы, якая аздабляла пакой, вясёлыя скокі полымя ў каміне супакойвалі настрой, загойвалі раны перажытае пакуты. Думка аб тым, што гэта хараство чужое, варожае, хоць і налятала часамі, але закранала толькі ўскрайчыкам, лёгка, як шэры начны матыль, выпадкова заляцеўшы ў хату... Бура сцішалася. Класічныя калоны на малюнках, вышытыя

на дыванах для падлогі рымскія воіны варочалі да мінулых летуценняў, народжаных яшчэ ў гімназічныя гады... Калоны, кветкі, прыгожыя малюнкі закружыліся цудоўным колам, засланяючым нуду, чарнату, усціш, якія так нядаўна ахоплівалі ўсю істоту дзяўчыны.

Лёгкая хваля паветра дакранулася твару Зосі. Яна нехаця адкрыла вочы і чуць падняла галаву з падушкі. Цудоўны калаўрот прыпыніўся, і ўсе рэчы сталі па сваіх месцах: малюнкі — на сцены, кветкі — да акон, рымскія воіны — на падлогу. Усцішша зноў абцугамі ахапіла сэрца. Тонкая, стройная постаць пана Ляскоўскага рэзка выдзялялася на белізне аконных фіранак. Зноў гэтыя прагавітыя вочы сочаць за ёю, апальваюць яе цела бессаромным позіркам. Зося ўсхапілася з канапы, нібы хто яе падкінуў, і жахліва прытулілася за шафаю. Ляскоўскі падышоў да каміна, паправіў шчыпцамі абгарэлыя галавешкі, зноў павярнуў галаву ў бок Зосі. Крывавыя іскры блішчалі ў яго вачах.

— Мне надта цяжка на сэрцы,— глухаватым голасам, які мала стасаваўся з яго задаволена-важным выглядам, прагаварыў ён.— Вось ужо колькі дзён вы здзекуецеся з майго кахання, лічыце мяне, мусіць, за нейкага звера. Каханне, і толькі каханне я адчуваю да вас, і якім бы яно было, каб вы з яснаю душою прынялі яго. Хадзіце ж сюды, разам сядзем каля каміна і кінем усякі былы смутак і крыўду.

Зося нерухома стаяла ў сваім прытулку. Толькі скончыў гаварыць Ляскоўскі, яна няпэўнымі, баязлівымі крокамі кранулася да дзвярэй. Але рука яе слаба павісла ў паветры, калі яна падняла яе, каб адчыніць дзверы. Так з працягнутаю пустою рукою стаяла яна хвіліну-другую.

— Ах, куды ж я пайду цяпер такая? — галосна, але самой сабе сказала з запытаннем дзяўчына.

— Ты хочаш пакінуць мяне? — з ласкаю, ціха запытаўся Ляскоўскі, падыходзячы да яе.— Я кахаю цябе, аддаю табе ўсё маё багацце, буду песціць цябе, як ляльку, навошта ж табе непакоіцца і думаць, куды ісці. Ляскаўцы, Зубры, іншыя маёнткі, увесь свет — усё нашае з табою.

Дзяўчына слухала гэтыя ліслівыя словы, яны даходзілі да яе ўразумення.Ляскоўскі стаяў тут, побач, і яна ўжо не адскоквала больш. Усціш, які яна раней адчувала пры адным поглядзе на Ляскоўскага, прыціх. Зося зрабілася ўжо не тою, якою была: замест дзікага звярка побач з панам Ляскоўскім стаяла ціхая, змучаная дзяўчына, якая не ведала, куды дзець свае рукі, і сарамяжа мяла ў пальцах бант кофты.

Ляскоўскі абняў моцнымі рукамі тоненькі стан дзяўчыны, padняў яе і панёс па пакоі. У вачах Зосі ўсё замітусілася, і яна слаба апусціла галаву на плячо свайго былога ката. Праз хвіліну яны сядзелі ў шырокім крэсле перад камінам, дзе рдзяныя вуголлі то рабіліся цьмянымі, то зноў ажывалі, кідаючы ружовыя праменні на блізкія рэчы.

— Дык ты будзеш кахаць мяне, мая каралева? — цалуючы дзяўчыне рукі, гаварыў Ляскоўскі.— Мы з табою разам пабачым увесь свет. Цудоўнае сонца і мора Італіі, вясёлы Парыж, нямецкія тэатры, венская аперэта — ніштo ад нас не ўцячэ; нічога мы не абмінем. Усё, да чаго дасягнуў чалавечы геній, усё, што лепшага і найпрыгажэйшага мае натура,— усё мы пабачым, усяго паслухаем. Асветленая нашым каханнем творчасць людзей і натуры дасць нам найвышэйшую асалоду. Там мы забудземся аб Ляскаўцах, аб гэтых нашых балотах, аб смуродных лапатных сялянах, аб гэтых паскудных кутніках ды паперніках, якія мы вымушаны бачыць кожны дзень, на кожным кроку... Толькі тонкае, далікатнае хараство, утворанае вякамі праз вышэйшых людзей,— вось што будзе абкружаць нас. Ты хочаш гэтага, мая каханка?

Дзяўчына маўчала. На твары яе пралятаў то смутак, то радасць, якая запальвала вясёлыя іскаркі ў вачах. Нібы хмаркі праносіліся па ясным небе, часам закрываючы сонца. Вось адна з іх затрымалася больш, і бляск доўга не асвятляе засмучанае натуры.

— Ці вы... праўда... так... ках... кахаеце мяне? — зачырванеўшыся, запытала дзяўчына.

— Няўжо ж ты мне не верыш? Якія яшчэ трэба доказы гэтаму? Я прашу, я малю толькі твайго кахання, мая залатая рыбка.

— Я... я пакуль баюся вас, а потым, можа... я не ведаю, што потым будзе.

Вочы дзяўчыны заблішчалі двумя дыяментамі. Яны рабіліся ўсё большымі, і раптам буйнымі, блішчастымі гарошынамі дыяменты пасыпаліся з нахіленае галавы на калені.

Ляскоўскі асцярожна прымасціў Зосю ў кутку крэсла-канапы, паглядзеў хвіліну-другую на ўздрыгіваўшы ў сударагах плачу маленькі камячок цела і павольна накіраваўся да дзвярэй. Тонкія, як п'яўкі, губы яго зложыліся кальцом, нібы ён гатоў быў засвістаць. Паправіўшы сурдут, які шчыльна аблягаў яго стройную гнуткую постаць, ён праслізнуў у дзверы.

Неўзабаве ў пакоі з'явілася старая кабета з белаю паркалёваю каронкаю на сівых валасах. Перавальваючыся з боку на бок, як качка, яна падышла да крэсла і нахіліла свой жоўты, здзёўбаны раўчакамі маршчакоў, твар над крохкім целам дзяўчыны.

— Годзе плакаць, дачушка,— прашамкала яна бяззубым ротам.— Няма чаго ўбівацца над страчаным дзявоцтвам, невялікі гэта скарб.

Яна дастала з-пад фартука зялёную шкляную бутэлечку, выліла з яе на далонь нейкае вадкасці і пачала націраць скроні і чало дзяўчыны.

— Вось я цябе пашарую крыху, і ўсё як рукою здыме... А дзявоцтва — гэта аднадзенная кветка. Кожны сквапны сарве яе... Добра яшчэ, што гэта пан наш прылашчыў цябе, не абы-хто...

Старая скончыла націраць галаву Зосі. У яе руках з'явілася другая бутэлечка, якую яна, адаткнуўшы, паднесла да носа дзяўчыны. Надзвычайна прыемны пах, свежасць хвалямі несліся з маленькага рыльца бутэлечкі. Слёзы ў Зосі прыпыніліся, яна пакрысе сцішалася.

— Хто вы такая, бабка? — зацікавілася яна старою.

— Я — твая сястра, якая сорак год таму назад таксама плакала, як і ты сёння. Толькі мяне не трымалі ў такім пакоі і не ўлагоджвалі націраннямі, а проста выкінулі з палаца ў кароўнік, як толькі забралі дзявоцтва. А як мяне зваць, ці не ўсё роўна... Ну, бывай здарова, час позні.

Старая закруціла свае шклянкі ў рог хусткі, якая вісела ў яе на плячах, і, як качка, паплыла да дзвярэй.

— А ты, дачушка, не плач больш, а папрабуй смяяцца,— яшчэ мармытанула яна, прыпыніўшыся.— Ды так смяяцца, каб твой смех, як бізун. Так лепш будзе... Ох-хо-хо! Дабранач!

Зося яшчэ доўга сядзела пасля таго, як старая пакінула яе. Яна праглася ўразумець сваё зусім новае становішча. Упершыню пасля апошніх здарэнняў розум яе пачаў дзейнічаць спакойна. Яна доўга думала і надумалася.

Дні праз тры, пакінуўшы Ляскаўцы, яна з панам Ляскоўскім на пары багатых стаенных коней ехала ў другі маёнтак. Звонкі смех яе разносіўся па лесе, па белай роўнядзі палёў. Абіты мядзведжаю скураю вазок нёсся ўперад, усё далей ад Ляскаўцоў, насустрач незвычайнай будучыні, новаму цудоўнаму жыццю. Ляскоўскі дапраўды любаваўся ажыўленнем свае каханкі і сваёю ласкаю падтрымліваў павышаны настрой яе. Вазок ляцеў уперад — у змрочную далечыню. Слізкая дарога вілася сярод глыбокіх курганоў і знікала ў жамчужным змроку зімовае начы.

## IX

Калі ў бакавых вулачках, па якіх праехаў пышны князёўскі караван, была ўзбуджана цікавасць, то сярод «грамадства» Мінска на другі дзень і шмат пазней прыезд Друцкіх выклікаў шматлікія хваляванні. Пані чыноўніцы з больш важных замітусіліся, ганялі рамізнікаў альбо сваіх коней ад дому да дому; вялі цэлыя патаемныя нарады, абмяркоў-

ваючы ўсе падрабязнасці будучых прыёмаў, фасонаў адзенняў. З усімі «за» і «супраць» складаўся слоўны спіс «дамоў», якія ўвойдуць у круг знаёмых князя. Пры абмеркаванні гэтага спісу некалькі дам так моцна сварыліся, што парвалі знаёмства між сабою. Мужчынская частка панства і знатнейшых чыноўнікаў таксама загаманіла аб Друцкіх у канцылярыях, більярдных, гасцінах. Адны рады былі прыезду, іншыя шкадавалі, што князь «апусціўся да губерні». Больш рады былі чыноўныя колы, якія групаваліся каля губернатара: у прыездзе князя яны бачылі перамогу «імперскай ідэі» над самасційнымі ўхіламі польскае шляхты. Неслужылае ж панства, злёгку нахіленае ў бок фронды і добра ведаўшае тую ролю і значнасць, якія меў Друцкі нядаўна, засмучаны былі, адчуваючы адзнакі змроку славы Друцкіх. Але ж і тыя і другія з нецярплівасцю чакалі, калі князь наведае іх і пакліча да сябе.

Аднак князь не спяшаўся рабіць візіты. Прайшоў тыдзень, а імшыстая ржавая брама на рагу дзвюх бакавых вуліц заставалася наглуха зачыненай, як яна была зачыненай да прыезду князя ў горад. Напаследак на вуліцах усё ж адбылося ажыўленне. Раз надвечар з завулка выскачыў коннік у зялёным сурдуце з срэбнымі істужкамі на нагавіцах і шапцы; за ім, лёгка хістаючыся на выбоінах, пранеслася вялікая, як вагон, карэта з гербам, запрэжаная чацвярыком. Карэта прыпынілася на пляцы перад губернатарскім домам, потым праз некалькі хвілін кранулася да каталіцкага біскупа, дзе яна стаяла больш доўгі час. На астатак яна пад'ехала да белага дома, каля дзвярэй якога стаяў таўсценны генерал-швейцар.

Гэты дом належаў вядомаму пану Рагальскаму, які вымушана жыў у ім ужо другі тузін год. Некалі на гэтым доме быў надпіс: «Pace et libertati» [1]; цяпер ён быў затынкаваны, але ўсё ж след другога колеру застаўся. Перад гэтым домам карэта прастаяла яшчэ больш, а потым павольна за-

---

[1] Мір і свабода *(лат.)*.

калыхалася ў завулак. На другі і трэці дзень яна не паказвалася. Мусіць, не адна пані са злосцю схавала ў скрыню свае парадныя ўборы.

Парадак жыцця і сямейных адносін мала змяніўся ў Друцкіх з прыездам іх у горад. Упартае супраціўленне старога князя пашырэнню знаёмства выклікала новае абурэнне з боку дачкі. Пры кожным спатканні яна напамінала яму, што не для гэтага ехалі яны, каб замяніць адзін кляштар на другі, што яна хоча грамадскага жыцця. Яна нават выказвала пагрозы, што сама паспрабуе завязаць знаёмствы і наладзіць свае прыёмы і выезды. Бацька заставаўся непрыступным.

— Адзін чалавек, які заслугоўвае тут пашаны — пан Рагальскі, ні з кім не знаецца, хоць жыве ў гэтым горадзе ўжо даўно. Я таксама не маю намеру сыходзіцца з чыноўнікамі альбо засцянковаю шляхтаю. Маё рашэнне непарушна.

— Ах, па-вашаму, такія... такія, як... — князёўна шукала імя, на каго спаслацца... — такія, як Ляскоўскі,— гэта засцянковая шляхта?

Князь звычайна не адказваў на такія запытанні, толькі злосць крывіла яго высакародны твар, і ён стараўся найхутчэй скончыць далейшыя размовы на гэтую тэму. Ён замыкаўся ў сваім кабінеце і пускаўся ў разгляд і вывучэнне розных мемуараў, рукапісаў, якія прывёз з сабою і ў Мінск. Тоўстыя хронікі, манаграфіі, прыдворныя апісанні абкружалі яго за сталом, імі былі завалены палічкі паўз усе сцены. Ніхто не пападаў сюды, апроч пана Рагальскага, які кожны тыдзень два разы, роўна а сёмай гадзіне ўвечары, наведваў яго светласць. Апроч гэтага пана ў дом князя наведваўся толькі біскуп і яго малады намеснік, але яны прымаліся дачкою і старою княгіняю. Губернатар так і не адказаў на візіт князя. Гэта надзвычайна ўсхвалявала гонар князя.

— Як гэты чыноўнік смее зневажаць мяне, аднаго з старэйшых прадстаўнікоў польскага магнацтва? — запытаўся ён раз у пана Рагальскага.

— Яму добра вядома ваша былая дзейнасць і вашы погляды, ваша светласць,— проста адказаў пан Рагальскі.— Губернатар жа — прадстаўнік поўнага расійскага самаўладства.

— Як губернатар ён можа думаць аба мне што хоча. Але ж ёсць іншыя абавязкі паміж шляхетнымі людзьмі.

— Ваша светласць памыляецца, калі адасабляе губернатара ад пана. Гэта цяпер адно і тое ж.

Князь пакінуў спрачацца, але крыўда, якую зрабіў яму прадстаўнік улады, была вельмі цяжкаю. Князь нават часамі забываўся аб сваіх хроніках, думаючы аб пагардзе. Яшчэ больш падліла алею ў агонь князёўна. Праз некалькі дзён яшчэ раніцою яна пастукала ў дзверы кабінета і, нават не дачакаўшыся дазволу, хутка ўвайшла да бацькі.

— Вось прачытайце, калі ласка,— ледзь стрымліваючы радасць, прашчабятала яна.— Можа, яшчэ не так напішуць!

Князёўна працягнула руку з разгорнутаю газетаю. Князь зірнуў на надпіс зроблены вялікімі літарамі — «Слово».

— Я не чытаю такіх газет! — адхіляючы руку дачкі, сказаў ён.

— А гэта вось трэба прачытаць, гэты вось артыкул «Именитые магнаты».

У гэтым артыкуле падрабязна апісвалася, як прыехалі Друцкія ў Мінск, прыводзілася іх радаводная, пералічваліся тыя багацці і маёнткі, якімі валодалі Друцкія, адзначалася, што князь з'яўляецца найбуйнейшым землеўласнікам губерні. Далей выказваўся жаль, што ў князя Друцкага мала ўзгадаваны і выхаваны пачуцці адданасці царскаму прастолу, намякалася, што ён стаіць за польскую карону, што непрыхільна адносіцца да тутэйшага грамадзянства і сыходзіцца толькі з тымі людзьмі, якія маюць запэцканую ў мінулым рэпутацыю. Канчаўся артыкул надзеяю, што знатны князь зразумее свае інтарэсы і ўвойдзе ў колы шляхецтва і зойме месца, якое належыць яму, як аднаму з наймагутнейшых прадстаўнікоў арыстакратыі, а таксама з'явіцца адным з гарачых вернападданых царскага прастолу.

Князь некалькі разоў парываўся кінуць газету, але зноў дрыжаўшая рука падносіла ліст да носа нізкага на вочы князя. Ён дачытаў да канца і злосна скамячыў ліст.

— Што ж, яны хочуць паставіць на калені князя Друцкага? — закрычаў ён, кідаючы на дачку маланкі, нібы яна пісала артыкул ці сама вяла гэты падкоп.— Ніколі гэтага не будзе! А такія газеты, хто іх атрымлівае ў маім доме? — яшчэ больш гнеўна накінуўся ён на дачку.

— Я сама!

— Калі... калі ласка, пакіньце мяне!

Пасля гэтага дні два князь маўчаў, як сцяна. Але газету ён выпрастаў, і яна ляжала разгорнутаю і перагнутаю якраз у тым месцы, дзе быў надрукаваны артыкул «Именитые магнаты». Калі а сёмай гадзіне на трэці дзень з'явіўся пан Рагальскі, то князь не адразу пусціў яго да сябе: ён хаваў у пісьмовы стол газетны ліст. Потым ён здзівіў свайго госця запрашэннем бываць кожны чацвер а восьмай гадзіне.

— Гэта наш губэрскі журфікс,— паясніў князь.— Будзем прымаць мясцовае грамадства.

У наступныя дні блішчастая карэта Друцкіх аб'язджала не адну ўжо вуліцу і прыпынялася шмат перад якімі ганкамі, дзе на дзвярах блішчалі каронкі, а то і проста надпісы на мядзяных дошчачках. Праз тыдзень пасля артыкула «Именитыя магнаты» ў «Слове» быў надрукаваны хвалебны гімн аб бліскучым прыёме ў палацы князя Друцкага, на якім прысутнічалі «его превосходительство гофмейстер двора его величества N, чины губернского правления, г. полицмейстер, а также наиболее знатные семейства нашего родовитого дворянства». Падрабязна апісваліся вопраткі дам і дзяўчын, указвалася, што першую мазурку губернатар скакаў «с княжной, красота которой не поддается описанию». У канцы апісання гаварылася, што мінскае грамадзянства «осчастливлено судьбой, пославшей в лице князей Друцких блестящих членов высшего общества». Газета запэўняла, што пераезд Друцкіх з Аўстрыі будзе адзначаны і «всемилостивейшим монархом». На наступных «журфіксах» пана Ра-

гальскага ўжо не было, але аб ім нават не ўспаміналі ў мітусяніне выездаў, вечароў, прыёмаў.

Пачаў мяняцца і вонкавы выгляд гарадскога палаца Друцкіх. Нягледзячы на познюю восень, у двары і каля тынка, якім быў аддзелены палац ад вуліцы, застукалі малаткі, замітусіліся маляры, дахароўшчыкі, брукары. Руда-ржавая брама набыла шэра-мэталёвы колер, на фоне якога зазблішчаў золатам панцырны коннік з пікаю на лятучым кані — эмблема славутага вайсковага роду Друцкіх. На слупках брамы, па франтону палаца з'явіліся іншыя эмблемы — леапарды, львы ў каронах, зубры з залатымі рагамі, якія з'яўляліся геральдычнымі довадамі многіх шляхетных фамілій, злучаных з родам Друцкіх. За аднаўленнем старых і прымалёўкаю новых гербаў сачыў неаслабна сам князь. Іншы раз ён загадваў прыпыняць работу і ішоў наводзіць даведкі ў сваіх хроніках і манускрыптах. Толькі ўпэўніўшыся ў тым, што эмблемы зусім адпавядаюць геральдычным запісам, ён даваў дазвол маляваць іх, робячы папраўкі чыста мастацкага сэнсу.

У самым палацы князь разам з будаўнічымі папраўкамі дамагаўся як мага больш захаваць старажытнасць, паказаць углыбокую даўнасць свайго роду. Дзеля гэтага асаблівая ўвага была звернута на партрэтны пакой, які вузкаю залаю цягнуўся ўздоўж усяго палаца. Былі прывезены партрэты князёў і іх родзічаў з усіх маёнткаў, нават з былых кракаўскіх палацаў. Калі пасля заканчэння ўбрання палаца князь наладзіў прыёмы, то зрабіў сваёю прыёмнаю якраз партрэтную залу. З абедзвюх сцен на гасцей глядзелі то прыгожыя пані, то несліся на конях ганарыстыя панцырнікі, то наганялі холад мануменальнымі тварамі кардыналы з вастраверхімі, як шпілі Кёльнскага сабора, тыярамі на галаве. Пад кожным партрэтам было вызначана імя, якое месца займала асоба ў арыстакратычнай альбо дзяржаўнай іерархіі, калі яна жыла. Стагоддзі і знатнасць лезлі ў вочы наглядчыку з кожнага палатна.

Князёўна Ваця некалькі разоў пачынала сварыцца з баць-

кам з-за ўбранства пакояў. Яна неадчэпна запэўняла, што не будзе жыць у гэтым музеі.

— Абрыдлі гэтыя сутанныя шкілетныя рысы, гэтыя панцырныя коннікі. Я жыцця хачу,— цвердзіла яна штодня, наглядаючы за рэстаўрацыяй палаца.— Я памру тут ад гэтае барбарскае старажытнасці.

Князь сердаваў, сварыўся, нават называў дачку барбаркаю, якая не разумее прыгажосці, не адчувае велічы мінуўшчыны, іх мінуўшчыны. Але Ваця стаяла на сваім і патрабавала, каб хоць яе ўласныя пакоі былі зроблены так, як яна хоча. Пасля некаторых спрэчак бацька здаўся і выпісаў з Пецярбурга мастакоў. У чатырох пакоях князёўны столі, гзымсы аздобіліся несіметрычнымі закругленымі рысамі, гэтыя ж рысы былі ўведзены ў каміны, мэблю. Лямпы схаваліся ў акругла-кубічныя абажуры. Па пакоях былі раскіданы нізкія тахты, кушэткі, абойка якіх вышыта была ўсё тымі ж матывамі мадэрн. На палічках, століках растаўлены былі балванчыкі будды, гіпсавыя індыйскія пагоды, малахітавыя і бронзавыя змейкі і іншая экзатычная драбяза. Вызыскі двух чалавек далі атабражэнне пад адным дахам еўрапейскага сярэднявечча і універсальнага XX стагоддзя ў яго пачатку ў тым выглядзе, як у гэтыя эпохі жыла прывелійная кіруючая верхавіна грамадства — арыстакратыя.

Прыхільнік аднае эпохі — князь корчыўся кісла ад размякчанага выгляду пакоя дачкі, князёўна ж сціскалася ад урачыстага холаду парадных пакояў усяго палаца з яго гербамі, коннікамі, выразнымі крэсламі. Але як і каму яны падабаліся — гэта рэч астатняя, першая ж, што занадта непакоіла князя,— гэта патрэба ў грошах на стыльнасць. Яму давялося выбіраць адно з двух: альбо «па-князёўску» аднавіць палац і прадаць кавалак лесу, альбо захаваць незачэпнымі свае паляўнічыя выхавальнікі, застаўшыся жыць у заграпічным доме. Выбрана было першае. Недарэмна Масей Рыгоравіч Ліўшыц мераў улетку рагалём князёўскі ельнік: ён такі пайшоў у продаж значным кавалкам, але ж затое заблішчалі коні і леапарды на варотах князёўскага палаца.

Да пачатку снежня палац быў зусім адрамантаваны. Кожны чацвер увечары да яго варот пад'язджалі карэты, фаэтоны, гучэў пазней усіх губернатарскі аўтамабіль. У іншыя дні ўжо аблепленая гербамі карэта Друцкіх у шэрагу іншых больш простых выязных панарадаў адвозіла сваіх паноў альбо да маршалка, альбо да губернатара, ці пана Свянціцкага. Журфіксы былі замацаваны за кожным шляхетным «домам». Князёўна Ваця зрабілася асяродкам губэрскае знатнае моладзі. Чыноўнік асобных даручэнняў пры губернатары — нейкі там малады графёнак з высмактаным тварам, два-тры афіцэры-артылерысты з вядомымі расійскімі прозвішчамі, малады барон Тызенгаўзен, які вучыўся ў трох вышэйшых школах і ні ў адну нават не ездзіў, яшчэ два-тры панкі, якія звалі сябе і якіх іншыя звалі кароткімі імёнамі, накшталт Ніка, Вово ці там Додзя. Гэта хеўра хвастом цягалася за князёўнаю, кожны вечар, а то і ўдзень з'яўляючыся там, дзе магла быць найпрыгажэйшая Ваця. Спачатку князёўне ўся кампанія падабалася (пасля жыцця сярод лесу), і яна з кожным была прыветнаю, жыццярадаю. Яе вочы з зялёнымі агеньчыкамі абяцалі кожнаму ласку; кожны з заляцаўшых лічыў сябе прывабным для князёўны і гатоў быў выказаць, кінуць к яе нагам свае прызнанні ў нязмерным каханні. Цэлыя вечары хвост валяўся на нізкіх кушэтках, на тыгровых шкурах у пакоях князёўны, займаючыся пераказамі Мапасана, дэкламацыяй Бадлера або Блока ці вывіхаючыся ў танга. Але чым дальш, тым больш змяіны бляск у вачах князёўны шырыўся. Яна стала пускаць у ход колкія словы, насмешкі, якімі дапікала сваіх нязменных кавалераў. Ёй вельмі падабалася, калі барончык ці чыноўнік асобных даручэнняў змаўкалі і стаялі, як пабітыя, пад яе вострым позіркам. Аднак і гэтая забаўка надакучыла князёўне, і яна не раз кідала гасцей адных у пакоі, выходзячы да сябе.

Здарылася нават раз так, што, варочаючыся з нейкіх вечарын, маладыя арыстакраты сустрэлі князёўну на вуліцы. Яна ехала ў вазку, з маланкаю прамільгнуўшых коней

валіла густая пара. А тым часам князёўна была на той самай вечарыне і кінула яе да пары. Словам, людзі, якіх бачыла князёўна на журфіксах, вечарынах надакучылі ёй, не задавальнялі яе.

Яна кідала грамаду, зачынялася на некалькі дзён у сваім пакоі, і стары палац агалашаўся гукамі Бетховена, Вагнера. Здавалася, што ў доме жыве занадта старанны вучань музычнае школы. Потым раяль надоўга замаўкаў. Пачынаў паказвацца штодня ў палацы малады мужчына надсонаўскага тыпу — і з пакоя князёўны чуўся тэнаровы голас, які выкладаў алгебраічныя і трыганаметрычныя формулы. Раптам Надсон-матэматык знікаў, і князёўна патрабавала ад бацькі стрэльбу, каб ехаць на паляванне. Потым усе гэтыя штукі канчаліся, і князёўна спакойна ехала з маці да знаёмых, у тэатр, дзе весела рагатала над зборнаю камандаю музыкаў, ніколі не пападаўшых у лад з спевакамі, якія выконвалі оперу.

Здарэнні ў Ляскаўцах далі новы кірунак настроям і пачуццям князёўны. На адным з вечароў Друцкія доўга чакалі губернатара. Усе госці даўно былі ў зборы, старыя ўжо найграліся ў карты, моладзь змарылася ад Бадлера і танцаў, а губернатара ўсё не было. Напаследак, каля адзінаццатай гадзіны, яго аўтамабіль прафырчэў на дварэ. Усе кінуліся ў прыёмную.

— Што здарылася, ваша прэвасхадзіцельства? — занепакоена запытаўся князь уваходзіўшага начальніка губерні.

— Ах, выбачайце, ваша светласць, што я спазніўся! Выбачайце ўсе, панове,— засопшыся ад натугі падняцца на пяць усходцаў, адказаў губернатар.— У мяне была пільная справа.

— Усё справы ды справы,— закаціўшы пад лоб вочы, пракартавіла жонка маршалка.— Па-мойму, першая справа мужчыны быць належным кавалерам. Я без вас так марнела, а ў вас там нейкія пільныя справы.

— Э, пані... так, і ўсе панове! Справа пільная, надзвы-

чайная. Мне далажылі, што ў губерні з'явіліся рэвалюцыянеры.

— Ах! — піскнула маршалчыха.— Спалілі каго-небудзь, забілі, абрабавалі? — як з пісталета затрашчала яна паасобныя словы.

— Так, панове! — адышоўшы крыху ад усіх і стаўшы ў позу прамоўцы, зноў загаварыў губернатар. Ён правёў тоўстымі пальцамі па сіваватых баках, паправіў крыжык на сурдуце, кашлянуў і, акінуўшы поглядам натоўп паноў, паведамляў далей.

— Як я ні дамагаюся знішчыць нават пах гэтае рэвалюцыйнасці, яна ўсё ж недзе трымаецца. Колькі ўжо злоўлена, засуджана гэтых жыдочкаў, а праявы бунту раз-пораз даюць аб сабе знаць...

Губернатар прыпыніўся, адсопся і пільна агледзеў усіх прысутных, пераводзячы вочы з аднаго на другога па чарзе, нібы шукаў рэвалюцыянераў сярод гэтага імянітага грамадзянства. Усе па чарзе апускалі долу вочы. Нават лысы, круглы, як гарбуз, маршалак, на грудзях якога матляўся крыжык за падвойную службу на карысць шляхецтва і дзяржавы, і той сарамліва схіліў галаву, нібы паказваючы, што да яго рэвалюцыйнасць наўрад ці прыстала.

— Дык вось,— загучаў генеральскі голас зноў,— усе вы, мусіць, чулі аб пане Ляскоўскім.

У натоўпе прайшоў шолах, усе кінулі позіркі на сваіх суседзяў, князь задаволена ўсміхнуўся, князёўна Ваця ажывілася, і зялёныя агеньчыкі заскакалі ў яе вачах наяды.

— Пан Ляскоўскі ў рэвалюцыянеры пайшоў? — не сцярпеў запытацца нехта ззаду.

— Ну, пан Ляскоўскі не з такіх: ён і гаспадар добры, і прыкладны падданы нашага абажанага манарха,— унікліва адказаў губернатар. У маёнтку пана Ляскоўскага ўжо падымаліся бунты рабочых і нават вясковых сялян. Але пан Ляскоўскі без дапамогі з майго боку спраўляўся з імі. Аднак рэвалюцыянеры тачылі свае нажы, і вось пазаўчора забіты імі паліцэйскі чын...

— Ах! — жахліва пранеслася па ўсёй партрэтнай зале. Нават кардыналы, жалезныя коннікі, тоўстыя княгіні і каралевы зяхнулі на сценах і спалохаліся разам са сваімі ўнукамі і праўнукамі.

— Катаваць гэтых злодзеяў! Ах, бедны пан Ляскоўскі, як ён там жыве сярод гэтых рабаўнікоў? Трэба паліцыянтаў больш усюды паставіць! А ці злавілі забойцаў, калі іх будуць судзіць? — пасыпаліся як гарох з дзіравага мяшка ўсклікі, запытанні.

— Вось уся справа ў тым, што забойцу і яго пасобнікаў не злавілі, хоць фаміліі іх вядомыя нам. Зладзеі паспелі нават схаваць свае паганыя кніжкі... Ну, але мы да іх дабярэмся, нікуды не дзенуцца... Дык выбачайце, шаноўныя панове, што я парушыў вашы свецкія заняткі. Асабліва прашу прабачэння ў нашых мілых дам!

Губернатар зрабіў нізкі ўклон, аж зарыпеў яго рамень на сурдуце. Прапанаваўшы сваю руку старой княгіні і пазвоньваючы шпорамі, ён крануўся ў гасціную, а за ім і ўся грамада, жвава абменьваючыся думкамі аб паведамленым здарэнні. Імя Ляскоўскага неслася з ўсіх бакоў, лятала ў паветры.

Князь некалькі хвілін быў надта задуменны. Ён нават не ў лад адказваў на запытанні сваіх гасцей. Потым ён выклікаў у пусты пакой княгіню і доўга з ёю саймаваўся, і на гэты раз зусім лагодна, што здаралася не часта. Разышліся яны зусім задаволенымі.

Калі пасля вячэры ўсё панства зноў выйшла ў партрэтную, каб развітацца з губернатарам, які пакідаў Друцкіх першым, князь моцна, каб усе чулі, сказаў:

— Я, ваша прэвасхадзіцельства, дзіўлюся з шаноўнага пана Ляскоўскага. Гэта нейкі схімнік, а не свецкі чалавек: сядзіць сабе ў сваіх Ляскаўцах, корпаецца з фабрыкамі, рабочымі, нават у горад не пакажацца. Але ж цяпер я выцягну яго сюды; пасля такога здарэння яму патрэбна развесяліцца ў нашай грамадзе. Заўтра ж пашлю яму праз егера запросіны да мяне.

— Ваша светласць мае высакароднае сэрца, я ніколі не мысліў аб вас інакш,— адказаў генерал, горача паціскаючы «высакародную» руку.

На другі дзень зялёны егер з срэбнымі галунамі атрымаў цвёрды канверт, аздоблены князёўскаю каронаю, і выехаў з Мінска. Князёўна Ваця ў гэты і наступныя дні асабліва дапікала свой графска-баронскі хвост і часта падоўгу ганяла коней. Нават у снежную завіруху, позна ўвечары, яна дамчалася аж да Койданава і вярнулася ў Мінск на зусім змораных конях.

Праз тры дні егер вярнуўся. Выпадкова ці не, яго першаю спаткала князёўна. Яна выхапіла з яго рук невялічкі канверцік, адрасаваны князю. Але гэта мала непакоіла яе — ускрайчык канверта стужачкаю паляцеў на падлогу. Твар князёўны пабялеў, як крэйда, зубы сашчапіліся, ліст, гойдаючыся, паляцеў на падлогу. Толькі два радкі чорных мошак беглі на чыстым лісце паперы: «Ваша светласць! Шчыра дзякую за ўвагу». І больш, апроч подпісу, нічога. Князёўна схапіла гарапнік з рук егера, сцебанула ім аслупянелага пасланца і бразнула дзвярыма свайго пакоя. Па палацы пакесліся равучыя, дзікія стогны раяля.

## X

Аднак праз не доўгі час Ляскоўскаму давялося прыехаць у Мінск. Ён атрымаў ад маршалка ліст, у якім паведамлялася, што праз два тыдні склікаецца з'езд шляхты.

Гэты губернскі з'езд, як паведамлялася ў лісце, з'явіцца не зусім звычайным: на ім будуць пастаўлены на абмеркаванне асобныя пытанні, якія патрабуюць удзелу ў з'ездзе ўсяе больш знатнае шляхты. Следам за гэтым лістом, праз дзень, быў дастаўлены другі, на гэты раз ад самога губернатара. Начальнік губерні, паведамляючы таксама аб будучым з'ездзе, прасіў пана Ляскоўскага, як той прыедзе ў Мінск, папярэдне наведацца да яго, каб абмеркаваць у цес-

ным коле кандыдатаў на пасаду маршалка, а таксама вырашыць загадзя некаторыя пытанні, што будуць пастаўлены на абмеркаванне з'езду.

З гэтымі лістамі пан Ляскоўскі зайшоў увечары да Зосі.

— Нам прыйдзецца хутка паехаць у Мінск. Ты будзеш рада, залатая мая? — запытаўся ён, сядаючы блізка ад яе на дывановай канапе.

Страх і цікавасць адбіліся на яе рухлівым твары. Процілеглыя пачуцці змагаліся ў ёй.

— Я б і рада паехаць пабачыць людзей, але мне страшнавата,— шчыра прызналася яна.

— Чаго ж ты баішся, дзяўчынка? Са мною табе няма чаго баяцца. Вось бачыш, лісты пішуць — сам губернатар ды маршалак. Яны са мною лічацца, а не я з імі! — самазадаволена дадаў Ляскоўскі, працягваючы Зосі лісты, аздобленыя шляхецкімі каронамі і выдрукаванымі пасадамі знатных асоб.

Зося адхіліла лісты, ледзь акінуўшы іх вокам.

— Вы... ты... не разумееш мяне. Вось я паеду, як пані, а хто ж я? Як мне глядзець у вочы людзям? Я... я заўсёды і ўсюды буду адчуваць гнятучы сорам...

— Якая ж ты нясмелая, я думаў аб табе іначай... Помніш, як ты абараняла ў Ляскаўцах нейкую кабету, жонку, здаецца, рабочага? Ты была тады смелая.

— Я была тады чалавекам, а цяпер...

Зося не дагаварыла, голас яе сцяўся, і буйныя слёзы пакаціліся з яе вачэй.

— Кінь, мая маленькая, плакаць, кінь! — угаварваў яе, як дзіця, пан Ляскоўскі, цалуючы шыю, вочы, губы.

Зося не супярэчыла гэтым ласкам, але заставалася засмучанаю.

— Ты вось думаеш, што я трымаю цябе, як каханку. А я лічу цябе за сваю жонку і... будзе час, як мы пажэнімся.

Вочы ў Зосі праяснелі, яна ўдзячна глянула на свайго валадара.

— Дык ты не гаруй больш, няхай толькі светлая радасць адбіваецца на гэтым прыгожым тварыку.

Ляскоўскі ўскочыў з канапы, схапіў дзяўчыну і, запяваючы

И скоро ты будзешь, ангел мой,
Моею маленькой женой..,

закруціў яе ў танцы. Яго гнуткае цела ўсё шчыльней абвівалася каля маленькае фігуркі Зосі, якая з расчырванеўшым тварам сама нікла да мужчыны...

Зборы да ад'езду зацягнуліся дні на тры. Пан Ляскоўскі імкнуўся сваім наведваннем у губерскі горад паказаць, што ён зусім заслугоўвае імя «знатнейшага шляхціца». Шырокі вазок, аздоблены срэбнымі бляшкамі і з мядзведжымі шкурамі, павінны былі везці ўпрэжку дзве пары вараных стаеннікаў. Наладжвалася яшчэ чатыры фурманкі, у якіх павінны былі ехаць камердынер, два лёкаі, пакаёўкі з вялікім запасам адзення, розных дамашніх рэчаў і яды.

Зося адчувала сябе гаспадыняю, шмат мітусілася, але з яе клопатаў карысці было нямнога. Ёй некалькі разоў давялася чырванець перад служкамі за няведаннем назвы некаторых рэчаў, якія збіралі ў дарогу.

Выехалі пад вечар зімовага дня. Перад тым дні два была адліга, нават праходзіў некалькі разоў дробны дождж. Цяпер жа неба выяснілася, выскачыў лёгкі марозік. Дарога абледзянела, і сані нячутна слізгалі па цвёрдым грунце. Коні віхураю панесліся па гасцінцы, толькі прысады прамільгвалі міма. Зімовы адвячорак кароткі. Вось толькі што было сонца на небе, а там глядзіш — ужо толькі палае пажарам заходняя частка небасхілу ды зоркі адна за адною запальваюцца на сіне-зялёным мошасце ўсходу. Ускрайчык месяца, які лёгкім кавалачкам хмаркі здаваўся пры сонцы, становіцца ўсё больш выразным, а потым срэбным сярпом вісіць сярод зорак. Зара на захадзе хутка траціць свой бляск, застаецца толькі вузенькая тонка-ружовая стужачка, ды і тая праз некалькі хвілін знікае. Цяпер толькі месяц ды зоркі шлюць на зямлю перламутра-фасфарычнае святло, якое

прыдае зданнёвасць усім рэчам — і прыдарожнай вёсцы, і дальняму лесу, і стагам сена на белым балоце.

Як толькі коні пойдуць цішэй, прыслухаешся і чуеш ціхі звон, як быццам тонкае шкло б'ецца тут вось у канаве, каля дарогі, і далей па полі ці балоце. Гэта ломіцца тонкі лёд, як толькі вада, на якой ён зацягнуўся, увойдзе ў снег. Ад саней і да таго месца, пакуль хопіць вока, ідзе блішчастая дарожка па глянцавітым снезе ў той бок, дзе плыве ў небе месяц, дыхаецца лёгка і вольна, асабліва калі падарожны апрануты ў лісінае футра ды яшчэ закрыты ад ветру абітаю сукном будкаю, а ногі яго схаваны ў цёплую мядзведжую шкуру.

Іншая зусім рэч, калі ідзеш у лыкавых лапцях ды яшчэ знячэўку шлабанеш у крыху замёрзшую калюжыну: праз анучы халодная вада рве табе нагу, як злы сабака, і ты не вельмі будзеш мілавацца на месяц і срэбную дарогу да яго.

Але ногі Зосі былі абуты не ў лапці, а ў далікатныя лакавыя туфелькі і захаваны ў мяккую ласцячую шэрсць. Срэбраная дарога да месяца вабіла яе, ціхі звон крохкага лёду напяваў ёй пяшчотныя спевы. А ўперадзе — шырокі гасцінец, дальні канец якога знікаў у недасяжнай далечыні, загорнутай перламутраваю завесаю... Зося сама ўпершыню прасунула руку пад мядзведжую шкуру і трапятліва паціснула тонкую руку Ляскоўскага.

— А цудоўны, мусіць, горад гэты, Парыж? — як праз сон запыталася яна.

Пан Ляскоўскі стромка зірнуў на сваю спадарожніцу, і агідная ўсмешка скрывіла яго п'яўкаватыя губы. Але ў змроку будкі яна не заўважыла гэтае ўсмешкі.

— Ого! Такіх гарадоў больш няма на свеце,— адказаў ён.— І мы [illegible] табою, напэўна, вясною туды трапім.

Зося пачала маляваць сабе вялізарны горад з белымі дамамі, абкружанымі стройнымі калонамі, з цудоўнымі машынамі, якія, як вецер, носяцца па вуліцах і возяць найпрыгажэйшых кабет і мужчын, горад упрыгожаны невядомымі

дрэвамі, абвітымі гірляндамі ружаў. Гэты горад быў вось там за гэтаю туманнаю завесаю, далёка і блізка, так блізка, што яна бачыла яго дапраўды... Галоўка яе, захаваная ў мяккую сабалінную шапачку, даверліва схілілася на плячо Ляскоўскага, вочы сплюшчыліся... Срэбная дарога вяла ў цудоўны горад, ціхія званочкі звінелі пяшчотна і заспакойваючы. Хмаркі часам засланялі месяц, срэбная дарожка знікала. Часам ускалыхвала думка сэрца ўспамінам аб Ляскаўцах, аб пакінутым бацьку, аб... аб Зыкаве. Але хмарка сплывала, і срэбная дарожка зноў светлаю стужачкаю лажылася на снег. Хмарныя думкі пакідалі галоўку Зосі, аддаючы месца ружовым летуценням...

У Мінск прыехалі пад вечар наступнага дня. Гасцінец перарэзваўся чыгункаю, і давялося чакаць перад застаўкаю, бо павінен быў прайсці цягнік. Коні захраплі, застрыглі вушамі: з-за павароту выскачыў паравоз, цяжка засоп, зачмыхаў, міма замільгалі вокны вагонаў з сілуэтамі людзей за шклом.

— Вось і мы некалі паедзем так у Парыж,— падумала Зося, гледзячы ўжо на апошні вагон, які хутка змяншаўся і, пакуль пераехалі сані цераз чыгунку, стаў маленечкім куфэркам.

Зося даўно ўжо не была ў горадзе. Хоць яна і добра ведала ўсе вуліцы, якія вывучыла яшчэ гімназісткаю, але цяпер з цікавасцю разглядала іх: яны здаваліся больш ажыўлёнымі, лепш прыбранымі і асветленымі. Пасля цёмных вулачак, дзе пахла кіслаю аўчынаю ад гарбарань, дзе пыхаў паравік у майстэрнях, вазок і ўвесь панскі «паязд» пацягнуўся па Губернатарскай вуліцы з асветленымі вялікімі крамамі, з натоўпам шпацыруючых людзей. На кожным рагу вуліц збіраліся цікаўныя, якія пільна разглядвалі «паязд» і потым жвава распытвалі аб тым, хто гэта праехаў...

Ах, гэтая мінская цікаўнасць! Яна захавалася і да нашых часоў; варт вам нагнуцца па ўпаўшую капейку, як у момант вас абкружвае натоўп, і ўсе будуць пытацца адзін

у аднаго, што здарылася. Вы ўжо знайшлі сваю капейку і праціснуліся ісці далей, а зацікаўлены натоўп усё будзе стаяць. Альбо запыніліся вы на тратуары пагаварыць са знаёмым (па-мінскаму, пагаварыць трэба абавязкова на тратуары і абавязкова заняць яго сярэдзіну), зараз хоча паслухаць трэці, а там, глядзіш, ужо чалавек з пятнаццаць. Займуць тратуар, нават кавалак вуліцы, а іншыя — абыходзь іх, калі хочаш...

Дык вось можна ўявіць сабе, колькі людзей збіралася на рагах вуліц, каб даведацца, хто гэта праехаў, ды яшчэ на чацвярыку стаеннікаў! Ого, колькі ў гэтым цікавага! Некаторыя нават падбегам ішлі следам за панскім вазком аж да самае гасцініцы Дрэйцара, куды накіраваўся Ляскоўскі, і там задаволілі-такі сваю цікаўнасць.

Ляскоўскі, аднак, не першым прыехаў на з'езд. Амаль усе пакоі гасцініцы ўжо былі заняты панаехаўшым панствам. Калідоры разам з дрэйцараўскімі слугамі былі націсканы лёкаямі з галунамі, прыгожымі чырванашчокімі пакаёўкамі, мусіць, таксама прыехаўшымі з сваімі панямі. Усюды стаялі абкручаныя вяроўкамі куфры, саквяжы і іншыя дарожныя рэчы. Ляскоўскі забракаваў усе тры пакоі, якія заставаліся яшчэ вольнымі, і загадаў ехаць у іншую гасцініцу. Гэта вельмі засмуціла гаспадара гасцініцы.

— Засталіся б, пане, пакоі надта добрыя,— заскокваючы ўперад прасіў ён.

— Пан Ляскоўскі не будзе жыць у тваіх катухах,— адказаў за пана фурман.

— О, ды гэта ж сам пан Ляскоўскі! Ліха маёй галаве, што ж рабіць? Што мне скажа пан Ліўшыц, калі даведаецца, што я вас не прыняў у сябе? Ой, Шмуйла, пасоб мне! — трашчаў гаспадар.

Шмуйла пасабіў хутка. Ён перасяліў у вольныя пакоі нейкага нязначнага панка, хоць той і сварыўся на ўсю вуліцу, валаснога пісара, які зусім не спрачаўся, дзвюх старых паняў, якія лічылі патрэбным быць у Мінску ў часы з'езда, хоць немаведама дзеля чаго.

Абсталяваўшыся ў чатырох досыць вялікіх пакоях, Ляскоўскі з другога дня пачаў знікаць з гасцініцы. То ён ехаў з візітамі да губернатара, да старога маршалка ці да каго-небудзь з наехаўшых паноў, ці ўдзельнічаў у нейкіх там нарадах, ці проста праводзіў вечары за картамі ў вясёлай грамадзе. Разы два-тры госці наязджалі да пана Ляскоўскага, пры гэтым адно зборышча было быццам патаемным: нават камердынер пана не быў пушчаны ў пакой, дзе сядзелі паны. Іншыя госці проста пілі і гралі ў карты: тады лёкаі надрываліся, цягаючы бутэлькі і яду. Ва ўсякім разе, ці пан Ляскоўскі выязджаў, ці прымаў панства ў сябе, Зося заставалася ў адзіноце. Ляскоўскі не ўводзіў яе ў тыя колы, дзе бываў сам альбо з кім меў справу. Срэбная дарожка пачынала рабіцца цьмянай, і хмаркі ўсё часцей закрывалі празрысты месяц, які асвятляў сэрца Зосі. Толькі абуджаныя ўжо патрэбы плоццевага кахання крыху задавальнялі яе, калі, варочаўшыся позна, Ляскоўскі, ад якога пахла спірытусовым перагарам, прагна шукаў яе цела. Днём жа яна альбо бяздзейна і тупа разглядала насупраць вывеску суконнага магазіна Іоселевіча, а крыху збоку «и здесь заливают галоши», альбо сноўдалася па вуліцах, нікому не вядомая, чужая. Толькі гандляры неадчэпна запрашалі яе ў крамкі.

Тым часам падыходзіў час адкрыцця з'езда. У пакоях «Дворянского Собрания» на Падгорнай вуліцы цэлы дзень таўкліся сінія, зялёныя сурдуты з генеральскімі, палкоўніцкімі пагонамі, чорныя візіткі, фракі, якія надавалі сваім валадарам выгляд жучка альбо скакунчыка, белыя нагавіцы некалькіх чыноў, меўшых прыдворныя «званія». Рознакаляровы натоўп сытых людзей запаўняў буфет, більярдную, нават бібліятэку, дзе на сталах былі разложаны «Слово», «Губернские Ведомости», «Новое время». У паасобных пакоях збіраліся больш санавітыя дваране і абмяркоўвалі нешта прыглушанымі галасамі. Але ўсё ж фамілія Ляскоўскага ўпаміналася так часта, што, нягледзячы на ціхую гутарку, яна стала вядома ўсім. І таму не дзіва, што калі перад самым адкрыццём з'езда з'явіўся ў залу пан Ляскоўскі, то ён

быў спатканы амаль не аднадушным шэптам, кожны агледзеў яго. Шмат хто пацягнуўся прывітаць яго, хоць многіх Ляскоўскі бачыў упершыню. Вакол яго зляжыўся натоўп і пачалася жвавая гутарка: адны распытвалі яго аб здароўі, другія — аб маёнтках, трэція — аб тых падзеях рэвалюцыянераў у Ляскаўцах, якія ўскалыхнулі ўсю шляхетную грамадскасць і якія так ярка абмаляваў сёння Саланевіч у сваім «Слове». Разам з Саланевічам абкружаўшыя пана Ляскоўскага патрабавалі суровае кары забойцы ўрадніка [redacted] Ляскаўцоў.

Князь Друцкі з'явіўся ў зале бадай пазней за ўсіх. Яго малінавы кафтан з развяванымі на паветры рукавамі і сабалінаю аблямоўкаю прыцягнуў да сябе ўвагу. Стала зусім ціха, калі ён, высока падняўшы сівую галаву, з каршуновым носам і пышнымі вусамі, паважным крокам праходзіў між крэсламі на месца ў пярэднім радзе. Ён прывітаўся ўклонам толькі з адным-двума панамі. У бок Ляскоўскага ён нават не зірнуў.

— Мы цяпер з вамі сквіталіся, ваша светласць! — нібы забаўляючыся, прагаварыў пан Ляскоўскі, падыходзячы да князя. Той уставіўся сваімі пранізваючымі вачыма.— Вы калісь адхілілі мае запросіны, як я адчыняў гуту, цяпер я не выканаў вашага жадання наведаць вас. Сквіталіся — і давайце заключым згоду.

Пан Ляскоўскі працягнуў руку, але доўга чакаў, пакуль халодныя пальцы князя чуць датыркнуліся яе. Ляскоўскі яшчэ раз насмешна зірнуў на манументальна-рыцарскую фігуру князя, які нічога не адказаў яму, і пайшоў займаць сваё месца.

На ўзвышшы за даўжэразным сталом, засланым зялёным сукном з залатымі махрамі, з'явіўся губернатар у генеральскіх эпалетах, маршалак у расшытым золатам цяжкім мундзіры прыдворнага і яшчэ нейкі малады паніч, вёрткі, як уюн. Далей выйшаў з бакавых дзвярэй архірэй з круглаю, як гаршчок, блішчастаю шапкаю на галаве, за ім пацягнуліся чорныя слупы трох-чатырох папоў. Пачаўся малебен:

архірэй памахаў кадзілам перад абразамі, перад вялікімі партрэтамі ва ўсю сцяну цара і царыцы і пасля «многая лета» трымаў крыж. Усё панства без розніцы нацый і рэлігій, прыкладалася да крыжа, рукі архірэя ўсіх крапілі «святою вадою». Абціраючы лысіны беленькімі хустачкамі, сурдуты, мундзіры, малінавыя кафтаны, зноў занялі свае месцы.

Папы выйшлі на чале з архірэем. Губернатар мацнуў крыжыкі на мундзіры, правёў рукою па баках, кашлянуў і абвясціў з'езд паважанае шляхты адкрытым. Пры замершай зале губернатар пачаў сваю прамову. Коратка, як секучы сякерай, ён паведаміў аб тым, што з'езд, склікаты крыху раней звычайнага тэрміну, бо ёсць такія пытанні, якія патрабуюць своечаснага дзеяння, патрабуюць ад шляхты некаторых пастаноў. Яшчэ не зусім згаслі водгукі 1905 года, яшчэ надалей адбываецца дзейнасць рэвалюцыянераў, гэтых заядлых ворагаў цара і бацькаўшчыны. Яны падбіваюць народ на паўстанні, падгаворваюць да непаслушэнства, нацкоўваюць сялян і рабочых супраць паноў, імкнуцца пасеяць смуту, знішчыць магутнасць нашае вялікае імперыі, нават замахваюцца на асобу «всемилостивейшего монарха». Адзін з гэтых разбойнікаў, гэтых ворагаў цара і народа, нядаўна забіў вернага служку царскага паліцэйскага ўрадніка ў Лясксаўцах, спакушаўся на жыццё пана Ляскоўскага, а раней падбіваў рабочых на бунты. Гэта грозная прыкмета, і шляхта павінна разам з чынамі «Его императорского величества» ўжыць меры, каб з коранем вырваць паследкі рэвалюцыйнае заразы, дзе б яна ні была. Губернатар скончыў тым, што пры гэтых умовах трэба мець моцных здольных людзей на чале шляхты, трэба абраць належных губерскага і павятовых маршалкаў.

У гэтым месцы стары маршалак, блішчучы расшытаю грудзінаю, як абразом, вагануўся, пераступаючы з нагі на нагу, і спусціў вочы, пільна разглядаючы ляжаўшы перад ім ліст чыстае паперы і алоўак.

Губернатар прапанаваў тым часам выбраць за старшыню з'езда, а далей і за маршалка, пана Ляскоўскага.

— Хоць ён і малады яшчэ, але ён здолее выканаць свае высокія абавязкі перад царом і шляхтаю!— скончыў начальнік губерні.

У зале было надзвычайна ціха, потым пранесліся гукі ўхвалы, кароткія далікатныя апладысменты. Усе азіраліся ў бок пана Ляскоўскага, толькі князь Друцкі нерухома, як кіёк, сядзеў у сваім крэсле.

Калі шолах у зале крыху сціх, пан Ляскоўскі папрасіў дазволу гаварыць. Яго тонкая стройная фігура вырасла на ўзвышшы, ён працягнуў руку наперад, нібы просячы ўвагі да сябе, і пачаў гаварыць.

Ён зусім згаджаўся з «его превосходительством» адносна задач шляхты ў барацьбе супраць рэвалюцыйнага руху. Больш таго, на яго думку, некаторыя паны, нават знатныя, знаходзяцца пад уплывам розных там ліберальных ідэй і гэтым дапамагаюць распаўсюджванню вольных думак. Як з рэвалюцыянерамі, гэтак і з шляхетным лібералізмам належыць змагацца, хоць і рознымі мерамі: бізун і катарга для першых і грамадзянская знявага для другіх. Разам з гэтым ён прапанаваў прасіць уладу аб узмацненні паліцэйскае аховы ў тых мясцовасцях, дзе ёсць прамысловыя прадпрыемствы, а таксама павесці скорым тэмпам утварэнне моцных сялянскіх гаспадарак. Сталыпінскі хутар павінен зрабіць апору для шляхты і ўлады і заможнай часткі сялянства. Дзеля гэтага шляхта не павінна прыпыняцца нават перад некаторымі ахвярамі невялічкімі кавалкамі свае зямлі, калі гэта будзе патрэбна.

— Добра гаворыць пан Ляскоўскі. Недарэмна ён гаспадар хоць куды,— чуліся галасы з розных куткоў залы.

— Іншаму ж сялянству трэба забараніць, прыпыніць усякія паслабленні,— гаварыў далей пан Ляскоўскі.— Трэба скасаваць усякія сервітуты, трэба знізіць плату за жніво, касьбу і іншыя работы. Для хутчэйшага правядзення зямельнае палітыкі пана міністра Сталыпіна трэба ўмацаваць Два-

ранскі і Сялянскі пазямельныя банкі і паставіць на чале іх людзей, якія належна праводзілі б патрэбную і карысную нам палітыку.

Падзякаваўшы паноў-шляхту ў асобе губернатара за нададзены яму гонар, пан Ляскоўскі адмовіўся ад пасады старшыні з'езда, а потым маршалка, спасылаючыся на тое, што ёсць сярод грамады і больш знатныя, каб прыняць вялікую чэсць, і больш здольныя, каб выконваць вялікія абавязкі.

— Сярод нас ёсць прадстаўнік славутага князёўскага роду. Ён зможа быць нашым правадыром і стане верным служкаю цару і бацькаўшчыне. Я прапаную абраць за старшыню з'езда і губерскага маршалка яго светласць князя Зыгмунда Друцкага.

Скончыў сваю прамову Ляскоўскі і глянуў на губернатара.

Шолах здзіўлення залятаў па зале. Сядзеўшыя ў сярэдзіне ціха перамаўляліся, гледзячы недаўменна адзін на аднаго. Князь Друцкі крыху дрыжачаю рукой папраўляў вусы, кідаючы здзіўленыя позіркі то на Ляскоўскага, то на губернатара.

— Ну што ж, калі адзін з прадстаўнікоў шляхты, і прадстаўнік вельмі паважаны, уносіць прапанову за яго светласць, то я, як прадстаўнік улады, мушу далучыцца да яе,— сказаў губернатар, робячы ўклон у бок князя, а потым Ляскоўскага.— Прашу, панове, да урнаў, калі няма больш кандыдатаў.

— Няма,— адказала некалькі галасоў.

Крэслы загрукалі і мундзіры, сурдуты натоўпам пасунуліся ў другую залу, дзе ўжо прыгатаваны былі скрынкі і галы. Праз гадзіну галы былі падлічаны: князь Друцкі быў абраны за маршалка. Некаторыя, хто галасаваў за Ляскоўскага, дзівіліся вынікам, але іншыя іх наводзілі на «путь истины».

— Вы дарэмна непакоіцеся. Пан Ляскоўскі з губернатарам добра ведаюць, які вецер у Пецярбургу.

Больш няважная шляхта, якая не магла ўсё вынюхаць, змаўкала і пакідала дзівіцца з вынікаў выбараў.

Пан Ляскоўскі, пакідаючы пакоі «дворянского собрания», падышоў да князя і шчыра павіншаваў яго. Князь горача схапіў і доўга трос яго руку: гэта было ўжо не слабае халоднае датырканне адных пальцаў.

— Княгіня, князёўна і я — усе мы надта жадаем, каб вы наведалі нас,— ласкава папрасіў ён Ляскоўскага.

— Не пасмею адмовіцца ад такое чэсці,— адказаў Ляскоўскі.

## XI

З'езд адбываўся сваім парадкам. Рабіліся справаздачы, пасылаліся прывітальныя вернападданыя тэлеграмы цару, царыцы, наследніку. У буфетнай стралялі коркі ад шампанскага, стукаў бясконца більярд. Ляскоўскі прымаў толькі самы пільны ўдзел, калі абмяркоўваліся пажаданні шляхты аб зямельных справах ды аб барацьбе з рэвалюцыйным рухам сярод рабочых. Справаздачы яго не цікавілі. На другі дзень з'езда, пасля пасяджэння, ён пад ручку з князем выйшаў з залы, і яны паехалі разам у палац.

Старая княгіня спаткала пана Ляскоўскага з усёю прыемнасцю і гасціннасцю. Яна пасадзіла яго з сабою, самым падрабязным чынам распытвала аб дзядах і прадзедах Ляскоўскага, пералічвала свае маёнткі ў Польшчы, пераказвала, з якімі высокімі асобамі яна вадзіла знаёмства ў Вене альбо Парыжы. Але Парыж ёй не падабаўся. Гэтыя міністры французскія — нейкія там гандляры ці хто іх ведае, хто яны: сярод іх, бадай, няма такіх славутых магнатаў, як яны, Друцкія. Вось Вена, Берлін — гэта нешта зусім іншае — там знойдзеш сабе раўню. Пералічваючы свае знаёмствы, княгіня кідала позіркі на бакавыя дзверы. Чым далей, тым больш часта пачала паглядаць яна на зачыненыя дзверы. Напаследак яна не вытрывала.

— Паклічце сюды князёўну,— нервова загадала яна прыйшоўшай на званок пакаёўцы.

— Князёўны няма дома,— вінавата адказала дзяўчына.

— Як — няма дома? Яна ж вось толькі была і нікуды не збіралася? — горача накінулася княгіня на спалоханук пакаёўку.

— Панна князёўна, бадай, паехала катацца,— ужо бо-язна пралепятала тая.

— Добра,— схамянуўшыся, ужо спакойна прамовіла старая і адаслала пакаёўку.

— Катацца ў такі час,— падумаў Ляскоўскі і мімаволі зірнуў на гадзіннік: была палавіна дванаццатае ўначы.

Цікавасць гутаркі з княгіняю прапала. Ён толькі слухаў яе з далікатнасці. Пасядзеўшы з паўгадзіны і развітаўшыся, ён гатоў быў пакінуць палац. Але князь яшчэ паведаміў яму, што ён мяркуе зрабіць вялікі баль пасля з'езда, на які і запрашаў пана Ляскоўскага. Але апошняга больш цікавіла князёўна, якая ўцякла сярод начы катацца, а не захацела з ім сустрэцца. І яна была ж напэўна дома ў той час, як ён пераступіў парог палаца. А ён так захацеў яе бачыць, яму так яскрава ўспомнілася танга, як толькі ён глытнуў атмасферы Друцкіх.

— Пачакай, ты не будзеш уцякаць ад мяне,— прагаварыў пан Ляскоўскі.

Яшчэ, можа, што сказаў бы ён, але чуць не грукнуўся аб нейкага чалавека.

— Хто гэта смее пакідаць пана Ляскоўскага? — зарагатаў гартанны голас.

Ляскоўскі падняў галаву: пад бліскучым чорным капялюшыкам-цыліндрам ззяў шырокі чырвоны твар Масея Рыгоравіча Ліўшыца. Яго чырвоныя, свежыя, як спелыя вішні, губы, здавалася, гатовы былі засмактаць у пацалунку Ляскоўскага.

— Як вы тут апынуліся? — крыху здзіўлена пытаўся пан.

Ліўшыц кіўнуў лёкаю пакінуць іх у прыёмнай-партэрнай.

— Фігаро-сі, фігаро-ля,— сакавітым баском запеў Ліў-

шыц.— Вы, можа, шаноўны пане, дзівіцеся з майго такога позняга наведвання сюды? Дык дзіўнага мала. У мяне пад плашчом няма мандаліны падманваць князёўну, але затое ў фрачных нагавіцах il y a quelque chose[1] пянёндзы для яе бацькі. Ха-ха-ха! — заржаў ён задзёрыста.

— Слухайце, Ліўшыц, вы, здаецца, ужо без мяне пачынаеце абскубаць князя? Я гэтага вам не дарую! — зазлаваўся Ляскоўскі.— Калі зноў вы гакнулі лесу, дык даю дзесяць процантаў чыстых, ліха вас бяры!

— Выбачайце, на гэты раз не паспеў параіцца з вамі, пане міністар гандлю і прамысловасці. Бачыце, час кароткі, а яго светласці трэба да зарэзу грошы — адсвяткаваць балем сваё высокае прызначэнне.

— Дык мы ж гэта раней ведалі і да гэтага вялі, а вы тут плот гародзіце! — зусім злосна ўжо накінуўся на «негацыянта» пан Ляскоўскі.

— Да я ж здзелкі не рабіў, а толькі вось задатак нясу, чудак вы, ай-ай! — вясёла адказаў Ліўшыц, накіроўваючыся ў нутраныя пакоі.

Адышоўшы крокі два-тры, ён усё ж затрымаўся, а потым на дыбачках падышоў да Ляскоўскага, сагнуў далонь рупарам і прашаптаў:

— Бадай ці не хутка трэба пастушку ў адстаўку пусціць? Як вы думаеце?

— Не мяшайцеся не ў вашы справы, я сам ведаю, што рабіць,— ганарыста адказаў Ляскоўскі.

— Мне так здаецца: не патрэбна пастушка, калі каралёўна пад бокам,— хціва ўсміхаючыся, яшчэ шаптануў Ліўшыц.— Ну, адзье, шаноўны пане, вось нечаканае спатканне.

— А вы знаёмы? — раздалося запытанне князя, які стаяў на парозе.

— Другі толькі раз бачымся, шапачнае знаёмства,— смеючыся адказаў Ляскоўскі.

---

[1] Хоць якія *(франц.)*.

Зося траха не абамлела, калі раніцою Ляскоўскі сказаў ёй, каб яна рыхтавалася на баль да князёў Друцкіх. Ёй, якая ні разу не бачыла гэтых баляў, ніколі нават здалёк не падыходзіла да знатных людзей, даводзіцца цяпер ісці туды, можа, прыйдзецца гаварыць з імі. Аб чым? Як сябе трымаць? Яна ж нават не ўмее як след багатым людзям апрануцца. І ў якасці каго яна пойдзе туды са Стасем — яго жонкаю ці, можа, проста яго знаёмаю? Гэтыя пытанні кружыліся ў яе маленькай галоўцы, і яна не ведала, як вырашыць іх.

— Я хачу, каб ты абавязкова паехала са мною,— траха не камандаваў пан Ляскоўскі.

— Не, я нізавошта не пакажуся туды,— плачучы адказвала дзяўчына.

— Ах, дык ты ехала сюды толькі дзеля таго, каб прасядзець некалькі дзён у гэтай паскуднай карчме? Не, даражэнькая, трэба ўвайсці ў тое грамадства, да якога належу я сам. Ты ж скора будзеш маёю маленькаю жонкай, ці ж не так, Зоська?

Здалася Зося. Яна цэлы дзень рыхтавалася да вечара. Абедзве пакаёўкі пасаблялі прыгнаць ёй адзенне, зачэсваць і завіваць валасы, начэпліваць бліскучкі. Пакаёўкі былі больш здатны ў гэтых справах, і Зося паслухмяна аддавалася на іх волю, пакладалася на іх густ. Ужо сцямнела даўно, а зборы не былі скончаны, ужо зайшоў па яе Ляскоўскі, які недзе прападаў дзень і з'явіўся толькі пераапрануцца. Вылашчаны, здатны, ён са смехам разглядаў збянтэжаную дзяўчыну, яе ўскалмачаныя валасы, якія завівалі ўжо, можа, дзесяты раз. Страх усё не пакідаў Зосю і раз-пораз сціскаў ёй горла; слёзы ліліся з яе вачэй. Ляскоўскі тады злосна загадваў супакоіцца, крычаў на пакаёвак, каб яны запудрылі заплаканыя шчокі. Напаследак, каля дзесятае гадзіны, вазок Ляскоўскага шугануўся да палаца Друцкіх.

Баль быў поўным, як Ляскоўскі з Зосяю ўвайшлі ў партрэтную-калідор палаца. Сэрца Зосі нібы знікла куды, а потым моцна застукала, як толькі яна ўгледзела доўгі шнур

лёкаяў у белых панчохах і сініх сурдутах. Быццам праз строй прайшла яна міма іх да дзвярэй залы. Галава яе кружылася, і толькі моцная рука Ляскоўскага надзейна падтрымлівала дзяўчыну. У зале, як толькі яна зірнула туды, па вачах разанула незвычайна яркае святло, якое снапамі падала ад трох, нібы царкоўных, ліхтароў. Блішчастыя каменні і золата на жанчынах ззялі з усіх бакоў. Яе адзенне, хоць яна старанна прыбіралася цэлы дзень, выглядала зусім мізэрным і ніякавым перад тым багаццем, якое нахлынула вакол блішчастым калаваротам.

Пасярэдзіне залы пачынала круціцца ў танцы некалькі пар. Нявідны аркестр на харах іграў пяшчотны вальс. Адусюль несліся вясёлы гоман, звонкі смех. Зося прыпынілася ў дзвярах, нібы хто заблытаў ёй ногі і, крыху адкрыўшы рот, разглядала незвычайны жывы малюнак.

— Чаму ж вы так запазніліся, шаноўны пане Ляскоўскі? — пачула яна чыйсь голас.

— Гэта вінавата мая кузіна, якая не толькі страціла дзень, але і частку вечара на ўборы. Для дзяўчат і жанчын баль — самая цяжкая праца,— са смехам адказаў пан Ляскоўскі.

Ён крыху турзануў Зосю і падвёў яе да старога пана з арліным носам.

— Вось, ваша светласць, адна з маіх кузін,— пазнаёміў Ляскоўскі Зосю з князем.

— І ўсе вашыя кузіны такія прыгожыя? Я буду вашым нязменным госцем, пане, калі вы будзеце паказваць мне такіх здатных кузін... Ну але дзе мне, старому? Я вось пашукаю панне кавалера, якраз пачынаецца танец.

Не паспела прыйсці ў сябе Зося, як стары князь ужо падводзіў да яе нейкага хлышчаватага андуфэльта. Гэта быў адзін з хвастоў князёўны — чыноўнік асобных даручэнняў пры губернатару. Ён прывычным жэстам палажыў Зосі на стан сваю руку і лёгка закружыў яе па зале ў такт музыкі.

Ляскоўскі акінуў вокам кола танцуючых, упікліва затрымаўся поглядам на выдатнай фігуры князёўны, якая чуць

гойдалася ў танцы і не прыкмячала яго. Пачакаўшы, пакуль яна абышла круг, і схапіўшы яе празрыста-хуткі позірк, Ляскоўскі накіраваўся ў іншыя пакоі, дзе расстаўлены былі зялёныя столікі і дзе больш старэйшыя займаліся картамі. Амаль усе ўставалі і падыходзілі, каб павітацца ці перакінуцца словам з маладым панам. Сам губернатар яшчэ здалёку запрасіў яго за свой столік, у кола больш паважаных паноў. Ляскоўскага прымалі з прыемнасцю, хвалілі яго за разумную прамову і за тую працу, якую прарабіў ён у камісіі па зямельных справах. Але нешта непакоіла Ляскоўскага, і ён хутка пакінуў сваіх знатных прыхільнікаў.

— Вам, вядома, сумна сядзець з намі, маладосць хоча спеваў, скокаў, музыкі, дзявочых уцех... Ну, ідзіце, скачыце ды загадайце там мазурку, і я прыйду паглядзець,— прамовіў губернатар, пабіваючы козырам чужога туза.

У зале скончыліся танцы. Натоўп моладзі разыходзіўся ў бакі, займаючы крэслы, аднастайным ланцужком абымаўшыя паўз сцены ўсю залу. Вочы Ляскоўскага шукалі двух пунктаў. Вось ідзе, высока падняўшы аздобленую дыяментаваю дыядэмаю галаву, князёўна, абкружаная колам прылізаных панкоў. А дзе ж другая, дзе Зося? Князёўна ўжо блізка каля яго, а Зосі не відаць. Ага, вось там яна, у кутку, адна-адзінюсенькая. Ляскоўскі злосна ўсміхнуўся і крануўся насустрач князёўне.

— Дазвольце вітаць вас, князёўна! Вы, як і заўсёды, сёння з'яўляецеся царыцаю балю,— і Ляскоўскі схіліўся к яе руцэ.

— Вы не танцавалі вальс, шаноўны пане? Ах, вы так шмат страцілі,— кідаючы іскры з вачэй і губ, палка сказала яна.

— Я не шкадую аб гэтым: без вас і найлепшы вальс мне не спадабаўся б. Дазвольце запрасіць вас на мазурку.

— Хоць вы і шмат па якіх прычынах маглі б спадзявацца на гэта, але я ўжо абяцала мазурку іншаму,— крыху нервова адказала яна і кальнула сваімі халоднымі зялёнымі вачыма.

— Ах, так!

— Дарэчы, хто гэтая панна, што скакала з губернатарскім чыноўнікам? Кажуць, што яна прыехала з вамі, пане Ляскоўскі.

— Калі ласка, хадземце, я вас пазнаёмлю.

Не чакаючы згоды, Ляскоўскі ўзяў пад руку князёўну і настойліва павёў яе ў дальні куток, дзе запалоханым звярком стаяла ў адзіноце Зося. Угледзеўшы Ляскоўскага, яна рванулася да яго, але раптам запынілася пад вострым насмешлівым поглядам князёўны.

— Дазвольце пазнаёміць вас,— нямоцна, але выразна прагаварыў Ляскоўскі, уперад зірнуўшы назад.— Гэта, князёўна, мая... вясковая каханка. Прашу ўважыць і пакахаць яе.

Зося рванулася і замерла. Князёўна слізнула зверху ўніз па фігуры Зосі і звонка засмяялася. Ляскоўскі паглядаў з усмешкаю сатыра на абедзвюх дзяўчын.

— У вас нядрэнны густ, пане Ляскоўскі,— адрэзала яна і, паварочваючыся ў бок залы, дадала: — Вы вялікі наглец, але вы мне падабаецеся.

З халодным бляскам у вачах і вясёлаю ўсмешкаю на тонкіх губах яна пайшла назад па зале, гаманлівы натоўп засланіў яе. Ляскоўскі на адзін момант затрымаўся каля Зосі.

— Вам пара дамоў! — хрыпануў ён, паварочваючыся да ўсяго грамадства і прымаючы бесклапотны выгляд.

Праз хвіліну міма строю лёкаяў у калідоры прайшла, хістаючыся, дзяўчына. Яна рынулася проста ў дзверы, не трапіла ў іх і загрукатала нагамі ў зачыненую фортку.

— Куды вы, паненка? — запытаўся, падскочыўшы, лёкай Ляскоўскага.

— Мне... мне кепска... галава баліць... я хачу на двор,— ледзь выгаварыла Зося.

Лёкай з усмешкаю пераглянуўся з іншымі і працягнуў Зосі яе капялюшык, боты і верхнюю адзежу.

— Нельга выходзіць на двор распрануўшыся,— настаў-

ніцкі сказаў ён, пасабляючы апрануць паліто.— Калі вам так дрэнна, дык я клікну фурмана адвесці вас дадому.

— Не, не трэба! — кінула Зося, выходзячы з прыёмнае.

Напыжаныя кардыналы, рыцары пазіралі ёй услед з глыбокага калідора-партрэтнае і агідна ўсміхаліся сваімі мёртвахалоднымі вачыма.

Блукаючыся, пайшла Зося вузкімі завулкамі, выйшла на Саборны пляц. На казначэйскай вежы празваніла адзінаццаць гадзін. Яна прайшла па Губернатарскай, павярнула Падгорнаю да тэатра. Дацягнуўшыся да першае лаўкі на скверы, які знаходзіцца побач з тэатрам, яна бяссільна апусцілася на заснежанае сядзенне. Амаль поўны месяц высока стаяў над дахамі будынкаў, але срэбнае дарожкі да яго не было: яна затоптана пешаходамі, заезджана рамізнікамі, застаўлена цеснымі будынкамі. Цесна, і ісці некуды, апроч гэтае абледзянелае, заснежанае лаўкі...

Людзі праходзілі па дарожках, спяшаючыся на марозе. Некаторыя ўглядаліся пільна, другія ішлі міма, як быццам на лаўцы быў не чалавек, а просты кавалак дрэва. Вось каля тэатра раздаўся гоман; мусіць, разыходзіліся пасля прадстаўлення. Міма праходзяць хлопцы.

— Эй, Марушка, што ты сядзіш тут! Хадзем з намі! — крычаць яны на ўсю вуліцу.

Трэба смяяцца — вучыла старая пакаёўка Ляскоўскага. І Зося звонка рагоча.

— Да ты не толькі жывая, але і вясёлая! Бач, якія на ёй уборы! Паненка, ды годзе! — рагочуць хлопцы.— Хадзем з намі піва піць!

Не ўсё роўна куды ісці? — Зося пакідае лаўку. Яе падхопліваюць пад рукі два юнакі з гімназічнымі рагалямі на аколышах, соўваюць ёй у губы цыгарку.

— Айда ў нумары Лівадыя, туды інспектар не трапіць сунуць нос,— ціхэй прагаварыў трэці.

І задаволеная лёгкаю здабычаю, суполка цягне Зосю ў невядомае ёй месца.

— Пайду, мне ўсё роўна,— шэпча яна.

## XII

Даўно ўжо скончыўся ўрачысты збор шляхты, пачалі глохнуць гутаркі па гасцiных аб новаабраным губерскiм маршалку. Шляхта пакрысе пакiдала Мiнск. Злосныя панi, якiя дарэмна патрацiлiся на дарогу i на прыймо губерскiх кавалераў, запакоўвалi на вазы разам з куфрамi няўдачлiвых паненак, якiм так i не трапiла зачапiцца хоць крыху за маладога. Толькi больш багатыя ды зусiм няздатныя паненкi-перастаркi цягнулi з ад'ездам, хаваючы ўпарта надзею знайсцi сабе кавалера. Тоўсты пан Вiнцусь або сварлiвая панi Марта вымушаны былi сядзець у нанятых кватэрах, рабiць вiзiты, знаёмствы, купляць уборы сваiм абрыдлым дарагiм дачушкам, трацiцца на пачастункi. Рабая панна Скальская засталася адна без бацькоў. Яна адважна змагалася за iдэю выйсцi замуж хоць за паштавiка, хоць за настаўнiка гарадскога вучылiшча. Яна кiдалася ў тэатр, кожны дзень бывала на склiзгаўцы сярод гiмназiстаў падпаручнiкаў, дамагалася папасцi на больш-менш шляхетныя вечарыны. Iншыя паненкi вучылiся ад панны Скальскай i вялi адкрытае паляванне на мужчын.

Пан Ляскоўскi не мог адкараскацца ад запросiн. Кожны дзень да яго наведвалася некалькi сурдутаў, некалькi пацёртых мундзiраў, некалькi скрыпучых шоўкам хваляў. Кожны прасiў да сябе, выказваў сваю пашану, сведчыў, што ён альбо яна вельмi ганарыцца такiм шляхцiцам, як пан Ляскоўскi, дзiвiўся на яго гаспадарчыя здольнасцi. Пан Ляскоўскi не адказваўся, усiм лiслiў, але рэдка якое запрашэнне здавальняў. Напаследак i самыя ўпартыя ў жаданнi замуства паненкi знiклi. Губерскае жыццё ўвайшло ў сваю каляiну. Шляхетнае грамадства збiралася па чацвяргах у губернатаршы, па пятнiцах — у князя, па аўторках — у старшынi казённае палаты. На рагах вулiц стаялi звычайныя гарадавiкi, палiцмейстар ганяў приставаў зачыняць прыватныя яўрэйскiя школы i накiроўваць дзяцей у ешыбот. Архiрэй, разабраўшы ў кансiсторыi дзве справы аб выключаных за валь-

надумства семінарыстаў, прымаў пана Саланевіча, якому даваў кірунак для артыкула аб задачах «Союза русского народа» ў заходнім краі. У газетцы паведамлялася пра набажэнствы на бліжэйшыя дні, пра выезды губернатара, змяшчаліся карэспандэнцыі аб вечары-балі ў Слуцкай гімназіі, аб падарожжы па губерні інспектара вучэбнае акругі, аб ахвяры бабруйскіх гандляроў на ўстановы «Императрицы Марии». Усё было звычайна, моцна; на звычайных месцах за сталамі сядзелі чыноўнікі ў канцылярыях. Бывалі здарэнні такія, як абвар машыніста на заводзе Ракаўшчыка альбо атрута ад загаджанага паветра двух рабочых на гарбарні, але гэта, вядома, не магло зацікавіць «грамадства».

Пану Ляскоўскаму не было чаго рабіць у Мінску. Не, не рабіць, бо ён нідзе нічога не рабіў, а нічога цікавага ў губерскім жыцці для яго, здавалася, не было. А тым часам ён не пакідаў абрыдлых пакояў гасцініцы. Раніцою ён прымаў пракурора альбо следчага па асоба важных справах і заслухоўваў іх справаздачы аб ходзе следства па ляскаўскай справе, пісаў лісты да губернатара, патрабуючы большае дзейнасці ад жандармерыі па розыску зніклага Зыкава. Увечары амаль штодня ён на пары сваіх жарабцоў пад'язджаў да князёўскага палаца. На палавіне княгіні і ў пакоях князёўны штодня святло не гасілася далёка за поўнач.

Аднойчы, пасля звычайна зацяжнога візіту Ляскоўскага, у пакой княгіні ўвайшоў стары князь. Ён нават не пастукаў у дзверы, хоць звычайна свае наведванні да княгіні ён рабіў вельмі цырымонна, пасылаючы наперад з паведамленнем свайго пакаёўшчыка. Княгіня з лысаю галавою (бо накладныя валасы былі ўжо зняты), напаўапранутая замітусілася, занепакоілася такім нечаканым наведваннем мужа і здзіўлена пазірала на яго.

— Чаго вы так уставіліся на мяне, княгіня, як быццам я чудзішча якое? — кепска хаваючы абурэнне, запытаўся ён.

— Выбачайце, князь Зыгмунд, вы так нечакана зайшлі сюды, і я ў такім выглядзе...

— Вядома, мяне вы не чакаеце, затое, мусіць, зранку чакаеце пана Ляскоўскага.

Княгіня пачырванела ад носа да лысага лба.

— Што ж, што ж...— лепятала яна.— Пан Ляскоўскі... пан Ляскоўскі зусім здатны чалавек, і паходжанне яго такое, што няма прычын забараняць яму наведвацца да нас.

— Наведвацца няхай наведваецца, але не гэтак часта,— жорстка адказаў князь, праходзячы сярод крэслаў, мяккіх зэдлікаў, маленькіх столікаў, якія займалі ўвесь пакой.

Княгіня маўчала і запытальна глядзела на мужа.

— Нават лёкаі, нават вуліца загаварыла аб тым, што князёўна напэўна выйдзе замуж за пана Ляскоўскага, а вы, шаноўная, нічога не хочаце бачыць у наведваннях, ды яшчэ штодзённых.

— Князь Зыгмунд, дык мы ж не ў Парыжы альбо Вене. Тут у гэтым убогім горадзе людзям няма чаго рабіць, як толькі займацца плёткамі аб другіх... А ўрэшце, калі б князёўна і пажанілася з панам Ляскоўскім...

Княгіня хацела скончыць «то было б нядрэнна», але не паспела вымавіць. Князь рэзка павярнуўся, два-тры зэдлікі грукнуліся, ён шыбануў іх убок нагою.

— Ах, вось як! — візгліва закрычаў ён.— Дык вы, можа, пасабляеце гэтаму?

— Як вы, князь, недалікатна абыходзіцеся са мною! — спрабавала ўпікнуць мужа княгіня, папраўляючы з'язджаўшы з яе халат.

— Далікатнасць! — іранічна прамовіў князь.— Мы з вамі не ў зале... Дык вось, я прыйшоў сказаць вам, каб вы зрабілі крокі да прыпынення розных там гутарак аб шлюбе.

— Што вы маеце супраць пана Ляскоўскага? — горача, з пагардаю запыталася княгіня.

— Нічога! — выкрыкнуў князь.— Пан Ляскоўскі добры гаспадар, прамысловец, мае шмат маёнткаў, грошай — ва ўсіх банках панапіраў. Нічога, пажаданы муж! — выкрыкнуў яшчэ мацней ён.— Усе павятовыя пані і паненкі чапляюцца за яго. Але ж вы, шаноўная, хочаце, каб і князь Друц-

кі лічыў пана Ляскоўскага завідным мужам для свае дачкі, так? Так ці не?

— Вы забываецеся аб тым, што ў князёў Друцкіх... пустая кішэня, а па-другое... гэты грэх з Вацяю...

Гэтыя словы княгіня прамовіла дрыжачым ціхім голасам, не пазіраючы на мужа. Лысая ксяндзоўская галава яе схілілася долу, і яна захлюпала носам.

— Твая справа, Зыгмунд,— як звычайныя слабыя людзі скрозь слёзы працягвала яна, спяшаючыся не выпусціць з рук выпадку, але я дзякавала б богу, каб нам давялося зрабіць гэты шлюб. Пан Ляскоўскі не абы-хто.

— Ну і цацкайцеся з сваім Ляскоўскім,— злосна, але ўжо ціха адказаў князь, паварочваючыся да дзвярэй.

І Ляскоўскі, як і раней, амаль кожны дзень быў госцем у палацы. Калі гаспадыні заставаліся дома, то Ляскоўскі амаль увесь час траціў з старою княгіняю, гуляючы з ёю ў карты альбо з пашанаю размаўляючы аб сваіх продках і іх шырокім жыцці. Княгіні гэтыя размовы надта падабаліся, яна ўпэўнівалася ў сапраўднай шляхетнасці пана Ляскоўскага. Князёўна ж ледзь прымала ўдзел у гутарцы. Яна бадай кожны вечар наладжвала катанне, і рэдка калі ў вазку. Ёй больш падабалася язда вярхом. У мужчынскіх нагавіцах і бліпчастых лакавых ботах, у барашкавай з срэбным галуном шапцы і ў цёплай сабалінай жакетцы яна каля дзевятае-дзесятае гадзіны ўвечары заходзіла ў пакой мацеры.

— Ці пану Ляскоўскаму шэсцьдзесят год, што яму так падабаецца штос? — весела, насмешна пыталася яна, лёгка сцябаючы па халяве бліпчастым стэкам.

Ляскоўскі паспешна ўставаў, княгіня дакорна ківала пышна накручанымі на галаву чужымі валасамі, але маўчала.

Далёка за горад гойсалі Ляскоўскі з князёўнаю на тонкіх з агністымі вачамі конях. Былі месячныя ночы, калі марозная імгла фосфарнымі іскаркамі бліпчала, таўклася ў паветры, як бясконцы рой срэбных мошак, калі бліпчастая дарога нязменна склізгала па снежным полі, быццам пры-

вязаная адным канцом у тым баку, дзе быў месяц. Былі вечары і завірухі, калі вецер круціў снег і з хваляў і з зямлі надзімаў высачэзныя курганы. У такі час князёўна асабліва ўпарта паганяла каня, звонка рагатала, пападаючы ў курган і падымаючы яшчэ большыя хвалі снегу. Ляскоўскі быў зусім халодны да такое язды. Ён толькі пакорна гойдаўся ў сядле следам за новаяўленаю амазонкаю.

— Чаму вы як у пахавальнай працэсіі едзеце? — дражніла яго Ваця, кідаючы назад задорныя позіркі.— Можа, вернецеся гуляць у штос?

Голас яе быў звонкі і халодна-вясёлы, як мароз у месячную лютаўскую ноч. Ляскоўскі моўчкі даваў шпоры свайму каню і ў некалькі скокаў далёка абганяў князёўну, а потым прытрымліваў і чакаў, пакуль міма не прамільгне злы з зялёна-змяінымі вачамі твар яе. Князёўна траціла прытомнасць, калі хто выпярэджваў яе ў верхавой яздзе.

Раз, калі коні іх ішлі побач, князёўна запыталася:

— Скажыце, пан Ляскоўскі, ваша вясковая палюбоўніца любіць ездзіць вярхом?

Ляскоўскі не абразіўся такім двумысным запытаннем, нават не здзівіўся анізвання.

— Палюбоўніца? Яе ўжо няма, ды і не было — гэта была проста «жертва вечерняя»,— агідна рагочучы, адказаў ён.

— Ха-ха-ха! Дык вы ўжо прагналі яе? І вам не шкода такое прыгожае дзяўчынкі?

— Ведаеце,— пачакаўшы некалькі хвілін і гэтым паказваючы, што ён хоча сказаць нешта надта цікавае альбо важнае, загаварыў Ляскоўскі,— ваша запытанне выклікае ў мяне адзін успамінак. Некалькі год таму назад быў я ў Швейцарыі. Надакучылі мне прыбраныя Лазанны, Жэневы, Цурыхі з іх накрухмаленымі ад каўнера да падвязак кельнершамі. Я наняў сабе нейкага Вільгельма Тэля, які не меў аркебуза, але добры востры кіёк і лёгкую моцную вяроўку. З ім мы дайшлі аж у такія мясціны, куды не пападае нават цывілізаваная швейцарская карова. У гэтых месцах, куды не даходзяць гукі кароўіх званкоў, я прыпыняўся ад-

пачываць. Раз я заўважыў, як у сінім небе закружыўся агромністы арол. Раскрыжаваныя крыллі яго выпісвалі кругі, якія ўсё змяншаліся. Раптам ён стаў на адным месцы і каменем кінуўся долу. На момант ён згінуў у чэрні дрэў, якія былі далёка ўнізе, а потым яго крыллі мякка зашурхалі ў мяне над галавою. У кіпцюрах яго слаба торгалася і папісквала нейкая рабенькая птушачка. Зрабіўшы кругі са два, арол цяжка асеў на тырчэўшы высока камень. Птушачка ўжо не торгалася. Арол нерухома палымянымі вачамі глядзеў удалечыню, быццам не мог адарвацца ад таго, што ён там бачыў. Можа, там чакала свайго хаўтурнага лёсу новая ахвяра. Хвіліна-другая, і арол, нават не нахіліўшы галавы да таго, што было ў яго кіпцюрах, распластаў магутныя крыллі і закружыўся пад ясным сонцам... Рабенькая птушка камячком упала з каменя на другі, трэці камень і прапала зусім у змроку крамністае шчыліны, толькі некалькі пёркаў матылькамі круціліся ў паветры... Я з захапленнем наглядаў гэтую невялічкую драму і памятаю да гэтага часу.

— У вас памяць, мусіць, досыць спецыфічная? — пільна прыглядаючыся яму ў твар, запыталася князёўна.

— Не, тут няма нічога спецыфічнага. Такія драмы адбываюцца штодня тысячамі, мільёнамі, і не толькі сярод звяроў альбо птушак, а і паміж людзьмі... Ды інакш і быць не можа,— разважна скончыў Ляскоўскі і весела скочыў упярад на кані.

— Я ненавіджу бязгрэшных, бязвінных людзей,— прамовіла князёўна, здаганяючы Ляскоўскага.— Ваш арол мне таксама падабаецца, але... але я не буду маленькаю рабою птушкаю.

Ляскоўскі ўстрапянуўся, вочы яго заіскрыліся, рука, трымаўшая повад, турзанулася разы два. Але праз хвіліну ён зусім спакойна адказаў:

— Да вас мая гісторыя і не датычна.

Моўчкі вярталіся яны на гэты раз з праездкі. Ляскоўскі нават не застаўся вячэраць. Ён хацеў быць адзін. Князёўна

зусім не пярэчыла і, застаўшыся адна ў сваім пакоі, яна доўга не скідала мужчынскае адзежы, якую апранала для катання. Думкі яе былі заняты панам Ляскоўскім. Калі яна і раней жадала бачыцца з ім, то ў гэтым была простая цікавасць да зграбнага мужчыны, як тлумачыла яна сабе, абуранасць на Ляскоўскага, што ён не выконваў яе прывярэдаў. Пасля ж гэтае гутаркі, у добрасумленнасць якое яна верыла, Ляскоўскі падняўся ў вачах князёўны Ваці на значную вышыню. Яго амаральнасць, досыць брудны цынізм падвышаў яго вартасць. Ляскоўскі залічаўся князёўнаю ў ранг «звышлюдзей», дзеля якіх звычайныя ўмоўнасці чалавечых адносін не існуюць. «Гэтыя людзі складаюць вышэйшую арыстакратыю нашага часу»,— думала князёўна,— «і арыстакратызм па паходжанню адыходзіць перад гэтым арыстакратызмам на другое месца». Другое, што задавальняла князёўну ў Ляскоўскім, гэта апраўданне яго канцэпцыяю ўласнага становішча і адчуванняў. Успамінаючы сваё мінулае, князёўна знаходзіла там адзнакі «звышчалавечага», хоць палёт яе не быў падобны да арлінага. Але ж аб сабе яна не ўспаміналa ў гэты вечар, толькі адчувала вялікую блізкасць між сабою і Ляскоўскім.

— Толькі ў кіпцюры не давацца, не быць рабенькаю птушкаю! — шаптала яна сабе, адчуваючы тамленне ў целе і ўяўляючы ўсю постаць пана Ляскоўскага.

Ляскоўскі быў заняты ў астатнюю часіну вечара не такімі ўзвышанымі думкамі, як яго спадарожніца. Аб якім там «звышчалавеку» яму і ў галаў не прыходзіла. Праўда, амаль усіх герояў «звышчалавечага» тыпу ён ведаў: і байранаўскімі, і ібсенаўскімі, і нават Пшыбышэўскага «звышлюдзьмі» ён захапляўся. Але калі ён пераказваў князёўне сваё нагляданне птушынае драмы ў Швейцарскай Юры, то гэта быў проста крыху ўзвышаны адказ на запытанне князёўны. Свой брудны ўчынак і паводзіны адносна Зосі ён абмаляваў у форме, як яму здавалася, вышэйшае паэтычнае вартасці. Цяпер ён быў надта задаволены ўдаласцю свайго апавядання. Ён адчуваў, што такія вобразы павінны ўплы-

ваць на кабет і дзяўчат вядомага круга. Але больш за ўсё задавальнялі Ляскоўскага вынікі гэтага вечара. Словы князёўны аб тым, што яна не будзе маленькаю рабою птушкаю, упэўнялі Ляскоўскага ў тым, што князёўна ўжо думала аб нейкіх блізкіх адносінах з ім. Можа, яна будзе спрабчацца, але блізкасць у пачуццях, у думках пачалася. Які б змест гэтае блізкасці ні быў, Ляскоўскі быў задаволены.

Палюбаваўшыся сабою, сваёю ўдачлівасцю, Ляскоўскі паслаў лёкая за панам Ліўшыцам. Паўгадзіны, якія прайшлі ў чаканні, вельмі надакучылі Ляскоўскаму. Ён хваляваўся, падыходзіў да аднаго, другога акна, але апроч маразных кветак на шкле нічога іншага не бачыў. Стукат у дзверы прагнаў яго нервовасць, і легкамысны настрой вярнуўся да яго, адбіўся на ўсім твары.

— Здарылася што? — засопшыся, пытаўся Ліўшыц, сцягваючы з сябе шырокую тхоравую шубу.

— Здарылася, шмат чаго здарылася, Масей... Масейчык!

Ляскоўскі, не гледзячы на прысутнасць лёкая, абхапіў Ліўшыца за стан і закруціў яго па пакоі, напяваючы матыў нейкага вальса.

— Дайце вы рады, пакіньце! У мяне сэрца не такое, каб... каб я скакаў, як інстытутка на першым балі альбо як бедны яўрэй, аддаючы дачку замуж за канторшчыка... Ну, кіньце ж, пане! — ужо са злосцю прасіў ён.

Крыху адсопшыся і выцершы выступіўшы раптам на лысіне пот, Ліўшыц прыплюшчыў свае лупатыя вочы і пільна прыгледзеўся да пана Ляскоўскага.

— Я сабе думаю, нешта асаблівае здарылася, калі ў такі позні час кліча пан Ляскоўскі. Па праўдзе кажучы, я ўжо лажыўся.

— Эх, да ці спаць нам сёння! Броніcь, цягні там што ёсць на стол! — жвава сыпаў Ляскоўскі.

— Добра вам не спаць! А калі ў чалавека і раматус, і пячонка, і сэрца — цэлы фарш з хваробаў, то спаць трэба, і ў свой час.

— Кіньце вы свае хваробы,— смеючыся, пярэчыў Ляс-

коўскі.— Ваша найдабрэйшая Вера Саламонаўна ніколі не скардзілася мне, каб вы адхілілі яе абдымкі.

— Гэта ўжо занадта, пане Ляскоўскі,— прамармытаў пацямнеўшы Масей Рыгоравіч.

Ляскоўскі прасіў прабачэння за вольнасць сваіх слоў, сказаў, што шануе светласць ложка жанатых, што вельмі рады прыходу Масея Рыгоравіча. Ён так жвава і весела гаварыў, што Ліўшыц хутка адмяк і пачаў рагатаць разам з ім. Неўзабаве Броніс з дапамогаю другога лёкая заставіў увесь стол бутэлькамі, графінамі, талеркамі, блюдамі. Вочы Масея Рыгоравіча запаліліся бляскам, асабліва як ён прыкмеціў бляда-залацістую бутэльку з трыма зоркамі на рылцы.

— Вы толькі за гэтым мяне і клікалі? — незадаволеным голасам, аднак глынаючы сліну, запытаўся Масей Рыгоравіч.

— Па-першае — за гэтым, па-другое... ёсць і другое, але скажу аб ім за чаркаю,— не трацячы свайго ігрыстага тону, адказваў Ляскоўскі.

Ліўшыц яшчэ раз прыжмурыў свае вочы. Яго выгляд паказваў, што ён здагадаўся, добра ведае прычыну такое жвавасці гаспадара. Але ён, як і заўсёды, у жыцці не выказваў словам, што ён што-небудзь ведае, даючы магчымасць людзям выказвацца самім. «Не варта,— думаў Масей Рыгоравіч,— адбіраць у людзей, асабліва вышэйшых, асалоду пахвальбы: і прыяцелю прыемна, і сабе карысней».

Лёкаяў адаслалі. Ляскоўскі скінуў жакетку, сцягнуў сурдут з Масея Рыгоравіча. Звякнулі шклянкі. Праз паўгадзіны Масей Рыгоравіч дарэмна нагінаў бутэльку, якая прывабіла яшчэ спачатку. Прыйшлося ўзяцца за другую. Ляскоўскі расставіў бутэлькі ў шэраг і піў па чарзе з кожнае. Ён кпіў з Ліўшыца, які не пакідаў аднае бутэлькі, пакуль яна не станавілася парожняю.

— Вось дык сталасць ва ўсім — у занятках, у жонцы, нават у бутэльцы,— рагатаў Ляскоўскі, і тонкае шкло чаркі звінела, ляскаючы аб яго зубы.

— А вы кідаецеся ад аднаго да другога, хутка адурманееце, страціце голаў,— шмакаючы чырвонымі шырокімі тоўстымі губамі, адказваў Ліўшыц.

— Галавы хопіць,— і Ляскоўскі засаб выпіў чарак з дзесяць розных вінаў, якія толькі былі ў радоўцы бутэлек.

Пазней Масей Рыгоравіч сядзеў разваліўшыся ў мяккім крэсле. У адной руцэ ён трымаў шклянку з віном, а другою махаў, як дырыжор. Ляскоўскі, чуць хістаючыся, хадзіў па пакоі і фальшыва выводзіў:

Плывут по морю ладьи большие,
Ведет к удаче Санта Лючия.

Не скончыўшы другога куплета, Ляскоўскі раптам абарваў спеў, крыкнуў да сябе Броніся і загадаў яму зараз жа прывезці Кацьку і Любку з самою бандаршаю Эміліяй Карлаўнай. Лёкай заікнуўся быў аб познім часе, але, пачуўшы досыць уплыўны рык, мусіў безадкладна кінуцца ў дзверы. Масей Рыгоравіч быў крыху збянтэжаны, калі ў пакоі пачуўся ненатуральны рогат дзяўчат і басісты голас Эміліі Карлаўны. Але праз хвіліну на яго тоўстым, як калодка, сцягне сядзела вёрткая Любка з цыгаркаю ў залачоных зубах. Пан Ляскоўскі круціўся з Кацькаю па пакоі, насвістваючы мазурку. Эмілія Карлаўна завіхалася каля бутэлек. Броніс прыносіў яшчэ віна, збіраў забруджаныя талеркі, ставіў свежую закуску...

Чырвоны бляск ужо прабіваўся праз замерзлыя вокны, калі Ліўшыц ачнуўся ад няспрытнасці ляжання. Побач з ім на канапе спала Любка ў разбэрсанай копце. Масей Рыгоравіч раптам ускочыў і моцна вылаяўся. Памяць адразу вярнулася да яго.

— Гэй, пане Ляскоўскі! Сонцу брыдка будзе,— крыкнуў ён.

Бляды Ляскоўскі выйшаў з другога пакоя, ткнуў у бок Эмілію Карлаўну, якая расплылася ў крэсле і соладка спала, разявіўшы рот як халяву.

— Праз хвіліну каб духу вашага тут не было! Ды язык

трымаць за зубамі! — камандаваў ён ледзь ачнуўшымся кабетам, падобным да замораных мух. Шэра-ружовая паперка затрашчала ў пухлым кулаку бандаршы.

— На халеру даваць ім столькі грошай,— пабурчаў Масей Рыгоравіч, завязваючы расшарэйганы гальштук.

— Нічога, спагонім на князёўскім лесе,— адказаў Ляскоўскі, і адразу жвавасць зноў апанавала яго. Пачакаўшы крыху, ён дадаў:

— Вось гэта другое, зачым я вас клікаў сёння ці лепш — учора. Князёўскі лес не будзе ўжо забаронным для мяне, гэта мушу я вам сказаць.

— Няўжо ж вы купілі яго? І колькі купілі? — ажывіўшыся, быццам ён трапіў на лясную біржу, засыпаў пытаннямі Масей Рыгоравіч.

— Я не купляў і купляць не буду — дарэмна атрымаю,— рагочучы, адказаў Ляскоўскі на шматлікія запытанні свайго наперсніка.

— Вось як людзям шанцуе! Мне ж ніхто і ніколі не даваў дарэмна нават граша ламанага. Як жа гэта здарылася? — напусціўшы на сябе дурнаваты выгляд, запытаўся Ліўшыц.

Ляскоўскі ў хітрых выразах, але досыць зразумела паведаміў аб сваіх планах адносна князёўны. Далей ён, быццам свае, намячаў да вырубкі тыя ці іншыя дзялянкі князёўскага лесу альбо меркаваў умовы арэнды для сялян пустак, сенажацей, раскіданых па лясах Росашы, Тур'ева, Загацця і іншых маёнткаў князя Друцкага. Масей Рыгоравіч слухаў вельмі ўважліва і патрабаваў сабе на водкуп той ці іншы абкавалак лесу. Дапікаючы адзін другога ў скарэднасці, абмяркоўваючы выгады лясніцтваў, яны заседзеліся амаль да палудня. Толькі тады хамянуўся Масей Рыгоравіч, што ён збіраўся выехаць у гэты дзень на Бабруйшчыну для наглядання за вывазкаю лесу да Бярэзіны, як увайшоў Броніcь і паведаміў, што пана Ліўшыца просяць дадому.

Пасля ад'езду Масея Рыгоравіча Ляскоўскі праспаняўся дзень, а потым надумаў, што яго далейшыя поспехі патра-

буюць, каб ён на нейкі час пакінуў Друцкіх і не бачыўся з князёўнаю. Толькі маленькую запіску паслаў ён старой княгіні, паведамляючы, што пакідае Мінск, і едзе гаспадарыць у Ляскаўцы.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

### I

На абочыне Мінска, на напалову незабудаванай Ляхаўцы, стаялі дзве прыплюснутыя будыніны — адна за драўляным плотам уздоўж вуліцы, а другая ў двары. Каля дворнае будыніны ўздымаўся ўверх роўны гладкі мэталёвы комін, замацаваны накрыж чатырма драцянымі вяроўкамі да зямлі. І так нялюдная вуліца каля гэтых будынін амаль заўсёды была пустою, нясцерпны смурод, які дыхаў з двара, ад рыштакоў, заўсёды напоўненых зялёнаю едкаю жыжаю, адганяў ахвоту і жыць тут, і праходзіць па якіх-небудзь справах альбо проста так. Толькі а шостай гадзіне раніцою ды а восьмай увечары Ляхаўка ажыўлялася рухам. Раніцою ў цемры альбо як толькі ўзыдзе сонца, нявыспаўшыяся, блядыя, жоўтыя людзі, паціскаючыся ад холаду, у забруджаных пінжаках і сарочках, кажушках спяшаліся паасобку прайсці альбо ў смуродную браму, альбо ў другія вароты, якія былі праз вуліцу. Увечары, таксама ў цемры, гэтыя ж людзі высыпалі з абедзвюх брамаў і павольна, гурткамі накіроўваліся на Свіслацкі мост. Гукаў таксама не чутно было: хістаючыя постаці толькі хлюпалі нагамі ў ліпкай гразі ці рыпаў марозны снег пад нагамі.

Будыніны, што разносілі такі смурод, з'яўляліся гарбарнямі Імрота. На другім баку вуліцы ўздымаліся муры дражджавога завода і бровары Ракаўшчыка. Невялічкія вокны гарбарні, забраснеўшыя так, што нельга было здагадацца, што шыбы былі зроблены са шкла, каламутна-зялёнымі ча-

тыроххутнікамі вызначаліся на гразкай шэрані роўных сцен. На двары ляжалі сцірты кар'я смуродных адкідаў, якія моклі пад дажджом, снегам, прэлі, потым сохлі на сонцы, і труха з міязмамі разносілася ветрам не толькі па ўсяму пляцу гарбарні, але і далёка за яго межамі. Першую частку гарбарні займаў нізкі пакой са склізкаю, як мылам намыленаю, падлогаю. У гэтым пакоі, куды ледзь дасягала дзеннае святло, былі зроблены ўкопаныя ў зямлю цэментаваныя чапы, дзе свежыя скуры кіслі па тры месяцы. Паветра насычана тут гэткім рэзкім смуродам, што нават старыя гарбары не маглі прайсці з незаціснутым носам. Толькі васкавы Мойша Крук, як на склізгаўцы, шморгаў спакойна нагамі, абутымі ў дзіравыя галёшы, падвязаныя матузкамі, і жалезным прэнтам памешваў часамі ў чапах. У наступным пакоі паміж двух слупоў на жалезным шворні круціўся без перапынку барабан, куды клаліся выквашаныя шкуры. З барабана шкура выходзіла вольнаю ад шарсціння. Найбольшую частку гарбарні займала доўгае, быццам стадола, памяшканне, дзе шкуры адміналіся, ачышчаліся ад мяздры, тут жа на вяроўках сохлі, фарбаваліся, глянцаваліся. Калі ў гэтым памяшканні смурод быў і не такі рэзкі, як у квасільні, дык затое гарачыня стаяла пякельная. Жаднага выйсця для паветра, апроч дзвярэй, якія адчыняліся толькі пры праходзе людзей, у гарбарні не было. Вокны, каб не зніжаць цяпла, якое гаспадар захоўваў для сушкі развешаных па ўсім памяшканні шкур, ніколі не адчыняліся. Праз гэта гарбарнікі адмячаліся, ад старога да падлетка, жоўклаапухлымі тварамі.

Сёма Кац ужо шэсць год працаваў у Імрота. Гады тры назад падлеткам ён прайшоў працоўную школу на Смаргонскіх гарбарнях, дзе бацька яго працаваў усё жыццё. Нават гэты Сёма Кац, каранасты, з шырокімі грудзямі, з доўгімі жылістымі рукамі, у гэты дзень не вытрымаў да перапынку на снеданне. Мароз стаяў моцны, і ў гарбарні майстры заткнулі ўсе шчыліны, запалілі ўсе стаякі-чыгункі, каб даць больш цяпла для сушкі. Каля адзінаццатае гадзіны напру-

жаныя, адранцвелыя рукі Сёмы аслаблі, скрабец хістануўся і зрабіў зазор. Асалавела зірнуў ён уздоўж стала, на роўны шнур нагнутых уперад і ўбок таварышаў, якія мерна гойдаліся галовамі і плячыма ўзад і ўперад. Зараз жа да Сёмы падскочыў вёрткі, як вугар, майстра Майзэль.

— Ты, трасца тваей галаве, чаго гэта стаіш? — фальцэтам загаласіў ён.— А-яй-яй! А гэта што, гэта што, ліха тваёй мацеры? — яшчэ званчэй сыпнуў ён у кіслае паветра, тыкаючы сваім гразкім ад лаку пальцам у зазор.

Майстра клікнуў табельшчыка Банадыся і загадаў спісаць з Сёмы за папсуцце. Сёма нахіліўся ўніз, глытнуў больш халоднага паветра, выцер ліпкі пот са лба і, сцяўшы зубы, узяўся за скрабец. Рукі яго і плечы загойдаліся мерна ўзад-уперад.

Не прайшло і чвэрці гадзіны, як шолах па ўсёй гарбарні здзівіў Сёму. Такі шолах здараўся нярэдка, але ён бываў пазней, пасля палудня. Звычайна ў такі час заходзіў на гарбарню сам Імрот. А на гэты раз — так рана. Коса кінуў вокам Сёма ўздоўж стала: перагнутыя фігуры, блішчучы мастава-потнымі лбамі, загойдаліся яшчэ жвавей.

— Zum Teufel! [1] Такой рапота не нужен! Спісаць! — гучэў гаспадарскі бас у адным кутку.

— Не смейт разговариват за рапота! — звінеў яго голас у другім месцы.

— Вось, пане, Кац зазор зрабіў,— раздаўся каля Сёмы салодкі галасок Майзэля.

— А ты schneider паршыфы! Тораф рэзат! Фон праганю! Aus! — Ґлыбокія футравыя галёшы Імрота дробна закалыхалі падлогу.

Абкружаны канторшчыкам, Майзэлем і яшчэ двума майстрамі, гаспадар абышоў усе сталы, выцер хустачкаю свежы, як скура маладога парасяці, твар і, крутануўшы злосжаныя свідрам вусы, паспешна знік за дзвярыма.

— Дык фы-ш наплюдайт! — кінуў ён з дзвярэй майст-

[1] К чорту! *(ням.)*

рам, схіліўшым з пашанаю галовы перад мокраю форткаю, якая моцна ляпнула ад цяжару цаглін, прывязаных да перакінутай цераз блок вяроўкі.

Ці было ў каго што снедаць, ці не, але ўсе гарбары ў час перапынку на снеданне выходзілі проста на двор. Тут на марозе хто снедаў, а хто проста глынаў халоднае паветра. Сёма, бадай, адным з першых выскачыў на двор і палка кінуўся да замурзанага снегу, соўваючы яго абедзвюма рукамі ў рот, за каўнер. Абцэнгі, якія сціскалі сэрца, пачалі разыходзіцца. Зараз жа на двары паказаліся цэлыя гурткі рабочых, хто з кавалкам хлеба, хто ▪ бульбінамі ў руках. Садзіліся на стажкі кар'я, на кучкі мяздры, зацярушаных снегам. Але праз некалькі хвілін адзін з майстроў загадаў ісці канчаць снеданне ў памяшканне. Нехта запытаўся, што гэта за навіна.

— Цябе не пыталі! — быў жорсткі выкрык майстра ў адказ.

Рабочыя хмурна пацягнуліся ў дзверы смуроднае квасільні. Сёма быў здзіўлены нетэрміновым наведваннем гаспадара на гарбарню, яго наказам «наблюдать», а яшчэ больш гэтым загадам снедаць у памяшканні, загадам, які атручваў не толькі паўгадзіны адпачынку, але і астатнюю частку рабочага дня.

— Вінцук, што гэта значыць? — ціха запытаўся ён у таварыша-паляка Гарбоўскага.

— Ведаеш,— адвёўшы ў пусты куток, сказаў яму Грабоўскі,— Імрот быў у жандарскага палкоўніка, яго выклікалі, мусіць, нейкія інструкцыі дадзены.

— Адкуль ты ведаеш?

— Учора фурман пахваліўся вартаўніку, а той сказаў сяму-таму з хлопцаў.

— Трэба сённі ж наведацца да... Можа, там ужо ведаюць што-кольвечы аб сэнсе гэтых новых шашляў.

— Добра, я за табою зайду,— збіраючыся адысці, адказаў Грабоўскі.

— Па сваіх месцах, там снедаць! — камандаваў Май-

зэль, пранізваючы вачамі Каца і Грабоўскага, якія адны яшчэ не выстраіліся ў радоўку ўздоўж сталоў і варштатаў.

Сёма абвёў вокал вачамі. Адны з таварышаў сядзелі і стаялі панура, клюючы носам альбо пустымі вачамі, гледзячы немаведама куды; іншыя тапталіся, пераміргваліся, паказвалі смешныя знакі і прыдушана смяяліся, іншыя таксама маўчалі, як і першыя, але вочы іх гарэлі, наліваліся кроўю, губы сціналіся і кірпатыя пальцы складваліся ў кулакі, як міма праходзіў хто-небудзь з майстроў. Але парадак не парушыўся. Гудок тонка свіснуў, і над сталамі, варштатамі заківаліся мерна перагнутыя постаці.

Выйшаўшы ўвечары, пасля работы, за браму гарбарні і далучыўшыся да рабочых з гарбарні Магіда, Сёма даведаўся, што і там, а таксама ў браварнікаў Ракаўшчыка забаронена было ў перапынку збірацца па-за сценамі прадпрыемстваў. «Значыць, гэта выклікана чымсь агульным»,— думаў Сёма. Яшчэ больш ён у гэтым упэўніўся, калі на вуліцы некаторыя з рабочых, што больш круціліся каля майстроў, хутка разыходзіліся, спасылаючыся на холад. Сёма ішоў, разважаючы аб прычынах гэтых здарэнняў.

Толькі каля самага моста цераз Свіслач Сёма заўважыў, што нейкі чалавек неадчэпна ідзе следам за ім. Ён, крыху павярнуўшы галаў, азірнуўся назад — чалавек упарта сачыў за ім. Сёма прыбавіў ходу, і чалавек ззаду драбней і часцей затупаў на гулкіх дошках моста.

— Няўжо ж яшчэ і сочка пачнецца? — думаў Сёма, дамагаючыся адчапіцца ад агіднага спадарожніка.

Мінуўшы мост, Сёма Кац шпарка сігануў у бакавы завулак, хоць ён быў для яго зусім не па дарозе. Азірнуўся, а чалавек быў ад яго на той жа адлегласці. Калі яны зусім схаваліся за крывулінаю пустога завулка, чалавек прыбавіў ходу і ў момант пайшоў побач з Сёмаю.

— Куды ты ўцякаеш, Сёма? — упаўголасу, запытаўся незнаёмы.

Кац мімаволі пайшоў цішэй. Голас быццам знаёмы, цёплы, крыху насмешны. Так не можа гаварыць вораг альбо

зусім чужы чалавек. Кац павярнуў голаў і, не прыпыняючыся, пільна разглядаў спадарожніка. Той адкінуў навушнікі лапавухае шапкі і прыязна пасмейваўся.

— Усё яшчэ не пазнаеш? — запытаўся быццам знаёмы голас.

Сёма нахіліўся да самага твару.

— Росяк... Рос...— чуць не крычаў ён, сціскаючы зашкарупелыя рукі таварыша.

Але крык радасці адразу заглохнуў. Да губ Сёмы прыціснулася далонь, і нізкі голас, амаль шэпт, стрымаў яго:

— Цішэй ты! Памятай, што я цяпер ні Росяк, ні Зыкаў; заві мяне проста па імю, а там будзем бачыць, якое прозвішча мне насіць.

Сёма Кац раней добра ведаў Росяка-Зыкава, ведаў таксама, што той працаваў у Ляскаўцах на новых прадпрыемствах, ведаў і аб забойстве там урадніка. Яму было вядома, што Зыкава не злавілі. Бадай ужо месяц, як некаторыя гурткі і паасобныя рабочыя, як і сам Кац, пачалі надта непакоіцца, не маючы ніякіх звестак аб зніклым Зыкаве. Цяпер Сёма ўвесь троссяся ад радасці: Зыкаў-Росяк, які карыстаўся такім аўтарытэтам сярод партыйцаў іншых партый, які ўжо не раз хаваўся пры дапамозе яго, Каца, зноў стаяў перад ім, як некалькі хвілін назад шмат хто непакоіўся за яго лёс. Кац яшчэ раз моцна пацiснуў руку таварыша.

— Я хоць і добра помню тваю кватэру, але без цябе не хацеў паказвацца там... Вось і туляўся за горадам, чакаючы, пакуль ты скончыш працу і выйдзеш,— ціха гаварыў Зыкаў, як яны крануліся ўперад па завулку.

— Рызыкоўна ты робіш,— шаптаў Сёма.— Цябе, напэўна, шукаюць, а сёння яшчэ новы прыціск і абмежаванне пачаліся на прадпрыемствах для рабочых... У чым справа, можа, даведаемся сёння ж.

Кружнымі вуліцамі, завулкамі, дзе маленькія драўляныя дамы з зачыненымі ўжо ў гэты час наглуха стаўнямі, здавалася, драмалі і прыслухоўваліся пад сваімі белымі

снегавымі шапкамі. Дзе-нідзе брахне сабака з-за брамы, занесенай цэлым курганом снегу. Перайшоўшы ў паасобку Захараўскую вуліцу, яны зноў разам пусціліся бакавымі вуліцамі і завулкамі. Толькі праз гадзіну яны дайшлі да невялічкага дома на Людамантскай вуліцы. У гэтым доме вокны таксама былі зачынены стаўнямі, і нельга было здагадацца знадворку, ці жыве там хто, ці не. Толькі вузенькая сцежка, пратоптаная ў глыбокім снезе, паказвала, што ў дом ходзяць, жывуць там. На вузкім, доўгім двары, абгароджаным з усіх бакоў плотам, стаяла яшчэ адна халупа, накшталт вясковай лазні. Гэтую халупу і меў Сёма за кватэру. Гаспадар, шавец у майстэрні Рыўкіна, займаў будынак ад вуліцы і меў кватарантам, апроч Сёмы з сям'ёю, яшчэ каваля з завода Якабсона.

Сёма прыпыніў Зыкава, завёўшы яго за вугал, а сам прайшоў у халупу. Праз хвіліну ён зноў рыпнуў дзвярыма і ціха клікнуў.

— Нікога чужых! Сюды! — Сёма залажыў дзверы завалаю, як толькі яны апынуліся ў сенцах.

— Таварыш... таварыш Росяк... даражэнькі,— усхвалявана-радасна зазвінеў мяккі голас.

— Здрастуй, здрастуй, Лія! — адчуваючы вялікую задаволенасць, прывітаўся Зыкаў з сястрою Сёмы, якая не спускала з яго прамяністых вачэй і нячутна нешта шаптала, чуць варушачы гарачачна-чырвонымі губамі.

— Знямогся, сынок, нябось? Распранайся! — І Зыкаў адчуў, як дзве рукі ляглі яму ззаду на плечы.

Ён азірнуўся. Старая Сара плакала, выціраючы рагом хусткі слёзы.

Быццам ён папаў у родную сям'ю. Зыкаў адчуваў сябе ўсхваляваным гэткаю ласкаю. Рэдка яму даводзілася ў жыцці адчуваць яе, і дзеля гэтага ён ніколі не ведаў, як адказаць на добрасць, на ласку. Гэта яго злавала, і ён рабіўся вуглаватым, жорсткім. На гэты раз дапамагла яму цеснота. Распранаючыся, ён грукаўся адною рукою аб крывую печ, а другою аб шуфляду акна.

— Ну і цесната ў вас, Сара! Я баюся, што раскідаю хату, як пачну распранацца па-настаяшчаму,— усміхаючыся, гаварыў ён гаспадыні, якая была яшчэ з мокрымі вачамі.

— Што ж рабіць, даражэнькі! Ды хто ж у Мінску з рабочых лепш жыве. Лія вось засталася без работы, а Сёма прыносіць шэсць рублёў на тыдзень,— нараспеў гаварыла Сара, бразгаючы на прыпечку заслонкаю, апаноўкамі.

— Чаму ж ты не працуеш? — зацікавіўся Зыкаў.

Лія пачырванела, як вішня, і марудзіла ■ адказам.

— Цяжка ў наш час працаваць дзяўчыне, калі хочаш захаваць чэсць,— з горыччу ў голасе адказала за Лію маці.— Нейкі шмугляр там, трасца яго мацеры, прычэпваўся, а Ліячка ў мяне... ох, яна высокая душа.

— Мама! Гэта глупства аб маёй нейкай душы,— надтрэснутым, як абарваная струна, голасам прагаварыла крыху пагадзя Лія.— Я пад нож пайду, а не дазволю, каб які там паганы Салавейчык лапаў мяне толькі таму, што ён плаціць мне два злоты за маю працу.

— Так, так, Ліячка, у бок Салавейчыкам,— весела рагатаў Сёма, скоблячы попелам свае тлустыя, чорныя рукі ў ражцы з вадою.

Зыкаў сеў на тапчан, пад якім захадзіла, як палуба карабля ў буру, падлога. Але ён мала зважаў на гэта. Пасля першага ажыўлення, якое ахапіла яго пры спатканні з Сёмаю і яго сям'ёю, на яго напала задуменнасць і маркотнасць, якая не пакідала яго з тае начы, як ён цяжка развітаўся з Ляскаўцамі. Яму часта малявалася постаць у шэрым шынялі, распластаная ў крыві сярод хаты, успаміналася Зося то такою, як ён вызваляў жучка з яе валасоў, то іншаю — палюбоўніцаю пана Ляскоўскага. Абодва вобразы Зосі — першы канкрэтны, вабячы, цягнучы да сябе святлом, радасцю жыцця, і другі — уяўляемы, агідна вераломны, выклікаючы злосць, не пакідалі Зыкава ўвесь час. Цяпер, калі ён пачуў словы Ліі, пачуццё агіднасці, адваротнасці да Зосі ачнулася ў ім з новаю сілаю і зусім засланіла першы вобраз. Вось гэтая бедная дзяўчына, у прадранай на лакцях

копце, адмовілася ад кавалка хлеба, а не дазволіла нагламу распусніку ашэльмаваць сябе. А Зося, яго Зося з залатымі валасамі, з сінімі палкімі вачамі? Зыкаў трапятаў, малюючы сабе сучаснасць Зосі. І навошта толькі згадзіўся ён ехаць тады на станцыю за гэтымі машынамі. Каб ён быў у Ляскаўцах, можа, нічога і не здарылася б. А цяпер — знішчана, мусіць, арганізацыя, якую ён збіваў з такімі цяжкасцямі, ён сам нейкі час не зможа адкрыта працаваць, а то можа і зусім не трапіць быць тут... і яшчэ... яшчэ загублена Зося. Першы вобраз, яго любае Зосі, прамільгнуў перад вачамі. Зыкаў цяжка ўздыхнуў.

— Ты што, замарыўся? Зараз павячэраем, і можаш на бакавую,— абудзіў яго жыццярады голас Сёмы.— Пасцелеш там... ведаеш? — звярнуўся ён, пачакаўшы, да сястры.

— Добра,— адказала тая.

— А, не! — ачухаўшыся — прагаварыў Зыкаў.— Я не так ужо замарыўся. Цяпер вось я першы раз мог вольна ўздыхнуць, а то месяц, як траўлены звер, толькі і думаў, як ашукаць паляўнічых і вызваліць сваю шкуру.

— Пранцы б іх паелі! — быццам сама з сабою гаварыла Сара, выграбаючы качаргою з печы бульбу.

Пасля кароткае вячэры Сёма справадзіў Зыкава ў сакрэтны «пакой», так звалася малюпаценькая баковачка локці чатыры ўдоўжкі і локці два ўшырыню. Гэтая баковачка была наглуха аддзелена сцяною ад хаты, і туды можна было прайсці праз невялікі прарэз, які закладаўся двума-трыма калодкамі і застаўляўся камодам старой Сары. Гэтая баковачка не раз давала прытулак тым, хто вымушаны быў хавацца ад жандараў. Даводзілася раней бываць тут і Зыкаву. Ён ведаў, што ў бакоўцы быў люк на дах будыніны, адкуль была адчынена дарога ў той ці другі з двух вялікіх садоў, у падзеленых высокім моцным тынкам. Бяда ў тым, што бакоўка не мела нават напамінку акна, а таксама праз гадзіны дзве-тры станавілася цяжка дыхаць, так мала было ў ёй паветра.

— Ну, спачывай у гэтай скрыні, а я пайду да тавары-

шаў з гуртка даведацца аб сённяшніх справах,— сказаў Сёма, закладваючы прарэз калодкамі.

Застаўшыся адзін, Зыкаў заплюшчыў вочы. Ён змогся: дзве ночы ішоў ён да Мінска, хаваючыся днём у стагах сена на балотах альбо ў лесе пад кучкамі хваёвага галля. Цяпер яму здавалася, што ён адразу засне. Аднак сон не прыходзіў, у галаве звінела, ногі нылі. Неадчэпная думка аб разбуранні гуртка ў Ляскаўцах, які яму даручана было заснаваць і весці, пашыраючы лік у ім рабочых, аб крушэнні ўласнага кахання да Зосі свідравала голаў. Як магло здарыцца, што Зося добраахвотна, як пісаў настаўніку Ляскоўскі, пайшла ў палюбоўніцы да пана ды яшчэ, відаць, яго загубіць можа, а таксама Рыгорчыка і іншых? Як гэта магло здарыцца, калі Зося яму першаму паведаміла аб агіднай спробе Ляскоўскага згвалціць яе? Гэта запытанне ўжо тысячы разоў задаваў сабе Зыкаў і не мог знайсці адказу. Ён не мог дапусціць думкі аб тым, што адносіны Зосі да яго былі проста разлічанаю гульнёю. Не такая была яна, ды і сэнсу ніякага не было ў гэтым.

Зыкаў увесь аддаўся развязванню гэтага пытання. Ён пачаў успамінаць да драбніцы ўсе падзеі, якія папярэдне адбываліся да таго вечара, калі ён уцёк з Ляскаўцаў. Сярод усяго, што было, Зыкаў запыніўся асабліва на тым здарэнні, што сам інжынер выпраўляў яго на станцыю, што ўсё было падрыхтавана да ад'езду, што падганялі яго, каб ён хутчэй ехаў. А потым пяць-шэсць дзён ён чакаў дарэмна цягніка з машынамі. Здагадка аб тым, што ўсё было падроблена знарок, прарэзала яго думку. Можа, Зося была ўзята Ляскоўскім гвалтоўна? Як ні цяжка было гэта, але Зыкаву хацелася, каб здарэнне з Зосяю, яе адрыў ад яго мелі якраз гэтую падставу. Такі магчымы ход падзей, хоць і выклікаў новыя хвалі абурэння, але гэтае абурэнне пераносілася ўжо на другога і абуджала больш дзейныя пачуцці, загойваючыя ўласную боль.

Пад раніцу, а пятай гадзіне, калі Сёме трэба было збірацца на завод, Зыкаў ужо не спаў. У баковачцы было так

душна, што ў вачах бесперапынку рабіліся зялёныя, ружовыя, жоўтыя кругі, галава ныла. Зыкаў пастукаў, каб яму адчынілі прарэз.

— Чаму ты не спіш, яшчэ занадта рана,— гаварыў Кац, вымаючы калодкі.

— Здаецца, я таксама не пан, каб задаваць храпака да палудня,— спрабаваў адгаварыцца Зыкаў.

Лія і маці таксама былі ўжо на нагах. Зыкава сустрэлі ветліва, але ён заўважыў, што ў Сёмы нейкі незвычайны выраз вачэй. Звычайна гэта былі чыстыя вочы, якія свяціліся радасцю, любасцю да тых, з кім ён быў блізкім, з кім быў таварышам. Учора яго вочы блішчалі натхнёнасцю, сёння ж ён неяк хаваў свой позірк, як вінаваты ў чым. З мацерaю, з сястрою ён быў роўна-жартаўлівы, як і ўперад. Значыць, гэтая змена выклікалася толькі нечым новым у адносінах да Зыкава.

— Ты нічога не маеш сказаць мне? — запытаўся Зыкаў у Сёмы, выбраўшы хвіліну, калі кабет не было ў хаце.

Сёма замітусіўся пад упартымі вачамі Зыкава. Потым ён смела бліснуў сваімі ліхтарыкамі-вачамі.

— Які я дрэнны канспіратар, усё, мусіць, зідаць па мне. Дык вось, браце, ты пытаешся аб сваіх справах, даведаешся, мусіць, хутка аб іх; я не маю права сказаць табе — сам ведаеш, дысцыпліна вышэй асабістых адносін ці пачуццяў. А вось аб другой справе ўсё скажу, могуць і матка з Ліяю слухаць.

І Сёма паведаміў, што па ўсіх прадпрыемствах гаспадары ўводзяць больш суровы распарадак, вядзецца назіранне за паасобнымі рабочымі, некаторых звальняюць. Усё гэта робіцца па загаду жандарскае ўправы. Забойства ўрадніка ў Ляскаўцах разглядаецца як палітычная справа, а сляды, праўда, не адабранай там нелегальнай літаратуры сведчаць для губернатара і ўсяго начальства і паноў, што недзе жывуць рэвалюцыйныя настроі і арганізацыі. Вядома, што яны жывуць сярод рабочых. І вось загад сачыць, прыцiскаць, але гэты абавязак поўнасцю ўзялі на сябе гаспадары. На гэ-

ты дзень позна ўвечары склікаецца патаемны сход асабіста вядомых рабочых з розных прадпрыемстваў і ад розных партый, каб абмеркаваць становішча і намеціць агульную тактыку.

— Ты кажаш ад розных партый? Можа, і Саюз рускага народа будзе прадстаўлены? — насмешна запытаўся Зыкаў, як Сёма скончыў выкладаць з захапленнем усе гэтыя навіны.

— Пры чым тут, для чаго Саюз рускага народа? Ну, будзем мы — сацыял-дэмакраты, напэўна, прыйдуць бундаўцы, можа — грамадаўцы...

— А зубатаўшчыны вы тут не аднавілі часам? Аднавіце, будзе больш каго заклікаць! — злосна ўжо насмейваўся Зыкаў.

— Ды што ты такі колкі стаў, як вожык! — нібы вінаваты прамовіў Сёма, страціўшы адразу радаснае захапленне, якое адчувалася ў кожнай рысе яго твару, у рухах, у святле вачэй.

— Што ж, я — нічога!.. Значыцца — Дзяржаўнаю Думаю вырашаць хочаце арганізацыю рабочых... Усе партыі, ха-ха-ха!

Аднак у момант Зыкаў сціх, як толькі Сара ўвайшла ў хату з вядром вады. Ён пачаў распытваць у Сёмы аб працы на заводзе, аб расцэнках. Звычайная размова аб рабочым жыцці. Ні Сара, ні Лія ніколі не маглі здагадацца аб той гутарцы, якая была тут хвіліну назад.

— А я ўсё-такі пайду на ваш парламент,— сказаў Зыкаў Сёму, калі той выходзіў за дзверы ісці на работу.

Сёма прыпыніўся і пачаў даказваць, што Зыкаву нельга паказвацца, пакуль жандары і паліцыя шалеюць, шукаючы яго. Але Зыкаў цвёрда стаяў на сваім, жадаючы прыняць непасрэдны ўдзел у гэтай справе, а таксама і пабачыцца з некаторымі таварышамі. Сёма не мог пярэчыць, бо гэта было дарэмна.

Сёма вярнуўся з работы ў гэты дзень шмат пазней. Ледзь паспелі павячэраць, як мужчыны пачалі збірацца. Старая

Сара была надта здзіўлена, калі, увайшоўшы ў хату з двара, куды яна выходзіла па дровы, угледзела незнаёмага барадатага мужчыну. Яна запынілася з бярэмем на руках і прыглядалася, аж разявіўшы крыху рот. Дружны рогат усіх траіх яшчэ больш збянтэжыў старую. Яна хацела спытацца, дзе Зыкаў, але пабаялася назваць яго імя пры гэтым чужым чалавеку. Толькі калі барадаты чалавек загаварыў, яна хамянулася і пачала рагатаць, выціраючы вочы падолам спадніцы. Лія прагавітымі вачамі праводзіла брата і Зыкава. Яна сказала, што дачакаецца іх, калі б яны ні вярнуліся.

У паасобку Зыкаў і Сёма, на нейкай адлегласці адзін ад другога, абышлі яўрэйскія могілкі, дзве вулачкі і накіраваліся ў поле, у бок Кальварыі. Снег круціўся, падганяемы скавытаўшым ветрам. Сляды замяталіся праз хвіліну-другую. З вярсту ад горада прайшлі яны. З боку ад дарогі зачарнелася нешта ў лагу. Вецер быў тут не такі моцны. Па цаліку, месцам глыбей калень, дарваліся яны да мэты. Пярэсціны на снезе — незасыпаныя снегам скосы ям, дзе капалі ўлетку гліну. Чорная будыніна — пустая цагельня. Праз хвіліну яны пайшлі па цвёрдым грунце, чапляючыся нагамі за раскіданыя бітыя цагліны. Іх аклікнулі.

Сёма адказаў умоўным словам і, вясёлы, усхваляваны, увёў Зыкава за рукаў у адну з камер печы.

— Пачнём, пачнём ажываць,— гарачымі губамі шаптаў ён.— Бачыш, колькі народу сабралася, і гэта толькі самыя дзейныя.

На зложаных адна на другую чатырох шчарбатых цаглінах гарэла стэарынавая свечка. Нізкае заскляпенне камеры давала магчымасць стаяць толькі тым, хто быў на сярэдзіне памяшкання, астатнія ж сядзелі альбо проста на зямлі, альбо на карачках, нібы збіраліся скакаць у прысядку. Пры ўваходзе Сёмы і Зыкава гутаркі абарваліся, цыгаркі засталіся не данесенымі да губ. Больш дзесятка пар вачэй уставілася на Зыкава.

— Хто гэта,— пачуўся шэпт з усіх знаёмых куткоў.

— Гэта наш таварыш, с.-д. з Вільні,— адказаў на гэтыя шэпты Сёма, папярэджваючы магчымыя запытанні.

— Можа, ад краявога камітэта? — запытаўся хрыплы настуджаны голас з цемнаты.

— Гэта справа нашае арганізацыі,— адказаў Сёма,— ведаць такія падрабязнасці.

Зыкаў праціснуўся з сярэдзіны, грукнуўся аб цвёрдую, заіняўшую столь ілбом і сеў на карачкі, як і іншыя. Чыесь цвёрдыя, як абцэнгі, рукі схапілі яго руку і моцна пацíснулі. Далей яшчэ рука і яшчэ. Зыкаў у цемнаце не мог разабраць, з кім ён вітаецца, але па трапятлівасці рук адчуваў, што яго вітаюць свае, блізкія людзі.

Пасля Зыкава і Каца ўвайшло, ці, лепш кажучы, уціснулася, яшчэ чалавек з пяць. Нізкая камера запоўнілася едкім дымам бакуну, пахамі дзёгцю, алею, дублёнай скуры.

— Кіньце вы смактаць гэтую махру, дым паваліць як з коміна,— крыкнуў нехта.

— Гаспадар падумае, што цагельня ў ход пайшла — грошы будуць яму зусім задарма, абрадуецца,— адказалі з другога канца.

— А праўда, трэба кінуць смаліць. Пара ўжо, бадай, пачынаць,— сказаў нехта недалёка ад Зыкава.

З пачаткам доўга мітусіліся. Хто павінен адкрыць сход? Адна частка патрабавала, каб старшынёй быў той, каго яна прапануе, другая прапаноўвала свайго, трэція былі супраць абодвух папярэдніх, прапануючы свайго. Паднімаўся крык.

— Цішэй вы! — грукнуў густы, басісты голас.— Яшчэ, можа, хочаце, каб самы далёкі гарадавік у горадзе пачуў наш шурум-бурум...

На сярэдзіну, бліжэй да свечкі, праціснуўся высокі з чорнаю барадою мужчына. Нават тут яму даводзілася крыху згінацца, каб не падпіраць галавою столі. Ён абвёў вачамі круг заціхшых людзей.

— Мы сабраліся сюды не для таго, каб час правесці ў бязглуздых спрэчках аб старшынстве.

Ён падняў руку і махнуў з пляча магутным кулаком, ні-

бы біў молатам па накавальні. Ды гэта і ўзапраўды быў малатабоец з завода Якабсона і Ліўшыца.

— Вось што, таварышы! Гавары, таварыш Тэсняк,— скамандаваў каваль.

— Гэта насільнічанне, узурпацыя! — пачуліся з аднаго боку выкрыкі.

Да свечкі праслізнуў шчупленькі чалавек у рыжым паліто і лёгкай скамечанай шапцы, якая, мусіць, служыла яму ва ўсе сезоны года. Ён прыжмурыў вочы на агонь, адхіліў крыху ўбок каваля і пачаў гаварыць пад выкрыкі паасобных галасоў.

— Таварышы! — слабым голасам пачаў ён і закашляўся.

— Узяў бы сабе параходную трубу! — злосна пажартаваў нехта з кутка.

— Таварышы! — больш звонка ўзяў голас ад свечкі.— Капіталізм ■ кожным годам мацнее. Мацнее ён і ў нашым краі, на Беларусі. Карыстаючыся моцнаю падтрымкаю з боку паліцэйска-жандарскага ўраду, ён не пакідае нішчыць рабочыя арганізацыі. Разгром рэвалюцыйных партый пасля дзевяцьсот пятага года прыпыніў рабочы вызваленчы рух, і раз'юшаная жандарска-капіталістычная зграя ўчыняе здзекі і эксплуатацыю рабочых без ніякае перашкоды для сябе. На вёсцы сталыпіншчына стварае апору для манархіі ў моцным гаспадарча селяніне, які багацее за кошт вясковае беднаты. Здарэнні, якія мы ўсе наглядаем са ўчарашняга дня на ўсіх прадпрыемствах, паказваюць лішні раз, што гаспадары арганізавана, пад кіраўніцтвам прадстаўнікоў царскае ўлады, робяць новы замах на рабочы клас, імкнучыся нашчэнт знішчыць праявы рэвалюцыйнасці сярод рабочых. Але з ростам капіталізму расце і рабочы клас. На ўзмацненне наступу мы павінны адказаць рашучым супраціўленнем. Даволі нуды, даволі прыдушанасці! Далоў ліквідатарства! Няхай жыве рэвалюцыйная барацьба пад сцягам: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!»

Апошнія словы таварыш Тэсняк прамовіў высокім звонкім голасам. Калі ён выклікаў пралетарскі лозунг на слове

«краін», яму не хапіла паветра і ён асёкся, глынуўшы так, нібы ён набраў у грудзі ў пяць разоў больш паветра, як трэба, слова «яднайцеся» ён выкрыкнуў так, што ў вушах зазвінела.

Хвіліны дзве была поўная цішыня. Яе парушыў Сёма. Ён выскачыў з круга, абхапіў Тэсняка і звонка пацалаваў яго. Вочы яго блішчалі слязьмі. Тэсняк збянтэжана глядзеў на Сёму і праціраў вочы, як пасля сну. Непрыкметна пакінуў ён пярэдняе месца каля свечкі.

— Ну дык вы, таварышы? — загуў зноў бас каваля.— Што надумалі рабіць?

Пакрысе пачалося ажыўленне, гутаркі. Каваль пакрахтваў, сцішаў, загадваў гаварыць па парадку. Прадстаўнікі бундаўцаў гаварылі многа. Яны папікалі с.-д. у тым, што новы націск на прадпрыемствах робіцца па віне сацыял-дэмакратаў, якія правалілі ляскаўскі гурток, казалі, што яны самі прыдумаюць нешта для яўрэйскіх рабочых, што яны не падрыхтаваліся сёння.

— Я — яўрэй! — запальчыва ўскрыкнуў Сёма, пакрываючы гул галасоў,— а што вы для мяне прыдумалі ці прыдумаеце? І чаму гэта вы будзеце непакоіцца толькі аба мне, а не аб таварышу Грабоўскім, які стаіць побач са мною за варштатам? Эх, рэвалюцыянеры!

— А ты рэвалюцыянер? Перамётчык ты, цураешся бацькоў! — закрычала ў адказ некалькі ўсхваляваных галасоў.

Нейкі чыгуначнік, мусіць, грамадавец, як уявіў сабе Зыкаў, казаў, што ўсе арганізацыі яшчэ вельмі слабыя, што рабочыя не аднавілі яшчэ веры ў моц рэвалюцыянераў, баяцца гаспадароў і начальства і таму праяўляць цяпер якуюнебудзь актыўнасць занадта рызыкоўна: могуць загінуць тыя гурткі і арганізацыі, якія ўжо існуюць, і гэтым справе рэвалюцыйнага руху будзе нанесена, можа, непапраўная бяда.

— Арганізацыі мацнеюць у барацьбе. Хто ўхіляецца ад барацьбы, змагання, той ужо загінуў, яго няма,— крыкнуў сусед Зыкава.

Яшчэ з паўгадзіны ішлі беспарадачныя спрэчкі, гэта быў ужо агульны гоман. Адно выявілася, што агульных рашэнняў прыняць нельга будзе: частка зусім ухілялася ад прыняцця рашэнняў, другія прапанавалі тое, што супярэчыла прапанове трэціх. Разыходзіліся ўсё ж дысцыплінавана: да чыгункі па два-тры чалавекі, а потым паасобку, хто вуліцаю, хто ў абход.

Зыкаў быў узрушаны і самім сходам, і вынікамі таго і не адразу прыкмеціў, што ў цагельні стала зусім вольна. Да яго падышлі два даўніх таварышы і пачалі распытвацца аб яго жыцці, але ў словах іх адчувалася тая ж стрыманасць, якую прыкмеціў ён раніцою ў Сёмы. Зыкаву стала яшчэ цяжэй на сэрцы.

— Каму гэта прыйшла ў галаў такая бліскучая думка склікаць гэты парламент? — жорстка-насмешна запытаўся ён у аднаго з гаварыўшых з ім таварышаў, які, ён ведаў, быў адным з кіраўнікоў мінскае с.-д. арганізацыі.

— Ну, и што, калі мне? — напружана запытаўся той.

— Вынікі кажуць аб гэтым. Што не, ты працягваеш склізгаць па меншавіцкай сцежцы і вось такія сходы арганізуеш? — не адставаў Зыкаў.

— Ты адзічаў там у глушы альбо не выспаўся з дарогі,— спрабаваў адгарадзіцца таварыш.

— Не зварочвай на глупства! Мне гэта хістанне тваё і іншых, падобных да цябе, заўсёды будзе... агідным,— з поўнаю злосцю гаварыў Зыкаў, вылазячы з цагельні.

— Заўтра мы чакаем цябе ў арганізацыі. Паслухаем, як працуюць бальшавікі,— жорстка адказаў «камітэтчык».

Не прамовіўшы больш ні слова, гэтыя старыя прыяцелі развіталіся на раскрыжаванні. Сёма, слухаўшы ўсю размову, вялы, апусціўшыся, цягнуўся ззаду. Ужо недалёка ад дома ён, парушыўшы правіла, здагнаў Зыкава.

— Нічога не выйдзе зноў! Цяжка, Зыкаў!

## II

Домік гэты нічым не адрозніваўся ад іншых, раскіданых уздоўж абочных вуліц Мінска. Невялічкія ў шэсць шыбак аконцы выходзілі два на Даўгабродскую і тры на двор. Перад вокнамі невысокі плот з шалёвак з прарэзамі ў выглядзе сэрца, як яго малююць на лубачных адкрытках, што пасылаюць закаханыя. На вокнах паліваныя гаршкі з недарослым фікусам, касачом альбо геранню. Абавязковыя дашчатыя стаўні знадворку і паркалёвыя занавесачкі з фаты. На двары хлявок, дзе хрупкае сена конь ды пappend спрасонку парасяты, якім, можа, цесна ў невялічкім катуху. Два драўляных слупцы падтрымліваюць паўкруглую бляшчаную страху над ганкам, які зарос лёдам ад выліваемае з-за дзвярэй вады, памыяў.

Такі домік звычайна дзеліцца на дзве часткі: у адной жывуць, а ў другой цёмнай, са склепам пад падлогаю, складваецца ўсялякая хатняя драбяза. Стаіць кадушка капусты альбо гуркоў, вісяць каўбасы ўласнага вырабу альбо перадок кашэрнага цяляці, калі ў доме жыве яўрэйская сям'я. Жылая частка застаўлена ложкамі; на галоўным, гаспадыніным ложку — пяць-шэсць падушак. Вольнае ад ложкаў месца займае швальная машына з неадменным надпісам: «Зінгер», два-тры століка пад рознакаляровымі настольнікамі дамашняе вязі; прыціснуўшыся да сцяны, як прыбітыя да іх, стаяць нерухома густа нафарбаваныя дашчатыя крэслы.

Звычайны дом альбо гараджаніна, які мае ці арэндуе некалькі дзесяцін зямлі ў горадзе і займаецца прамысловым гародніцтвам, альбо дробнага гандляра на Ніжнім рынку, які гандлюе салам, мясам, бульбаю, газаю, селядцамі — чым толькі можа гандляваць. Такі дом, яго гаспадар і гаспадыня не карыстаюцца асобнаю пашанаю на Губернатарскай альбо ў цэнтры Захараўскай, але ён не выклікае там адваротнасці ці непакойства. Тутэйшы гарадавік таксама прыветна казырае сальніку пану Вінцусю альбо бакалейшчыку Мендалю, як квартальны на крыжаванцы Губернатарскай і Захараў-

скай — пану Шабе Ліўшыцу, які мае вялікую лясную кантору, альбо пану Свенціцкаму, уласніку некалькіх лепшых дамоў.

Вось да такога доміка і накіроўваўся Зыкаў дні праз два пасля сходу на цагельні. Сажняў з пяцьдзесят ад дому, азірнуўшыся ў бакі і нікога не заўважыўшы, ён звярнуў на вузкі тупічок-завулак, які канчаўся каля грудаў цаглін, кучаў рознае брыдоты, якая засталася, мусіць, пасля пажару і павялічылася яшчэ тым, што сюды скідалі суседзі рознае смецце. Пераскочыўшы цераз высокі плот, Зыкаў пайшоў садам да дому, трымаючыся прыкрыцця ад вуліцы за плотам.

Настрой у Зыкава яшчэ больш панізіўся пасля таго сходу. Ён бачыў, што ў арганізацыі рэвалюцыйнага руху яшчэ зроблена мала, што не пераможана яшчэ баязлівасць, бязвер'е ў свае сілы. У дадатак да гэтага яшчэ кіраўніцтва не мае яснае цвёрдасці, а можа, і само яно толькі шукае шляхоў. Па дарозе да мяшчанскага доміка Зыкаў падабраўся. Вось ён убачыцца з кіраўніком арганізацыі, скажа ім сваю думку аб наладжванні работы, асабліва па губерні, папросіць, каб яго зноў куды-небудзь паслалі, толькі абавязкова ў гушчу рабочых, на прадпрыемства. «Толькі арганізацыя і ўздым большага ліку рабочых здольны пасунуць уперад рэвалюцыйную справу»,— думаў Зыкаў, падыходзячы з агарода да дзвярэй у задняй глухой сцяне.

На ўмоўны стук яму адчынілі. Вузкім прагалам між кадушак, скрыняў, пайшоў ён следам за тоўстаю кабетаю ўвайшоў у камору, адтуль у невялічкі пакой, які раней быў, напэўна, кладоўкаю.

— Вось яшчэ адзін кліент з Ніжняга рынку! — смеючыся, сказала кабета, упускаючы Зыкава ў пакойчык.— Ну а цяпер, ша! Хто б ні зайшоў — гаспадара няма дома, выехаў на вёску за каровамі, можна і патужыць з наведвальнікам аб дрэнным гандлі, уцешыць яго, калі заседзіцца.

Яна нячутна прайшла назад праз камору і замкнула дзверы. Зыкаў з хвіліну прыглядаўся да людзей. Іх было пяць. Дваіх ён добра ведаў, аднаго нават з Пецярбурга. Ас-

татнія былі зусім яму незнаёмы. Сярод іх быў такі, які асабліва прыцягваў увагу. Надта белы, да непрыемнасці, твар, тонкія без крывінкі губы, некалькі рэдкіх валасоў у русай барадзе, доўгія, закінутыя назад і моцна прычэсаныя валасы рабілі яго твар нежывым, быццам вылепленым з папье-машэ. Рукі ляжалі на стале; тонкімі касцістымі пальцамі ён перагортваў нейкі сшытак. Як Зыкаў ні дамагаўся, але ён увесь далейшы час не перамог непрыязні, якая адразу ахапіла яго да гэтага чалавека.

Яго знаёмыя таварышы з радасцю, у якой, аднак, прыкметна была стрыманасць, асабліва з боку таго, з кім ён паспрачаўся пасля сходу, павіталіся з ім і пазнаёмілі з астатнімі. Зыкаў сеў на адзінае вольнае месца — пустую кадушку ў кутку.

— Ну, кажы далей,— нейкім скрыпучым голасам прамовіў бляды таварышу, які з фартухом на досыць поўным жываце і з чырвоным тварам паходзіў на гандляра мясам.

— Дык вось, у апошні час, таварышы, на мяне пачалі глядзець крыху коса. Спачатку ўсе пасаблялі мне парадамі, нават грашыма — я быў для іх новы чалавек, прыехаўшы з Беластока. Яму трэба дапамагчы, быць ветлівым, бо лісты з Амерыкі многа значаць. Але цяпер гэтая ўвага і пашана спадае. Мусіць, у гандляры ёсць нешта спецыфічнае, чаго ва мне якраз няма. Прыкмецілі гэта. Я таксама вывучыў іх і бачу іх адносіны. Ведаеце, і гарадавік ужо не кажа мне: «Здравствуй, Лейба», а проста матае галавою, як я зраблю яму ўклон. Адсюль вывад — трэба ліквідаваць гэтую кватэру і шукаць новага месца. Іначай — можа здарыцца бяда.

Без спрэчак усе сябры камітэта згадзіліся з «мяснікам» і даручылі другому таварышу арганізаваць новы прытулак.

— Пераходзім цяпер да справы таварыша Зыкава,— роўна, нідзе не зніжаючы і не падвышаючы голасу, прагаварыў старшыня.

— Якая мая справа? — думаў Зыкаў. Ён агледзеў усіх

таварышаў: тая ж захаванасць за апушчанымі вачамі. Гэтае тулянне ўзарвала яго.

Крыху заікаючыся ад хвалявання, ён запытаўся, у якім сэнсе ставіцца справа.

— Справа ставіцца так: чаму таварыш Зыкаў праваліў ляскаўскі гурток і змінтрэжыў працу цэнтральнага захоўніка нелегальнае літаратуры,— зноў роўна, не выкідаючы ніводнага гуку з слова, прагаварыў старшыня, не мяняючы стану галавы, цела, рук.

Зыкаў паведаміў коратка аб сваёй рэвалюцыйна-арганізацыйнай працы, абрысаваў ролю пана Ляскоўскага, злёгку крануў свае адносіны да Зосі і намаляваў энергічны канец — вобыск і неспадзяванае забойства паліцэйскага. Старшыня вынес заключэнне:

— Наколькі я разумею з вашага (ён націснуў на слова «вашага») паведамлення, ва ўсёй гэтай справе адыграла найбольшую ролю ваша (зноў націск) слабасць да жанчыны...

— Няпраўда! — крыкнуў увесь пачырванеўшы Зыкаў.

— Не хвалюйцеся! Вы былі ўсхваляваны і забілі ўрадніка, раскрылі гэтым арганізацыю. Цяпер пайшлі рэпрэсіі і зажым ва ўсіх прадпрыемствах. Вось вынікі вашае дзейнасці!

— Першы раз чую з вуснаў рэвалюцыянера казань аб непраціўленні злу,— ужо спакойна, нават з лёгкаю ўсмешкаю адказаў Зыкаў, абводзячы поглядам таварышаў, пазіраўшых на яго ўпарта-неадрыўна. Па-вашаму, я павінен быў аддацца ў рукі паліцыі і пана Ляскоўскага, аддаць літаратуру, назваць таварышаў. Я да такога паскудства яшчэ не дакаціўся. Літаратура засталася ў нашых руках, ніхто з нашага ляскаўскага гуртка не раскрыты, хоць там і бушавалі з рознымі вобыскамі і допытамі.

— Арганізацыя ставіць вам у віну падпарадкаванне партыйных інтарэсаў асабістым пачуццям,— мерна выпусцілі тонкія губы чарговы запас слоў.

— Хто гэта «арганізацыя»? Усе ці вы асабіста?

Старшыня запытаў думкі сяброў. Адзін з яго старых таварышаў і адзін новы сказалі, што не згодны са старшынёю і знаходзяць паводзіны Зыкава бездакорнымі. Астатнія згадзіліся са старшынёю. Большасць асуджала Зыкава. Ён павярнуўся да дзвярэй, прагучыся як найхутчэй пакінуць сабраных.

— Спадзяюся, мы застанёмся добрымі таварышамі,— прагаварыў услед яму старшыня.

— Я быў, застаюся і буду рэвалюцыянерам, як кожны бальшавік. Цяжка з вамі працаваць, калі практыка беластоцкае канферэнцыі яшчэ да гэтага часу ў вас не памерла, калі на вас нападае талстоўства.

— Правільна, Гаўрыла! Я ім тое самае кажу,— кінуў яму ўздагонку другі яго стары прыяцель.

З дапамогаю гаспадыні Зыкаў выбраўся на вуліцу. Дзверы бразнулі за ім, грукнуў засоў. Быўшы раніцою і ўдзень мароз раптам згінуў. З поўдня цягнула цёплым ветрам: дамы, прысады былі завінуты, як вітае, густым туманам; дробныя, як праз сіта, кроплі дажджу зрабілі снег вагкім, па нізкіх месцах боты чвакалі ў снежнай кашы. Ад агню змрок здаваўся яшчэ гусцейшым, і Зыкаў вобмацкам за платы выходзіў на Захараўскую вуліцу. Цішыня і туманны змрок абдымалі ўсё вакол, ахоплівалі Зыкава, прыцягваючы да яго свае склізкія шчупальцы. Ціха, як у магіле альбо як у невядомай змрочнай пустыні. Ні аднае зоркі на небе, нават ліхтар каля моста вісіць жоўтай плямай, яшчэ больш наганяючы нуду. Толькі нявідныя, слабыя яшчэ, захаваныя зверху тоўстым снегам, пачынаюць шолах першыя вясновыя воды. Потым яны разліюцца буйным патокам, знясуць снег, сарвуць броню лёду, змыюць гразь; скончацца туманы, пойдуць доўгія ясныя дні з ружовымі зорамі. Цяпер жа вакол змрок, туман, які лезе ў рот, душыць за горла.

Цяжка перасоўваючы ногі, Зыкаў праз увесь горад ішоў да халупы Сёмы, дзе чакала яго душная ноч у бакоўцы-скрыначцы. Можа стацца, што і такога прытулку не будзе — нельга ж рабіць небяспеку для самога Каца і яго

сям'і. А сёння яму не сказалі нават, куды б маглі паслаць яго.

Сёма стрэў яго надта здзіўлена. Яго ашаламіў выгляд Зыкава. Запухшыя вочы, пакутна сціснутыя губы, увабраная ў плечы галава, бяссільна вісячыя рукі адразу кінуліся ў вочы.

— Ты ўжо ўсё ведаеш? — з надрывам запытаўся ён, маючы на ўвазе свае думкі.

— Што гэта? — безцікаўна запытаўся ў свой чарод Зыкаў.

— Можа, табе і не сказалі, ад іх можна чакаць... Сёння павінен быў вызначыцца пратэст супраць пагоршанага рэжыму на прадпрыемствах. Там, дзе нашы арганізацыі не існуюць альбо прадстаўлены адзінкамі, наогул нічога не выйшла. У нас... у нас жа яшчэ горш. Выйшлі ў перапынак на двор амаль усе, але... але досыць было вокрыку майстра, як усе сагнуўшыся сталі па месцах і раней, як трэба, пачалі працу. Ох, рабства, паднявольнасць! І калі, Зыкаў, народзіцца чалавек?

Сёма зарыдаў. Ён скрыгітаў ад злосці, злосці на сябе за сваю слабасць, але буйныя слёзы каціліся па яго шчаках.

— Заткніся ты, чыстая душа! Без цябе тут усё дрымціць. Слязьмі, браток, нікому не пасобіш і нічога не зробіш. Трэба халодная нянавісць. Зразумеў?

— Выбачай,— сціхаючы, прамармытаў Сёма.— Занадта гнусны час мы перажылі. Я ўсё разумею, ты заўсёды праўду кажаш, толькі мне б хацелася верыць.

— Папы навучаюць верыць, а не марксісты! — злосна перабіў, не даўшы скончыць, Зыкаў.

На гэту рэзкасць Кац нічога не адказаў. Толькі яго вочы, цудоўныя вочы, былі засланы туманам. Ён і не распытваў Зыкава аб яго справах і настроі.

З гэтага дня пачаўся вялікі правал у жыцці Зыкава, які потым ніколі не мог даравàць сабе. Пры ясным разуменні агульных задач, пры разуменні неабходнасці далей весці перш за ўсё палітычную працу, Зыкаў нейкі час не мог знай-

сці ладу з сабою. У адносінах да таварышаў ён стаў недаступна-халодны, Сёме Кацу выказваў адкрытую варожасць. Па выгляду ён зусім апусціўся, на жухлым твары яго ніколі нельга было заўважыць цікавасці да якога хочаш пытання.

Часцей ды часцей ён пакідаў свой прытулак у Каца. Дзе ён начаваў у гэтыя часы, нікому не было вядома. Сара і Лія зводзіліся ў непакойстве. Са смагшымі губамі і палячымі вачамі Лія мітусілася па халупцы, дарэмна прачакаўшы Зыкава далёка за поўнач. Яна будзіла Сёму сярод ночы, патрабавала, каб ён ішоў шукаць Зыкава.

— Згубіце, згубіце вы яго! — надрыўна цвярдзіла яна ўдзень, увечары, уначы.

Сёма і сам адчуваў вялікую трывогу. Ён некалькі разоў радзіўся са старэйшымі таварышамі, як дапамагчы Зыкаву, вызваліць яго ад гэтага зацямнення. Ён пачаў шукаць яго, калі ён не з'яўляўся на кватэру.

Тое, аб чым даведаўся Сёма праз гэта, яшчэ больш усхвалявала яго. Зыкаў пакінуў сцерагчыся. Па вечарах ён праседжваў цэлыя гадзіны па карчмах. У карчмах на Лагойскім або на Ігуменскім тракце ён ужо быў нібы сваім чалавекам. Кола расхамастанага люду акружала яго. Тут вяліся гутаркі аб дробных пакражах, тут п'яны нашчэнт гарбар плакаў аб сваёй сям'і, якая сядзіць без хлеба, а ён вось п'е; тут біліся на стадоле бутэлькамі, абцасамі, што трапляла пад руку; сюды заходзілі гуляшчыя дзяўчаты ў абкружэнні разлахмачаных хлопцаў.

## III

Пошукі Зыкава жандарамі і паліцыяй не давалі ніякіх вынікаў. Таксама дарэмнымі былі энергічныя спробы вылавіць яго саўдзельнікаў па справе арганізацыі нелегальнага гуртка з рабочых Ляскаўскіх прадпрыемстваў. З паказанняў бухгалтара Пісарэўскага, які разам зураднікам рабіў

вобыск у Зыкава, жандарам было вядома, што там была недазволеная літаратура, і досыць шмат яе. А потым, калі Пісарэўскі ўцёк з перапуду, у час да прыходу на кватэру Зыкава самога пана Ляскоўскага з цівуном і панятымі, уся гэта літаратура недзе згінула. Шукалі слядоў яе ў печах, у калодзежах, на столі Кавальчыкавае хаты — нідзе не было ніякіх адзнак яе знаходжання. Узяліся ж тады адразу за Сымона Кавальчыка і яго сям'ю, але і сам Сымон і яго жонка толькі жагналіся і кляліся, што нібы чэрці схапілі раскіданыя панамураднікам кніжкі і зніклі разам з імі. Кавальчыкаў — бацьку і сына — схапілі, але жандары добра разумелі, што гэтым не вырашаецца задача. Забойца Зыкаў знік, яго саўдзельнікі заставаліся невядомымі.

Як толькі мінскім губернатарам была атрымана тэлеграма ад пана Ляскоўскага аб забойстве ўрадніка, аб тым, што «убийца — известный революционер, бежавший с каторги — Росяк скрылся», на ногі была паднята ўся жандармерыя і паліцыя. Па гарадах, на чыгуначных станцыях пачалося ўзмоцненае сачэнне звычайнае і патаемнае паліцыі, рабіліся налёты з вобыскамі на некаторыя рабочыя кватэры, на кватэры тых, хто значыўся ў спісах жандармерыі як ненадзейны альбо падазроны элемент. У гэты час Зыкаў быў недалёка ад Ляскаўцоў, у глухіх лясістых месцах. Калі ж ён праз месяц трапіў у Мінск, дык увага паліцэйшчыны накіравалася ў бок Ляскоўскага і ваколічных месцаў. Там перавярнулі ўсё і ўсіх. З Ляскаўскае гуты і папероні захапілі каля дзесятка чалавек, больш па нацыянальнай адзнацы — яўрэяў-рабочых, білі іх, вымагаючы прызнанне; не мінулі і старога настаўніка Петруся Мікалаевіча, які пасля цяжкага здарэння з яго незабыўна-дарагою дачкою, бяссмысленна глядзеў на ўвесь свет і не разумеў, чаго патрабуюць ад яго гэтыя людзі з бліщчастымі гузікамі і з рэвальверамі; хапалі і сялян, асабліва тых, хто быў у свой час уперадзе сялянскага руху ў барацьбе з панам за пашу. Але нічога не пасабляла. Прайшоў ужо сакавік з яго снягамі, дажджамі, туманамі, пачаліся ясныя дні красавіка, а вынікаў ад пагоні за

нявіднаю здабычаю многіх лоўчых і паляўнічых ніякіх не было.

— Калі да гэтага часу не злавілі, то і не зловім да наступнае зімы,— гаварылі між сабою старыя, набіўшы руку, сышчыкі.

Была другая палова красавіка. Дзень быў светлы, сонечны, радасны. На скверы на Саборным пляцы шпацыравалі пані, нянькі вазілі белыя, ружовыя каляскі з дзецьмі, прыбранымі ў брыжовыя чэпчыкі з ружовымі, зялёнымі стужкамі. Звонкі смех агалашаў чыстае паветра. Але не да вясёласці, не да смеху было людзям, якія сядзелі ў прыёмнай губернатарскага дома, які быў супраць скверу. Тут былі заплаканыя прасіцельніцы, дрыжаўшыя чыноўнікі, прагна вылічаўшыя магчымыя барышы казённыя дастаўшчыкі. Усе яны думалі толькі аб тым, як дагадзіць яго правасхадзіцельству на прыёме, каб дамагчыся ў лепшы для сябе бок вырашэння справы. Не далучаючыся да асоб, якія чакалі прыёму, ціха рассеўшыся па крэслах уздоўж сцен, нервова хадзіў па дыяганалі прыёмнай высокі, прыгожы, у добра прыгнаным мундзіры жандарскі палкоўнік. Ён запыняўся на хвіліну каля балконнага акна, глядзеў на ажыўлены сквер, адварочваўся і пачынаў зноў хадзіць, залажыўшы вольную ад пальчаткі правую руку за зашпіленую фалду мундзіра.

— Выбачайце, пане палкоўнік, адну толькі хвіліну,— расплыўшыся, як памазаны маслам, сказаў вылашчаны чыноўнік, выходзячы з-за высокіх дзвярэй губернатарскага кабінета.

Праз хвіліну ўсамдзеле з кабінета выйшаў нейкі тоўсты генерал, пазвоньваючы шпорамі. Усе прысутныя ў прыёмнай страпянуліся, кожны па-свойму прагучы ўдзяліць увагу праходзячаму генералу. Толькі жандар паглядзеў на яго таксама роўна-бесцікаўна, як і на самую жалкую прасіцельніцу. Па кіўку галавы чыноўніка палкоўнік накіраваўся да дзвярэй кабінета. Адзін з тоўстых дастаўшчыкаў ускочыў, падышоў да чыноўніка і пачаў махаць перад яго носам рукою, на якой ззялі пярсцёнкі з каменнямі, хвалюючыся,

што нейкага там палкоўніка пусцілі без чаргі і раней яго. Але чыноўнік матнуў галавою такім чынам, што дастаўшчык адразу звяў і моўчкі сеў на сваё месца.

— Спадзяюся, палкоўнік, вы атрымалі маю запіску? — ласкава запытаўся губернатар, калі жандар сеў у крэсла супраць яго.

— Так, ваша правасхадзіцельства, атрымаў, толькі асмельваюся далажыць, што...

— Што ў вашых жандараў галава мякчэй, як у гэтага катаржніка,— сярдзіта перабіў губернатар, адразу наліваючыся кроўю.

— Ваша правасхадзіцельства, дазвольце! — ускочыўшы на ногі, крыкнуў палкоўнік.

— Нічога я не дазваляю! Дзе Росяк і яго кампанія?

— Не магу ж я далажыць вашаму правасхадзіцельству тое, чаго не ведаю. Шукаем!

— Шукаеце! Ха-ха-ха!.. Чорт ведае што робіцца, што будзе. Пецярбург, міністэрства чакае, грамадства чакае — а вы ўсё шукаеце. Яго вялічаства, міністр, шляхта, прадпрыемцы могуць палічыць нашы няўдачы за нядбайнасць, за патуранне сацыялістам. Вы разумееце гэта ці не? — ціха, але голасам, у якім чулася пагроза, гаварыў губернатар, блізка падышоўшы да жандара і гледзячы яму проста ў вочы. Палкоўнік маўчаў, адхіляючы свой позірк убок.

— Скажыце, палкоўнік, вы можаце злавіць іх, ну, хаця б за тыдзень? — мякка, з водценнем просьбы, сказаў губернатар, не атрымаўшы ніякае заўвагі на свае папярэднія словы.

— Я прылажу ўсе сілы, каб як найхутчэй ліквідаваць гэтую справу, але, вядома, смешна было б вызначыць які-небудзь тэрмін для гэтага, асабліва тыднёвы,— трымаючы свой гонар, адказаў палкоўнік.

— Ах, так, пане палкоўнік? Ну, дык бывайце здаровы, я вас не затрымліваю.

Асабовы чыноўнік, які вёў прыём, прасунуў галаву ў

дзверы кабінета, як толькі адтуль досыць паспешліва выйшаў жандар.

— Дазволіце, ваша правасхадзіцельства, Стуцэру, дастаўшчыку? — запытаўся ён нясмела, прыкмеціўшы занадта чырвоны твар свайго патрона і крыху, мімалётам, усміхнуўшыся паспешлівасці палкоўніка.

— Не! Прыём прыпыніць! — скрыпнуўшы на павароце паркетам, загадаў губернатар.— Паклічце да мяне пракурора. Каб прыехаў адразу! Ды няхай следчага прывязе... па Ляскаўскай справе.

Чыноўнік умільна схіліў галаву і гатоў быў выпырснуцца за дзверы ў прыёмную.

— Вось што,— прыпыніў яго начальнік губерні.— Няхай там хто паважней, чалавекі тры, застануцца,— я прыму пасля пракурора.

Праз некалькі хвілін у прыёмную ўкаціўся худы, з выцягнутым жоўтым тварам, на якім асобна выдавалася ўперад ніжняя сківіца з рэдкімі зубамі, пракурор. Прычэсваючы на хаду з бакоў на лысіну рэдкія валасы і папраўляючы шпагу, ён падышоў да чыноўніка і прылажыў да вуха скручаную рупарам далонь.

— Іх правасхадзіцельства клікалі? — паказваючы ўсе сподпія зубы з чорнымі дупламі, прашамацеў ён.

— Пажалуйце, ваша правасхадзіцельства! — і чыноўнік услужліва адчыніў дзверы кабінета.— А вы пачакайце! — больш сурова звярнуўся ён да ружовага, гладкага, як хаджаны бычок, следчага, які з ашаметкам папераў таксама сунуўся ў кабінет.

Даведаўшыся аб здароўі яго правасхадзіцельства, паважанай Алены Васільеўны, губернатар перайшоў да справы.

— Ну, як вашы пейзаны?

— Фазаны? Маладых чакаю, хутка вылупяцца, ваша правасхадзіцельства.

— Гэта добра, што вылупяцца... Я пытаюся аб пейзанах, аб мужыках,— мацней і радзей вымаўляючы словы, гаварыў губернатар.

— Ах, ваша правасхадзіцельства, вы аб гэтых рэвалюцыянерах? Так, так! Яны здаровы. Я садзіў іх на ваду і чвэртку хлеба, каб прызнаваліся. Не прызналіся... і здаровы. Жывучы расійскі народ! — зарагатаў, як сыпаліся камені, пракурор; устаўленая верхняя сківіца ляскала пры кожным уздрыгу галавы.

— Што ж яны паказваюць?

— А тое, што і раней. Без новых дадзеных няма складу праступку.

— Вы ўпэўнены ў гэтым, ваша правасхадзіцельства? Я ўпэўнен, што пара было б судзіць.

— Адпусціць? Не, адпусціць нельга, пакуль не стануць перад судом галоўныя злачынцы, якія пасягнулі на свяшчэнныя асновы Расійскае імперыі.

— Судзіць! Судзіць! — выкрыкнуў, усхваляваны глухатою свайго суразмоўцы, губернатар.

— Каго судзіць? Гэтых мужыкоў?

— Не мяне ж з вамі! Трэба хутка наладзіць працэс.

— Гэтых няма за што судзіць. Разам — іншая рэч. Быў бы працэс, напрыклад, дзесяці. Так бы і зваўся: Мінскі працэс дзесяці альбо пятнаццаці. Больш — лепш.

— Я прапаную вам зараз жа скончыць следства і наладзіць працэс,— пільна гледзячы на пракурора, гаварыў загадна губернатар.

— Я... я падпарадкаваны, ваша правасхадзіцельства, міністру юстыцыі і адказваю за поўнасць справы. Я лічу, што судзіць можна будзе, калі ўсе мяцежнікі будуць вылаўлены. Дзе Росяк, дзе гэтая паганая літаратура?

Сківіцы пракурора заляпалі. Вузкая бародка яго тылам паднялася і, здавалася, здольна была калоць. У вачах ускочылі іскаркі.

— Я па-тра-бу-ю ад вас, каб працэс над Кавальчыкамі адбыўся да 14 мая. Разумееце?

Пракурор зачыніў сваю ляскаўку. Рукі павіслі. Ён шмаргануў рукою каля кішэні, адкуль тырчэў эфес шпагі.

— Слухаю, ваша правасхадзіцельства. Больш нічога не загадаеце?

— Нічога. Дык фазаны ў вас вылупляюцца?

— Вылупляюцца, вылупляюцца, ваша правасхадзіцельства! Можа, пацікавіцеся, міласці прашу. Найдалікатнейшыя птушачкі.

У прыёмнай заставаліся толькі дзве «важнейшыя асобы», якія ўпарта чакалі прыёму, ды ружовы следчы. «Важнейшыя асобы» разам схавалі свае валовыя каркі за дзвярыма кабінета. Следчы, як на спрунжынах, падскочыў да кійкаабразнага начальніка.

— Злавілі? — радасна, ззяючы гладка выбрытым падбародкам і белымі зубамі, запытаўся ён і прыпыніўся перад пракурорам з выглядам самае глыбокае пашаны.

— Канчайце следства... Будзем судзіць... гэтых мужыкоў,— ціха праскрыпеў пракурор.

— Няма ж улік! — здзіўлена прамовіў следчы, трацячы свой бляск.

— У вас яшчэ маецца, калі помню, толькі «Анна третьей степени». Я ў вашы гады меў «Владимира [illegible] бантом».

— Так, вы зусім правільна кажаце, ваша правасхадзіцельства. Судзіць можна, ваша правасхадзіцельства. Знойдуцца новыя паказанні сведак. Ад папярэдніх некаторых, якія не патрэбны для справы, яны адмовяцца, а то мы і проста скасуем іх.

— Скасуйце, скасуйце. Я заўсёды быў упэўнены ў вашых здольнасцях. Дасць бог, вы будзеце некалі старшынёю судзебнае палаты, а то і вышэй... Ну, хадзем, я падвязу вас, галубок.

Творцы судовых спраў пакінулі прыёмную. Асабовы чыноўнік, зламыўшы грудкаю запячатаныя канверты, падышоў да балконнага акна, прыгледзеўся да лёгка калыхаўшыхся капялюшыкаў, і салодка, як смакуючы торт, прыжмурыў свіныя вочкі. Цмокнуўшы два пальцы, матнуў рукою...

Праз некалькі дзён пасля гэтых гутарак у высокіх сфе-

рах у газеце «Слова» на першай старонцы вялікімі літарамі быў дадзены аншлаг: «К предстоящему процессу над убийцами полицейского». У даўжэразным артыкуле паведамлялася аб забойстве ўрадніка ў Ляскаўцах пры выкананні ім службовых абавязкаў па выкрыцці рэвалюцыйнай арганізацыі. У гэтай справе, па словах газеты, чынны ўдзел прынялі Кавальчыкі, бацька і сын,— зусім нявартыя гаспадары-сяляне. Яны ж хавалі ў сябе вялікі склад недазволенай шкоднай літаратуры. Газета патрабавала ад імя грамадскасці суровага пакарання злачынцам, якія пагражаюць «священным устоям нашей великой Империи». Гэта тым больш патрэбна зрабіць, што за спіною выяўленых злачынцаў стаяць асобы, якія не выкрыты, але якія таксама вядуць сваю руйнуючую працу. «З боскаю дапамогаю», канчала газета, «органам улады ўдасца выкрыць астатніх існуючых злачынцаў, сеючых нянавісць і злобу і дамагаючыхся нізвяржэння дзяржаўнага парадку».

Працэс назначаўся на 10 мая. Чыноўніцы, афіцэршы, больш знатныя гандляршы пачалі дзейна рыхтавацца да яго. Купляліся ўборы, бо будзе «ўвесь свет»; мужоў прасілі абавязкова-абавязкова дастаць білеты, бо будзе «ўвесь свет»; званілі па тэлефонах, пасылалі запіскі з лёкаямі, з пакаёўкамі, бо зноў-такі будзе «ўвесь свет». За гадзіну да пачатку суда да памяшкання пачалі пад'язджаць карэты, фаэтоны, фасоністыя рамізнікі на дзьмутых шынах: найбольш падкія да відовішч дамагаліся захапіць лепшыя месцы, бліжэй да судзейскага амбону.

Сымону Кавальчыку апавясціў астрожны надзірацель аб судзе над ім толькі за гадзіну да пачатку слухання справы. Сымон так і застаўся сядзець, спусціўшы з тапчана брудныя голыя ногі з кароткімі нагавіцамі невядомага колеру, ад якіх знізу абрыўкамі віселі махры. З тае самае начы, як яго забралі з малодшым сынам, Міхасём, ён здзівіўся, і гэтае здзіўленне не пакідала яго нідзе. З расшыранымі, выедзенымі дымам вачамі, жуючы смагнымі губамі, сеў ён у цягнік, куды ўвапхнулі яго людзі ў чорных шынялях з чырвонымі

шнуркамі ад шыі да рамянёў, з гэтым жа выглядам прыпыніўся ён перад жалезнаю брамаю белага астрога, а потым пайшоў па гулкіх калідорах-рынах і ўвайшоў у пусты скляпяны пакой, дзе стаялі два голыя тапчаны — для яго і Міхася. Кожны дзень ён з ранку да начы нерухома сядзеў на тапчане, і выцвіўшыя вочы яго глядзелі ў нязмерна-далёкую кропку. Прыходзіў разы два «аблакат», які павінен быў вызваліць яго і Міхася ад бяды. Але Сымон не разумеў, чаго хоча ад яго гэты пахучы пан.

— Татка, абувайся, хутка ісці! — штурхаючы яго ў плячо, напомніў Міхась.

— Куды ісці? — трасучыміся губамі запытаўся бацька.

— На суд, татка... Страхотна мне, татка! Можа, нас павесяць альбо застрэляць. Госпадзі, як усцішна! І за што?

Трасучыміся рукамі пасобіў Міхась бацьку накруціць каравыя анучы, абуць распатляныя лыкавыя лапці. Хутка промкнуў замок, і ў склеп увайшлі два салдаты ў белых сарочках з бліскучымі шашкамі ў плячэй. Надзірацель штурхнуў Сымона.

— Ну, ідзі, сіцыліст!

На двары да іх далучылі яшчэ двух маладых яўрэяў-рабочых з ляскаўскае гуты. Міхась ведаў іх у твар.

— А вас куды ж? — крыху адыходзячы ад страху, запытаўся ён.

— Туды, куды і вас,— усміхнуўся адзін з кручанымі чорнымі, як смоль, валасамі.

— Так, і судзіць будуць? А за што? — цікавіўся Міхась.

— Каб жа мы ведалі! Судзіць, браце, могуць і ні за што... як вас, напрыклад.

— Не разговаривать! — крыкнуў салдат з двума «лычкамі».

Арыштантаў абкружылі салдаты з шашкамі нагала. Ад варот астрога аж да пад'езда прыгожага, ярка-белага на сонцы дома, дзе змяшчаўся суд, следам за арыштаванымі і канвоем каціўся жывы натоўп хлапцоў, ад зусім малых да падлеткаў. Адны свісталі, другія крычалі «арыштанты»,

трэція «селядца згубіш», іншыя шыбалі палкі пад ногі «ундзера».

Зала была паўнюсенька. Стравусавыя, гусіныя, курыныя, паўлінавыя пёры, фарбаваныя конскія валасы, вавёрчыны вушкі калыхаліся на капялюшах гладкіх кабет, пазвяквалі шпоры, шапацеў шоўк чорных сурдутаў. Невыразны гоман стаяў у зале, як да пачатку дзеі ў тэатры, калі дамы разглядаюць адзенне другіх, дзеляцца плёткамі адна аб другой, а кавалеры здагадліва хваляць уборы сваіх дам і сыплюць, не шкадуючы, кампліменты аб прыгажосці сваіх суседак. Раптам зала заціхае: у дзвярах паказаліся канвойныя, а за імі — злачынцы. Арыштантаў правялі да бакавое сцяны, за асобную агароджу і пасадзілі на ўслон, які ўзвышаўся над усёю залаю і быў на ўзроўні судзейскага месца. Па баках сталі салдаты з шаблямі на плячо.

Сотні вачэй — вачэй так сабе, вачэй пад акулярамі, вачэй пад ларнетамі — пацягнулі да фігур на ўзвышэнні.

— Шапку, шапку сымі! — стукнуўшы ззаду ў бок Сымона, прашыпеў судзебны распарадчык.— Ці ж не бачыш, сукін сын, партрэта гасудара імператара?

І не чакаючы, ён сам сарваў лахманку Сымона і гадліва ткнуў яе на сядзенне.

— Quel misérable sujet! [1] — прамовіла князёўна Друцкая, разглядаючы ў ларнет з залатою ручкаю Сымона Кавальчыка.

Яна сядзела ў першай радоўцы крэслаў побач з прыехаўшым спецыяльна на суд панам Ляскоўскім.

— Mais c'est un mauavis sujet [2],— адказаў той.

Князёўна Вацця была незадаволена. Яна чакала, як і ўсе гэтыя пані і паненкі ў зале, угледзець нешта незвычайнае: высокіх моцных людзей з агністымі вачамі, з шырокімі барадамі: ад аднаго позірку на злачынцаў павінна быць солодка-жудасна. Гэтай незвычайнай асалоды і прыехала

---

[1] Які сумны сюжэт! *(франц.)*

[2] Але, гэта сумны сюжэт *(франц.)*.

шукаць на судзе князёўна. Замест гэтага на лаўцы падсудных сядзяць худыя, абадраныя, нямоцныя людзі. «Забойца» Кавальчык з яго маршчынамі, праедзенымі сажаю, з бялесымі выцвіўшымі вачамі, з жуючымі без перапынку губамі, з калтунаватымі валасамі, у рыжай падранай сярмяжцы быў далёка ад пажаданага князёўне «звышчалавека», як неба ад зямлі. Хлопец — нічога, але той, так, мусіць, баяўся, небарака, што на яго жалка было глядзець. Князёўна Ваця акінула з агідаю вокам усіх падсудных і адвярнулася. Уся зала паследавала яе прыкладу. На месцах пайшлі перамаўленні.

— Жалкие, а должно быть, мерзавцы порядочные!

— Ну, вядома, забойцы!

— И двух жидков удалось поймать! Эти везде, они и наущают!

— Кажуць, галоўнага няма, не злавілі! І чаго глядзіць гэтая паліцыя!

— Лайдакі!

— А без віны, панове, іх судзяць.

На гэты чутны шэпт шмат хто з бліжэйшых азірнуўся, але ўстанавіць, хто гэта сказаў, не давялося.

— Суд идет! — усе ўсталі.

— Ты што сядзіш? — штурхнулі Сымона, і ён з'ехаў з услона, бо ногі яго не даставалі падлогі.

Усе селі, разглядаючы цяпер старшыню суда пад партрэтам цара, членаў — побач яго, сакратара, пракурора за асобным сталом. Перачакаўшы, пакуль заціх шолах садзіўшыхся, старшыня адкрыў пасяджэнне. Ён кінуў сярдзіты позірк на прысяжных засядацеляў, якія, спазніўшыся, толькі цяпер займалі свае месцы, і загадаў сакратару чытаць абвінаваўчы акт. Сакратар, паправіўшы сурдут і пагладзіўшы і без таго прылізаныя валасы, пачаў роўна зудзіць доўгі акт, які аднаўляў амаль слова ў слова напісанае тыдзень таму назад у газеце. Сымон безудзельна глядзеў удалечыню, мусіць, нічога не разумеючы. Толькі ў тым месцы акту, дзе ён абвінавачваўся ў забойстве і хаванні шкодных кніжак,

Сымон паказваў адзнакі жыцця — дакорна ківаў галавою. Яўрэі-рабочыя прагна слухалі: яны збіраліся самі абараняцца, у іх не было сродкаў на адваката. Міхась з цікавасцю разглядаў такі вялікі натоўп, якога яму не даводзілася бачыць да гэтага часу.

Пасля заслухання акту пачаўся дапрос сведак. Выходзілі двое з сялян, быўшыя панятымі. Яны коратка паведамілі, што бачылі. Жаданага ўражання яны не зрабілі. Пасля іх выйшаў бухгалтар [illegible] гуты Ляскоўскага — Пісарэўскі. Уважліва паглядзеўшы на пана Ляскоўскага, які не спускаў з яго вачэй у час прамовы, ён нізка пакланіўся суддзям. У сваёй прамове ён адзначыў, што добра ведае Кавальчыкаў. Гэта сяляне-галацьбіты: яны заўсёды горла дзяруць і гатовы пашкодзіць маёмасці ў любы час. Ён, Пісарэўскі, даведаўся аб шкодных кніжках, якія хаваліся ў хаце Кавальчыка. Калі ён зураднікам пайшоў рабіць вобыск, дык Кавальчыкі разам з іх кватарантам напалі на ўрадніка: Кавальчыкі — бацька з сынам — трымалі, а кватарант дзёўб, а потым і Сымон Кавальчык біў. Забілі б і яго, Пісарэўскага, каб ён не ўцёк. Кніжкі ж яны захавалі зноў.

— Яны — непасрэдныя ўдзельнікі забойства,— працягваючы руку ў бок лаўкі падсудных, патэтычна сказаў ён.

— Гад ты, гад печаны! — агаласіў залу звонка-рэжучы жаночы голас,— прадажная шкура!

Уся зала ўстрапянулася. Нават Сымон замаргаў.

— Ганулька! — прамармытаў ён.— Дачушка!

— Лишаю свидетельницу защиты Анну Кавальчик слова. Выведите! — загадаў старшыня судоваму распарадчыку.

Пасля гэтага парадак судагаварэння не парушаўся. Сведак было няшмат. Рашучымі былі паказанні бухгалтара. З выглядам незаслужана абражанага сядзеў ён на лаўцы сведак і жмурыўся, адпусціўшы губу: ён цяпер меў права нават перад такімі знатнымі панамі, нават перад самім панам Ляскоўскім высакамерна адпускаць губу. Ён гэтае права зарабіў.

Гаварыў пракурор, гаварыў абаронца. Пракурор горача,

ляскаючы ўстаўленымі скіўцамі, даводзіў, што Кавальчыкі і гэтыя яўрэі-гутнікі пагражаюць грамадству, пасягнулі на падрыў імперыі. Забойства ўрадніка — цяжкі праступак, але гэта толькі частка той шкоды, якую робяць гэтыя рэвалюцыянеры. Пракурор патрабаваў самае суровае кары. Абаронца Кавальчыкаў згаджаўся, што яны вінаваты ў абодвух праступках, ім прыпісаных, але ён у імя «человеколюбия и сострадания к низшему брату» прасіў паслаблення і выказваў надзею, што яны кінуць навязаныя ім «гнусныя ідэі» і раскаюцца ў сваім крывавым учынку. Рабочыя-гутнікі горача даказвалі, што іх пасадзілі на лаўку падсудных без усякага праступку з іх боку, што няма жадных доказаў вінаватасці іх у чым-небудзь. Прысутныя зларадна слухалі іх палкія прамовы і пасмейваліся.

— Апошняе слова падсуднага Сымона Кавальчыка! — выгукнуў старшыня.

— Гавары, калі хочаш! — падштурхнулі Сымона.

Ён устаў, пераступіў з нагі на нагу, пажаваў чорнымі губамі.

— Ну, гавары! — нецярпліва падагнаў яго старшыня.

— Паночкі! Даражэнькія!.. Забіваць я не забіваў, нічога не бачыў. Знайшліся добрыя людзі і без мяне... Калі забілі... то... было за што... Дарэмна людзей не забіваюць... Я ж не забіваў. Потым толькі забітага вывалак... хату паскудзіў... Аб кніжках... У майго пастаяльца было шмат кніжак, але што гэта за кніжкі — не ведаю. Непісьменныя мы. Паратуйце, паночкі! Калі не мяне, дык хлопца вызвальце, яго і дома тады не было.

Ён запыніўся і сляпымі вачамі пазіраў на старшыню ці на царскі партрэт. Ззаду турзанулі. Ён хлёпнуўся на лаўку. Прысяжныя, пасля кароткае прамовы старшыні, які напомніў, што такія справы ў свае часы вырашаліся вайскова-палявымі судамі, радзіў прысяжным улічыць важнасць праступка падсудных, удаліліся на нараду. Нават не паспелі панове звадзіць сваіх дам да буфета, як прысяжныя выйшлі з свайго дарадчага пакоя. Старшыня абвясціў абвінаваўчы

вердыкт. Старшыня суда нахіліўся да аднаго і да другога суддзяў. Потым ён устаў. Усталі ўсе ў зале. Імем «его императорского величества» падсудныя былі засуджаны на пяць год катаргі кожны. Воплескі затрашчалі, як рассыпаны гарох, з пярэдніх радоў.

Публіка паваліла з залы. Княжна, перад якою з пашанаю расступалі дамы і мужчыны, гаварыла пану Ляскоўскаму:

— O, mon Dieu! Je suis fatiguée de voir le triste spectacle comme celui-ci. [1]

— Можа, дазволіце, княжна, быць вашым спадарожнікам да мадрыдскіх альбо гранадскіх пікадораў? — гулліва пытаўся Ляскоўскі.

— Гэта было б куды цікавей.

Яны селі ў фаэтон Друцкіх, і пара дрымцеўшых коней, як на крылах, памчалі іх па сонечнай вуліцы.

У двары суда канвойныя выстройвалі арыштантаў. Ундзер падаў каманду, і чатыры чорна-шэрыя постаці заматляліся пасярод вуліцы, абкружаныя белымі плямкамі канвойных. Сымон па дарозе некалькі разоў паглядзеў на сына.

— На катаргу,— прамовіў ён,— ранавата табе, хлопча! Міхась, а Міхась! А навошта гэта мы ўсадзілі новую хату і кабылу гэтаму аблакату? Ну, і аблакаты, жывадзёрны народ, трасца іх галаве!

— Што гэта, татка, на гэтай на самай катарзе прыйдзецца камень на шыі цягаць? — аб сваім пытаўся Міхась.

— Можа, яшчэ што і цяжэйшае за камень, сынку!

— Не разговаривать!

Сымон моўчкі пацягнуў свае старыя ногі да жалезнай брамы астрога.

---

[1] О божа! Я стамілася глядзець на гэты сумны спектакль *(франц.)*.

## IV

Сканцэнтраванне вядомых абставін, якія патрабуюць вялікай напружанасці ў дзейнасці чалавека, выклікае часта, амаль заўсёды, паслабленне сілы, памяншэнне волі да дзеяння. У такія часы чалавек траціць актыўнасць, адхіляецца ад валодаўшага ім напрамку дзейнасці, падпадае бяздзейнамаркотным настроям. Такое становішча канчаецца, калі залішне затрачаныя сілы зноў адновяцца, калі ўплыў абставін, выклікаўшых упадніцтва, пакіне дзейнічаць на чалавека. Але сілы аднаўляюцца і раней, калі з'яўляюцца новыя фактары, надаючы свежыя імпульсы.

Так было з Зыкавым. Патаемная рэвалюцыйная праца, каханне да дзяўчыны, вялікая пагроза правалу арганізацыі, гвалт над любімаю з боку разбэшчанага пана, забойства паліцэйскага, асуджаючыя да яго адносіны таварышаў па супольнай працы, няўдаласць іх уласнай працы — усё гэта прыгняло Зыкава, хоць ён разумеў добра неабходнасць змагання з тым прыгнечаным становішчам, у якім ён апынуўся. Паскораная падрыхтоўка суда над Кавальчыкамі была тым фактарам, які аднавіў дзейныя імпульсы ў Зыкаве, які скінуў тыя заслоны туману, што зацямнілі яго істоту.

Газетны артыкул за тыдзень да суда як бізуном сцебануў Зыкава. З гэтага артыкула Зыкаў бачыў той лёс, які чакае Кавальчыкаў і абодвух рабочых, якіх далучылі да справы за тое, што яны яўрэі. Вядома было Зыкаву, што якраз гэтыя рабочыя ніякага ўдзелу ў рэвалюцыйных арганізацыях не прымалі. Было відавочна, што і Кавальчыкі і рабочыя проста з'яўляюцца ахвярамі ў руках прадстаўнікоў улады. Вялікае абурэнне Зыкава, выклікананае гэтым працэсам, абудзіла яго рашучасць, вывела яго з стану заняпаду, у якім ён быў больш за месяц. Сёме Кацу не даводзілася ўжо наглядаць за ім. Роўна праз два дні на трэці Зыкаў прыходзіў начаваць, правёўшы папярэднія ночы па іншых прытулках у вядомых таварышаў. Першага мая Зыкаў разам з актыўнымі таварышамі наладжваў маёўку ў Ваньковічаўскім ле-

се і надта хваляваўся, што мала сабралася туды рабочых. Дый нельга было чакаць лепшага: у гэты дзень не толькі адміністрацыя прадпрыемстваў, але і паліцыя вельмі сачыла за тымі, хто не з'яўляўся на работу. Аднак і гэтым Сёма Кац быў задаволены.— А што, удалося? — весела пытаўся ён кожнага падыходзіўшага.— Вось ужо некалькі год не было маёўкі! Як пачаўся гэты прыгон, сталыпіншчына, дык гэта першы раз.

Усе гэта ведалі, але словы Сёмы ўсім здаваліся новымі, незвычайнымі. Усе радаваліся, хоць заўтра і чакалі іх суровыя допыты аб адсутнасці. Дзеля гэтага кожны меў цэлы план наведванняў, спраў, каб пры допытах спасылацца на прычыны нявыхаду на работу і даць сведак, што быў заняты вось такімі і гэткімі справамі. На маёўцы Зыкаў, пад зусім ужо інакшаю фаміліяй, паведаміў аб надыходзячым судзе і заклікаў таварышаў арганізаваць выступленні рабочых з пратэстам супраць аддачы пад суд Кавальчыкаў і ляскаўскіх гутнікаў. Горача паспрачаліся аб гэтым, але вырашылі зрабіць лятучкі ў Імрота, Ракаўшчыка і Якабсона.

Ціхія патаемныя словы, намёкі перадаваліся на прадпрыемствах. Але лятучак не давялося наладзіць. Майстры не адыходзілі ўвесь час работы, каля прадпрыемстваў узмоцніўся паліцэйскі нагляд. Касыя, спадылба кароткія погляды рабочых, урыўкі слоў, якія лавілі гарадавікі і адміністрацыя, сведчылі аб небяспецы. Зноў забаранілі рабочым вольна збірацца ў часы перапынку, зноў па пятах некаторых рабочых хадзілі шпікі, суправаджаючы іх на работу і з работы.

— Стаяць, сволачы! — кідаўся ў расчыненае акно на двор, дзе стаяў гарадавік, прыдушаны, поўны нянавісці выбух.

— Ш-ш, падліпала ідзе! — шапталі пры набліжэнні майстра.

— Занадта прызвычаіліся мы маўчаць! — кідаў, як іскры з-пад молата, словы каваль кавалю.

— Судзяць! Суддзі скорыя і міласцівыя! — нібы сам

сабе мармытаў гарбар, згінаючыся разам з суседам над расцягнутаю шкураю.

Прыдушаны няясны ропат, як гул набліжаючага горнага току ў часе навальніцы, нарастаў з кожным днём і прарваўся ў дзень суда.

Напярэдадні суда Зыкаў позна ўвечары прыйшоў да Кацаў з досыць вялікім клумкам пад пахаю. Сёма, калі яны засталіся ўдвух у бакоўцы, дзіву даўся: Зыкаў выцягнуў з клумка ладную пінжачную тройку, белую, як снег, сарочку, лакавыя шчыблеты, саламяны капялюш абечкам: нават былі загорнуты ў паперку розныя дробныя прычындалы: засцяжкі да манішкі і манжэтаў, скрутак фіксатуары і іншая драбяза.

— Навошта табе ўся гэтая дрэнь?

— Пайду заўтра на суд.

— Да ты мазгі прапіў, ці што? Чаго табе там трэба? Лезеш у агонь.

— Ну што ж? Цягне мяне туды паглядзець на камедыю...

Сёма доўга і горача адгаворваў Зыкава. Нават Лія была прыклікана на дапамогу, але і яе палкія словы нічым не пасобілі.

— У рэшце рэшт, ты маеш дазвол ад партыі?

— Маю, і праз арганізацыю дастаў вось гэта ўсё дабро,— са смехам паказаў Зыкаў на грудку раскіданае адзежы.

— Ну, тады і я пайду з табою, згінеш ты адзін,— горача прагаварыў Сёма.

Абмеркавалі, што, бадай, і лепш быць там на ўсялякі выпадак удвух. Лія пачала даводзіць, што ім абодвум папасці ў памяшканне суда будзе цяжкавата, могуць выклікаць падазронасць паліцыі. Яна прапанавала, каб ёй самой пайсці, ёй здатней дастаць і «приличную» адзежу. Да раніцы былі гатовы білеты на ўваход, а каля дзесятае гадзіны па Татарскай вуліцы ў бок цэнтра прайшла здатная паненка пад парасонам і вуаллю.

Пасля вынясення прыгавору паненка пад вуаллю сышлася ў людской мешаніне каля пад'езда з далікатна апранутым маладым чалавекам. Ад яго толькі занадта пахла парфумаю. Карэты, фаэтоны ад'язджалі, жвавы гоман нёсся з усіх бакоў. Каля варот, якія выходзілі з двара будынка, дзе быў суд, згрудзіўся натоўп. Адтуль несліся стогны і енкі.

— Ай, божачка ж мой, што цяпер будзе! — перарываючыся плачам, прычытваў жаночы голас.

— На каго ж мы, сіраты, застанемся!

— Пайшла ты адгэтуль, пакуль па шыі не дастала! — выкрыкнуў злы мужчынскі голас.— Вось вазьму ў паліцыю — паскавычаш ты!

— Не чапайце яе! На табе, нябожа, вазьмі грошай.

Паненка пад вуаллю прагна разглядала гэтае з'явішча. Пані і паненкі, якія некалькі хвілін назад воплескамі сустрэлі прысуд бацькі, соўвалі цяпер залатоўкі ў страмчатыя рукі яго дачкі.

— Не захапляйцеся нічым і ніколі,— шапнуў ёй яе кавалер.— Выведзіце адгэтуль дзяўчыну... Мне трэба будзе бачыцца з ёю,— яшчэ цішэй прагаварыў ён.

Паненка чуць прыкметна матнула галавою і, распусціўшы парасон, пайшла да таго месца, адкуль чуўся плач. Натоўп ужо значна парадзеў. Адны выканалі сваю хрысціянскую павіннасць, другія проста разышліся ад угавораў паліцэйскага.

«Паніч» з парфумаю пайшоў павольна ў другі канец вуліцы. Ён чуў ззаду галасы.

— Пусці мяне хоць зірнуць на іх! — маліў жаночы голас.

— Кажу, прэч ідзі! — змагаўся мужчынскі.

— Дазвольце яе мне! — зазвінеў тонкі далікатны голас. Я з жаночага дабратворнага камітэта.

— Ну, вось і добра, што добраахвотныя памочнікі знаходзяцца,— прабурчэў задаволены голас квартальнага.

Плач і енкі каля варот прыпыніліся. Азірнуўшыся, «па-

ніч» Зыкаў угледзеў, што паненка пад парасонам спакойна і не спяшаючыся ішла побач з дзяўчынаю ў чырвоным андараку і шэрай суконнай копце.

Зыкаў перайшоў дзве-тры вуліцы і спусціўся ўніз на Ляхаўку. Тут часцей стаялі гарадавікі, каля моста цераз Свіслач быў нават квартальны з двума радавымі. Яны аглядалі, быццам мацалі, рэдкіх прахожых. Квартальны асабліва ўпарта разглядаў набліжаўшага Зыкава. Уся постаць і выгляд яго былі незнаёмыя ды незвычайныя ў гэтым месцы. Сюды не заглядвалі для праходкі людзі ў манішках, а ўсіх служачых на прадпрыемствах ён ведаў як свае пяць пальцаў.

У Зыкава калацілася сэрца: запыняць яго ці не? Не мяняючы кроку, ён павольна ішоў, насвістваў; даставў з кішэні срэбны партабак і закурыў. Праходзячы міма квартальнага, бяспечна зірнуў на яго. Квартальны з сваімі памочнікамі не зварухнуліся з месца. Добра прыгнаны пінжак ангельскага сукна і парфума выклікаюць пашану ў добрага палісмена.

Такім жа крокам дайшоў Зыкаў да грабарні Імрота, мінаваўшы яшчэ два паліцэйскія пасты. Як толькі адураюча-смуроднае паветра шуганула на яго з акна, ён прыбавіў ходу і ўскочыў у двор.

— Таварышы! Прысудзілі на катаргу! — палыхнуў яго голас у атручаным паветры.

Спіны разагнуліся. Голыя рукі з закасанымі прасмоленымі рукавамі павіслі ў паветры. Вочы ўставіліся ў адну кропку. Момант жуткага маўчання. Толькі пас, круцячы дарэмна калясо, лупае не запраўленаю добра засцяжкаю.

— А-а-а! — разрывае сцены, вырываецца праз вокны, дзверы гук сотні галасоў. У гэтым адзіным гуку сотні людзей здзіўленне, усхваляванне, абурэнне, гнеў, пагроза. Паднятыя рукі з вострымі, як брытва, нажамі, здавалася, гатовы былі абрушыцца на нейчае горла.

— Гэта што яшчэ за выбрыкі! — ускрыкнуў, хамянуўшыся, майстра Майзэль.

— Хто дазволіў прыпыняць працу, маць тваю? — зароў майстра Пачэпка. Разам з тым у паветры трэснула звонка аплявуха, а потым нешта цяжка грукнула аб падлогу.

— Я табе, сволач! Працаваць не кідай! — урчэў голас Пачэпкі.

— Ах, ты біць! Казні яго, сабаку! — зароў натоўп рабочых, ужо пакінуўшых месца. Па ўсім памяшканні пачалася мешаніна; Пачэпка недзе над варстатам цяжка соп, абараняючыся ад замахаў дзесяткаў рук.

— Што ты робіш? Уцякай хутчэй! Вось! — Сёма кінуў ахапку ашамеццяя.

— На вуліцу, на вуліцу! — напружана шаптаў Зыкаў.

Ён скокнуў уніз. У квасільні споўдаўся сярод сваіх чапоў стары Шлёма. Зыкаў схапіў яго за руку і штурхнуў за дзверы, у другое аддзяленне. Зашчапіўшыся на кручок, Зыкаў у момант сарваў з сябе панскую адзежу і кінуў у смуродны чоп, перамяшаў яе прэнтам з шкурамі. Праз хвіліну з квасільні выйшаў звычайны гарбар з шкураным фартуком.

Наверсе гоман, крыкі яшчэ павялічыліся. Дзверы з грукатам адчыніліся, і па сходках кінуўся чалавек.

— Здаганяй яго, гада! — вырваўся рэў праз дзверы, і натоўп кінуўся на двор следам за ўцякаўшым.

Зыкаў кінуўся з усімі на вуліцу. З абодвух канцоў Ляхаўкі свісталі гарадавікі... Квартальны і два-тры паліцэйскія з рэвальверамі ў выцягнутых руках трусілі да гарбарні. Пабачыўшы натоўп, яны прыпыніліся і сталі бокам абыходзіць крычаўшых напружаных рабочых. Баязлівыя вочы свідравалі натоўп, шукаючы там некага.

— Давай штандар!

З сярэдзіны натоўпу, калыхнуўшыся, падняўся чырвоны сцяг і затрапятаў на шэрым фоне брудных сцен гарбарні.

— Уперад, таварышы! Ганьба катам!

— Ён недзе захаваўся на гарбарні! Вы помніце яго, як ён праходзіў цераз мост? Ну, дык з-пад зямлі яго выкапаць,— загадаў квартальны.

Зараз на вуліцу высыпалі рабочыя ад Ракаўшчыка. Узвіўся другі сцяг. Раздалося магутнае:

Вихри враждебные веют над нами...

Паліцэйскія атарапелі і стаялі нерухома, блядыя, з трасучыміся губамі. Іх было мала, каб трымаць такі вялікі натоўп. За мостам стаў збірацца народ па баках вуліцы.

— Далоў царскіх суддзяў! Далоў катаў! — грымела калона рабочых.

З няслабнуўшаю «Варшавянкаю» калона пад чырвонымі сцягамі перайшла Магазінную, выйшла на Губернатарскую.

— Тэлефоны ўсе там папсаваны? — ціха запытаўся Зыкаў.

— Усе,— толькі губамі адказаў Сёма.

У нейкім натхненні натоўп паскорыў ход, хутка праходзячы па Губернатарскай да Саборнага пляца. Выклікі абурэння супраць сённяшняга прысуду не сціхалі. Вулічны натоўп збіраўся на тратуарах. Два чырвоныя сцяжкі смела і горда прарэзвалі сабе дарогу скрозь гушчу мяшчан, усыпаўшых вуліцу.

Губернатар задаволена слухаў праект даклада міністру аб выніках ляскаўскай справы. Асабовы чыноўнік, адчуваючы, што стыль спадабаецца начальніку, дамагаўся яшчэ больш выразна і падкрэслена дачытаць заключныя сказы.

Раптам пад самым акном пачулася:

Смело, товарищи, в ногу!
Духом окрепнем в борьбе...

Губернатар пабялеў. Ліст выпаў з рук чыноўніка і павольна паляцеў на кавёр.

— Што гэта?.. Што гэта, я вас пытаю? — стукаючы зубамі, накінуўся губернатар на чыноўніка.

— Не... не магу знаць! — жалка трасучыся, лепятаў той.

— Як вы смееце не ведаць?! — грукаючы абцасамі аб падлогу, піскнуў парасём таўсценны генерал.

— Тэлефон... Жандарскае... Царыцынскі полк... на Саборную...

— Далоў царскіх катаў! — грымнула за акном. Далоў паліцыю ■ заводаў!

На Саборным пляцы сцягі калыхнуліся і зніклі. Сціхла. Падпарадкоўваючыся інстынкту самаахові, калона, не чакаючы папярэджання, у момант рассыпалася па шчылінах старога горада. Губернатар, асцерагаючыся, зірнуў з-за канта сцяны ў акно. Пляц быў пусты. З-за вугла дома губерскага праўлення выскачыў узвод конных гарадавых з гатовымі да бою шашкамі. Дамчаўшыся да царквы, узвод недаўменна прыпыніўся, аглядаючы роўны брук і звычайныя будынкі — казначэйства, касцёл, губерскі дом, дзе не было нічога варожага. Шашкі бліснулі, нібы сарамліва ўсміхнуліся, і апусціліся ў похвы.

Губернатар працёр вочы. На пляцы, апроч паліцыі, нікога не было. Ага, уцяклі! Але ж сярод белага дня асмеліліся дэманстраваць. Значыць, нехта кіраваў імі! Губернатар выклікаў чыноў, аблаяў за нядбайнасць і аддаў загад выявіць учыншчыкаў гэтай ганебнай для чэсці паліцыі справы. Канчаткова рэдагуючы тэкст даклада міністру аб выніках суда, ён дадаў, што некаторымі ненадзейнымі элементамі — «подонками общества» была наладжана дэманстрацыя супраць прыгавору, але яна распалася ў самым зачатку. Трэба было паказаць сябе перад начальствам і ў паграджаемым становішчы і ў той час добрым адміністратарам, пры якім распусты няма і не будзе.

## V

Палкія вочы Сёмы Каца раз-пораз кідалі снапы праменняў на Зыкава. Сёма не чуў ног пад сабой. Ён не быў здольны разабрацца ў павуціне вуліц, да якіх прывык з дзяцінства. Зыкаву даводзілася папіхаць яго ў бок, каб накіраваць за рог другой вуліцы. Сёма страціў усякае ўяўленне

аб той пагрозе, якая ішла па пятах, магла насцігнуць іх кожную хвіліну.

— Вось і пачалося, таварыш Зыкаў,— натхнёна шаптаў ён, дрыжачаю рукою шукаючы руку Зыкава.— Зварухнуліся, як зварухнуліся! Няхай жыве...

Ён крыкнуў бы ад усяе сілы прывітанне наступаючай пралетарскай рэвалюцыі, чырвоныя сцягі якой віліся высока ў паветры перад яго вачамі. Але ўпарта-жорсткая рука Зыкава раптоўна павярнула яго ў вузкі завулак.

Зыкаў імкнуўся як мага хутчэй аддаліцца ад месца, дзе разышлася дэманстрацыя. Быццам без жаднае мэты ён круціўся з Сёмаю сярод натоўпу па вузкіх шчылінах вуліц старога горада, трапляючы з вуліц у завулкі прахаднымі дварамі, праз крамы.

— Ты стаў непрытомны ад радасці, Сёма,— папікнуў Зыкаў таварыша, як толькі яны выцерабіліся на менш люднае месца.— Памятай, што рэвалюцыянер не павінен ніколі траціць розум.

Сёма адразу асунуўся, быццам з яго нейкаю помпаю выцягнулі сілу. Апаўшым сіплым голасам ён прамовіў:

— Можа, ты і праўду кажаш... нават напэўна праўду. Але толькі «не разумны» ўздым робіць такі цуд, які адбыўся сёння.

— Няхай сабе так, але трэба глядзець уперад і ведаць, што рабіць заўтра... Куды ж мы зараз пойдзем?

Гэтае запытанне вярнула Сёму да рэчаіснасці, штурханула яго на шлях вырашэння канкрэтнага пытання. Замест узвышанага энтузіязму, а потым упадку, цяпер вярнулася да яго звычайная жыццярадасць, адчыненасць.

— Куды? — скалячы зубы, запытаўся ён,— вядома, да мяне!

Яны хутка прайшлі адзін-другі завулкі. Ніхто з стрэчных не звяртаў на іх увагі — забруджаныя рабочыя на абочыне горада былі звычайнымі. Без асаблівых прыгод яны дайшлі б да халупы Сёмы. Але на рагу адной з папярэдніх вуліц ім спаткаўся выпэцканы скуранік з фартухом, з зака-

санымі рукавамі бруднай сарочкі: быццам ён вось зараз толькі выйшаў з завода, на хвіліну нейкую кінуўшы працу. Ён боязна азіраўся па баках, назад, ішоў то павольна, то трухой. Непамерна доўгія рукі яго целяпаліся цапамі, і здавалася, што яны прычэплены толькі дзеля таго, каб трымаць пудовыя кулакі з калматымі пальцамі. Перапуд скрывіў яго твар, запаўшыя вочы былі схаваны пад навісшым шарсцiннем густых броваў. Ён не адразу пазнаў Сёму ці не хацеў пазнаць. Толькі на некаторым аддаленні ад рога вуліцы ён падышоў блізка.

— Сёма, уцякай барзджэй! — ляскаючы ад сполаху зубамі, хрыпануў ён.

— Чаго ж ты перапалохаўся? — мяняючыся ў твары, запытаўся Сёма.

— Там... там ужо... злавілі... нашых гарбароў,— перацінаючымся голасам адказаў ён, матануўшы некуды назад рукою.

Перапуд гарбара наддаў нервовасці Сёме і Зыкаву. Мімаволі яны прыбавілі ходу. Гарбар нешта мармытаў сабе под нос. Раптам ён запыніўся і турзануў за пінжак Сёму.

— А што ж гэта мы нарабілі? Што будзе з намі, з дзецьмі нашымі заўтра? Га? Ты разумееш гэта, блазан?

Выцвіўшыя вочы старога гарбара ўпарта зачапіліся за Сёму, на момант толькі перакідаючыся на незнаёмую постаць Зыкава.

— Гэта ж быў бунт! — выдушыў гарбар прызнанне і ўвабраў голаў у плечы, быццам хацеў схаваць шыю ад жорсткае вяроўкі.

Сёма спрабаваў супакоіць свайго таварыша, але гэта яму не ўдалося. Той тросся ад страху.

— Паслухалі нейкага там паніча, а цяпер — прападаць! І куды цяпер пойдзеш? Там, дома, мо чакаюць ужо архангелы... Ну што ж рабіць?

Пудовыя кувалды-кулакі цягнуліся да Сёмы, ім трэба было зачапіцца за каго, абаперціся на чыюсь моцную руку.

— Хадзем з намі,— крануўшыся ўперад, прапанаваў Зы-

каў. Ґарбар недаверліва азірнуў яго, але ўсё ж пайшоў. Аднак ён целяпаўся ззаду за Сёмаю нядоўга. Праз некалькі хвілін ён раптам павярнуўся назад.

— Карыцца, карыцца трэба ісці,— сам з сабою, але досыць чутна мармытаў ён. Сёма пусціўся быў здаганяць таварыша, але той ужо трухом нёсся назад, туды, адкуль ён так спяшаўся ўцячы. Гэтае здарэнне збянтэжыла не толькі Сёму, але і Зыкава. Перш за ўсё станавілася відавочным, што праз кароткі час жандармам стане вядомым, хто з'яўляўся падбухторшчыкам, хто нёс сцяг і ўсё іншае, звязанае з гэтаю раптоўнаю дэманстрацыяй.

Азіраючыся боязна, як стары гарбар, спяшаліся хутчэй прайсці вуліцы Зыкаў з Сёмаю. Абодвум здавалася, што кожны стрэчны дапытліва разглядаў іх. Маленькія драўляныя дамы пазяхалі расчыненымі дзвярыма і вокнамі, каля ганкаў соўгаліся старыя яўрэйскія кабеты, седзячы побач за столікамі, на якіх блішчэла дзве-тры шклянкі ды бутэлькі з каламутным квасам альбо сідрам. Вуліцы гарадской абочыны мелі самы звычайны выгляд. Але ў іх маўклівасці, соннасці адчувалася варожасць, пагроза.

Зыкаў і Сёма маўчалі. Трывога, якую закінуў у іх сваім перапудам стары гарбар, не пакідала іх, сцінала ім губы. Кожны з іх разумеў, што заставацца дома зусім небяспечна, а як схавацца — яснага адказу яшчэ не было. Але ўсё ж яны парашылі наведацца на кватэру Сёмы.

Старая Сара была здзіўлена такім раннім прыходам Сёмы з работы. Яшчэ больш усхвалявалася яна, калі, прыгледзеўшыся, прыкмеціла трывогу на тварах сына і Зыкава.

— Бяда якая-небудзь? — запыталася яна, уваходзячы ў хату следам за мужчынамі.— Лія недзе гіне цэлы дзень — я ўжо не ведаю, што думаць... і ў вас, відаць, нешта дрэннае.

— Нічога, цётка Сара,— нацягнута-спакойным голасам адказаў Зыкаў, здымаючы чужое гарбарскае адзенне.— Трэба вось хутчэй мяняць свой выгляд — ды драла!

— Як? Куды, сынок? — са спалохам устрапянулася старая.

— Уцякаць трэба, а не, дык пападзеш у моцныя кіпцюры... Ну, Сёма, табе таксама трэба спяшацца.

Старая кінулася да сына, абхапіла яго за шыю.

— І з табою здарылася? Мой родны! — яе слёзы закапалі на плячо Сёмы.— Нам цяжка будзе без цябе... Але ідзі, ідзі, сынок, ідзі, няхай мяне забяруць лепш... Ідзі!

Яна расчапіла рукі, выцерла шурпатаю далонню высушаныя шчокі, вочы і заспяшалася ў сенцы даставаць нейкую там рэч для Сёмы.

— Сёння ж нам трэба выехаць у Бабруйск, там знойдзецца прытулак на нейкі час,— ціха прагаварыў Сёма, як толькі маці выйшла з хаты.— А калі і там стане небяспечна, дык накіруемся ў Гомель — там больш моцная арганізацыя.

— Добра, толькі нам трэба змяніць вопратку ды паведаміць таварышам,— спакойна, быццам справа ішла аб самых звычайных рэчах, адказаў Зыкаў і пачаў здымаць з сябе выпадковую гарбарскую адзежу, якая так трапна дапамагла яму непрыкметным для паліцыі выйсці назад з гарбарні Імрота.

Сёма выйшаў з хаты. Можа, яму трэба было што-кольвечы сабраць на дарогу, можа, ён проста хацеў пабыць некалькі хвілін адным з мацераю. Зыкаў больш тлумачыў гэта другою прычынаю. Схільнасць яго да гэтага тлумачэння залежала ад яго ўласных пачуццяў. Часта наглядаючы сям'ю Кацаў, шчырасць і цеплату адносін паміж старою Сараю і дзецьмі, а таксама і Сёмы да сястры, Зыкаў часта зайдрасціў гэтай простай сямейнай спаянасці. У яго жыцці, як толькі ён стаў на ўласныя ногі, яму ніколі не даводзілася адчуваць сямейнай блізкасці, і дзеля гэтага бывалі часіны, калі ён востра адчуваў патрэбу ласкі, зайдрасціў другім, хто меў гэтыя магчымасці. Вось і цяпер, калі праз некалькі хвілін яму давядзецца зрабіць новы крок у невядомую будучыню, можа, было б лягчэй, каб можна было развітацца з мацераю, як Сёма. Думкі гэтыя прамільгнулі, згладзіўшы на момант тую суровасць, якая характэрна была для твару

Зыкава ў апошні час. Але так было толькі на момант. Ад Сёмы думкі Зыкава перанесліся на старога гарбара, які збянтэжыў іх на вуліцы сваім перапудам, на гарбарню, на здарэнні гэтага дня, на дзейнасць улады, якая, мусіць, цяпер кідаецца на вобыскі і арышты, на Сымона Кавальчыка, якога засудзілі дарэмна — праз яго, Зыкава. Суровасць, жорсткасць зноў закавала твар Зыкава. Ён упарта, з каменным тварам, глядзеў у акно.

Раптам шоргат абудзіў яго ад задуменнасці. Ад неспадзеўкі Зыкаў уздрыгануў і азірнуўся: у цёмным кутку каля печы сядзела на куфры Ануля. Яна ва ўсе вочы разглядала Зыкава, некалі чырвоны твар яе быў белы як палатно. Зыкаў адразу супакоіўся, успомніўшы, як ён даручыў Ганулю каля будынка суда клопатам Ліі; праз гэта яго не дзівіла яе прысутнасць тут. Ануля ж была, напэўна, усхвалявана гэтым спатканнем, бо там на вуліцы яна не пазнала ў панічы з капялюшыкам Зыкава.

— Здрастуй, Ганулял Як ты апынулася тут? — быццам нічога не ведаючы аб Кавальчыках, запытаўся Зыкаў.

Сударга сцягнула круглы твар Ганулі, і яна затрэслася ў прыдушаным плачы. З хвіліну яна не аднімала ад вачэй падол тоўстага андарака. Гразкія босыя ногі яе дробна калаціліся, глуха грукаючы ў бок высокага куфра, на якім яна сядзела.

— Бацьку засудзілі на катаргу,— ледзь выгаварыла яна, вызваляючы твар з-пад андарака.— Што ж гэта цяпер будзе? — накшталт звычайнага вясковага прычытання працягнула яна.

— За што ж гэта яго? — запытаўся Зыкаў і прыцяў губу зубамі. Яму стала брыдка за нахабнасць гэтага запытання.

— За цябе засудзілі майго бацьку і брата! — са злосцю, ужо без жаднае нуды ў голасе адказала яна.

Зыкаву стала душна. Ён прайшоўся разы два па хаце, шукаючы слоў. Уцешыць дзяўчыну, апраўдвацца перад ёю, сказаць, што ён пойдзе сазнацца перад пракурорам і гэтым

вызваліць яе родных — усё гэта круцілася ў яго галаве. Суцяшаць, апраўдвацца — мана, фальш, якой ён не мог дапусціць да сябе, не здольны быў выказаць. Застаецца толькі адно, каб зменшыць гараванне Ганулі і яе мацеры — гэта з'явіцца да жандараў самому. Першы раз паўстала перад Зыкавым у яго жыцці такая задача. Цяжка было губіць справу, якой аддаваў ён сваё жыццё, цяжка было і тое, што праз яго ўчынкі ідзе на катаргу Кавальчык з сынам. А тут яшчэ гэтыя прагныя вочы дзяўчыны неадчэпна сочаць за кожным яго рухам. Зыкаў гатоў быў сказаць, што ён пойдзе даказваць невінаватасць Ганулінага бацькі, але замест гэтага ён запытаўся:

— Ты, Ганулям надта ненавідзіш мяне за свайго бацьку і брата?

Гануля доўга нічога не адказвала. Ружовыя плямкі аздобілі яе крэйдавы твар, у вачах заігралі цёплыя іскаркі.

— Мы з маткаю вельмі пракліналі цябе, як праз гадзіну пасля... пасля забойства прыйшлі з маёнтка і забралі татку з братам. Але... але ўвесь час я праз сябе гаварыла пацеры і прасіла Міколу-цудатворца, каб ён выратаваў цябе... ад напасці.

Сказаўшы гэта, Гануля сарамяжа затулілася рогам хусткі. Зыкаў як укопаны запыніўся сярод хаты, без жаднае патрэбы выцягнуў з кішэні акуляры, асядлаў імі нос, потым зняў іх, зноў начапіў. Словы Ганулі так ускаламуцілі яго істоту, што ён страціў на нейкую хвіліну яснасць уяўлення акаляючага. Каб з ім змагаліся, патрабавалі ад яго чагось, тады ён гатоў бы дзейнічаць. А цяпер як быць? Нязграбна падышоў ён да куфра і моцна сціснуў сухую і цвёрдую, як дубовы корч, руку дзяўчыны. Незвычайная да такога жэсту, яна груба турзанула працягнутую ёй руку Зыкава.

Ён адчуў нешта цёплае на сэрцы. Ён нават мог лічыць, што яму ёсць з кім развітацца перад адбыццём у іншыя мясцовасці на немаведама які час. Можа, ён і загаварыў бы аб гэтым, але Гануля дала іншы напрамак думкам.

— Ты мусіш зноў уцякаць, я чула. Дык чаго ж вы марудзіце, крый божа вас тут зловяць?

— А і ўсапраўды!.. Куды ж ты пойдзеш, Ганулядз? — напаследак прагаварыў Зыкаў.— Добра было б, каб і ты пакінула гэтую хату, пакуль прыйдзе сюды паліцыя.

— Добра, я зараз! — і Ганулядз шпарка саскочыла з куфра; яна схапіла свой клумачак, завязала яго і пачала апранаць рыжую цёртую сярмяжку.

— Не! ты крыху пачакай, уперад мы выйдзем... Дык як ты думаеш, мне трэба ісці вініцца за ўрадніка ці не? — з вялікаю напружанасцю запытаўся Зыкаў, стоячы ўжо каля дзвярэй.

— Не! — зусім ціха, але выразна адказала дзяўчына.

Гэтая самаахвярнасць дзяўчыны, якая па-дзіцячаму проста аздабляла сваю прыгажосць фарбаю ад каляровае паперы, была зусім незразумелаю. Яна не патрабавала, каб Зыкаў сваім прызнаннем вызваліў яе родных ад катаргі. Ці гэта была ўсвядомленасць ёю грамадскага значэння працы яго, Зыкава, ці яна проста не верыла ў магчымасць вызвалення бацькі, нягледзячы ні на якія ахвяры і лічачы прысуд як кару нябеснае сілы, ці тут было што яшчэ іншае. Перад Зыкавым прамільгнулі ўсе гэтыя запытанні ў той кароткі час, як ён апранаў прынесеную Сёмам сялянскую сярмяжку, якая павінна была пасобіць яму ўцячы з горада.

У хату ўвайшла і старая Сара. Яна дасціпна, як выпраўляючы сына на работу, пасабляла мужчынам прыняць іншы, не рабочы выгляд.

— Ну вось,— задаволена гаварыла яна,— цяпер вы якраз вясковыя дзецюкі. Яшчэ толькі набярыце сабе на рынку абаранкаў, пасвісцёлаў, бутэльку дзёгцю — і тады да вас прычэпкі не будзе.

— А як жа вы, цётка, без Сёмы жыць будзеце? Трэба, каб вам тут нашы дапамаглі хто кольвечы,— прагаварыў Зыкаў.

— І-і, сынок! Вашым усім туга будзе, а мы з Ліяю як-

небудзь пераб'емся: рублі са тры ў мяне ёсць — на месяц хопіць, а там... можа, Ліечка работу дастане.

— Ну дык будзь здарова, мама! Не бядуй па мне,— сказаў Сёма і бокам, не паглядзеўшы нават на маці, пасунуўся ў сені.

Але Зыкаў і Ганула нават і не выйшлі з хаты: Сёма загарадзіў ім дарогу. Праз момант ён уціснуўся зноў у хату, за ім ускочыла, ледзьве пераводзячы дух Лія. Агромністыя, прамяністыя вочы яе свяцілі, як ліхтары, губы былі сцяты, адкрыты лоб блішчэў расінкамі поту.

— Хутчэй! Па вуліцы ідзе паліцыя!

Яна гаварыла прыдушана ціха, з перацінкамі ад замарання хуткаю хадою і ад усхвалявання перад пагрозаю. Але голас яе сярод смяротнай цішыні, якая напоўніла хату, здавалася, гучаў як набатны звон.

— Не крычы так! Далёка яны? — як чужым голасам, запытаўся Зыкаў.

— Бачыла я, як яны з завулка выйшлі на нашу вуліцу.

— Зашчапі дзверы на крук!

— Адсоўвай камод, залазь у каморку!

— Пісталет каб быў у кішэні.

— А там з каморкі — на дах і ў сад!

Праз момант дзірка ў каморку, дзе так часта начаваў Зыкаў, была вольнаю. Першаю сунулі туды Ганулю — пакідаць яе было нельга, бо можна было навесці паліцыю на след уцякаўшых. Яшчэ момант — і ў бакоўцы апынуўся Зыкаў, які зараз жа застукаў дзверкаю ў столі.

— Не пушчайце іх, пакуль не заложыце дзіркі і не заставіце камодам! — апошнім высоўваючы галаву ў хату з каморкі, параіў Сёма.

— Вось ужо мільгаюць за плотам... вось пярэдні адчыняе брамку! Хутчэй, Сёма! — хрыпела Лія, з жахам у вачах пазіраючы ў акно.

Кабеты кінуліся закладваць калодкамі дзірку ў каморку. Яшчэ не залажылі яны апошняга бруса, як тупат пачуўся каля самай хаты.

— Хутчэй... камод!

— Не чапляйся за завесу, каб не ўбачылі праз акно!

У дзверы груканулі ўладна і настойліва.

— Хутчэй камод!

Але камод рухаўся павольна. Рукі трэсліся, у нагах млявасць. На ліха камод зачапіўся недзе рогам за вытыркшую з падлогі дошку і ніяк не слухаўся, ківаючыся на месцы пад нямоцнымі рукамі перахваляваных кабет.

У дзверы загрукаталі так, што дрыжалі хліпкія сцены хаты; жаласна звінелі шыбкі ў вокнах.

— Ну, мама, што ж гэта будзе! — шаптанула Лія.— Давай схопім яшчэ! Жудасць моманту надала сілы кабетам, і непаслухмяны камод напаследак трапіў на сваё звычайнае месца. Шчыльна да яго, паўз сцяны прыставілі яшчэ тапчан з раскіданым па ім ашамеццем.

Грукат у дзверы аднавіўся з новаю сілаю. Сара, ледзь цягнучы ногі, пайшла ў сенцы. Крук бразнуў, скінуты з прабою.

— Тут жыве Сімон Кац? — агаласіў хату густы, басісты голас. Увайшоў тоўсты прыстаў у шэрым афіцэрскім шынялі, а за ім два чорных паліцыянты. Лія акінула іх вокам і зірнула за акно: там таксама тырчалі чорныя слупы. Непрыкметна прыцінаючы губы, Лія праглася стрымаць нутраную дрыготку. Перад яе вачамі стаяў малюнак, як выцярэбліваюцца з чужога саду брат з Зыкавым.

— Што ж ты, ягадка, не адказваеш? — раздаўся зноў нахабны голас.

— Сімон Кац жыве тут! — чуць дрыжаўшым голасам адказала Лія.

Старая Сара, хістаючыся, увайшла ў хату і прыпынілася каля парога, абапёршыся аб вушак.

— Ты што ж, чортава ведзьма, так доўга не адчыняла,— зароў на яе прыстаў.— Чаго ты хаваешся сярод божага дня, як зладзейка?

— Завошта пан прыстаў так лаецца? — нервова запыталася Лія, крануўшыся да мацеры, каб падтрымаць яе.

— Не ўвязвайся, хлюндра, не ў сваю справу,— асек яе прыстаў.— Скажы, качарга, Сімон — твой сын?

— Так! — спакойна адказала старая.

— А дзе ён зараз?

— На рабоце, ён кожны дзень працуе ў гарбарні Імрота. Яшчэ рана быць яму дома... А ў пана прыстава справа якая-небудзь да майго Сёмы?

— Не табе аб справах ведаць. Дык ён не прыходзіў з работы, кажаш?

— Далібог, не!

— Брэшаш, сука! Ану, Бандарчук, страсяні там барахло!

Праз некалькі хвілін скарб Кацаў быў перратрэсены да самае малое злыбеды. Сёму шукалі ў сенцах, на печы, пад печчу, у куфры; распаролі падушкі, сеннікі з трухлявую саломаю, шукаючы кніжак, папер. У Ліі калацілася, замірала сэрца кожны раз, як краталі ахоўны камод; ён лёгка пасоўваўся пад рукамі дзябёлых з рыжымі вусамі гарадавых. Вось адставяць яго ад сцяны і адразу знойдуць заложаны калодкамі ход у каморку, а там, напэўна, ёсць нелегальшчына. Але верны камод не сыходзіў далёка ад свайго месца.

Ператрэслі, перавярнулі ўсё, напусцілі поўную хату пылу, пуху. Прыстаў раз-пораз чхаў, пэцкаючы бялюсенькую хустачку. Ён нерваваўся, што прыходзіцца пакідаць хату з пустымі рукамі. Выходзячы, ён нешта зашаптаў двум паліцыянтам. Праз хвіліну ўвесь кардон знадворку таксама быў зняты і чорныя сілуэты хістануліся за плотам на вуліцы.

Дзень пачаў згасаць, апусціўся змрок, прыйшла ноч, а два паліцыянты сядзелі ў хаце Кацаў. Яны не выпускалі на двор ні Лію, ні маці. Уначы яны драмалі па чарзе, несучы вахту з нарыхтаванымі пісталетамі.

Кабеты не лажыліся. Старая Сара сноўдалася па хаце, сенцах, нібы не знаходзіла сабе месца, дзе супачыць. Лія трывожна думала аб лёсе Сёмы і Зыкава.

— Дзе яны зараз, ці ўцяклі яны? — шаптала яна мацеры, датыркаючыся яе вуха сваімі гарачымі губамі. Усю ноч, усю вясновую раніцу трапяталі дзве кабеты. У змроку пяшчотнай вясновай начы маячылі ў маленькай хатцы два чорныя сілуэты, трымаўшыя ў руках цьмяна блішчэўшыя браўнінгі.

Каля восьмае гадзіны, калі ранішняе сонца ружовымі праменнямі прасякала абсыпаны белаю цвіценню суседні сад, Лія ішла паміж двух чорных шынялёў. На плячах іх іскрыліся шаблі, кабуры на баках былі расшпілены.

## VI

Абапал шляху раскінуліся неабсяжныя прасторы палёў. З аднаго боку ішлі шырачэзныя роўныя палеткі, якія належалі пану Ляскоўскаму. Яны рунелі буйна росшым жытам, сівелі маладымі парасткамі аўса. Па другі бок беглі ўдалечыню вузкія шнурочкі сялянскіх надзелаў, сярод якіх трапляліся выразкі ў адным больш буйным кавалку, адкуль блішчалі сваёю навізною хаты і іншыя будынкі. Гэта — нядаўна ўтвораныя хутары. Паміж надзельных стужак чарнеліся загоны, да якіх яшчэ не датыкаўся плуг ці саха. Пад ясным сонцам, сярод свежае руні гэтыя загоны выглядалі нудна, як кінутыя шкілеты. Пачарнелае жніўе з мінулага лета ашчэрвалася, як дзёсны з віхляючымі зубамі. Лебяда, аўсюг, валошка прабіваліся асобнымі кустамі, пышна разрастаючыся на прасторы. Такою была стужка, каля якое запынілася Ганула. Яе ведала яна з дзяцінства, ад яе часта яна адчувала ламоты ў спіне пасля палоння. Але ніколі раней аб гэтай пары загон не выглядаў такім недагледжаным. Толькі цяпер ён стаў такім. Гаспадары, у якіх няма коней, апошнімі ўзаруць і засеюць свае загончыкі. Той, хто мае каня і плуг, перш скончыць свае работы, а потым ужо, калі зжаліцца, дасць каня бедаку. Вось і ляжаць няўзоранымі, незасеянымі гэтыя закончыкі аж да канца мая. Варона ўжо хаваецца ў жыце (значыць, можна пачынаць купацца ў рэч-

цы), авёс пайшоў у стрэлку на загонах багатыра, а бясконны бядак толькі пачынае корпаць задзірванелы локаць зямлі.

Ганулю зняла торбачку з плячэй, палажыла яе разам з кійком на зямлю, а потым і сама села. Да хаты заставалася прайсці яшчэ не больш як вярсту, але босыя ногі яе падбіліся ад доўгае хадзьбы. Ад самага Мінска яна ішла, заначаваўшы толькі адзін раз у нейкай вёсцы, якая трапілася на гасцінцы. Змораная падзеямі і дарогаю, яна бесцікаўна глядзела на запушчаную дзікую палоску поля. Ні прыгажосць шырокага краявіду з бліскучаю рэчкаю ўдалечыні, ні яснае сонца, ні песні жаўранкаў увышыні блакітнага неба не прыцягвалі яе ўвагі. Яна толькі ўспомніла, як, бывала, вольна і весела пяяла, ходзячы за бараною па гэтым загончыку. Ён цяпер маўклівы і непрыветны, нудны, як дажджлівы дзень увосень.

Грукат калёсаў абудзіў дзяўчыну. Яна ўстала, закінула на спіну торбачку і пайшла абочынаю дарогі. Але жаданне папасці дадому, якое надавала ёй сілы хутчэй ісці, цяпер згінула, і ногі яе ледзь валачыліся па зямлі.

— А, Ганулю, ты, мусіць, пёхам з горада? Ну, ідзі падвязу!

На возе, побач з блішчастым плугам сядзеў суседні дзяцюк. Сыты конь лёгка ступаў, уздымаючы белаваты пыл. Увесь панарад быў моцны і ладны. Ганулю кінула вокам на воз і адмоўна заківала галавою.

— Зухаўства, бадай, набралася ад катаржнікаў! Ха-ха-ха! Бывай здарова.

Дзяцюк турзануў лейцамі, і конь шпарка памчаўся да вёскі. Ганулю праглынула салоныя слёзы і сышла ад гасцінца ў поле, каб далей ісці не вялікаю дарогаю, а глухою сцежкаю.

Яшчэ здалёк хата Кавальчыкаў прыцягвала да сябе ўвагу чорным трохкутнікам пустаты ад адарванае палавіны страхі, якая некалі была над новаю прыбудоваю. Новая хата, прыбудаваная да старых сенцаў з другога канца, была прададзена. Канцы лат старой страхі, рознай даўжыні, як

скрыўленыя пальцы, тырчалі ў паветры і больш падкрэслівалі выгляд разбуранасці. Старая хата быццам яшчэ больш асунулася ў зямлю, маленькія аконцы яе, з рэдкімі цэлымі шыбамі, падслепавата жмурыліся на сонцы. Гэтая падкрэсленасць убогасці і разбуранасці яшчэ больш прыгняла Ганулю, і яна, як была з торбачкаю і кіёчкам, так і села на прызбе, быццам прыйшоўшы не ў свой дом. Тут і знайшла яе маці, старая Сымоніха.

Старая, даведаўшыся аб прысудзе, заенчыла, застагнала, загаласіла, як галосяць па нябожчыках. Яе прычытанні разносіліся далёка па вёсцы. Зараз жа на двор Кавальчыкаў сабраўся натоўп народу, спачатку дзяцей і кабет, а потым пачалі падыходзіць і мужчыны. Дзеці з разяўленымі ратамі моўчкі разглядалі Ганулю, якая была так далёка ў горадзе; кабетыківалі галовамі пад прычытанні Сымоніхі, а некаторыя, больш жаласлівыя, самі прыняліся плакаць. Мужчыны падыходзілі, кідалі вокам на Ганулю з мацераю і адыходзілі ўбок, прыходзіўшыя пазней віталіся з раней прыйшоўшымі мужчынамі і пачыналі закурваць, пытаючыся, як скончана сяўба, як расце бугай, ці хутка будзе пераязджаць хто на хутар. Быццам спецыяльна на гэтым месцы трэба было ім працягваць гутарку аб тым, аб чым якраз учора гаварылі на прызбе якога-небудзь Халімона ці Мікіты. Толькі мімаходам, як драбніцу паміж пытаннямі аб бугаі альбо ацёле, хто-небудзь кідаў:

— А прыпяклі Сымона, га?

— А то не! Як жа! — адказаў другі і працягваў гамонку аб тым, як ён ехаў, ды на дарозе супоня развязалася, ды як ён чуць хамута не сапсаваў, не хутка прыкмеціўшы здарэнне з супоняю.

— Занівошта гіне чалавек,— падаваў хто рэпліку, разглядаючы ўважліва шпакоў, якія завіхаліся на ліпе за хлявом.

— Ці хто ведае, як гэта было? Начальству там лепш відаць... Ого, брат, начальства, яно... таго... усё ведае.

Адказ такі — супакойваючы, думаць над ім — залішне.

І гутарка ідзе сваім парадкам: аб лагу, аб пярэстай карове Якуба, якая прывяла блізнюкоў, і аб шмат іншых не менш важных пытаннях.

Натоўп пакрысе пачаў разыходзіцца.

— Дзякуй людцам добрым, што прыйшлі спачуваць у бядзе,— звярнулася Сымоніха да мужчын, хоць спачування ад іх яна і не чула. Кабеты, што плакалі, уцерліся і загаманілі, праганяючы дамоў дзяцей. Ганулю з мацераю, прыгнуўшыся, хіснуліся ў чорную шчыліну дзвярэй.

На другі дзень маці, уздыхаючы, паведаміла, што ў іх, апроч некалькіх кошыкаў бульбы, больш нічога няма. За ўвесь час, як Ганулю была ў горадзе, старая ні разу не паспрабавала хлеба.

— Што ж будзе далей? — быццам у самое сябе пыталася Сымоніха.— Старэйшы сынок мой угару пайшоў, цяпер мяне і на парог да сябе не пускае... Арыштантка, кажа... Ох, божачка ж ты мой!

Ганулю маўчала. Ранняя суровасць закавала яе малады, не так даўно бесклапотны твар, які песняю сустракаў галодны дзень. Цяпер спевы вылецелі з галавы. Трэба было змагацца за жыццё, а як змагацца, куды пайсці, з чаго пачаць, яна не ведала. Напаследак яна прыдумала.

— Ведаеш, матка, я ў наймічкі пайду,— сказала яна рашуча.

— Да каго ж гэта?

— Яшчэ не ведаю. Можа, да Шкілёнка: кожны год ён наймае на лета і восень. Зямлі ў яго хоць задавіся.

— Ну што ж, спрабуй, хоць мне і цяжка пускаць цябе да гэтага жылы.

Зборы былі нядоўгімі. Накінуўшы дзіравую хустку, дзяўчына, як была ў кашулі і андараку, так і пайшла. За агародамі і першым вясковым полем у шнурочках пачаліся больш буйныя кавалкі, на якіх размясціліся паасобныя гаспадаркі.

Шмат якія з іх мелі новыя будынкі, весела блішчаўшыя на вясновым сонцы. Пан Ляскоўскі, які на Дваранскім Са-

бранні так горача вітаў зямельную і сялянскую палітыку Сталыпіна, упарта праводзіў вылучэнне з вёскі заможных гаспадарак і рассяленне іх на хутары. Пад іх вылучаліся лепшыя кавалкі сялянскай зямлі, хоць на сходах большасць сялян супярэчыла гэтаму. Але пастановы сходаў выходзілі нейкімі якраз адваротнымі і выдзелы зямлі хутаранам рабіліся быццам на падставе пастаноў саміх сялянскіх сходаў. Прымалася адна пастанова, а запісвалася зусім другая. Дзеля гэтага ўсялякія абскарджанні ў суд нічым не канчаліся, апрача таго, што беднякі, жыўшыя на вёсцы, трацілі апошнюю маёмасць на хадакоў і адвакатаў. Верхавіна заможнікаў і хутаран лёгка даставала крэдыт і скупляла кавалкі панскіх пусташаў, што ў першую чаргу было лагодна самім панам. Ляскоўскі, меўшы шмат такіх бескарысных зямель, зарабіў на гэтым вялікія грошы, распаўсюджваючы чуткі, што ён прадасць вольныя землі наезджым з другіх бакоў сялянам. Ляскоўскія заможнікі-сяляне наперабой хваталі пусташы, падвышаючы адзін супраць другога цэны, якія былі недасяжны не толькі для беднякоў, але і масы серадняцтва.

Шкілёнак, да якога ішла цяпер наймацца Ануля, быў даўнейшым хутаранінам. Ён ужо далічаў сябе да шляхты і з вясковымі сялянамі трымаўся, як «высоканародны». Ён ездзіў і да яго ездзілі шляхцічы такога ж гатунку, ксяндзы, папы, пісар з воласці, два-тры настаўнікі з мястэчка. Чацвёрты раз падрад ён выбіраўся валасным старшынёю. Хоць іншы раз ён і загаворваў аб загане для «шляхціца» быць сялянскім старшынёю, але нейкія патаемныя спружыны прымушалі яго кожны раз з новаю сілаю дамагацца старшынёўства. Кожныя тры гады ўсе дзесяцідворныя на працягу тыдня хадзілі звар'яцелымі ад гарэлкі. На валасным сходзе пры выбарах старшыні аднадушна галасавалі за Шкілёнка. Земскі віншаваў яго і на шэрай шкілёнкавай пары ехаў у дом свайго падручнага святкаваць яго перамогу.

Шкілёнак выносіў і ўсе пастановы аб хутарскіх выдзелах. Ён жа з ласкавым удзелам пана Ляскоўскага даставаў

крэдыты ў «Крестьянском Поземельном» банку, карыстаючыся не толькі падзякаю і пашанаю, але і часткаю здабытых для другіх грошай. Кожны год яго землеўладанне ўзрастала, акруглялася. Сядзіба яго была невялікім, але добра ўпарадкаваным маёнткам.

Гануля ішла — і з кожным крокам траціла сваю рашучасць. Калі перад ёю ўзвысіліся размаляваныя вароты шкілёнкавае сядзібы, сэрца яе замёрла: яна спалохалася. Ногі непаслухмяна ступалі, несучы яе да брамкі з боку ад варот. Некалькі хвілін яна пастаяла перад брамкаю, глынула паветра і абяссіленаю рукою дакранулася да халоднае дзябёлае клямкі. Сярдзітае гурчанне двух сабачых галасоў надало ёй новую хвалю страху. Яна стаяла нерухома. Але вось на двары пачуўся жаночы голас, праганяўшы сабаку. Гануля схапілася за клямку, шыбанула са ўсяе сілы брамку і шмыганула на двор. Сабакі ашалелі ад брахні. Кабета крыкнула на іх і звярнулася да Ганулі.

— Чаго табе трэба? Мы жабракоў не пускаем на двор!

Гануля залілася чырванню.

— Я не жабрачка, я прыйшла да гаспадара.

— Табе трэба да самога пана?

— Я хачу пагаварыць з самім Шкілёнкам.

Кабета пакруціла носам і павярнулася да ганка.

— Пачакай тут на ганку, а то цябе сабакі абязвечаць на двары.

Гануля ўзышла на крыты ганак, які на локаць ад падлогі быў зашклёны рознакаляровымі шыбамі. Сінія, ружовыя плямкі лажыліся на падлогу там, куды падалі прамені сонца. Гэтыя плямкі гойдаліся ад слабога хістання ліпы, галля, якое кідала крыху цені на ганак. Гануля доўга чакала, пакуль выйшлі да яе. Яна па-дзіцячы цікаўна разглядала шыбкі, цудоўныя плямкі на падлозе, дамагалася, каб як-небудзь не ступіць гразкаю нагою на свежа выфарбаваныя дошкі яе. Нерухома стаяла яна на вузкай посцілцы, дарожкаю лёгшай да дзвярэй у пакоі. Яна чула, як тупалі цяжкія боты ў пакоі, як босыя ногі паспешна грукалі

ўзад і ўперад; потым зазвякалі шклянкі, талеркі. Мусіць, снедалі. Гануля глытнула сліну, у жываце яе заныла. Думка аб тым, што ёй хочацца есці, так прыстала да Ганулі, што яна не магла ніяк адкараскацца ад яе. Рознакаляровыя шыбкі страцілі ўсякую прывабнасць. Каб сцішыць пачуццё голаду, Гануля хацела крыху пахадзіць, але сабакі зноў паднялі досыць злоснае гурчанне. Можа, і сабакі былі таму прычынаю, што ўспомнілі ў пакоях аб наведвальніцы. Боты цяжка застукалі, і праз хвіліну на ганак выйшаў сам Шкілёнак.

— Шкілёнда,— успомніла Гануля адразу мянушку старшыні. Ад гэтае «шкілёнды» ёй стала так смешна, што яна чуць стрымалася ад рогату, забыўшыся і аб голадзе, і аб тым, дзеля чаго яна прыйшла сюды. І сапраўды, Шкілёнак так падобны быў да тоўстае каўбасы, якую завуць шкілёндаю, што гэтая мянушка падыходзіла якраз пад сутнасць уяўлення яго асобы. Роўна наліты ад галавы з тоўстаю шыяю да мяккіх сцёгнаў, на якіх вось-вось маглі трэснуць грэнадэрскага сукна нагавіцы, ён рабіў ураджанне добра напханае шкілёнды. Раздвоеная крыху барада пад Аляксандра III, нізкі навіслы над вачыма лоб, поўныя ружовыя шчокі, маленькія, захаваныя, але вострыя вочы надавалі яму і просты, і ў той самы час жорстка-хітры выгляд.

Шкілёнак абвёў сваімі крацінымі вачамі Ганулю, крыху зморшчыўся, заўважыўшы адбітак яе ступака на тлуста пафарбаванай падлозе блішчаўшай сваёю навізнаю.

— Магла і на дварэ пачакаць, а то напляміла тут, як...— былі першыя словы Шкілёнка. Гануля сполахна зірнула на след, які яна пакінула на ззяўшай падлозе; нават і смех, які трапятаў у ёй ад мянушкі Шкілёнка, раптам пакінуў яе. Яна вінавата пераводзіла вочы са Шкілёнка на падлогу — і назад.

— Ну, чаго ж табе трэба ад мяне? — разгладжваючы рукамі сваю двайную бараду, запытаўся старшыня.

— Я... я прыйшла прасіцца ў наймічкі да вас,— ціха

і нясмела адказала Гануля, чырванеючы ад сораму. Ёй здавалася, што яна просіць міласціны.

— Мы наймаем толькі да пакроў.

— Мне хоць бы і на гэты час.

Шкілёнак уважліва агледзеў Ганулю, як гандляр каня, якога ён купляе.

— Ты, можа, і нішто... здаровая. А адзежа ў цябе ёсць? — запытаўся гаспадар, разглядаючы лапінку голага пляча, выглядаўшага праз дзіравую сарочку дзяўчыны. Гануля ўспыхнула. Ёй цяжка было прызнаць сваю сярмяжку за адзежу; адзіны ж свой машастовы каптан на кудзелі яна берагла, як ахвярную каштоўнасць.

— Я адзежы не даю, прымаю толькі тых наймічаў, якія прыходзяць у сваіх уборах.

Гануля вырашала найцяжэйшую задачу, можа, больш цяжкую, як пабудова Суэцкага канала. У яе адзежы няма, але прызнацца ў гэтым нельга, бо можна адразу страціць надзею на атрыманне работы.

— У мяне ёсць адзежа для работы,— з натугаю выгаварыла яна.

— Ну, тады добра! — недаверліва працягнуў Шкілёнак.— Прыходзь з заўтрашняга дня... Я кармлю і плачу два рублі ў месяц.

— Дзякую вам, пане старшыня! — узрадаваная тым, што скончылася размова і што яна будзе мець заработак. Гануля ведала, што наймічкі ўсюды, асабліва ж у Шкілёнка, працавалі столькі, колькі гэтага хацеў гаспадар, а пры работах у полі — дык ад чацвёртае гадзіны раніцы да дзесятае гадзіны ўвечары. Але цяжкасць працы не палохала яе. Яна рада была, што будзе мець больш сталы, хоць на паўгода, заработак.

Гануля ўжо выйшла з ганка, на яе загурчэлі сабакі. Гаспадар, які таксама выйшаў на двор, улюкаў сабакам, сцішаючы іх. Калі Гануля была ўжо каля брамкі, гаспадар запытаўся ёй услед:

— А чыя ты будзеш?

— Я дачка Сымона Кавальчыка з вёскі.

— Ах, дык ты Кавальчыкава адроддзе? Мне такія наймічкі непатрэбны! Арыштанская дачка ідзе да мяне ў наймічкі — ха!.. Вон з двара хутчэй! Ідзі вось бярвенне цягай у вадзе разам з іншаю галайстраю, а не ў наймічкі да мяне.

Сабакі абазляліся таксама, як і гаспадар. Яны гурчалі ўсё мацней, і, калі гаспадар крыкнуў «вон», яны, распаленыя дзікаю злосцю, кінуліся на Ганулю. Дзяўчына выскачыла з двара і зачапіла брамку перад самымі іхнымі пыскамі. Ашалелыя сабакі кідаліся на вароты, брамку, скрабучы кіпцюрамі дошкі і равучы ў непрытомнасці.

Сабачае гурчанне, брэх чуцён быў доўга яшчэ Ганулі. Яна азірнулася ў полі на зялёны жалезны дах шкілёнкаўскага дома, на вокны, якія скалілі на яе зубы, смеючыся на сонцы. Яна ўцерла падолам слязіну і, сагнуўшыся, як старая кабета, змораным крокам накіравалася ў вёску.

— Ну як, Ганулья? — трывожна, з надзеяю запыталася маці, калі яна ўвайшла ў хату, дзе тхнуць нельга было ад дыму і чаду.

— Аніяк... Сабака! — злосна вылаялася дзяўчына.

— Здзекуецца, трэба іх агнём паліць,— дадала яна, сядаючы за стол, на якім стаяла гліняная міска нішчымнае бульбы.

## VII

Жорсткая парада, якую даў Ганулі Шкілёнак, ажыццявілася. Цераз дзень яна вымушана была пайсці ў невялічкі, збіты з аполкаў, домік, які стаяў на высокім беразе рэчкі, якраз супраць канавы, што роўнаю стужкаю ўлівалася ў рэчку з неабсяжных лясоў. Адтуль паслалі яе разам з іншымі аднавяскоўцамі, а таксама наезджымі незнаёмымі людзьмі звязваць бярвенні ў плыты. Рэчка і канава на вялікай даўжыні былі завалены дрэвам — ад тонкіх стройных жардзін да страшэнных каравых калод, якія чорнымі чудзішчамі гультаявата калыхаліся на жаўтаватай вадзе. Каб перацягнуць іх у іншае месца, выраўнаваць адно к аднаму,

патрэбна было сілы дзесятка людзей. З бусакамі ў руках, мокрыя па шыю лазілі людзі ў несагрэтай яшчэ раннім вясновым сонцам вадзе і хаатычна наплаўленыя бярвенні выкладвалі ў роўныя чатырохкутнікі, звязваючы іх скручанымі з лазы канатамі. Сабраныя шпалы блішчалі бялізною і зухавалі сваімі строгімі простамежнымі фігурамі; іх не звязвалі і збівалі цвікамі да аднае латы.

Ганулю сустрэлі на рэчцы смехам і кпінкамі. Кабет на такой рабоце звычайна не было. Куды б яна ні павярнулася, за ёю наглядалі дзесяткі вачэй, падміргвалі адзін аднаму, весела рагаталі, хоць холад зводзіў сударгаю сківі́цы.

— Лезь у ваду, не бойся! — крычаў адзін.

— А як жа будзе са спадніцаю? — рагаталі з другога боку.

— З спадніцы выйдзе парасон.

— Спадніца будзе на вадзе яе трымаць... Можна і ў вір ісці, спадніца вытрымае — не ўтопіцца дзяўчына.

Гануля маўчала доўга, сцяўшы зубы. Яна дамагалася паказаць сілу, якая была і ў мужчын.

Бусак паслухмяна хадзіў у яе руках, таўсцеразныя крыжы ішлі туды, куды накіроўвала іх яе сіла. Але брыдкія кпінкі хвалявалі дзяўчыну, злосць ускіпала, рукі дрыжалі.

— Ой, ой, замокнеш, вышэй...— крыкнуў рыжы лахматы мужчына, скалячы зубы і бессаромна разглядаючы яе голыя ногі.

— Гады вы паршывыя! — звонка сарвалася Гануля.— Чаго прычапіліся?

Рогат дваццаці горлаў быў у адказ на гэта.

— Ну над чым іржаце, як жарабун? Нябось, аўсом вас не кармілі!

Хмурны з сіняватым тварам, на якім рэзка выступалі жалвакі на сківі́цах, чалавек сурова аглядаў без парадку раскіданых па вадзе людзей. Гэтая суровасць выгляду адразу прыпыніла смех: нельга было рагатаць, убачыўшы гэты твар. Людзі вінавата, як нашкодзіўшыя дзеці, апускалі вочы і больш старанна прымаліся за працу.

— Ад голаду гібеем, хварэем, мром ад гэтага лазання ў вадзе — а тут яшчэ кпінкі над дзяўчынаю! Вы, можа, чулі, дзе яе бацька? — роўным адзеравянеўшым голасам кідаў словы хмурны чалавек. Ніхто яму не адказваў.

— Ведаеце, значыць? Ну дык і прычыніце свае лязгаўкі.

Больш ужо ніхто не зачапляў Ганулю насмешкамі. Яна прыглядалася да хмурнага чалавека і не магла ніяк здагадацца, хто ён. Гэта не вясковы, напэўна: у Ляскаўцах яна ведала, бадай, усіх. Толькі на другі дзень яна даведалася, што гэта быў рабочы з папяровай фабрыкі пана Ляскоўскага. Стала ёй вядома, што не адзін гэты хмурны наладжвае плыты: яшчэ шмат папернікаў працуе на выплаўцы Ганулі пачала больш цікавіцца рабочымі. Яна прыйшла да пераканання, што рабочыя больш па-таварыску адносяцца адзін да другога, да сялян, якія працавалі на плытах. Рабочыя супольна нараджваліся аб заробку, аб часе працы, тады як многія з сялян заскоквалі паасобку да канторшчыка, збівалі цэны, каб толькі забяспечыць уласны, асабісты заробак. Праз гэта з кожным днём расцэнкі на працу зніжаліся. Рабочыя ўжо не здаваліся Ганулі адасабовымі людзьмі, якіх трэба цурацца, як «гарадскіх жулікаў» (так звала некалі маці Ганулі рабочых з гуты).

Праз кароткі час Ганулі стала вядома, што там, на пескавой гары, у дашчатых халупах, людзі знаходзяцца ў вялікай бядзе. Шмат каму з рабочых і іх сем'яў няма чаго есці, няма заработку; людзі хварэюць, дзеці мруць, ледзь ператрываўшы сцюдзёную зіму. Беспрацоўе з'явілася больш страшным пакараннем, як дваццаціградусавы мароз на адчыненым для ўсіх ветраў месцы жылля гутнікаў і папернікаў.

З самае ранняе вясны, калі папяровая фабрыка прапрацавала толькі нейкі кароткі час, пачаліся ператрымкі ў вытворчасці. Рабочыя былі надта занепакоены тым, што аднойчы, як толькі крануўся лёд на рацэ, значная частка запасаў папіргольцу для фабрыкі была сапхнута на ваду. Трывожнае запытанне лятала па халупах рабочых, насі-

лася над дахамі паяпровае фабрыкі і гуты: дзеля чаго гэта робіцца? Праз тыдзень рудыя чатырохкутнікі заслалі рэчку і крануліся ўніз за вадою. На беразе засталіся нязначныя плямкі нарыхтаванай для паперні яліны. Работа пачала скарочвацца, а разам [redacted] тым — і заработак рабочых. Яшчэ праз нейкі кароткі час шмат каму з рабочых, асабліва тым, хто здаваўся спачуваўшым Зыкаву, абвясцілі, што яны трацяць працу на фабрыцы і што заработак ім зусім не будзе выплачвацца. Усхваляваным рабочым, якія не так даўно былі заклікамы сюды на работу і якія ўжо страцілі яе, пан Ляскоўскі адказаў, што паперня скарочвае вытворчасць з-за недахопу драўніны. Нуда, ахапіўшая ўсіх рабочых, нават і тых, што засталіся на фабрыцы, змянілася вялікім абурэннем, якое было выклікана хлуснёю валадара фабрыкі: следам за дрэвам, узятым з фабрыкі, на рэчку пушчаны былі новыя вялізарныя масы ельніку. Нягледзячы на вясну, пан Ляскоўскі і Ліўшыц секлі, крышылі дальны лес і аграмадамі кідалі яго на ваду. Ні паленца не давалася з гэтых новых высечак для паперні.

Са страхам, абурэннем, неразуменнем глядзелі рабочыя, як міма паперні цягнуліся па рэчцы бясконцыя стужкі яловага лесу. Фабрыка ж ледзь варушылася. На пескавой гары трывога ўзрастала. Некалькі чалавек рабочых, з ліку нежанатых, кінулі ўжо Ляскаўцы і падаліся шукаць заработку ў іншых месцах. Сямейныя не маглі крануцца: яны былі без працы, галадалі і вымушаны былі сядзець на месцы. Напаследак яны не вытрывалі і ўсхваляваным натоўпам рынуліся ў маёнтак, з рабочымі ішлі кабеты, дзеці.

— Працы! Працы! — застагнаў натоўп на розныя галасы, як толькі крыху збянтэжаны паказаўся на балконе палаца пан Ляскоўскі.

— Якую ж працу я дам вам? Паперня скарочана ў рабоце, і не буду ж я плаціць вам грошы за нішто. Зразумелі? — Пан Ляскоўскі пачаў досыць мяккім голасам, але з кожным словам ён рабіўся ўсё больш жорсткім. Апошняе слова «зразумелі» ён выкрыкнуў так, як крычыць прыга-

няты; з поўным уяўленнем свае сілы і выразнаю варожасцю да паднявольнага.

— А чаму ж фабрыка не працуе? Навошта нас здрадзілі? — крычалі рабочыя.

— Я гаспадар фабрыкі, а не вы! Мая справа, што хачу, тое і раблю з фабрыкаю! Каму кепска жывецца тут — дарога вольная,— смакуючы словы і прымаючы найбольш выдатныя, як яму здавалася, позы, адказваў Ляскоўскі.

Худыя твары з азлобленымі вачыма, гразкія застарэлыя вопраткі, мізэрныя апоркі на нагах выклікалі ў Ляскоўскім пачуццё агіднасці. Ды яшчэ гэтыя мізэрныя замурзаныя людзі прыходзяць да яго з сваімі запатрабаваннямі, дазваляюць сабе падымаць голас. Распуста! Ён, гаспадар, пан Ляскоўскі, адказвае за цішыню і спакой на сваіх прадпрыемствах; досыць ужо таго, што былі раней гэтыя сацыялісты на чале з Зыкавым. А цяпер — павінна быць ціха: пан Ляскоўскі даў абяцанку не толькі губернатару, але самому міністру ўнутраных спраў. А міністр унутраных спраў — ого! Больш значыць, як сам цар. Веліч даверу, які выказваюць яму ў Мінску і Пецярбургу, падвышае яго; балкон, на якім ён стаяў, здавалася, падымаўся ўсё вышэй ды вышэй, а натоўп рабочых разрастаўся ў цэлае людское мора.

— Сярод вас, можа, ёсць бунтаўшчыкі, анархісты ці сацыялісты? Калі так, дык я жыва спраўлюся: знойдзецца казённае месца, знойдзецца дармовы хлеб. Вось ты, напрыклад, не сацыяліст часам? — упёршыся поглядам у аднаго з пярэдніх рабочых, рубам паставіў запытанне пан Ляскоўскі.

Натоўп прыціх, насцеражыўся.

— Ды што... што вы, паночку? Хіба ж я...— мармытаў зусім збіты з панталыку пажылы рабочы, запытанне якому паставіў пан.

Рабочыя добра памяталі, якую траўлю развёў Ляскоўскі пасля забойства Зыкавым урадніка. Па даносах бухгалтара Пісарэўскага наехаўшыя жандары забіралі кожнага, каму прышывалася назва сацыяліст. Забралі і пагналі

ў астрогі такіх, хто, можа, і цьмяна не ўяўляў сабе сацыялізма або сацыялістаў. Былі здарэнні, што гэткім парадкам людзі зганялі адзін на другім сваю ўласную помсту. Усе памяталі гэтыя часы, усім было брыдка за іх, усе баяліся паўтарэння тых здзекаў і таго развалу, які ахапіў тады рабочых.

— Дык сярод вас няма сацыялістаў? — не сцішаўся любавацца сваёю ўладаю пан Ляскоўскі.— Добра, тады ідзіце сабе дамоў з богам.

— Мы ж без хлеба, дзеці хварэюць, мруць! — спрабавала давесці нейкая тонкая, як галіна, кабета.

— Кожны сам павінен ведаць, як жыць! Я не падрадзжаўся дарэмна карміць вас... Ну, мне няма часу размаўляць з вамі.

Рабочыя, кабеты, дзеці шэраю грудаю калыхнуліся і выцягнуліся ў стужку па вузкай алеі саду. Панура, не гледзячы адзін на другога, закалыхаліся яны між кустоў. Нешта жудкае было ў маўклівасці гэтага шэрага натоўпу.

— Разагнаць бы... каб вачэй не мазолілі,— самому сабе, але голасна прагаварыў пан Ляскоўскі.

Ён павярнуўся да дзвярэй. Там стаяў Ліўшыц. Ляскоўскі здзіўлена аглядзеў яго.

— Мне вельмі падабаюцца ўсялякія выступленні,— распускаючы свае тоўстыя шырокія губы ва ўсмешку, сказаў Ліўшыц.— Даруйце, я ўвесь час слухаў вашы перамовы з імі: вы трымаліся як уладарны князь альбо як прамоўца дзе-небудзь у Думе. Грандыёзна! Каласальна! Дайце вашу руку.

— У вас сапраўды язык без касцей,— неахвотна падаючы руку, адказаў пан Ляскоўскі.

Прыяцелі пакінулі балкон і накіраваліся ў кабінет, дзе вырашаліся ўсякія шахэры-махэры паміж іх. Ліўшыц яшчэ больш растаўсцеў за зіму, другая залатая цэпка цяжка павісла на яго круглым, як паса, жываце. Вочы крыху страцілі свой былы бляск, затое ў паводзінах і гутарцы ён стаў

больш вялікасным. Здавалася, што кожнае яго слова падвысілася ў цане, як падвышаецца біржавая каштоўнасць.

— Як жа вы мяркуеце ліквідаваць гэтую штуку? — павольна апускаючыся ў шырокае мяккае крэсла, запытаўся Ліўшыц.— Мне пачулася, што вы схіляецеся да думкі проста разагнаць лішніх рабочых.

— На жаль, вы шмат чаго чуеце,— мала шануючы ганаровы выгляд свайго кампанейца, адказаў Ляскоўскі.

Гэтая заўвага, здаецца, не зрабіла ніякага ўражання на Ліўшыца. Ён яшчэ глыбей сеў у крэсла, ганарлівасць яшчэ выразней адбілася на яго твары, губы яго былі адтапыраны, гарбаты нос смела быў падняты.

— Я лічу неразумным разганяць рабочых, ім трэба кінуць нейкую косць, за якую яны перагрызуцца,— з вагою ў тоне параіў ён.

— Што ж, па-вашаму, трэба зноў пусціць фабрыку поўным ходам? — насмешліва запытаўся Ляскоўскі, прыпыняючыся насвістваць нейкі аперэтачны матыў, які ён толькі пачаў.— Вы ж самі прыдумалі гэтую штуку з фабрыкаю.

— Так, я прыдумаў... Я і не раю вам пусціць фабрыку, гэта было б глупствам пры такіх цэнах на круглы лес. Фабрыка — нішто перад тымі барышамі, якія мы будзем мець ад продажу ўсяе яліны. Я — негацыянт і ведаю, што раблю. Лес плыве па рэчцы, а грошы плывуць да нас у кішэню праз банкаўскія канавы.

— Не надта плывуць!

— Вам усё мала? — шчыра, здаецца, здзівіўся Ліўшыц.— Ну дык вось вам яшчэ — атрымаў ад канторы Дворжэца.

Ляскоўскі прыняў пук каляровых паперак і, не лічачы, кінуў яго на стол, нібы гэтая гара грошай яго зусім не цікавіла. Аднак насмешная рыса згладзілася на яго твары.

— Дык вы бачыце, якія бліскучыя вынікі? — самазадаволена пытаўся Ліўшыц.— Ну, паслухайце ж мяне: кіньце складаць усякія там праекты разгону, расправы з лішнімі рабочымі; яны, можа, будуць патрэбны. Калі папера так

ускочыць на біржы, як ускочыў лес, давядзецца пусціць фабрыку на поўны ход. А пакуль... пакуль скарыстайце рабочых на выплаўку лесу!

— Вы гаворыце са мною ў такім тоне, як быццам я прыказчык з канторы Шабе і Ліўшыца... Прашу не зазнавацца з-за вашых спекуляцый. Што ж тычыцца да вашых разваджанняў аб скарыстанні рабочых, то я згадзіцца з імі не магу: з рабочых будуць дрэнныя выплаўшчыкі, па-першае, а па-другое, шкодна пускаць рабочых у сялянскую гушчу — ускаламуцяць.

Ліўшыц з павагаю глядзеў на пана Ляскоўскага. Ён раней не лічыў яго здольным так разбірацца ў палітыцы.

— Так, ваша праўда, лепш не сказаў бы і сам губернатар... Але ж я прапаную вам зусім правільны выхад. Нам трэба хутчэй выплавіць лес, хто ведае, што будзе на біржы далей. Пакуль заграбаеш грошы — грабі. Дзеля гэтага не варта адпускаць рабочых, а трэба скарыстаць іх у новай патрэбнай нам працы.

Ліўшыц зірнуў на пук соценных асігнацый, які ляжаў на стале. Вочы Ляскоўскага пацягнуліся туды следам. Ён успомніў аб сваіх дачыненнях да князя Друцкага, да князёўны. Мусіць, гэтыя ўспаміны паставілі перад ім вымагаючыя запатрабаванні, бо ён, падумаўшы нейкі час, адказаў на развітанне:

— Ну добра, я згодзен выканаць вашы парады.

Пасля гэтага, дні праз два, сярод сялян, якія наладжвалі плыты, пачалі паказвацца рабочыя з паперні. Спачатку былі адзінкі, але з кожным днём лік іх усё павялічваўся. Некаторыя ўстрымліваліся пачынаць гэтую працу з пратэсту супраць прымуснае перамены працы, другія — па непрыстасаванасці да выплаўкі, іншыя — па сваёй хваравітасці. Але голад прымусіў палезці ў ваду. Хварэлі, мучыліся, але ішлі працаваць, ішлі праклінаючы. Так Гануля сышлася бліжэй з рабочымі і ў супольнай працы страціла сваё адмежаванне. Цяпер Зыкаў, як рабочы, набыў у яе вачах яшчэ новае значэнне.

## VIII

У сярэдзіне мая ў лясны маёнтак Росаш прыехаў стары князь Друцкі. За ім следам на працягу двух дзён наязджалі дэкаратары стальмахі, муляры, шпалернікі. Ціхі закінуты маёнтак напоўніўся гоманам, стукатам. Ад старых сцен палаца курэў пыл, у іх праароблены былі новыя праломы для больш шырокіх і высокіх вокнаў, новых дзвярэй. Дробныя будынкі для слуг і невялікія стайні былі раскіданы нашчэнт, на іх месцы пачалі хутка ўзрастаць новыя шырокія будынкі. Стары князь, які раней ніколі не зводзіў сябе да ролі ўніклівага гаспадара, цяпер цэлымі днямі матаўся ў сваім малінавым каптане і ў берэце з пяром па росшанскай сядзібе. Ён падганяў рабочых, тэхнікаў, патрабуючы найхутчэйшага скончэння работы.

— Вы павінны найбардзэй перарабіць мне гэты цьмяны дом у жыццярады, сонечны палац, дзе кожнаму было б лагодна і вольна правесці некалькі летніх месяцаў. Усё павінна тут выклікаць замілаванне і рабіць чалавека бесклапотным.

І мастакі, дэкаратары, тэхнікі стараліся. Стары дом стаў светлым; пакоі ў ім набылі выгляд паасобных чароўных куточкаў, аздобленых статуэткамі, малюнкамі, рэдкімі дыванамі. Цяплічныя расліны з цудоўнымі кветкамі рабілі дзве вялізарныя залы падобныя да экзатычнага саду. Сям-там былі зложаны быццам натуральныя гроты, павітыя дзікім вінаградам, раскіданы акварыумы з нянаскімі рыбамі. На пяшчаным пляцы, дзе размешчана была сядзіба, узніклі тлустыя чорныя клумбы, цэлыя пляцоўкі з далікатнымі раслінамі і кветкамі. Увесь двор, выраўнены, як дошка, апрануўся смарагдавым ангельскім мурогам. Праз тры дні, як з зямлі, вырас зусім другі палац. Пяшчотны пах далікатных раслін і кветак перабіваў першабытны дух хваёвых лясоў, цёмнаю сцяною абдымаўшых гэты кавалачак экзатычнага свету.

Пан Ляскоўскі наведаўся да князя, калі работы па пе-

рабудове росшанскага замка падыходзілі да канца. Ён праціраў вочы ад здзіўлення, праязджаючы цераз зялёны двор па роўнай, як стол, дарожцы, высыпанай жарствою і галушачнікам. Замест суровага, недаступнага палаца перад ім стаяў вялізарны палац-казіно, блішчаўшы на сонцы шклом і ярка-белымі сценамі і калонамі.

— Гэта ж кавалачак раю сярод зямное юдолі! — усхвалявана гаварыў ён князю, як толькі яны павіталіся.— Тэраса гэтая зусім не горшая ад тэрас знатнейшых італьянскіх віллаў. Цудоўна! І як вы паспелі ўсё гэта зрабіць у такі кароткі час?

— Выпісаў мастакоў і лепшых майстроў з Вены, яны па майму загаду закупілі розныя мастацкія рэчы і матэрыялы. Нават зямлю на двор давялося везці ад садоўніка з Мінска і з іншых аранжарэяў. Але добра кажаце.

— Цудоўна! — шчыра прызнаў Ляскоўскі і завідным вокам акінуў усю сядзібу, якая, быццам далікатнейшае пахучае зерне, была агорнута цёмна-зялёнаю тканінаю магутных лясоў.

Князь гасцінна і далікатна, чаго Ляскоўскі раней ніколі не бачыў, вадзіў яго па абноўленых пакоях, паказваў рэдкасці, знаёміў з асаблівасцямі ўбранства таго ці іншага кутка. Ляскоўскі дзівіўся такому густу, з якім усё было зроблена. Але разам з тым яго цікавіла і думка аб кошце гэтае перабудовы.

— Я і слоў не маю, ваша светласць, каб выказаць сваё здзіўленне,— гаварыў ён.— Гэта ўсё так прывабна, так высока мастацка, што ваша светласць, мусіць, зусім не шкадуе тых затрат, якія давялося зрабіць.

Князь крыху нахмурыўся, быццам яму непрыемна было гаварыць аб такіх рэчах, як грошы, у гэтым панстве эстэтыкі і вышэйшага густу.

— Страты невялікія, тысяч са сто... Дарэчы, вы не маглі б, пане Ляскоўскі, параіць мне, у каго дастаць на нейкі час тысяч трыццаць-сорак? Толькі папярэджваю, што я звачваюся за такімі рэчамі толькі да людзей свайго круга.

Ляскоўскі на момант задумаўся, зірнуўшы востра на князя, які, пасля свае просьбы ўважліва разглядаў нейкую французскую мініяцюру на эмалі.

— Тое, што вы звярнуліся да мяне за парадаю ў такой справе, мусіць, сведчыць аб тым, што ваша светласць далучае мяне да «свайго круга»? Можна так разумець?

— Я думаю, што аб гэтым залішне гаварыць.

— Калі так, то я маю гонар прасіць вас прыняць ад мяне самога патрэбныя вам грошы. Яны сёння ж будуць вам дастаўлены.

— Дзякую, вы — чалавек дастойны і высока шляхетны. Ваша мосць вызваляе мяне ад лішніх турботаў.

Князь цырымонна працягнуў руку. Ляскоўскі прыняў яе, але тонкі твар яго быў далёкі ад урачыстасці. Чуць прыкметная ўсмешка трапятала ў кутках яго п'яўчатых губ.

— Ваша светласць, вам зусім няма патрэбы пазычаць грошы. Я буду мець гонар прысылаць вам грошы за вашу ўласнасць.

— Я не разумею пана.

— Вашай светласці давядзецца толькі лічыць забаронны лес прададзеным мне; вам няма сэнсу турбавацца са зваротам пазычкі.

Князь усхвалявана-гнеўна азірнуў пана Ляскоўскага і павярнуўся ў бок ад яго. Нервова прайшоўся ён па зале, застаўленай дубовымі кадушкамі, з якіх уздымаліся ўверх пышныя кароны нізкарослых пальмаў, выпіраліся зялёныя калючыя таўкачы мексіканскіх кактусаў, выглядалі махравыя згусткі кветак хрызантэм. Прыгажосць гэтых выпешчаных раслін не здольная была ўцішыць буру, якая паднялася ў князю праз думку аб магчымасці расстацца з суровым хвойнікам ды ельнікам.

— Я вымушаны скараціць ваш візіт да мяне, пане Ляскоўскі,— суха прагаварыў князь, запыніўшыся амаль у самым канцы залы далёка ад таго месца, дзе быў Ляскоўскі.

— Выбачайце, ваша светласць! Але знаёмства са мною

было, мне здаецца, небескарысна для вас? Маю гонар развітацца.

Ляскоўскі зрабіў лёгкі ўклон і гнуткім крокам накіраваўся з залы. Князь азірнуў нудна сваіх зялёных раскошных прыжывальцаў, скрыўлена ўсміхнуўся. Ялінкі ды хваінкі, растучыя на голым пяску, павінны разлічыцца за сытае сталаванне гэтых паразітаў з тоўстымі мясістымі лістамі, і бессаромна-пышнымі кветкамі.

— Куды ж вы ўцякаеце, пане Ляскоўскі? — крыкнуў князь, пачуўшы, як грукнулі дзверы ў сумежным з залай пакоі.

— Ваша светласць хоча яшчэ што-колечы сказаць,— вярнуўся праз хвіліну Ляскоўскі.

— Мы ж не ўмовіліся з вамі аб продажы лесу, пане Ляскоўскі?

— Ці ж варта турбавацца вашай светласці? Я ўсю справу зраблю з вашым намеснікам, а пасланец мой з грашыма будзе ў вас сёння ж.

Праз тыдзень канава, якая выходзіла ў рэчку з далёкіх князёўскіх лясоў, была шчыльна завалена свежымі бярвеннямі. Вады, бадай, і не відаць было: можна было ісці па канаве без перапынку — дрэвы ляжалі суцэльным мостам. Людзі і коні цягалі да вады паваленых стагодніх веліканаў, звон разносіўся ў парадзелым лесе. А папяровая фабрыка Ляскоўскага моўчкі пазірала ў люстэрка спакойнае затокі: туды не забрыдала ніводнага нават паленца... Танканогія, калматыя дзеці не забаўляліся на пяшчанай гары, а тузалі без перапынку за падол мацярок, патрабуючы хлеба альбо хоць варанае лебяды...

Золатавалосы чэрвень раскідаў усюды свае кудры. Там пад лістком сарамяжа зачырванелася суніца; наверсе, у прагале паміж парасончыкамі хваін, калышацца, як найтанчэйшая тканіна, лёгкая залацістая хваля хваёвага цвіцення. Сенажаць, як markdown рознакаляровы дыван на мошасце: чырвонае, сіняе, ружовае, белае, жоўтае перамяшалася ў суцэльную сімфонію ўсіх фарбаў на агульным зялёным

фоне. А ў полі адкрасаваўшы жытні колас пачынае жаўцець, паўнець; ён ужо важна гойдаецца з боку ў бок, лёгкім шолахам прывітаючы сонца і вецер.

З горада ў маёнткі пацягнуліся фаэтоны, брычкі, фурманкі. Каму няма чаго рабіць летам, як і ўзімку, альбо хто не паехаў у Карлсбад, Вішы, Остэндэ, той ехаў у свой маёнтак «сапачываць». Трэба сапачыць ад тэатра, дваранскага сабрання альбо ад «состояния» пры губернатаршы. Гэта ж работа арыстакратыйнай грамады! Там у маёнтках чакаюць палацы, паркі, лясы, рэчка, забавы!

Князёўна Ваця з мацераю выехалі з горада пазней ад усіх. Князёўна добра памятала, якую нуду нагнаў на яе Росаш з яго манастырска-астрожным палацам і надакучным адзіноцтвам. Дзеля гэтага яна доўга не згаджалася зноў ехаць туды, хвалявалася, напаміналабацькам, што яна выгадавана не для такіх палацаў і не для такіх гарадоў, як Мінск. Гэта пад яе ўплывам князь кінуўся перабудоўваць Росаш. Трэба было для задавальнення князёўны на два месяцы жыцця выклікаць замежных майстроў і мастакоў, збіраць колькі рабочага народу, турбавацца, даставаць на ўсё гэта грошы. «Высакародныя» кабеты крануліся з горада толькі тады, як было атрымана паведамленне ад князя, што перабудова скончана.

За князёўскім поездам цягнуліся яшчэ каламажкі і фурманкі з дабром розных прыяцеляў, якія былі запрошаны ў госці ў Росаш на ўсё лета. Сярод іх быў чыноўнік асобых даручэнняў, беспрацоўны барон, некалькі імяністых, але небагатых, паняў з дочкамі і шмат каго яшчэ. Даўгі шнур брычак і фурманак на дарозе можна было прызнаць за перасяленскі абоз — так многа маёмасці перавозілася панствам пры гэтых пераездах на кароткі час.

Закінуты ў вялізарных лясах Росаш, раней амаль нікому не вядомы, зрабіўся цяпер цэнтрам увагі ўсяе шляхты. Як жа! Там жыў знатны князь, губэрскі маршалак! Росаш цягнуў да сябе ўжо гэтым. Калі ж хто наведваўся спачатку толькі з прычыны далучыцца да вялікасці, то другі раз яго

цягнула ў Росаш шляхетная грамада, якая там заўсёды таўклася, а таксама надзвычайная прыгажосць убранства і тыя забавы, якія чакалі там. Князь лічыў сваім абавязкам быць у якасці маршалка хлебасольным гаспадаром. І тыя нізкапробныя мясцовыя шляхцічы, якія раней сцерагліся, цяпер без сораму карысталіся князёўскаю гасціннасцю. Словам, усё летаператварылася ў Росашы ў адзін бесперапынны баль. Пасля палудня, як усе паўстаюць, пачыналіся пікнікі, гонка на конях, катанне на чайках па рэчцы; увечары — музыка, скокі, спевы, любошчы. І так — без канца і меры.

Ляскоўскі спачатку трымаўся, чакаў. Ён добра ведаў, што князёўна з мацераю прыехала ў Росаш, ён нават ведаў, дзе знаходзяцца яе пакоі. Але, нягледзячы на тое фізічнае непакойства, якое выклікалі ў ім частыя ўспаміны аб князёўне, ён цвёрда рашыў чакаць. Разлік не ашукаў яго. Хутка пачалі амаль кожны дзень наведвацца ў Ляскоўцы пасланцы то ад князёўны, то ад старой княгіні з запросінамі прыязджаць у Росаш. Па ломаным почырку апошняй запіскі князёўны Ляскоўскі зразумеў, што тая была надзвычайна ўсхвалявана, як пісала яму. Тады ён парашыў, што пара ехаць. З гэтага часу наведванні яго сталі частыя, іншы раз ён праводзіў па некалькі дзён запар у «райскім кутку», як ён называў Росаш.

Адзін раз, у часе яго больш доўгага гасцёўства ў Росашы, была наладжана паездка на возера, якое знаходзілася вёрст за дзесяць ад маёнтка. Закінутае ў глухіх лясах, глыбокае з лясістымі выспамі, яно вабіла да сябе сваёю патаемнасцю і надзвычайнаю прыгажосцю. Туды загадзя былі адвезены чайкі, знарок быў пабудаваны домік на адной з выспаў.

Ляскоўскі сеў у каламажку з князёўнаю. Фурмана ён вызваліў, як толькі крыху ад'ехалі ад дому, узяўшыся сам кіраваць жарабцом.

— Чаму вы не хочаце ехаць з фурманам? — запыталася яна.

— Я люблю ехаць па-свойму! — адказаў ён, моцна тур-

зануўшы за лейцы. Конь ірвануўся так, што траха не выкінуў з каламажкі сваіх пасажыраў. Князёўна, ратуючыся, учапілася за руку Ляскоўскага; яе валасы казлытнулі яго шчаку. Ляскоўскі ахапіў яе стан і блізка прыцягнуў да сябе. Ён адчуваў, як трапяталі яе ногі, рукі, калацілася сэрца.

— Вы што дазваляеце сабе? — нібы гнеўна запыталася яна, арштурхнула яго руку і адсунулася.

— Я баюся, каб вы не выскачылі з каламажкі,— наіўна смеючыся, адказаў ён.

Чым далей у лес, тым больш дарога была завалена суччам, перарэзана карэннямі. Каламажка скакала па іх, як у трасцы. Князёўна ўсё часцей хапалася за руку свайго спадарожніка. Калена яго раз-пораз сустракала яе мяккую гарачую нагу. Хвалі агню ахапілі Ляскоўскага. Ён затуманенымі вачамі паглядаў на князёўну. Яе твар быў закрыты сінім вуалем, але скрозь яго відаць былі бліскучыя змяіныя вочы, ружовыя, як вішні, губы, губы перасохлыя. Ён працягнуў дрыжачую руку да яе стана, трапятлівымі пальцамі датыркаючыся да тонкага адзення, пад якім так ясна прамацвалася гарачае цела... Раптам іх каламажка на завіліне дарогі траха не наскочыла на ехаўшых уперадзе. Ляскоўскі, кусаючы губы, нехаця зняў сваю руку са спіны князёўны.

— Абганяйце іх! — надтрэснутым голасам крыкнула яна. Праз момант каламажка выперадзіла фаэтон з букетам паненак і рагатаўшым ва ўсё горла прагарэўшым барончыкам. Яшчэ чвэрць гадзіны, і ў паветры пацягнула халадком. Скрозь дрэвы замільгала бліскучая сталь возера, якое шырока разыходзілася ў абодва бакі.

Пакрыты белаю пенаю запараны жарабец паслухмяна запыніўся на беразе пад разлапістаю ялінаю. Высачэзным стогам уздымалася яна ўверх, і ніводзін прамень сонца не прасякаў цераз яе агромністую зялёную шапку.

— Ну, хутчэй на возера, на выспу! — завіхалася князёўна, скінуўшы вуаль і дарожныя пальчаткі.

Праз хвіліну белая чайка лёгка слізгала па гладкай

срэбнай паверхні возера, накіроўваючыся ў пратоку між дзвюма выспамі. Высокія купы дрэў, аплеценыя ўдоле густым маладняком і кустамі, зялёнымі ківерамі стаялі на выспах. Здавалася, што таўсцеразныя зялёныя калоны ўздымаліся проста з вады і падпіралі неба.

— Ах, хто там ёсць? — пыталася князёўна, сваімі зялёнымі вачыма ўглядаючыся ў непрасяжную гушчыню гэтых калон.

Два-тры ўзмахі вёслаў, і чайка мякка ўрэзваецца носам у берагавую зелень. Ляскоўскі выскачыў на берег і падаў руку князёўне, якая хісталася, стоячы на месцы ў вагаўшайся чайцы. Яны прайшлі ўжо некалькі крокаў, як Ляскоўскі вярнуўся назад і выцягнуў чайку на бераг.

— Каб не адплыла,— вытлумачыў ён.

Гушчарнік схаваў іх так, што нават і возера не было відаць. Далёка нешта траххала, можа, экіпажы іншых удзельнікаў гэтага пікніка. Але не хутка будзе ім знайсці Ляскоўскага і князёўну.

Яны працiскаліся ўперад, чапляючыся за кусты, за ломанае суччa пад нагамі. У пальцах Ляскоўскага яшчэ захавалася адчуванне цела князёўны. Яму трэба зноў дакрануцца, каб зноў адчуць бязмерна салодкую казлытку ў сэрцы. Ён стаў цяжка дыхаць, пальцы яго скручваліся ад жадання асалоды. Хістаючаяся спіна, закруглыя бёдры, уздрыгваўшыя пры кожным яе кроку, прычапілі яго да сябе, і ніякая сіла, здавалася, не прымусіла б яго глядзець у другі бок. Яна раптам прыпынілася, зачапіўшыся за корч. Ляскоўскі надышоў зусім блізка, рука яго адчула агністае датырканне. Ён больш не стрымліваўся і ашчарэпіў гнуткае гарачае цела.

— Я... я... кахаю вас, князёўна! — задыхаючыся, мармытаў ён.

Рукі яго сціскалі цела, як абцугамі. Князёўна нічога не адказвала. Стогн жадання толькі выходзіў з яе грудзей. Сухія гарачыя губы яе, жудасна чырвоныя, сыходзіліся ў сударгах, кажнаю часцінаю свайго цела яна прыліпала да

Ляскоўскага. Самлеўшая, апусцілася яна на траву... Усё закруцілася ў агні, у забыцці...

На возеры пляскала вада, чутны былі галасы. Дзявочы голас клікаў князёўну. Яны сядзелі ў кустах і не адгукаліся.

— Вы... ты павінна быць маёю жонкаю! — спакойна курачы, гаварыў Ляскоўскі. Твар яго быў задаволены, як бы пакрыты лёгка лакам. Толькі пахатлівыя губы яшчэ дробна дрыжалі.

— Я шукала ў вас не мужа, а мужчыну. Мужчына мне патрэбны, а муж... не ведаю.

— А мне вы патрэбны як жонка і... як кабета.

— Кабета для вас у другую чаргу? Ха-ха-ха! Вядома, іх у вас было напэўна, нямала.

— Не ў гэтым справа. Не кожную кабету я хацеў бы мець жонкаю, а толькі вас.

— У чым жа прычына?

— Я кахаю толькі вас.

— Кіньце гаварыць глупства. Скажыце што-кольвечы больш разумнае.

— Ну дык мне патрэбны князёўскі лес, патрэбен Росаш з усімі яго цацкамі.

— Вось гэта зразумела. А колькі ў вас тысячаў знойдзецца? — весела рагочучы і пырскаючы зеленню вачэй, запыталася яна.

— Хопіць; больш, як у вашага бацькі! — задаволена адказаў ён, апускаючы, аднак, вочы.

— Дык вы хочаце, каб я была вашаю жонкаю? Ну што ж — добра! Толькі ведайце, што ніякага кахання ў мяне няма да вас... Таксама, можа, вам цікава ведаць, што ў мяне ёсць сын, яму ўжо каля года. Аб ім ведаюць тут толькі мае бацькі, для ўсіх астатніх я — бездакорная дзяўчына. Дык згодны цяпер жаніцца?

— Я гэта раней ведаў, не толькі вашы бацькі ведалі. І ўсё ж я прашу вас даць згоду.

— А са згодаю і яшчэ што-кольвечы?

— Гэта ўжо справа не ваша. Прыданае, напэўна, будзе князёўскім.

— Я згодна. За такім мужам і жонцы будзе нядрэнна.

Весела рагочучы, быццам яны, як нявінныя дзеці, толькі-толькі пагойсалі за ваверкаю ці за птушкаю, Ляскоўскі і князёўна выйшлі на бераг, сапхнулі чайку на ваду і пачалі клікаць астатніх. Тыя гаманілі і смяяліся, захаваныя купамі на другіх выспах. Да позняе начы коўзаліся чайкі па гладзі возера: запальвалі ракеты, якія адлюстроўваліся ў вадзе, пялі, цалаваліся і зноў разбрыдаліся парамі па кустах.

Жаніцьба Ляскоўскага на князёўне была вырашана надзвычайна проста.

*1928—1930 гг.*

# КАМЕНТАРЫІ

## Апавяданні

*Над Кроманню.* Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» № 1, 1922 г.

*Рамэа і Джульета на Беларусі.* Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» № 2, 1923 г.

*Дэзерцір.* Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (1923, № 7).

*Маці.* Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (1924, № 1).

*Зварот.* Упершыню надрукавана ў зборніку: Я. Нёманскі «Апавяданні». Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, Мінск, 1925 г.

*Тодар Базылёнак.* Упершыню надрукавана ў зборніку: Я. Нёманскі. «Апавяданні». Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, Мінск, 1925 г.

*Абмылка.* Упершыню надрукавана ў зборніку: Я. Нёманскі. «Апавяданні». Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, Мінск, 1925 г.

Усе апавяданні друкуюцца па зборніку: Я. Нёманскі. «На зломе». Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, Мінск. 1928 г.

## Аповесць

*Партызан.* Друкуецца па часопісе «Полымя» № 7, 1927 г., дзе змешчана ўпершыню.

## Раман

*Драпежнікі.* Упершыню надрукаваны ў часопісе «Полымя» № 1, 2, 4, 7, 10 за 1928 г., № 3, 8, 9, 11, 12 за 1929 г., № 5, 6 за 1930 г.

Друкуецца па гэтаму часопіснаму варыянту.

# ЗМЕСТ

**Нёманскі Я.**

**Н 50** **Творы.— Мн.: Маст. літ., 1984.— 598 с., 4 л. іл. 1 л. партр.**

**У пер.: 2 р. 80 к.**

**Кніга з'яўляецца першым поўным выданнем мастацкай спадчыны Янкі Нёманскага (1890—1937), таленавітага беларускага празаіка, удзельніка рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, дзяржаўнага дзеяча, вучонага, акадэміка АН БССР, пісьменніка-публіцыста.**

**Н $\frac{4702120200—094}{М 302(05)—84}$ 130—83**

**ББК84Бел7**

**Бел2**

ЯНКА НЕМАНСКИЙ
(Иван Андреевич Петрович)
ПРОИЗВЕДЕНИЯ



Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *С. Р. Прыгодзіч*
Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін*
Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо*
Карэктар *Т. В. Трубач*

ІБ № 1649

Здадзена ў набор 13.06.83. Падп. да друку 23.04.84. АТ 05643. Фармат 70×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 26,25+0,44 укл. Ум. фарб.-адб. 28,44. Ул.-выд. арк. 30,19. Тыраж 12 000 экз. Зак. 3777. Цана 2 р. 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.